ТАІСА БОНДАР

# ПАВЕТРАНЫ ЗАМАК НА ДВАІХ

АПОВЕСЦІ, АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84Бел7
Б81

Мастак
*Станіслаў Кузьмар*

Тайна женщины, тайна женской души волнует автора книги «Воздушный замок на двоих». Чувство, которому героини ее повестей и рассказов в поисках счастья отдаются самозабвенно, страстно, вдохновенно, нередко обманывает их, но они вновь и вновь пытаются вдохнуть в любовь жизнь, отогреть ее — надеждой или воспоминанием.

Б $\frac{4702120201-075}{М 302(03)-90}$ 2—90

ISBN 5-340-00418-X

# Марыя па Хрысце

«Па смерці няма каяння... Мы — сляпыя павадыры сляпых? Сляпыя?! Але ж калі адзін сляпы вядзе другога... Бездань! Любы адхон абрынецца безданню пад нагамі! Спыніцца трэба. Стаць відушчымі — убачыць...

Што — убачыць? Што? Што? Што?»

Яна імкнецца расплюшчыць, разляпіць цяжкія павекі — падняць, прыўзняць імі чорны, без адзінай зорнай іскаркі абшар — хоць бы прыўзняць, каб убачыць... Далей думка не ідзе. Але гэта зараз не важна, яна ведае. Важна расплюшчыць, разляпіць цяжкія павекі. І ўбачыць. Нават калі гэта будзе толькі застылы, закамянелы след — злепак з мінулага — выпаўзень... Нават калі выпаўзень! — ашмоцце мёртвай скуры, скінутай, пакінутай на сцежцы гадзюкай. Гэта ж гадзюка, адчуўшы ў сабе прагу перарадзіцца, нарадзіцца наноў, скідае амярцвелую, высахлую скуру — выпаўзае з яе. Выпаўзае з пражытага. Сутаргава. Перамагаючы агіду ці боль...

«Пра што я думаю? Госпадзі, пра што я думаю тут, у гэтым змроку? Штосьці ж мне трэба было зрабіць, штосьці... Яны гаварылі пра мяне як пра душэўна хворую! Яны — усе! — не разумеюць, што здарылася, што здарылася непапраўнае. Свет, душэўнахворы свет, а яны пра мяне...»

Яна чапляецца за думку, а тая ўсё выслізгвае, абрываецца, адгукаючыся болем у руцэ, аблытанай, прывязанай трубкамі, здаецца, да самой чарнаты вакол, да змогі, што не дае расплюшчыць вочы і ўсё глыбее, усё цяжэе. Адкуль, чаму раптам навалілася гэта змога, яна не памятае — яна павінна ўспомніць. Гэта і ёсць тое, што яна павінна зрабіць,— успомніць.

— Капельніцу праз паўгадзіны можна прыбраць. На сёння даволі... Працягвайце назіраць. Дагляд, дагляд і дагляд! Спадзяюся, вы разумееце адказнасць?

— Разумею.

Што — яны разумеюць? Хто — яны? Увесь час галасы, галасы! — і не зліваюцца з цемрай вакол, не, а ўсё быццам самі па сабе: то наблізяцца — і тады яна чуе, як гукі ка-

лючымі пылінкамі асыпаюцца на рукі, на твар яе, то зноў аддаляюцца, глухнуць — і тады расце, нарастае гул у вушах, і яна захлынаецца гэтым гулам, на міг-другі патанае ў ім, каб потым доўга, балюча выплываць, выбірацца.

«Калі адзін сляпы вядзе другога... Я што — напраўду аслепла? Аслеплена? Кім? Чым? Калі? Не грымела ж нада мною, не грымнула. Новыя часы прыйшлі? Дык часы заўсёды новыя. Старыя — законы, па якіх яны прыходзяць і адыходзяць. Прыходзяць — і адыходзяць. А павадыры... Як жа — без павадыроў? І бездань абрынецца пад нагамі — не ты вінаваты. Ні ты, ні хто іншы... побач... Не вінаваты. А я? Я ж нічога не бачу! Нічога — ні ззаду, ні наперадзе...»

Змога перапыняе думку, навальваючыся, гняце, трушчыць словы (на міг здаецца, што вось-вось хрусне, пераломіцца хрыбетнік) і, вярнуўшы боль, вяртае адчуванне пакінутасці. Змрок, чарната вакол адчуваецца амаль фізічна: яна прывязана да яе — да чарнаты, а не да капельніцы! — і па трубках, па павуціне трубак, у якую патрапіла рукой, точыцца, пранікае ў вены чорная, атрутная вадкасць гэтай бясконцай ночы. Чорная кроў...

Змога навальваецца ўсё цяжэй, блытае думкі. Яе не скінуць, гэту змогу. Нават вачэй не расплюшчыць. Яна ўжо і не спрабуе расцяць, разляпіць цяжкія павекі: раптам і там, наверсе, чарната? Раптам і там, як у ёй, пуста і чорна? Не зліваюцца ж з цемрай, з чарнатой незнаёмыя, чужыя галасы.

— Званілі з Саўміна. Сам Васіль Антонавіч. Наконт мажлівасці пераводу...

— Мажлівасці такой пакуль што няма. Небяспечна. Званілі — і з Масквы вылятае акадэмік Розанаў.

«Масква...», «акадэмік...» Словы заселі ў ёй, недзе глыбока, за свядомасцю, і марудна, гук за гукам, падтайвалі, раставалі там, расцякаючыся холадам, струменьчыкамі холаду — здавалася, яшчэ міг-другі і яна, мерзнучы і спрабуючы суняць калатун, успомніць, хто яна, дзе... Разгадка была якраз у імені, яна была перакананa і напружвалася, напружвала памяць, тыя тканкі памяці, якія былі яшчэ жывымі. Але тканкі адна за адной ірваліся, лопаліся, з кароткім, падобным на стогн парванай струны стогнам— гэта яна, яна стагнала ад бяссілаці і болю, і змрок вакол гусцеў, згушчаўся. Ні гэты боль, ні гэты змрок не

мелі імені — на бальнічным ложку, адзіным у даволі прасторным, светлым пакоі, ледзь чутна стагнала бяспамяцтва, і, змагаючыся з ім, супраць яго гарачкавай і ўсеўладнай зараз сілы, раз-пораз да ложка, да жанчыны, распасцёртай на ім, побач з цэлай загарадкай прыбораў, прыстасаванняў, датчыкаў, набліжаліся людзі ў белых халатах. Іх заклапочаны выгляд, іх трывожныя позіркі ў бок шматлікіх прыбораў гаварылі самі за сябе — адно што не было каму гаварыць: вакол бязгучна плёскалася святло яснага красавіцкага ранку, і толькі засяроджанай на сабе, на сваёй пакуце душы было бачна, якім густым, якім беспраглядна-чорным было гэта святло. Такім густым і такім беспраглядна-чорным, што яго можна было рэзаць, разразаць на кавалкі: колькі кавалкаў — столькі балючых імгненняў...

* * *

— Мама, ты верыш у тое, пра што гаворыш? У тое, што робіш?

Паліна ўздрыгвае, нібыта словы ўдарылі яе, і, абараняючыся, адводзячы ўдар, разгубленым рухам непаслухмяных раптам рук спрабуе ўтрымаць ужо амаль укладзеныя ў мудрагелістую прычоску валасы. Але заколка выслізгвае, і лёгка ўзбіты грабянцом і падаткнуты локан спаўзае на вуха. «Ат, чорт!» — злуецца яна на сваю нязграбнасць, і адно ўпамінанне ў думках усюдыіснага чорта вызваляе яе ад напружання: тут жа забываецца яна на пытанне дачкі (што дзецям не прыйдзе ў галаву!), тут жа зноў усміхаецца свайму адбітку ў люстэрку.

— Я бачыла ў цябе на стале вершы... Прозвішча аўтара надта ж дзіўнае. Птушынае. Гёльдэрлін... Хто гэта?

— Ты не адказала.

— А што, на тваё пытанне можа быць адназначны адказ? Я не разумею, Марыя...

— Гэта ж так проста, мама.

— Проста? Што проста? — супіць бровы Паліна Аркадзьеўна і тут жа разгладжвае лёгкія зморшчыны какетліва сагнутымі пальцамі, хаваючы раздражненне: наструнечаная, з высока ўскінутай галавой, сочыць за кожным яе рухам дачка, і ўпершыню гэта раздражняе яе, выклікае пачуццё дыскамфорту, няўтульнасці.— Я ў твае гады чытала пра Паўку Карчагіна і Алега Кашавога.

— Вам тады было не да вершаў Гёльдэрліна.
— Марыя!
— Да, мама.
— Што гэта за Гёльдэрлін, Марыя? У школьнай праграме, наколькі я помню...
— Але ж канікулы яшчэ не закончыліся!
— Да, да. Я выберу вольную хвілінку і пагартаю гэту тваю кнігу,— апошні раз, не азіраючыся больш на дачку, крутанулася Паліна Аркадзьеўна перад люстэркам і ўжо з-за дзвярэй пачула ціхія акорды шапэнаўскага эцюда.

* * *

— Шапэн? Канешне, канешне, Іван Сцяпанавіч. Было б добра, як раней... усёй сям'ёй... Але ж вы павінны разумець: зараз кожны мой прыход у філармонію ці ў тэатр успрымаецца як афіцыйны. Як афіцыйны... Да, да. Таму сазваніцеся з аддзелам, перамоўцеся, што і як. Ці варта... Да, да. Усяго добрага.
Яна кладзе трубку і націскае кнопку сувязі з прыёмнай.
— Любоў Ціханаўна, там прасіўся на прыём...
— Ён чакае.
— Няхай зойдзе.
Звыкла, нетаропка папраўляе прычоску, адкідваецца на спінку крэсла, крыху адсунуўшы яго ад стала, цішком, не выказваючы цікавасці, разглядвае высокага барадача, яго падкрэслена спартыўны касцюм, апрануты сюды, у гэты дом, яўна адумыслу, не адно для таго, каб выглядаць маладзейшым і больш раскаваным у рухах і жэстах, а і ў знак свайго непрыняцця ні гэтай спакойнай урачыстасці кабінета, ні яе, па-гаспадарску спакойнай, абыякавай увагі — спрачацца, змагацца ішоў, адстойваць сваё.
— Паскардзіцца мушу, Паліна Аркадзьеўна.
— А я думала: паспрачацца.
— І паспрачацца!
— Ды вы сядайце, сядайце, Іван Анатольевіч. У нагах праўды няма.
— На нагах чалавека зваліць цяжэй. Нават пры дапамозе ўсяго апарата міністэрства.
— О, вы ўжо адразу і стрэлы вострыце. Навошта з гэтага пачынаць? — хавае раптоўна ўзніклую непрыязнасць Паліна Аркадзьеўна.— Вашу п'есу «Марыя па Хрысце» ў аддзеле прачыталі.

— І ў вас на стале ляжыць падрыхтаваны ў аддзеле разнос,— пераняўшы яе тон, яе інтанацыю, працягвае няскончаную фразу той, ашчаперыўшы сябе дзвюма рукамі і ціхенька пахітваючыся ў крэсле з боку на бок.

— Вашу п'есу, Іван Анатольевіч, у аддзеле прачыталі, і думка адна: невыразная аўтарская пазіцыя не дае магчымасці...

— Перапрашаю, Паліна Аркадзьеўна, шчыра перапрашаю. З заключэннем аддзела, як вам вядома, я азнаёмлены. І не згодны,— прыўздымаецца, навальваючыся на край стала, і зноў цяжка апускаецца ў крэсла Скрыдлаты.— І хачу растлумачыць чаму.

— Я слухаю,— супіць яна бровы, змушаючы сябе прыняць усю дакуку, усю непрыемнасць гэтай размовы як непазбежнае і супакоіцца: не першага ж фанатыка ад мастацтва слухала, не першага адпраўляла з тым, з чым прыйшоў.

— Пры ўсёй шматстайнасці і рознасці падыходаў, інтэрпрэтацый біблейскіх сюжэтаў і вобразаў самога Хрыста ў літаратуры няма, падкрэсліваю, няма твора, які б апавядаў пра маці яго Марыю, пра гэту святую заступніцу ўсіх жывых, усіх гаротных. Што гэта? — схіляецца, навісае над сталом узрушаны Скрыдлаты.— Абыякавасць да само сабой зразумелага? Неразуменне ці непрыняцце таямніцы духоўнага жыцця? Звыклае — наша, мужчынскае,— няўменне ці нежаданне паставіць жанчыну, няхай нават святую, над асобай свайго полу? Эгаізм, той жа, што ва ўсіх выпадках у адносінах да маці? Што?

— Вы знайшлі адказ і ўздумалі зрабіць падарунак царкве ў сувязі з тысячагоддзем хрысціянства? — ледзяным тонам, ледзяным позіркам спрабуе спыніць яго Паліна Аркадзьеўна.— Нешта я не ўразумею, Іван Анатольевіч, якой дапамогі вы чакаеце ад мяне. Няўжо вы сур'ёзна лічыце, што ставіце ў п'есе важныя для ўсіх нас пытанні, што сёння — той час, якому трэба вярнуць выдуманую некалі Марыю-заступніцу?

— Выдуманую? Што ж, няхай так. Адкінем вобразнасць. Адкінем ад сказанага — Хрыста. Маці, маці чалавечага сына была? Была! А хто ўслаўлены? Сын яе. Сын, а не яна. Яна — і там, у біблейскіх паданнях — у цені, яна — ахвяра. Ахвяра, хоць ахвяруе людзям сына — дзеля людзей і славы сынавай ахвяруе, а сама ў цені... Разумееце? Там, там — карані спрадвечнай няроўнасці, спрадвечнай жаночай прыніжанасці!

— У кожным грамадстве...— Паліна Аркадзьеўна не дагаворвае і крыху роблена смяецца: яе напэўна ж разыгрываюць, а яна паддаецца — увязваецца ў спрэчку.— Мне абараняцца загадаеце ці гневацца?

(«Што гэта яна? Ён і так ужо на яе пазірае, як на кабінетную ляльку ці, як адзін з іх выказаўся неяк, на гуску ідэалогіі... Гуска! Ды за адно гэта ў былыя часы...»)

— Вас здзіўляе, чаму — Марыя, чаму — Марыя па Хрысце? Тлумачэнне простае. Спрадвеку, колькі свет стаіць, жанчына калі не раба, то ахвяра. Ахвяра абставін, часу, самой прыроды. Дагэтуль! Колькі іх, Марый, Марыляў, Марусяў, аддаўшы ўсё, усё — хоць і вайну прыгадаць! — знаходзяць у сабе сілу кінуць у зямлю жменю зярнят, пасадзіць і вырасціць кветкі не адно на магілах, а і пры дарозе, у палісадніку, выцвілым, да донца празрыстым позіркам мераць і мераць зямны шлях свой, шлях роду свайго — колькі іх страчаецца ў жыцці! А мы ўсё радзей заўважаем іх кветкі, а мы выракаемся іх веры.

— Ну, а пры чым тут вера? — не разумее яна.— Працаўніца ў нас, дзякуючы клопатам урада, услаўлена, паднята.

— Куды паднята, Паліна Аркадзьеўна? На парудзелую ад дажджоў Дошку гонару? На сцэну Дома культуры ў час сходу? На трыбуну? Сышоўшы з трыбуны, яна, прабачце, кідаецца ў магазіны, становіцца ў чэргі, выслухоўвае лаянку стомленых, абыякавых прадаўшчыц, шчэміцца з сумкамі ў аўтобус... Але я пра іншае.

— Можа, вы нарэшце скажаце, пра што?

(«Каму ён гэта гаворыць? Позірк блукае па кабінеце, рукі раз-пораз узлятаюць над сталом і супакойваюцца толькі тады, калі ён ашчаперваае сябе імі і міг-другі пахітваецца з боку на бок... Нават у размове з жанчынай не можа трымацца прыстойна. Геній? Папросту хамло...»)

— У нас гаворка пра мастацтва, Паліна Аркадзьеўна, пра мастацтва ўвогуле,— як не заўважае ён яе незадаволенасці.— Творцы (пачатак, смею нагадаць, ідзе ад бога), нават узвышаючы жанчыну, ніколі не ўзвышалі яе да саміх сябе. Святая — звычайна маці; красуня — рэч або забаўка, у залежнасці ад таго, жонкай была ці каханкай; прыгнечаная — працаўніца або служка; вядзьмарка — калі не паддавалася ніводнаму вызначэнню... Вось і ўсе ролі, гістарычна вядомыя і звыклыя. І зручныя. Бо не прэтэндуюць на складанасць і вывучаны назубок — як адным бокам, так і другім: справа жанчыны — пагадзіцца, справа

мужчыны — сачыць, каб выконваліся ўсе ўмовы... Колькі стагоддзяў не размыкаецца круг! Усе ж спробы — амаль усе — заканчваюцца паражэннем; вызваляючыся, чыста знешне, жанчына трапляе яшчэ ў большую кабалу.

— Іван Анатольевіч, даражэнькі, ды я вам дзесяткі прыкладаў прывяду, якія абвяргаюць ваша, прама скажам, неабгрунтаванае сцвярджэнне. У наш век? У нашым грамадстве? Ды вы, пэўна, пра сярэднявечча разважаеце?

— Адсюль, з вашага кабінета, гэта бачыцца на такой адлегласці? Ды сягоння ўжо вучоныя сцвярджаюць, што жаночая праблема ў свеце вастрэйшая і важнейшая, чым праблема экалагічная!

— Нават так? — падцінае вусны Паліна Аркадзьеўна, усім тварам паказваючы, што ёй абрыдлі яго тлумачэнні.

— Нават так. Бо праблема становішча жанчыны ў грамадстве — гэта праблема захавання яго, грамадства, духоўнасці. Дзіўна, што вы гэта не разумееце.

Скрыдлаты стомлена застыў у крэсле, упершыню ўперыўшы цёмны, гарачы пагляд у дагледжаны, без адзінай зморшчынкі твар сваёй суразмоўніцы, і ў гэтым паглядзе лёгка чыталася шкадаванне аб змарнаваным часе. І Паліна Аркадзьеўна, незадаволеная сабой (у Маскве ж яго п'есы ідуць!), падшуквае ў думках, як выраўняць гаворку, вярнуць ёй прадметнасць.

— Дзіўна, што вы з такім імпэтам даводзіце мне агульнавядомае,— усміхаецца яна куточкамі вуснаў і тут жа праглынае ўсмешку і суровее.— Наколькі я разумею, гаворка ідзе пра вашу новую п'есу, пра назву яе, мякка кажучы, не надта сучасную... А вы, прабачце, Іван Анатольевіч, лекцыю мне чытаеце — ці то па тэалогіі, ці то па гісторыі мастацтва.

(«Нянькаемся мы з гэтымі «творцамі» задужа: геніі... выказнікі дум народных... Народ і думаць не думае абаронцаў для сябе шукаць: жыве і жыве. Працуе. На лепшае заўтра спадзяецца — на тое «заўтра», якое мы, палітыкі, малюем, а не яны, выказнікі...»)

— Духоўнасць — катэгорыя не рэлігійная. І вы, Паліна Аркадзьеўна, павінны лепш за мяне ведаць, куды вядзе, куды прывяло прыніжэнне жанчыны. І п'янства, і рост злачыннасці, і наркаманія карэняцца ў нашай непавазе да святынь. У тым ліку і да жанчыны — да маці, сястры, каханай. Чалавечага сына можа нарадзіць толькі жанчына. Толькі Марыя.

— Пры чым тут Марыя?

— Гэта вобраз. Сімвал, калі хочаце. Ці таго больш — штуршок. Я падштурхваю... Разумееце? Хачу падштурхнуць чалавека азірнуцца на сябе самога, на свой шлях, і ўбачыць, што не хтосьці, не хтосьці адзін, на якога б маньяка ні ўпаў позірк, захворвае — душэўна захворвае свет. Свет, ад якога нельга адгарадзіцца граніцамі, законамі, ідэалогіяй. Нават ідэалогіяй! Бо ёсць, існуе нейкая таемная повязь, якая нітуе, спалучае людства ў адзін жывы арганізм, агульнай пупавінай звязаны з зямлёй. І калі захворвае што ў гэтым арганізме, хвароба распаўсюджваецца, распаўзаецца і — нічога не ўратаваць, нікому не ўратавацца. Не ўратавацца, калі своечасова не задумацца, не спахапіцца.

— Не занадта змрочна? — пільна, быццам вышукваючы прыкметы хваробы, узіраецца Паліна Аркадзьеўна ў Скрыдлатага.— Час цяпер новы, спадзяванні на яго большыя.

— Спадзяванні — яшчэ не рашэнні. Пошасць бездухоўнасці распаўзлася і працягвае распаўзацца, рэальна пагражаючы свету. І нам, і нам пагражаючы, Паліна Аркадзьеўна, колькі б мы ні адмахваліся ад небяспекі. Гаварыць пра гэта трэба адкрыта, на поўны голас.

— Ці не важней знайсці і паказаць перспектыву, ідэал?

— Знайсці?! Ды навошта шукаць тое, што існуе, колькі існуе чалавецтва?

— Вы лічыце,— пачынае нервавацца Паліна Аркадзьеўна,— што сацыялістычнае грамадства не дало свету...

— Сацыялістычнае грамадства будуецца па новых прынцыпах, на новай, сацыялістычнай аснове — і гэта непераўзыдзенай важнасці ўклад у агульначалавечы прагрэс. Але ідэал чалавека — Чалавек. Чалавечы сын. Так было ўчора. І пазаўчора. І сотні год таму. Так і сёння.

— Гэта біблейская ці ваша тэрміналогія: чалавечы сын?

— Калі вы лічыце, што чалавек з вялікай літары гучыць лепш...

Скрыдлаты ўсміхаецца — і твар яго адразу дабрэе (чаго, запытацца, ускінуўся?), становіцца звыкла-ветлівым і... безаблічным, і Паліна Аркадзьеўна канчаткова спыняецца на думцы: правяраў, знарок уцягваў у спрэчку.

— Добра. Хай так. Хай чалавечы сын,— пагаджаецца яна.— Але ж вы не можаце адкінуць той факт, што гэты чалавечы сын жыве пры сацыялізме, у пераломны для грамадства час, і паралелі з часам, калі зараджалася хры-

сціянства, на якіх вы, Іван Анатольевіч, настойваеце, прама скажам, непажаданыя. Ні ў нашай гаворцы, ні ў п'есе.

— А чаму, дазвольце запытаць, трэба баяцца такіх паралеляў? Не вытрымаем параўнання? Адным параўнаннем павернем час назад? Глупства. Трэба выкарыстоўваць усё, што змусіць чалавека задумацца, спыніцца і задумацца, куды ён ідзе,— насустрач паабяцанай яму светлай будучыні ці насустрач ядзернай катастрофе. Не знаю, як для вас, Паліна Аркадзьеўна, а для мяне тое, што адзін з маіх бліжніх можа адправіць маці ў багадзельню, а другі адправіць цэлае людства ў апраметную — звенні аднаго ланцуга. І там і там — прыкметы адной і той жа хваробы. Бездухоўнасці. І сёння мала заўважыць хваробу і назваць яе — нам належыць апярэдзіць яе развіццё, яе рост. Каб не загінуць.

— А чым мы, ідэолагі, па-вашаму, займаемся?

(«У пракорокі меціць... Ды гэткіх пракрокаў на кожны сельсавет па тузіну! Духоўнасць, бездухоўнасць... Працаваць няма з кім: адны геніі...»)

— Вы? — безабаронна ўсміхаецца той і шырокім жэстам разводзіць рукі.— Вас бы мы хацелі часцей бачыць у сваім асяроддзі.

— Я прачытаю вашу п'есу,— падымаецца Паліна Аркадзьеўна, заканчваючы гаворку.— А вы ўсё-такі падумайце над сваёй канцэпцыяй, Іван Анатольевіч. І гэта назва: «Марыя па Хрысце»... Не тая сэнсавая афарбоўка.

* * *

Летняя ноч падымаецца над ёй, расце, раздаецца ўшыр. Круглеюць, ззяннем, як сокам, наліваюцца зоркі. І вось ужо не пад купалам неба, а пад шатамі неабдымнага ні паглядам, ні розумам дрэва ляжыць яна, адчуваючы, як абмываюць яе гарачыя струмені паветра, як, уразаючыся глыбока ў цела, спрабуюць падняць, прыўзняць яе насустрач ім рухомыя пругкія карані.

— Марыя, цябе абраў я сярод тых, хто жыве пад гэтым небам,— аднекуль зверху, прыглушаны вышынёю, далеччу, гучыць голас, і яна, пазнаючы яго, гэты голас, імкнецца зварухнуць вуснамі, адказаць, сказаць, што яна не Марыя, што бачыць над сабою не неба, а паплеценае, густа ўсыпанае яблыкамі цёмнае голле.— Ты абрана мною і станеш маці, і народзіш свету чалавечага сына.

— Але я не Марыя! — крычыць у ёй, скаванай страхам і нематою, кожная тканка.— Я зусім не Марыя!

— Тая са смертных, хто дасць жыццё чалавечаму сыну,— Марыя,— схіляецца, апускаецца голле, студзячы яе твар, яе грудзі, яе шырока раскінутыя на пяску рукі, і ёй на момант здаецца, што голас набліжаецца разам з ім — яго халодным дыханнем.— Прымі волю маю, бо абраў цябе, і ды будзе благаславёны твой лёс...

Яна хоча заплюшчыцца, не глядзець, не бачыць, як імкліва набліжаецца паплеценае, густа ўсыпанае яблыкамі зор голле, а павекі не сцяць, вочы слепнуць, і ззянне то сцюдзёнымі — да сутаргі, што пачынае зводзіць цела, то гарачымі — да ўсплёску полымя, у якім пачынае захлынацца душа, хвалямі пераліваецца ў яе, перапаўняе яе. Здаецца, яшчэ міг — і яна растворыцца, знікне ў гэтым ззянні, але ў наступны міг усё раптоўна згасае. Нейкі час яна чуе пошум лісця, спеў малінаўкі, бруенне ручайка, перад вачыма ж — толькі сіняе, сіне-чорнае мроіва, якое напаўзае на яе, уціскаючы ў пясок. І вось ужо згасаюць і гукі, яна адчувае першы асцярожны дотык нябачнай рукі, потым другі, трэці — мноства рук кранае, гладзіць, ціскае, камечыць яе цела, вяртаючы яму пругкасць, пругкую сілу, што вось-вось вырве яе са здранцвення, са сну. Бо гэта ж сон! гэта сніцца ёй! — яна ж не Марыя, яна зусім не Марыя...

— Марыя, цябе я абраў сярод тых, хто жыве пад гэтым небам, цябе... цябе...— супакойвае, суцяшае голас, а цела ўжо гарыць ад дотыкаў прагных рук, і яна задыхаецца, захлынаецца ў бязгучнай, бяссільнай сваёй нязгодзе.— Род вялікіх сваімі памкненнямі людзей пойдзе ад сына твайго.

— А калі... калі я дачку нараджу? — разрывае яна немату, адводзячы нябачныя рукі.— Калі дачку?!

— Калі дачку... дачку... дачку...— перакочвае над ёй крык рэха, абломваючы, ламаючы яго да таго часу, пакуль гукі не пераходзяць у невыразнае вуркатанне, якое нагадвае вуркатанне перуноў.

А рукі (ці мо галіны?) адпускаюць яе, зноў яна чуе пошум лісця, спеў малінаўкі і ціхае бруенне ручайка. Расплываецца, святлее і цёмнае гарачае мроіва: спярша становяцца бачнымі старыя магутныя галіны, што адступаюць, расхінаюцца, адкрываючы краёк зорнага неба, потым і яны знікаюць, растаюць у ззянні, і толькі неба падымаецца, расце, раздаецца ўшыр, пакуль яна не застаецца з ім сам-насам.

— А калі я дачку нараджу? — разгубіўшыся, шэпча яна яму, гэтаму небу, і ўздрыгвае, калі ў адказ чуе халоднае, суровае:

— Значыць, не ты, а дачка твая — Марыя, якая дасць жыццё чалавечаму сыну...

— Поля! Поля!

— Што? — лыпае яна вачыма і няўцямным, поўным жаху рухам адпіхвае, адкідвае ад сябе рукі мужа, ці то не ўсведамляючы, што сон застаўся ззаду, што ён адпусціў яе, ці то спалохаўшыся вернутых іх дотыкамі адчуванняў.

— Сон напалохаў ці я? — адхінаецца, адсоўваецца муж і выключае ўключаную перад тым лямпу.

— Хай пагарыць, Сямён,— прыходзіць яна да памяці і, прычакаўшы, калі зноў загараецца святло, некалькі раз глыбока ўдыхае паветра, шумна выдыхаючы і на кожны выдых расслабляючы здранцвелае і нібыта чужое цела.— Ты не паверыш, з самім богам размаўляла толькі што.

— Агітавала яго ўступіць у партыю?

Яна не адразу разумее, а калі разумее, то нечакана крыўдзіцца. Прыўздымаецца і, абапершыся на локаць, пазірае на мужа адчужана і непрыязна: другі б прыгарнуў, прылашчыў, распытаўшы, супакоіўшы, а гэты толькі пакепвае, пасмейваючыся ў кулак.

— Які ты, Сямён...— адкідваецца яна на падушку і спрабуе суцішыць, змагчы ў сабе прыкрасць.— Давай спаць.

Але сон не ідзе. І пасля таго, як гасне святло, не гаснуць, не ціхнуць думкі, і яна лена перабірае іх — то вяртае толькі што ўбачанае ў сне і потым доўга выбаўляецца ад яго, міжволі сцінаючыся, то з непрыязнасцю згадвае аўтара так і не прачытанай дагэтуль п'есы і неспакойна варочаецца, адчуваючы нейкую сувязь паміж гаворкаю з ім і гэтым дзіўным, проста-такі дзікім, калі ўлічваць, які час на дварэ і якую ўстанову яна, Паліна Аркадзьеўна, узначальвае, сненнем. Неба, у якое ўрастае дрэва, усыпанае яблыкамі зорак... Яна, аголеная гарачым дыханнем ночы... Воля бога, данесеная да яе голасам... Лухта! Несусветная якаясь лухта!

Па тым, як нячутна дыхае побач муж, разумее, што не спіцца і яму. І больш не стрымліваецца. Адкідвае коўдру, устае, падыходзіць да акна. Рассунуўшы цяжкія шторы, з палёгкаю ўздыхае: ужо бярэцца на золак, і праз гадзіну-другую горад прачнецца, пазяхаючы, пацягнецца ўсімі сваімі магістралямі — і наступіць дзень. Ён ужо на-

ступіў, калі зірнуць па гадзіннік, і недарэчы было б шкадаваць перабітую спеннем ноч.

— Сямён, ты не помніш, чаму мы назвалі дачку Марыяй?

* * *

—Чаму цябе ўсе завуць Марыяй?

— Хіба не прыгожа?

— Яно прыгожа, але ж мама ў мяне — Марыя, а яе ўсе называюць Маняй. Ці Маняшай, як тата. А то яшчэ можна: Маша, Маруся... Маруся, праўда, гучыць больш па-вясковаму... Ну, тады Мар'юшка! Таксама прыгожа.

— Мар'юшка — гэта пра некага іншага.

Дзяўчынкі прыселі на адной з каменных прыступак, што збягаюць да Свіслачы, да самай вады яе, брудна-жоўтай і, здаецца, нерухомай тут, у затоцы, назіраючы за мітуслівымі чайкамі, але сядзяць нядоўга: ад каменя цягне холадам, ад вады — гніллю, а побач, па скверы, разгульвае сонца, варушачы разныя цені лістоты і запальваючы вясёлкі ў пырсках фантана, побач раскашуе вясновы, вольны ад заняткаў дзень. Можна паспрабаваць адкалоць кавалачак вясёлкі і потым доўга весела атрэсвацца ад пырскаў. Можна падзівіцца на мудрагелісты рукатворны ўзор камянёў, імхоў і кветак ля помніка Купалу. Можна купіць марожанае і, не спяшаючыся, злізваць яго падталы салодкі вяршок. Можна няспешна прайсціся ўздоўж набярэжнай, разглядваючы ўсё, што патрапіць на вочы.

— Хочаш зірнуць на металістаў? А то пазнаёмлю...

— Ты што, Свет? Ты якшаешся з гэтымі? — Марыя адварочваецца ад купкі распатланых хлопцаў у аднолькавых чорных майках, пазаліваных крыкліва-яркімі плямінамі.— Якія яны металісты? Аціраюцца тут у чаканні турыстаў, каб выклянчыць ці выменяць якую спражку ці пачак цыгарэт. Мама казала...

— Мама, мама! Ну, адкуль тваёй маме ведаць? Калі яна апошні раз ездзіла аўтобусам, не кажучы...— Святлана не дагаворвае, заўважыўшы, як пабялеў твар у сяброўкі.— Я не хацела... Усе бацькі бачыць не бачаць, што адбываецца ў іх пад носам. «У вашым узросце мы пра Паўку Карчагіна чыталі...» Табе так не казалі?

— Слова ў слова! — спыняецца ўражаная Марыя.

— А я пра што? — смяецца тая.— І думаюць аднолькава, і гавораць адно і тое ж.

— Ты думаеш, яны не вераць у тое, што гавораць? — адводзіць пагляд Марыя.

— Здраствуйце-прыехалі! Чаму ж яны тады на рабоце гавораць адно, у чарзе — другое, а дома — трэцяе? Чаму?

— Я не знаю... Я не чула.

— Вушы затыкаеш, каб не чуць? — абдымае яе за плечы Святлана, усміхаючыся паблажліва, з разуменнем сваёй перавагі: яе бацькі, інжынеры, ведаюць кошт не адно слоў, а і таго, што за імі.— Ды ўсе толькі тое і робяць, што хлусяць адзін аднаму. Не ў вялікім, дык у малым — па дробязі. Штодня. Штохвіліну, лічы. І як іначай?

— Ты на поўным сур'ёзе, Света?

— Калі б на поўным... Ды ты што, напраўду гэтага не разумееш?

Марыя пахітала галавою і, запыняючы сяброўку, прыхінулася да каменнага парапета. Позірк яе блукаў па галінах магутнай ліпы, што высілася непадалёку, насупраць, рукі пагладжвалі шурпатыя камяні.

— Знаеш, Марыя, усе нашы табе зайздросцяць: як жа! І кватэра ў вас — не кватэра, а апартаменты з раялем пасярэдзіне, і чорны ЗІМ да ганка пад'язджае...

— Ахвота табе, Свет? — супіцца Марыя.

— Дык вось, нашы табе зайздросцяць, а я — не. Сказаць, чаму?

— Кажы.

— Усё гэта штучнае, разумееш? Нежывое... Нібыта вы пад шкляным каўпаком жывяце. Адзін неасцярожны рух, каменьчык які-небудзь выпадковы — і ўсё рассыплецца, асыплецца друзкамі пад ногі. І добра, як пад ногі, а не на галаву.

— Кватэра, раяль...

— Кватэра, раяль, машына, чыноўныя госці! Гэта дэкарацыі, Марыя. Дарагія, багатыя дэкарацыі, сярод якіх і рухацца, і размаўляць, і дыхаць трэба асцярожна, як таго патрабуюць напісаныя кімсьці збоку ці зверху — гэта не мае значэння, ролі. І ты пакутуеш...

— Я не пакутую! — перапыняе занадта самаўпэўненую сяброўку Марыя, міжволі пакрыўдзіўшыся і ад таго зазлаваўшы.

— Добра, зробім скідку. Ты — не задаволена. Тым, што не знаходзіш ролі для сябе. І толькі таму, нягледзячы на матчыны парады, гэта калі мякка кажучы, сябруеш са мной. Вось, цяпер — усё. Можаш абараняцца.

— Пойдзем,— рушыла ў бок ад яе пільнага, дапытлівага позірку Марыя.
— Пакрыўдзілася?
Святлана абганяе яе, зазірае ў твар, потым, ступаючы поруч, нібы неўзнарок кранаецца плячом яе пляча. Вінавата маўчыць. Не вытрымлівае і мякка тузае Марыю за руку.
— Ты што — пакрыўдзілася? За матку?
— Мама тут ні пры чым.
— Тут — гэта дзе? — не хавае ўсмешлівых нотак Святлана, беручы Марыю пад руку і спрабуючы перавесці ўсё раней сказанае ў жарт, але тая вызваляецца, нават адступае крыху ўбок і не спыняецца. Яна не чуе ў сэрцы крыўды — толькі прыкрасць, і ўсё ж працягваць гаворку не хоча, не здольна: падсвядомы страх гоніць яе прэч ад пачутага, нібы і ўзапраўду аднаго неасцярожнага слова, аднаго руху хапіла б зараз, каб раскалоўся, рассыпаўся звыклы, абжыты не толькі яе сумненнямі, але і яе мроямі свет, і матчын гэта свет ці яе, Марыі, было ў гэты момант не важна.
Набліжаўся, насоўваўся на іх няўклюдны цень моста, і, замаруджваючы, апераджаючы гэты рух, матлянулася і застыла паміж ім і Марыяй разгубленая, узрушаная ад гэтай сваёй разгубленасці, несвоечасовай і непрыемнай, Святлана.
— Ну, чаму, чаму ты не хочаш азірнуцца, агледзецца? Няўжо не задыхаешся ад мярзотных выпарэнняў атручанага хлуснёй часу, ад хлусні і дома, і ў школе, і ўсюды, якая падаецца пад рознымі соусамі і ўсё ж патыхае гніллю, граззю, крывёю, пралітай некалі і не намі?
— Што-небудзь здарылася, Света? — аслупянела, адчуваючы, як папаўзлі па спіне мурашкі, Марыя.
— Абрыдла ўсё,— гэтак жа раптоўна, як і ўспыхнула, згасла, супакоілася тая.— Мама, папа, відэакасеты, начыненыя бомбамі заўтрашні дзень... У Джульеты — нашай равесніцы, заўваж! — быў свой Рамэо, а ў нас...
— У мяне ёсць музыка.

* * *

Музычны фрагмент, якім заканчвалася б апошняя сцэна спектакля, доўга не знаходзіўся: ніводзін з вядомых сваёю трагічнаю асноваю твораў самых слынных за апошнія два стагоддзі кампазітараў не стасаваўся з задумаю — ці то заглушаў усё ўрачыстай патэтыкаю, ці то затапляў

жалобаю. Выявіць жа, падкрэсліць трэба было трывогу. Трывогу за непрычаканы яшчэ дзень, за ненароджанае яшчэ дзіця — трагізм якраз і складала гэта не ўсвядомленая людзьмі да канца трывога, гэта іх слепата.

— Эфект — у кантрасце, у кантрастным рашэнні, Іван. Тут не рэквіем павінен гучаць, тут... Чакай! Чакай,— замітусіўся па пакоі, шукаючы штосьці, Залужны.— Здаецца, прыдумаў. Я зараз.

Ён матлянуўся з пакоя, і Скрыдлаты, правёўшы сябра стомленым позіркам, адкінуўся на спінку крэсла, выпраставў ногі і смачна, да хрусту ў плячах пацягнуўся: чытка п'есы перарасла ў выпрацоўку рэжысёрскага плана — і мінуў дзень, і мінаў вечар...

— Знайшоў. Слухай сюды, браце.

Трымаючы партатыўны сынаў магнітафон, гаспадар націснуў на клавішу і тут жа зморшчыўся, крыху прыглушыў гук: пакой захліснула джазавая музыка самага нізкага, самага агрэсіўнага кірунку — падвывалі, разрываючы, доўжачы гучанне кожнай ноты, электрагітары, захлёбваліся ўласным рэхам барабаны. Цяжка, амаль немагчыма было ўявіць агульны рытм, а душа, як здалося аглушанаму ў першы ж момант Скрыдлатаму, скукожылася, сцялася, саступаючы няроўнаму, нервоваму — спачатку ў нагах, у руках, а потым і ва ўсім целе — дрыжанню, якое было не адолець, не патушыць. І вось ужо сарваўся Іван з месца, падскочыў да апалелага ад толькі яму вядомай пакуль што радасці знаходкі сябра, тузануў да сябе магнітафон.

— Ты што? — выключыў Залужны запіс.— Не зразумеў?

Той адно выразным жэстам пакруціў пальцамі ля скроні і цяжка гэпнуўся ў крэсла побач.

Залужны абмінуў яго, прайшоўся па пакоі, не пазіраючы на сябра, потым спыніўся, павольна, знарок запаволеным рухам паставіў магнітафон на столік насупраць і не вытрымаў — заўсміхаўся, ступіў да Івана, абняў за плечы, весела трасянуў яго, ледзь не перакінуўшы крэсла.

— Знайшоў! Знайшоўся фінал, браце. Слухай сюды,— ужо масціўся ён на крайку століка, заваленага часопісамі і спісанымі старонкамі рукапісу.— П'еса заканчваецца, абрываецца ў момант, калі Марыя, цяжарная дзіцем новага стагоддзя, чуе цяжкія штуршкі болю і, абхапіўшы жывот рукамі, абвальваецца ў крэсла, так? Гэты жэст, гэты рух яе павінен упісацца ў час, у трывогу нашага часу, так?

— Так,— пацягнуўся да яго паглядам Скрыдлаты.
— Дык вось, гукавым фонам сцэны павінны быць галасы, галасы самога часу, веку. Разумееш?
— Думаеш, джаз...
— Ну, чаму толькі джаз! — зноў сарваўся з месца Залужны.— У адным, у адзіным запісе павінны зліцца і дзіцячы плач, і словы дыктара пра становішча ў свеце, і джазавая мелодыя, якая паступова затапляе, заглушае ўсе астатнія гукі. Цяпер дайшло?
— А ты ведаеш...
— Ведаю, браце. Чую! Бачу трывогу, застылую на твары тваёй Марыі, і чую, як плача дзіця, як спакойна, добра пастаўленым голасам чытае дыктар... Наступнае, да прыкладу: «У свеце назапашана столькі ядзернай зброі, што хапіла б, каб пятнаццаць разоў знішчыць усё жывое на зямлі», ці гэта ж — іншымі словамі, у тваёй, браце, рэдакцыі. І над усім — за ўсім — шаленства музыкі.
— Так, так,— падняўся і Скрыдлаты, узрушаны, зацікаўлены знойдзеным рашэннем.— Шаленства музыкі, у якую ўрываюцца, каб тут жа аглухнуць, адступіцца, словы з народнай песні. Ведаеш, цікава... Цікава, Кастусь!
— А я што кажу!
Яны стаялі адзін супраць аднаго, жэстыкулюючы і задаволена ўсміхаючыся, і не бачылі, не заўважалі, што ў дзвярах, прыхінуўшыся да шула, стаіць семнаццацігадовы сын Залужнага Кірыл, і ўсмешка яго ў іх бок непрыхавана скептычная, пагардлівая.
— Брава! — чуюцца воклічы з публікі,— некалькі разоў тэатральна звёў ён далоні, гасячы гэту ўсмешку, і пайшоў з пакоя, не зважаючы на разгубленых нейкі момант дарослых, не павярнуўшыся на бацькава: «Ты штонебудзь хацеў, Кірыл?»

* * *

— Хацець не шкодна. Гэтак, здаецца, у падобных выпадках адказваюць? Хто будзе аплачваць яго, гэта ваша хаценне, а, Рыгор Палікарпавіч? Хто на сённяшні дзень выдзеліць на клопат пра замшэлыя камяні разбуранага за стагоддзі храма хоць капейку? Вы? Я?
— Калі б сума вымяралася капейкамі...
— Во, во! — спапяляла позіркам свайго падначаленага разгневаная Паліна Аркадзьеўна («І ходзяць, і ходзяць!

Блытаюцца пад нагамі, замест таго каб парадак навесці ў сваіх паперах...»).— На мільённыя сумы разлічваеце, хоць каму, як не вам, работніку з дваццацігадовым стажам работы ў міністэрстве культуры, ведаць, што мы мелі і маем на сваім рахунку.

Жлуктаў пераступаў з нагі на нагу, угінаў плечы, цярэбячы крыссё пінжака, і не падымаў вачэй ад стала, на якім бялела і, здавалася, гэтак жа сціналася пад гнеўным позіркам гаспадыні кабінета складзеная ім напярэдадні дакладная. І ўсё ж стаяў, чакаў. Чакаў, што перш чым пачуе ўладнае, заўсёды крыху пагардлівае: «Ідзіце! Ідзіце і працуйце!», здолее, паспее сказаць, што дакладную ён змушаны быў напісаць, што ціск з боку грамадскасці (тут і Акадэмія навук, і Саюз мастакоў, і пісьменнікі) рос і таго і глядзі выплеснецца абурэнне за межы рэспублікі, дакоціцца да Масквы, а там... Хто яго ведае, як яно там абернецца: бог бацька, як кажуць... Тут жа... Тут трэба было перачакаць — пяць, дзесяць, а то і ўсе пятнаццаць хвілін Паліна Аркадзьеўна будзе такаваць, звыкла гневаючыся, звыкла, завучаным аднойчы і назаўсёды гаспадарскім тонам павучаючы яго — яго, сівога ўжо чалавека, які на сваім вяку неаднойчы чуў і гэтыя словы, і гэтыя інтанацыі: час мяняўся, тут, у кабінеце, нічога не мяняючы. Мяняліся зрэдку гаспадары яго, словы ж, добра інтаніраваныя павучанні заставаліся ранейшымі, быццам менавіта да іх, да гэтых слоў, і падбіраліся адпаведныя прамоўцы...

Злякаўшыся сваіх задужа смелых думак і адпіхваючы, запіхваючы іх глыбей, каб і ў позірку ні-ні не выбліснулі (да пенсіі ж яшчэ два гады!), Жлуктаў сцяўся яшчэ больш і збоку нагадваў жывы, рухомы пытальнік, які, калі б узнікла такая патрэба, мог порстка распраміцца і належным чынам увасобіць у сабе, у сваёй гатоўнасці і рашучасці, любы заклік або лозунг. Не, ён, Жлуктаў, быў не з самых пакорных: вось жа склаў дакладную, спадзеючыся немаведама на што! — і ўсё ж службу сваю ведаў і даражыў тымі, хай сабе і невялікімі, прывілеямі, якія яна давала. Не працаю, не шчыраваннем яго належала за іх плаціць, а пакораю — што ж, ён не ставіў умовы. Калі б ён...

Дадумаць Жлуктаў не паспеў, страпянуўся на гнеўны зварот Паліны Аркадзьеўны:

— Што вы топчацеся ля сваёй паперкі? Я ў вас, у вас, Рыгор Палікарпавіч, пытаю, ці падрыхтавана справаздача пра ход работы па пад'ёме народнай творчасці?

— Але ж вам павінны былі дакладваць... А я... Я быў

змушаны напісаць дакладную, бо расце незадаволенасць...

— Чыя? Ваша? — пакпіла яна, адвярнуўшыся да папер.

— Расце незадаволенасць творчай інтэлігенцыі. Ідуць пісьмы. Змест іх выкладзены...

— Карацей, Рыгор Палікарпавіч.

— Помнікаў культуры на Беларусі засталося мала, а мы бяздумна знішчаем...

Паліна Аркадзьеўна, супячыся, пастуквала пальцамі па кардоннай папцы і, калі позірк зачапіўся за гэты рух, а потым за словы, напісаныя буйным размашыстым почыркам: «Марыя па Хрысце», залішне рэзка, быццам злякнуўшыся, адняла руку. І зазлавала. І злосна, нібыта і Жлуктаў, які лена таптаўся на сваіх словах, быў заадно з усімі гэтымі творчымі інтэлігентамі, абарвала яго:

— Гэта, спадзяюся, усё?

— Яшчэ мова...

— Якая мова? Якая яшчэ мова? — не зразумела яна.

— Наша. Беларуская, я хацеў сказаць,— кашлянуў, запнуўшыся, Жлуктаў і нясмела памкнуўся да сваёй дакладной на стале: ён усё сказаў.

— Пакіньце. Пакіньце вашу паперу і ідзіце, Рыгор Палікарпавіч. Ідзіце і працуйце,— стомлена кранулася лба кончыкамі пальцаў Паліна Аркадзьеўна і, уключыўшы сувязь з прыёмнай, сказала сакратарцы, што прымаць нікога сёння не будзе, што яе выклікаюць...

Яе нікуды не выклікалі. Ей раптам здалося, што яна і ўзапраўду нагадвае гуску ідэалогіі і калі зараз жа, не прамарудзіўшы ні хвіліны, не пачуе спакойных, супакойлівых слоў Васіля... Васіля Антонавіча, здарыцца штосьці непапраўнае, штосьці страшнае. Паліна Аркадзьеўна пачала ўжо набіраць патрэбны нумар і тут жа апамяталася: раніца, гадзіны прыёму...

Устала з-за стала, колькі раз прыўзнялася на насках туфляў, агладжваючы стан, нячутна прайшлася ўздоўж стала, узіраючыся ў дыван пад нагамі. Чаго, запытацца, нервуецца? Інтэлігенты, творцы... Незадаволеных гэты кабінет шмат помніць, а дзе яны, усе незадаволеныя?

Думкі супакойваліся. Нічога ж не здарылася. «Збудзіліся спадзяванні, што надыдзе, надыходзіць новы час? Гэта яшчэ як што павернецца. Паварочваць жа, вырашаць не яны, усе гэтыя незадаволеныя, будуць, а мы. Мы — тыя, хто ў гэтых кабінетах, хто заказвае музыку...»

* * *

Музыка не хлусіць. Музыка не можа хлусіць, бо яна — смутак душы аб недасяжным, горнім, якое адкрываецца толькі ў мінуты натхнення, адкрываецца, каб тут жа знікнуць у шчымлівым, шчымліва-працяжным гучанні цішыні і гукаць, вабіць, зацягваць душу ў сваё бязмежжа, у зорнае прадонне яго. І калі б адчуў чалавек усю сілу гэтага прыцягнення, калі б скарыўся ёй,— страціў бы сваю ўласную сілу, страціў і не аднавіў, не схацеў аднавіць, застаўшыся ва ўладзе салодкіх і нярэдка згубных чараў. Музыка сфераў — не для слабай чалавечай душы.

Музыка сфераў... Кволы водсвет, водгук яе — маленне Баха, малітва яго, звернутая не да неба, да чалавека, а і гэтага водсвету даволі, каб апаліць душу, спаліўшы, знішчыўшы ўсе повязі, усе павадкі, якія яе ўтрымліваюць: радаснае пачуццё вызвалення не адразу змяняецца болем, і пэўны час льга не заўважаць болю, не зважаць на яго.

Даўно адгучаў арган, даўно апусцеў сабор св. Роха, прыстасаваны пад канцэртную залу, і разышліся ўзрушаныя ці проста задаволеныя кароткаю сустрэчаю з мастацтвам слухачы, а Марыя, аглушаная, аглухлая, усё чула магутныя акорды прэлюдый, і, здавалася, не горад, не гарадскі тлум акружаў яе, а лес гукаў, у якім яна заблудзілася, блукала, не знаходзячы, ды і не шукаючы, сцежкі. Твар ціха свяціўся насустрач вечаровай вуліцы, і калі б хтонебудзь звярнуўся зараз да яе, запыніў яе зваротам, пытаннем, яна адчула б удар і здрыганулася, упусціўшы, разбіўшы штосьці крохкае, штосьці, чаму і назвы не было ні ў яе, ні ў каго іншага і што тым не меней вызначала і гэты вечар, і гэтыя хвіліны злітнасці з ім чуйнай, кранутай яго смуткам душы. Смуткам ледзь адчувальным і ніяк не ўсвядомленым, бо душа Марыі толькі-толькі прачыналася і для смутку, і для радасці, і для пакутных сумненняў — і гэтыя першыя зрухі, першыя асцярожныя водгукі яе на прывабнасць і супярэчлівую складанасць жыцця нагадвалі першыя ўздыхі маладога, клейкага лісцейка пасля доўгага зімовага сну: вярнуўся б холад, наляцеў бы сцюдзёны вецер — і скурчылася б, звяла яно, не распусціўшыся, не набраўшы жыццёвай моцы.

Музыка сфераў... Адкуль было Марыі ведаць, што гучыць, павінна гучаць, ажываць яна ў кожным, хто ўмее слухаць сваю душу і хоча разгадаць яе таямніцу? Таямніца дагэтуль нічым не нагадвала ёй пра сябе, і сумненні,

перад якімі зрэдчас Марыя адчувала няўпэўненасць, разгубленасць, ніяк не стасаваліся з чымсьці таямнічым, невытлумачальным. Варта было сесці за інструмент...

Крышка раяля, кранутая ссумаваным паглядам, адвалася цёплым свячэннем, клавішы ўспырхнулі насустрач дрыготкім ад нецярпення пальцам — і з-за сцяны акордаў пачала прарастаць, расці незнаёмая, незнаёма-цудоўная мелодыя: смутак уплятаўся ў радасць, радасць патанала ў сумненнях, сумненні пахіствалі раптам набліжаныя, бачныя далячыні, далячыні расквечваліся мараю, яе вясёлым пэндзлем, і ўсе гукі, усе фарбы належалі ёй, Марыі,— гэта было цудам, тым цудам, якога прагнула яе душа.

Калі пачала адступаць, аціхаць — спачатку ў ёй, а потым і пад пальцамі — дзівосная ў сваёй нечаканасці мелодыя, калі ціхім, усё менш выразным гулам адазваліся апошнія акорды і потым замерлі, застылі каля ўсё яшчэ дрогкіх рук — над імі — клавішы, Марыя злёгку адкінулася назад. Уздрыгнула, пачуўшы крокі, што набліжаліся...

— Што гэта ты іграла? Ні ладу ні складу.

Сцялася, быццам словы ўдарылі яе, і не адгукнулася — ні на словы, ні на рух маці, якім тая хацела ці то папракнуць, ці то прылашчыць: лёгенька паляпала па плячы і, сцяўшы, адпусціла, адышлася.

(ВЫПІСКА СА СВЕДЧАННЯ КЛІМЧУК М. З.:

«Марыя... У ёй змалку жыў геній. Да, да! Хай вас не бянтэжыць прызнанне старой настаўніцы музыкі, якой даўно не было чаму вучыць сваю вучаніцу. Калі б яна выйшла з іншай, з больш простай сям'і, яшчэ сем — дзесяць гадоў таму я настояла б на тым, каб адправіць Марыю ў школу-інтэрнат пры Маскоўскай кансерваторыі. Рэдкі, незвычайна рэдкі дар чуць музыку ва ўсім, чуць і перадаваць — і ніводнага, уявіце сабе, ніводнага разу не ўзяць фальшывую ноту, не сфальшывіць! Да, да, яна не прызнавала фальшу... Не магла займацца, калі недзе побач, у суседнім класным пакоі, хтосьці па-вучнёўску бездапаможна таптаўся на адной музычнай фразе. Таму я і праводзіла заняткі з Марыяй у яе дома.

Абстаноўка? Цудоўны раяль! Вы не тое мелі на ўвазе... Да, да! Тады я не ведаю. Мне здаецца, Марыя адчувала сябе шчаслівай ўсюды, калі чула вакол, або ў сабе, музыку. Слых у яе быў бездакорны. Да, да. Фальшу не прымала... баялася...

Госпадзі, мы ўсе вінаваты, усе, разумееце?..»)

* * *

— Музыка не хлусіць? Чалавек вечна хлусіць, нават самому сабе, а музыка, ім створаная, не? Лухта! Нонсэнс, дзетка. I не ўздумай паўтарыць гэта на публіку: абрагочуцца.

— Ты ж не публіка, Кір,— абняла яго стан, прыгарнуўшыся, прыхінуўшыся на момант, Святлана, і тут жа адхіснулася, і тут жа падалася, зноў пацягнулася да Кірыла.— Ты мог бы паслаць усіх...

— I цябе? — паляпаў той яе па шчацэ і, калі, замест адказу, Святлана прымружыла павекі і прывалілася, шчыльней прыпала да яго, сціснуў пальцамі яе падбародак і так, даволі груба, адпіхнуў.— Ты з той жа публікі, дзетка.

— Але ж я...

— Роля Джульеты не для цябе, і мне — думаю, пяцяжка запомніць! — ніхто, ніводная з вас у гэткай ролі не патрэбна. Спадзяюся, мне не давядзецца паўтараць?

— Канешне, канешне, Кір,— паспяшалася ўсміхнуцца Святлана.— Калі ты не хочаш...

— Калі я чаго-небудзь хачу, я папросту бяру яго. Ні ў кога папярэдне не пытаючыся. Ні на каго не азірнуўшыся. I табе — і табе, дзетка,— давядзецца змірыцца са сваёю роляю.

Кірыл, падрыгваючы нагою, пашчоўкваючы пальцамі ў такт аднаму яму чутнай музыкі, пазіраў кудысьці паўз яе, і Святлана, раптоўна злякаўшыся, нервова сцепанула плячыма: лёс тых, каго ён, здаволіўшыся, адштурхваў, аддаваў публіцы, быў ёй вядомы і прываблівае мала. Адысці? Абмінаць Кірылавы сцежкі? Дык жа не абміне. Позна. I сама не здолее, і Кірыл не дасць: калі ён што-небудзь хацеў, ён папросту браў. Так ці інакш. Са згоды, або і без згоды, або і гвалт учыніўшы...

Нібы падслухаўшы думкі дзяўчыны, Кірыл перахапіў яе руку і моцна тузануў на сябе.

— Патанцуем, дзетка.

— Ты ж не ўключыў...

— А навошта нам музыка? — усміхаўся, аберуч прыціскаў ён яе да сябе, перагінаючы назад, навісаючы над ёю ўсім сваім цяжарам, ніжэй і ніжэй: здавалася, міг — і пераломіцца дзяўчына ў яго абдымку...

* * *

«Аблудны. Апостал, апостал! Чорту лысаму сёння патрэбны апосталы! Вось і я — Павел, а што з таго? Змену лішнюю адстаяць — тут пра мяне ўспомняць, бульбу ў падшэфным калгасе з мерзлай зямлі выграбаць — і тут без мяне не абыдзецца. А як слова мовіць... Ёсць каму казаць, няма каму слухаць. І ты, жанчына, нікшні. Маўчы і слухай. Бо твая справа такая: маўчаць і слухаць.

Марыя. Людзей бы пасаромеўся. Сярод белага дня вочы заліў...

Аблудны. Лю-дзей! Ды дзе яны, людзі, як чалавек — ча-ла-век, Марыя! — яшчэ не нарадзіўся? А?

Марыя *(стомлена)*: А ты хто?

Аблудны. Я? А што я? Я, як усе. Мошка, адным словам. Вось і муляюць думкі, словы розныя, што мошка. Бо іначай... Іначай я б гэткае мовіў, гэткае... Што ты, жанчына, разумееш? Вандзэлкі, гаршкі, пялёнкі! Тут свет вось-вось агнём возьмецца, тут усё як ёсць у тартарары вось-вось абрынецца, а ты капусту шаткаваць уздумала, валачэш як падняць.

Марыя з цяжкасцю падымаецца, уздыхнуўшы, падымае сумкі і, павольна, асцярожна несучы свой вялікі жывот, сунецца праз усю сцэну. Ён жа, адкусваючы ад капуснага ліста, які трымае ў руцэ, не пазірае ёй услед, разважае далей.

Аблудны. Гэта ж на каго ні глянь, усе як пашалелі: адзін перад адным вылузваюцца, са скуры лезуць, каб толькі не горш, як у людзей... Лю-дзей! Ды дзе яны, людзі, дзе, пытаюся я ў вас? Хто з атамам ваюе, хто з качаном капусты, а таго ніхто не помніць, што жывыя мёртвымі стануць, а з мерцвякоў адзін спрос. *(Жуе)*...»

Напісанае адштурхвала. Паліна Аркадзьеўна ледзьве дачытала распачатую старонку і зараз грэбліва крывіла вусны, яшчэ раз прабягаючы яе паглядам. «Бульбу з мерзлай зямлі выграбаць...», «мошка, адным словам...», «несучы свой вялікі жывот...», «з мерцвякоў адзін спрос...» Вось гэта — літаратура? Гэта знаходзіць падтрымку ў тэатрах?

Недаўменне, падагрэтае раздражнёнасцю, расло, саступаючы абурэнню,— яна нават паднялася з-за стала і, адвярнуўшыся ад яго, ад рукапісу, які гартала ўжо трэці дзень, адышлася да акна. Памарудзіла колькі хвілін, узі-

раючыся ў залітае адсюль нябачным сонцам неба над дахамі каменных гмахаў, уключыла кандыцыянер і пад яго роўнае гудзенне паспрабавала пераключыць думкі на што іншае. Хоць бы на гэты летні дзень за акном, які хіліўся на вечар і праз дзве-тры гадзіны пачне згасаць, астываць і сцьмянее, сшэрхне, гэтак жа, як і ўчарашні і пазаўчарашні. Але дзень быў сам па сабе, і ёй, Паліне Аркадзьеўне, як і любому, ззяў спакойна, калі не абыякава; думкі яе не цішэлі, па-ранейшаму кружылі вакол прачытанага, па-ранейшаму раздражнялі: непадмаляванае, непадробнае жыццё, маўляў... А каму яно патрэбна, непадмаляванае? Чаго яно вартае без падмалёўкі, без адпаведнай падсветкі? Ужо нашто Чэхаў, падглядваючы за людзьмі далёка не ў лепшыя іх мінуты, нічым не грэбаваў, а і ў таго і сад цвіў, і рыба ў возеры вадзілася, і чайка насустрач адчаю людскому штораз, штовечар кідалася. А тут нават у прароках ходзіць алкаголік!

Не, і яна, Паліна Аркадзьеўна, не адразу з пялёнак у гэты кабінет упырхнула: не паперкамі за гэта месца заплочана — не сённяшнім днём ведае, з якога хлеба пытаць, з каго дразда, на якую прыманку залатая рыбка ловіцца, на якую тухлая. Хапіла ў жыцці ўсяго. У свой час, праўда. Але час на тое і час, што не запыняецца, што цячэ, для каго хутчэй, для каго павольней, і ўцягвае ў сваё рэчышча ўсіх, усіх як ёсць: аднаму на быстрыні, а то і на грэбні хвалі трэба ўтрымацца, другому, бліжэй да берага, ад карчоў і каменных валуноў усцерагчыся, трэцяму, трапіўшы ў вір, роспаччу ці страхам не захлынуцца. Але гэта ўжо як каму пашэнціць. Як лёс распарадзіцца.

Ёй на лёс грэх наракаць: і ў гразі даў патаптацца — і пашанай не абышоў. І чаго б яна раптам пра гразь згадвала? Навошта ёй зноў тую гразь пад нос соваць, патрабуючы прызнаць паказанае мастацтвам? Гразь і ёсць гразь...

Калідор здаваўся бясконцым. Доўжыўся і доўжыўся. Асабліва калі не адрываць позірку ад падлогі, ад яе нефарбаваных і штодня затаптаных, змаляваных пісягамі дошак, што быццам папіхалі адна адну і, заканчваючыся, тут жа пераходзілі ў наступныя, гэткія ж пачарнелыя ад нанесенай за дзень гразі. Іх, гэтыя дошкі, трэба было адшараваць, адскрэбці дзеркачом, цяжкім і нязграбным, і, як для яе, малой, дык і велікаватым, ва ўсю ступню. Маці часта хварэла, і кожнага дня, ледзь возьмецца на вечар і ў

школе закончыць заняткі другая змена, яна мусіла зноў выцягваць прыхаваныя пад лесвіцу анучы, вядро і непавісны дзяркач і дапазна, часта да ночы, мыць, шараваць падлогу. Не зважаючы на запэцканыя вышэй каленак граззю і пачырванелыя ад халоднай вады ногі, націскаць на дзяркач з усяе сілы, церці і церці, разводзячы лужыны гразі, і потым змываць гэту гразь, сцягваць яе выкручанай анучай. І змывала, і сцягвала, у чаканні, у страху, што вось-вось наступіць той момант, калі ёй уявіцца, а потым і паверыцца: жыццё і ёсць гэта гразь пад нагамі...

Падаў голас тэлефон унутранай сувязі, і Паліна Аркадзьеўна, знобка сцепануўшы плячыма, вярнулася да стала, да крэсла. Садзіцца не стала, зняла трубку, звыкла холадна адгукнулася і тут жа страпянулася, кранулася злёгку паружавелых шчок.

— Да, да, Васіль Антонавіч. Зайду... Як заўсёды, рада...

Радасці асаблівай не было: калі б ні пагукаў — ішла, якую б работу непадалёку ад сябе ні прапаноўваў — прымала, што б ні даводзіў — пагаджалася, а радасць... Ну, ды ў гэтым яна б і сама сабе ніколі не прызналася!

— Я ў Саўмін. Хутчэй за ўсё сёння ўжо не буду,— суха кіўнула сакратарцы ў прыёмнай і выйшла, адразу за дзвярамі адчуўшы палёгку, быццам там, у сваім кабінеце, пакінула ўсе непрыемныя, неспакойныя думкі.

* * *

Думкі не знаходзілі выйсця і тузалі, мучылі Марыю ўсё часцей. Нават калі яна садзілася за інструмент, яны не адступалі — не адразу адступалі, перашкаджаючы душы зліцца з музыкай. Яна зноў і зноў, пераадольваючы нейкія нябачныя запоны, вызваляючыся, пачынала спачатку, і нярэдка змушана была спыняць ігру, спыняцца на сярэдзіне музычнай фразы. Потым доўга сядзела нерухома, упусціўшы рукі на калені, і час перацякаў цераз яе ў акно, у вечар, у бязмежжа вечара зусім нячутна: душа быццам глухла — яна, Марыя, не чула ніводнага гуку, ні ў сабе, ні звонку.

Дзесьці загараліся люстры ў канцэртных залах, дзесьці

гучалі толькі што напісаныя вершы, і ў халодным бязмежжы космасу настройвалі на зямную музыку навушнікі касманаўты. Дзесьці далёка. Тут жа, у прасторнай, з густам мэбляванай кватэры, было ціха. Ціха і пуста. Як у зацягнутым павуцінай склепе...

Пра склеп Марыя згадвала ў сувязі з павуцінаю: непрыемнае адчуванне, што яна ўвесь час мусіць ацярэблівацца ад нябачных павуцінак, не пакідала яе. І ведала ж, разумела, што няма ім адкуль узяцца, гэтым павуцінкам, у добра дагледжанай кватэры, а адчуванне не знікала. Нават мацнела... Мо гэта была павуціна хлусні, у якую яна — у якую ўсе яны! — патрапілі?

Праўду не спасцігаюць па падручніках, у гэтым са Святланаю можна пагадзіцца. А як яе спасцігаюць? У лавіне газетнай інфармацыі пялёхкацца — дакука смяротная, у бацькоў нічога не дапытацца, настаўнікі адсылаюць да банальных у сваёй правільнасці ісцін, музыка... Музыка ратавала толькі тады, калі знаходзіла ў ёй водгук, і нічога, нічога не тлумачыла.

— Тэлевізар уключы, Марыя! Мама выступае... Я зараз...— гукнуў з парога бацька, і Марыя змусіла сябе падняцца, ступіць да тэлевізара.

Адразу за шчаўчком у пакой уварваўся матчын голас, і, адышоўшыся, яна ўслухоўвалася ў яго гучанне, не асэнсоўваючы, ды і не чуючы слоў. Словы не мелі значэння. Словы былі тыя ж, што ў падручніках, у газетах, тыя ж, што на вуснах ва ўсіх: пераломны момант... новыя задачы... Адказнасць кожнага... Словы не мелі значэння. Сёння Марыя не спыталася б, ці верыць маці ў тое, што гаворыць: тая верыла ў сваё права гаварыць і гэта прымала за галоўнае.

— Добра гаворыць. Разумна,— азірнуўся на яе бацька, зручна ўладкаваўшыся ў шырокім крэсле, і Марыя змусіла сябе падысці да яго, прысела на падлакотнік.— Ты паслухай, ты толькі паслухай, Марыя. Як па пісаным!

— Дык па пісаным жа,— адгукнулася яна ці падумала, што адгукнулася, бо бацька ніяк не адрэагаваў.

Словы... Яны не належалі маці, як не належалі нікому, яны былі самі па сабе, самі па сабе гучалі... Дакладней, не гучалі, не проста гучалі, хоць іх і можна было раскласці па гуках, а запаўнялі пакой, усё шчыльней кружыліся ў паветры, паглынаючы яго. Паглынаючы ў прамым сэнсе, бо вось жа ціснула ў грудзях, і Марыі здавалася, што, калі тут жа не заткнуць вушы, не глынуць цішыні, яна захлы-

нецца, аглухне. Яна ўжо аглухла, даўно не чуючы слоў — толькі шум іх, толькі чужы, халодны гул іх...

Каб стрымаць балючы стогн, які ўжо варочаўся ў ёй, падступаючы ўсё вышэй — да горла, Марыя шчытней прыхіналася да бацькавага пляча і да рэзі ў вачах узіралася ў твар маці, злёгку адчужаны там, на экране, і такі шчымліва-родны, такі блізкі, што, і заплюшчыўшыся, яна бачыла яго — яго прыхаванае напружанне, яго насцярогу. Чаго маці асцерагалася? Каго?

Словы... Марыя не чула слоў — чула дотыкі іх, ледзь чутныя, мяккія, непрыемныя, і раз-пораз паводзіла рукою перад тварам, каб адвесці іх, абцерціся і выбавіцца, нарэшце, ад адчування, што гэта не словы, а ліпкія павуцінкі кружыліся ў паветры, паглынаючы яго.

— Што-небудзь здарылася, Марыя!

Яна ўздрыгнула і адхінулася. І паднялася. І, убачыўшы, што запіс прамовы закончыўся і на экране мільгалі эцюды асенняга лесу, выключыла тэлевізар. Не павярнулася да бацькі, павяла плячыма на яго ўстрывожаны пагляд і ціха адгукнулася:

— Навошта людзі ўвесь час хлусяць адзін аднаму?

— Хлусяць? — падняўся ён і, не хаваючы трывогі, ступіў да дачкі, узяў яе за плечы, павярнуў да сябе.— Каго ты маеш на ўвазе? Мяне? Маму?

— І маму...

— Марыя! Што здарылася?

— Толькі не трэба мяне пераконваць, што я памыляюся,— вырвалася ў яго з рук, адышла тая ўбок.— Ты ведаеш, што гавораць пра маму?

— Не смей! — глуха, пацяжэлым, не сваім голасам выдыхнуў бацька.— Не смей паўтараць тое, што ты і слухаць не павінна.

— Павінна — не павінна... Я ўсе гэтыя гады баялася ступіць не так, зрабіць штосьці не так — толькі і чула: дачка такіх бацькоў не павінна... Але ж я не магу жыць, заплюшчыўшыся і заткнуўшы вушы, хацела б — і не магу.

— Я або мама чым-небудзь пакрыўдзілі цябе? — памкнуўся ён да яе і, разгублены, спыніўся на паўдарозе.— Мне здавалася...

— Вы хочаце як лепш, я разумею. Але ж ні ты, тата, ні мама не можаце пражыць за мяне маё жыццё, нават калі вы ўпэўнены, што расклалі, разважылі яго да канца дзён маіх.

— Не пазнаю цябе, Марыя!

— Я проста вырасла, тата,— церабіла Марыя штору, узіраючыся ў перапляценне цёмнага кляновага голля за акном.— Я вырасла, і мне страшна.

— Страшна? — бацька ўсё-ткі падышоў, не абняў, як звычайна, за плечы, тулячы яе да сябе, але падышоў і стаў побач: голас яго выраўняўся — абурэнне саступіла ранейшай трывозе, і ён міжволі пашкадаваў, што няма дома Паліны.— Перад табою адкрываюцца ўсе дарогі — і табе страшна?

Марыя павольна, цераз плячо, павярнула да яго збялелы твар, і позірк яе выплеснуўся насустрач яго трывозе.

— Ты не зразумееш гэтага, тата. Для цябе словы яшчэ штосьці азначалі...

Думкі, невыразныя і ад таго яшчэ балючэйшыя, не знаходзілі выйсця і тузалі, мучылі нават зараз, калі яна, смуткуючы і не хаваючы ні смутку, ні кранутай ім любові да бацькі, узіралася ў яго, разгубленага, зніякавелага, адчуваючы, якім бы дзіўным ні здавалася гэта адчуванне, што яна, шаснаццацігадовая, з іх дваіх — старэйшая...

* * *

— Словы азначаюць толькі тое, што азначаюць. І нават менш. Думаць трэба, абмінаючы іх.

— Абмінаючы?

— Для сябе. Для сябе, Полюшка,— рука Васіля Антонавіча апусцілася на яе плячо, мякка варухнулася там і, знерухомеўшы, стаіўшыся, застыла.— Усе прамовы разлічаны на залу, на масу — там і палкасць і палкая перакананасць дарэчы. Для справы ж — не вера ў тое, што кажаш, а вера ў сілу сваю патрэбна.

— Ну, якая ў мяне сіла? — какетліва павяла плячом Паліна Аркадзьеўна, тут жа адчуўшы, як апушчаная на плячо рука папаўзла ніжэй...

— Твая сіла — у маёй падтрымцы, мая — у падтрымцы Івана Сідаравіча. Мы — апарат. Арганізм, калі хочаш. Жывы, цэласны арганізм, які нельга раз'яць, раз'яднаць, не пашкодзіўшы ўсёй сістэмы. Ну, ды гэта не твой, не наш,— паправіўся, горнучы яе да сябе другой рукой, Васіль Антонавіч,— не наш клопат, Полюшка.

Ён ужо ўдыхаў пах яе валасоў, ужо мякка паварочваў яе абцяжараную высокай прычоскаю галаву насустрач свайму прагнаму і ўсё ж асцярожнаму руху, як азваўся

тэлефон,— і ўспырхнулі, мякка адпіхваючы Паліну Аркадзьеўну, рукі, і ўскінуўся, надаючы ўсёй яго постаці цвёрдасць, цвёрдую рашучасць, раптоўна пасуровелы твар, і згас, стаў халодным, насцярожаным позірк. І вось ужо Васіль Антонавіч ступіў да стала, вось ужо, перш чым зняць трубку, звязаўся з прыёмнай і рэзкім: «Я ж прасіў мяне ні з кім не злучаць!» адгарадзіўся ад тлумачэнняў, вось ужо гудзеў у трубку адразу адмяклым (так і хочацца сказаць: паружавелым) голасам:

— Зрабіў, як вы падказалі, Іван Сідаравіч. Безумоўна. Ісці ў нагу з часам наш абавязак... Шкада: там жа мясціны цудоўныя... Але ж гэта дзецям нашым аддаём дачу — за дзецьмі будучае... Удзячны вам, Іван Сідаравіч, вельмі ўдзячны. Са свайго боку... Канечне, канечне! Пераломны момант... Новыя задачы... Да, да, я разумею. Я цалкам на баку перамен. Пад вашым, пад вашым кіраўніцтвам, Іван Сідаравіч...

Паліна Аркадзьеўна знобка пацепвала плячыма, без патрэбы папраўляла, абцягвала, агладжвала па баках свой трыкатажны касцюм, шкадуючы, што не можа зазірнуць у люстэрка і прыдзірліва агледзець сябе. І чула і не чула яна, што адказваў высокаму начальству Васіль Антонавіч — услухоўвалася ў сябе, у глухую незадаволенасць, якая варочалася ў ёй і ад якой трэба было пазбаўляцца і пазбавіцца: шляху назад не было... Ды і не хацела яна назад! Куды — назад? У школу? Да штодзённай жуйкі дат, імёнаў, гістарычных падзей і іх кожны раз непераўзыдзеных значэнняў?

— У нас забіраюць Ласінае? — адгукнулася яна на позірк Васіля Антонавіча, зноў павернуты да яе.

— Палітыка на тое і палітыка, каб сказаць раней, чым падкажуць, аддаць раней, чым запатрабуюць. Часова аддаць ці назусім — гэта час пакажа. Сёння цішэй, мякчэй трэба, Паліна. Ва ўсім. Ты мяне разумееш?

— Да, да,— наструнілася Паліна Аркадзьеўна, згадаўшы сваю гутарку з Скрыдлатым: мо ён дапяў куды вышэй...

— Галоўнае: пазбегнуць канфліктаў. Час такі, што часам льга на сёе-тое заплюшчыць вочы. І — мякчэй, мякчэй з крыкунамі.

— Да, да.

— Самыя лепшыя змены, калі нічога ў выніку не мяняецца. З гэтага трэба сыходзіць. Мы яшчэ пагаворым,— злёгку абдымаючы яе за плечы, праводзіў Паліну Арка-

дзьеўну гаспадар да дзвярэй.— У санаторыі час будзе і на гаворкі і... З пуцёўкаю ўсё ў парадку?

— Да, да,— амаль механічна паўтарыла Паліна Аркадзьеўна, адчуваючы непрыемны цяжар яго спакойнай, пагаспадарску ўпэўненай зараз рукі.

* * *

— Я не ўпэўнены, што магу папракнуць цябе, Кірыл, за правал на ўступных экзаменах. Але ж і ў рэктараце і ў прыёмнай камісіі ўсё было агаворана — ад цябе патрабаваўся мінімум. Мі-ні-мум!

— Ты заўсёды пагаджаўся на мінімум, тата?

— Што? — не зразумеў Залужны.

— Ну, адкуль, адкуль узяўся гэты ваш мінімум? Мінімум ведаў, мінімум павагі да самога сябе, мінімум прэтэнзій да жыцця... Не чалавекі, а чалавечкі якіясь. А калі я не хачу? Разумееш? Не хачу жыць па мінімуму і рабіць выгляд гэткага шчаслівчыка з гарбом надзённых турбот за спіною?

— І на каго ж ты хочаш узваліць гэтыя турботы? — засяроджаны на сваім, няўцямна зіркнуў той на сына.— Хто тыя чалавечкі, якія павінны ўгінаць спіны і за цябе?

— Ты яшчэ пра класавы абавязак пралетарыята згадай! — зморшчыўся нібы ад горкай пілюлі Кірыл, і пагарда, якая на міг праступіла ў яго на твары, насцярожыла б Залужнага, калі б ён пазіраў зараз на Кірыла, але ён, уткнуўшыся ў паперы, вачэй не падняў, адно перасмыкнуў плячыма, а Кірыл тут жа адвярнуўся, адышоў.

Паўза зацягвалася, маўчанне разгароджвала іх і разгарадзіла: калі, згадаўшы пра гаворку з сынам, Залужны адарваўся ад работы і пашукаў яго вачыма, убачыў, што Кірыл валяўся на канапе, боўтаючы нагамі ў паветры, і пераглядаў магнітафонныя касеты.

— Мы не дагаварылі.

— Ты пра што? — ледзь прыкметна насцярожыўся Кірыл.

— Пра чалавека і чалавечкаў. Ці я што-небудзь не зразумеў? — змусіў сябе засяродзіцца на толькі што пачутым ад сына Залужны.

— Тата! — рыўком усеўся той на канапе, адкінуўшы касеты.— З чаго раптам цябе на душэўную гаворку пацягнула? Якая мне справа да ўсіх чалавекаў і чалавечкаў?

— А ты, ты кім сябе, сыходзячы са сваіх мерак, бачыш?

— Зусім неабавязкова вызначаць ва ўсім гэтым,— крэмзануў Кірыл па паветры, замыкаючы няўлоўную лінію ў круг,— сваё месца.

— Ясней, калі можна.

— Ты не зразумееш. Ты... вы ўсе! — усё жыццё ўзводзіце будынак шчаслівай будучыні. Замест таго каб жыць, аднойчы згадаўшы, што будынак — гэта толькі будынак, што яго, гэты будынак, можа падмыць плывун, зваліць віхура, што ён можа рассыпацца ад звычайнага, нават ад звычайнага, а не ядзернага выбуху і новыя пакаленні змушаны будуць зноў калупацца ў руінах. Як калупаецеся дагэтуль вы. Да, да!

— І ў якіх жа, па-твойму, руінах мы калупаемся? — з недаўменнем, калі не са страхам, узіраўся Залужны ў сына: яго і не яго сын гаварыў з ім — ніколі нічога падобнага не чуў ён ад Кірыла раней. «Хоць калі раней? — мільганула ў ім.— Вечна ж быў заняты, жыў толькі тэатрам...»

А Кірыл ужо ўскочыў з канапы і, наблізіўшыся, пагойдваўся з наска на пятку проста перад ім, за крок ад яго.

— Сорак год вы калупаецеся ў руінах сваёй памяці, не заўважаючы нас, не зважаючы на нас.

— Ды мы... Ды мы,— захлынуўся абурэннем Залужны,— і блізка таго, што вы, не елі і не насілі.

— Ну, вось,— крутануўся ад яго Кірыл, не хаваючы пагарды,— вось і прыйшлі да таго, да чаго ішлі: вы нас корміце і адзяваеце, і мы няўдзячныя дзеці сваіх бацькоў.

— Але ж дзеля вас мы...

— Не трэба! Не трэба, тата,— апчаперыў сябе рукамі Кірыл, стрымліваючыся і не ў сілах сябе стрымаць, бо калі ён павярнуўся, твар яго перакасіла ўсмешка, падобная хутчэй на грымасу.— Дзеля нас вы ўсе гэтыя гады лгалі сабе і нам? Дзеля нас развалілі эканоміку і стрыножылі мастацтва? Дзеля нас увязаліся ў грамадзянскую вайну ў Афганістане? Калі ўсё гэта — дзеля нас, дык мо і ў нас варта было б спытацца?

— Кірыл!

— Няўжо і табе — і табе, тата! — трэба даводзіць, што відочна ўжо нават дзецям?

— Дапускаліся памылкі, і вялікія. Але ж яны прызнаны і будуць выпраўляцца,— страчваў упэўненасць Залужны, не знаходзячы вартых моманту слоў (ды і не сло-

вы тут патрэбны былі — гэта ён разумеў!).— Памылкі ўжо выпраўляюцца.

— За кошт будучыні? — не хаваў з'едлівых нотак Кірыл.

— Я не разумею тваёй раптоўнай злосці. Ты лічыш сябе пакрыўджаным? Кім? Калі? Пры чым тут будучыня? Ты можаш выбраць любы...

— Будучыня, канешне, ні пры чым: будучыні папросту няма. І ты ведаеш гэта не горш за мяне,— перапыніў бацьку той і, зноў адварочваючыся, адыходзячы ад яго, да акна, пацягнуўся, абыякава пазяхнуў.— Веруючым нельга прытварыцца, па, і ты марна стараешся.

— І гэта ты, мой сын, мне кажаш? — падымаўся з-за стала Залужны, не зводзячы вачэй з сына, павернутага да яго спіною, і спрабуючы суняць лёгкае дрыжанне ў пальцах, якімі падсвядома чапляўся за паветра, за напружанае маўчанне: ён не ведаў, што зробіць у наступны момант, яму хацелася ступіць да сына, схапіць за плечы, страсянуць, атрэсці, збіць долу яго з'едлівую крывую ўсмешку — усмешка, нават у большай ступені, чым словы, адчужала, адпрэчвала яго, бацьку, адпрэчвала і адштурхвала. І ён не мог зрабіць тыя некалькі крокаў, што іх падзялялі. Зварухнуцца не мог. І тыя словы, якія нарэшце выціснуў з сябе, здаліся бездапаможнымі і непатрэбнымі:— Ты яшчэ толькі ўступаеш у жыццё. Ты яшчэ нічога не зрабіў...

Словы павіслі ў паветры, у маўчанні. Бязгучна пацепваў пальцамі перакрыжаваных рук сябе па баках Кірыл, бязгучна пакусваў губу разгублены, незадаволены сабою (гаворку з сынам не здалеў зрэжысіраваць) Залужны, бязгучна цяклі паміж імі, размываючы берагі мінулага і будучыні, абыякавыя да іх абодвух імгненні.

* * *

Імгненні... Няўлоўныя, бязважкія, яны наслойваюцца адно на адно, утвараючы непераадольную запруду часу, якая ўстае паміж толькі што бачным, адчувальным і цяпер аднесеным назад, за мяжу пагляду, і тым, што ўяўлялася далёкім, а то і недасяжным і ўжо наблізілася, наплыло і вось-вось захлісне ўсё вакол, каб тут жа адхлынуць, адкаціцца, зліцца з суцемкамі, а потым і са змрокам ужо пражытага, прамінулага — мінулага. Калі азірнуцца і ўгледзецца, калі да рэзі ў вачах углядвацца ў гэты змрок

за спіною, недзе адразу за спіною, вышукваючы паглядам згадкі-іскаркі, адчуеш, як пагляд упіраецца ў нябачную сцяну і, адштурхнуты ёю, гэтаю сцяною, адступае, сцінаецца, гасне — ён бездапаможны, бяссільны перад змрокам. Перад мінулым. Ён бездапаможны...

Толькі душа можа паспрачацца з часам. Паспрачацца і перамагчы. І тады няўмольнасць часу, руху яго, абарочваецца шляхам, які то абганяе жыццё і расквечвае нязнаны, невядомы свет будучыні самымі вычварнымі, самымі дзівоснымі мроямі, то імкне назад, наўстырч, у памяць, вяртаючы асветленыя новым, ярчэйшым, святлом самыя розныя малюнкі і адчуванні. Першае памкненне дадае сілы, другое — веры.

Імгненні... Ніхто не вымярае імі шлях, хоць менавіта з іх складаюцца дні, гады чалавечага жыцця, хоць менавіта яны вызначаюць усе павароты лёсу. Ды і сам лёс нярэдка!

* * *

Павароты лёсу... Ілюзіі! Ілюзіі, якімі здаўна цешыць сябе чалавек. Бо і ўявіць хоць адзін гэтакі паварот (следам за паваротам нябачнага руля?) немагчыма, не тое што адчуць. Вось і яе, Марыю, узяць. Што б яна магла ў сваім лёсе змяніць? Дачка сваіх бацькоў, змалку аддадзеная ў музычную школу, заканчвае школу, каб паступіць у кансерваторыю і потым... Усё, што «потым», размытае адлегласцю, бачылася невыразна, хоць і яго льга было пры жаданні неяк раскласці па гадах, не са свайго, дык з чужога вопыту сыходзячы,— і гэта не вельмі каб і цешыла. Не, Марыю па-ранейшаму вабілі, неадольна цягнулі да сябе новыя, невядомыя дні, гады, але жыццё, якое дасюль уяўлялася калі і не заўсёды гарманічным, то заўсёды асветленым, асвечаным музыкай, раптам пашырэла, разраслося і стала, часам зусім не зважаючы на музыку, паглынаць, ніпічыць былыя ўяўленні: любоў да маці, ўсёабдымную, усёпаглынальную яшчэ зусім нядаўна, пачалі падточваць сумненні, веды, набытыя ў школе, пад націскам апаламляльна новых звестак у друку абарочваюцца цяжарам хлусні, шматгадовай хлусні псеўдавучоных усіх рангаў, упэўненасць у правільнасці шляху, палітага крывёю мільёнаў і мільёнаў людзей, ліняе так імкліва, што хутка пагражае ператварыцца ў сваю супрацьлегласць...

— Ты што, не чуеш? — пачула яна Святланін прыглушаны шэпт і, падняўшыся з крэсла, спакойна зірнула на Соф'ю Дзмітрыеўну.

— Што-небудзь здарылася, Марыя? — блізарука жмурыла вочы тая.— Я пыталася: хто з пісьменнікаў, рэкамендаваных для пазакласнага чытання, найбольш ярка ўвасобіў сённяшнюю сацыялістычную рэчаіснасць у сваіх творах...

— Салтыкоў-Шчадрын.

Хтосьці ззаду не ўтаіў смяшка, хтосьці з яўным захапленнем працяжна, з прысвістам выгукнуў: «Во дае-е!», здзіўленая, заёрзала на крэсле побач Святлана.

— Ты не зразумела пытання, Верашчака,— сумна, стомлена пахітала галавою Соф'я Дзмітрыеўна.— Я ж сказала: сацыялістычную...

— Хіба што-небудзь змянілася ў прыродзе чалавека за гэтыя гады? — перапыніла настаўніцу Марыя, чырванеючы і ўпарта не апускаючы вачэй.— Я перачытала. Салтыкоў-Шчадрын пісаў і пра нас. Пра нас.

У класным пакоі стала аглушальна ціха: Марыя не чула нават свайго дыхання. Бязгучна рухаліся ўслед за яе паглядам плакатныя партрэты класікаў, прышпіленыя да драўлянай планкі на сцяне. Бязгучна калыхаліся вакол насцярожаныя позіркі аднакласнікаў. Бязгучна ўзляталі і апускаліся і зноў гнеўна ўзляталі («Лепшая вучаніца!») злёгку падведзеныя тушшу вейкі настаўніцы...

Здранцвенне парушыў званок — заляскалі, зарыпелі крэслы, зашчоўкалі замкі «дыпламатаў», азваліся, сталі перакідвацца словамі, рэплікамі самыя нецярплівыя: урок быў апошні.

— Заданне: падрыхтавацца да сачынення. Тэма: «Мой сучаснік». Прашу запісаць,— спакойна, без ценю хвіліннай разгубленасці, завалодала іх увагаю Соф'я Дзмітрыеўна.— Гаворку пра Салтыкова-Шчадрына, прапанаваную Марыяй Верашчака, прадоўжым на адных з наступных заняткаў.

— Злякалася. Пабяжыць перачытваць Салтыкова,— падпіхвала Святлана Марыю да дзвярэй, загароджваючы яе ад магчымых пытанняў і зваротаў.— А ты сур'ёзна...

— Сур'ёзна,— не дала ёй дагаварыць тая і, колькі ні церабіла яе потым Святлана, больш не адазвалася, ішла моўчкі, зрэдку перакідваючы сумку з аднаго пляча на другое.

— І вучаць, і вучаць! а самі...— размахвала партфелем

і разважала сама з сабою, раз-пораз азіраючыся цераз плячо на задумліва-маўклівую Марыю, Святлана.— Ярасна будавалі, выбудоўвалі для нас лепшую будучыню, а аказваецца: не тое і не так будавалі. Кінуліся ламаць, трушчыць толькі што збудаванае, а яно не паддаецца — карані пусціла ўжо... Цьфу! А яшчэ хочуць, каб мы імі, іх намаганнямі захапляліся і ў ладкі пляскалі! Мой сучаснік — ах, ах! Ды гледзячы каго і як паказаць. Такое можна нарасказваць пра сучасніка, што яны — сляпыя!— за галаву схапіліся б, залямантавалі: няпраўда! нагавор! А які ж нагавор, калі і ў прыродзе няма той ружовай фарбы, якой людзям столькі год вочы замазваюць?

— Хто?

— Што — хто? — не зразумела Святлана, спатыкнуўшыся аб нечаканае (думала ж, што не слухала яе Марыя) пытанне.

— Хто замазвае?

— А-а-а... Усе. Усе, хто наверсе.

— А мы, па-твойму, унізе? — не зірнула на яе Марыя, абмінаючы.

— Мы? Ды ну цябе! — адмахнулася тая, кіруючыся следам.— Што да мяне, то я проста жыву — хачу жыць так, як хачу. І ўсё тут.

— А як ты хочаш?

— Свабодна,— няўпэўнена азвалася праз колькі крокаў Святлана.— Радасна... Лёгка!

— Лёгка? — перапытала Марыя, і слабая ўсмешка кранула яе вусны.— А тое, што лёгкае — амаль заўсёды парожняе, не пужае?

— Я не з пужлівых! — засмяялася тая.

— А мне страшна. Зрэдчас! — быццам адштурхнулася ад недаўменнага позірку сяброўкі, заспяшалася Марыя прэч і гэты раз не пачула ззаду крокаў...

* * *

Крок за крокам, год за годам аддалялі яе ад той мяжы, за якой засталіся і сумненні і спадзяванні. І спадзяванні! — як бы Паліна Аркадзьеўна ні запэўнівала сябе ці каго б там ні было, давялося б прызнаць, што і спадзяванні... Ну, але гэта толькі ў тым выпадку, калі б ёй уздумалася каго б там ні было ў чым бы там ні было запэўніваць. Хоць бы і сябе. Патрэбы папросту не ўзнікала, і даўно, і не

варта б пра тую, далёкую, мяжу нават згадваць, ды згадкі, як і сненні, не надта каб каго калі слухаліся: уласцівасць у іх гэтакая — усплываць, выплываць з памяці тады, калі пра іх і думаць забылася.

І думаць забылася... Ужо ж, што шкадаваць пра забытае! Яна і не шкадавала. Юнацтва, каханне, мары, за якімі паўставала ва ўсёй сваёй велічы будучыня,— хто страціў меней? Ды і ці страта гэта, калі чалавек не вольны распараджацца ні сваім часам, ні сваім лёсам?

— Па маладосці ўсім шчасце вочы засланяе — адно жаданне ў сэрцы: кахаць. А і кахаць трэба таго, з кім... Урэшце, я не пра гэта,— ледзь чутна забарабаніў пальцамі па кніжцы, якую трымаў у руцэ, Сямён Верашчака, і яна, сочачы за яго рухамі, міжволі прачытала на цёмнашэрай вокладцы томіка: «Песнь любви», а прачытаўшы, здзівілася: ён — і вершы? Ён, адзін з самых заўзятых камсамольскіх сакратароў,— і каханне?

Відаць, здзіўленне адбілася ў яе на твары, бо сакратар, не разумеючы прычыны яго, злёгку спахмурнеў і працягваў больш рэзка і рашуча:

— Камсамольская арганізацыя універсітэта на добрым рахунку, у цябе, Крайнова, ёсць усе шанцы трапіць у наш апарат. Наколькі гэта ўдалае размеркаванне, спадзяюся, ты разумееш. Але да нас дайшлі звесткі...

— Звесткі? А мо плёткі? — натапырылася Паліна, не здагадваючыся, аб чым пойдзе гаворка, і ўсё ж прадчуваючы штосьці нядобрае.

— Да нас дайшлі звесткі,— спакойна пачаў той фразу спачатку,— што студэнтка-выдатніца, камсамольская актывістка Паліна Крайнова, гэта значыць — ты, хоча звязаць свой лёс з нейкім Сяргеем Сухневічам.

— Не бачу драмы,— успыхнула, залілася чырванню Паліна, узіраючыся ў хлопца амаль з нянавісцю: тры гады ходзіць вакол ды навакол, прыглядваецца, прынюхваецца і вось вырашыў пайсці ў наступ: «да нас дайшлі звесткі...»

— Я — не пра драму, а пра жыццё, што ў кожнага з нас наперадзе.

— І чым жа перад тым жыццём, што наперадзе, правінаваціўся Сухневіч?

— Я — не пра Сухневіча, а пра цябе, Крайнова. Пра тое, што ты робіш памылку. Што ты можаш зрабіць памылку,— паправіўся ён і, заўважыўшы, што нервова пакручвае ў руках кнігу, паклаў яе на стол.

Паліна ўсміхнулася. Даволі з'едліва. Надта ўжо неда-

рэчным здаваўся тут, у гэтым кабінеце, на паліраванай паверхні стала, што іх падзяляў, гэты томік.

— Мая памылка — Сухневіч? Гэтак мне вас разумець, таварыш сакратар? — чырвань адхлынула ў яе ад твару разам з усмешкаю.

— Сухневіч — сын рэпрэсіраванага навукоўца, і гэта...

— І гэта нічога не азначае! — ускочыла з крэсла Паліна.— На дваццатым з'ездзе партыі культ развянчаны, і памылкі, дапушчаныя ў гады культу, выпраўляюцца. І сёння несумленна...

— Цішэй, цішэй, Крайнова! — абышоў стол, падняўшыся следам за ёю, Сямён і адным рыўком адсунуў два крэслы...— Сядзь і выслухай усё, што я скажу.

— Дзякуй, насядзелася! — адвярнулася ад яго жэста, ад яго слоў Паліна.

— Што ж, пастаім. Гаворка нядоўгая,— паспрабаваў ён змякчыць тон.— Я нікога — падкрэсліваю: нікога! — ні ў чым не абвінавачваю. І ў галаву не прыйшло б... Наадварот. Толькі ты павінна зразумець, што для таго, хто выбірае дарогу наверх, патрэбна чыстая анкета. Ч ы с т а я!

— А сумленне? — ціха мовіла Паліна, пакусваючы губу.— Сумленне чыстае не абавязкова?

— Я кажу пра анкету!

Сямён рэзка ўзмахнуў рукою, абсякаючы фразу, і скіраваўся да свайго крэсла — не да крэсла, бо садзіцца не стаў, а да таго краю стала з напалову выцягнутаю верхняю шуфлядаю, дзе былі складзены папкі і розныя паперы. Адсунуў стос папер, дастаў з шуфляды адзін-адзіны лісток і з ім у руцэ вярнуўся да Паліны, якая ў нерашучасці («Развітацца і пайсці? Абурыцца, сказаць, што не хачу ніякіх прывілей пры размеркаванні? Што паеду ў самую глухую вёску?») пераступала з нагі на нагу, разглядваючы свае добра дагледжаныя пазногці.

— Каб не ўзнікла думка, што я гуляю ў словы, а абяцанкі — цацанкі, вось, чытай,— падаў ёй лісток, і Паліна, ледзь зірнуўшы на яго, падняла вочы на Сямёна.— Усё залежыць ад цябе. Цяпер ты разумееш, чаму я завёў гэту гаворку? Павер, для мяне яна яшчэ больш непрыемная, чым для цябе, і я мусіў... Дарога наверх адкрываецца далёка не перад кожным, і калі адкрываецца...

— А калі я — не хачу? — так і не прачытаўшы, аддала яна яму лісток афіцыйнага бланка назад.

— Не хочаш застацца ў Мінску і на працягу года атрымаць кватэру? Не хочаш папрацаваць у апараце ЦК кам-

самола, маючы добрую, хуткую перспектыву росту? Не хочаш мецъ да сваіх паслуг увесь культурны патэнцыял сталіцы і ўсе гады надалей быць сярод першых, сярод абраннікаў лёсу? — недавер чуўся ў голасе сакратара, і ўсмешка, спярша недаверлівая, а пасля адкрыта глумлівая, застыла ў яго на твары.— Ты падумай. До-обранька падумай!

* * *

— Нешта ты доўга ехаў, браце,— адступіў да дзвярэй, падаючы Івану руку, Залужны.— Гарбата астыла, другі раз чайнік на агонь стаўлю, цябе чакаю.

— Саўчука сустрэў. Памятаеш, міністэрства табе яго п'есу для пастаноўкі навязвала? Гады чатыры таму,— вешаў куртку, пераабуваўся ў хатнія пантофлі той, тлумачачы.— Ён, аказваецца, у паэта-песенніка перакваліфікаваўся, тэксты для кампазітараў на любы густ строчыць.

— Гэткія ж бяздарныя, як і п'есы? — пакпіў гаспадар, згадваючы фанабэрлівага, раздзьмутага ад уласнай фанабэрыі колішняга знаёмца з нізенькім, зарослым рэдкім мохам валасоў ілбом і блізка пасаджанымі калючымі вачамі, у якіх заўсёды стаяла нерухомая, халодная шэрань.

— Хваліўся, што зарабляе не горш за драматургаў, што, калі б яму ўдалося напісаць папулярны шлягер, які будзе выконвацца ва ўсіх рэстаранах... Ну, ды што пра яго! Не з гэтым да цябе ехаў,— Скрыдлаты прысеў на кухонную табурэтку, засяроджана сачыў за немітуслівымі рухамі сябрука, які шчыраваў, рыхтуючы ўсё для няхітрага пачастунку.— Галя твая калі вяртаецца?

— Пуцёўка — па дваццаць восьмае.

— Абрыдла халасцякаваць, няйначай? А?

— Тут іншае, браце. Кірыл...

Залужны спахмурнеў. На адно якое імгненне, але Іван заўважыў і спытаў, міжволі ўстрывожыўшыся:

— Што — Кірыл? Што-небудзь здарылася?

— Не, не! — як спалохаўся той і не змог стрымаць гэтага няўцямнага страху: рука, якой ён падаваў сябру кубак з густа заваранай гарбатаю, прыкметна ўзрыгнула.— Давай лепш па справе, а, браце? Што там, у Маскве? Што сказалі?

— П'еса прынята да пастаноўкі ў Маскоўскім абласным. А сказалі...— адпіў ён гарбаты, глыток і другі,— сказалі, што трэба дапісаць адзін эпізод — адзін маналог

Марыі, роздум яе над тым, чаму яна зрабіла той крок, які прывёў да паражэння, чаму вернасць не можа перамагчы шкадаванне.

— І ты дапісаў?

— Дапісаць дапісаў, а ўсё не ўпэўнены, ці тое, што трэба. Маналог — штука капрызная, ты ж ведаеш, Кастусь. І не дацiснуць нельга, і перацiснуць непажадана. Вось і забег параіцца.

— Дык чытай. Чаго ката за хвост цягнуць? — адсунуў некранутую гарбату Залужны, вызваляючы месца для рук, неспакойных і быццам пацяжэлых.— Дзе, калі ён прагучыць?

— У першым акце. Памятаеш, там, дзе Аблудны разважае сам з сабою: «...а таго ніхто не помніць, што жывыя мёртвымі стануць, а з мерцвякоў адзін спрос»? Памятаеш?

Ён пытаўся з прыхожай і, вярнуўшыся з запісною кніжкаю, не сеў да стала, а адышоўся бліжэй да акна, да святла, і ліхаманкава гартаў кніжку, мармытаў штосьці сабе пад нос, не заўважаючы ні ўсмешкі Залужнага, ні насцярогі, схаванай за гэтаю ўсмешкаю.

— Вось,— утаропіўся ён у запісанае, павярнуўшыся да святла.— «М а р ы я *(з цяжкасцю несучы свой вялікі жывот і ледзь не па зямлі валочачы авоську з капустай, спыняецца ля краю сцэны, апускае авоську на зямлю і прыхінаецца спіною да сцяны. Нейкі час маўчыць. Чуваць толькі хрумсценне капуснага ліста, і гэта хрумсценне прыгнечвае яе, мучыць. Спярша яна падымае рукі, заціскаючы вушы, потым — у знямозе — раскідвае іх, нібы абапіраючыся аб сцяну)*. Што ж гэта? Што ж гэта такое? Разуменне, пяшчота, вера — куды ўсё дзяецца? У каго спытацца, як няма нікога мудрэйшага за чалавека, а чалавек слабы? Да каго ісці з сумненнямі, як няма нікога, хто б не сумняваўся? Дзіця нашу пад сэрцам, а і ў яго шчасце, як і ў сваё, не веру... Грэх так казаць і так думаць, а кажу, думаю, бо не ведаю, куды з гэтымі думкамі... Мо і ніхто не ведае! Зямлю, як качан капусты, нагамі піхаем, аб сэрцы цыгарэты прыкурваем, дзяцей, яшчэ не нарадзіўшы іх, выракаемся,— што ж гэта? Што ж гэта такое? Хацелі ж, хочам шчасця — і для сябе і для дзяцей сваіх! Адкуль жа бязвер'е, адкуль упэўненасць, што няма яго, шчасця? А і ёсць — мы не варты яго... *(Голас цішэе, рукі трапечуцца і ўрэшце падаюць, плечы ўгінаюцца, нібы пад ношкаю,— павольна, разгублена паварочваецца* М а р ы я, *адварочваецца ад залы)»*. Можа быць? Га, Кастусь?

— Можа, чаму не? — задумліва пагладжваў падбародак Залужны.— Толькі што гэта дадае да ўжо сказанага? Што чалавек — не варты свайго шчасця?

— Мяркуеш: сказана слаба?

У пытанні яўна чуўся недавер, і, каб змагчы яго, схаваць, Іван знарок шумна, нагамі, падсунуў табурэтку і асядлаў яе, утаропіўшыся ў сябра, які не падымаў вачэй і па-ранейшаму задумліва церабіў пальцамі падбародак.

— Цярпенне і каханне — трошачкі розныя паняцці, згодны? Блізкія, але розныя. І не павінны падмяняцца адно адным. Не павінны, разумееш, браце?

— Калі па шчырасці...— не дагаварыў Скрыдлаты, уражаны тым балючым, пакутным, што з'явілася ў твары, у позірку сябра, а той як не заўважаў і слоў яго і ўзрушэння яго.

— Вось ты сказаў: крок, які прывёў да паражэння... Да паражэння ў чым? У каханні? Але ж той, хто любіць, не ведае паражэння — не ведае і не можа ведаць, бо любіць — гэта аддаваць. Аддаваць, не ўсведамляючы і не хочучы ўсвядоміць кошт свайго дару. Аддаваць з радасцю. Так, так, з радасцю! — узрушэнне яго расло, і Скрыдлаты дзівіўся ўсё больш: гэткага Кастуся ён не ведаў.— І колькі б мы ні абсмоктвалі лядзяшку смутку, колькі б ні даводзілі свету пра горыч нясправаджаных надзей, ні смутак, ні гэтыя надзеі не маюць нічога агульнага з любоўю. Самалюбства, яго прэтэнзіі, яго дамаганні і крыўды — вось што буяе, разрастаецца ў нашых душах, заглушаючы кволыя парасткі дабраты, пяшчоты, вернасці. І паражэнне чалавека — баюся, што кожнага з нас, браце,— няўменне, няздольнасць любіць, палюбіць. Вось я пра што. Прабач, што блытана.

— Не, не, я разумею,— адгукнуўся Скрыдлаты.— Толькі... Табе не здаецца, што ты залішне катэгарычны: любіць — гэта аддаваць. А як няма каму аддаваць? Як няма таго, хто прыняў бы твой дар? А?

— Ты задужа матэрыялізуеш мае словы,— Залужны адсунуўся разам з табурэткай ад стала, прываліўшыся да сцяны спіною, пазіраў на Івана стомлена, і столькі смутку было ў яго вачах, што Іван адчуў ніякаватасць, міжволі падаўся да Кастуся, да слоў яго: — Канешне, можна не прыняць і дабрату, і пяшчоту, але адно ў тым выпадку, калі яны выстаўляюцца напаказ, калі яны заведама разлічаны на ўдзячнасць, на публічнае прызнанне. Я — крыху пра іншае. Я — пра іншае, браце.

— У цябе што — памяняліся адносіны да п'есы?

— Да п'есы? Пры чым тут...— спахапіўся, змоўк Залужны, не скончыўшы сказа, і потым нейкі час маўчаў, моўчкі пазіраў на суразмоўніка, быццам аднаўляў у думках пачатак гаворкі. Калі ж зноў загаварыў, тон яго быў звыкла зацікаўлены.— Чытка п'есы ў тэатры — на наступным тыдні. Запрасім работнікаў міністэрства, журналістаў, тэатральных крытыкаў. І вестка пра пастаноўку ў Маскве будзе дарэчы. А тыя думкі, што выказаў... Яны п'есаю выкліканы! Так, так, браце,— думаў, разважаў, праводзіў паралелі: добра зачапіла, як бачыш!

Кастусь усміхаўся, і хоць усмешка была даволі сумная, у Скрыдлатага трохі адлягло ад сэрца: хвіліна гэткая ў сябра...

— Калі мяне, рэжысёра, зачапіла, то і ў публікі знойдзе водгук, а? Як думаеш?

— Лічыш: маналог трэба перапісаць? — не прыняў пытанне Скрыдлаты.

— Пакруці яго трохі, Іване. Жанчына — і бязвер'е, жанчына, якая не верыць у магчымасць шчасця як для сябе, так і для свайго дзіцяці? Пагадзіся, гэта не адпавядае задуме. На маю думку, не адпавядае. І паралель з класічным вобразам Марыі губляецца, а паралель гэта многага каштуе. Яе і падсвяціць не грэх было б.

— Падсвяціць?

— Хоць бы і праз маналог... Я нічога не навязваю, браце, ты ж разумееш! І потым... Гэта ж тваё: калі не Марыя, калі не жанчына ўратуе свет ад абесчалавечвання — больш няма каму. Вось яно! Вось яно, тое галоўнае, дзеля чаго варта коп'і ламаць. І табе, і мне, рэжысёру. І не паслабляць, не прыглушаць яго трэба, а ўзмацніць, як льга. Узмацніць...

Залужны, быццам згадаў штосьці непрыемнае, спахмурнеў: вусны балюча перасмыкнуліся, вочы згаслі, і калі ён зноў зірнуў на сябра, таму здалося, што якаясь няўцямная Кастусёва трывога перадаецца і яму.

— Ты нечым устрывожаны, Кастусь? Што здарылася?

— Кірыл мой...— пачаў і адмахнуўся ад спробы выказаць сваю трывогу той.— Пойдзем, зірнеш!

Ён падняўся і выйшаў з кухні, жэстам запрасіўшы Івана, спярша — у другі, па ўсім відаць, сынаў пакой, потым — да стала, на якім ляжаў ладны стос фотаздымкаў.

— Зірні! — рассыпаў ён гэты стос па стале рэзкім узмахам рукі, і перад Скрыдлатым апынулася цэлая пана-

рама парнаграфічных здымкаў самага featureзнага кшталту — і аддрукаваныя прафесіяналам высокага класа ў добра абсталяванай найсучаснай тэхнікай майстэрні, і больш або менш удалыя копіі такой ці падобнай прадукцыі, і цьмяныя, яўна аматарскія здымкі, зробленыя, па ўсім відаць, з натуры. Відовішча даволі сумнае пры ўсёй сваёй непрывабнасці.

Злавіўшы сябе на думцы аб непрывабнасці непрыстойнай, бессаромнай галізны, выстаўленай напаказ і размножанай, Іван прыгледзеўся больш пільна: была ж, пэўна, і атрутная для маладых душаў прывабнасць ва ўсім гэтым...

— Кірылу ж толькі семнаццаць,— не хаваючы трывогі, адвярнуўся ад стала, ад раскіданых на ім фотаздымкаў Залужны.— На што азірнецца, надламаўшы крылы, яго-ная душа? На гэта?

— Ты гаварыў з ім? — паклаў яму на плячо руку Скрыдлаты.— Пытаўся, дзе ўзяў?

— Толькі ж сёння — выпадкова — наткнуўся на... Слухай, браце,— рухам, позіркам, голасам падаўся ён да Скрыдлатага,— няўжо ўжо яны, сыны нашы, задавольвяцца сурагатам з крыклівай музыкі, кактэйля і адкрыта бессаромнага сексу? А? Няўжо ўсё дарэмна?

— Што — усё? Што ўсё, Кастусь?

— Усё! — кнігі, музыка, тэатры, пакуты стольkіх мастакоў. Чаго варта ўся наша праца, калі не тое што людства ўратаваць ад духоўнай карозіі, уласнага сына не здольны выхаваць чалавекам?

— Ну, ну,— ціха паляпваў Скрыдлаты сябра па плячы.— Ты перабольшваеш і занадта згушчаеш фарбы. У каго ў юнацтве не ўзнікае цікавасць, часта нездаровая цікавасць, да інтымнага, здаўна пакрытага таямніцаю жыцця чалавечага цела? Нельга ж рабіць высновы адно з таго, што наткнуўся на парнаграфічныя карткі...

— Там ёсць фотаздымкі з натуры,— глуха адгукнуўся Залужны і згас, адвярнуўся, а потым і адышоў убок.

— Пагавары з Кірылам.

— Баюся, браце, што позна.

(ВЫПІСКА СА ШКОЛЬНАЙ ХАРАКТАРЫСТЫКІ:

«На працягу вучобы ў школе Залужны Кір Канстанцінавіч паказаў сябе здольным да матэматычных дысцыплін, прымаў удзел і займаў прызавыя месцы на гарадскіх алімпіядах. Самалюбівы. У любой справе, якой меў жаданне займацца, звычайна станавіўся лідэрам. Аспрэчваў усё,

што нельга было даказаць з матэматычнай дакладнасцю, адмовіўся стаць камсоргам, матывуючы сваё адмаўленне недастатковай палітычнай сталасцю.

За апошні год, будучы выпускніком, меў некалькі заўваг у сувязі з дзёрзкімі паводзінамі і непажаданымі крытычнымі выказваннямі на занятках па грамадазнаўстве.

З боку сям'і кантроль за ім ажыццяўляўся, але слаба і непастаянна. Як вынік — даволі нізкі пры яго здольнасцях сярэдні бал па атэстаце і нежаданне ўладкоўвацца на працу пасля таго, як не вытрымаў конкурсу у політэхнічны інстытут.

У размове — стрыманы. Рэдка даваў волю пачуццям. Ва ўжыванні наркотыкаў і алкаголю заўважаны ў школе не быў...»)

* * *

— Лепей, як той казаў, позна, чым ніколі. Адумалася — і добра. Я не сумняваўся наконт цябе, Крайнова. Як бачыш, не памыліўся, зрабіўшы выбар: у цябе ёсць здольнасць адмовіцца, як трэба, ад таго, што перашкаджае... ці можа перашкодзіць.

Сямён гаварыў спакойна, амаль абыякава, і пазіраў некуды паўз яе (Паліна міжволі нават азірнулася на дзверы: мо хто зайшоў следам за ёю і слухаў, падслухваў іх размову?) — і позірк быў згаслым, цьмяным і халодным.

«Падумаеш! — перасмыкнула яна плячыма.— Нябось падкрэсліць хоча, што ласку вялікую мне робіць, а тое, што я... а тое, што я...» Думка забуксавала і абарвалася, і Паліне стала не па сабе: і згадаць пра Сяргея, пра словы, якімі вытлумачыць яму сваю здраду («Бо што ж гэта, як не здрада?»), боязна, а тлумачыць жа, чаму адмовілася — гэтым сваім прыходам да Верашчакі адмовілася ехаць з ім, як дамаўляліся, як марылі, на Гомельшчыну, адкуль і ён і яна былі родам, давядзецца. Сёння ж давядзецца. Бо камісія па размеркаванні выпускнікоў гістфака універсітэта — заўтра...

— Заўтра!

— Што — заўтра? — не адразу зразумеў Сямён, перапынены (штосьці яшчэ ён гаварыў!) яе нечаканым воклічам, а калі зразумеў, даўмеўся, то не здолеў незаўважна глынуць задаволеную ўсмешку.— Калі ты наконт камісіі...

— Прабач...це,— злёгку запнулася Паліна, чырванеючы, і тут жа ўзяла сябе ў рукі, заўсміхалася таму ў твар

так шырока, як толькі магла: кемлівы хлопец, асцярожней з ім трэба.— Заўтра, калі твая ўлада закранае і тэатральныя касы, мы маглі б — пасля ўсяго паслухаць у філармоніі Шапэна.

— Ты сказала: мы?

— Я не адношуся да людзей няўдзячных.

— Што ж, прыемна чуць,— зноў пазіраў некуды паўз яе Сямён, і гэты раз чуццё не змусіла Паліну азірнуцца на дзверы.— Лічы, што я запрасіў цябе ў канцэрт. Білеты і кветкі — мая, безумоўна, турбота. Як? Згода?

Паліна ўсміхалася.

— Тым больш што гэта — нагода зрабіць табе яшчэ адну прапанову.

— Прапанаваць мне руку і сэрца? — пажартавала, разглядваючы залішне сур'ёзнага зараз Сямёна, Паліна, і адчула, як балюча сцялася ў грудзях сэрца: што яна гаворыць? што гаворыць? Але быццам якаясь шалёная сіла падхапіла ўжо яе і несла, несла, падхлістваючы словы:— Не баішся, што пагаджуся? Што выслухаю — і пагаджуся, і прыспешваць пачну: хутчэй, хутчэй, сакратар, пакуль не перадумаў, пакуль я не перадумаю, а? Не баішся? Раптам я толькі і раблю, што чакаю падобную прапанову?

— Аб гэтым — заўтра,— насупіўся Сямён, не адводзячы вачэй ад чагосьці — ці кагосьці — у яе за спіною.

— А навошта адкладваць? — смяялася, нервова патузваючыся ў крэсле, Паліна.— Ты ж і месца для мяне прыбярог не так сабе, не без дай прычыны, а? Дзяцелка Соня — гэтаксама выдатніца, але ж ты не яе, а мяне нагледзеў, мяне ўпадабаў. Мяне, сакратар? А я і прыбегла. Я — тут як тут. Адну прапанову прыняла, другую чакаю. Мо паспяшалася? Мо апярэдзіла падзеі?

— Ёрнічаеш, Крайнова? — сумеўся той.— Ну, ну!

— Чаму ж ёрнічае? Усё так і ёсць, як кажа. І я, калі ўзнікне патрэба, засведчыць магу сказанае.

— Ты?! — падавілася Паліна воклічам, і закашлялася, і, нягледзячы на відочныя намаганні, не здолела ні падняцца, ні хоць бы павярнуцца на голас: адкуль тут — т у т! — Сяргей?

Пытанне, нібыта вымаўленае ўголас, павісла ў паветры, пагойдвалася над ёю, пахістваючы, расхістваючы цішыню: ё н у с ё ч у ў! — Сяргей усё чуў і прыняў усур'ёз, і яна не зможа, цяпер ужо ніколі не зможа апраўдацца.

— Я разумею, што з'явіўся без запрашэння і ў нейкай ступені перашкодзіў...— наблізіўся да стала і цяпер стаяў

за спіною ў Паліны, за які крок ад яе, Сяргей.— Але ў вас, як цяпер стала ясна, усё наперадзе, і я...

— У нас ва ўсіх усё наперадзе, Сухневіч,— падняўся з-за стала Сямён, і Паліне здалося, што яна пачула, як схліснуліся ў яе над галавою непахісныя хлапечыя позіркі.— У кожнага — адпаведна яго здольнасцям.

— О, да! Умець прыстасавацца — вялікая здольнасць.

— І хто ж сярод нас — прыстасаванец? — холадна, суха пацікавіўся той, свідруючы Сяргея позіркам і як забыўшыся на прысутнасць Паліны.

— А гэта ўжо гледзячы з якога краю стала пазіраць: з таго, які бліжэй да дзвярэй, ці з таго, які адгароджвае ад наведвальнікаў сцяну і адпаведны часу партрэт на сцяне, пад якім любое з пазычаных з падручнікаў або з чарговай інструкцыі слоў гучыць больш важка і ўнушальна.

Сяргей стаяў цяпер побач са спінкаю крэсла, у якім сядзела Паліна, і словы яго, ваяўніча рэзкія і непрымірымыя, нібыта ціснулі ёй на плечы: хацелася развінуць плечы, атрэсціся, вырвацца з-пад іх гнёту, з палону гэтай бясконцай хвіліны, якая доўжылася і доўжылася, але здранцвенне не адпускала Паліну — ні гуку, ні ўздыху не магла яна выкаўтнуць з перасохлага, сутаргава зведзенага раптам горла; рукі яе прыстылі да стала, позірк — да рук, нерухомых, бяссілых...

— Не забывайце, дзе знаходзіцеся, Сухневіч.

— Дзе? Гэта вам, таварыш сакратар, уяўляецца, што вы — над: над намі, над зямлёю, а я — на зямлі. На сваёй зямлі. І цяпер не тыя часы...

— Вы марна бравіруеце гэтым,— зморшчыўся Сямён.

— І цяпер, дзякуй богу, не тыя часы, каб баязліва азірацца на свае словы.

— Думаць над тым, што кажаш, і сёння не зашкодзіць, Сухневіч. І калі вы прыйшлі адно каб сказаць тое, што сказалі...

— Я прыйшоў,— крануўся той пляча Паліны і тут жа адняў руку, быццам апёкся,— сказаць, што з зямлі чалавека не згоніш, нават у магілу яго загнаўшы, а вось душу чалавечую выпацкаць, выкачаць у гразі і пер'і з вашых штучных крылаў, відаць, можна. Відаць, усё яшчэ можна.

Ён павярнуўся і пайшоў. Паліна не чула ні яго руху, ні яго крокаў, ні таго, як рэзка, аглушальна-гучна бразнулі, закрываючыся за ім, дзверы, і ведала, усвядоміла ў тое ж імгненне: Сяргея ў кабінеце няма — пайшоў.

«Пайшоў?! Пайшоў назаўсёды?» — паласнуў па сэрцы боль, і, вырываючыся з болю, Паліна паднялася, паднялася цераз сілу, усё яшчэ аглушаная нечаканасцю таго, што адбылося, усё яшчэ як прыкутая да пражытых, пераж ытых ужо імгненняў і таму нязграбная ў гэтым сваім памкненні вызваліцца, вырвацца з іх: спярша выплеснуўся на стол балючы позірк яе — і ўздрыгнулі Сямёнавы рукі, якімі ён дагэтуль упэўнена, па-гаспадарску абапіраўся на паліраваную паверхню стала, потым з-пад цяжка прыўзнятых яе павекаў хлынуў у пакой, затапляючы ўсё вакол, холад, што, здавалася, выпальваў зараз у ёй усё ўсярэдзіне — і Паліна ўбачыла не Сямёна з насцярожаным і крыху разгубленым тварам, а стары сквер, выбрукаваныя з бетонных квадратаў алеі яго, надламаную хуткай хадою постаць Сяргея...

— Мне шкада, што так атрымалася. Спадзяюся, заўтра мы прадоўжым нашу гаворку.

— Што?! — не зразумела Паліна і, прыгадаўшы ўсё толькі што сказанае ёю ці то ў жарт, ці то ўсур'ёз, успыхнула, кінулася прэч — прэч з гэтага кабінета, ад гэтых слоў, ад усяго, што стаяла за словамі і пазначылася выразна, ярка, вызначаючы шмат што ў будучым.

— Усё будзе добра. Усё вырашыцца найлепшым чынам,— пачула яна ўжо ў дзвярах і сцялася. І спатыкнулася.

Калі за ёю зачыніліся і гэтыя дзверы і іншыя, уваходныя, уздых вырваўся ў Паліны з грудзей — і яна сама не вызначыла б, напэўна, горыч яна адчула ў гэты момант ці палёгку: сквер — наскрозь — быў пусты, ні чалавека...

* * *

«Пусты нумар! — нашэптваў Марыі хтосьці гнусавым галаском, у якім добра чулася з'едлівая ўсмешка, і горш за ўсё было тое, што гэты «хтосьці» знаходзіўся не паблізу, не побач, а ў ёй, у ёй самой, і ні адвярнуцца, ні заткнуць вушы яна не магла. Магла, ды карысці не бачыла: галасок усё роўна гучаў, усё роўна пасміхаўся: — Ведама ж, схоў: музыка! І ад чаго хавацца? Ад жыцця? Лухта! Стары прынцып інстытутак: на кожнае «ах!» — закаханае сэрца... Тут не тое што закаханае, хі-хі... Любое сэрца льга замяніць іншым, перасадзіць з грудзей у грудзі, як краску — з градкі на градку. Перасаджваюць жа хірургі! А то:

сэрца... музыка... Яно, канешне: чым грамчэй барабаніш па клавішах раяля, тым больш упэўненасці, што не чуеш, не пачуеш наскрозь ілжывыя, даўно нежывыя словы пра шчаслівую пераемнасць пакаленняў, пра чысціню ідэалаў, але ж ты, спадзяюся, разумееш, што не пачуць — не азначае адпрэчыць. Тысячы расстраляных, мільёны сасланых на лесанарыхтоўкі, запозненая для многіх рэабілітацыя, абяцанкі, з якіх вынікала, што камунізм быў ужо бачны, рэальны, залаты бразгат узнагарод, у якім патанала любая трывога,— усё ж было, было! Сёння не расстрэльваюць, і абяцанкі крыху іншыя, а людзі — людзі тыя ж, і словы тыя ж...»

Ні адвярнуцца, ні адмахнуцца ад гэтых слоў, ад гэтага голасу Марыя не магла: ён гучаў недзе ў ёй — глыбокаглыбока, там, дзе нараджаліся і раслі, заглушаючы нават радасць рэдкіх, кароткіх хвілін злітнасці з музыкаю, сумненні. І яна ўслухоўвалася ў яго, як услухоўвалася ў сумненні, і яна ўсё больш звыкалася з ім: урэшце, гэта быў яе, Марыі, голас, хай сабе і непрыемны, непрыемна нахабны, хай сабе і адзін з мноства іншых, якія яна часам чула ў сабе, прымаючы ці не прымаючы іх падабенства і непадабенства.

Вось і зараз яна ўслухоўвалася —мажліва, не ў словы, а ў іх гучанне, у іх балючае паколванне, ад якога расла, падкочвалася да горла млосць: адкуль у яе, семнаццацігадовай, гэта бязвер'е? Бязвер'е... Ну, канечне, гэта — бязвер'е! Бо вось жа не верыць яна ні настаўніцы, ні Святлане, ні маці...

Злавіўшы сябе на думцы пра маці, Марыя спахмурнела і зноў закружыла па пакоі, вакол раяля, нераскрытага і змрочна-журботнага, які і вабіў яе і адштурхваў: нельга, нельга схавацца, адгарадзіцца ад сваіх думак музыкаю! Думка наслойвалася на думку, круг на круг, Марыя ўжо амаль бегла, і, калі запынілася, з недаўменнем азіраючыся па баках (хто за ёю гнаўся?), голас загучаў яшчэ больш з'едліва: «Мамачку пагукай: мо пачуе і прыбяжыць, кінуўшы свае важныя, дзяржаўныя, справы,— некалькі ж разоў на працягу твайго свядомага жыцця падобнае ўсё-ткі здаралася! Праўда, звычайна здаралася, калі ты захворвала... Але ж і цяпер ты захворваеш. Самы час паскардзіцца: не хачу вучыцца, хачу лячыцца».

Марыя стомлена звяла павекі і спачатку абаперлася, а потым навалілася грудзьмі на раяль,— раскінуўшы рукі, уткнулася тварам у яго гладкае, лакіраванае вечка і доўга

стаяла так, зніякавелая, знясіленая, падобная на падбітую, паўмёртвую птушку.

«Чаго, ну, чаго табе не хапае? — злітаваўся голас, падабрэў, памякчэў, спрабуючы калі не суцешыць, то хоць пашкадаваць яе.— Адзіная дачка, як сыр у масле... Не маеш адно таго, чаго не хочаш мець, іншыя б на тваім месцы... Справа, безумоўна, не ў іншых, але ж ты мучышся тым, чаго не разумееш. Чужым. Чужым грахом. Чужой вінои. І не разумееш, што час — такі, які выпадае, і табе належыць пражыць сваё жыццё, праведнае або няправеднае, у ім, у гэтым — у гэткім — часе, хочаш ты ці не хочаш. Вось і жыві. Вось і ідзі па наканаванай сцежцы, па мажлівасці не азіраючыся».

Блізка-блізка, вочы ў вочы ўзіралася ў Марыю ▪ чорнай люстраной паверхні штосьці бясформеннае, расплывістае, што і прыблізна вызначыць, назваць было нельга. Яна ўцяміла, канечне, адразу ўцяміла, што гэта адбітак, яе ўласны адбітак, дэфармiраваны, непазнавальны ў такім няпэўным люстэрку, і не адхіснулася — нават думкі такой не ўзнікла, але чым больш узіралася ў чарнату, раз-пораз скошваючы вочы то ўлева, то ўправа, тым больш пераконвалася, што было ў гэтым цёмным адбітку сёе-тое і ад яе: кожны рух расплываўся ў грымасу, кожны выдых змываў, злізваў гэту грымасу, каб праз міг-другі расцекчыся па адбітку і зноў сцінацца, збягацца ў адну кропку — у зрэнцы позірку. Зрэнка гэтая, цёмная і глыбокая, уцягвала, зацягвала Марыю ў сваю глыбіню — і яна адчувала, як халадзела, сціналася ў грудзях сэрца, і яна адчувала, што ўжо саслізгвае, вось-вось саслізгне ў якуюсь бездань...

«Тэлефон?» — працяла яе новае адчуванне, і яна сцепанулася, адштурхнулася ад раяля і выпрасталася. Званіў, надрываўся, не верачы ў яе адсутнасць, тэлефон.

— Вас слухаюць,— ціха адгукнулася Марыя.

— Слухай, ты не хочаш трохі прачысціць мазгі і пабалдзець пад музыку?

— Што? — не зразумела яна.

— Можна схадзіць на дыскатэку, памятаеш, я табе гаварыла? Добрая кампашка падбіраецца. І потым... Потым — нельга ж сядзець над падручнікамі і ў школе і дома, з раніцы да ночы,— Святлана гучна, роблена ўздыхнула і тут жа засмяялася, тут жа загаварыла яшчэ больш перакапаўча і весела, не зважаючы на маўчанне сяброўкі.— Уяўляеш? Мяне ўжо выварочвае, ледзь толькі адгарну чарговы падручнік: пытанні, лічбы, даты... Адно і чуеш

з усіх бакоў: хутка экзамены! хутка экзамены! Ды ад аднаго гэтага слова «экзамены» ў галаве адразу каша падыходзіць, выкіпаць пачынае. Усяго і жыцця што страх перад экзаменамі? Ну, не! Не ведаю, як ты, а з мяне на сёння даволі. Сёння — цэлы вечар! — буду танцаваць. Пайшлі, а? З прыгожымі хлопчыкамі пазнаёмлю.

— Іншым разам, Света,— хацела ўжо развітацца Марыя, але словы пасыпаліся з трубкі з такой сілай і хуткасцю, што нельга было не ўсміхнуцца: сарока, дый годзе!

— Іншым? Якім іншым? Калі? Ты ж і так не выходзіш з дому, ты ж і так учарнела ўжо ад бясконцых заняткаў! З тваімі здольнасцямі я б увогуле не адкрывала кнігу, не тое што... Ты хоць бачыш са свайго акна, што ў горадзе — вясна, што дрэвы пачалі апранацца, што сонца — у паўнеба? А? Ну, не хочаш ісці на дыскатэку, проста паходзім, падыхаем...

— Іншым разам, Света,— не заўважыла, што паўтарыла свой ранейшы адказ Марыя, і калі гэты раз тая ніяк не адгукнулася, крыху цішэй дадала: — Не крыўдуй, добра?

— Я пазваню гадзінкі праз паўтары: калі перадумаеш...

Сувязь абарвалася, і палёгка, якую адчула Марыя ў першае імгненне, абярнулася лёгкім шкадаваннем: усё роўна ж не займаецца — ніводзін падручнік, ніводзін нотны сшытак дасюль нават не разгарнула, а думкі... Думкі даўно абрыдлі. Загнаная імі ў куток, бездапаможная перад іх таямнічым і нахабным пастаянствам, Марыя пачынала ўжо сумнявацца ў самых простых рэчах, у самых блізкіх людзях і ненавідзела сябе, гэту сваю бездапаможнасць: трэба было нешта рабіць, мусова трэба было нешта рабіць, а яна сядзела ў чатырох сценах і не толькі не спрабавала вырвацца з іх палону і выйсці да людзей, але і вокнаў, вясны за вокнамі не заўважала.

* * *

Красавік выдаўся надзіва сонечны і цёплы: асляпляльна зыркае неба пагойдвалася так высока, што гэта пагойдванне, гэты рух не заўважаліся, і здавалася, што дзень згасаў на некалькі кароткіх вячэрніх імгненняў, каб тут жа зацвісці ўсімі зоркамі і спакойна чакаць, калі ноч гэтак жа раптоўна і нечакана, без усялякага пераходу, перацячэ ў ранак і новы дзень, і зноў глыбокім, незямным

святлом асветліцца неба, і зноў асляпляльна зіхоткая вышыня яго будзе вабіць да сябе голлейка ліп і каштанаў, пер'е травы і сцежкі галубоў. І яшчэ — позіркі. Так, яшчэ — людскія позіркі, бо як бы і куды б ні спяшаліся гараджане па справах ці без справы, адно ў згодзе са сваімі планамі, як бы ні былі яны заклапочаны або чымсьці (ці мала што можа навеяць смутак!) засмучаны, позірк то аднаго з іх, то другога чапляўся за сонечны прамень і нейкі час, выбаўляючыся з няўцямнай, незразумелай трывогі, нітаваў чалавека з трывожна-яркім небам. Міг-другі — і трывога адпускала (дні ж стаялі надзіва сонечныя і цёплыя!), але цень яе, хоць і не чорны і не страшны, яшчэ калыхаўся над ім, усё далей і далей... Задужа ранняя вясна?

«Задужа ранняя вясна, невядома якім лета абернецца»,— каторы раз за дзень думаў Залужны, думаў безадносна той трывогі за сына, якой падзяліўся з сябруком, а на душы не спакайнела: дзень згас, вечар хіліўся да начы, а Кірыл не з'яўляўся, не даваў аб сабе ніякага знаку. Канечне, нічога асаблівага ў тым не было — не першы раз! Але штосьці змушала яго сядзець у сынавым пакоі і чакаць.

Калі, нарэшце, а першай гадзіне бразнуў замок і да непрычыненых дзвярэй сталі набліжацца крокі, як заўсёды крыху запаволеныя і ўпэўненыя, і тады ён не падняўся з крэсла, нават не павярнуўся да Кірыла — чакаў. Чакаў рэакцыі сына, нейкіх тлумачэнняў яго, бог ведае чаго яшчэ...

— Не спадабалася? — голас Кірыла не ўздрыгнуў, калі ён, заўважыўшы раскіданыя па стале здымкі, скіраваўся да іх.— Не ахці якая якасць, канечне... Даўно трэба было выкінуць.

— Кірыл!

— Толькі не трэба ніякіх павучанняў, а? — не азірнуўся той на бацьку.— Я ведаю, што ў ваш час за вамі ніякіх такіх хобі не вадзілася, што вы верылі ў дзявочую і сваю чысціню і жылі ў адпаведнасці з прынцыпамі рыцарскіх, а дакладней — культаўскіх, адносін паміж людзьмі. У в а ш ч а с! Ты ніколі не зважаў на адну маленькую дэталь: ваш час — ён ваш, а не наш. Разумееш? Не наш.

— «Якое тысячагоддзе на двары?»

— Ты дарэмна іранізуеш,— сабраў здымкі і сунуў іх у кнігу, у шчылінку паміж імі, Кірыл, потым прысеў на край стала і зірнуў на бацьку — спакойна, без ценю

шкадавання ці ніякаватасці.— Не я, хтосьці разумнейшы, чым я, сказаў: мы ў большай ступені дзеці свайго часу, чым дзеці сваіх бацькоў, хочам мы таго ці не хочам. Магчыма, гэта не вельмі прыемная ісціна, але ж ісціна.

— Зручная. Галоўнае, што, як ні павярні,— ісціна зручная: любы хіб у сваім характары, любую гніль у душы можна да заганаў часу аднесці, ледзь толькі спытае час.

Залужны іранізаваў, даўно, адразу, вырашыўшы не даваць волю пачуццям і паспрабаваць разабрацца ў сынавых перакананнях, калі яны існавалі, і Кірыл, які, здавалася б, павінен быў абурыцца, нечакана пакрыўдзіўся: хмыкнуў («Вось заўсёды так!»), правёў абедзвюма рукамі па твары, раз і другі раз, і роблена пазяхнуў.

— Мы не маглі б перанесці гэту гаворку з табою на заўтра?

— Ну, навошта ж! Гадзіна ночы, да раніцы яшчэ процьма часу.

— Тата, што здарылася? Я нічога не разумею. Калі ўсё з-за таго, што табе пад руку трапіліся гэтыя карцінкі...

— Карцінкі? — падсунуў пад локаць падушку і сеў зручней Залужны: ад унутранага напружання і жадання нічым не выдаць яго паколвала ў спіне.— А што — за імі, за гэтымі карцінкамі, ты не задумваўся?

— Секс.

— ?!

— Спадзяюся,— усміхнуўся Кірыл, заўважыўшы кароткі недаўменны позірк бацькі,— што цябе, як некаторых, не шакіруе слова, якое ўсяго і азначае — палавыя зносіны.

— І табе ўжо вядомы такія зносіны? — зноў узяў сябе ў рукі Залужны.

— Тата!

— Што — тата? Я не ясна выказаўся?

— Ты ж не тая дамачка, якая на пытанне амерыканкі наконт сексу ў нашай краіне адказала: «У нас няма сексу».

— Пытанне тычыцца цябе, а не сексу.

— Мне не дзесяць гадкоў, і нават не пятнаццаць. Мне хутка — васемнаццаць,— пазбягаў бацькавага позірку Кірыл, разглядваючы — па чарзе — свае рукі.— Восенню — у армію, і хто можа даць гарантыі, што мяне... Ну, ды што тут тлумачыць!

Залужны ўзіраўся ў сына, прыгадваючы сябе ў яго ўзросце, і не знаходзіў падабенства: тады, у шасцідзесятыя, першым жа павевам падхапіў, закружыў іх вецер пе-

рамен — і яны не азіраліся са страхам назад ці на баках, не заглядвалі штохвіліну ў бездань пад нагамі, яны спяшаліся жыць, радаваліся магчымасці выказацца, вылучыцца, зрабіць штосьці сваё, адметнае хай сабе і дазволенай шчырасцю, але шчырасцю. А сённяшнія... Самаўпэўненыя, а ўпэўненасці, той унутранай сілы, якая не дае чалавеку зламацца, няма. Ганарлівыя, сляпыя ў гордасці сваёй, і слухаць не хочуць і ведаць, што не за гордасць моцныя духам трымаюцца, а за годнасць. Крыклівыя, а ў крыку іх, у музыцы іхняй больш ад абыякавасці, чым ад жадання штосьці сцвердзіць. Чым жа яны сцвердзяцца? Чым?

— Ты так разглядваеш мяне,— пакасіўся на яго Кірыл,— быццам засумняваўся ў сваім бацькоўстве.

— Ведаеш, засумняваўся. Як гэта ні горка казаць, засумняваўся, што ў табе хопіць духу вырасці ў чалавека.

— Ну,— пасміхнуўся той,— у чалавека я, па ўсіх мерках, вырас, а ў чалавека з вялікай літары...

— Я меў на ўвазе не рост, не вагу, і нават не пазнанне таямніц сексу,— перапыніў яго Залужны, з цяжкасцю ўтрымаўшы сябе ад больш рэзкіх слоў: не першы раз заўважаў ён, што ўсмешка быццам адкрывала, агаляла ў Кірылу штосьці бруднае, непрыемнае, і кожны раз яму на момант здавалася, што ў ёй, у гэтай усмешцы, разгадка і характару і паводзін сына, але здавалася і здавалася — нават прадчуваючы якуюсь бяду, Залужны заўсёды ў апошні момант не адважваўся зірнуць праўдзе ў вочы (яго ж сын, яго адзіны сын!) і адступаўся. Адступіўся ён і зараз. І хоць працягваў гаварыць і яшчэ доўга гаварыў пра чалавечую годнасць, пра магчымасці, якія дае, прапануе кожнаму новы час, пра хуткаплыннасць жыцця і неабходнасць зрабіць у гэтым жыцці тое, што наканавана лёсам ці шляхам, словы былі агульнымі, моўленымі і чутымі сотні разоў і таму бяссільнымі. Ён і сам гэта адчуваў.

Кірыл, разглядваючы рукі (нават пакручваў іх — то адну, то другую — перад носам) і не пазіраючы на бацьку, цярпліва сядзеў на крайку стала і слухаў. Хоць сказаць напэўна, што слухаў, было, відаць, перабольшаннем: на твары — ні ўвагі, ні простай дакукі.

— Што, калі б не я, а мама наткнулася на гэтыя здымкі?

— Пры чым тут здымкі? — лена адгукнуўся Кірыл.— Даўно трэба б мець адпаведныя падручнікі.

— Мо з першага класа?

— Ты гаворыш са мной так, быццам сам не жывеш інтымным жыццём і лічыш падобнае жыццё заганным, калі не злачынным. А гэта, калі хочаш, адна з праяў фарысейства — твайго і... Усяго вашага пакалення!

— О, гэта ўжо цікава! — падняўся і тут жа змусіў сябе зноў апусціцца на канапу Залужны.— Мы, значыцца, фарысеі, лгуны — з маскамі замест твараў, а вы...

— Не утрыруй, тата. Ты цудоўна ведаеш, што гэта праўда, а час вінаваты ў тым, што чэснасць, шчырасць, прынцыповасць засталіся адно ў тых, каго прынята называць няўдачнікамі, а то і проста дурнямі, ці вы самі вінаватыя, не мне меркаваць. Я... мы яшчэ ў маленстве аб'еліся вашай (заўваж, я не настойваю: тваёй) хлуснёю і хочам жыць інакш. Хочам жыць.

— Мы, па-твойму, не хацелі? Не хочам?

— Вы баяліся. Баіцеся. І таму жывяце двайным, трайным жыццём, а гэта, пагадзіся, яшчэ больш гідка, чым... чым тое, што сёння адкрыта называецца сексам. Заўваж: адкрыта!

— Ведама ж, геройства: выстаўляць няўменне ці няздольнасць пакахаць напаказ, хваліцца нічым не прыкрытым паскудствам,— Залужны стомлена адкінуўся да спяны, словы яго былі горкія, думкі — яшчэ гарчэйшыя, бо міжволі круціліся вакол старога афарызма, з якім ніколі не хацелася пагаджацца: юнацтва — гэта адпомста. Адпомста каму? За што? «Вы баяліся...» Было. Баяліся. І за іх, за дзяцей сваіх, баяліся. А яны нібыта не знаходзяць сабе месца, нібыта мкнуцца ўвесь час збегчы — збегчы і ад жыцця, і ад саміх сябе. Непрыкаяннае, бяздомнае бадзянне між сённяшнім і будучым — і ёсць мэта іх існавання?

— Ведама ж, геройства! — паўтарыў ён амаль механічна.

— Толькі не трэба пра геройства, тата,— саскочыў са стала, памкнуўся было выйсці з пакоя і стрымаў сябе, няўклюдна затаптаўся Кірыл за колькі крокаў ад бацькі.— Да чаго яно за сем дзесяцігоддзяў прывяло, гэта ваша геройства, да якога крэтынізму, усяму свету сёння бачна — не прызнаваць гэтага ў маштабе ўсёй краіны далей, відаць, нельга. І я не разумею, чаго ты хочаш, чаго ты чакаеш ад мяне? Новага геройства? Вернасці таму, што ўзводзілася на хлусні і злачынствах супраць народа?

— Ты загаварыў высокімі словамі і мяркуеш, што ў саміх гэтых словах — выклік? — выпраміўся, абапёрся абедзвюма рукамі, гатовы следам за сынам падняцца, За-

лужны.— Мо і замнога нароблена памылак, мо і замнога ахвяр, але ж за тое, ранейшае, заплачана не вамі, і мне хацелася, каб ты, Кірыл, зразумеў, зразумеў своечасова, што нельга даць ці атрымаць дазвол на праўду, што сваю праўду, якая б яна ні была, усё роўна кожнаму даводзіцца аплачваць самому. І павер мне, жыццё спраўна падводзіць і прад'яўляе рахункі.

* * *

Рахункі былі аплачаны загадзя, і ўсё, што ад Паліны Аркадзьеўны тут, у санаторыі, патрабавалася — выконваць усе прызначаныя ўрачом працэдуры, днём, сустракаючыся, а то і прагульваючыся разам з Васілём Антонавічам, трымацца строга афіцыйна, вечарам жа, прымаючы яго ў сябе, быць у меру пяшчотнай. І ўсё ішло, як таго патрабаваў расклад,— дапамагала звычка, дапамагала ўсведамленне сваёй поўнай залежнасці ад Васіля Антонавіча. Пра гэта і не варта было б думаць, калі б не якаясь няўцямная трывога, што не-не і ўзнікала і, адагнаная, праз які час зноў вярталася, зноў хадзіла следам за ёю. Паліна Аркадзьеўна не ведала прычыны, не знаходзіла тлумачэння і таму часам хмурылася, падоўгу нерухома седзячы ў шэзлонгу тварам да мора. У такія хвіліны мора яна не бачыла, а роўны, няспынны гул яго, як ёй здавалася, вароча ўся ў ёй, глыбока ў душы яе, і нагадваў то шум бору за аселіцаю вёскі, адразу за гародамі, дзесьці ў далёкім маленстве, то агучаны ім рух часу, усёй тоўшчы яго, у якой то патаналі, то нейкі час пялёхкаліся навідавоку, на адлегласці позірку, цяпер — адсюль — невыразныя ўжо згадкі.

Мо трывога і сыходзіла ад гэтых невыразных згадак: для нечага ж яны ўсплывалі, засланяючы, змушаючы сціпацца, адступаць рэчаіснасць, рэальнасць, для нечага ж зноў і зноў спрабавалі вярнуць, ажывіць даўно мінулае і забытае. Так, так, забытае! — Паліна Аркадзьеўна так старанна забывала ўсё страчанае, усё, аддадзенае за сённяшняе сваё высокае становішча, за гэты санаторый на беразе цёплага мора — аддадзенае яшчэ ў юнацтве, што ўсё і забыла. Была перакапана, што забыла. І розныя рухомыя ці, наадварот, застылыя ў сваёй нерухомасці адбіткі памяці, абрыўкі слоў, сцежак, магнітафонных стужак ці бліскучыя аскепкі колішніх мар і спадзяванняў, што не-не і

траплялі пад руку, не маглі парушыць гэту яе перакананасць: абрыўкі абрыўкамі, аскепкі аскепкамі, а жыццё было такім, якое яна выбудоўвала і выбудавала, дамогшыся і прывілей і неаспрэчных пераваг. А трывога...

Урэшце, прычынай трывогі магла быць гаворка з мужам напярэдадні ад'езду ў санаторый — гаворка, якая здзівіла, калі не напалохала: Сямён, упершыню за гады, пражытыя разам, спрабаваў адгаварыць яе ад паездкі, даводзячы штосьці пра Марыю, пра душэўны стан яе і цяжкасці пераходнага ўзросту, пра набліжэнне экзаменаў у школе і імправізацыі дачкі за раялем, у якіх разам з пратэстам выразна чуліся і разгубленасць і бездапаможнасць. Тады Паліна Аркадзьеўна, мо таму, што дужа не ўслухоўвалася, не зразумела. Нават зазлавала: што за паніка! Яна ж, памятаецца, гаварыла з Марыяй — і пра школу, і пра экзамены, і нічога падазронага ні ў словах, ні ў твары дачкі не заўважыла. А імправізацыі... Мела ж Паліна Аркадзьеўна права адпачыць, палячыцца ў санаторыі!

Так, тады Паліна Аркадзьеўна не вельмі ўстрывожылася. Думкі пра гэту гаворку, пра дачку прыйшлі і напалохалі яе сваім прыходам ужо ў санаторыі, і ў самы нязручны момант — у прысутнасці Васіля Антонавіча, у пасцелі... Яна яшчэ — ад нечаканасці — спалохана сцялася, змоўкшы на паўслове, і потым доўга і падрабязна тлумачыла, што напалохаў яе раптоўны боль у грудзях...

— Ты верыш у тое, што гаворыш? — спытала Марыя, і Паліна Аркадзьеўна, скалануўшыся ад таго, што пытанне, звернутае да яе не тут і не цяпер, а дома і даўно, прагучала зноў, пабач, і ўсё ж павярнулася на голас.

— Ты верыш у тое, што гаворыш людзям?

Голас (голас дачкі!) належаў таму, хто стаяў па правую руку ад яе, і спярша Паліна Аркадзьеўна не пазнала Сяргея — адно здзівілася, што не бачыць Марыі. Калі ж пазнала, калі ўцяміла, хто — перад ёй, прыўстала і, дранцвеючы, грузна абвалілася ў крэсла: не слухаліся ні рукі, ні ногі, не слухаліся вусны. «Як ты тут апынуўся, Сухневіч? Цераз плот пераскочыў ці мо з вясковага настаўніка ў начальніка вырас за гэтыя гады?» — хацела яна пакпіць і словамі, усмешкаю абараніцца, адгарадзіцца ад яго, але вусны не варухнуліся і словы кудысьці зніклі. «Сяргей?! Тут?!» — крычалі яе вочы, а яна не мела сілы прыкрыць іх хоць бы вейкамі.

— Ты не верыш ні ў тое, што гаворыш, ні ў тых, да каго звяртаешся. І ведаеш гэта. І звыклася з гэтым. І мне шкада цябе, Паліна. Шкада цяпер, з адлегласці гадоў, не таму, што ты пражыла і жывеш без кахання, што так і не зазірнула ў сваю душу, згаслую і засмечаную наскрозь фальшывымі адозвамі, не. Шкада, што створаная жанчынай — богам ці прыродаю створаная, не гэта важна,— ты забіла ў сабе жанчыну, каханую, маці, забіла адно для таго, каб вышэй стаяць, смачна есці, прэстыжней апранацца і выглядаць. Ты думала, што ўзвышаешся,— і памірала. Памірала ў абдымках нялюбага мужа і потым, усяго праз два гады, у абдымках нялюбага каханка. Памірала на трыбунах, пры святле пражэктараў, паўтараючы чужыя словы, чужыя думкі і не заўважаючы, не заўважыўшы, як яны сталі тваімі ўласнымі. Памірала ў чадзе п'яных тостаў на застоллях, такіх багатых і такіх частых, што калі б не ўрадавая пастанова...

«Госпадзі, хай ён змоўкне! Хай толькі ён змоўкне!»

— І гэта не самае страшнае,— не даваў ёй расцяць вусны Сяргееў позірк.— Плаціць трэба за ўсё, плаціць трэба з дня ў дзень, з году ў год — і адна твая душа ў аплату за ўсе перавагі і прывілеі твайго становішча не ішла. Не прымалася. І вось ты, Паліна, пачала расплачвацца душамі чужымі.

«Не! Не!» — намагалася заплюшчыцца, звесці вейкі Паліна Аркадзьеўна і не магла: Сяргей стаяў там, дзе і стаяў, позірк яго неадступна сачыў за кожным зрухам яе думак, хоць, здавалася, і думкі было ўжо не зрушыць, не зварухнуць — адно пратэст варушыўся ў ёй, кволы, бяссloўны пратэст.

— Калі б ты азірнулася, калі б ты магла азірнуцца, Паліна, ты б убачыла цэлы натоўп тых, каму ты перайшла дарогу, а кожны ж з іх — разумнейшы, таленавіцейшы за цябе. Так, так, гэта іх розум, іх талент былі перашкодаю табе і такім, як ты, і іх трэба было асадзіць, адпіхнуць, спіхнуць са шляху, пазбавіць магчымасці працаваць і ўплываць на падзеі. Чаго прасцей, калі ў тваіх руках улада і ключы ад усіх дзвярэй, малых і вялікіх!

«Змоўкні! Ды змоўкні ж ты! Я не хачу, не хачу цябе слухаць!»

— І гэта яшчэ не самае страшнае,— тым жа ціхім, злёгку кранутым смуткам голасам (цяпер яна пазнавала гэты голас) працягваў Сяргей.— Каханне, якому ты, не дужа задумваючыся, здрадзіла, праўда, якую ты хутка на-

вучылася адпуджваць, ісціна, з якой па-майстэрску выкройвала ўбор на любы густ, ледзь толькі ўзнікала патрэба, хараство, нават хараство тваё, разважанае з такім разлікам, каб хапіла на гады, на ўсе патрэбныя сувязі,— гэта яшчэ не ўсё. Гэтага, як з цягам часу высветлілася, таксама мала. Побач падрастала дачка...

«Змоўкні! Ты не смееш!» — ледзяныя мурашы пабеглі па спіне, і холад, ледзяны холад скоўваў, прыкоўваў да крэсла, здавалася, ужо намёртва.

— Чыстае не можа застацца чыстым побач з граззю: яно ці становіцца ёю, гэтаю граззю, ці гіне.

— Сяр-гей!

Жах, які ахапіў Паліну Аркадзьеўну, прарваў, разарваў немату, і вокліч, крык падхапіў яе, падкінуў — Паліна Аркадзьеўна, рыўком саскочыўшы з крэсла, ледзь утрымалася на нагах. Свядомасць падказвала: усё прыснілася ёй, у сне яна закрычала, а жах не адпускаў. Хвіліну-другую позірк няўцямна блукаў па адкрытай сонцу верандзе, па пустых у гэты час шэзлонгах, потым як страпянуўся — слізгануў ніжэй, на дарожку, што цераз сад вяла да мора: па дарожцы, сюды, да яе, кіраваўся Васіль Антонавіч. Міжволі ўздых палёгкі вырваўся ў Паліны Аркадзьеўны з грудзей: вокліч яе, спалох яе дорага б ёй каштаваў, калі б, па волі лёсу ці выпадку, пакравіцель яе знаходзіўся на той момант недзе паблізу...

* * *

Ні ў адным кінатэатры паблізу фільм Бергмана «Асенняя саната» не ішоў, у «Цэнтральны» ж на адзіны на сёння сеанс яны не патрапілі — спазніліся. І спазніліся не нашмат, аднак касірка сваё акенца ўжо прыкрыла, і ім нічога не заставалася, як змірыцца і, хаваючы расчараванне, адысці. Або яшчэ — засмяяцца: спяшаліся, парушыўшы правілы, перабеглі праспект напрасткі, далёка ад перахода, і павінны былі хавацца ў людскім натоўпе ад міліцэйскага свістка, а ў выніку — не паспелі і сеанс пачаўся ўжо.

— Што называецца: не шанцуе. Хоць вяртайся і штраф міліцыянеру заплаці! — спярша ціха рагатнула, а потым і засмяялася, уявіўшы, як раптам яна і Марыя з апушчанымі галовамі набліжаюцца да паставога, каб шчыра пакаяцца.— Во разявіў бы рот ад здзіўлення: с а м і ! у с в я д о м і л і !

І вось ужо смяялася і Марыя. І вось ужо прадаўшчыца марожанага, перш недаўменна пакасіўшыся на іх (чаго захадзіліся, запытацца?), міжволі ўсміхнулася і, калі яны міналі яе столік на колах, весела прапанавала: «Пламбір? Дзень жа лета гукае, няйначай...» І яны купілі марожанае і пайшлі ў бок перахода, каб спусціцца ад плошчы Леніна ўніз, да сквера, і потым яшчэ ніжэй, да Свіслачы. Ішлі. Абедзве высокія, танклявыя: яна, Святлана,— у штроксах і шырокім грубай вязкі бацькавым світэры паверх блузкі, Марыя — у злёгку расклёшанай спадніцы з тонкага сукна і шчыльна аблеглым стан узорыстым джэмперы, паверх якога была надзета, накінута лёгкая парусінавая куртачка, шэрая з сіне-жоўтай паласой наўскос ад пляча да засцежкі. Ішлі, лізалі марожанае, жартавалі, злавіўшы чыйсьці цікаўны позірк.

Жартавала больш Святлана, але і Марыя здавалася весялейшай, чым звычайна,— смяялася на Святланіны жарты, з цікавасцю азіралася на таго, з каго нязлосна кпіла тая, сяды-тады падкідвала і сваё слоўка, кожны раз трапнае, дакладнае.

Калі яны ўжо міналі сквер, Святлана прапанавала:

— Слухай, побач вакзал. Давай з'ездзім у Ждановічы, а, Марыя? Да сябра майго. У іх там шыкоўная дача, а кожны чацвер пракручваюцца новыя відэаролікі. Мо што цікавае ёсць.

— Выдумала! На чужую дачу...

— Ну, чаму чужую? — загарэлася ўжо Святлана і літаральна за руку цягнула Марыю ў бок вакзала.— Сябра мой там. Кір. Кірыл, значыць. Сын вядомага рэжысёра. Прымуць чын чынам, потым да электрычкі правядуць. Гадзіны за паўтары-дзве абернемся, вось пабачыш. Усё роўна ж у кіно збіраліся...

Яна гаварыла не змаўкаючы і цягнула, цягнула яе за сабой. Мо таму, што паехаць, убачыць Кіра хацелася, цяпер ужо неадольна, а тое, ці можна, ці трэба — туды, да Кіра, везці Марыю, выклікала сумненне. Хоць і кволае, ледзь улоўнае, а ўсё-ткі сумненне. Марыя — іншая, не такая, як яны ўсе, хоць бы таму, што ў ёй жыла музыка, гэта Святлана разумела. Гэта выклікала ў яе няхай паблажлівае, без глыбокага разумення, але захапленне: прыдумаць, запісаць не чутую раней музыку, нават незразумелую і як для яе, Святланы, дык не вельмі і прывабную, было і па яе мерках не абы-чым. Дык і сям'я... Хоць сям'я — ужо другараднае: Кір гэтаксама не з вуліцы!

Дзень жа і ў гэтай апошняй дэкадзе красавіка, неспадзявана цёплай і сонечнай, вылучаўся: ні аблачынкі да самага гарызонту, ні ўздыху ветрыку — неба і неба! Ледзь падымеш вочы — і ўжо не выбрацца з блакітнага ззяння: ні камяніцы, ні прысады ўздоўж чыгункі потым, калі сяброўкі апынуліся ў электрычцы, не засцілі вышыні. Гэта мо і падалося б ненатуральным, ненадзейным Святлане, калі б яна хоць на міг спыніла сваю балбатню і задумалася, але маўчаць побач з тым, хто мог яе слухаць, было не ў яе звычцы: навіны, няхітрыя школьныя плёткі, высновы пра тое-сёе, іншае так і сыпаліся, змяняючы адна адну, і позірк Святланы зрэдку абыякава слізгаў па аконным шкле, каб тут жа зноў прыклеіцца да твару Марыі, сцішанай, вінавата-разгубленай, як заўсёды, калі думкі яе лунал і дзесьці далёка.

— Ты не паверыш, а я месяц таму адважылася і паслала свае музычныя опусы вельмі вядомаму кампазітару,— абарвала Святланін маналог, нават не заўважыўшы гэтага, Марыя і шырока, радасна ўсміхнулася насустрач яе недаўменнаму позірку.

— На свой страх і рызыку?

— На свой страх і рызыку.

— Ні з кім, нават з бацькамі не параіўшыся?

— Ні з кім не параіўшыся. Інакш... Інакш у мяне папросту не хапіла б духу. І то неаднойчы пашкадавала потым. Дні праз два пасля таго, як адаслала ноты заказною бандэроллю, гатова была бегчы на пошту і прасіць вярнуць іх: раптам...

— Ну, а вынік, вынік які-небудзь ёсць? — не стрывала Святлана.— Адказаў табе твой вельмі вядомы?

— Учора атрымала ад яго ліст. Піша: будзе ўсяляк спрыяць майму паступленню на кампазітарскае аддзяленне. Запрашае дваццаць сёмага, гэта значыць заўтра, да сябе ў кансерваторыю. Во!

Марыя не хавала свайго ўзрушэння — выпаліла ўсё адным духам і цяпер хапала ротам паветра, быццам словы перасел і ў горле. Яна расчырванелася і, адчуўшы раптам няёмкасць (Святлана пазірала на яе ва ўсе вочы), не ведала, як выйсці з гэтага няёмкага становішча.

— Гэта не наша станцыя? — спытала першае, што прыйшло ў галаву, а Святлана, зіркнуўшы ў акно, войкнула, падхапілася, пацягнула яе да дзвярэй, чапляючыся рукой за лаўкі і мармычучы: «Хутчэй, хутчэй! Што ж гэта я, а?»

— Што ж гэта я, а? — паўтарыла ўжо ўголас на платформе і, уявіўшы свой твар у гэту мінуту, паморшчылася.— Ледзь у дзвярах не зашчаміла. Во было б!

— Ну, не зашчаміла ж! — усміхнулася Марыя, з цікавасцю азіраючыся: пасёлак, перарэзаны чыгункаю і аўтастрадаю, здавалася, распаўзаўся ў абодва бакі, паступова хаваючыся то ў прарэджаным бярэзінамі сосніку, то пад цёмнымі шатамі высозных старых ялін.

— Здорава!

— Што здорава? Гэта? — павяла рукою Марыя.

— Здорава, што ты ліст атрымала,— тыцнулася лбом ёй у плячо Святлана,— што наважылася і паслала свае ноты. Выходзіць: музыка — гэта тваё. Т в а ё, незалежна ад таго, што хочуць і могуць зрабіць для цябе ці за цябе твае бацькі. Разумееш?

— Не вельмі,— пайшла побач Марыя, па-ранейшаму паводзячы галавою і разглядваючы хаты і хаткі са шматлікімі прыбудовамі і садамі, што толькі-толькі сталі ажываць, наперадзе.

— Я пра тое... Я рада, што ў свеце дарослых, наскрозь ілжывым і напалову штучным,— чаго варты ўсе іх гонкі за прэстыжным месцам, усе іх абмены гасцямі і каханкамі, усе прамовы і ўзнагароды за іх! — ты, Марыя, знайшла, убачыла, адчула (выбірай любое вызначэнне!) сваё. Мне здавалася, што гэта немагчыма. Мне здаецца, што для большасці — хоць і мяне ўзяць! — гэта і немагчыма.

— Ну, што ты, Свет! Помніш, ты мне расказвала, як сама, у хатніх умовах, праводзіла цікавыя батанічныя доследы?

— Цю-ю! У шостым класе? Знайшла што нагадаць!

— А сёння...

— Давай не будзем пра мяне, а? Тым больш што мы ўжо прыйшлі: вунь, бачыш, праз тры дачы — катэдж з прыбудаваным пазней другім паверхам?

— Мы ненадоўга, добра, Света? — упершыню пашкадавала, што паддалася на ўгаворы, Марыя: чаго было сюды ехаць? Навошта?

А катэдж набліжаўся — насоўваўся на іх, як здавалася зараз Марыі, і яна паспрабавала супакоіць, сцішыць раптоўную, разбуджаную шкадаваннем трывогу: прыйшлі і пойдуць, прыехалі і паедуць назад, у Мінск, і не варта было цяпер, калі прыехалі, псаваць настрой Святлане: яна ж хацела пабачыць свайго сябра. Сэрца, якое раптам захадзілася чамусьці... Шчымлівае прадчуванне... Не, не!

Яна проста расхвалявалася, расказваючы пра ліст прафесара: з учарашняга з вечара не ведала, як сабой, сваёю радасцю распарадзіцца,— неяк жа будзе, неяк будзе!

* * *

«Падыходзіць да краю сцэны, выпускае авоську, і качаны капусты раскочваюцца па зямлі — Марыя не бачыць, адчайным рухам ускідвае рукі, затыкаючы вушы, ілбом, тварам прыхінаецца да сцяны. А хрумсценне ўсё больш нагадвае крокі, рэха крокаў сотняў, тысяч салдат...» — Скрыдлаты перачытвае напісанае, задаволена хмыкае («Рэха крокаў...» Някепска, някепска, чорт вазьмі!») і надоўга задумваецца, перабіраючы ў думках нядаўнюю гаворку з сябрам. Той казаў пра цярплівасць, пра цярпенне, а яму здавалася — ды што там здавалася, як ён усё больш пераконваўся ў гэтым! — трэба пра іншае. Пра пакуту. Пра пакуту, якая не кожнаму па плячы.

«Як ад цяжкой, непасільнай ношкі надломваюцца плечы Марыі, і яна павольна, усё шчыльней горнучыся, прыпадаючы да сцяны, паварочваецца да залы — галава прыўзнята насустрач святлу, раскінутыя рукі ўпіраюцца ў непарушны змрок ззаду:— Зямлю, як качан капусты, нагамі піхаем, пра міласэрнасць і згадваць даўно забылі, дзяцей нараджаючы, у іх шчасце, як і ў сваё, не верым... Што ж гэта? Адкуль? Калі аслеплі нашы сэрцы? Чаму, нават плачучы, вочы нашы застаюцца сухімі? Ці сапраўды, калі людзі жывуць так, як жывуць, яны не заслугоўваюць большага? Хто адкажа? Каму — гэтыя пытанні? Часу? Вам? Усявышняму? Ці некаму яшчэ? Здаецца, калі б знайшоўся той, хто адкажа,— знайшоўся б шлях у будучыню...

Не, не! І ва мне пуста і нада мной? Але ж шлях — вось ён, шлях, і трэба ісці, трэба ісці да канца. Жыццё не адно там, у туманным мроіве мар і згадак, яно ва ўсім, што акружае, ва ўсім, што адбываецца — цяпер, сёння, штоміг. Не вельмі каб радаснае і без блёстак? Куды ж — ад яго? Мо і бяда ўся ў тым, што не ўмеем, не навучаны мы радавацца — жыць. Жывым жыць. Існым. Такім, якое выпала. Якое не паўторыцца, не паўтараецца... Не, не! Чалавека можна ўтаптаць у гразь, кінуць у самае прадонне адчаю, але дух ягоны, калі асвятліў ён душу, растаптаць, змяшаць з граззю нельга: новымі, яшчэ больш смелымі спадзяваннямі падымаюцца парасткі яго над граззю, над крывёю, над адчаем. Трэба ісці... Трэба ісці да канца...»

* * *

Дзверы зачыніліся за імі мякка, без стуку, і змрок, густы, неадчэпны, з гулам, з дрыжаннем, ад якога, здалося, зайшлося ўсё ўсярэдзіне, прыхлынуў да твараў іх, да вачэй — Святлана адчула, як спалохана хіснулася да яе Марыя і вось ужо ўчапілася ў яе руку, міжволі цягнучы, падштурхваючы назад, у дзверы. «Смялей!» — шапнула яна, і нібыта ў адказ на яе шэпт за тры-чатыры крокі ад іх успыхнуў тэлеэкран, па ім лацінскімі літарамі пабеглі цітры фільма, закладзенага ў касету, і ў пакоі, слаба асветленым экранам, выразна пазначыліся постаці чатырох — не, пяці прысутных, якія сядзелі дзе хто: адзін — проста на падлозе.

— Прашу,— падняўся з крэсла непадалёку ад дзвярэй Кірыл і, галантна падтрымліваючы пад локаць, літаральна адарваў Марыю ад Святланы, каб усадзіць на сваё месца.— Мы праз пяць хвілін вернемся.

— Света! — запратэставала тая, але на яе зашыкалі: цішэй, маўляў, стужка размотваецца, і Марыя сцялася, зніякавела, не пачуўшы з-за музыкі, якая хлынула ў пакой, як зашчоўкнуўся мякка адведзены рукою Кірыла дзвярны замок.

Не пачула, не заўважыла гэтага і Святлана: другою рукою Кірыл амаль пяшчотна туліў яе да свайго пляча і адпусціў толькі тады, калі па нешырокай вінтавой лесвіцы трэба было падымацца наверх, у яго пакойчык, дзе, апроч нізкай кушэткі з мядзведжай шкурай на сцяне над ёй, шырокага выступу падаконня, якое замяняла стол і было завалена часопісамі, і старога стужкавага магнітафона проста на падлозе побач з кушэткай, практычна нічога больш не было. Не, гэты раз у глыбіні пакоя, у дальнім кутку яго, стаяў яшчэ электрарадыятар, ад якога даўкай хваляй патыхнула насустрач ім цяпло, і Святлана, расчуленая (мінулы раз было халаднавата і няўтульна), азірнулася на хлопца, нават памкнулася да яго, але той падштурхнуў яе наперад, да кушэткі.

— Смялей, дзетка. Я занадта доўга цябе чакаў.

— Чакаў? — не зважаючы ні на грубаваты жэст, ні на тон Кірыла, узрадавалася Святлана.

— Я і зараз чакаю. Варушыся!

Гэты раз словы, вымаўленыя з халодным раздражненнем, шкрабанулі, і рухі Святланы міжволі яшчэ больш запаволіліся: яна блыталася ў шырокіх рукавах світэра,

3 Зак. 2522

ад таго, што ўздрыгвалі пальцы, доўга спраўлялася з металічнаю засцежкаю на штроксах, ніяк не магла парасшпільваць гузікі на блузцы. Да Кірыла не паварочвалася, хоць ён відочна чакаў, бо не-не і пашчоўкваў у паветры пальцамі, быццам прыспешваючы, падганяючы. Не павярнулася і тады, калі распранулася: голыя плечы яе злёгку ўздрыгвалі, рукі сутаргава прыціскалі да грудзей скамечаную блузку.

— Ты мною не задаволена, дзетка? — крутануў, ірвануў яе да сябе Кірыл.— Але ж я яшчэ нават позірк свой не здаволіў, не кажучы пра астатняе, а?

Вырваная ў яе з рук блузка паляцела на падаконне.

— Мы, па-мойму, раз і назаўсёды дамовіліся пра нашы адносіны.

Рукі яго спакойна, без хвалявання, што ўразіла Святлану незвычайна (сёння яна чамусьці ўспрымала ўсё абвострана), слізганулі ўніз ад плячэй яе...

— Све-та!!! Святла-на...— пагукала яе Марыя, пагукала гучна і роспачна, і вокліч, кліч яе раптам абарваўся, прыглушаны ці то там, унізе, у агульным пакоі, ці то тут толькі, на слыху, бо Кірыл перагнуўся, хілячы яе за сабою, і якраз у той момант націснуў клавішу падрыхтаванага да работы магнітафона.

— Там...— памкнулася выслабаніцца з абдымку Святлана і не дагаварыла: той, завёўшы ёй за плечы руку і сцяўшы, сціснуўшы пальцамі шыю, паварочваў, прыўздымаў яе твар насустрач свайму, насустрач сваім губам, злёгку скрыўленым зараз усмешкаю,— не адвярнуцца, не вывернуцца.

Гучныя ўсхліпы труб заглушалі барабаны, адбіваючы рытм, падпарадкоўваючы гэтаму шалёнаму рытму і яе, злітую зараз у абдымку з Кірам: адгукалася цела яе, адгукалася незалежна ад трывогі, што ўспыхнула ў ёй і, нават захліснутая іншым, больш магутным агнём, не згасала, не знікала. Стужка ж раскручвалася — музыка запоўніла ўжо ўвесь пакой і цяпер пялёхкалася ў ёй, у яе венах, і душа Святланіна, зможаная, адступілася, адмовілася ад барацьбы, ад самога цела, асепленага, сляпога ў сваёй празе насалоды. Стужка раскручвалася — і вось ужо хіснулася, паплыла столь, вось ужо распаліся, расталі ў паветры, густым ад сонечных і зорных промняў, бярвенчатыя сцены дома і паток гучных, крыклівых музычных фраз пачаў захліствацъ наваколле. Хісталіся, наплывалі і адкочваліся назад разгалістыя сосны, як чаўны, пагой-

дваліся пад імі, чапляючыся за іх вузлаватае карэнне, дачныя хаты і хаткі, распаўзалася, адпаўзала ў бок ад перавітых паміж сабою сцежак маладая трава... Залатыя, сіне-шэрыя, зялёныя пляміны! Святлана сцірала іх з пагляду набраклымі слязьмі, вільготнымі вейкамі, а гэтыя пляміны зноў наплывалі, зноў і зноў сляпілі яе...

— Ты ўсё яшчэ мною не задаволена, дзетка? — не пачула, адчула яна рух Кіравых вуснаў і не адказала.

— Слёзы?! Што здарылася, дзетка?

Пытанне прагучала ў поўнай цішыні, і, мабыць, не столькі пытанне, колькі гэта цішыня пасля шаленства музыкі вярнула Святлану рэчаіснасці: за крок ад яе, побач з канапаю, стаяў Кір, ужо апрануты ў свой спартыўны касцюм, і позірк яго быў пільны і... задаволена-абыякавы! — гэтак бы яна вызначыла, калі б асмелілася. Яна не асмелілася, тут жа адмахнулася ад няўцямнай думкі, тут жа, прыкрыўшы вочы, стала пераконваць сябе, што Кір быў і больш страсны сёння, і больш пяшчотны.

Хліп! хліп! — усхліпвала цішыня, і Святлана не адразу зразумела, што гэта магнітафонная стужка, закончыўшыся, усё яшчэ чапляецца за няспынены дыск, калі ж зразумела, то ўсміхнулася. Спярша — усміхнулася, потым — схаладнела: рука Кіра, слізгануўшы ўздоўж па яе целу, здалася халоднай. Ледзяной.

— Я зараз,— тузанулася яна прэч ад гэтай рукі, сцялася ў пругкі камячок, каб падняцца, саскочыць з канапы, і, ледзь стрымаўшы стогн, што ўжо варочаўся ў ёй, уздыхнула: Кір не ўтрымваў яе.

Кір не ўтрымваў яе. Нават адвярнуўся, а потым і адышоў да акна, кінуўшы ёй яе блузку. Святлана таропка, не трапляючы то ў рукавы, то потым у калашыны штроксаў, нацягвала на сябе адзенне: пра штосьці яна не згадвала ўвесь гэты час, пра штосьці...

Позірк упёрся ў плечы Кіра і такі прыстыў да іх: Святлана бачыла, як ледзь заўважна прыўздымаліся яны ў такт дыханню, як напружыліся, адчуўшы і не прымаючы яе бездапаможнасць, як перасмыкнуліся, скідаючы гэта напружанне.

— Ты не адказала на маё пытанне.

— Я не помню...

— Цябе папярэджвалі, дзетка: калі ўзнікнуць праблемы — гэта т в а е праблемы. Твае. І мяне, у любым выпадку, яны не цікавяць. Я ясна выказваюся?

Ён выказваўся ясна, і яна яго не разумела. Так, яна

пагадзілася на ўсе Кіравы ўмовы, абы ён не адагнаў яе ад сябе, абы не прагнаў, але ж ёй здавалася, што Кіру патрэбна іншае, большае, што яму патрэбна яе каханне, і — кахала. Пакорна выконвала ролю, адведзеную ёй, і цярпліва чакала. Пэўна ж, чакала не таго, што аднойчы, у адну з сустрэч, злыя чары развеюцца і грубасць Кіра абернецца пяшчотаю, з'едлівая іронія — разуменнем, не. А тады — чаго?

— Каго гэта ты прывезла сёння?

— Ма... рыя...— захлынуўшыся словам, згадкаю, прадчуваннем, што здарылася штосьці кепскае, абавязкова — кепскае, асунулася, села на край канапы Святлана, і тут жа ўскочыла, ірванулася да дзвярэй. Перахопленая Кірам, не адчула болю ў сцятай, вывернутай руцэ, тузанулася.— Пусці! Ты не разумееш, не разумееш!

— Вось і растлумач, дзетка. Вунь яна, твая Марыя-Магдалена, — сілком павярнуў той яе да акна,— так? І — што далей?

Святлана ўплішчылася ў акно: вулачкаю, што вяла ўніз, да чыгункі, да чыгуначнай станцыі, ішла, дакладней — бегла Марыя: раскудлачаная, з куртачкаю, крысо якой валаклося па зямлі, у руцэ, яна і адсюль, здалёк, выглядала кімсьці або чымсьці напалоханай, і ў Святланы балюча сцялася сэрца. Боль зняў напружанне, але і сілы пазбавіў, яна і зварухнуцца не магла — адно пазірала ўслед Марыі, адно ўслухвалася ў гул электрычкі, які рос, накочваўся ўсё бліжэй і выразней, а потым доўга адкочваўся, раставаў у адвячоркавай цішыні.

Калі шчоўкнула клавіша нарэшце адключанага ад сеткі магнітафона, яна як апрытомнела. Павольна адвярнулася ад акна, амаль абыякава падумала, што гэта яе апошняя гаворка з Кірам — апошняя сустрэча, і, прыхапіўшы світэр, пайшла да дзвярэй. У дзвярах азірнулася.

— Гэта ж ты сцвярджаў: таго, хто тут упершыню, па крузе, аддаўшы публіцы, не пускаюць...

— Адкуль ты ўзяла, што яе пусцілі па крузе?

* * *

«Ave Maria!..» — тут, у наскрозь шкляной зале аэравакзала, успрымалася нечакана востра, самімі нервамі, агаленымі трывогаю, і чаканнем, якое зацягвалася, і гулам, што праз пэўны час, у адпаведнасці з раскладам рэйсаў,

абвальваўся звонку на будыніну, скаланаючы яе і змушаючы Паліну Аркадзьеўну па-пакутніцку моршчыцца і паводзіць галавою. Яна любіла Архіпаву, яе глыбокі, нутраны голас, але слухаць яе сярод гэткага скопішча людзей пад шалёны гул турбінных самалётаў? Не, не, у гэтым было нешта святатацкае (акварыум вакзала — замест храма!), у гэтым ёй, устрывожанай, разнерваванай, бачыўся нават нядобры знак: у сумачцы ж ляжала тэлеграма Сямёна, атрыманая ёю тры гадзіны таму, тэлеграма, страшная сваёй недасказанасцю. «Вылятай тэрмінова. Здарылася бяда. Сямён» — гэта магло азначаць што заўгодна. Нават Васіль... Антонавіч выглядаў сур'ёзна-занепакоеным...

Яшчэ здалёк, ледзьве згледзеў Паліну Аркадзьеўну на верандзе, замахаў ён рукою — пагукаў, і пры іх заўсёды строга афіцыйных на людзях адносінах жэст гэты сам па сабе напалохаў яе. Потым жа, калі яна збегла з прыступак, падбегла і была ўражана бледнасцю ў яго на твары, сумненняў не засталося: штосьці здарылася. Падумала ўжо: відаць, здымаюць... яе ці нават, крый божа...

— Паліна! Ты толькі не хвалюйся! Нічога пэўнага пакуль што не вядома.

— Што-небудзь здарылася? — пахаладнела ў яе ўсё ўнутры: унюхалі, высачылі іх сувязь і вынік, па сённяшніх часах, можа быць самы сумны! — Кепская вестка?

— Табе трэба пазваніць Сямёну... Анатольевічу. Нічога пэўнага пакуль што невядома, але прыйшла тэлеграма... Білет на самалёт табе заказваюць, машына будзе. Паспрабуеш дазваніцца дамоў і... Я, на жаль, не змагу цябе праводзіць. Ты ж разумееш, што зараз не той час, каб афішыраваць свае пачуцці.

Васіль Антонавіч злёгку падтрымліваў яе пад локаць, штосьці яшчэ гаварыў, супакойваючы, праводзячы яе да галоўнага корпуса, але Паліна Аркадзьеўна ўжо не чула — чула і не разумела ні слоў, ні таго, чаму, навошта ён супакойвае яе, калі невядома (ён жа сам толькі што запэўніваў!), што здарылася. Ёй і ў галаву не прыйшло спытацца пра тэлеграму — пра тэлеграму яна якраз забылася.

«Ave Maria!..» — прарывалася, вырвалася з-за сцяны гулу ў чарговы раз, і Паліна Аркадзьеўна міжволі, няўцямным рухам, памкнулася заткнуць вушы, у самы апошні момант апамятаўшыся («Людзі ж вакол!»), пацерла скроні, правяла пальцамі па твары: раскісаць было нельга.

«Раскісаць нельга!» — штоміг паўтарала яна ў думках, а думкі зноў і зноў вярталіся да гаворкі з Васілём Антонавічам, да тых слоў яго, адзіна ў якіх шукала яна зараз і разгадку і суцяшэнне. Нічога пэўнага пакуль што не вядома, навошта ж думаць пра самае горшае? Сямёну яна не дазванілася, у яго на рабоце нічога не ведаюць... Сон? Дык пры чым тут сон?

«Адна твая душа ў аплату за ўсе перавагі і прывілеі не ішла, не прымалася...» Душа! Можна падумаць, што хоць аднаму каму спатрэбілася б, прыдалася яе душа! Маладосцю, хараством сваім плаціла Паліна Аркадзьеўна — і Сямёну, чыёй жонкаю стала, каб застацца ў сталіцы і зрабіць першы крок па дарозе наверх, і Міхаілу Львовічу, чыёю воляю апынулася адразу на некалькі прыступак вышэй, трапіўшы ў самую прэстыжную катэгорыю — у наменклатуру, і Васілю Антонавічу... Нікому з іх і ў галаву не прыйшло б спытацца пра яе душу. Век, як кажуць, не той. Не душа ў цане...

Злавіўшы сябе на тым, што апраўдваецца — ці то перад Сяргеем, які звідзіўся ёй у сне, ці то перад сабою, уздыхнула. Прыслухалася. Здзівілася, што чуе толькі цішыню, падняла пагляд і знямела, знерухомела ад жаху. Ад нечаканасці і жаху; з усіх бакоў, праз шкляныя высокія сцены наплывалі на яе брудна-жоўтыя суцемкі, і ў гэтых суцемках, нібы ў кісялі, боўталіся крэслы, сумкі, чамаданы, рассыпаныя кімсьці паперы, кінутыя дзіцячыя цацкі, недаедзеныя булкі, агрызкі і акуркі — людзей не было, нікога, апроч яе, не было. Ні побач, ні далей. Зажмурыўшыся, прыкрыўшы вочы рукою, Паліна Аркадзьеўна ўсё роўна бачыла ўсе гэтыя мёртвыя рэчы вакол і хоць недзе была пераканана, што папросту ўяўленне падкінула ёй гэты малюнак, адно каб прадэманстраваць, як расхадзіліся сёння ў яе нервы, нейкі час баялася расплюшчыць вочы. З палёгкай уздыхнула, пачуўшы спакойны голас дыктара: «Пассажиров, вылетающих в Минск рейсом 1812, просим пройти на посадку»,— цішыня, размытая, расцягнутая шарканнем ног, перамовамі і кароткімі воклічамі, штурханінай дзесяткаў людзей, абчапляных сумкамі і пакункамі, больш не гняла, не прыгнечвала Паліну Аркадзьеўну. Яна, як і іншыя, паднялася, мітуслівя, хоць увесь багаж быў здадзены загадзя, агледзелася і паўз крэслы і састаўленыя ля іх чамаданы тых, хто адлятаў пазней, пачала прасоўвацца ўбок лесвіцы, каб спусціцца ўніз, у сектар, дзе ішла пасадка. Усе прывіды, усе страхі на нейкі

час адступілі перад яе рашучасцю, і нават неадчэпная думка пра дом і якуюсь бяду, над ім навіслую, набыла пэўную цвёрдасць і завершанасць: «Што там здарылася? Што магло ў яе адсутнасць здарыцца?»

* * *

Марыя зачыніла за сабою дзверы і хвіліну-другую стаяла ў парозе — спрабавала і ніяк не магла выбавіцца ад адчування, што з аднаго чужога свету трапіла ў іншы, гэткі ж непрывабны і непрымальны. «Дома! Ты дома! дома!» — білася, плакала ў ёй бездапаможная, глухая крыўда, і нічым не магла яна ёй адказаць. Ніводным рухам. Ды і не чула, здавалася. Стаяла, не чуючы ні яе, ні сябе: пуста, мёртва было ўнутры — да самага дна душы пуста. Быццам струшчыла, вынішчыла ўсё крыўда. Быццам выпек усё боль...

Калі, успусціўшы на падлогу сваю скамечаную, перапэцканую куртачку і не заўважыўшы гэтага, ішла цераз прыхожую ў ванную, штосьці зачапіла, тузанула яе — мо тут жа згаслая згадка пра раяль і музыку, якая яшчэ сёння ўранку жыла ў ім, мо да канца не ўсвядомленае жаданне прыпыніцца ля свайго фотаздымка на сцяне і перавярнуць, адвярнуць яго, каб тая, пятнаццацігадовая, яшчэ чыстая і бязвінная, не ўсміхалася так спачувальна. Хоць не, калі і цаплілася ў Марыі якое-небудзь жаданне, дык толькі жаданне, пачуўшы шум вады, скінуць з сябе ўсё, скінуць, садраць самую скуру і адціраць, сціраць гразь, наліплую, закарэлую ад прымесяў згвалтаванай крыві гразь гэтага дня,— адціраць доўга, да змогі, да поўнай змогі.

Зачыніўшыся ў ваннай, перш доўга слухала насцярожаную цішыню ззаду, за дзвярамі, потым пусціла ваду і, сунуўшы пад яе струмень руку, бяздумна пазірала, як імкліва, як пругка разбіваецца ён аб дрогкія, сутаргава растапыраныя яе пальцы, як чыстая, наскрозь празрыстая вада цямнее там, дзе натыкаецца на перашкоду, і на міг, перш чым абрынецца ўніз, пачынае адсвечваць ружовым... Ружовым? Унізе, збіраючыся, вада была цёмнай. Чорнай.

Адняла руку. Тужліва азірнулася на дзверы. Быццам падштурхнутая кім, заспяшалася, стала зрываць з сябе апратку і шпурляць яе ў ванну, у яшчэ больш пацямнелую ваду. Скаланулася, убачыўшы сябе ў вялікім люстры насупраць, і ўсхліпнула. Усхліпнула раз і другі раз.

І вось ужо плакала, заходзілася ў плачы, не чуючы ні сваіх горкіх, гучных усхліпаў, ні сваіх слёз: шум пушчанай на ўсю моц вады нарастаў, шырыўся, выцясняючы ўсе іншыя гукі, і было ў гэтым штосьці да жудасці недарэчнае, бяздушнае — быццам і слёзы Марыі, і няўцешная крыўда яе нічога ўжо больш у свеце не значылі, быццам змытыя патокамі вады пад ногі, на груду мокрай адзежы, самі сталі вадою і сцякуць, сыдуць ёю ў зямлю, у нябачную, адгароджаную цаглянымі карабкамі паверхаў і таму амаль не рэальную адсюль зямлю.

Калі вада, шлях якой перагарадзіў зацягнуты ў сцёк рукаў джэмпера, пачала падымацца і сталі ўсплываць больш лёгкія рэчы, Марыя не заўважыла. Злёгку прыўзняўшы твар, падставіўшы яго пад струмені, яна захлыналася і імі, і сваімі ўсхліпамі, што цішэлі, але ўсё яшчэ скаланалі бяссілае, ненавіснае ёй зараз цела. Здавалася, ніпто не магло змусіць яе зрабіць хоць самы звычайны рух — адвесці твар убок, але, адчуўшы ліпкія дотыкі і не зразумеўшы, што гэта адзежа — адзежа, а не чыесьці рукі! — наліпала да ног, Марыя тузанулася, ускрыкнула і, расплёскваючы ваду, выскачыла з ванны. Толькі ў прыхожай, калі згледзела на падлозе, пад сабою, лужынку вады, апрытомнела. Азірнулася на сцежку мокрых слядоў. Згледзела на ёй сябе, дзевяцігадовую, босую, з падаткнутаю, як навучыла бабуля, спаднічкаю і цяжкою мокраю анучаю ў руцэ,— разгубленую ад таго, што мама крычыць на бабулю, крычыць на ўсю хату: «Мая дачка н е б у д з е стаяць у гразі па калені ні дома, ні тут, запомніце! Падлогу адшкрэбці можа хто заўгодна, Марыі наканавана іншае. І н ш а е! І я не пацярплю, каб нашы прыезды сюды...»

Голас згас, знік гэтак жа раптоўна, як і загучаў. Але рэальнасць ужо набыла пэўныя межы, і Марыя больш не натыкалася позіркам на пустату: яна была дома, яна наслядзіла на паркеце і зараз збярэ, сатрэ ўсе гэтыя падцёкі, яна не выключыла душ і забыла накінуць халат... Рухі здаваліся крыху замаруджанымі, і ўсё ж і дзесяці хвілін не мінула, як парадак быў адноўлены: паркет свяціўся па-ранейшаму роўным залацістым святлом, халат, туга сцягнуты, шчыльна аблягаў стан, паскіданая ў ванну адзежа, выпаласканая і павыкручваная, цяжкімі жгутамі ляжала ў лёгкай пластмасавай бадзейцы. Штосьці яшчэ? Але, яна павінна падняцца на ліфце на адкрытую веранду, што на самым даху будынка, і развесіць усё, каб сох-

ла. Гэта потым. Крыху пазней. Штосьці яшчэ трымала яе тут, не адпускала.

Усмешка! Марыю не адпускала гэта ўсмешка на фотаздымку! — водсветы ўсмешкі ляжалі на ўсім вакол, і ўсе рэчы ажывалі, жылі якімсьці сваім таямнічым жыццём толькі таму, што памяталі яе, што памяталі музыку тых шчаслівых, агучаных шчаслівымі спадзяваннямі хвілін. Яны памяталі, а Марыя...

Баязліва, гатовая ў любы момант адступіць, адмовіцца ад свайго жадання, наблізілася Марыя да адчыненых дзвярэй у пакой, дзе стаяў раяль, прайшла да інструмента і за які крок ад яго спынілася, знерухомела. Слухала. Слухала глухое, абыякавае маўчанне — і ні шкадаванне, ні смутак ні на міг не зварухнуліся ў ёй. Балюча нацягваліся і рваліся якіясь дрыготкія струны ў грудзях, але — бязгучна і, здавалася, гэтак жа абыякава. І ўсё. Музыка ў ёй, хоць у гэта нельга, немагчыма было паверыць, памерла.

Памерла... Вось што было самае невыноснае для Марыі: памерці павінны былі разам.

На міг ёй здалося, што варта асмеліцца і крануцца раяля — і ён адгукнецца, загучыць. Марыя нават зрабіла той крок, які падзяляў іх, і прыўзняла, паднесла да яго руку — цень рукі, адбітак яе на паліраванай паверхні, застыў, няўклюдна варухнуўся і тут жа адхіснуўся, знік, сцёрты яе наступным рухам: Марыя рэзка крутанулася і пайшла з пакоя. Нейкі час, блытаючыся ў крыссі доўгага халата, няўцямна кружыла па прыхожай, потым, знямоżаная гэтым бязмэтным кружэннем, упала ў крэсла, што стаяла побач са столікам для тэлефона. І зноў слухала, слухала цішыню ў сабе...

— Тата заўважыў, што ты змянілася, Марыя, і ўстрывожаны. Спадзяюся, твая маўклівая, зацятая адчужанасць не звязана з амурнымі справамі? Экзамены вось-вось, потым конкурс на паступленне ў кансерваторыю... Шкада, што пуцёўка ў санаторый выпала якраз на гэты час, а то б я...

— Ну, навошта ты, мама? У цябе — сваё жыццё, і не трэба, не трэба прыкідвацца, што ты шкадуеш аб гэтым.

— Пры-кід-вацца?! Ды адкуль ты ўзяла, што я прыкідваюся?

— Ты ж едзеш не адна. І потым...

— Якія яшчэ «потым»? І што значыць «не адна»? Мо ты скажаш, што маеш на ўвазе?

— Гэта не важна. Мы не пра тое, не пра тое гаворым з табою, мама, як ты гэтага не разумееш? Мы не пра тое...

Марыя падняла вочы на тую сябе, на фотаздымку, і сумна, горка ўсміхнулася ў адказ на яе адкрытую ўсмешку. Сабраўшы ўсю волю, паднялася, пацяжэлымі і ад таго яшчэ больш павольнымі крокамі скіравалася ў ванную, узяла бадзейку з выпаласканым адзеннем і выйшла з кватэры. Ад ліфта вярнулася і шчыльна зачыніла дзверы. Пачуўшы, як шчоўкнуў аўтаматычны замок, перасмыкнула плячыма (ключ застаўся на століку) і заспяшалася.

Яе сустрэла неба. Не, сустрэла — не дакладна: у такім выпадку неба павінна б угледзець яе, заўважыць, а яно, гарачае, неабдымнае ў гэтай паводцы золата і чырвані вечара, заходу сонца, не скалыхнулася — ляжала ўгары спакойна, калі не абыякава. Ды і абыякава! З чаго б яно раптам адгукалася на чыюсьці немату? А Марыя нема глядзела на яго, чакаючы цуду,— не верыла ў цуд і чакала яго. Вось-вось, здавалася ёй, хіснецца непарушная глыба вышыні і ссунецца, і ў шчыліну, якая будзе шырэць, раздавацца, хлынуць дзівосныя гукі, празрыстыя, зіхоткія ў сваёй чысціні, і ў гэтых гуках ачысціцца яе душа. Вось-вось, здавалася ёй, паплывуць угары ўдары раскалыханага ад краю да краю нябёсаў звана і льга будзе, учапіўшыся за яго вужоўку, крыкам, плачам паляцець, праляцець над горадам, над усёй зямлёю, перш чым назаўсёды зліцца з урачыста-самотным звонам.

Марыя ўжо чула першыя кволыя гукі і напружвала слых, каб злавіць, ухапіць простую музычную тэму, што ўзнікала, верхнімі шчымлівымі нотамі прарастала ў плач, у крык і гэтым нізкім, ужо нечалавечым крыкам гублялася ў вышыні, дзесьці ў Сусвеце, каб дайсці, данесціся адтуль голасам, поклічам — не спадарожніка, у якога ёсць планета, якая яго паслала, а планеты, у якой больш нікога няма — ні чалавека, ні жыцця, ні Бога... Можа, толькі — спадзеўка на яшчэ адну, апошнюю спробу?

Толькі невысокая каменная балюстрада аддзяляла Марыю ад неба, што раптам наблізілася амаль ушчытную,— ад неба і... І ад музыкі! Бо вось жа не ўлоўлівала яна больш ніводнага гуку: узнікла тэма і, нават не акрэсліўшыся, згінула, патанула ў чырвона-залатым мроіве вечара, у даўкім, горкім яго маўчанні. Невыказны, невыносны адчай захліснуў яе: яна ж адчувала, адчувала калісьці таямніцу музыкі, яе чыстай гармоніі, усяго два-тры крокі заставалася...

Два-тры крокі — не адлегласць. Не тая адлегласць, што спыніла б Марыю. Лёгка ўскочыла яна на балюстраду і, нібыта пагуканая кім, не заплюшчваючы воч, ступіла наперад. Ступіла — і неба не адхіснулася ад яе...

* * *

Неба палымнела з рэдкай для красавіцкіх вечароў сілаю — тут, у горадзе, прыўзнятая, адцесненая высокімі гмахамі і крыжападобнымі антэнамі на плоскіх іх дахах, гэта чырвань здавалася злавеснаю. Падзеленая, паразрываная, калі глядзець знізу, на шматкі і палосы, яна шчамілася ў прагалы паміж дамамі, сцякала па сценах, трывожна адбліскваючы ў шыбах акон, і гусцела так павольна, што, нават пільна раз-пораз узіраючыся, заўважыць гэта было цяжка. Святлана, праўда, і не імкнулася нічога асаблівага вышукваць там, угары, і задзірала галаву хутчэй таму, што і ў прывакзальнай штурханіне то адзін, то другі міжволі дзівіўся на неба, а то і адгукаўся на яго трывогу — мармытаў штосьці сабе пад нос. Як тая цётка, якую яна толькі што абагнала. «Знак, не знак... І што гэта ўжо будзе?» — мовіла яна кожнаму, хто абмінаў яе і яе вялікі чамадан на асфальце, і, як апамятаўшыся, рушыла далей, па якіхсьці сваіх справах, толькі тады, калі нейкі даўгалыгі і пляшывы разумнік (Святлана бачыла яго толькі са спіны) даволі груба зачапіў яе сваім «Чаго ты раскаркалася, цётка? Ішла б сабе, куды ідзеш!».

Іншым бы разам, ды яшчэ у кампаніі хлопцаў, Святлана пасмяялася б («Бач ты на яго: неабыякавы!»), а сёння толькі зіркнула ўслед пляшываму з непрыязнасцю, якая здзівіла яе самую: сказаў і сказаў, чаго не скажаш, калі ў спешцы наткнешся на чый чамадан!

— Вы не падкажаце, чым лепш дабірацца ад вакзала да камвольнага?

Зіркнула на таго, хто пытаўся: малады, вочы нахабна-дапытлівыя (пазабавіцца за яе кошт выразшыў!), адказала:

— На ТУ-154.

І не ўсміхнулася ў адказ на яго белазубую ўсмешку.

Набліжаўся трамвай. Маршрут яго ёй не падыходзіў, але, не зважаючы на чырвонае святло і двух дружыннікаў па той бок праезджай часткі, Святлана матлянулася цераз дарогу, да трамвайнага прыпынку, спакойна, пагардліва працадзіўшы праз зубы: «Пайшоў ты...», атрэсла руку падаспелага добраахвотніка парадку і ўскочыла на

прыступку: адзін прыпынак праедзе, а там ці перасядзе на другі трамвай, ці пешкі спусціцца з горкі на той бок Свіслачы, за мостам, будзе, лічы, на месцы. На месцы... Спахмурнела, мерзнучы ці мо злёгку нервуючыся, засунула рукі ў шырокія рукавы світэра і так, не расціскаючы рук, і выскачыла з вагона, ледзь толькі ён спыніўся. Не перайшла на тратуар, як таго вымагалі правілы ды і проста бяспека, стаяла пасярод вуліцы, побач з трамвайнымі рэйкамі і разважала: чакаць ці не чакаць...

Разважала нядоўга. Прыгнечаная і нядобрым прадчуваннем, ад якога ніяк не магла выбавіцца, і апалела-яркім ззяннем неба (тут, на горцы, воч ад яго не было куды дзець), крутанулася і пабегла ў бок ракі, за якой, у адным з самых прэстыжных раёнаў горада, жыла Марыя.

«Не трэба, нельга было везці Марыю з сабой!» — зноў загучала ў ёй запозненае шкадаванне, і гэты раз Святлана не адмахнулася ад яго. Трывога яе нарастала. Кіру, яго «публіцы» можна было аддаць любую — каго заўгодна, толькі не яе, не Марыю: гэта азначала б аддаць яе...

Злякнулася ўпершыню выразна акрэсленай, хоць і абарванай на сярэдзіне, думкі («Не, не! З чаго б раптам! Кожнай жа наканавана некалі стаць жанчынай!»), злякнулася і яшчэ прыспешыла крокі. Разумела ж, што Марыя — не «кожная», што яна, Святлана, дрэнь, калі тую, каго пасвойму абагаўляла ўсе гэтыя гады, з першага класа, лічы, аддала на здзек, на гвалт, калі і зараз вышуквала апраўданні, баранілася спадзяваннем на цуд: «Марыя не асмеліцца, Марыя не захоча...»

Яна, Святлана, канечне, дрэнь, і Кір — Кір, якому аддана, пакорна служыла яна і душою і целам,— гэтаксама дрэнь. Яшчэ большая. За сябе спалохаўся: як жа, дачку міністра ў госці адразу не ўчуў, судом запахла... І чысценькі ж нібыта, а віну, пашукаўшы, знойдзеш... Суд, віна, верагоднасць пакарання — Святлана пра гэта не думала. Ні пра што яна зараз не думала. «Не трэба, нельга было везці з сабой Марыю!» — і ўсё. І ўсе словы, што засталіся ў ёй і зрэдчас гучалі, падганяючы, прыспешваючы.

А чырвань угары не цямнела, не шэрхла, і гарачыя водсветы яе сцякалі па аконных шыбах, і здавалася, што ў гэтым руху іх патанаюць, размываюцца абрысы камяніц і яшчэ не адзетых у лісцё таполяў. У нейкі момант Святлане нават здалося, што і набрынялая чырванню рака, і камяніцы з павыяданымі агнём вокнамі, і чорныя, мёртвыя на іх фоне таполі — плод яе фантазіі: наўяўляла чорт ве-

дае чаго... Але здалося і здалося... Фантазія была яўна ні пры чым. Бо вось жа і іншыя з трывогаю азіраліся на неба. Бо вось жа не адна яна ўздрыгнула, пачуўшы сірэну «хуткай дапамогі». Трывога была разліта ў самім паветры.

«Заўтра дваццаць сёмага... Марыю запрашаў да сябе прафесар кансерваторыі»,— прыгадалася раптам Святлане, і яна двойчы ці тройчы вярталася да думкі, спрабуючы зразумець сувязь яе з гэтымі вячэрнімі хвілінамі, з гэтым шаленствам фарбаў вакол, з гэтаю агоніяй (інакш не назавеш) красавіцкага сонца. А позірк ужо мкнуўся ў глыб двара, туды дзе з-за вугла дзевяціпавярховіка павінен быў вось-вось вытыркнуцца, адкрыцца вугал другога, таго, у якім жыла Марыя. А крокі ўжо запавольваліся. Не хапала дыхання. І рашучасць раптам пакінула яе. Быццам яна ўжо в е д а л а.

Калі, збочыўшы з дарогі, абагнула той, першы, дзевяціпавярховік і ля аднаго з пад'ездаў — таго, куды ішла, убачыла людскі натоўп, не злякнулася. Нават не здзівілася. Трывога, горкае адчуванне віны, страх перад тым, што магло здарыцца і здарылася, змяніліся глыбокаю абыякавасцю да ўсяго. Пуста стала ў душы — так пуста, што сэрца бухала ў грудзях проста-такі аглушальна. Святлана нічога за ім не чула. Ні сірэны «хуткай дапамогі», што падрульвала да натоўпу, ні гулу галасоў, ні сваіх крокаў, цяжкіх і няўпэўненых. Яна — прадчувала. Яна ведала. Кінулася наўздагон, спадзеючыся паспець...

Лепшае, відаць, што цяпер яна магла зрабіць,— павярнуцца і пайсці назад, пайсці адсюль. Куды заўгодна: на раку, у парк, дадому! Ніхто нічога ўжо не зменіць, ніхто... Прыдумалі дурацкага Ісуса, гэткага ж бездапаможнага, як і любы з людзей, цешыліся, чакалі цуду, а ў выніку: той, хто не вынішчае сваю веру сам, знішчаецца. Так або інакш. Рана або позна. Вось і Марыя... Не трэба, нельга было яе везці з сабою: Марыя жыла музыкаю, задыхалася ўжо, як і ўсе, атрутнымі выпарэннямі хлусні, але пакуль жыла ў ёй музыка... Абступілі! Дзівяцца. Смакуюць чужую смерць. Ніхто не азірнецца на ўздзетага на крыж Ісуса, а і ён — за тое ж... За чысціню спадзяванняў. За чысціню. За казку, якой хацеў вылечыць людства. Людства! Натоўп, падобны на гэты... Шыі выцягваюць, абы ўгледзець чужую кроў, у таго-сяго, глядзіш, і сляза па шчацэ скоціцца: беднае дзяўчо! пэўна ж, утварыла штоякое! А няхай... няхай ведае...

Святлана, нібы ўцякаючы ад сваіх думак, тупа тыцкалася ў спіны, пічыльна, плячо да пляча, падагнаныя ў гэтай жывой загарадцы вакол мёртвага цела, і не знаходзіла праходу, хоць бы малой шчылінкі, каб ушчаміцца, прабіцца наперад. Куды наперад і навошта ёй было туды, яна не адказала б. Ды і не пыталася б. Ні ў сябе, ні ў каго іншага. Ішла — ад спіны да спіны — па крузе — адзін круг, другі... Не чула нічыіх слоў, нічыіх вохканняў. Не бачыла, у чыю спіну ўтыкалася, як хацела ступіць наперад. Яе не ўпускалі ў круг, адштурхвалі — яна не разумела.

Калі ўзляцела, разбіўшы цішыню, якой яна была аглушана, жахлівае выццё сірэны,— непапраўнасць таго, што адбылося, дайшла да свядомасці Святланы. І доўга між камяніц і высокіх старых таполяў, падняўшы з іх голля зграі варання, кружыў адчайны крык, адчайны кліч яе:

— Марыя! Ма-рыя...

(ВЫПІСКА З СУДОВАГА ПРАТАКОЛА:

«Шаргун Святлана Пятроўна, яна ж — Дзетка, яна ж — Гун, 1969 года нараджэння, непаўналетняя, звязана з групаю Залужнага з верасня 1984 года. Апроч таго, што прымала ўдзел ва ўсіх оргіях, выконвала ролю агента па вярбоўцы малалетніх асоб, у большасці — школьніц: заманьвала іх на дачу, аддаючы на гвалт, і яны, тым самым, пад страхам страшнага пакарання ў выпадку нязгоды ці скаргі, уцягваліся ў распусту, а некаторыя далучаліся да карыстання наркотыкамі...»)

* * *

Жыццё ўсведамляецца толькі ў пражытым, у прамінулым. Колькі ні ўзірайся — няўлоўныя, бязважкія імгненні наслойваюцца адно на адно, утвараючы неадольную запруду гадоў, якая ўстае паміж толькі што бачным, адчувальным і цяпер адцесненым назад, за мяжу пагляду, і тым, што ўяўлялася далёкім, а то і недасяжным, і ўжо наблізілася, наплыло і вось-вось захлісне ўсё вакол, каб тут жа адхлынуць, адкаціцца, зліцца з суцемкамі, патануць у змроку. У змроку забыцця. І пакаранне ці палёгка ў тым — каму як лёс вызначыць.

Лёс! Яшчэ тыдзень таму Паліна Аркадзьеўна пасміхнулася б яму ў твар, калі б раптам сустрэла: і жыццё і сваё месца ў ім уяўляліся ёй калі і не вечнымі, то непарушнымі. Сны, прадчуванні — чым бы яны папалохалі яе, адну

з тых, хто моцна трымаўся за прывадныя рамяні сваёй эпохі? Прывідамі? Намёкамі на віну? Недарэчнымі папрокамі? Спасылкаю на новыя часы? Часы заўсёды новыя. Старыя — законы, па якіх яны прыходзяць і адыходзяць. І, помнячы аб гэтым, кожны жыў так, як заслугоўваў. Ці як склалася. Няхай нават так: як склалася. І так і так на адно выходзіла. І Паліна Аркадзьеўна не разумела...

Ды разумела яна ўсё, чорт вазьмі! Разумела. І прымала. Такім як ёсць. І ніколі не пашкадавала б, калі б... Усё ўпіралася ў гэтае «калі б», адзіна перад якім Паліне Аркадзьеўне трэба было апраўдацца, калі б яна захацела апраўдвацца. Яна — не хацела.

Прыйшоўшы да памяці, ні аб чым не ўспаміпала. З шырока адкрытымі вачамі, упершыся позіркам у белы, нічым не замглёны экран столі, ляжала моўчкі, нерухома. І ніводзін са споміпаў, што набіліся ў пакой і цесніліся ля ложка, не адбіваўся на гэтым экране, не трапляў у поле зроку, не закранаў. Не кранаў яе і клопат урачоў. Паліна Аркадзьеўна нібыта і не заўважала іх. Не адказвала на пытанні. Не рэагавала на словы і просьбы паесці, абыякава дазваляючы прывязваць да капельніцы або чарговага прыбора бяссільную і, здавалася, чужую руку. Чула і словы, і крокі, і ціхае мармытанне радыёпрыёмніка дзесьці непадалёку, але сэнс чутага не закранаў свядомасці — словы не знаходзілі ў ёй і малога, кволага водгуку.

Толькі аднойчы расцяліся яе губы — калі апрытомнела Паліна Аркадзьеўна і, з цяжкасцю, аграмадным намаганнем расплюшчыўшы вочы, пачула незнаёмы голас, нечым (ці не бясколернасцю?) падобны на той, прыглушаны вышынёю, у забытым ужо сне:

— У выніку аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі з 26 на 27 красавіка меў месца выкід радыёактыўных рэчываў у атмасферу. Меры па ліквідацыі ўзніклай небяспекі прымаюцца...

— Ты не помніш, чаму мы назвалі дачку Марыяй? — спыталася Паліна Аркадзьеўна, а ў каго спыталася, як не было нікога ў пакоі, не бачыла.

Імя прагучала. Змрок рассеяўся. І аказалася, што і тут, на святле, у залітым сонцам пакоі, гэтак жа, як і там, у бяспамяцтве, пуста — наскрозь пуста. Яе падманулі. Адчуванне, ледзьве зацепліўшыся, абярнулася зацятай, непапраўнаю і ад таго невыноснаю думкаю; яе падманулі, і ў ёй, і над ёй было пуста. Нават споміны не адбіваліся ў гэтай пустаце. Нават споміны...

# Дзённік жанчыны

*19 ліпеня*

Дата як дата. Нічога пэўнага не азначае. І не сярэдзіна лета, і не пачатак майго адпачынку. Два дні як прыехала. Два дні, якія нечакана ўсталі такой высокай, глухой сцяной паміж толькі што пражытым і сённяшнім — паміж мной і мной,— што, здаецца, вярнуцца назад, дадому, у звыклы, абжыты свет ужо немагчыма. Больш таго! — ён, той абжыты свет, згадваецца як нерэальны, несапраўдны. Мільгане згадка і знікне. Сама адпіхну, як не знікне. Я — адпачываю. Прыехала на поўдзень адпачываць і адпачываю.

Сонца, як яму і належыць, узыходзіць над морам, каб пацешыць мяне і тысячы людзей, што абляпілі ўсё ўзбярэжжа. Пацешыць — і схавацца ў аблокі. І яшчэ доўга каціцца там, над імі, пагрымваючы перунамі, вызвоньваючы лёгкімі струменьчыкамі дажджу. Сонца, мора, вецер... Усё як малявала па дарозе сюды ўяўленне, усё як хацела.

Хоць ці ўсё? Штосьці ж раптам прымусіла купіць ў кіёску гэты тоўсты сшытак, разгарнуць яго і напісаць: «19 ліпеня...» Прафесійнае? Рукі свярбяць? Пазакідвала ж усе блакноты — яшчэ дома! Газеты трэці дзень не купляю. Да тэлевізара — не падыходжу. З намерам не падыходжу: колькі тыдняў свет абыдзецца без мяне. Ведама ж, ад мяне, непрыкаянай, нешта залежыць! Цяпер — не раней, калі ўяўлялася, што няма больш важнай, больш адказнай работы, чым работа журналіста, калі думалася: адусюль, з усяго свету, усе нітачкі сыходзяцца ў маёй душы, і мне трэба адно словы патрэбныя між мноства іншых адшукаць...

Лёгка сказаць: патрэбныя словы... Каму — патрэбныя? Навошта? Што яны могуць змяніць у свеце? Ці ў чалавеку? Ці хоць бы ва мне? Што, калі я не магу зразумець таго, што адбываецца ў душы? Нейкай незнаёмай — сцішанай, разгубленай душы. Не азіралася на яе, на голас яе,— лягчэй было. А зараз... Што здарылася? Што? Нічога ж не павінна было здарыцца: кожнаму дню, кожнай хвіліне ў ім даўно вызначана месца ў бясконцай чарадзе спрэчак,

сустрэч, слоў. Справы, сустрэчы, размовы... Гэта і ёсць штодзённы клопат. Звыклы. Будзённы. Даўно неабходны. Нічога новага ніколі не здараецца. Нічога і не здарылася. Колькі ні прыгадваю першую сустрэчу — бачу толькі яркую, стракатую пляміну, размытую святлом. Згадка — не згадка... Так... Колькі імгненняў, у якія ўліваюцца, у якіх патанаюць, то ўсплываючы, то распаўзаючыся тонкімі промнямі сонца, сосны, хвалі, твары, воблакі, алешыны. Скласці з усіх гэтых адбіткаў усмешку — проста ўсмешку! — немагчыма. Нельга. А яна, гэтая ўсмешка, асвятляе цяпер усе мае думкі. Усе дні.

Не-не і вяртаюся да той сустрэчы, спрабуючы скласці, намаляваць рэальны вобраз невядомага шчасця. Вобраз невядомага шчасця... Так і чуецца пошленькі прысмак наліплага да языка штампа! Чыйго шчасця? Свайго? Цяпер? Глупства! Ёсць сотні чужых мне людзей, далёкіх альбо блізкіх — чужых! Навошта вылучаць з іх мноства аднаго, самага далёкага? Сустрэчы можна перабраць па пальцах — хапіла б і аднае рукі. Размоў было яшчэ меней: пра што размаўляць жанчыне з мужчынам? Паабяцалі помніць адно аднаго: чаго прасцей! Нечакана здалося, што, падаўшы адно аднаму рукі, мы спалучылі два жыцці. Як гэта ў вершы?

Сустрэліся. Знайшлі адно аднога,
Каб адагрэцца! — пасярод зямлі,
Дыханнем спалучаючы дарогі.
Па іх — праз нас! — цячэ імклівы час.
Балюча. Мы ж не адчуваем болю...
На міг? Навекі? Гэта больш за нас.
Не воля бога. Дый не наша воля.

Глупства, канечне. Усё падуладна волі. Волі сэрца. Ці волі розуму. Занадта цёмная сіла кідае нас адно да аднаго, каб слепа ёй скарацца: страсць рэдка перарастае ў каханне. Рэдка ці ніколі. Сустракаюцца — сутыкаюцца! — ці каб застацца побач на ўсё жыццё, ці каб адштурхнуцца адно ад аднаго і разбегчыся ў розныя бакі. Сцежкі рэдка сустракаюцца двойчы. Людзі... І людзі таксама.

А што да Бога... Хіба можна адрачыся ад таго, каго — не ведаеш, каго — няма?

Не раптам, не сёння дагнала горкае: я — адна! Як у маленстве — адна. Таму што ніколі і не падпускала нікога да сябе бліжэй, чым на блізкасць...

Божа мой, што я гавару? Я, урэшце, згодна і на пекла. Згодна ўпасці, ці ўварвацца, ці ўламацца туды! Толькі не

трэба весці мяне за ручку, угаворваючы саграпыць ці нават злёгку падштурхваючы ў спіну. Вось гэта — пе! Лёс ва ўладзе любові і нянавісці... Гучыць як насмешка. І любоў і нянавісць бяссільныя перад уладай часу: час не можа быць л ю б ы, час — такі, на які прыпала маё жыццё. Вось гэты — канкрэтны, асязальны. Да самай дробнай дэталькі асязальны, пазнавальны! Толькі што ўсхліпвала, захлыналася кожным усхліпам водаправодная труба, а вось ужо і дом, і парк, і вечар над ім захлынаюцца ўзмоцненымі магутнымі рэпрадуктарамі, усхліпамі гітар і вісклівым голасам моднай спявачкі.

Пекла... Каго ім сёння напалохаеш? Ядзерны век, ядзернае бяссонне зямлі, свет, які ўмяшчаецца ў божую кароўку на дзіцячай далоні... Усё скручана ў адзін балючы вузел, і яго, гэты вузел, не рассекчы — яго трэба развязваць, здзіраючы пазногці, здзіраючы скуру на пальцах, развязваць... Бяссонныя ночы? Душэўныя пакуты? Але ж не павінна быць ні пакут, ні душы. Баліць у грудзях — гэта змена артэрыяльнага ціску, сардэчная недастатковасць альбо парушэнне ў скарачэннях дыяфрагмы. Любы медыцынскі даведнік так скажа. Так і я кажу. Усё скручана ў адзін балючы вузел. У свеце. І ва мне. І я не ведаю, як да яго падступіцца. Чаму баляць, вяртаючыся, успаміны? Чаму вяртаюцца сказаныя і даўно забытыя мной словы? Чаму непакояць, нагадваючы аб сабе, даўнія — чужыя і свае — абяцанні? Чаму?

Не, так нельга. Увесь час звяртацца да сябе з пытаннямі — нічога не высветліш. Трэба неяк інакш. Як?

Я — згодна і на пекла, калі заслужыла яго. Ды толькі я сама і магу сказаць, ці заслужыла...

*20 ліпеня*

Ці заслужыла? Можа, і заслужыла.

Дасюль вяртаецца ў сны маці: ніяк не магу пазбавіцца адных і тых жа прывідаў, аднаго і таго ж болю. Пякучага болю, які падымае апоўначы і да самага рання чырвона-чорнымі кругамі калышацца над моцна сплюшчанымі вейкамі. Сказала неяк аб гэтым сяброўцы, а яна: «Стань на калені, папрасі прабачэння ў маці. За ўсё. За тое нават, у чым віны сваёй не чуеш. І вернецца спакой...» Глупства! Тэатральны жэст. Ведама ж, станеш на калені і адпрэчыш пакуту! Не раз, не два ўкленчвала я перад памяццю, перад мінулым. Прасіла адхлання, палёгкі. Хоць бы палёгкі. Бо які ж спакой, калі душа не ведае ціхамірна-

сці? Калі яна не можа пазбавіцца жорсткай, быццам не жаночай сілы? Не можа, хоць жорсткасць гэта супраць яе, душы, скіравана — усімі асцюкамі ў душу!

Ды і не дакладна гэта: жорсткасць... Змалку, адкуль сябе помню, усведамляла, што нарадзілася жанчынай і ўжо тым адным упрэжана ў воз адвечных зямных яе клопатаў і турбот. Усведамляла балюча, праз нязгоду — як самую большую несправядлівасць лёсу, жыцця. А клопаты, турботыраслі і раслі. Разам са мной. Змушаючы напружваць усе сілы, каб за буднямі — над імі! — быў чутны пошум крылаў. Крылаў вечнасці, якая належыць і мне.

Дасюль вяртаецца ў сны маці. І яе голас: «Чаго зноў галаву задрала? Варон лічыш?» Вароны і праўда звыкла лyталі над полем, над прысадамі. А я... Я палола, капанічыла, выбірала бульбу, перабірала яе. З маці. Ці сама. А потым, начапіўшы на лямпу самаробны абажур са старой газеты, гадзінамі праседжвала над падручнікамі, паўтараючы часавыя змены правільных і няправільных дзеясловаў англійскай мовы. Няправільныя — не запаміналіся, але вабілі якраз сваёй няправільнасцю, загадкавай адметнасцю. To get — got — gotten... Дасягнуць... Чаго я хацела дасягнуць, я не ведала. Адно што не любіла непарушныя ў сваіх межах правілы, заўсёды выбірала з іх выключэнні. Для сябе. І для ўсіх. Бо павінны ж былі быць сярод людзей і такія, якія складаюць выключэнне. Няправільныя. І гэтай сваёй няправільнасцю адметныя.

Пекла... Жахлівая казка пра абавязковае пакаранне. Потым. Некалі потым. Быццам гэтае «некалі» можа азначаць больш, чым «сёння». Мы ж і так пакараны — кожны сваім жыццём. Аднаму — свая зайздрасць душу точыць. Другому — чужая зайздрасць не дае дыхнуць. Трэцяму ці чацвёртаму — новы дзень новую хваробу прыносіць. Пятаму...

Не, не, нічога горшага, чым адчуваць сябе глінай у руках лёсу, няма і не будзе. І не можа чалавек з гэтым пагадзіцца. Не можа і не павінны. Нават калі адчувае штодзённы, цяжкі ціск гэтых няўмольных рук. Яно канечне: жыццё ва ўсіх аднолькавае, дадзенае пры нараджэнні, і чалавек жыве, як склалася, як складзецца. Але хто ведае, што пахавана ў яго душы, што мучае яго да скону, так і не збудзіўшы, так і не акрыліўшы душу? Хто гэта можа ведаць, як і пра сябе самога няшмат што скажаш...

Пішу: «пра сябе самога», а трэба б: пра сябе самую — пра сябе ж пішу! Права на выключэнне з правіл, права

на свабоду, незразумелая, забытая прага цеплыні, чалавечага разумення... Сцягваю ўсё ў адно — і не магу сцягнуць, не сцягваецца. То ў адным, то ў другім месцы рвецца, лопаецца. І зноў трэба ўсё — спачатку, зноў на сябе, на гордасць сваю наступаць. Самой. Без загаду ці просьбы збоку. Толькі таму, што з жыццём не паспрачаешся. А і паспрачаешся — яно ўсё адно верх возьме...

Збегла. З'ехала. Ад сям'і. Ад работы. Ад мінулага і ад будучага. Ад сябе, урэшце. А лёс ціхенька смяецца ўбаку. Заплюшчу вочы — і бачу ягоную здзеклівую ўсмешку: збегла? з'ехала? Не, галубка, ад сябе не ўцячэш!

Не ўцячэш... Гэта я ўжо ўразумела. Таму і праседжваю па паўдня і паўночы з гэтым сшыткам. З гэтым, як раней, дома,— з іншым... Так было ўжо. Так было заўсёды, калі словы пачыналі балець знутры, з душы, і ўзнікала патрэба ачысціцца, вызваліцца ад усяго, што мучыць, што не дае дыхаць. Жыццёва неабходны працэс! Інакш захлынулася б. Болем. Ці нянавісцю. Ці агідай. Ці любоўю... Ніякіх запонаў унутры. Вірлівая, каламутная плынь свядомасці, якая разбурае ўсё ў пошуку выйсця.

«Стань на калені...» Калі б гэтым жэстам можна было ўратаваць спакой — уратаваць душу.

Думала, што неяк абміну бездань, якую капала ў сабе сама. І нават не заўважыла, што лячу ў яе — упала! І сцяна адчаю — зверху, да самага неба. Ніводнай светлай плямінкі. Госпадзі, ды што ж гэта такое? Колькі ж можна прабіваць гэтую сцяну і ўзлятаць — падымацца над сабой, а потым так балюча разбівацца? Колькі можна трываць? Хочацца памерці...

Не, не! Нічога не здарылася. Нічога не змянілася. Усе змены — ва мне. Я не магу больш, не магу... Увесь час б'юся аб сцены. І ў сабе — сцены, і навокал, і ў кожным. Нічога — нікога жывога? А я так хачу жыць — піць жыццё — нагбом! І не магу бясконца разбівацца ў кроў, сама камянею... Мінаюць дні, гады. Я не іду ўжо — бягу, зноў і зноў адольваючы змогу. Даводжу сабе: не магу спыніцца. Не тое, не. Баюся. Баюся: раптам убачу вакол сябе пустату? Раптам...

Хоць што калупацца ў прычынах гэтага страху цяпер! Проста надараюцца мінуты — зараз такая мінута,— калі стала б пасярод зямлі і закрычала: «Я слабая! Я жанчына і хачу любіць! Хачу, каб мяне любілі!» І не крычу адно таму, што не пачуюць. Ніхто не пачуе. Вушы будуць затыкаць, абы не пачуць. Працаўніца, хатняя гаспадыня,

маці, жонка, каханка — кожны можа разлічваць на тое, што яму патрэбна. Гэта зручна. З гэтым усе даўно звыкліся. Ніхто нічога не прагне мяняць: што — на што? Зручны расклад жыцця — на пошук сонечнага зайчыка? Звыклую сцежку, што нітуе з домам і людзьмі,— на хісткі міраж? Не, сентыментальным наш век ніяк не назавеш.

Ды што ківаць на век! Сама ж змалку знішчала ў сабе кволыя парасткі сентыментальнасці, сама ж смяялася з сваіх летуценняў. І няспынны мой пошук роднасці ў каханні — з каханым! — не камусьці, мне самой уяўляўся дзіўным. Ды чаго там — і зараз уяўляецца. Шукала і шукаю роднасць, каб, знайшоўшы, не прыняць... Спадзявалася, спадзяюся, што каханне і ёсць той прытулак, які шукае душа, і цураюся кахання, ледзь адчуваю яго набліжэнне, нават не ўсведамляючы віны...

Цуд? Таямніца? Ды ўсё ж даўно вытлумачана, разгадана, расказана і перарасказана. Звычайны шал пачуцця, які часова зрушвае з месца звыклыя рэчы, паняцці, перакананні. Кароткае забыццё, растварэнне сябе ў кімсьці іншым. Патрэба, уцеха, падман... Як хочаш назаві, а цуд не адбываецца... О, калі б усё было так проста!

Ехала сюды з цвёрдым намерам не заводзіць новых знаёмстваў, пазбягаць і самых бяскрыўдных, свецкіх размоў: лёгкасці ў адносінах не прымаю, а хварэць нікім — нічыім лёсам! — больш не хачу. Ды і час з сабой, урэшце, разабрацца. Скрозь людзі, людзі, людзі! У рэдакцыі дзверы не зачыняюцца, дома — тэлефон не змаўкае. Тут...

Не, трэба рашуча абарваць першую кволую нітачку! Адразу — ледзь зазірнула ў яго цёмны позірк — зразумела: у гэтай душы — бездань. Нічым не прыкрытая. Балючая. Бездань, з якой ён не выберацца. Гэта я пра суседа за сталом. Пра ленінградца. Глеб Гаруноў — так ён адрэкамендаваўся. Яшчэ злёгку голаў схіліў, каб патушыць раптоўную надзею ў позірку. Холадна кіўнула ў адказ, не назваўшы сваё імя. Ніякіх знаёмстваў! У кожнага — сваё жыццё. У мяне — таксама. Гэта я сабе адразу сказала. І паўтараю зараз толькі таму, каб сказанае стала пераканаңнем. Усё роўна мне ніколі не наталіць сваю прагу справядлівасці. Справядлівасці для кожнага. Для кожнага і ва ўсім — у вялікім і малым. Зразумець — яшчэ не азначае дапамагчы. Ды і потым... Яму хутчэй за ўсё і з маёй дапамогай не выкараскацца: злом прайшоў па самым балючым у душы. Калі набліжуся, падам руку — магчыма, і сябе загублю.

От характар! Проста захворваю на пянічасці людскія. Знешне, вонкава, халодная, абыякавая — днямі, тыднямі выкараскваюся з аднаго тужлівага позірку. І знаю ж, ведаю, што спадзявацца няма на каго. І мне. І Глебу гэтаму. І любому. А чамусьці кожны раз спрабую нейкім чынам перавырашыць вызначанае. Як не перавырашыць, дык хоць бы аблегчыць. Мо таму, што шукаю палёгкі і для сябе...

Балюча. Балючыя думкі. Ды куда — ад іх? Ва ўспаміны?

*21 ліпеня*

Я люблю ўспаміны. Люблю апускацца ў іх халодныя прыцемкі і плыць, плыць, павольна адводзячы рукой то адзін, то другі малюнак,— так плывеш па вячэрнім возеры, адводзячы рукой то цяжкія вільготныя лілеі, то іх шырокія, пляскатыя лісты. Адчуванне незвычайнае. Уся ты лёгкая, лёгкая, і прыцемкі не гусцеюць, становяцца ўсё больш празрыстымі — раптоўна нібы спадае заслона і трапляеш у паўзабытае за справамі імгненне жыцця, асветленае дрыготкім, таямнічым святлом памяці. Ты нічога не можаш змяніць у ім, але тое, з якім пачуццём дакранаешся да яго, мяняе асвятленне — адзін і той жа малюнак бачыцца кожны раз па-новаму. І зноў нанова пераживаеш пераж ытае...

Куды я плыву сягоння? Не знаю. Я ўсё імкнуся дасягнуць той мяжы, за якой нада мной узыдзе па-дзіцячы шчаслівы твар самага чужога і самага жаданага з усіх, каго я страчала калі-небудзь. ЯГО. Ён усё-ткі ёсць. Быў! Таму што я так хачу. Таму што інакш не выжыць.

Справа, магчыма, зусім і не ў ім. Ва мне. У маіх адносінах да яго, у незнаёмай дасюль прасветленасці, што то радуе, то непакоіць. Ці радуе і непакоіць адначасова. Хоць, здавалася б, адкуль той прасветленасці ўзяцца: двое — два чужых адзін аднаму светы — дзве сям'і, урэшце....

Не падганяю словы, баюся апярэдзіць святло і разбіць штосьці нябачнае, крохкае — штосьці, без чаго ўжо не жыць. Упершыню баюся крануцца пачуцця словам, нават самым светлым, самым пяшчотным. Пачуцця? Я ж не ведаю, што гэта! Г э т а — неназываемае.

Не ўпершыню думаю аб гэтым. Не хачу думаць — і думаю. Шукаю хоць нейкае тлумачэнне. Прыгожы? Ды не. Хутчэй, упэўнены ў сабе і ў тым, што прыгажосць — спра-

ва дзесятая. Загадкавы? Хвілінамі. Калі глыбока задумваецца, прыкрываючы вочы рукой, незнаёма чуйнай, трапятлівай. Фанатычна ўлюбёны ў сваю навуку? Магчыма. Але ж я ад яго навукі — за сямю сценамі, жыццяне хоніць, каб прабіцца, наблізіцца. Гэта ён наблізіўся да мяне, засланіўшы ўсё вакол сваёй усмешкай. І як ускалыхнулася адразу душа, як затрымцела пры набліжэнні с а п р а ў д н а г а! Якая глыбіня — якія глыбіні — сталі бачныя, адкрыліся за ім! Здаецца, толькі б хапіла сілы ступіць у гэту бездань і не расцяць вуснаў, не пагукаць паратунак...

Упершыню баюся назваць мужчыну Каханым. Можа, таму што ўпершыню пакахала?

Не, не, г э т а — неназываемае. Зноў і зноў набліжаюся да той мяжы, за якой нада мной узышоў бы па-дзіцячы шчаслівы яго твар, і адступаю назад. У яву. У сонечны ліпеньскі дзень між гарамі і морам. У звон цыкад, які не заглушаюць ні ўздыхі хваль далёка ўнізе, ля падножжа майго адзіноцтва, ні мае думкі.

Падножжа адзіноцтва... Рэдактар бы гэта выкрасліў: недакладна. Не зусім дакладна. Хоць дом, у якім мяне пасялілі, на самой справе стаіць на гары, у парку, што нібыта павісае над морам, над залівам. Ды я мела на ўвазе і іншае...

*22 ліпеня*

Дзень, як перавернуты ўгору дном човен, пагойдваецца на хвалях святла, і я марна чапляюся за яго — думка саслізгвае і саслізгвае ў пустату...

Відаць, рана загаварыла пра сваё адзіноцтва. Захаваць яго будзе нялёгка. Не сядзець жа ў пакоі невылазна — без ежы, без паветра, без мора! Калі ні выходжу, куды ні скіруюся, абавязкова недзе паблізу гэты навяўлены Глеб. Кінься ён да мяне, проста зачапі словам альбо позіркам, у мяне б хоць з'явілася права абурыцца, паставіць яго на месца. Не так гэта цяжка, з усімі заўсёды ўдавалася. А тут — ніякай зачэпкі. Ніводнага руху з яго боку. Ніводнага слова звыш таго, што патрабуе этыкет. Асцярожна кранецца мяне позіркам і адвернецца. Аддана маўчыць, не парушаючы маё маўчанне. Адно што як сам не свой. Як чакае чаго. Чаго?

Побач з ім няўтульна. І за сталом. І ў холе бібліятэкі. І на пляжы. Чым я магу яму дапамагчы? Ды і не хачу я нікому дапамагаць: з сабой да ладу не дайду.

Колькі разоў выбудоўвала свой свет такім, каб ён быў падобны на навакольны, каб у ім можна было жыць хоць бы самым блізкім людзям. А адзін нечы дотык, адно слова — і ўсё рассыпалася. І зноў трэба было пачынаць усё спачатку. З улікам яшчэ аднаго паражэння. І ўсё апраўданне, што ніколі не сядзела склаўшы рукі, не адчайвалася, гледзячы на руіны, не абвінавачвала ўся і ўсіх. Проста — пачынала спачатку. Зноў спрабавала пабудаваць свой свет, зноў ішла насустрач людзям і іх неразуменню. Па абломках мінулага спадзявання. Не зважаючы на раны і вечныя гузакі: рушылася ж усё ва мне!

У сэрца ўваходзіць толькі тое, што ідзе ад сэрца, піша Жан-Жак Русо — раскрыты том яго ляжыць на маім стале. Не буду з ім спрачацца. Можа, і праўда маё сэрца выпраменьвае столькі балючых імпульсаў, што яму адгукаецца любое журботнае сэрца. Адгукаецца — і імкнецца насустрач, шукаючы суцяшэння, шукаючы роднасці. Можа. Але часцей было іншае. Было...

Ат! Што там было? Здаралася зрэдку адчуць родную душу, роднага чалавека, але ледзь адкрыешся, адкінеш ахоўную суровасць, імгненна пераконваешся: здалося. Усяго агульнага, што агульнае біяполе, як сёння модна тлумачыць.

Вось і гэты Глеб. Навошта ён высочвае кожнае маё з'яўленне? Чаго круціцца ўвесь час паблізу? Што нас можа зблізіць? Бездань, па краі якой ён ходзіць?

З цяжкасцю стрымліваю сябе, нейкія цяжкія, незадаволеныя словы. Здаецца, адпусці я павадок, на які сама сябе навязала,— і хлынуць гэтыя словы, хлынуць на таго, хто надарыцца паблізу, на таго, хто ў гэты момант побач. І таму ўсё накручваю павадок і накручваю: хвіліна, другая — і хрусне горла, ім перацiснутае...

Сарвалася нечакана. Сягоння. Сустрэўшы, як узяла за звычку, усход сонца ў моры, метраў за шэсцьдзесят ад берага, доўга плавала ўздоўж светлай праменнай дарожкі. Калі ж вырашыла вярнуцца, перш уважліва агледзела пусты яшчэ пляж. Глеба відаць не было. «Праспаў!» — падумала з палёгкай. «Хоць зарадку спакойна зраблю». Падумала — і забылася на яго. Праз колькі хвілін з прыемнасцю пацягвалася, выгіналася на пасланым ручніку, адчуваючы скурай кожны востры каменьчык. На знаёмае «Добрай раніцы!» ускочыла як уджаленая: зноў гэты асцярожны голас, гэты вінаваты позірк! Тры-чатыры крокі — і прастора раніцы, якая імі вымяраецца, уздыбілася паміж

намі празрыстай дрогкай сцяной і ўсё больш прыкметна пахіствалася ад майго гнеўнага дыхання. На момант я нават захлынулася гневам: адказаць, схавацца за ветлівую ўвагу, за добразычлівую ўсмешку, за знаёмыя словы? Ну, не! Трэба нарэшце высветліць, чаго ён ад мяне хоча!

— Чаго ты ўсюды ходзіш за мной? Чаго прымерваешся? Да лёгкасці курортнага рамана раптам пацягнула? Каля жанчыны пагрэцца захацелася? Няўжо не відаць, што я — не такая жанчына, не твая жанчына?

— Я чым-небудзь пакрыўдзіў вас? Вы забыліся прывітацца.

Мо таму, што адгукнуўся ён вельмі ціха, я раптам усвядоміла, што не прамаўляла словы, а выкрыквала, звяртаючыся да яго, чужога, ледзьве знаёмага, на «ты». Гэтае «ты» яшчэ кружылася ў паветры, абдавала твар жарам, доўжачы сваё гучанне і маю няёмкасць. А Глеб ужо адышоўся, не распранаючыся, апусціўся на мокрую гальку, там, куды час ад часу выкочваліся мяккія, ледзь прыкметныя хвалі.

— Добрай раніцы! — з'едліва кінула яму ў спіну. І ён здрыгануўся. Менавіта здрыгануўся, не ўздрыгнуў. І не павярнуўся.

Мне стала шкада сябе. Свайго адзіноцтва. Дакладна помню: не яго, Глеба, шкада, а сябе і свайго адзіноцтва. Аднаго імгнення хапіла, каб адчуць, што трапіла ў сіло. Што лёс гэтага чалавека нейкім чынам ужо ўплываў на мой лёс. І я... Я не магу нічога адпрэчыць. Як ніколі не магла, калі ступала насустрач таму, хто чакаў майго разумення. Калі ж я ступіла насустрач Глебу? Сёння ўранку? Раней — падсвядома?

Пры тых імклівых зменах у адносінах паміж людзьмі жанчыне цяжка заўсёды адчуваць сябе жанчынай. Гэта не мае словы. Гэта ўсё той жа Жан-Жак. І тут я згодна з ім, знаходзячы пацвярджэнне ў любым лёсе. У любым, і ў сваім.

Тады ўранку, каб неяк выйсці з няёмкага становішча, не знайшла нічога лепшага — працытавала філосафа Глебу. Побач з чужымі словамі мае словы, словы прабачэння, прагучалі не так напружана. Хоць узніклага напружання не знялі. Хутчэй заглыбілі. Удзячна, з надзеяй, заззяў павернуты да мяне яго цёмны позірк, і нічым, ніяк не магла я адгукнуцца на яго.

Роўнасць. Працэс эмансіпацыі. Ды каму і на якога д'ябла патрэбны гэтыя роўнасць і эмансіпацыя, калі пла-

та за іх — вось гэты балючы позірк і бездань — за ім? Калі любы мой крок пашырыць гэтую бездань — і мне не дагукацца да гэтага сэрца? Час — не за мяне, час — супраць мяне. А ён, Глеб гэты, верыць, што я, жанчына, здолею ўратаваць яго. Сваім разуменнем. Сваёй пяшчотай. Сваім цяплом.

Не ўратую. Не здолею. Занадта лёгка адступілася калісьці ад сябе, жанчыны, абраўшы — каб жа свабоду! — дарогу. Дарогу дужэйшых, чым я. Асоба... Божа мой, а што рабіць з гэтай «асобай» у сабе? Куды — з ёй? Усё часцей пачуваю сябе затраўленай, загнанай, і клопатамі і цяжкімі людскімі позіркамі загнанай у якісьці доўгі вузкі калідор, які з двух бакоў упіраецца ў тупік, і я ўжо не я: не тая, што напраўду, праўдашняя, а тая, што ва ўсіх навідавоку... Зваяваныя правы сталі абавязкамі. Усе. І тыя, якія спрадвеку лічыліся маімі. І чужыя. Хто выйграў? Я? Ды я хутчэй нагадваю загнаную жывёліну, чым свабодную асобу. Мужчына? Ды хіба можна іх, такіх рафініраваных, любіць? Часам нават паважаць іх цяжка... Дык хто выйграў? Хто першы паверне назад? Тут жа не загад патрэбны!

Самае сумнае — нічога не бачу, не магу разгледзець у сабе заўтрашняй. Вось яна Я, знаёмая незнаёмка,— здзіўлена разглядваю кволыя парасткі сентыментальнасці ў сваёй душы і чамусьці не спяшаюся іх паламаць, стрышчыць, знішчыць, як раней. Як заўсёды раней...

*23 ліпеня*

Жанчына... Хто мог расказаць мне, у чым яе хараство, што ўскладзена на яе прыродай і складае яе сутнасць? Маці? Яна, здаецца, зрабіла ўсё, каб страціць маю любоў: сваркі, п'янкі, п'яныя оргіі змалку засланялі яе — іншую, за працай, прыгожую сваёй сілай і ўменнем. Я ўзненавідзела ў маці жанчыну, усё жаночае: хіба не яно перашкаджала ёй стаць любімай намі, дзецьмі? І гэтае непрыняцце было не па-дзіцячы злое і непрымірымае. З гадамі, непрыкметна, пераносіла я яго на сябе, на сваё жаночае «я».

Не, я не перамагла сваю прыроду — занадта няроўныя сілы! Але і не скарылася ёй. Ніколі не несла пакорна яе рабства, ніколі не дазваляла ёй цалкам завалодаць мной. Разумела: усё ці нічога! — гэты прынцып у адносінах з людзьмі не самы лепшы. Сустракаюцца ж не проста двое, а двое — сярод мноства тых, з кім свядома ці міжволі

ўступаюць яны ва ўзаемаадносіны, з кім знітаваны дзесяткамі спраў, патрэб, абавязкаў. Ні ад каго нельга патрабаваць усяго: калі чалавек аддае табе сваю прыхільнасць, пяшчоту, калі ён аддае табе свае лепшыя хвіліны, ён аддае многа. Так гаворыць розум. Я чула гэтыя яго ўшчуванні заўжды. І тады, калі нават у галаву не прыходзіла задумацца над сваёй бунтоўнай непрымірымасцю з жыццём і сабой. Але і тады і цяпер я следавала абранаму прынцыпу. «Усё ці нічога!» — суцяшала сябе, разрываючы з адзінай сяброўкай маленства адно за тое, што ў момант выбару паміж мной і першым сваім абраннікам яна была на яго баку. «Усё ці нічога!» — адказала таму, каму ўпершыню даверыла свае вусны, свае надзеі, калі, адвергнуты мной за выпадковую здраду, ён прасіў прабачэння, на каленях прасіў. Выпадковых здрад не бывае. Выпадковых расстанняў таксама...

Не, не, я не апраўдваюся перад сабой. Проста хачу зразумець, чаму скрозь ганарылася сваім характарам, хоць столькі з-за яго пакутавала. Усё ці нічога — гэта звычайна нічога, як сказаў Глеб. Не сказаў — адказаў на нечаканае маё прызнанне ў тым, што ніяк не магу ўлагодзіць душу. Я абурылася: ён жа нічога не ведае пра мяне! А Глеб усміхнуўся. Неяк сумна ўсміхнуўся.

— Ты ягічэ пачні пра надуманасць, ненатуральнасць маіх паводзін! — адгарадзілася я ад гэтай усмешкі.— Мяне ўжо аднойчы назвалі інстытуткай з максімалісцкімі замашкамі. Так што не саромейся. Давод: жыццё мінае раней, чым усвядоміш, навошта яно нам дадзена, і ў ім усё значна прасцей, чым нам хацелася б.

— Жыццё такое, якога мы заслугоўваем.

Глеб ужо не ўсміхаўся. Ён сядзеў, абхапіўшы калені рукамі, за крок ад мяне. Спакойны. Сцішаны. Нібыта ні тлум перапоўненага пляжа, ні гул неспакойнага сёння мора не закранаў яго. «Хворы дэман!» — зварухнулася ўва мне шкадаванне. І я адагнала яго.

— Няхай так,— заспяшалася я пагадзіцца.— Але чаму я павінна шукаць прымірэння, згоды з жыццём, калі ў ім так часта сустракаюцца падман, подласць, крывадушша?

— Гэта не ў жыцці сустракаецца — між людзей.

— Божа мой, ну, канечне, між людзей! Ты чапляешся да слова. Мы гаворым аб адным і тым жа. Толькі ты — з вышыні свайго вопыту, а я — ад імя сваёй душы.

Глеб не адвёў пагляду, і мне стала сорамна за гэтае «ад імя сваёй душы». Але я ўпарта працягвала:

— Так, ад імя душы. Гэта яна, душа, абвінавачвае ў маім душэўным адзіноцтве — мяне. І толькі мяне. Быццам мы — кожная сама па сабе. Быццам мяне можна папракнуць у няшчырасці. Часам няшчырасць магла штосьці ўратаваць. Былі такія выпадкі. Але ж не прымала я яе. Не прымаю. І не разумею, чаму гэта горш, чаму няшчырасць лягчэй успрымаецца, чым падман. Вось і табе непрыемна тое, што кажу.

— Ты ж не мне гэта кажаш, сабе.

Я разгубілася: і сапраўды ж казала сабе. Каб неяк ураўнаважыць супярэчлівыя думкі. Здзіўлена зірнула на Глеба: занадта дакладна адчуваў ён кожны зрух у маёй душы. Занадта лёгка...

Відаць, разгубленасць мая нейкім чынам адбілася ў позірку, бо ён няўлоўным рухам крануўся маёй рукі і пажартаваў:

— Цяпер твая чарга чапляцца да слоў?

— Не,— паспрабавала я ўсміхнуцца.— Мяне чакае мора.

І ледзь прыкметнай сцежкай між цесна ссунутых лежакоў пачала выбірацца да вады.

Словы... У кожнага з іх гэтулькі значэнняў, адценняў, інтанацый, што няма нічога прасцей, чым схавацца за іх шматсэнсоўнасцю. Ці ж Глебу гэтага не ведаць! І я — недарэчы... «Душа... Няшчырасць...» Яшчэ падумае, што спагады, спачування шукаю. Хоць не. Ён — не падумае. Ён, як і я, не ўмее гуляць у словы. І ў пачуцці. І ніколі не ўмеў. А ва мне — чуе сваё. Магчыма, ужо страчанае».

Не скажу пэўна: тады я гэтак падумала ці зараз спрабую асэнсаваць тое, што адчула. Сваё — страчанае? Магчыма. Але тады адкуль у ім сіла? Я ж бачу, бачу ў ім бездань! Але бачу і сілу. І міжволі давяраю гэтай сіле. Міжволі шукаю апоры ў ёй.

Супярэчліва атрымліваецца. Бездань, апора... Чамусьці ўсё зблыталася. Збегла з дому, з горада — ад позняга свайго кахання, а душа баліць не па пакінутым... Не толькі па пакінутым. Дзесьці я чытала: каханне існуе, але яно распятае, гэтае каханне, і мы разам з ім. Калі распяцце азначае пакуту — я падпісалася б пад гэтымі словамі. Спадзявацца — няма на каго. І мне. І Глебу. І любому. Выпадаюць мінуты, калі вакол — пустата, пустыня, калі нават самыя блізкія — «за». За мяжой крыку.

За рысай магчымых зносін. Зрэдку рэха гэтага роспачнага крыку дакочваецца да людзей, трывожачы іх,— і тады ў тэлефоннай трубцы бадзёра-адчужана патрэсквае: «Трымайся! Усім нам патрэбна мужнасць». Быццам былі ці будуць часы, калі для таго, каб жыць, каб проста жыць, не спатрэбіцца мужнасць. Быццам мужнасць — толькі наша прывілея...

Азірнуцца: усё патанула ў гадах, не пакінуўшы ні колькі-небудзь значнага следу, ні ўспаміну. Хоць не. Успаміны ўсё-такі можна з дня памяці падняць. За захаванасць сказаць цяжка: большасць з іх — непрыемныя, і я спіхвала іх у адну груду — абы глыбей! Але адкапаць сёе-тое можна. Можна паспрабаваць. Есць жа якаясь сцяжына, што прывяла мяне да мяне сягонняшняй. Па меншай меры — была. Сведчаннем таму: я дайшла. Прыйшла. Хоць і не ўяўляю пакуль што куды...

*24 ліпеня*

Куды? Свет збудаваны такім чынам, што ўсе людзі лёгка замяняюцца адзін адным, растлумачыў Глеб. І не толькі на любой вытворчасці. У любым сэрцы. Памяць — для суцяшэння. І не пагаджацца з гэтым — хлусіць самому сабе... Я не пагадзілася. Навошта тады жыць? Каб жыць? Каб не ламаліся звенні ў ланцугу часу, як ён лічыць? Мы хлусім у іншым. У большым. Таму што прагнем толькі браць, толькі атрымліваць — і ад людзей, і ад прыроды. Як плату за тое, што жывём.

Калі задумацца, чаму на працягу стольких стагоддзяў панавала ў свеце рэлігія, атрымаецца: да Бога, да Хрыста, цягнуліся душы якраз таму, што ён — платы не браў. Што ён — сабой заплаціў, даўшы прыклад самаахвярнага служэння ісціне, людзям. Наша ісціна, наша праўда — іншая, але і яе нельга сцвердзіць, пакуль чалавек не адмовіцца ад платы, ад жадання толькі браць, атрымліваць. І нічога я не блытаю, самаадрачэннем гэта называй ці ідэалізмам.

Мікеланджэла, Бетховен, Талстой... Старыя майстры верылі, што чалавек заслугоўвае вечнасці, што душа яго павінна ачышчацца ад усяго цёмнага і балючага ў ёй, каб наблізіцца да неба. Да неба не ў значэнні «раю», а ў значэнні — вышыні, духоўнага ўздыму, духоўнага прасвятлення. Таму столькі светлай радасці ў адных з іх і столькі імклівай сілы пераадолення ў другіх.

Думаю, нам, нашаму часу не хапае і гэтай веры, і гэ-

тага імкненне да гармоніі, да гарманічнага спалучэння будзённай працы і святочнай мары, памкненне ачышчацца ад усяго цёмнага і балючага ў душы. Чалавек кахаецца ў дарах і смецці прагрэсу — і літаратура і мастацтва калупаюцца часам у дробным, будзённым, заўважаючы ў чалавеку толькі абывацеля. Не таму, што абывацель выйшаў сёння ў героі і смецця ў нас час больш, чым у любы іншы, не. Смецця заўсёды хапала. Хапала і тых, хто ў ім капаўся. Але раней — класікі — нават паказваючы такога чалавека, верылі і іншых, усіх, прымушалі верыць — у іншае прадвызначэнне яго, чалавека вось гэтага, вось гэткага. Хоць бы і мяне ўзяць...

— Памяць — для суцяшэння? Чым можа суцешыць мінулае? Ды і што такое гэта мінулае, калі ўсё, чым жыла, ва мне? Малюнкам. Ці дакорам. Ці шкадаваннем. Усё, што я адчуваю сёння, спела ва мне ўсе гэтыя гады. І ва ўцёкі ад самой сябе, ад няўтольнай прагі і немагчымасці любіць усіх і стаць шчаслівай, кінулася я не сёння...

ВЯСНА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ПЕРШАГА ГОДА... Вёска, куды я кіруюся ледзь не кожную суботу, па-вясноваму называецца Сінча. І стаіць яна — пасярод вясны. Ад чыгуначнай станцыі трэба прасёлкам, потым сцежкай узбоч каляіны, ісці нешта каля дванаццаці кіламетраў. Спярша праз поле, а затым лесам і лесам, забалочаным, змрочным,— любая прагаліна ледзь не на вачах зарастае алешнікам, ценьканне сініц заглушае цяжкое вуханне сычоў. А мінеш лес, дрыготкай далонню ўтрымліваючы гатовае выскачыць з грудзей сэрца, пагляду адкрыецца роўны шнурок хат, да стрэхаў зарослых бэзам. І — крыху ўбаку, на ўзгорку, пад купкай старых, высозных ялін, будыніна калгаснай фермы. Гэта і ёсць Сінча. І дзве сажалкі па абодва яе канцы — як два люстэркі, у чыіх срэбных тонях адбіваюцца сцежкі маіх спатканняў. Бо, канечне ж, дзеля гэтых спатканняў — дзеля высокага бялявага трактарыста, што чакае мяне цэлы тыдзень,— імкнуся я сюды па веснавым бездарожжы.

Дома тлумачу: да цёткі Алены. Хоць у Сінчы жывуць тры матчыны сястры і я магу жыць па чарзе ў кожнай, выбіраю заўсёды цётку Алену. Яна не распытвае штораз пра маці і маімі прыездамі не вельмі каб цікавіцца. Дапамагу што па гаспадарцы, выслухаю вясковыя навіны і — вольная. Дзверы цётка не замыкае, як поз-

на ні прыйду — не збуджу. Рапіцой скажу: з дзяўчатамі заседзелася...

Дзень, калі я пераконваюся, што цётка ведае прычыну маіх частых прыездаў, быў не па-вясноваму сцішаны. Здавалася, нават травы спынілі свой рост. І травы, і кветкі, і дрэвы — усё наўколле трывожна ўслухвалася ў цішыню. У мае крокі. Я міжволі запаволіла хаду, раз-пораз зіркаючы на неба. Хмурынак не было. Ніводнай. А дзень прыкметна цямнеў. Мінаючы сажалку, бачыла цьмянае, зацягнутае бруднаватай смугой люстэрка, у якім не адбіваліся ні вербы, ні зіхоткае, трывожнае неба.

— Дзіцятка, пасядзела б ты сёння са мной, старой! Моладзь уся ў Вялені. Гэлька Пахомава дачку замуж выдае. Усе там...

Цётка Алена чакала мяне. Прыземістую, мажную постаць яе каля весніц убачыла здалёку. Сцялася, абмерла сэрца.

— Штосьці здарылася, цётка Алена? — кінулася я да яе.

Яна спалохана замахала абедзвюма рукамі: «Свят, свят, свят!» — і засмяялася:

— Ад вас, маладых, і мы, старыя, вучымся ад пытанняў адмахвацца... Навальніца будзе. Ціха занадта. Трэба посцілкі з плота паздымаць ды на гарышчы развешаць, вось і чакала памочніцу.

Дапамагаю. Расказваю цётцы пра свае няхітрыя справы. Усміхаюся на яе дасціпныя характарыстыкі кожнага, пра каго заходзіць гаворка. Кручуся перад люстэркам, збіраючыся на вёску. Рэзка паварочваюся на цётчына тропкае:

— Моладзь уся ў Вялені. Усе там...

— Усе? — перапытваю і чую: зноў сцялася, абмерла сэрца.

— А як жа! Гэлька дачку замуж выдае. І хто б гэта раней вяселле ладзіў насупраць лета? Ды маладыя на старое не азіраюцца.

— Я прайдуся...

— І белабрысы твой там,— цётка сурова ссоўвае бровы, адразу стаўшы падобнай на маці.— Людзі кажуць: акруціла яго фіфа прыезджая, разводзёнка. Перад любым спадніцу задзірала, і гэны — туды ж!

— Я пайду,— рашуча перапыняю я яе. І сябе. Бо яшчэ міг, другі — і хлынулі б слёзы. Я адчувала гэтыя пякучыя слёзы зранку. Увесь дзень.

— Я пайду,— паўтараю яшчэ больш рашуча. І павольна-павольна іду да дзвярэй. Сляпымі рукамі намацваю клямку, машынальна пераступаю парог і ціха, без стуку, прычыняю дзверы.

«Не было б бяды з дзеўкай!» — далятае да слыху цётчын хрыпаваты голас. Але ўспрымаецца гучанне слоў, а не іх сэнс.

Сумотны шлях па слядах бяды... Усё жыццё пасля буду абыходзіць я яго, абмінаць, а вось заплюшчу вочы — і зноў іду хмарным адвячоркам паўз цікаўныя позіркі жанок і ўласныя словы прывітання, паўз зарослую лопухам да самых акенцаў лазню і пацямнелы ад дажджоў і сонца, перавязаны ручнікамі крыж на самым узлеску. Лес сустракае мяне прыцемкамі, яны з зеленавата-ліловых паступова становяцца шэрымі і пачынаюць гусцець. Яшчэ праз колькі крокаў адчуваю, што прыцемкі пачынаюць ліпнуць да мокрых шчок і вачэй.

Кожная ямка, кожны корч ці сук пад нагамі, кожная галіна, якую адводжу рукой, прымаюць самыя неверагодныя аблічча, палохаючы позірк. Страх не закранае душу — я іду і іду, хоць дарога амаль што незнаёмая, а збоку, з-за лесу, насоўваецца навальніца. Грому не чуваць, але цёмнае неба раз-пораз разломваецца, на міг агаляючы сваё халоднае бліскучае нутро.

Не чую я і музыкі, хоць ужо дайшла. Прыйшла. Колькі мінут хады, без сцежкі, нацянькі,— і вось ужо скачуць ярка асветленыя вокны крайняй вяленскай хаты. Разумею, што скачуць не вокны, а людзі — там, за вокнамі. Прыліпаю да аднаго з іх і са страхам углядаюся ў твары — яны ўсміхаюцца, рухаюцца, размаўляюць. Чамусьці бачу толькі твары. Мільганула на момант думка: «Чаму ж я не чую музыкі? Усё — як у нямым кіно...» Мільганула і згінула. А я... Мяне як варам аблілі: ва ўсё акно — твар майго... Не, два твары! — яго і яе. Той, развядзёпкі. Штосьці ліпкае, гарачае перашкаджае мне глядзець, і калі я змахваю рукой гэтае «штосьці», ужо не бачу твараў. Бачу, як знаёмыя хлапечыя рукі то прагна гладзяць, то сціскаюць жаночыя плечы...

Шлях назад, у Сінчу,— чамусьці зусім кароткі. Я не помню ні ям, ні карчоў, ні навальнічнага неба, ні цені крыжа, перавязанага ручнікамі. Здаецца, у наступнае імгненне вяртаецца да мяне свядомасць — і я пазнаю спа-

*А рукі (ці мо галіны?) адпускаюць яе, зноў яна чуе пошум лісця, спеў малінаўкі і ціхае бруенне ручайка. Расплываецца, святлее і цёмнае гарачае мроіва: спярша становяцца бачнымі старыя магутныя галіны, што адступаюць, расхінаюцца, адкрываючы краёк зорнага неба, потым і яны знікаюць, растаюць у ззянні, і толькі неба падымаецца, расце, раздаецца ўшыр, пакуль яна не застаецца з ім сам-насам.*

лоханыя вочы цёткі. Не чую, што яна пытаецца, адказваю на запытальны позірк:

— Я не плачу, цётка Алена. Гэта дождж. Бачыце?

І тут толькі заўважаю, што стаю у лужыне вады — вада сцякае з валасоў, з мокрай сукенкі проста на падлогу. Разгублена адступаю крок назад, балюча прыкусіўшы губу. Губы — салёныя...

Вось і ўся гісторыя. Канец яе. І што там ні кажы, абсалютна лагічны канец. Нават навальніца дарэчы. Як у добра прадуманым літаратурным сюжэце. Гатовае апавяданне — калі б не мой тэлеграфны стыль: пяро так хутка бегала па старонках сшытка, што я ледзь паспявала за ім.

Сюжэт... Апавяданне... Забаўкі гэта! Хай сабе і не ўсім даступныя забаўкі. Аднак нават геніі не могуць вытлумачыць, што дыктуе нам нашы ўчынкі. Кожны раз — новы душэўны зрух. І новая нечаканасць. Таму што авалодаць сабой яшчэ не азначае авалодаць лёсам. Пра мяне гэта дакладна.

І па сёння не ведаю, любіла я свайго трактарыста ці не. Але больш дваццаці гадоў, што адзін за адным уставалі паміж намі, я не хацела верыць, што існуе шчаслівае каханне, што каханне — самае большае шчасце, якога варты чалавек. Па шчырасці, і сягоння не веру.

*25 ліпеня*

Шчаслівае, нешчаслівае... Відаць, не гэта важна. Каханне ці ёсць, ці няма. Навошта іншыя меркі? Аб шчасці нельга меркаваць па ружова-салодкіх малюнках рамантыкаў: ах, калісьці на руках жанчыну насілі! Ах, Парыж! Ах, мільён руж! Мільён руж — у той час, як трэба гаварыць пра мільён памылак. Мільён і адну. Наступную...

Гэта я пра сябе. Бо што іншае, як не новая памылка,— Глеб? Я дазволіла яму наблізіцца. Уступіла ў дыялог. Выказала разуменне. Шкадую яго і нічым не выказваю сваё шкадаванне, каб не пакрыўдзіць. Спрабую абараніць невядома ад чаго. Адчуваю глыбокую духоўную роднасць з ім. Дужым — і бездапаможным. Чыстым — і... Не хачу! Мне страшна. За яго. І за сябе. Усё можа прыйсці да знаёмай развязкі...

ВОСЕНЬ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ДРУГОГА ГОДА... Жыву адно пачуццём вызвалення. Аграмадным, як цэлае жыццё

4 Зак. 2522

наперадзе. Нарэшце, я вырвалася з дому — з заўсёднага страху за сваю душу. Стала студэнткай. Вучуся. Веру, што дваццаць два рублі стыпендыі — цэлы скарб, што інтэрнат, у якім жыву,— самы лепшы ў горадзе, што дзяўчаты ў пакоі стануць самымі шчырымі сяброўкамі. Праўда, штовечар усе разбягаюцца. Спатканні, спатканні!

Я доўга, упарта не хачу ніякіх прыхільнасцей. Але ж і ад дзяўчат не хачу адставаць. І таксама іду на спатканне. Зноў іду на сустрэчу з тым, хто неяк прыкмеціў мяне ў натоўпе. Прыкмеціў і запыніў. І другі месяц спрабуе прыручыць маё насцярожанае сэрца. Не тое, каб гэта было мне зусім непрыемна,— няма радасці, таго светлага ўзрушэння, што прымушае з нецярпеннем чакаць кожную сустрэчу...

Сустракаемся. Размаўляем. Пра надвор'е, якое трымаецца ўжо колькі тыдняў. Пра Мінск, яго, а цяпер і мой родны горад. Пра сустрэчы і разлукі. Ні пра што! Нічога не трэба запамінаць, ні над чым не трэба задумвацца. Праўда, я часам заўважаю хваляванне спадарожніка, але ён кожны раз спраўляецца з ім і ніколі нічым не крыўдзіць майго даверу.

Алеі парку. Ціхая, з доўгімі перапынкамі, калі чуваць толькі нашы крокі, размова. Цукеркі, якія ён нязграбна суне мне ў руку і потым, час ад часу, угаворвае з'есці. Усё набліжаецца мінута развітання...

— Я еду ў камандзіроўку. Надоўга,— спыніўшыся, гаворыць ён.— Ты будзеш мяне чакаць.

— Не знаю.

— Ты чакай мяне, добра? Я... я пазнаёмлю цябе з мамай.

— І што ты ёй скажаш? — я разгубілася: занадта нечаканы паварот прымала наша знаёмства, і таму пытаюся першае, што прыйшло ў галаву, адварочваючыся ад хлопца.

— Што? Што я люблю цябе...

Перахапіла дыханне.

— Не трэба.

Я не пазнаю свайго голасу. Адштурхваю руку хлопца, гатовую падтрымаць мяне пад локаць. І, зачапіўшыся позіркам за яго збянтэжаны, недаўменны позірк, гавару, гавару, гавару. Пра Сінчу. Пра вясновую навальніцу. Пра недарэчныя намаганні сэрца зацвісці так, як цвітуць між цёплых сонечных промняў кветкі. Пра разбітае сваё пачуццё. Пра балючыя дотыкі ўспамінаў... Хваляванне вы-

сокай, гарачай хваляй захліствае голас, прарваўшы ўсе моцныя запоны памяці...

— Не! Не смей! Ніколі!

Вырываюся з абмяклых абдымкаў, падымаюся і, адсякаючы суровым і, што дзіўна, амаль спакойным паглядам лаўку, хлопца на ёй, кароткую адлегласць паміж намі, ступаю на сцежку. Ён кідаецца ўслед і быццам натыкаецца на гэтую нябачную мяжу — застывае, зніякавелы, пакрыўджаны.

Адчуваю, як балюча коле штосьці пад сэрцам, і не прыпыняюся...

«Дурніца! — сказалі мне пасля дзяўчаты.— Ён жа карэнны мінчанін, у яго пастаянная мінская прапіска». Прапіска, яно, канечне... Але хто ведае, якая прапіска патрэбна збалеламу, недаверліваму сэрцу?

З гадамі ўсё часцей здаецца, што людзі марна мітусяцца, шукаючы пару, будуючы дом, дбаючы пра яго дабрабыт,— колькі душэўна адзінокіх людзей жыве ў найсучасных, застаўленых імпартнай мэбляй кватэрах пры знешне дабрачынным мужу ці жонцы? Колькі іх, вырываючыся на гадзіну-дзве (на тыдзень-другі) з такога жаданага некалі дома, спрабуюць патапіць незразумела балючыя думкі ў віне альбо ў вачах выпадковай сяброўкі? Колькі іх губіць сябе, паступова співаючыся?

Нясцерпна глядзець на ўсё. Нясцерпна думаць аб тым, што не бачыш ніякага выйсця — ні для іх, ні для сябе, што пачуцці адміраюць. Адміраюць не таму, што жыццё хіліцца да свайго канца, да свайго завяршэння,— зусім не. Пачуцці адміраюць, бо ў і х н я м а п а т р э б ы. Няма патрэбы?! Быццам мароз па скуры.

Не, не, трэба неяк бараніцца. Трэба будаваць святло ў душы. Не ўяўляю, як і з чаго, але будаваць. Святло. Па мікрачасцінцы. Па тканцы. Каб усё, што трапляе ў душу, на святло, выпраменьвала радасць. Каб душа магла навучыцца радавацца самаму простаму ў жыцці — чалавечаму разуменню, прыходу раніцы, цяплу. Мы ж залежныя ад прыроды. Ад яе сілы. Ад яе справядлівай дабрыні. Ад яе шчодрасці. Сонца — трава — лес — сонца! Мы — недзе між імі. Знайшоўшы — адчуўшы! — сваё месца, далучаемся да чагосьці аграмаднага, першаснага для сябе. Далучаемся міжволі, усведамляючы толькі цяпло сонечных промняў і пах зямлі — пах травы, прэлага леташняга лісця, першых клейкіх лісткоў, тонка-зялёнага павуціння голля — магутны пах зямлі, які пануе над усім. А па-

вінны ж усвядоміць і сябе на гэтай зямлі, у гэтым аграмадным сусвеце! Дасюль нам проста не хапала ні часу, ні сілы на сябе саміх: занадта шмат было неадкладных спраў, занадта мала было ведаў.

І хіба не паспеў час? Жанчыны не хочуць мець дзяцей. Дзеці ледзь не з маленства робяцца чужымі сваім бацькам. Мужчыны супакойваюць сябе анекдотамі, разлічанымі на ўсе выпадкі жыцця і чакаюць матрыярхату. Усё зблыталася: сям'я, работа, спорт, выпадковыя сустрэчы, сяброўскія застоллі, ананімныя нядобразычліўцы, патрыятызм, чуткі. Быццам зямля закруцілася з шалёнай хуткасцю, а мы хапаемся за што заўгодна, абы ўтрымацца, абы не саслізнуць у страшную сваёй невядомасцю бездань. А ўтрымацца льга толькі за саміх сябе, за тыя карэньчыкі, якія абломваем у вечнай мітусні, у вечнай пагоні за прывідным шчасцем — добра, што яны зноў балюча адрастаюць і цягнуцца, цягнуцца ў глыб вякоў. Карэньчыкі адвечнай духоўнай роднасці... Не статкавае ж пачуццё аб'ядноўвае нас на самой справе!

Я не знаю, чым мы ўратуемся, што нас уратуе, і так хачу, каб гэта была любоў. Роднасць у каханні — з каханым! — роднасць з усімі, хто чысты сэрцам, хто прагне святла. Мне так здаецца часам. Тады, калі думаю пра будучыню...

На ўсіх — віна. І на мне. Бо і я не пакіну свету ніводнага слова надзеі, хоць і шукала іх, гэтыя словы. Шукала і не знаходзіла. І не знаходжу. Нават для сябе. Мо і тлумачыцца ўсё проста: ніводнага чалавека не зрабіла я па-сапраўднаму шчаслівым, навучыўшы яго любіць. Для гэтага мне трэба было любіць самой.

*26 ліпеня*

Трэба было палюбіць самой... Сказалася тое, у чым баялася прызнацца столькі гадоў: я не любіла. Прагнула кахання — і не магла, ці баялася, каго-небудзь палюбіць. Палюбіць пакутна. Да самазабыцця.

Гаварыла «люблю» — мужчыну! сабе! — каб апраўдаць мінуты страсці, у якія з круцізны сваёй гордасці падала, як у прадонне, не помнячы, ні хто я, ні што я. У такія мінуты ўсё перамагала прырода, падаграваючы і без таго гарачую, нястрымную кроў. Зрэдку адчувала пасля палёгку, часцей — сорам, сорам за сваю нястрыманасць і паражэнне. І заўсёды — непрыемную, абразлівую пустату ў душы. Ніколі не жыў у ёй вобраз мужчыны, ніколі не

засланяў гэты вобраз ні сумненняў, ні шкадаванняў. Ніко-лі.

Раптам мільганула спалоханая думка: як бы я жыла, як змагла б жыць, зразумей я ўсё дзесяць — пятнаццаць гадоў раней? Як? Хто яго ведае! Зразумець можна было, толькі пакахаўшы...

Вось напісала «пакахаўшы» — і рука сама спынілася. Быццам апяклася аб слова. Ці каханне гэта, калі ні ад чаго я не магу адрачыся ні ў былым, ні ў існым?

О, ужо гэтыя дэманы душы, якія разрываюць яе на часткі! Цяжка з людзьмі, яшчэ цяжэй сам-насам з сабой... Няма ў душы цішыні. Прыгадваецца тое, пра што і думаць не думала: даўнія сустрэчы, забытыя твары, невядома кім сказаныя словы. І над усім, ва ўсім — пах солі, ёду, прасторы, ветру, што перагортвае хвалі і дні. Няспешна, нястомна перагортвае, а ўсё здаецца, што ні вецер, ні само ўсемагутнае мора, варочаючы са сваёй вадой мае шкадаванні, нічым мне не дапаможа. Астудзіць цела, змые з яго гарачыя сонечныя промні і адкоціцца. Адступіцца.

Глеб захворвае. І цяпер мне ясна, якую бездань носіць ён у сабе. Не здагадвалася раней, таму што сваім пакутавала, свой боль хавала. Свой — хавала, а на чужы выйшла...

Не, трэба па парадку. З самага пачатку. З той хвіліны, калі таямніца перастала быць таямніцай, адкрыўшы банальную, як звычайна ў падобных выпадках, сутнасць. Так, так, банальную, колькі ні вышуквай за ёй што ярчэйшае, больш прывабнае.

У бары, куды я зайшла выпіць кубачак кавы, было, як і штовечар, тлумна. Узбуджаныя ці ўжо згаслыя твары. Няроўны гул галасоў. Праз звон шкла — чыйсьці смех. Аблачынкі дыму пад размаляванай белымі кветкамі столлю. Пах кавы, які перабіваў нават цыгарэтны чад.

Мяне гукнулі. Падышла да стойкі. Прывіталася. Павярнулася на чыйсьці цяжкі, настойлівы позірк: Глеб. Сядзіць за адным са столікаў, у шумнай мужчынскай кампаніі. У руцэ — чарка, у вачах — туга. Шчымлівая, бяздонная туга, знаёмая мне змалку: у маці былі такія вочы перад кожным запоем... У першы момант мне захацелася ступіць да яго. Закрычаць. Ударыць. Узяць за руку і вывесці адсюль — з чаду, з тлуму. Але момант мінуў, а Глеб адвёў позірк і падняў чарку. І я — як захлынулася: п'янь! На парозе запою — і ведае гэта. І баіцца. І таму чапляўся за мяне...

— Двайную каву. Дзве! — адказала я нарэшце сваім знаёмым.

Мы ўшчаміліся за кутні столік, далучыўшыся да тых, хто не спяшаўся вызваляць яго, дапіўшы сваю каву, і да іх размовы. Ці то пра вузкасць рэдакцыйнага кола з яго заўсёды нязменным раскладам фігур і тых, хто імі рухае. Ці то пра адносіны гэтых рэальных фігур і іх магчымых хадоў. Я не ўслухвалася. Даўно абрыдлі падобныя размовы, вечныя спасылкі на Івана, Пятра, Сідара. Ды і мінута была не тая. Іваны, Пятры, Сідары былі невядомыя (а хоць бы і вядомыя!) і далёка, а за колькі крокаў ад мяне Глеб, дужы і бездапаможны Глеб чапляўся за самы край бездані, раз-пораз з маленнем і тугой зіркаючы ў мой бок — апякаючы мяне паглядам. А я ведала — я ўжо вырашыла: не падыду. Хто я яму? Хто ён мне? Узнікла, адкрылася духоўная роднасць між намі? Ну, і што? Чаму я павінна прымаць і ягоную муку?

Жыццё і так нагадвае воз, які ўсё расце, робіцца больш цяжкім і нязграбным,— а яго трэба цягнуць далей, напружваючы сілы і робячы выгляд, што ўсё добра, што ўсё так і павінна быць. Здараецца, і ўгавару сябе... Не ўсё ж кепска і на самой справе: ні адно імгненне не паўтарае другое, апроч людзей, мітуслівых і часта няшчырых, ёсць поле, лес, рачулка, лілеі ў рачных затоках, неба, яго высокія зоркі! Пабудзеш на прыродзе, сам-насам з ёй — і зноў адагрэецца душа, зноў спакуслівым здаецца дзень непражыты, быццам адкрыеш іншы, таемна-прыгожы бок яго. Адмовіцца ад людзей і жыць самотніцай можна, адмовіцца ад зямлі — гэта адмовіцца ад жыцця...

Не, не! Нават у самую чорную хвіліну не хацела я адмовіцца ад жыцця — можа, толькі тая хвіліна была не самай чорнай? Акселерацыя, ранняе сталенне, страх перад старасцю... Гэта не пра мяне. Жыву — жыла да апошняга часу! — адчуваннем, што не нашмат абганяю ў росце сына. Неяк сам па сабе набіраецца вопыт, паглыбляецца веданне жыцця, а я на дзесяць — пятнаццаць гадоў адстаю ад адведзенага мне часу: усё ніяк не вырвуся са сваёй маладосці. Хоць колькі было тае маладосці!

ЗІМА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧАЦВЕРТАГА ГОДА... Сэрца, размякчанае ўдзячнасцю, не належыць мне. Я аддала яго чалавеку, значна старэйшаму, больш вопытнаму, чым я, які ідзе са мной побач (вечар можна расцягнуць у цэлы

год нашага знаёмства) і даводзіць, што душа, калі яна не працуе штодзень, штохвіліну, паступова адмірае. Гучаць выказванні філосафаў. Як прыклад прыводзяцца вынікі працы вялікіх мастакоў, якія заўсёды верылі не толькі ў свае магчымасці, але і ў свае мары, у свае планы. Я згодна ківаю галавой. Хоць чуць не чула імёны тых філосафаў, хоць і ўявіць не магу ніводнае з тых палотнаў, якія ён згадвае. Нават думаць побач са сваім спадарожнікам не асмельваюся — куды ўжо выказвацца!

Неба, асыпаючыся долу нябачнай калючай церухой, цямнее, зліваецца з зямлёй, і здаецца, што не прыхоплены марозам снег рыпіць пад нагамі, а крышталікі неба: сняжынкі ж і нагадваюць зоркі! Снег парыпвае ўсё павольней. Размова даўно перапынілася. Крок, другі — і, прыцягнуты дужымі рукамі, твар мой тоне ў гарачым дыханні спадарожніка.

— Пойдзем да мяне. Не ўсё ж туліцца да ліп! Я адпаю цябе чаем, вунь як змерзла — нос моркаўкай...

— А можа, мы яшчэ пагуляем? Паходзім? — спалохана адгукаюся я і тру нос рукавіцай, падсвядома, інтуітыўна адчуваючы пакорнасць гэтаму чалавеку: волі сваёй няма, загадзя ведаю, што зраблю ўсё, як ён скажа.

— Няўжо баішся мяне? Ці ж было, што я пакрыўдзіў цябе? Цябе ж нельга пакрыўдзіць, цябе можна толькі любіць. Толькі любіць!

І зноў мой твар тоне ў яго гарачым дыханні.

І вось ужо мы паўцёмным вузкім калідорам праходзім паўз тлустыя вочкі сухой, пляскатай, як дошка, старой. У пакой. Пакой зусім невялічкі, у адно акно. Ніякай мэблі, апроч шафы, століка з прыліплым да яго крэслам і ложка... Гаспадар дапамагае мне зняць світку (назваць гэта паліто цяжка нават з адлегласці гадоў), усаджвае на ложак, а на адсунутым крэсле звыкла ўладкоўвае пацямнелы алюмініевы чайнік. Гаспадар ні на хвіліну не змаўкае. Жартуе, расказвае штосьці пра свой халасцяцкі побыт, пра неўладкаванасць і абрыдлае адзіноцтва. І ўсё — усмешліва, ласкава.

Уключае чайнік, паварочваецца, ступае да мяне.

— Якая ты! Якая...

Укленчыўшы, схіляецца, хінецца... Я яшчэ магу ўскочыць, адпіхнуць яго. Магу закрычаць: недзе ў калідоры — сухая, плоская, як дошка, старая. І не адпіхваю. Не крычу. Здранцвенне — як перад нечым немінучым, даўно вы-

значаным лёсам. Нічога не адчуваю, апроч непрыемных рухаў таропкіх рук. Апроч гвалтоўнага болю ў здранцвелым, быццам раптам чужым мне целе... І ўскрыкваю. І губляю прытомнасць.

Не, я запомню і балючае пачуццё пратэсту, якое захліснула ўсю маю істоту. І мяккі, залагоджаны твар гаспадара гэтых імгненняў. І здзіўленыя яго вочы, што ўсплылі, здаецца, над тварам, асобна ад яго. І свіст ускіпелага чайніка. І доўгае цяжкое маўчанне... Толькі я ў гэтым не ўдзельнічаю. Станаўлюся жанчынай, перш чым жанчына ва мне абудзілася.

Пэўна ж, я паспрабую сябе ўгаворваць, даводзіць, што так і павінна было здарыцца, што рана ці позна... І толькі паглыблю прыкрасць, паглыблю сваю нязгоду з тым, што наканавана, што прыму — прыняла ўжо! Думала: не мной гэта заведзена, жонка дык жонка... Думала: ва мне столькі жыццядайнай, жыццяздольнай сілы, што ў нас будзе ўсё не так, як у іншых, не так, як ва ўсіх. Лепей. Чалавечней. Прыгажэй.

Чаму так лёгка адмовілася ад мары, якая малявала ўсё інакш? Не ведаю. Тады — не ведала. Цяжка было адной. Здавалася: не выстаю адна супраць жыцця. І потым... Гэты чалавек быў першы, хто паставіўся да мяне з дабрынёй, з разуменнем — яму першаму спатрэбіліся маё цяпло, маё разуменне. Тое, што чыню яшчэ большы гвалт над сабой, бо гэта гвалт над сэрцам, я не разумела. Не адгукнулася сэрца, не абазвалася — дык жа было пачуццё абавязку, было жаданне адагрэць таго, каго назаву мужам, сваёй дабрынёй, узяць на сябе частку яго клопатаў, хіба не дастаткова?

*27 ліпеня*

Як цяжка заставацца сам-насам са сваімі прызнаннямі! Развярэдзіла ўсе старыя болькі. Цэлую ноч не звяла вачэй і сёння марна спрабавала ўзбадзёрыць сябе сонцам і марскім купаннем. Выратавальная служба не працавала: занадта высокія для лодак хвалі, і я заплывала далёка ў мора. І бязвольна пагойдвалася там, падобная на загарэлы паплавок, паваленц ветрам. Перад вачамі было толькі неба. Я пераварочвалася — і яно кулялася ўслед. І можна было, узлятаючы на хвалях, дагнаць сонца.

Доўга цешылася гэтай гульнёй і, выкінутая на бераг, на мокры шархаткі друз, адчувала толькі лёгкае пакалванне ў спіне, там дзе пачыналіся ўзмахі рук. І млявую

млосць. Думкі ж... Думкі па-ранейшаму цярэбяць мяне. Здаецца, я нават адчуваю, як яны то збіваюцца ў калючыя камячкі, і тады здаецца: вось-вось лопнуць ад болю жылкі на скронях. То адной бясконцай ніткай усё шчыльней і шчыльней накручваюцца ўкруг сэрца — і тады не хапае паветра для ўздыху, сэрца пачынае захлынацца. І ўвесь час — неадчэпна! неадступна! — гучаць ува мне два галасы: адзін абвінавачвае і, абвінавачваючы, прагне ўразумець мяне сапраўдную, ісцінную, другі апраўдвае і, апраўдваючы, суцяшае:

— «Шчыра хацела зрабіць яго шчаслівым...» Гэта словы. Шчаслівым — не палюбіўшы яго? Не знаходзячы радасці, а значыць, і не даючы яе! — у блізкасці з ім? — гугніць першы.

— Сённяшнія адчуванні нельга пераносіць ледзь не на дваццаць гадоў назад,— абараняецца другі.— І пасля... Няхай паступова гублялася, знікала нітачка духоўнай роднасці паміж намі, але ж усе гэтыя гады ён прагнуў маёй блізкасці. Калі б не было для яго ў гэтым радасці...

— Ну-у! Гэтак мы дойдзем да чыстай фізіялогіі. Радасць — катэгорыя іншага парадку. У яе ўваходзіць і радасць блізкага чалавека. Ён жа шмат аддаваў табе — усё аддаў!

— Я аддавала, колькі магла.

— У гэтым і справа: колькі магла, а не ўсё!

— Усё — гэта кропка, канец жыцця. Пакуль чалавек жывы, ён жыве і не павінны нічога прасіць. Тым больш патрабаваць. Ён мае — павінны мець, што аддаваць. Многа, мала, а аддаваць. Усё аддаць нельга.

— Але ж ты імкнулася ўслед за сваёй марай, пакідаючы ззаду таго, хто калісьці паказаў табе шлях...

— Я не магу адмовіцца ад гэтага шляху. Гэта, урэшце, будзе азначаць адмовіцца і ад яго.

— Вас жа нічога больш не звязвае. Запіс у пашпарце? Агульная плошча? Сын? Што?

— Пражытае разам жыццё...»

Стоп! Гэты дыялог можна доўжыць бясконца: не было ж, каб сумненні пакідалі мяне. Я вечна спрачалася з імі і, папраўдзе, не заўсёды выходзіла пераможцай. Мне не вытрымаць сёння другога паражэння.

Пакаранне шчырасцю... Ніколі не думала, што гэта такое жорсткае пакаранне! Хочацца заплюшчыць вочы і зноў бязвольна пагойдвацца на хвалях, нагадваючы за-

гарэлы паплавок, паваленны ветрам. Падарыла сабе гэтыя летнія дні і раптам пачала пільна ўглядацца ў сябе, у сваю збалелую душу. Не тое што пры такім пільным разглядванні я ўсё ў меншым захапленні ад сябе. Не! Сучасны працу сябе не паўстанеш. Але трывога перарастае маю задуму, і прызнанні робяцца ўсё больш падобнымі на прызнанні вінаватай.

*28 ліпеня*

Перад кім я вінавата? Перад тым, хто стаў мне мужам? Перад сынам? Перад сваёй маладосцю? Перад выпадкова сустрэтым Глебам? Але тады я вінавата перад усім светам. Таму што па волі бацькоў нарадзілася. Таму што такая, якая ёсць,— з заведама вызначаным лёсам і не адно маімі высілкамі выбудаваным характарам. Таму што на ўсім працягу жыцця вымушана карыстацца паслугамі многіх людзей, і не проста паслугамі — іх дабрынёй, іх даверам, іх разуменнем, іх падтрымкай. Я плачу ім тым жа — хіба гэта не чэсна? Што я магу звыш таго? А калі і магу? Нікому не трэба — звыш. Нават мужу і сыну.

Вымыць і адпрасаваць бялізну, прыбраць у пакоі, зварыць абед, аблашчыць увагай ці ўсмешкай дзіця, на цэлы тыдзень акунуцца ў шалёны рабочы тлум рэдакцыі, абабегчы магазіны, накарміць усіх, паслаць пасцелі і ў ложку быць звыкла, у меру пяшчотнай... З дня ў дзень. З году ў год. Абы хапала сіл. Абы не прычапілася хвароба. Абы не абселі галаву думкі... Ад думак адаб'ешся, а куды — душу? Куды — з ёй?

Нялёгка вызначыць той дзень, калі ўпершыню прыйшло шчымлівае адчуванне душэўнай адзіноты. Далёка той дзень. Даўно, вельмі даўно жыву тым, што сама ў сабе пешчу. Чым тым, не ведаю. Упэўненасцю. Упэўненасцю ў сабе. Упэўненасцю ў адзінай правільнасці абранага шляху. Упэўненасцю ў шчаслівым прыходзе будучыні. Будучыні для ўсіх. І для мяне. Не-не і знікаюць берагі гэтай намаляванай уяўленнем будучыні за сумненнямі, але я зноў упарта шукаю іх. Позіркам. Сэрцам. Марай.

Не! Усё я хлушу. Выгароджваю сябе. Не перад кімсьці, перад сабой выгароджваю. Ні ў чым я не ўкаўнена. Не зжылася і не зжывуся я з адзіноцтвам. Не ўмею я загаворваць балючыя згадкі. І віна на мне ёсць! Вінавата я перад усімі. І перад мужам. І перад сынам. І перад гэтым чужым мне Глебам. Гордасць мая вінавата.

Сціш я сваё гордае сэрца, прымай я ўсіх такімі, якія

яны ёсць,— любі я іх такімі! — яны адчулі б гэта. Яны вярнулі б мне маю адданасць разам са сваёй...

Штосьці зламаў ува мне балючы Глебаў позірк. Штосьці вельмі крохкае. Так на мяне ўжо глядзелі! Даўно-даўно.

ЛЕТА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ЧАЦВЁРТАГА ГОДА... Тыдзень як скончылася экзаменацыйная сесія і я прыехала да маці. Больш няма куды. Толькі таму і прыехала. Змалку гоніць з хаты незразумелы страх. Што гэта за страх, адкуль ён, растлумачыць цяжка. Немагчыма. Я вырасла ў гэтай хаце. Мяне па-свойму любілі дома, заўсёды чакалі. Я ж заўсёды чакала таго моманту, калі за мной зачыняцца дзверы сенцаў і паветра хлыне ў сціснутыя страхам лёгкія, вырываючыся адтуль уздыхам. З палёгкай пакідаю я дом і вяртаюся толькі таму, што больш няма куды.

Па-сапраўднаму люблю толькі ваколіцы пасёлка — поле, прыўзнятае пагоркам убаку ад гравійкі, зарослы лотаццю луг, тонкія ручаінкі, якія збягаюцца да Пцічы, Пціч... Ледзь не ўвесь час на Пцічы. Посцілку і крышан хлеба ў сумку — і з хаты! Да вечара.

Вось і ў той вечар... Іду з рэчкі. Іду няспешна, нага за нагу. Раз-пораз схіляюся да кветак лотаці, цераблю мяккія, вільготныя пялёсткі. Луг заканчваецца. Перайшоўшы па кладцы ручай, уступаю ў зарослую вішняком вуліцу, міжволі яшчэ запавольваючы крокі. Спяпанчыкава хата. Хата бабы Паліны. Юрчыкава. Тэкліна. Магазін — няйнакш, сучасны шынок, будзь тройчы праклятая гарэлка, выстаўленая на яго паліцах. Ля магазіна — купка людзей. Сярод іх здалёк пазнаю куму матчыну, Кондрусіху. Відаць, недзе і матка...

Я доўга не хачу пазнаваць яе ў жанчыне, што ўсё спрабуе ўстаць з прыкамечанага, пажоўклага палыну, чапляючыся за маладыя, хісткі камель вішні. Апусціўшы вочы, пазіраючы сабе пад ногі, пацяжэлыя і непаслухмяныя, я ўсё-ткі бачу, як яна ўстае, адпускае сагнутае дрэўца і ступае колькі крокаў. І зноў падае. І ўстае, цяпер ужо з дапамогай Кондрусіхі. Нязграбна павароrваецца ў мой бок.

«Напілася! Зноў напілася!» — крычыць, раздзірае мяне боль. Я не магу абмінуць маці, не падняўшы вачэй,— і не хачу прызнаваць у ёй маці! І не гляджу ў той бок.

гарэлы паплавок, паваленны ветрам. Падарыла сабе гэтыя летнія дні і раптам пачала пільна ўглядацца ў сябе, у сваю збалелую душу. Не тое што пры такім пільным разгляднванні я ўсё ў меншым захапленні ад сябе. Не! Супраць сябе не паўстанеш. Але трывога перарастае маю задуму, і прызнанні робяцца ўсё больш падобнымі на прызнанні вінаватай.

*28 ліпеня*

Перад кім я вінавата? Перад тым, хто стаў мне мужам? Перад сынам? Перад сваёй маладосцю? Перад выпадкова сустрэтым Глебам? Але тады я вінавата перад усім светам. Таму што па волі бацькоў нарадзілася. Таму што такая, якая ёсць,— з заведама вызначаным лёсам і не адно маімі высілкамі выбудаваным характарам. Таму што на ўсім працягу жыцця вымушана карыстацца паслугамі многіх людзей, і не проста паслугамі — іх дабрынёй, іх даверам, іх разуменнем, іх падтрымкай. Я плачу ім тым жа — хіба гэта не чэсна? Што я магу звыш таго? А калі і магу? Нікому не трэба — звыш. Нават мужу і сыну.

Вымыць і адпрасаваць бялізну, прыбраць у пакоі, зварыць абед, аблашчыць увагай ці ўсмешкай дзіця, на цэлы тыдзень акунуцца ў шалёны рабочы тлум рэдакцыі, абабегчы магазіны, накарміць усіх, пасланць пасцелі і ў ложку быць звыкла, у меру пяшчотнай... З дня ў дзень. З году ў год. Абы хапала сіл. Абы не прычапілася хвароба. Абы не абселі галаву думкі... Ад думак адаб'ешся, а куды — душу? Куды — з ёй?

Нялёгка вызначыць той дзень, калі ўпершыню прыйшло шчымлівае адчуванне душэўнай адзіноты. Далёка той дзень. Даўно, вельмі даўно жыву тым, што сама ў сабе пешчу. Чым тым, не ведаю. Упэўненасцю. Упэўненасцю ў сабе. Упэўненасцю ў адзінай правільнасці абранага шляху. Упэўненасцю ў шчаслівым прыходзе будучыні. Будучыні для ўсіх. І для мяне. Не-не і знікаюць берагі гэтай намаляванай уяўленнем будучыні за сумненнямі, але я зноў упарта шукаю іх. Позіркам. Сэрцам. Марай.

Не! Усё я хлушу. Выгароджваю сябе. Не перад кімсьці, перад сабой выгароджваю. Ні ў чым я не ўпэўнена. Не зжылася і не зжывуся я з адзіноцтвам. Не ўмею я загаворваць балючыя згадкі. І віна на мне ёсць! Вінавата я перад усімі. І перад мужам. І перад сынам. І перад гэтым чужым мне Глебам. Гордасць мая вінавата.

Сціш я сваё гордае сэрца, прымай я ўсіх такімі, якія

ні да чаго не абавязвае. Гэта — не каханне. Каханне — іншае. Каханне — тая, далёкая адсюль, сустрэча. Сустрэча...

— Як мне цябе зваць? — запыталася я.
— Як хочаш.
— Тады — Лель. Падабаецца?
— А хто гэта?
— Так звалі пастуха. Ледзь толькі пачынаў ён іграць на дудачцы — наступала вясна.
— У мяне няма дудачкі...
— Але паглядзі: зацвілі ўсе кветкі, нават тыя, што скошаны і пасохлі. Вярнулася вясна!
— Чаму ж ты спяшаешся? — запыталася Каханне.
— Каб хутчэй сустрэцца з табой. Я буду ведаць, што ты ёсць, і імкнуцца да цябе.
— Дык мы ж можам не расставацца!
— Тады не будзе сустрэч.
— Да сустрэчы!

Дакладна перададзеная размова. Ні слова больш не было сказана. Магчыма, было сказана нават менш. Сустрэнься мы ў натоўпе, у адным з людскіх віроў на праспекце, яго пазнала б толькі сэрца. Позірк слізгануў па белых ускудлачаных валасах, па вясёлым усмешлівым твары, затрымаўся на дужых, спакойных руках, якія моцна сціснулі маю далонь, і ўжо імкнуўся насустрач іншым тварам, іншым рукам. У памяці засталася светлая, яркая пляміна — яна не знікла, дзіўным святлом калыхалася дзесьці ўва мне, у сэрцы. І ніяк не знікала светлае ўзрушэнне. І дзе б я ні была, што б ні рабіла, у самы нязручны момант раптам зацвітала на вуснах усмешка. Кветка сэрца...

Занадта прыгожа, ненатуральна прыгожа гучыць у наш час гэта кветка сэрца, але, як ні дзіўна, вызначэнне гэта дакладнае: у мяне доўга не праходзіла жаданне дарыць усім кветкі. Разумела ўсю недарэчнасць яго, свае проста-такі мізэрныя магчымасці і нічога не магла з сабой зрабіць. Хоць у мроях, а несла насустрач кожнаму стрэчнаму цэлы сад кветак — толькі б яны адчулі маю радасць, толькі б заўсміхаліся! Гэта ў наш таропкі час, у тлумным сталічным горадзе... Зараз самой смешна. А тады: на міг сутыкалася з кімсьці знаёмым, прывітаннем вырваўшы яго з натоўпу,— у адказ чула здзіўленае: «Ну,

старая, ніколі не бачыў цябе гэткай прыгожай. Новая прычоска?..»

А гэта была — новая я.

Дні падоўгу топчуцца на адным месцы, а азірнуся — колькі іх ужо прамінула. І на працягу іх здарылася ні многа ні мала — якраз гэтулькі, каб скласці пэўны прамежак жыцця. Паступова перамагала ўсе астатнія адно шчаслівае пачуццё: я жыву — жывая! — і магу ўсміхацца, тужыць, без мэты блукаць між дрэў і думаць, што я шчаслівая, што ў мяне ёсць яшчэ шанец, што ёсць час...

Пакахала? Адсюль, здалёк, усё здаецца значна больш складаным. Якое новае жыццё я магу пачаць? Занадта доўга ішла да сябе сягоняшняй, занадта многа страціла, каб займець тое, што ёсць: работу, якую люблю, якой аддаю свае лепшыя гадзіны, нарэшце збудаваны, складзены з паездак і пераездаў дом, мужа, чыёй любоўю і павагай карыстаюся, дарослага сына, любоў і павагу якога ўсё яшчэ спрабую заслужыць... Зноў — насустрач невядомасці? Зноў — усё спачатку? Позна. Баюся, што позна. Жыцця яшчэ хапіла б, не хопіць даверу.

І ўсё ж, усё ж я прагну таго новага, што ўпершыню пагукала мяне. Я — новая! — падабаюся сабе. Хоць што я гавару! Пры чым тут: падабаюся — не падабаюся? Я стала такой, якой павінна была быць — стаць! — даўно. Шчаслівай.

Перашкаджае толькі раздвоенасць. Не магу пазбавіцца ад яе нават у хвіліны адпачынку. То перапоўнена святлом, свячуся шчасцем (гэта заўважаюць не толькі знаёмыя), то імгненна станаўлюся раздражнёнай, нервовай — і свет звужаецца да майго перанаселенага пакойчыка. То ўсё кіпіць у руках і любая работа спрыяе роздуму, то ўсё валіцца з рук, а я не магу кінуць работу, кінуць дом, каб самой, на волі, плакаць, крычаць, тужыць, пець, вяртаючы душы спакой і злагаду. Хоць чаму — не магу?

Кінулася ў адну камандзіроўку, у другую. Узяла пуцёўку і з'ехала сюды, да мора. Куды — далей? Якой волі шукаць? Думкі ж кідаюцца следам. Такое ўражанне, што яны чакаюць мяне там, куды я еду...

«Толькі дачакацца кахання, толькі пакахаць,— думалася раней,— і ў мяне будзе зусім іншае, шчаслівае жыццё». А жыццё ідзе, як ішло. Гэткае, як і раней. Адно што ставіць дзесяткі пытанняў, на якія няма адказаў. Няма

ці я не знаходжу. Мо таму перабіраю пражытыя гады, мо таму з друзкоў успамінаў складваю і ніяк не складу сваё імя. Хоць бы імя...

ЛЕТА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ДЗЕВЯТАГА ГОДА... Спіць, закалыханы маімі слязьмі, сын. Сурова маўчыць, адвярнуўшыся да сцяны, той, хто абразіў мяне лаянкай. І я не ведаю, як выбрацца з крыўды і супакоіцца. Ды і было ж усяго нічога! Слова за слова...

— Я верыла, што ў нас будзе не так, як ва ўсіх. Інакш. Лепш. А мы пачалі адно ля аднаго задыхацца. Мы перасталі згадваць, ніколі не згадваем больш, што душа павінна працаваць штодзень — штоміг! — каб не адмерла яна за непатрэбай, каб не згасла ўсё ўкруг...

Кажу сама сабе. Не кажу, думаю ўголас. Але ён адгукаецца:

— Начыталася кніг!

— Ды гэта ж ты казаў. Ты мне ўсё абяцаў. Хіба забыўся?

— Дурнем быў. Калі б я на той час думаў, што ты станеш маёй жонкай, я казаў бы зусім іншае.

— Іншае? Што — іншае? — горыч затапляе нават крыўду.— Што ты пасадзіш мяне з дзіцем, пазбавіўшыся якіх бы ні было абавязкаў? Што я павінна буду кінуць інстытут і давучвацца завочна? Што табе патрэбна толькі гаспадыня ў хату, толькі раба? Што ты будзеш абмінаць мае клопаты?

— Я прыношу табе грошы.

— А навошта тыя грошы, калі з-за іх трэба адмаўляцца ад мар? Чым ты жывеш? З кім марнуеш час? Каго прыводзіш у дом?

— Не табе мяне вучыць!

Раблю апошнюю, адчайную спробу вырваць яго з адчужэння, што ўсё расце. Падсаджваюся на ложак, ласкава праводжу рукой па спіне, па валасах. Гарнуся да яго, рукі самі абдымаюць знаёмае, прыемна-цёплае цела: вось зараз ён прыцісне мае рукі да грудзей і засмяецца. І смех прагоніць з пакоя цяжкую, змрочную цішыню, і вернецца разуменне...

У першы момант я не разумею, што здарылася. Востры ўдар адгукнуўся ў плячы, але болю не было. Не балела і падвернутая рука: я нязграбна ляжала на падлозе... І раптам як апякло: ён мяне адштурхнуў! Ударыў!

Я не магу гэта ўсвядоміць — гэта нельга ўсвядоміць. Болю няма. Штосьці ад млосці, горкае, даўкае, падступае да горла — я не магу ні выкаўтнуць яго, ні зглынуць. Ні слова — з губ, ні слязінкі — з воч.

Калі ён, саскочыўшы з ложка, нахіляецца нада мной, я ўжо абыякавая і да яго і да ўсяго на свеце. Пачуцці быццам адасобіліся ад мяне і, перш чым я спахаплюся, пакінуць дом.

— Табе баліць? Прабач. Я не хацеў так моцна...

Я не адпіхваю яго руку. Проста не прымаю яе. Усё цела як скамянела.

— Ты прастудзішся на падлозе.

Ён нязграбна спрабуе падняць мяне і, адхілены маёй абыякавасцю, адступаецца. Ідзе на кухню, курыць там. Колькі часу мінае, не ўяўляю. Пачынае хныкаць малы. Прымушаю сябе ўстаць і падысці да дзіцячага ложка. Гэтых некалькі рухаў стае на тое, каб прыйшло, знайшлося рашэнне: жыць так я не хачу і не буду. Жыць так я не хачу і не буду! — гудуць ува мне словы, і я ведаю, што гэта не словы — сэрца, якое я аддала калісьці гэтаму чалавеку, вярнулася і спалохана б'ецца ў грудзях, звыкаючыся з балючай пустатой.

З балючай пустатой... Я так і не навучылася дараваць крыўды.

Не, сям'я не развáліцца. Праўда, я забяру сына і з'еду з хаты — паеду да брата, ледзь не праз усю краіну. Каб з сумам зазначыць, што і ў яго сям'і нядобра, значна горш, чым у маёй. Каб зразумець, што для самастойнасці, для самастойнага жыцця я не падрыхтавана: ёсць дыплом, ёсць прафесія — нідзе на зямлі няма і маленькага куточка, які стаў бы прытулкам мне і сыну. Я не адкажу ні на адзін ліст, ні на адну тэлеграму мужа — і ўсё ж на просьбы яго, на плач яго вярнуся да яго ў дом. Вярнуся. Але не дарую крыўду — не забуду. І буду жыць — жыла ўсе гады! — з крыўдай у сэрцы.

Знешне засталося ўсё як было. Ды нікому не аддавала я больш свайго сэрца. То гулка, то зусім нячутна б'ецца яно ў грудзях, нагадваючы, што, пакуль ёсць час, трэба адолець шлях, абраны калісьці, і заслужыць павагу людзей, трэба знайсці ў рабоце ўсё, што мне не стае ў жыцці.

*30 ліпеня*

Так і хочацца сказаць: настрой душы перадаўся надвор'ю. Неба зацягнулі шэрыя, ватныя аблокі. Здаецца,

яшчэ больш пацямнелі кіпарысы, ледзь утрымліваючы шэрань на вастрыі сваіх, падобных на канцы дзідаў, вершалін. Горы, якія яшчэ ўчора горда высіліся, яркай разной дугой агінаючы з поўначы горад, падступілі бліжэй, змрочна цесняць дамы ўніз, да бухты. Хлынуў бы лівень — і змыў бы іх у мора...

Але дажджынкі, разбудзіўшы шыракалістыя пальмы, так і не ўпалі на сухую, камяністую зямлю — нейкі час нібыта ўслухваліся ў шолах, у трывожны шэпт лісця і растварыліся ў шчыльным густым паветры.

За два тыдні гэта першы пахмурны дзень. Я намервалася ўсё-ткі не ламаць звыклага парадку і спусціцца на пляж, але пакінула ў пакоі томік Гардзі і, вярнуўшыся па яго, вырашыла пабыць з ім дома. Перагарнула колькі старонак, утульна скруціўшыся клубком на ложку, спрабавала засяродзіцца на лёсах яго герояў. Не змагла. Раз-пораз урываліся ў падзеі кнігі ўласныя думкі, засцячы знакамітага аўтара,— давялося адкласці чытанне...

Што бянтэжыць мяне, ледзь толькі пачну прыгадваць даўно пражытае? Аднастайнасць пошуку? Рабская пакора свайму гордаму сэрцу? Няўдзячнасць лёсу, які на плячах выносіла з цяжкога, змрочнага маленства? Падманная дабрачыннасць, якой так доўга наіўна верыла? Няўтольная прага любові? Што? Цяпер жа я — не тая наіўная дзяўчынка-жанчына, што магла скідаць збольшага непатрэбныя рэчы ў дарожную сумку і з дзіцем на руках кінуцца па першым жа адрасе, які ўсплыў у памяці.

«А што ты хацела, мілая? — сумна ўсміхаўся брат.— Жыццё мала чым нагадвае казку — толькі сваімі дэкарацыямі, сярод якіх мы выглядаем няўклюднымі і разгубленымі». Ён не ведаў, не мог тады ведаць, што ўсяго праз два гады кіне яго, забраўшы дачку, жонка. І сумна ўсміхаўся...

І я ўсміхаюся гэтак жа сумна і вінавата. Столькі вакол вялікіх і малых чалавечых трагедый, столькі сямейных драм і любоўных паядынкаў, што трэба б кінуць усялякія пошукі цудоўнага, зразумеўшы, што мы ніколі не навучымся спалучаць жаданні і магчымасці, пачуццёвасць і цвярозае ўсведамленне абавязку, каханне і неўладкаваны, надакучлівы побыт. Нас не навучыў гэтаму ні шматвяковы вопыт, ні ўся сусветная літаратура, што ж абвінавачваць ва ўсім сябе? Чым, ну, чым я адрозніваюся ад іншых? Тым, што пакутую больш, не ўмеючы пагадзіцца з няшчырасцю, сваёй і чужой? Тым, што імкнуся адстой-

ваць даўно аджытыя для іншых прынцыпы і часцей раблю памылкі, збітая з панталыку ўяўнай лёгкасцю ў адносінах з людзьмі? Тым, што палка абураюся любой праявай пошласці, бо яна, як пошасць, распаўсюджваецца з зайздроснай хуткасцю ўсё шырэй і шырэй?

І на рабоце і дома чую: зараз не час для максімалісцкіх прэтэнзій. А калі — час? І хіба гэта прэтэнзія: адмаўляцца штораз набываць (і насіць) прыстойную, адпаведную моманту альбо модзе маску?

«Во, во! — адгукнуўся б на мае словы скептык.— Ты не пагаджаешся з няшчырасцю, ты абураешся пошласцю, а што ж — іншыя? Дзе — іншыя?» Іншыя... Міжволі адасобіла сябе ад іх. Сваімі пытаннямі адасобіла. Якія маскі? Якія хованкі? Неаднойчы ж заўважала, расчаравана заўважала, што чалавек прачытваецца ледзь не з першай сустрэчы. Не жыццё яго прачытваецца — характар, той псіхалагічны малюнак яго, які адбіваецца ў позірку. Далейшае знаёмства, далейшае жыццё, як правіла, пацвярджае першае ўражанне, і тады здагадка нагадвае раптоўнае прароцтва... Гэта непрыемна. Нават страшна. І заўсёды — нецікава, бо разгаданы, прачытаны табой чалавек не ўзрушае, не ўзбагачае чаканне хоць бы абяцаннем цуду. А ўсе адносіны паміж людзьмі будуюцца толькі на гэтым падмурку — на заўсёдным чаканні цудоўнага... Не, не люблю ўсе гэтыя прадчуванні, прадбачанні. Нават баюся іх. Як у выпадку з Глебам...

Бездань — усё-ткі была! Глеб недзе на самым дне яе зараз. На самым дне... Гэта ўсведамленне працягвае мучыць, не адпускае.

Амаль ненавіджу Глеба. За тое, што ўвесь час згадваю яго, хоць ён перастаў з'яўляцца на людзях. За тое, што пачуццё не падманула мяне і бездань — была. За тое, што падсвядома я ўсё-ткі чакала цуду.

У кожным з нас, у кожным павінна быць таямніца, неразгаданая нават ім самім. Чаму, навошта, не ведаю — не вытлумачыла б. Павінна быць, і ўсё тут. Інакш не захаваць індывідуальнасць. І ўсе мае спробы разабрацца ў пражытым, перажытым, перадуманым — марныя спробы. Гэта ж я разумею! Ды і пажадай я агаліць, высвеціць, зрушыць у душы самы цёмны, самы глыбокі пласт яе — нічога не будзе. Не атрымаецца. Інстынкт самазахавання спрацуе. Каб адпрэчыць, аддаліць душэўнае захворванне і смерць. Бо смерці — рана... Я ж яшчэ не пабыла шчаслівай, не пажыла з каханнем у сэрцы, перад

небам і самым блізкім чалавекам не заслужыла адпушчэння гэтага граху.

Грэх — хутчэй так, для прыгожага слоўка. Калі ўжо прыгадваць за сабой грэх, то хутчэй у тым, што змушана дзяліць ложак з нялюбым, хай сабе і самым блізкім чалавекам. Не па біблейскіх запаветах грэх, па разуменні. Па чалавечай сутнасці. Толькі не вырачыся гэтага граху, не замаліць. Як ні круці, а атрымаецца так, што, справядліва вырашыўшы разарваць балючыя, даўно непатрэбныя адносіны, рушыш чыёсьці жыццё, чыніш яшчэ больш жорсткую несправядлівасць — для мужа разрыў будзе азначаць адзіноцтва. Адзіноцтва да канца жыцця. Вось і выбірай!

Вось і выбіраю, чынячы гвалт над сэрцам.

Стан душы перадаўся прыродзе. Усё сцішылася. Ці перад навальніцай. Ці перад радаснай сустрэчай з сонцам. Не мінула і паўдня, а дрэвы, кветкі, птушкі ссумаваліся па сонцы. Зусім як я. Толькі для мяне паўдня — палавіна жыцця...

*31 ліпеня*

ВОСЕНЬ СЕМДЗЕСЯТ ДРУГОГА ГОДА... Правёўшы свайго першакласніка ў школу і адчуваючы, што галаўны боль не праходзіць і пасля дзвюх таблетак, вырашаю вярнуцца дамоў не вуліцай, а наўкруг — краем лесапарку. Канец верасня выдаўся надзіва цёплы, сонечны. Сонца гарыць на кожным кляновым лістку, і калі ліст, адарваны цяжарам сонца, быццам адштурхваецца ад галіны і доўга-доўга, кружачыся, падае побач з маім паглядам, здаецца, што падае не ліст, а сколачак дня. Колькі іх, такіх сколачкаў, на зямлі!

Хутка я набіраю цэлы букет — жоўта-чырвоных, барвовых, ярка-крамяных. А потым трапляюцца яшчэ больш яркія, яшчэ больш прыгожыя, і, зразумеўшы, што ніколі мне не набраць самых-самых, падкідваю ўгору, над галавой, свой букет. І, уся абсыпаная лісцем, раптам заўважаю, што не адна тут, сярод клёнаў.

Да мяне набліжаецца маладая асоба, нервова памахваючы моднай чырвонай сумачкай. Чамусьці сцінаецца сэрца. Стаю. Чакаю. Рукі машынальна здымаюць з пляччэй, з валасоў заблытаныя ў іх лісткі.

— Я ішла за вамі. Мне — да вас.

— Добры дзень.

— А! Добры дзень. Прабачце,— яна сумелася, злёгку чырванее, а ў голасе вызвоньвае злосць. На каго злосць? На сябе? На мяне? Пачуўшы гэтыя злосныя ноткі, нечакана супакойваюся.

— З чым — да мяне? Якая-небудзь пільная патрэба?

— Я... Я люблю вашага мужа! — вымаўляе цвёрда, з выклікам, а позіркам ловіць кожны рух на маім твары.

Не ведаю чаму, пачынаю смяяцца. Разумею, што са мною не жартуюць, і смяюся. Яна з насцярогай пазірае на мяне, у першы момант не знайшоўшы, як зрэагаваць.

— Вы не зразумелі. Я — люблю — вашага — мужа!

— Ну, і што? — спрабую я сагнаць з твару ўсмешку.

— Аддайце мне яго! Вы ж усё роўна яго не любіце, і ён вас не любіць...

— Гэта ён так сказаў?

— Не. Але інакш ён не прыйшоў бы да мяне.

Размова станавілася занадта сур'ёзнай.

— Прыйшоў і не застаўся?

— Таму я прыйшла да вас.

— Да мяне? Дык што ж я, па-вашаму, павінна сама прывесці яго да вас? За ручку? Так вы сабе гэта ўяўляеце?

Яна стаяла перада мной ненатуральна прама, уся была, як наструненая. Відаць, зразумела, што гаворка нічога не дасць, і ў позірку ўжо не злосць — маленне. І тут я пачынаю злаваць. На сябе. Таму што раптам становіцца шкада гэтай маладой дурніцы. Чаго мне яе шкадаваць? Бач, удумала!

— Ты што, можа, зацяжарала?! — ад раптоўнай здагадкі нечакана пераходжу з незнаёмкай на «ты». Упершыню балюча кальнула: гэта ж пра майго — гаворка! гэта ж ён — да яе прыходзіў! — Ты чакаеш дзіця?

— Не. У мяне ёсць ужо дзіця...

І, адчуваючы, што зараз я павярнуся і пайду, заспяшалася, зачасціла:

— Але ў мяне нічога больш няма. Не трымайце яго! У вас ёсць работа, вас друкуюць, ён пакіне вам кватэру — яму і другую дадуць! У вас...

— У мяне таксама ёсць дзіця,— перапыняю я гэтую непрыемную размову і, рэзка павярнуўшыся, іду нацянькі да ўзлеску, дзе бялеюць знаёмыя двухпавярховыя дамы. Не хапала яшчэ, каб яна ўбачыла мае слёзы!

Не, я не плачу: да таго часу неяк навучылася ад абразы, ад абурэння, ад крыўды — не плакаць. Проста камянее ўсё ўнутры, і самі наварочваюцца слязінкі. Зусім

бязгучныя. Зусім бяскроўныя. Потым доўга не адчуваю нічога, апроч страшэннай стомы і абыякавасці да ўсяго і ўсіх. Скамянеласць проста фізічная: падымаю руку — рука як каменная калона, прыглушаю ўздых — губы, як два цяжкія валуны, пры ўзмаху павек — на шчокі сыплецца каменны пылок... Жудасныя імгненні! Я перажывала іх ужо не першы раз — і кожны раз мусіла прызнаць, што яны нібыта падоўжваюцца, запавольваюцца...

Адкуль гэта, не ведаю. Часам узнікала жаданне пайсці на кансультацыю да ўрача. Але я заўсёды адмахвалася. Што б гэта ні было, з ім трэба было спраўляцца самой: дагэтуль жа спраўлялася!

Пужала іншае: здрада, пэўна, не першая... Спрабавала вызначыць, высачыць нечаканыя зрухі ў душы: раўнуюць жа — калі любяць. Я — не раўнавала. Здавалася: усе пачуцці адключаны. А спакою не было. Быў боль. Увесь час думала адно, адно і тое ж: за што? Самае пакутнае было вось гэтае: за што? Перабірала пражытыя гады, дні. Прыгадвала не толькі нашы гутаркі — тон, якім яны вяліся. Падоўгу ўзіралася ў свой адбітак у люстэрку. Услухвалася ў свае сумненні. Прычына ж была — ува мне. І ў ім.

Яму — не даравала. Як ніколі нічога не даравала. Хоць не тады, а пазней, значна пазней, змагла акрэсліць тое, што адбылося: першым учынкам ён вярнуў мне маё сэрца, другім — маё слова...

Чаму я працягвала жыць з ім? Хто яго ведае. Тады я думала: любіла. Цяпер... Цяпер разважу прасцей: як усе, як кожная жанчына,— збаялася змен. Спужалася, што давядзецца жыць адзінокай. Пакінутай! У нас жа гэта пачуццё вастрэйшае: дапаможа, падтрымае не кожны, асудзіць кожны. Мала што асудзяць, той-сёй памкнецца ўрваць штосьці для сябе: жанчына ж...

Відаць, нізашто не адважылася б прызнацца ў гэтым уголас, але з маленства помню ў сабе жаданне — хутчэй пастарэць, зрабіцца непрывабнай, каб мець магчымасць — нарэшце! — ісці, ехаць адной, куды шлях пагукае, спыняцца ў любой хаце, заводзіць усё новыя і новыя знаёмствы. І нічога не баяцца. І нікога не баяцца. І ні ў кім не выклікаць юрлівых памкненняў. І не зайздросціць мужчынам...

Дзіка. Але толькі таму, што роўнасці на самой справе ніколі не было. Ды і быць не можа — у тым сэнсе, у якім

мы яе зразумелі. Курыць, піць, не адстаючы ад мужчын, спаць, асабліва не выбіраючы з кім, адваяваць права на некалькі спрадвеку мужчынскіх прафесій і страціць жаноцкасць, не набыўшы сілы,— гэта не роўнасць. Гэта прыніжанасць. Абразлівая для нас прыніжанасць.

Не, я не пагаджуся, канечне, вярнуць сваю прафесію. Не змагу, пэўна, адмовіцца ад звычкі курыць. Абуруся і ўчыню бунт, калі хто пачне прымушаць мяне жыць толькі домам і хатнімі клопатамі. Усё так. Але ж абрыдла і ў доме і на рабоце быць «мужыком», здабываць права на павагу адно за прафесіяналізм ці ініцыятыўнасць, адно за ўменне быць «сваёй у дошку» ці бескарыслівасць. Мала гэтага. Мала, калі не паважаць у жанчыне жанчыну...

*1 жніўня*

Не, і так і гэтак зірні, на адно выйдзе: мы ўсе баімся адзіноцтва — і прагнем яго. Не проста прагнем — будуем! Свая кватэра, свой дом, свой строга замкнёны свет, сваё, як мага больш звужанае кола знаёмых, свая палічка інтарэсаў у гэтым коле... З суседзямі — дзверы ў дзверы — гадамі не вітаемся, з раднёй, раскіданай па ўсёй краіне, не абменьваемся нават віншавальнымі паштоўкамі, пра свае абавязкі грамадзяніна часцей за ўсё проста не ўспамінаем, трывога за будучыню адбіваецца адно ў жыцейскім: «трэба жыць адным днём». Можа, я занадта абагульняю, ды і пачала з іншага, пра іншае... Але мне здаецца, калі зразумець прыроду адзіноцтва і свае адносіны да яго, стане зразумелым шмат што — калі не ўсё — у прыродзе чалавека.

Гульня ў рэтра... Мода на снабізм... А мне здаецца: уцёкі ад адказнасці за будучыню.

Чаму так адбываецца? Чаму? Ніхто не можа жыць адасоблена — і ўсе пазбягаюць адзін аднаго. Усе мараць пра вялікае каханне — і ніхто не адважваецца любіць бліжняга. Вучоныя шукаюць эліксір жыцця — а большасць людзей марнуюць адведзеныя ім гады жыцця на пошукі і набыванне якіхсьці рэчаў, якіхсьці бліскучых цацак...

Божа літасцівы, якіх намаганняў каштавала і каштуе — не быць як усе, не зліцца з большасцю! Хоць бы проста — не зліцца. З пачуцця пратэсту. З пачуцця годнасці. Бо куды лягчэй здзейсніць свой намер, не набываць дываноў, крыштальнага посуду, залатых пярсцёнкаў

і модных замежных ануч, чым адбіцца, адбівацца ад бясконцых папрокаў ці ўсмешак. Ледзь запратэстуеш, ледзь абаронішся ад аднаго, тут жа другі: «Ты што, хочаш пражыць не так, як усе людзі? Ты што, разумнейшая ад усіх?»

Ды не разумнейшая я за ўсіх. І не ўсе — «так». І не адасабляю я сябе ад усіх тым, што хачу вызначыць сваё месца ў жыцці. І ў свеце. Не я адна... Але ж мне, мне трэба ведаць, што я магу? Што магу толькі я? Што важней: быць шчаслівай ці не прынесці няшчасце іншаму? Чым лячыць балючае душэўнае адзіноцтва? Як не даць згаснуць у душы таму агеньчыку, ля якога адаграваецца жыццё? Гэта не толькі мае пытанні, ды запытацца можна толькі ў самой сябе. Толькі ў сябе. Пытанні... Іх становіцца ўсё болей. Яны ўсё больш балючыя. Хоць з гадамі прыходзіць разуменне, што адказаў на іх хутчэй за ўсё папросту няма...

Чалавек чалавекам жывы. І марна сам-насам з сабой бясконца спрабаваць апраўдаць бязволле, бяссілле, няўменне запоўніць кожны міг работай. Душа павінна працаваць штодня, штохвіліну — інакш яна адмірае. Можа, душа і баліць, таму што пачалося ўжо гэта адміранне? А я, замест таго каб зрабіць нешта, зрушыць,— тугой паскараю хваробу? «Не ты адна!» — спяшаецца падказаць памяць. Быццам калі-небудзь напраўду прыносіла палёгку тое, што — не я адна?! Наадварот, калі б ведаць, што ёсць людзі, якія жывуць у згодзе са сваёй душой, я б больш упарта шукала свой шлях.

Пакутую ж якраз таму, што яшчэ жывое ўва мне даўняе, маладое: калі не я — то хто?

*2 жніўня*

Крэсла за нашым сталом пустуе. Крэсла Глеба. Ён не выходзіць са свайго пакоя — запіў. Пачаліся пярэшапты. А то і адкрытыя асуджэнні: прыстойны дом адпачынку, мора, сонца — і... Што — за гэтым «і», ніколі не даслухваю. Глеб — дарослы чалавек, нават калі ён не можа справіцца са сваёй хваробай. І не дапамогуць тут ні асуджэнні, ні спачуванні. А я... Мяне і так не адпускае яго балючы пагляд, быццам я — я! — нейкім чынам падштурхнула яго. Тым, што не захацела наблізіцца. Тым, што не захацела выслухаць.

Два галасы ўва мне спрачаюцца, два погляды. І ніводнаму не магу аддаць перавагу.

Прыгадаўся даўні выпадак. Неяк, жывучы ўлетку на поўдні, я неасцярожна вырашыла зрабіць падарожжа ўздоўж усяго ўзбярэжжа Чорнага мора. На катэры на паветранай падушцы — на «ракеце». Купіла білет і паплыла. І ўжо праз гадзіну-другую страціла ўсякую цікавасць да сваёй задумы: катэр ішоў — дакладней, ляцеў — далёка ад берага, апроч хваль і іх белых грабеньчыкаў паглядзу не было за што зачапіцца. Надвор'е псавалася. Мацнеў вецер, нагнаўшы з поўначы цяжкіх навальнічных хмар, і хвалі цяпер ужо не каціліся насустрач, а падалі, узгдыбленыя ім,— катэр уздрыгваў усім вялікім, магутным целам. Знікла ўражанне, што ён ляціць. Ён перавальваўся з хвалі на хвалю, падскокваў, зарываўся носам у мокры вецер. Самы час распачацца «марской хваробе». І яна не прымусіла доўга чакаць: хутка адзін за адным пасажыры, хапаючыся за крэслы і парэнчы, пачалі прасоўвацца ў бок хваставога кубрыка. Я трымалася.

Хлынуў лівень. Час ад часу прабівалі яго сцяну бліскі маланак, і тады карціна здавалася яшчэ больш змрочнай. Жудаснай. Патокі ліўня не тушылі хвалю — яны нібыта вырасталі з яе, калышучыся зусім побач, за тонкім аконным шклом.

Паўгадзіны. Яшчэ паўгадзіны. Нічога не змянілася. Толькі час страшэнна запаволіў сваю хаду — стрэлкі гадзінніка амаль не рухаліся. Мільганула думка: мы ніколі не «даляцім» да бліжэйшага порта — катэр проста развaліцца пад напорам вады і ветру. Але катэр толькі цяжка ўздрыгваў, і ні многа ні мала, а ўсё-ткі прасоўваўся наперад. Калі лівень, змогшыся, пачаў аціхаць, у яго прарывах можна было разгледзець не адно пашкуматаныя, выціснутыя хмары — на даляглядзе ўгадваўся бераг. Бераг набліжаўся, і спакойны голас аднаго з членаў каманды абвясціў, што мы ўваходзім у новарасійскую бухту.

Падышлі да прычала амаль па спакойнай вадзе. Такое раптоўнае адступленне шторму ўспрымалася, як цуд: ажывалі твары — зялёны колер саступаў жоўтаму і ружоваму,— ажывала гамонка. Пасажыры рыхтаваліся сходзіць на бераг, матросы — прыбіраць салоны...

Першыя хвіліны на прычале — на зямлі! — былі як падарунак. І стомленаму целу. І стомленым вачам. Я гуляла ўздоўж мола, захінаючыся ад ветру ў лёгкую капронавую куртачку, і звярнула ўвагу на чаек. Крык іх быў незнаёмы. Яны то садзіліся на ваду, то ўзляталі і

кружыліся над адным і тым жа месцам, ускрыкваючы і зноў апускаючыся ўніз. Падышла бліжэй. Прасачыла за іх узлётам. І — зашчымела сэрца. На чорнай, як дзёгаць, паверхні вады застаўся шэры камячок чайкі. Яна таксама ўзмахвала крыламі, адзін, другі момант адчайна білася на вадзе, спрабуючы ўзляцець, і знямогла аціхала — намоклыя крылы былі занадта цяжкімі. І тады зноў садзіліся побач з ёй астатнія чайкі, і зноў шумна ўзляталі, клічучы за сабой аслабелую сяброўку. І тая ўзмахвала непаслухмянымі крыламі, адчайна, доўга білася ў новым парыве ўзляцець за імі. І слабела. І, падабраўшы крылы, тужліва адплывала ўбок.

Калі катэр адыходзіў ад прычала, чайка па-ранейшаму плавала, тужліва ўслухваючыся ў крыкі і раз-пораз спрабуючы высушыць крылы адчайнымі, цяжкімі ўзмахамі. Я дасюль помню яе знясіленую тугу.

Помню балюча, кожнай сваёй тканкай, быццам гэта была мая душа...

Даўні выпадак, цяжкі сваёй безвыходнасцю. Можа б, ён і патануў у памяці, калі б прыбітая ліўнем чайка не нагадала мне маю душу. Калі б яшчэ тады не нагадала...

І мы ж, людзі, так: здаецца, выбярашся з нягод, перажывеш цяжкое гора ці цяжкое расчараванне — і зноў жыві, як жыла. І спрабуеш жыць па-ранейшаму. І жывеш. А знясіленая душа, дзесьці ў былым, марна б'ецца, б'е аслабелымі крыламі, імкнучыся ўзляцець. Занадта цяжкім было гора, занадта шмат было расчараванняў.

Думаю пра Глеба. Пра тое, што нічога пра яго не ведаю. Думаю пра сябе...

Жыві, як жыла! — гэта толькі гаворыцца лёгка. Мінулы час не замяніць цяперашні, тым больш будучы. Кожны дзень я — іншая. Бяднейшая на цэлы дзень жыцця, багацейшая на мноства сустрэч, ці на размову з кнігай, ці на пачутую мелодыю ветру альбо некалькі крануты х паглядам кветак. Нават калі нічога не здарыцца, здарыцца цэлы дзень жыцця! А тут — прыйшло каханне. Я — пакахала. Цэлага жыцця мала, каб умясціць адно шчаслівае імгненне, цэлага неба мала, каб развінуць нябачныя крылы. І зведала б шчасце, і паляцела б! — душа ж, дзесьці ў былым, марна б'ецца, спрабуючы высушыць крылы адчайнымі, цяжкімі ўзмахамі і адарвацца ад зямлі. Быццам гэта тая чайка, прыбітая ліўнем...

*З жніўня*

ЛЕТА СЕМДЗЕСЯТ ТРЭЦЯГА ГОДА... Адно са спартыўных захапленняў юнацтва — горы, горны турызм. І хіба заканчваецца юнацтва тым, што выходзіш замуж? Ці захапленне перастае быць захапленнем?

Мяне, удзельніцу некалькіх складаных паходаў, запрашаюць у групу, маршрут якой пройдзе праз чатыры перавалы Паўночнага Каўказа. Маршрут цікавы — мне даўно хацелася пабываць на Марухскім перавале, ды і група падбіралася моцная. Невялікая — дзевяць чалавек, але ўсе людзі вопытныя, неаднойчы правераныя. Многіх я ведала.

Усё ўпіраецца ў тое, што я павінна амаль на цэлы месяц пакінуць сваіх мужчын адных на гаспадарцы. Як гэта зрабіць? Муж не жадае прызнаваць маё права на гэтую паездку, на гэтую адлучку. Не слухае ніякіх тлумачэнняў і доказаў.

— Прыхамаць! — крычыць ён, аглухлы ад сваёй нязгоды.— Ці мала што ты возьмеш у галаву!

— Як ты не разумееш? У мяне даўно не было такой магчымасці, з гадоў студэнцтва...

— Ты не студэнтка, ты мая жонка. І я чуць нічога не хачу пра нейкія там паходы! — у ім пачынае нарастаць раздражнёнасць.— У групе, дзе адны мужчыны...

— Не адны,— усё спрабую я супакоіць яго.— Я казала табе, што нас будзе двое.

— Ну, канечне. Удзвюх — на сем мужыкоў...

Адчуваю, што зараз сарвуся і я. Гэта ўжо не проста нязгода — непавага. Адкуль? Хоць цяпер, пражыўшы колькі гадоў разам, побач, можна было і не пытацца. Не першы ж выпадак... Задумваюся над пражытым, над той заведама агаворанай роляй, якую ён адвёў мне адразу па нараджэнні сына,— маўчаннем сваім хачу спыніць далейшыя, нічым не заслужаныя папрокі. Але маё маўчанне толькі падхлістваe яго.

— Можа, ты пачнеш зараз расказваць, што за месяц, праведзены сярод мужчын, твар у твар з кімсьці ў палатцы ўначы, ты застанешся гэтакім анёлам — з пакінутым дома мужам у сэрцы? Расказвай каму іншаму! Прырода бярэ сваё ўсюды. А ў гарах, адасобленыя ад сям'і і ад усяго свету...

— Ты хоць аднойчы хадзіў з дваццацікілаграмовым рукзаком у горы?

— Не хадзіў і не пайду. І ты не пойдзеш. Ведама ж, шчасце!

— Шчасце. Шчасце — у пераадольванні вышыні. У пераадольванні стомы і крыўднай прыроднай кволасці. У пераадольванні сябе. Толькі ў гарах адчуваеш, што ты — дзіця вечнасці, а аблокі, дзесьці далёка ўнізе, над безданню,— яе лёгкае дыханне...

— Што ты мне мазгі туманіш? — узарваўся той.— Вечнасць... аблокі... Ты ж з тымі аблокамі будзеш не адна.

— Зноў?

— Што — зноў? Ды з мяне ўвесь горад будзе смяяцца: адпусціў жонку ў горы з маладымі здаровымі мужыкамі!

— Мая... мне... з мяне... Што я — проста твая ўласнасць? Што, па-твойму,— чалавечая годнасць? Ці ты адмаўляеш мне і ў годнасці?

— Прырода бярэ сваё ўсюды. І заўсюды! — хмурнее ён, вырашыўшы скончыць размову.— Нікуды ты не пойдзеш! Інакш — развод.

— Што ж, у такім выпадку — развод! — адразаю рашуча.— Разводзься. Быць рабой твайго настрою не хачу...

— Раз-вод?! Ты — выбіраеш развод? — бянтэжыцца ён, не чакаючы такой рашучасці.— Гэта так сур'ёзна?

— Больш сур'ёзна, чым ты думаеш,— паварочваюся я да збуджанага гамонкай сына.

«Права на ўдзел у паходзе цяпер — права на сваё ўласнае жыццё на ўсе гады надалей»,— хачу я дадаць. І не дадаю.

Назаўтра даю тэлеграму аб сваёй згодзе ўвайсці ў склад групы, а праз тры тыдні, пацалаваўшы мужа и сына, еду да месца яе збору. Еду, шчаслівая сустрэчай з сябрамі, што гэтак жа, як і я, імкнуцца адарвацца ад астраўка свайго побыту, свайго жыцця, каб убачыць горы, каб скарыць новую вышыню. Кожны раз — новую, колькі разоў ні скаралі яе да цябе іншыя...

Чаму я прыгадала той далёкі дзень, тую даўнюю размову? Што яна вызначала? Можа, і нічога не вызначала. Да мяне прыйшла сталасць, абмінуўшы на шляху тую дзяўчынку-жанчыну, якой я была дагэтуль. Я нават развіталася з ёй, азірнуўшыся на мінулае, бы знала, што будзем страчацца толькі ў снах, цяжкіх, балючых, ад якіх задыхаешся і пакрываешся халодным потам... Дасюль так ніколі і не бачыла шчаслівых сноў!

Ці шкадавала аб сабе той, былой? Ды не! Я б і зараз

не хацела вярнуцца ў сваё юнацтва, а тады... Тады я цвёрда вырашыла: ніякіх паслабленняў сабе! ніякіх жаночых штучак! Буду сцвярджаць сябе работай, настойлівасцю — барацьбой, калі спатрэбіцца. Той, хто побач, поруч, павінен быць сябрам. Усё астатняе — лішняе. Без чаго можна абысціся — не вартае нават увагі, не тое што хвалявання. Патрэбы плоці лёгка замяніць напружанай работай душы. Не здолела стаць сабой, стаць задаволенай сабой у сям'і, у сямейным побыце, трэба здолець знайсці сябе ў рабоце. А для работы жанчына ты ці мужчына,— усё роўна.

Наіўна? Пэўна ж. Але гэта з вышыні сённяшняга ўзросту і вопыту — наіўна. Тады ж я была ўпэўнена, што за мяне — сам час. Жанчыны сцвярджалі сябе паўсюдна, ва ўсіх галінах навукі, ва ўсіх жанрах мастацтва, у вытворчасці і ў творчасці. Пра каханне перасталі гаварыць усур'ёз. Ці гаварылі, што яго папросту няма, а было — знікла. Хоць гэта азначала б, што знік ідэал...

Не, мне ўсё ж здаецца часам, што каханне не знікла, што яно папросту вырасла — і, не дацягваючыся да яго, да яго вышыні, усім неяк лягчэй было яго не заўважаць. І — не заўважалі. І не заўважылі, як пачалі страчваць штосьці самае-самае ў сабе і вакол сябе. Свет заўсёды такі, якім яго хочуць бачыць жанчыны...

*4 жніўня*

Я нічога не перабольшваю? Нешта зашмат супярэчлівых высноў замыкаецца на мне. А з другога боку: чыё яшчэ жыццё магу я даследаваць так, як сваё? Так глыбока, як сваё? Каго, апроч сябе, магу запрасіць на размову?

Свет такі, якім яго хочуць бачыць жанчыны: колькі ні тасуй стагоддзі і падзеі, наслоеныя ў іх, міжволі зноў і зноў прыходзіш да гэтай думкі. І калі маралі, маральным устаноўкам бракуе яснасці, чысціні, вінавата і я. Тым больш вінавата, што ледзь не змалку рашуча адмаўлялася належаць да свайго полу, а значыць, і выконваць пэўную ролю ў сям'і і грамадстве. Вось. Гатовы пачатак для сумнага трактата пра роўнасць і яе выдаткі...

А мне ж — не да трактатаў. Гэта ж па звычцы, чыста журналісцкай, шукаю больш высокія, прыгажэйшыя словы, чым былі б да месца сёння, зараз. У якія высокія словы ні хутай пражыты дзень, ён застанецца такім, якім надарыўся. З усімі яго выдаткамі. З усімі недарэчнасцямі. З усімі пытаннямі, якія вырашаць трэба неадкладна. Неадкладна. А я — пра стагоддзі...

Усё таму, што згадкі яшчэ час ад часу адпускаюць мяне, адплываючы, знікаючы недзе ў сонечным мроіве над морам, а думкі — не, а думкі ўвесь час са мной. Вось і зараз... Глыбокая ноч. Гадзіны тры праседзела на сваім балкончыку — паміж агнямі гарадка і зоркамі. Супакойвалася. Супакойвала думкі. Не супакоіла. І зноў узялася за пяро, нібыта рука здолее знайсці ў падзеях пражытага дня і маіх паводзінах хоць якую логіку.

Якая там, к чорту, логіка! Паспрабуй я яшчэ ўчора назваць свае адносіны да Глеба, не сумнявалася б ні хвіліны. Ні паўхвіліны. Не-пры-няцце. Абыякавае непрыняцце, калі такое ёсць. Можа, крыху разбаўленае шкадаваннем: адчула ж, што ў нас шмат агульнага — і гаворак з Глебам апошнія дні не ставала...

— Сарамаціішча! Вы не чулі, што расказваюць пра Гарунова? — роўным бясфарбным голасам абуралася ўранні, у час сняданка, мая звышінтэлектуальная суседка.— Кажуць: ледзь не забілі на набярэжнай уначы. На бутэльку паквапіліся, няйначай. Не грошай жа ў яго шукаць! Апусціўся... Чацвёрты дзень на адной гарэлцы жыве... Сорам на людзі паказацца...

Я спрабавала не ўслухвацца. Прапускала цэлыя фразы. Спяшаючыся закончыць сняданак, апякалася гарачым чаем. Не дапіла. Развіталася. А словы, нават не пачутыя, ужо знайшлі водгук — гучалі ва мне. Ледзь не забілі... На адной гарэлцы... Сорам на людзі... Як ён вытрымлівае? Чаму раптам... А раптам я магла яго спыніць — тады, у бары? А раптам — яшчэ не позна? А раптам трэба проста зайсці да яго, каб ён адчуў... Што — адчуў, вызначыць было немагчыма.

Рашучасць змянялася нерашучасцю, жаль саступаў абурэнню, абурэнне нагадвала пачуццё віны... Апалудні я не вытрымала. Прайшла ў корпус, дзе на другім паверсе, пад самай лесвіцай, жыў Глеб. Стараючыся не зважаць на цікаўныя позіркі пакаёвак, пастукала ў дзверы. Адказу не было. Штурхнула — яны падаліся. Рашуча ступіла ў пакой — з намерам ні на што не здзіўляцца. Я не ведала, што скажу Глебу...

Жаль пекануў па сэрцы: Глеб, няголены, у запэцканым, пакамечаным касцюме, ляжаў на ложку. Мёртвай здавалася рука, якая звісала, кранаючыся падлогі. Мёртвым здаваўся позірк. Але гэта толькі першае імгненне. Бо ўжо ў наступнае — Глеб ускочыў з ложка, разгублена

пачаў шукаць свабоднае ад апраткі, бутэлек, кніг — усё уперамешку! — месца. І, не знаходзячы, застагнаў. І адвярнуўся.

— Ты прыйшла, а я...

— А ты здзічэў тут сам-насам са спёкай. Як можна піць у такую гарачыню? — спрабавала я раззлавацца. Але злосці не было. Нават у голасе.

Ён маўчаў. З тугой, бездапаможна азіраўся раз-пораз. У позірку — непрыхаваная пакута.

— Ну, вось што,— з нечаканай лёгкасцю вырашыла я,— спускайся ў душ, прыводзь сябе ў божы выгляд. Праз гадзіну табе з кухні прынясуць паесці...

— Не трэба!

— Тады я сама прынясу,— спакойна дагаварыла я.

Спакою не было. Калі сонца пачало садзіцца, я ў трэці раз скіравалася да Глеба. З дзвюма шклянкамі гарачага малака. Праз пярэшапты і цікаўныя позіркі знаёмых і незнаёмых жанок, што толькі ўчора лічылі мяне хто ганарліўкай, хто «синим чулком». І адны, і другія мала ў чым памыляліся...

Глеб расплюшчыў вочы, ледзь толькі рыпнулі дзверы. І шырока-шырока заўсміхаўся мне насустрач. І тут жа ўскочыў. Узяў у мяне з рук шклянкі з малаком.

— Я чакаў цябе і раптоўна заснуў...

— Ты праспаў свой абед. Вунь ён, на стале.

— Дзякуй. Я не хачу есці. Не магу... Ды ты сядай! Праходзь і сядай.

Пакуль ён, уважыўшы маю настойлівую просьбу, піў гарачае малако, разглядвала яго. Прыгожы, прыгажун — у мінулым. Сляды маладой палкасці яшчэ лёгка чытаюцца. Шмат перажыў. Нізкі болевы парог, што ніколі не дазваляла яму пайсці на подласць, нават самую невялікую, жыцейскую. Запой — не першы. Выглядаў проста хворым: запалыя шчокі, ужо чыста паголеныя, сцягнуты маршчынамі лоб, цёмныя, з ліхаманкавым бляскам, вочы.

— Непрывабна выглядаю? — перапыніў мае развагі Глеб.— Я яшчэ не выкараскаўся... Ты толькі не вельмі асуджай, добра? Ты — іншая... Чыстая! А я...

— Самасуд — потым. Зараз мы пойдзем дыхаць салёным ветрам.

Спакою не было. Ды і адкуль ён мог з'явіцца, калі я ўжо ступіла за мяжу, якой дасюль рашуча падзяляла сябе і ўсё, што вакол — па-за маім жыццём. Глеб таксама

быў па-за... Я дазволіла сабе наблізіцца да яго — і вось нас ужо звязвалі не толькі давер і разуменне, але і позіркі ўсіх цікаўных, іх пярэшапты, памылковыя здагадкі. Пачні ж я штосьці тлумачыць гэтым людзям, сітуацыя з незразумелай ператварылася б у непрыемную.

Глеб хацеў выкараскацца. З хваробы. Са свайго бязволля. Са свайго мінулага, якое вызначала ўжо лёс. Дзевяць гадоў жыў адзін. Без сям'і. Дапамагаў гадаваць дачок. Вырашаў, што рабіць з усім астатнім жыццём. Спрабаваў напісаць кнігу пра ўладу над чалавекам адной-адзінай страсці, у кожнага — сваёй. Напісаў. Кніга не пайшла. Не прайшла нават першы бар'ер. Сказалі: кепская падробка пад Дастаеўскага. А ён — хацеў выкараскацца! І не ведаў як. Урачы ў яго выпадку былі ні пры чым...

Вось — змест тых некалькіх гадзін, што я правяла побач з Глебам у парку, на набярэжнай, на верандзе. Ён — спавядаўся, я — слухала. Я спрабавала адшукаць, убачыць тую выратавальную нітачку, што магу перакінуць яму праз усе пражытыя намі паасобку гады, праз усе гады наперадзе. Нітачкі не было. Няма. Магчыма, таму я, развітаўшыся з ім, да глыбокай ночы праседзела на сваім балкончыку, адна паміж агнямі гарадка і зоркамі, нязвыкла буйнымі і яркімі.

*5 жніўня*

— Я папраўлюся. Абавязкова папраўлюся. Вось убачыш! І тады скажу табе... Цяпер у мяне няма права сказаць табе ўсё,— ціха прамаўляў Глеб, цалуючы мне рукі.

Ён падышоў у калідоры, па дарозе ў сталоўку. Вочы ціха свяціліся, нібыта і сапраўды ўсё самае страшнае было ззаду. Але ўжо ў час абеду, заўважыўшы, што звышінтэлектуальная суседка адсунула сваю талерку на край стала і крыху пасунула крэсла, ледзь толькі ён заняў сваё месца, зноў адводзіў убок позірк і хмурыўся. У ім ішла барацьба, і месца для мяне ў ёй не было. Усё ж не было...

Толькі што я ў гэтым пераканалася. Заходжу, як звычайна, выпіць свой кубачак кавы і бачу — Глеба. Не аднаго. З маладой ускудлачанай асобай, што бессаромна выстаўляла грудзі... Першым жаданнем было — павярнуцца і выйсці. Спыніла сябе загадным: «Не смей! Што табе да таго, каго частуе каньяком нейкі Глеб?»

Заказала каву.

— Можа, чарку каньяку? — адхінуўся ад стойкі Глеб, ловячы мой позірк.

Я не азірнулася на голас. Як потым не азірнулася ні на адзін яго позірк. Апякаючыся, глытала каву, зацята паўтараючы: я — не ведаю — гэтага чалавека, я — не ведаю — ніякага Глеба...

Смешна. І чамусьці — балюча.

*6 жніўня*

Стамілася. Ці, можа, уздзеянне гарачыні і вільготнага, перанасычанага выпарэннямі мора паветра: адчуванне, што кроў у жылах загусла, ледзь цурчыць. Не праходзіць вяласць, санлівасць. Амаль перастала чытаць. З цяжкасцю пераадольваю гэты свой стан, у каторы раз здзіўляючыся, як тут пастаянна могуць жыць людзі,— я ж пасля дзвюх-трох гадзін, праведзеных на сонцы, нагадваю сонную муху пад шкляным каўпаком неба.

Нават думкі пачалі прабуксоўваць — увесь час вяртаюся да нейкіх эпізодаў жыцця, адных і тых жа, да пэўных яго ўрокаў, якія так нічаму і не навучылі. Ведама ж, захацеў — і выводзь з пражытага дакладную формулу! Тут і ў адно, у адзін малюнак, звесці свае ўспаміны не магу. Жыццё не паддаецца. Вось і застаюцца самі па сабе: жыццё — жыццём, а словы — словамі.

І ўсё ж я не пакідаю весці гэты распачаты дзённік, бездапаможна спадзеючыся, што з ім — у ім! — мне лягчэй будзе разабрацца ва ўсіх тых эпізодах, ва ўсіх тых уроках. Магчыма, я потым спалю яго ў пячурцы на дачы, услухваючыся ў шум соснаў, як цяпер услухваюся ў шум мора, але пакуль што ён мне патрэбны.

ВОСЕНЬ СЕМДЗЕСЯТ ТРЭЦЯГА ГОДА... Задажджыла. Дождж цэдзіцца і цэдзіцца з зацягнутага шэранню неба. Я як зраслася з плашчом і парасонам: нават у цесным рэдакцыйным пакойчыку яны побач — плашч за спіной, парасон каля ног. Звыклыя матэрыялы ў нумар — інфармацыі, зводкі аб надоях па раёне, даведкі аб ходзе спаборніцтва — чытаюцца, як абрыдлая, нікому не патрэбная нудота. Яны па самой справе страшэнна аднастайныя — мяняюцца толькі лічбы. Але ж у іх, у гэтых лічбах, як у люстэрку, адлюстравана ўсё гаспадарчае жыццё. Я разумею гэта і ўсё ж чытаю з цяжкасцю, вылоўліваючы памылкі — «блох», на жаргоне журналістаў.

Чамусьці вельмі рэзка звініць тэлефон. Здымаю трубку.

*...Калі, не дайшоўшы, спыніўся, няўцямным рухам абняў і прыцягнуў, прыхінуў да сябе сына. не было ўжо вакол ні залы, ні сцен, завешаных карцінамі, ні абмытага, расквечанага дажджом гарадскога квартала за імі.*

— Сельскагаспадарчы аддзел газеты...
У трубцы чуецца надрыўны кашаль і ўсхліпванне.
— Алё! Вы куды звоніце?
— Гэта я...— гучыць голас старой прыяцелькі, настаўніцы.— Я хачу развітацца...
І зноў надрыўны кашаль. Мне робіцца не па сабе. Інтуіцыяй адчуваю: штосьці здарылася.
— Ты захварэла? Светка, што з табой?
— Я... паміраю. Прыйдзеш з белымі ружамі... памянеш...— даносіцца праз цяжкія ўсхліпы кашлю.
— Што за жарты, чорт вазьмі! — крычу ў трубку, а па спіне, па ўсім целе паўзуць халодныя мурашы.— Ты можаш растлумачыць, што здарылася? Я зараз прыеду! Я пазваню ў «Хуткую дапамогу»...
— Не трэба. Я выпіла воцат... Будзь...
Сувязь перарвалася. Слухаю кароткія гудкі і ў першы момант не ведаю, што рабіць. Набіраю знаёмы кватэрны нумар, трубку не здымаюць. Званю ў паліклініку, перазвоньваю па 03, доўга-доўга тлумачу дыспетчару пра прыяцельку, пра воцат, пра тое, чаму і адкуль званю. Абяцаю прыехаць сама. Кідаюся да рэдактара. Потым — да машыны. І ніяк не магу ўразумець, што ж усё-ткі здарылася. Светка, заўсёды вясёлая, лёгкая, а то і легкадумная, якая магла, як кажуць, трымаць цэлую кампанію, атруцілася?
Ускочыўшы ў пад'езд, чую, як грукаюць у чыесьці дзверы на другім паверсе. Разумею: гэта медыкі грукаюць у дзверы, дзе жыве мая прыяцелька. Уся мокрая ад дажджу, узбягаю па лесвіцы, зноў штосьці тлумачу і сама пачынаю грукаць у дзверы, гукаць:
— Света! Света, гэта я. Адчыні!
Калі санітар ужо хацеў узламаць дзверы, яны — праз кашаль і стогны — раптам адчыняюцца. Света, перагнутая болем напалам, стаіць у дзвярах, твару яе не відаць — яна бокам валіцца ў рукі санітараў. Я кідаюся да яе. Урач мякка адхіляе мяне. І тут жа пачынае гучна камандаваць:
— Чысты посуд, як мага большы! Вады! Якую-небудзь міску на падлогу! Ручнік!
Мітушуся, расшукваючы ўсё, што патрабуецца: не так часта бывала я тут, каб ведаць, дзе што ляжыць ці стаіць,— кватэра амаль незнаёмая. Я не бачу — не магу глядзець! — што адбываецца на кухні, дзе медыкі звыкла, занадта спакойна, як здаецца мне, разнерваванай, перапалоханай, займаюцца сваёй справай. Не ўяўляю: ідзе час

ці спыніўся, стаіўся. Урач, заўважыўшы мой стан, запрашае прайсці ў пакой.

— Ну-у, не трэба так хваляваццa! Усё скончыцца добра: воцат быў не самай высокай канцэнтрацыі. Зараз прамыюць і... А тут што здарылася? Што яе прымусіла?

— Не ведаю,— спрабуючы ўзяць сябе ў рукі, адказваю я, і які ўжо раз расказваю пра тэлефонны званок, пра тое, што рабіла пасля гэтага званка.

— Белыя ружы, кажаце? З-за мужчыны, пэўна, га?

І, не чакаючы майго адказу, працягвае:

— Ну, пра гэта і здагадацца няцяжка. Жыве адна. Узрост падбіраецца да трыццаці. Мужчына не першы. Раптам здалося: апошні... З такімі... многія імкнуцца пераспаць, жыць жа пабач пабаяцца.

— Вы проста цынік,— перапыняю я яго.— Чалавек памірае, а вы...

— Чалавек не памрэ: хлопцы ведаюць сваю справу. А наконт цыніка вы дарэмна. Я ўрач і гляджу на ўсё цвяроза.

— О, вы ніколі б не труціліся з-за кахання! Ці не праўда?

— А вы?

Я не знаходжу, што адказаць. Нечакана павернутае пытанне збянтэжыла: я нібыта толькі зараз усведамляю, што здарылася, і не магу, нават у думках, павярнуць сітуацыю на сябе. Труціцца? З-за кахання? З-за мужчыны? На свеце ж ёсць не толькі каханне. Што «не толькі» — памяць не падказвае.

Ён жа, нібыта чытаючы мае думкі, усміхаецца:

— Вось бачыце!

І выходзіць, пакідаючы мяне з маімі пытаннямі самнасам. Але задумаюся я над імі пазней: праз колькі хвілін у пакой уводзяць — ледзь не ўносяць — збялелую як палатно Свету, і яна апускаецца на ложак. Усе мае думкі, увесь мой клопат цяпер пра яе. Я мякка падсоўваю падушку, прыгладжваю ёй валасы, ціха, супакойліва пагладжваю плечы. Недзе па-за свядомасцю заўважаю, што ёй робяць укол, што ўрач складае нейкі дакумент, што санітары з цікавасцю разглядаюць мяне, нарэшце, справіўшыся са сваім абавязкам. Хтосьці з іх пазнае мяне, і пачынаецца неабавязковая, лёгкая, як заўжды ў падобных выпадках, гамонка.

Гаспадыня пацыху ачуняла, і ўрач звяртаецца цяпер ужо да яе. Адказваю я. Са Светай пачынаецца істэрыка.

Яна адхіляе мае рукі, крычыць, што я здрадца і слабахарактарная баба, лае ўвесь свет і ўсіх добрасардэчных у ім. Ніколі раней не думала я, што ў мяне столькі цярпення і мяккасці! — я мякка ўлагоджваю яе, гавару мноства нязвыкла лагодных, пяшчотных слоў, гладжу і гладжу яе рукі, плечы. І яна памалу супакойваецца, паддаецца ўгаворам.

У бальніцы яна ўсвядоміць, што ўчыніла з сабой — магла ўчыніць! — і доўга будзе плакаць, схаваўшы твар у мае далоні. І раскажа ўсю гісторыю. З-за мужчыны... Раптам здалося: апошні...

Мне і сягоння лёгка прыгадваецца ўсмешка ўрача, які нібыта чытаў мае думкі. «А вы?.. Вось бачыце!» — смяяўся ён з рамантычных драм усіх эпох, з усіх сэрцаў, у якіх спрабавала гняздзіцца каханне. І я, па сутнасці, была з ім згодна. Не смяялася, не! — занадта вялікую ўладу мае нада мной сэрца, каб гэтак пакрыўдзіць яго. Але я была на баку той яго цвярозай усмешкі, і ён гэта адчуваў. «Труціцца? З-за кахання? З-за мужчыны? Не той час. Не тыя правілы гульні»,— гэта былі не адно ягоныя перакананні. І мае. Тады, на той час...

Тады я адпрэчвала і само каханне. Што я магу адпрэчваць сёння? Сёння, больш чым калі, я перакананая: шчаслівы той чалавек, хто можа сам пакахаць. Нават калі не кахаюць яго. Не кахаюць... Трагічная недарэчнасць! — хіба тваё пачуццё не павінна выклікаць гэткае ж пачуццё ў каханага? Невыносны боль! — думаць пра тое, што самы родны табе чалавек — чужы, балюча. І ўсё ж шчасце — кахаць самой! Таму што толькі закаханае сэрца становіцца відушчым, толькі пакахаўшы, навучаешся любіць свет і людзей у ім... Сёння я магу гэта сказаць.

Баюся думаць пра той міг, які прынясе жорсткую вестку: мой каханы мяне разлюбіў ці, можа, ніколі і не любіў... Не, не! Няхай нават так. Няхай разлюбіў, не любіў — ён назаўсёды застанецца маім каханым.

*7 жніўня*

Што ж, паклясціся лягчэй, чым застацца вернай сваёй клятве. Жыццё гэта даказвала неаднойчы...

Нават калі вярнуцца да апісанага мной выпадку, то і ён — толькі ілюстрацыя да гэтай сумнай высновы. Не мінула і двух-трох месяцаў, як ў маёй прыяцелькі з'явіў-

ся новы мужчына, і яна, час ад часу названьваючы мне ў рэдакцыю, захлёбваючыся, расказвала пра сваё каханне. Зноў.

— А тое, раней, што было? — перапыняла я яе.

— Не ведаю. Зацьменне нейкае. Ён жа проста мярзотнік: тлуміў мне галаву, а заяву на шлюб падаў з другой...

— А калі і цяпер — не каханне?

— Ну, што ты? — пераконвала яна мяне, а праз колькі часу пачынала адводзіць убок пагляд, не спяшаючыся расказваць пра новае захапленне.

Пэўна, прасцей за ўсё было б выразна правесці рысу: гэта, маўляў, каханне, а далей — ужо проста распуста, якая толькі вонкава падаграваецца страсцю. Няхай нават напачатку не распуста, а страсць... Каханне — страсць... Хто змог бы правесці такую рысу? І там і там — пачуццё, ледзь што не аднолькавае па сіле і напалу. І ў тым і ў іншым выпадку — разрыў абуджае ў душы самыя глыбокія, самыя балючыя пласты, і ў ёй — няхай на кароткі час — рушыцца свет, з такой цяжкасцю збудаваны.

Не, не! Канечне, прасцей за ўсё было б рашуча адрэзаць: распуста ўсё! Але як і што тут адрэжаш, калі душу прырода ўклала ў цела і плоць не хоча саступаць ёй ні ў чым. Ні ў чым. Страсць адолець, падпарадкаваць розуму ці волі яшчэ цяжэй, чым каханне...

О гэта прырода! І так з ёй і гэтак абыходзішся, і так і гэтак хочаш падмануць, а яна ўпарціцца і ўлады не аддае: перамагаюць часцей, чым хацелася б, якраз пачуцці, страсці... Якімі б нізкімі яны ні ўяўляліся, а верх над душой падчас бяруць. Дай ім волю — усё святло ў душы патрушчаць і ў мінулае ўтопчуць. І тады не здолееш захаваць у душы незамутнёнай веры ў людзей, у іх дабрыню і разуменне. А як — без яе, без гэтай веры?

Як? Калі парушана вера ў людзей — усё парушана, усё губляе кошт. Самагубства, замах на жыццё — страшнае таму сведчанне. Хоць і рэдкае. Бо часцей страчаецца іншае: бязволле, паступовая дэградацыя асобы ў чалавеку, бездухоўнасць, якую з цягам часу не схаваць ні за знешнасцю, ні за самай моднай апраткай. Бездухоўнасць, якая вядзе да цяжкога душэўнага захворвання, якая, урэшце, знішчае душу і штурхае чалавека да чаркі...

Чамусьці зноў і зноў прыгадваю Глеба. Паехаў раней тэрміну. І з дома адпачынку, і з майго жыцця. І хоць абя-

цаў напісаць — не піша. Сцежкі ж у другі раз проста не сутыкнуцца. Радавацца трэба, а не рада. Не рада. Іншы ён, не такі, як астатнія мае знаёмыя. Можа, і не лепшы, а — іншы.

Раніцой я з ім не павіталася. Заўважыла, што ён разгублены, зніякавелы нейкі, і не павіталася. Дзеўкай сваёй Глеб застаўся не задаволены ці сабой, цікавіла мяне мала. Гэта быў ягоны клопат, ён сам вырашаў — і вырашыў. Я ў гульні больш не ўдзельнічала. Пагуляла — і годзе, даводзіла я сабе, калі не-не і вярталася згадка пра колішні вечар. Не крыўдаваць жа было! Ён — сам па сабе, я — сама па сабе...

Як мы развіталіся? Перад самай вячэрай — я ўжо апранулася і прычасалася — у дзверы пастукалі.

— Не замкнёна! Заходзьце,— кінула ў той бок, не павярнуўшыся: павінна была зайсці Галя, прыяцелька з чатырнаццатага пакоя.

Калі ж азірнулася, то ўбачыла Глеба. Дзверы — нарасхрыст і Глеб — у дзвярах. Здзівілася: ён жа ніколі раней не заходзіў. Раней абурылася б, а тут чамусьці не абурылася. Маўчу. І ён маўчыць. Некалькі імгненняў доўжацца і доўжацца. Нарэшце, ён, не зачыняючы дзвярэй, ступае колькі крокаў да мяне. Заўважаю, што ў яго рудэ — паперка... Тэлеграма.

— Вось! — падаў Глеб тэлеграму.— Тэлеграма ад сястры. Маці памірае...

Я не адводжу вачэй ад паперкі, а бачу не паперку, не наклееныя словы на ёй, а пачарнелы, з запалымі шчокамі Глебаў твар, цёмныя вочы яго, у якіх калыхаецца шчымлівая туга.

— З такімі, як я, толькі так і здараецца! — сціснуў ён, камечачы, лісток.— Самалёт адлятае ў дваццаць адну дваццаць...

— Ты прыйшоў развітацца? — прымушаю я сябе зірнуць Глебу ў вочы і адразу зноў апускаю пагляд.

— Прабач. Калі можаш, за ўсё прабач.

Я маўчу. Я не ведаю, за што я павінна яму прабачыць. Не ведаю, што сказаць на развітанне. Хіба што папрасіць, каб даў клятву не піць... Дык смешна ж, дальбог!

Глеб павярнуўся, каб ісці. І спыніўся. Спіной чакаў якіхсьці маіх слоў. Я не ведала гэтых слоў і маўчала. Злавалася ў душы: ну, што ён марудзіць?

— Я ўсё жыццё чакаў сустрэчы з табой... з такой, як

ты,— запінаючыся, ціха сказаў Глеб, так ціха, нібыта сам сабе.— Я не хачу, каб мы размінуліся.

Ён не паварочваўся, і я ступіла да яго. Крок. І другі. І мякка кранулася пляча, адчуваючы, як яно ледзь прыкметна ўздрыгвала, падаўшыся да маёй рукі.

— Ты толькі нічога не прыдумляй, Глеб. І паспрабуй утрымацца, не піць. Не дзеля мяне, дзеля сябе, дзеля маці...

Я ўжо стаяла перад ім. Я пазірала яму ў вочы. Я хацела яго супакоіць. Пакутна хацела дапамагчы. Гатова была схлусіць. Ужо — хлусіла:

— З маці ўсё будзе добра, яна паправіцца. Вось убачыш! І мы... Мы абавязкова сустрэнемся, Глеб. Не на розных жа планетах жывём! Ты верыш?

— Веру,— удзячна адгукнуўся ён і, пацалаваўшы мне руку, доўга-доўга ўзіраўся ў мой твар.— Я адшукаю цябе. Абавязкова. Што б ні здарылася са мной... Я напішу!

Ён пайшоў. Я зачыніла за ім дзверы. Павярнула ключ. Вячэраць не хацелася...

Ненавіджу, шкадую і ненавіджу ўсіх апівох, ненавіджу гэта горкае зелле, што можа лёгка ператварыць чалавека ў жывёліну. Спачатку на гадзіну, дзве... Пакуль сон не зваліць. Пакуль праспіцца. О, каб жа праспаўся — і адышло жаданне зноў глынуць гэтага зелля, адчуць, як яно размывае, раз'ядае, адны і тыя ж, абрыдлыя, думкі, як яно вызваляе цябе ад думак, і ад цябе самога, чалавека... О, каб праспаўся — злячыўся! Дык не. Штосьці ўжо адмерла, штосьці адмірае кожны раз, з кожнай выпітай чаркай, і хворае, атручанае гарэлкай нутро патрабуе новай дозы, падштурхвае чалавека шукаць новую магчымасць выпіць...

Часам здаецца: усе мы — усе разам вінаваты. Пазіраем на п'янага з усмешкай: хто, маўляў, не быў у такім стане? Мажліва ж, нагода ў чалавека... Мажліва, радасць надарылася або гора дапякло... Што ж яго ўшчуваць? За што асуджаць? Паспачуваць трэба, а то і пашкадаваць: бедненькі, назюзюкаўся!

Божа мой, ды мы проста пра нашчадкаў сваіх, пра будучыню не дбалі! Можа, яно і прасцей: не трэба нічога ні ў кім выхоўваць, не трэба нікога ні ў чым пераконваць, не трэба баяцца нічыйго бунту, нічыіх памкненняў ці запатрабаванняў. Налі гэтага зелля крыху звыш таго, што

чалавек просіць. Раз. І другі. І ўсё вырашана: у чалавеку памрэ чалавек... Куды ўжо працей!

Ненавіджу. Судзіла б за п'янства, як за злачынства супраць сябе і будучыні.

І ведама ж, адну мяне закранула гэта нянавісць! Ці адзін паламаны лёс — лёс маёй маці альбо лёс Глеба. Такіх паламаных лёсаў, на жаль, лічыць не пералічыць. Хто сам пакаціўся, паслізгнуўшыся на крыўдзе, каго ціхенька падштурхнулі адзін-другі раз: быў жа хтосьці побач, быў жа той, хто мог утрымаць, і не ўтрымаў...

Усе запаведзі вучаць любіць людзей і дараваць ім іх слабасць.

Але дараваць можа толькі любоў. Яна адна. Калі яна ёсць. Калі мы не гонім яе з сэрца.

Зноў кажу «мы», хоць думаю пра сябе, пра сваё. Ніколі, ніколі я не навучуся быць спакойнай і радавацца: вечна пільнуе за бліжэйшым паваротам думкі — старая, праклятая нянавісць.

*8 жніўня*

Праз тры дні заканчваецца адпачынак. Праз тры дні. А душа якой развярэджанай была па прыездзе сюды, такой і засталася. Па-мойму, я, як толькі магла, не давала ёй заспакоіцца, набыць нейкую раўнавагу. Стала яшчэ горш.

Два галасы, іх заўсёдная спрэчка ўва мне — і за мяне... Цяпер мне здаецца, што іх ужо не два, а значна больш,— і я гавару то адным, то другім, то трэцім... Кожным. Па чарзе і без чаргі. То шукаючы сваю віну, то абараняючыся. Таму такія зблытаныя запісы, таму дасюль я амаль нічога з таго, што спрабавала ўразумець з пражытага, так і не высветліла. Ды і вобраз той, каго я лічу сабой — і лічу па праву! — атрымліваецца бяскроўны, бясфарбны. Гэткая матрона з павучальнымі ноткамі ў голасе! Лухта. Гэткая я, як усе. І ненавіджу і люблю тое, што і ўсе. І хараство зямное — дзе б, на якім крайку зямлі я ні знаходзіла сваю сцежку. І слова вясёлае, шчырае — хто б яго ні падаў мне з усмешкай. І песню — журботную родную песню, да якой хінуся я ў самыя горкія мінуты.

Вось толькі разважаць пра тое, што любіш, неяк не выпадае. Іншыя думкі непакояць. Іншага, на пакуту сабе, прагнеш. За іншае хацела б апраўдацца.

ЗІМА СЕМДЗЕСЯТ ЧАЦВЁРТАГА ГОДА... Выехала на адну з рэспубліканскіх нарад. На тры дні. Нарада даволі сумная: тыя ж, што і летась, пытанні, традыцыйныя лекцыі па вядомых, даўно прачытаных матэрыялах. Нават кампаніі, якія групуюцца то ў адным, то ў другім гасцінічным нумары, знаёма аднастайныя: усе ведаюць адзін аднаго, хоць па некалькіх сустрэчах, усе за бутэлькай добрага сухога віна прагнуць выгаварыцца, вызваліцца ад сабраных крыўд і сумненняў. Цікавага мала. І таму я — ужо на другі дзень — шукаю адзіноцтва. Застаюся адна ў сваім пакоі. Рассоўваю шторы, саджуся на падаконне — акно выходзіць у двор, засаджаны ліпамі,— і цікую за адвячоркавай цішынёй.

Мякка падаюць рэдкія сняжынкі. Не даганяючы адна адну, усё-ткі ў нейкі момант, над самай зямлёй, яны зліпаюцца і ўтвараюць лёгкі паветраны кілім — ападзе, ператорыцца ў хрусткае снежнае покрыва гэты кілім пазней, калі сняжынак набярэцца дзесяткі, сотні тысяч і іх спрасуе пасля адлігі мароз. Цяпер жа гэта толькі дзівосныя ўзоры на яшчэ не застылым, бязважкім срэбры.

Проста перад акном, на галінцы — снегірок. Ён не зважае на мяне, хоць ведаю: зварухніся я — чырванагруды птах успырхне, асыпаўшы з галінкі цэлы касцёр сняжынак, і пераляціць далей, у глыб двара. Сяджу ціха-ціха, зусім нерухома...

Хтосьці стукае ў дзверы. «Ну, вось, знайшлі!» — варушыцца ўва мне прыкрасць. Нейкі момант яшчэ маруджу — а раптам выпадковы стук? Але стук паўтараецца. І я адгукаюся:

— Не замкнёна! Заходзьце!

Паварочваю галаў да дзвярэй, краем вока заўважаю, што снегіра на галінцы ўжо няма — як здзьмула. І лёгкае шкадаванне застывае хмурынкай на твары.

У пакой уваходзіць Косцік. Называю яго проста Косцікам, таму што, усяго на тры-чатыры гады маладзейшы, ён выглядае зусім хлапчуком. Кароткі русявы чуб — увесь час тырчком, колькі ён яго ні прыгладжвае. У вачах — адкрытая, вечна чымсьці здзіўленая сінеча. Рухі — па-дзіцячы бездапаможныя, мяккія... Нешта я захапілася апісаннем! Я і знаёма з Косцікам усяго колькі месяцаў. З восені. З восені ён працуе ў суседнім раёне, трапіўшы туды адразу пасля універсітэта.

— Можна? — нерухома застывае Косцік ля дзвярэй,

згледзеўшы мяне ў такой нязвыклай позе, на падаконні.

— Ты ж ужо зайшоў! Праходзь. Я тут снегіром любавалася. Паляцеў ён — і пацямнела адразу ў двары... Зараз я святло запалю.

— Не трэба! — заспяшаўся ён і сумеўся.— Вы толькі не падумайце...

— Ужо — у той жа момант — падумала. Чаму гэта ты раптам на «вы» пачаў да мяне звяртацца? Пастарэла з часу нашай апошняй сустрэчы? Гэтак разумець?

— Не, не! Наадварот! Яшчэ прыгажэйшая.

— Бач ты! А я-то думаю, чаму на мяне мужчыны пачалі касіцца,— смяюся я, саскокваючы з падаконня і ўключаючы лямпу на стале.— Ты сядай і папросту лепей угледзься, Косцік. Пастарэла...

Ён сядае ў крэсла. Пазірае на мяне. Прыемна, а пітосьці ўжо зашчымела ў сэрцы, забалела — боль узнік і знік у тое ж імгненне, паспеўшы прыгасіць на твары ўсмешку. Госць адчуў гэта і, не разумеючы прычыны (быццам я яе разумела!), неяк балюча ўсміхаецца насустрач. Чуллівасць ягоная нават крыху ўразіла — трэба ж!

— Я, відаць, перашкодзіў... Я чытаў. Мне захацелася... цябе ўбачыць.

— Ты так добра да мяне ставішся? За што?

— Я ўвесь час хачу цябе бачыць!

Косцік пачынае хвалявацца, і яго хваляванне нечакана перадаецца мне. Гэтага яшчэ не хапала! Спрабую напусціць на сябе строгасць, суровасць — не атрымліваецца.

— Косцік, ты яшчэ зусім дзіця і не скора навучышся чытаць ва ўласным сэрцы.

— А хіба тыя, што ўмеюць чытаць у сваім сэрцы,— шчаслівыя?

— Хто — тыя? — неяк разгублена пытаюся я, чамусьці не радуючыся таму, што гаворка, відаць, пойдзе ў спакайнейшым кірунку.

— Паэты. Помніш?

І ён пачынае чытаць... Рукі злёгку ўздрыгваюць, разпораз узлятаючы з каленяў, голас набывае цвёрдасць. Мне раптам думаецца, што ён сам павінен пісаць вершы... Косцік чытае Блока, Пастарнака, Ясеніна. І яшчэ — зусім незнаёмыя мне, цудоўныя радкі.

— Гэта Барыс Карнілаў. Ужо рэабілітаваны,— тлумачыць ён на мой запытальны позірк.— Падабаецца?

Я толькі ківаю ў адказ, зачараваная музыкай паэзіі, злёгку сумотнымі словамі аб вечна цудоўных чалавечых

пачуццях і ўзрушэннем у голасе самога чытальніка. У голасе, што спавядае чужое сэрца, як сваё.

Я знайду пазней гэты верш — я буду ведаць яго на памяць. Слухаючы ж яго ўпершыню, адчувала толькі адно: жаданне — і немагчымасць — заплакаць. Над чым заплакаць? Над хуткаплыннасцю жыцця? Над пражытымі ці над яшчэ не пражытымі гадамі? Над словамі паэта? Над сабой? Я не змагла б гэтага растлумачыць ні тады, ні цяпер.

Верш адгучаў. Мы глядзім адно на аднаго, яшчэ засяроджаныя на словах, што, здаецца, недзе блізка, над намі,— дзіўнае імгненне роднасці такіх чужых, такіх розных людзей!

Косцік, пэўна, адчувае гэту раптоўна ўзніклую роднасць і робіць нечаканы рух — моўчкі, без слоў, укленчвае перада мной. Я — пратэстуючы — выстаўляю наперад рукі, і ён не адводзіць іх. Мяккім рухам бярэ ў свае далоні і прыціскаецца да іх тварам. Рух — такі безабаронны, што я не асмельваюся адхінуць рукі, вызваліць іх. Мінае нейкі час, а Косцік так і стаіць, моўчкі, нерухомы,— я не чую нават яго дыхання. Сотні думак мільгаюць у галаве, амаль адначасова: дзіцячы сад! Чарговыя мужчынскія штучкі! Штосьці чыстае, сапраўднае ў гэтым хлапчуку глыбока кранае... Не каханне ж гэта, на самой справе! Ёсць узрушэнне, імкнення ж насустрач яму — няма... Што мне ўсё-ткі рабіць? што ж мне...

Спрабую мякка адвесці рукі, ён хіліцца за імі. Бліжэй і бліжэй. Уздрыгваю — і ён цалуе мне далоні, не адрываючыся ад іх.

— Косця! — пратэстуе мой голас.

І ўздрыгвае ён. І адхіляецца. Падымае галаў, не адпускаючы маіх рук. Я баюся, што ён зараз пачне гаварыць. Я не хачу нічога слухаць. Косцік нічога і не гаворыць. Моўчкі, з балючым здзіўленнем і радасцю пазірае на мяне. Маленне — у самім гэтым позірку, у самім маўчанні. Штосьці ўва мне ўжо здрадліва нашэптвае: «Чаму б і не? Ці шмат такіх хвілін выпадала ў тваім будзённым жыцці? Прагнуць любові — амаль тое ж самае, што любіць... Зірні на хлопца, змерай сваім бязвер'ем яго адкрыты пагляд! Такі пагляд гаворыць пра адкрытую душу...» Штосьці ўва мне ўжо ламаецца, трушчыцца. Адчуваю: яшчэ міг, другі — і сама прыгарнуся да хлопца.

Вызваляю рукі — ён адпускае іх на першы ж мой рэзкі рух, рашуча падымаюся з крэсла і адыходжу да акна.

Ён таксама падымаецца, але не робіць услед мне гэтыя некалькі крокаў.

— Я не буду, як іншыя... як...

Косцік маўчыць.

— Што ты маўчыш?

— А як — іншыя? Хто? — ціха-ціха адгукаецца ён.— Ты... Я... Гэты вечар... Я нечым пакрыўдзіў цябе?

— Я падобная на тых, каго можна пакрыўдзіць? — спрабую я справіцца з незразумелым хваляваннем.— Вечар прайшоў. І я ўдзячна табе за яго.

— Мне ўжо трэба ісці?

Пытанне гучыць амаль зусім нячутна. Разумею: адкажы я яму — хоць галавой хітні ледзь прыкметна — і ён паслухмяна пойдзе ці з радасцю застанецца. Адказваючы яму, сама раблю тыя некалькі крокаў, якія нас падзяляюць — падаю яму руку. Косцік доўга нясе яе да вуснаў, не зводзячы з мяне тужлівага пагляду. І я, нечакана для сябе, пальцамі другой рукі пяшчотна кранаюся ягонай шчакі.

— Ты яшчэ зусім дзіця, Косцік!

Не ведаю, сказала я гэта ці толькі падумала,— у той міг я была ў яго абдымках, нясмелых і моцных, і, думаючы, што вырываюся з іх, вырываюся з супярэчлівых, балючых, непаслухмяных сваіх думак...

*9 жніўня*

Я не буду, як усе! — ці ж упершыню я паўтарала, даводзіла сабе і іншым. Быццам пераконвала сябе і іншых. Быццам клятву давала... Ды гэта і была клятва, дадзеная яшчэ ў маленстве. І нельга было перавярнуць усё адной ноччу і чымсьці пачуццём: нічога, акрамя прыкрасці, акрамя душэўнай мукі пасля, уранку, я не адчула. Не адчувала. Плоць атрымала сваё — зноў, як і заўсёды, не збудзіўшы ўва мне радасці ці хоць бы задавальнення,— плаціць павінна была душа.

Назаўтра я абміну радасна-шчаслівыя вочы Косціка, прывітаўшыся суха і адчужана, і ўжо ніколі больш — ні на яго спалох і крыўду, ні на яго шчыры сардэчны парыў палкія словы! — не ступлю яму насустрач. Недзе, амаль паўз маю ўвагу, будуць даходзіць весткі, адлегласцю ў гады, што ён пераехаў, заняў пасаду рэдактара раёнкі, ажаніўся, зрэдчас у рэспубліканскім друку з'яўляюцца яго вершы... І ўсё гэта не таму — зводдаль, праз гады і гады, я выразна гэта бачу — што такім чынам карала сябе за

здраду, за здраду сабе, сваёй колішняй клятве. Я і сапраўды нічога, апроч прыкрасці, не адчувала: ні жыццё замужам, якое павінна было б, здаецца, і надакучыць, ні пацасць маладога закаханага сэрца не выклікалі маіх пачуццяў. Калі-нікалі — вельмі рэдка — гэта здаралася але заўсёды гэта былі толькі імгненні... Імгненні, якіх я ледзь што не саромелася. У душы заставаўся толькі холад. Ранейшы, даўно звыклы холад шкадавання...

Тады, па вяртанні дамоў, я расказвала мужу пра ноч, праведзеную з Косцікам, і перажыла дзікую сцэну рэўнасці. Як ні дзіўна, найбольшае абурэнне выклікаў не сам факт здрады, а тое, што я пра яе расказала. Якога д'ябла? Навошта? Што за ідыёцкае жаданне споведзі? Вось і ўсё...

Замест разрыву, замест смяротнай крыўды, замест апраўданага маім прызнаннем разводу...

Тады ж, можа, упершыню я сур'ёзна задумалася аб тым, што ўтрымлівае людзей побач, дзе яны, тыя нябачныя повязі, якія нельга парваць без крыві, без болю. Ды толькі хіба знойдзеш тыя повязі, хіба ўбачыш? Вынікае адно, адно для ўсіх: кожны з нас баіцца адзіноты. Не душэўнай — хоць гэта куды страшней! — звычайнай адзіноты, калі, знямогшы ад цяжкой хваробы, ці ад цяжкіх думак, ці ад раптоўнага гора, захлынешся цішынёй, гатовы ступіць насустрач любому спачувальнаму слову... Вось і трымаешся за блізкага чалавека, нават калі блізкасць даўно страчана. Кожная хвіліна, кожны дзень, год, пражыты побач, нібыта ўраўнаважваюць узніклыя сумненні і незабытыя крыўды. Ураўнаважваюць і апраўдваюць...

О, колькі сумненняў, колькі крыўд, малых і вялікіх, пахавана ў кожным сэрцы!

*13 жніўня*

Вяртаюся дадому, заехаўшы пасля адпачынку на тры дні да сваёй старой цёткі ў вёску. Вяртаюся з цяжкім пачуццём. І таму, што амаль не ўяўляю, як увайду ў дом з радаснай усмешкай, калі радасці не адчуваю: дом даўно стаў — хутчэй, не стаў, а быў — толькі сховішчам ад дажджу і сцюж, ад вятроў і людскіх позіркаў. І таму, што час, праведзены ў цёткі, ускалыхнуў даўнія горкія думкі, вярнуў даўнюю віну перад чужой старасцю, перад пакінутай вёскай, перад роднай і калісьці пакінутай мной зямлёй. Так, так, пакінутай! — любові без адданасці, без ахвярнай адданасці, не бывае.

І палі недагледжаныя сустракаюцца. І трава не ўсюды скошана — ужо жаўцець пачала. І сад зарос бур'яном да самых галін, замшэлых ад недагляду. Зямлі рукі патрэбны. І мае рукі! А рукі адвыклі ад будзённай карпатлівай працы. Не рукі — душа адвыкла! Усё я шукала прастору для думак, усё імкнулася акрыліць пачуцці. А думкі ніколі не адрываліся ад гэтага, яшчэ ў маленстве наліплага да ног поля. А пачуццямі як кіравала, так і кіруе тая ж сіла, якую разгадвалі і не разгадалі ні маці, ні бабка, ні прабабка мая...

Раней я была пераканана, што скару гэтую сілу, знайшоўшы яе таемныя крыніцы, ды, відаць, занадта глыбока ў душы нараджаюцца тыя крыніцы. Было, здавалася, і намацвала іх бліскучыя, жывыя нітачкі, але яны рваліся ад першага ж асцярожнага дотыку...

— Ды пасядзіце вы, спачніце! — угаворвала я цётку Алену, перапыняючы яе шчыраванні.— Давайце я зраблю што трэба. Вам жа цяжка ўжо...

— Звыклая я, дзетка. Ды і які гэта клопат — гасцей сустракаць? Я цябе сырадоем напаю... Ногі не слухаюць. Здэцца б, паляцела, каб магла. Жыць хочацца. Лацвей сёння жыць! — пра серп і паясніца не згадвае, у хлеў да каровы ў гэткай спадніцы ідзеш, у якой і вянчаліся даўней далёка не ўсе. Хоць пра сябе во ўспомніць... Ты пі, пі сырадой! А то мо смятанкі прынесці?

— Ды не, цётачка, дзякуй. Вы б селі, пагаманілі са мной!

— І сяду. І пагаманю. Вось толькі бульбы прынясу, каб рукі заняць. Якая без бульбы вячэра?

Цётка Алена, цяжка абапіраючыся на сукаваты бярозавы кіёк, ідзе да дзвярэй і, спыненая маім рашучым пратэстам, лагодна гукае мне ўслед:

— Кошык у склепе. На прыступцы. Уранку набірала...

Я прыношу бульбу, наліваю у чыгунок вады і, уладкаваўшыся на нізенькім зэдліку каля гаспадыні, спрабую паспець за яе нетаропкімі рухамі. Спрабую і не паспяваю. Перашкаджаюць словы — нават не выказаныя, яны апякаюць, сушаць вусны. Вось-вось вырвуцца... І, урэшце, вырываюцца.

— Цётка Алена, чаму не даецца чалавеку шчасце? Чаму кідаешся ў пошуку яго па свеце, з канца ў канец, і раптам пачынаеш разумець, што ніколі не ведала, у чым яно, якое яно?

— Ніхто гэтага не ведае. Нават у Бога няма адказу... Яна толькі на імгненне падымае на мяне вочы, я ледзь паспяваю ўсвядоміць затоены ў паглядзе смутак.

— Але павінны ж быць адказ! Нашто тады жыццё?

— Нашто жыццё? Каб жыць. На тое яно і жыццё. Спрадвеку. Жывыя — жывуць, і ўвесь табе сказ.

— Як — жывуць? З чым у душы жывуць? Дзеля чаго? — дапытвалася я ціха-ціха, нібыта ў самой сябе.— Можа, і не варта...

Нож падае з рук у цёткі Алены ў кошык з бульбай, яна пачынае выціраць іх аб хвартух. У вачах — трывога, ужо не прыхаваная, адкрытая.

— Што-небудзь у сям'і нядобра? Гэта ж я і гляджу, што адна з курортаў...

— Не, не. Што вы! Усё добра. Усё, як і было. І муж шкадуе, і сын слухае.

— А ты? Ты ж уся наскрозь хворым агнём свецішся, ці ж я, старая, не бачу!

— Хворым агнём? — я спрабую ўсміхнуцца, адагнаць усмешкай цётчыну занепакоенасць.— Хворага агню і казкі ўжо даўно не помняць.

— Не круці, дзеўка. Баліць табе нешта, ой, баліць. І да мяне нездарма завітала. Згадала, як зеллем калісьці цябе адпойвала,— не цябе, сум твой малады... Дык даўно тое было. Ды і не зеллем, дабрынёй лячыла я...— пільна ўглядаючыся ў мой твар, прыгаворвае цётка, і словы яе пачынаюць расцягвацца, пець, нібыта яна загаворвае чыесьці злыя чары.— У сям'і нябось нядобра?

— Не ў сям'і. Ува мне,— адгукаюся я.

— У табе? Не хвароба ж, крый божа, навалілася? Можа, сурочыў хто? Злога вока баяцца трэба.

— Ну, якое злое вока, цётка Алена? Хіба што доля мая мне пазайздросціла,— кватэра ў сталіцы, імя ў газетах, машына службовая і ўласная... Шчасця няма, дык вы ж самі кажаце, што ніхто і не ведае, дзе яно, тое шчасце.

Яна не адразу абзываецца. Задумалася. Бы і не слухала мяне. Устае з услона, звыкла намацвае кіёк і з яго дапамогай павольна ідзе да акна. Маўчыць на маё ўзрушанае маўчанне. Потым не мне — голаў не павярнула,— адвячорку за акном выгаворвае:

— Хто гэта выдумаў, што пражыць жыццё можна лёгка? Лёгка... Адкуль той лёгкасці ўзяцца? Кватэра, газеты ў кватэры... Даўней у кожнай хаце дзеці смяяліся і плакалі. Накарміць, адзець, абуць іх — неаднойчы ў ночы ча-

су прыхоплівала, каб паспець перарабіць усё. І шчасце ў тым было. Абы дзеці не пахварэлі. Абы карова не запусцілася. Абы гаспадар якую капейчыну прынёс... А я і сама ўпраўлялася, свой клопат на чужыя плечы не перакідала, не. Мне б тую сілу цяпер — ні ў кога не пыталася б, што рабіць, ні ў кога помачы не прасіла б! Зямля за працу шчодра аддзячвае... Усіх... Хто малады ды гарлахвацісты, не ведае, на што тыя шчадроты скарыстаць,— на анучы пераводзіць.

Падняўшыся з зэдліка, падыходжу да старой цёткі, неяк вінавата тыцкаюся тварам у яе кветчатую паркалёвую кофту. Мяне супакойваюць не словы яе — штосьці ў ёй самой, у яе нямоглай, адзінокай пры жывых дзецях старасці пераконвае ў незразумелай яе праўдзе. Што — штосьці, каб жа я ведала! Можа, і яна, цётка Алена, гэтага не ведала... Услухваюся ў голас яе, хінуся да яе, а яна, не паварочваючыся, працягвае, выгаворвае:

— Душа ў цябе не на месцы. І дзіва няма ніякага: ад зямлі адарваліся, не ў хатах, у каменных шпакоўнях высока над дрэвамі жывяцё, вось карэньчыкі і адсыхаюць... І мае во...

Яна нязграбна паварочваецца, адхіляючы мяне.

— І ў горадзе некаму працаваць трэба. Мы ж там не адно гуляем,— спрабую залагодзіць цётку.— Час такі. Кожны сваё шукае.

— Не там шукаеце. А да старых прыслухацца не хочаце. Ды і тое праўда: аджылі мы ўжо, аджываем. Хутка і пытацца не будзе ў каго... Хоць што гэта я? — цётка ледзь заўважна, звыкла перажагналася.— Загаварылася, а ўжо час і бульбу зварыць. Ты маладзейшая, схадзі, на градзе мо які гурок знойдзеш. Зашарэла, але яшчэ знойдзеш які большанькі...

Іду ў гарод. Доўга, амаль навобмацак шукаю ў шархаткім, колкім лісці гурочніку колькі тых гуркоў, у думках працягваючы апраўдвацца за цётчын прыхаваны папрок. Хіба жыццё дае каму роздых? Рукі меней заняты — дык душы спакою няма. Сям'я маладзетная — дык жа да трывог цэлай планеты далучаны. У камяніцах жывём — дык для зрубаў усяго беларускага лесу не хапіла б...

Калі вяртаюся ў хату цётка сустракае мяне з бялюткім ільняным абрусам у руцэ.

— Сцялі абрус. Бульба ўжо закіпае. І да бульбы што ў хаце знойдзецца. А як жа!

За шчыльна ўстаўленым хатнімі прысмакамі сталом

гаворка доўга ніяк не распачнецца. Так, звычайная перакідка словамі. Я чакаю. Я адчуваю, што муляюць ёй нейкія іншыя словы. Якія?

— Ты хоць сям'ю не руш. Не дзяўчынка ж! Пад сорак падбіраецца... Барані божа, дзіця! Барані божа,— без усялякага пераходу, мармытнуўшы колькі слоў малітвы пасля вячэры, пачынае цётка.— Любоў, нелюбоў... Ведаю, што табе муляе, калі пра шчасце пытаешся. У дзеўках хадзіла — спакою не мела, і дагэтуль на сэрца хворая. Няйначай, маці. Тая такой была...

— Маці? — чамусьці перахоплівае дыханне.

— Але. Ганна, царства ёй нябеснае... Замуж ішла па сваёй волі, па сваёй волі і жыццё загубіла. Сэрца шмат слухала.

— Яна не расказвала...

— А ты пыталася? Плакала цішком нябось, а што, якія думкі тапіла тая ў гарэлцы, не пытала. А яна ж маткай тваёй была! — цётка пераходзіць на ледзь чутны шэпт, шэпча нейкую малітву. Потым пераводзіць вочы з абраза ў кутку, ля акна, на мяне.— І на мне грэх. І я асуджала. Сварылася неаднойчы. Хай Бог даруе, гадамі парога яе хаты не пераступала. А яна ж сама сябе так карала, як ні Бог, ні людзі не пакараюць.

Цётка маўчыць колькі хвілін, гледзячы на свае рукі, што цярэбяць адна адну на стале. І працягвае расказ.

— Іван, бацька твой, спраўны быў мужчына. Каб не вайна, каб не сухоты, у хаце не было б дзе люлькі вешаць. Ага. Але пахмурны ўвесь час. Змоладу. На людзі і не выпіхнеш. Адзін, сам з сабой і цыгарку выкурыць, і чарку вып'е. А Ганна... Тая і песню завядзе — уся ваколіца заслухаецца, і на польку выйдзе — ніводзін хлопец вачэй не адвядзе, і работу любую справіць умела, ад радасці не выракшыся. Як там ні жылі разам, а жылі. Бабы языкі свае на іхнім плоце не сушылі ніколі...

У вайну тое здарылася. Мужчыны, хто галаву не склаў,— у партызанах, немца білі. А мы з дзецьмі паміж хатамі сваімі — пакуль не папалілі немцы — і лесам разрываемся. Бо і дабра — потам жа нажывалі! — шкада, і за дзяцей страшна: нікога ж злыдні не мілавалі. Добра, што хоць лес ратаваў... Гэта пазней нас у зону партызанскую пазабіралі...

Недзе на другую, не, на трэцюю вясну, фронт ужо набліжаўся, заўважыла я, што дзіўна змянілася Ганна. Уся — як гонкае маладое дрэўца. Папрыгажэла. Спакута-

ваныя, галодныя вочы — усё ж дзецям аддавалі! — а і праз пакуту, праз галодны бляск у вачах радасць прабіваецца. Нейкая спалоханая радасць. Звяртаешся да яе — не адразу і пачуе, было. Іван вырвецца наведаць іх — неяк вінавата ходзіць ля яго, хінецца да ягонага пагляду. А сама недзе далёка... А я і не распытвала. Не да таго было. Заўважаць заўважала, а не распытвала.

После вайны ўжо, после смерці Івана выплакала мне Ганна сваё шчасце: палюбіла яна прышлага лейтэнанта з атрада, так палюбіла — за дзяцей баіцца: бог жа дзецьмі карае! Палюбіла — і сама адпусціла ў далёкі сібірскі гарадок. Адагнала... Дзеці ж, Іван...

Адпусціла — адагнала! — а з сабой што рабіць, не ведае. Паехаў ён, першы, адзіны раз горача прыпаўшы да вуснаў ейных — і як ні студзіла яна вусны — усё пяклі. І як ні старалася вырваць сэрца з памяці, не магла: бы ўрасло ў той пацалунак!

«Табе дзяцей падымаць трэба,— казала я ёй неаднойчы.— Бабіна доля наша гэткая. Паехаў і паехаў!» Ды што казаць таму, хто нікога не чуе?

Не хачу судзіць сястру. Сама яна сябе асудзіла. Толькі сэрцам і жыла — ад Бога, ад усяго, ад годнасці сваёй адступілася. Вось і Бог ад яе адступіўся, і людзі ад яе адступіліся. Вось і вы, дзеці, балючыя крывінкі яе, былі як чужыя... Жыццё дужэйшае за любоў, дзіцятка. Калі сэрца чыё спрабуе вырвацца з-пад ягонай улады, тое сэрца разрываецца...

І зноў я чую толькі незразумелы шэпт, звернуты да абраза, і чамусьці думаю, што ён звернуты да мінулага.

Я ні аб чым не распытваю цётку, за скупымі яе словамі — бездань. Бездань гадоў, што падзяляла мяне з той, каго я абавязана была палюбіць ужо адным сваім нараджэннем. І не палюбіла. І таму адпіхнула матчыну тугу аб разуменні — хоць чым-небудзь, хоць дзіцячым, неўсвядомленым разуменні!

— Паслухай мяне, дзіцятка, сваю старую цётку! Не любоўю выжывае чалавек, хай сабе толькі яна робіць яго шчаслівым... Справай сваёй выжывае. Ды яшчэ дзецьмі — спрадвечным сваім зямным абавязкам. Не мной, старой, гэта прыдумана. Не ведаю, што ты там у кніжках вычытваеш, у жыцця і ў людзей спрадвек адны законы. Ніхто з людзей не здолее іх перайначыць. Паслухай мяне, дзіцятка, мне ўжо скора паміраць...

І вось я вяртаюся дадому. І адзін, і другі раз пракручваю ў думках гаворку з цёткай. То пагаджуся з ёй, то зноў балюча адхіснуся ад сваёй згоды. Чалавек нараджаецца, каб быць шчаслівым — што ж рабіць, калі толькі сэрца ведае шлях да шчасця? Адмовіцца ад шляху? Труціцца гарэлкай? Кінуцца ў чад распусты? Што? Што з сэрцам рабіць?

Няйначай, маці. Тая такой была...— сумна зазначыла цётка Алена. І маці такой... Але ж тады атрымліваецца, што я — адцураўшыся яе, роднай хаты, былога свайго, усё ж ступіла на матчыну сцежку. Так атрымліваецца?

*23 жніўня*

Баюся, што захварэла. Ніводзін урач не пагадзіўся б са мной — ды і ні да аднаго б я і не звярнулася: гэта з тых хвароб, пра якія калі хто і ведае што, дык толькі душа. Я ж даўно адасобіла душу ад сябе і звяртаюся да яе, як да жывой, амаль не залежнай ад мяне істоты. Звяртацца звяртаюся але заўжды, як толькі гаворка тычыцца яе, душа маўчыць...

Страшная абыякавасць да ўсяго: нікога не хочацца бачыць, нічога не хочацца рабіць. Самыя неадкладныя справы адкладваю невядома на які час. Усе, нават самыя блізкія людзі,— бясконца чужыя... Другі тыдзень, як я дома, а ўсё ніяк не вярнуся са сваёй паездкі. Гатую нейкія стравы, змахваю пыл з кніжных паліц, дакараю за неахайнасць сына — і ўсё-ткі адсутнічаю. Мяне няма — не бывае! — у гэтым звыкла цесным пакоі. Няма на рабоце, дзе матэрыялы, падпісаныя маёй рукой, звыкла кладуцца на стол сакратара. Няма ў горадзе, дзе кожная вуліца — як мяжа паміж мной і былымі маімі памкненнямі да шчасця, да каханага... Можа, мяне зусім няма? Можа, гэта хтосьці зусім іншы, незнаёмы — у маёй плоці, у маёй скуры — абжывае маю кватэру, выконвае маю работу?

Баюся, што захварэла. І больш таго: не хачу, не захачу вылечыцца. Пакуль што яшчэ слаба адганяю думкі пра сваё самае вялікае паражэнне: выходзіць, што кошт жыцця меншы, чым намаганні, якія я прыкладвала, каб жыць, каб выжыць?

Жывыя — жывуць... А мо дакладней — існуюць? Не ў тым жа жыццё, каб своечасова ўстаць, паесці, пайсці на работу, заснуць... Не адно ў тым. Ды і цётка Алена казала, пэўна, пра іншае. Безумоўна, пра іншае. Тое іншае, чаго я дасюль не разумею: чым жыла яна, маці, сотні, тысячы

людзей на зямлі, якія знаходзяць сілу жыць — у сабе, у сваіх звыклых клопатах. Я — не знаходжу. Мне патрэбна якраз незвычайнае, надзвычайнае — інакш свет адразу становіцца бясфарбным, чужым. Ці гэта я згасаю, не магу радавацца — і раблюся чужой усім.

*24 жніўня*

Знаёмы голас у тэлефоннай трубцы. Пытаўся мяне. Горлам, нейкай балючай спазмай яго, перахапіўшы хваляванне, што гатова было вырвацца ўсхваляванымі словамі, як мага спакайней адказала: «Яе няма. І не будзе... бліжэйшы тыдзень». І націснула на рычажок. І кінулася прэч з рэдакцыйнага пакоя, дзе стаяла такая духмень, што загарэўся твар. Спіной чула: рассыпаўся новы тэлефонны званок.

*26 жніўня*

Ад чаго я бягу? Ад каго? І куды можна збегчы, калі свет звузіўся да адчайнага: нікога не хачу бачыць! Нікога! Увесь час лаўлю сябе на тым, што хочацца заплюшчыць вочы. Моцна-моцна. Каб знікла ўсё, што нітуе мяне з гэтым днём. Каб не ціснула на душу цяжкое, нізкае неба.

Павекі — ненадзейная запона. А ўсё ж на міг лягчэй. І ўспрымаецца ўсё пражытае, перажытае, у іншым, менш рэзкім, менш балючым святле.

ВЯСНА СЕМДЗЕСЯТ ПЯТАГА ГОДА... Адзін з тых вечароў, калі кожны павеў паветра прыносіць новую спадзеўку, новае адчуванне далучанасці да зямлі, да яе самай дзівоснай пары — пары цвіцення. Расчыненыя аконныя рамы віснуць прама над вішняй, буйная квецень якой здаецца сіне-ліловай ад святла нябачнага яшчэ месяца. Сінеліловым адліваюць і сцены пакоя, нібы прадоўжваючы прасцяг, ухутваючы нас у яго мяккія, цёплыя тоны. Нас — таму што да мяне зайшла Паліна Міхайлаўна, вельмі інтэлігентная, вельмі сардэчная жанчына,— адзіны мой сябра тут, у раёне, калі б я асмелілася назваць яе сябрам. Не асмельваюся не таму, што яна працуе ў райкоме, а я ў сельгасаддзеле раёнкі, не. Паліна Міхайлаўна нашмат старэйшая, і вось гэта розніца ва ўзросце кожны раз міжволі стрымлівае.

Зрадніла ж нас, неяк непрыкметна, любоў да паэзіі. І яшчэ — любоў да музыкі. Вось і цяпер у асветленым толькі вячэрнім небам пакоі ціха гучыць таката рэ-мінор

Баха. І мне здаецца: я чую ўзрушанае біццё не адно свайго сэрца, а і яе...

Відаць, ніхто гэтак, як Бах, не адчуваў аграмаднасць быцця — перад ёй ніякавее нават вечнасць, тая вечнасць, якой яна нам уяўляецца. Магутныя акорды, здаецца, расколыхваюць зямлю, балючымі гукамі асыпаючы ў душу няведамыя прасцягі. Душа захлынаецца сваёй веліччу — што ў параўнанні з гэтым боль, або радасць, або хваляванне! Жыццё, жыццёвыя крыўды і ўдачы адсоўваюцца некуды за сёмы гарызонт і робяцца маленькімі, нязначнымі, не вартымі слёз і слоў.

Я рэдка дазваляю сабе заставацца сам-насам з музыкай: цяжка, амаль немагчыма вырвацца сябе з-пад яе ўлады, з яе чараў, і вярнуцца да звычайных, будзённых клопатаў і спраў. Музыка — гэта свята. Гэта ачышчэнне перад радасным пад'ёмам на адну з вышынь чалавечага духу. Гэта — сам пад'ём, які доўжыцца столькі, колькі доўжыцца тоненькая нітачка еднасці, роднасці тваёй са сваёй душой.

— Ніхто гэтак, як Бах, не адчуваў аграмаднасці быцця,— нібы падслухаўшы мае думкі, гаворыць Паліна Міхайлаўна.— Чалавек часцей за ўсё проста не выконвае свайго прадвызначэння.

— Можа, ён не такі ўжо і вінаваты: сотні абавязкаў, турбот, спраў...

Падобна, што я пачынаю бараніцца — вырывацца з-пад улады вечара. А не хачу ж, зусім не хачу гэтага!

— Вінаваты. Мы самі вінаваты за свой выбар — выбар заўсёды ёсць. Па-сапраўднаму вялікіх творцаў у любую эпоху мала не таму, што вялікія таленты нараджаюцца рэдка. Не толькі таму. Не кожны змог адпіхнуць падачкі жыцця і ступіць насустрач прадонню — і несмяротнасці. Не кожны з тых, хто мог бы... хто быў абавязаны...

Госця гаворыць ціха, не хаваючы цяжкога, быццам выпакутаванага ўсім жыццём смутку, і я падсоўваюся бліжэй — хочацца неяк адагрэць яе. Хоць сваёй блізкасцю. Хоць сваёй маладосцю. Але цікавасць ужо збуджана, пытанне вырываецца насустрач яе пагляду:

— Вы таксама зрабілі калісьці няправільны выбар?

У той жа міг я схамянуся, прыпаду да яе пляча, шэпчучы: «Прабачце! Прабачце, калі ласка, маю няўклюднасць...»

— Ну, што ты! — пагладжвае яна маю руку.— Я сама

неаднойчы пыталася ў сябе аб гэтым. Самой цяжка вызначыць. Ад іншых жа чула: і я таксама... Ды што мы пра мяне! Я ўжо сваё жыццё пражыла, мяняць у ім штосьці позна.

— Не-не, Паліна Міхайлаўна,— спяшаюся я загладзіць сваю нетактоўнасць.— Вы ж пішаце! Пісалі... Я сустракала ваша імя ў розных часопісах.

— Гэта было, раднуля, ве-е-ельмі даўно. Ажно пасля вайны. Палічы, колькі гадоў мінула...

Яна спрабуе ўсміхнуцца. У бляклым святле месяца ўсмешка падобна на грымасу, і я адчуваю, як гэтая ўсмешка пускае балючыя карэньчыкі ў маё сэрца. Цягнуся да лямпы. Руку перахоплівае Паліна Міхайлаўна. Перахоплівае даволі рашуча.

— Не трэба. Пры святле ўсяго не скажаш. А мне хочацца сказаць табе, параіць: не марудзь, рабі выбар цяпер. Ты ўжо вырасла з раёнкі, расці далей. Год-другі — і будзе позна. Ты пачнеш ламацца. Як я калісьці... Гэта непазбежна.

Я слухаю яе, а чую гулкія ўдары свайго сэрца. І — за ўдарамі, за сэрцабіццём — музыку, чароўныя акорды такаты рэ-мінор Баха. Хоць музыка даўно адгучала, а Паліна Міхайлаўна няспешна, раз-пораз спыняючыся на паўслове, расказвае сваё жыццё.

— Мне здавалася: нічога не можа быць вышэй за мэту зрабіць шчаслівым аднаго — Каханага... І я імкнулася быць, была побач з ім, з яго жыццём, не зважаючы на сябе, на сваё жыццё. Мне здавалася: самае вялікае, чым адарыў мяне лёс,— гэта вернасць, адданасць каханаму, каханню... Магчыма, я і не памылялася. Ды жыццё не такое кароткае, якім мы звыклі яго лічыць.

На чужым полі свае памылкі не пасееш, я ведаю. І ўсё ж, згадвай мяне там, куды прывядзе цябе твой шлях. З гадамі нас пакідае маладосць. Нас пакідаюць нашы каханыя. І нашы сябры. Застаецца з намі толькі работа. Толькі... Згадвай калі-нікалі мае словы! — я дорага за іх заплаціла.

Я слухаю Паліну Міхайлаўну, усё больш напружваючы слых,— удары сэрца заглушаюць яе голас. Заглушаюць яе крокі пад акном, на сцежцы, якая вядзе яе ад майго дома, з майго жыцця.

Не помню, ці падзякавала я Паліне Міхайлаўне за той вечар. У той вечар я вырашыла пакінуць абжыты дом,

ехаць у Мінск, куды запрашалі сябры неаднойчы. Ехаць. З сям'ёй ці без сям'і...

*27 жніўня*

Прыгадала ўчора Паліну Міхайлаўну і вось ужо другі дзень размаўляю з ёй. У думках размаўляю. Пагаджаюся. І не пагаджаюся. І спрабую спрачацца, хутка, праўда, адступаючыся. Паміж намі сцяна гадоў, а гляджу на яе з ранейшым захапленнем. Яна — дужая. І ў паражэнні сваім — дужая. А я... Што хачу я ад свайго жыцця? Чаго чакаю? Увесь час блытаецца пад нагамі штосьці карлікавае, непрыемнае: «Я зламала б усё, адмовілася б ад усяго, калі б і ён...» Што — калі б і ён? Калі б кінуў сям'ю? Калі б адмовіўся ад навуковай дзейнасці? Калі б кінуўся будаваць шалаш? Што?

Я перастала разумець сябе. Усё, што звязана з работай, з рэдакцыяй,— па адзін бок сутак, і там я дзейная, рашучая, у адказ на няшчырасць, на грубаватыя — пасваяцку — жарты выпускаю не заўсёды бяспечныя калючкі. А ледзь заляскаюць дзверы рэдакцыйных пакояў, абвяшчаючы канец рабочага дня, як я раблюся кволай, проста-такі хворай ад свайго бяссілля, ад свайго няўмення справіцца з сэрцам, з думкамі, штовечар аднымі і тымі ж. Пакутую ад нейкай жаночай безвыходнасці. Ад таго, што нічога не ў стане змяніць, ад таго, што разумею: аніякія змены не прынеслі б палёгкі.

Дзіўна: яшчэ зусім нядаўна я верыла, што той, хто пакахаў, кахае — шчаслівы чалавек... А якое ж гэта шчасце — хаваць свае пачуцці, незразумелую віну? Хіба шчасце можна ўкрасці ў свайго і чужога мінулага?

Было, назірала, як каханне рабіла жанчыну слепа пакорнай каханню — тая ўсё прымала, на ўсё была згодна, з нечалавечай адданасцю лавіла кожны позірк, кожнае цёплае слова, кожны ласкавы рух, удзячная за адно тое, што каханы быў гэтыя колькі імгненняў побач. Не з ёй. Проста побач. Мажліва, яна была тым шчаслівая. Мажліва, у тым і каханне, каб аддаваць, аддаваць, аддаваць — абы каханы захацеў узяць, абы ён прыйшоў з гэтым — да цябе. Мажліва...

Не ўмею быць пакорнай. Не ўмею і не хачу падбіраць крошкі радасці нават у імя кахання... Ды і не ўзвысіць таго, каго я люблю, зняважа самой сябе. Не можа ўзвысіць. Шчасце не любіць гордых, гэта праўда. І ўсё ж я хацела б

застацца такой, якая ёсць, якая ўжо ёсць. Адно хапіла б сілы працесці сваю гордасць праз усё жыццё. Няхай цяжка. Няхай сам-насам са сваім смуткам.

Зноў — усё ці нічога? Зноў. Нават калі гэтым я адмаўляюся ад кахання... Божа мой, як усё-ткі цяжка з сабой!

*30 жніўня*

Лёс, няйначай, любіць нечаканасці. Трэба ж так нечакана наладзіць сустрэчу! Два тыдні бегала ад тэлефонных званкоў, ад голасу, што гукаў мяне з другога канца горада, а тут — твар у твар! Вочы ў вочы! І дзе? Далёка за горадам, на дачы, якая належала, як атрымалася, агульным знаёмым. Не, трэба ўсё па парадку.

Запрасіў Лявон Золатка. Жывапісных спраў майстра, як мы жартам яго празвалі. Настойваў, каб паехала. Абяцаў паказаць некалькі новых шэдэўраў. Прызнацца, спакусілася не «шэдэўрамі», а цудоўным надвор'ем. Лета не хацела развітвацца з зямлёй — стаялі ціхія сонечныя дні. Рэдка-рэдка ў зялёных кронах таполяў залаціўся лісток, нагадваючы простую заколку ў косах, занадта яркую ў роўнай, густой зяляніне. Паветра было цёплае, яго нябачны празрысты паток уздымаў неба так высока, што праз сонечныя промні, здавалася, пачыналі свяціцца зоркі. Хацелася піць паветра і піць, падстаўляючы твар пад яго бязважкія струмені. І гэта ў горадзе, на лапіку травы, у забудаваным няўклюднымі атракцыёнамі парку. А ў лесе?

Калі я, затрымаўшыся ў краме — не з пустымі ж рукамі ехаць! — подбегам спусцілася з лесвіцы да Нямігі, дзе непадалёку, за колькі крокаў, была Лявонава майстэрня, машыны ўжо ад'язджалі. Лявон адчайна махаў мне з адной з іх, той, што стаяла бліжэй да тратуара, апошняй.

— Ну, старая, думаў, ты пачынаеш забываць сваіх сяброў,— бурчаў Лявон, зручней уладкоўваючы мае пакункі.— Ці мо вырашыла, што галоднай смерцю вас хачу пужануць, запрасіўшы ў свае «пенаты»? Га? Прызнавайся!

— Не з пустымі ж рукамі...— спрабавала я бараніцца.— Гэта ж колькі людзей да цябе панаедзе!

Але Лявон не слухаў мае тлумачэнні і адгаворкі, як ніколі нічога не слухаў. Ён ужо жартаваў, усміхаўся, звяртаючыся да ўсіх агулам: адчувалася, што проста падбіраў зручнейшы момант, каб аглушыць нас новым, яшчэ нікім не чутым анекдотам. І таму можна было непрыкметна адключыцца — адкінуцца на сядзенне і ўзірацца ў імклівы

шлях, у купкі клёнаў і ясеняў, у яркую стужку неба, што ўсё размотвалася і размотвалася з-за далягляду. У машыне стала шумна, я сама смяялася ў адказ на агульны смех, але паціху на душы ўсталёўвалася цішыня. Хутка я ўжо заглыбілася ў гэтую цішыню, і ніводзін староннi гук не кранаўся свядомасці. Быў толькі чысты сонечны дзень. І бясконцы шлях у гэты дзень. І я са сваімі пацяплелымі раптам думкамі.

Калі машына спынілася, прыткнуўшыся да дзвюх пярэдніх на невялікай пляцоўцы перад новай сасновай брамай — і гэта быў адзін з Лявонавых шэдэўраў! — мы адразу трапілі ў натоўп. Знаёмыя і незнаёмыя твары. І...

Што я адчула, калі побач з маладой, мякка, па-жаноцку прыгожай кабетай раптам убачыла Яго, Каханага? Першым жаданнем было — кінуцца прэч. Назад. У машыну. У горад. Куды заўгодна, хоць на край свету... Першай рэакцыяй — усмешка (о, гэта патаемная здольнасць сціскацца ўнутрана, ператвараючыся ва ўсмешку — усімі асцюкамі ўглыб, у сябе!). Першымі сказанымі на публіку словамі — вясёлыя словы вітання:

— У асобе той, што спазнілася, вас вітае шчаслівае імгненне сустрэчы. Дабрыдзень!

Смех. Поціскі рук. Пацалункі. Пытанні, на якія ніхто не чакаў адказу. Адказы на пытанні, якія ніхто не задаваў.

Дзесьці сярод гэтай гаманы, сярод тлуму — ціхае, упэўненае: «Іра»... Я пакутна шукала манеру, з якой належала трымацца гэтыя доўгія два дні, і нічога добрага, нічога патрэбнага не знаходзіла. Весяліцца, не зважаючы ні на што? Але ж гэта ніколі мяне не выручала, і ўсе гэта ведалі. Трымацца ўбаку ад тых кампаній, дзе...? Але ж хутчэй за ўсё кампанія не будзе распадацца на невялікія купкі — Лявон умее з'яднаць, спалучыць любыя памкненні, любыя планы ў адно. Заставацца самой сабой, стараючыся сцішыць неразумнае сэрца? Як? На момант мільганула думка: трэба знайсці, прыдумаць якую-небудзь пільную патрэбу і ад'ехаць...

Урэшце, так нічога і не прыдумала. Проста, выбраўшы зручны момант, абняла за плечы Лявона і папрасіла:

— Золатка, прызнаюся: паехала ў першую чаргу таму, што трэба ў цішыні, сам-насам з сабой, абдумаць адзін матэрыял. Гарыць артыкул... Не зважай, калі раптам хто прыкмеціць, што мяне няма. Добра? Ты ж у нас добры геній! Я з'яўлюся...

— Гэта так сур'ёзна, старая? У мяне такая праграма, пальчыкі абліжаш! — ён пазіраў на мяне занепакоена.— Мо што-небудзь не так? Ты скажы!

— Усё так. Усё як трэба, Лявон. Я буду разам з усімі аблізваць пальчыкі,— засмяялася я, адчуваючы незразумелую палёгку, і цмокнула яго ў шчаку.— Ты толькі зірні, з якой прыхаванай зайздрасцю сочаць за намі ўсе прадстаўніцы прыгожага полу: зашмат увагі адной мне, зашмат!

Хвіліну пазней, цішком выбіраючыся з двара, з гаманы сяброў, я злаўлю на сабе доўгі, гарачы позірк таго, хто, як і я, не чакаў нашай сустрэчы, хто, як і я, шукаў і не знаходзіў у сабе зараз ні спакою, ні весялосці. Стане чамусьці вельмі прыкра. За яго. І за сябе. Быццам мы штосьці ўкралі ці збіраліся ўкрасці...

Да самага вечара гэты яго позірк будзе вынішчаць, спапяляць самае светлае, самае крохкае ўва мне. Што? Вызначыць што, я нават не спрабавала. Нібыта гэта было ўжо не важна.

Каханне... Усё, што звязана з ім, павінна быць чыстым. Крыштальна чыстым. Каханая і каханка — два розныя паняцці. Два розныя станы душы...

Я хутчэй пагаджуся на пакуту. Пагадзілася ўжо! — задоўга да гэтай сустрэчы. Цяпер толькі зразумела ўсё, пазначыла нейкімі абыякавымі словамі. Украсці... Паняцці... Розныя станы... Гэтыя словы ці іншыя, усё роўна...

Лес супакойваў. Супакойваў адным тым, што, засланіўшы прасёлак, дачны пасёлак і людскую гаману зялёнай сцяной, нібыта адасобіў ад мяне ўсё пражытае.

Лес жыў сабой. Сваім. І гэта было не суцяшэннем, не! Проста спакойны, адвечны рытм росту, пераходу ярка-зялёных фарбаў у жоўтыя і чырвоныя, а потым — у попельна-шэрыя, ледзь чутны пошум, у якім звыкла танулі вершаліны дрэў, запоўніў пакрысе мяне ўсю. Я станавілася часцінкай спакою: мітуслівыя ў пошуку нейкіх асаблівых паводзін думкі не варталіся — хацелася ісці і ісці, да поўнай знямогі, да таго моманту, калі, прылёгшы на цёплую, прывялую ўжо траву, можна было зліцца з зямлёй...

— «Я станавілася часцінкай спакою: мітуслівыя, неспакойныя думкі не вярталіся — хацелася ісці і ісці, да поўнай знямогі, да таго моманту, калі, прылёгшы на цёплую, прывялую ўжо траву, можна зліцца з зямлёй...» Усё!

— Як усё? — запратэставаў Лявон.— Гэта ўсё, што ты напісала за цэлы дзень блукання па лесе? А архіважны артыкул?

— Артыкул — гэта нецікава,— абаранялася я, бо і тое, што толькі што казала, зазіраючы ў блакнот, у блакноце занатавана не было.

— Штраф! Штраф! — весела загулі вакол.

— Камін не распальвала, вячэру не гатавала, прыборы на стале не расстаўляла, на стол не падавала...

Лявон зноў лёгка завалодаў вясёлым галасам, усімі яго ніткамі і нітачкамі, і вось ужо стаяў у позе рымскага суддзі, і вось ужо дэкламаваў, раз-пораз узіраючыся ў адкрытую далонь, бы ў тэкст вынесенага прысуду:

— Асуджаецца раба божая... За няўвагу да сяброў, за бадзянне па лесе, у выніку якога не ўзнікла ніводная вартая вясёлай кампаніі ідэя, за сузіральнасць і абыякавасць да прыроды, да зямнога хараства яе...

— Прашу зняць апошні параграф! — далучылася я да прапанаванай гульні.— Душа не засталася абыякавай.

— Просьба не прымаецца!

— Чаму?

— Таму што ў прысудзе напісана: раба божая караецца тым, што надалей ніводная яе просьба ўлічвацца не будзе.

— Справядліва,— падтрымалі Лявона астатнія.

— А зараз мы ўсе чакаем тваю каву: ад славы, старая, нікуды не дзенешся — наслуханы ўсе пра цябе! Усё патрэбнае — на кухні.

Лявон гарэзліва падставіў мне сагнутую ў локці руку і няспешна павёў да кухні.

— Што-небудзь не так, старая?

— Ох, ужо гэтыя мастакі! Усё хочаце ўбачыць больш таго, што навідавоку. Усё так, Лявон. Усё як мае быць, Золатка.

Знайшла патрэбны посуд, змалола кафейнае зерне, запаліла газавую гарэлку... Чамусьці нават не здзівілася, калі ў пакойчык зайшла — дакладней уціснулася між дзвярамі і ўзнятым на звычайную кухонную шафу прыгожа размаляваным куфэрчыкам — Іра.

— Можа, дапамагчы? Хоць кубкі занясу.

— Дзякуй. Усё — на падносе.

Голас мой гучаў роўна, я і сапраўды не адчувала ні-

якога хвалявання. Нават прыкрасць, з якой думала пра сябе, пра нас траіх, днём, нібыта прышэрхла.

— Ведаеце, муж не хацеў мяне браць сюды: цеснага, багема, пераважна мужчынская кампанія... Ды якая ж гэта багема?! Цішыня лесу, агонь у каміне, усюды — карціны, карціны! Я так рада, што прыехала,— Іра гаварыла таропка, крыху прыглушаным голасам, і гаворка яе нагадвала мілае, ціхае шчабятанне (гэта я заўважыла нібыта мужчынскім вокам!).— Столькі цікавых людзей! Праўда?

Ёй патрэбны быў нехта, хто выслухаў бы яе — няхай сабе ў адно вуха, але слухаў бы яе мілыя прызнанні. Я ж уважліва сачыла за агнём, за кавай, за сваімі рухамі...

— Мы з мужам рэдка куды-небудзь выходзім: у яго ўсё работа, работа! Я — недзе на другім, калі не на трэцім плане... Часам нават крыўдна за сябе. Вы жанчына, вы павінны мяне зразумець! Ад маладосці хутка адна ўсмешка і застанецца, а я ўсё дома, а я ўсё ў хатніх клопатах. Муж — у лабараторыі, сын — з сябрамі... Я не надакучыла вам?

Іра крутанулася перад шкляной дзверцай шафы, папраўляючы і без таго акуратна ўкладзеныя прыгожымі кудзеркамі валасы, і без усякага пераходу спытала:

— У вас быў муж?

— Чаму «быў»? Ёсць,— усміхнулася я на Ірына запытанне, сочачы за грабеньчыкам пены ў кафейніку, ды і ўявіць яе разгублены твар зараз было няцяжка.

— Ёсць? А дзе ж ён? — выгукнула здзіўлена Іра, а потым нібы схамянулася.— Прабачце...

Я выключыла гарэлку, упершыню ўважліва зірнула на жанчыну: на гадоў пяць маладзейшая, прыгожая — калі б яшчэ крыху глыбейшы пагляд! — яна вельмі добра ведала, што прыгожая і за прыгажосць ёй заўсёды сёе-тое спішацца і спісвалася, відаць... Трымалася ўпэўнена. Калі не самаўпэўнена. І ўсё ж, штосьці ў ёй было яшчэ, апроч гэтай упэўненасці. Штосьці вельмі няўлоўнае: мільгане на твары і бясследна растане. Што? Ні ў першы, ні ў наступны момант я так і не вызначыла, што... Адно адчула: шчаслівай яе назваць неяк не выпадала. Я не сказала б пра яе: шчаслівая...

— За што ж просіце прабачэння? — азвалася на яе словы, на яе здзіўленне.— Гэта ж нават і для нашага свабодалюбівага веку ненатуральна: муж адпускае на два дні жонку на чыюсьці дачу з сябрамі-мужчынамі. Але ўсё так,

як вы бачыце. Дазвольце не тлумачыць. Вось! Трымайце паднос. Пойдзем: нас ужо, відаць, зачакаліся... Не так нас, як каву...

Асцярожна — у руках жа кафейнік! — праціскаюся ўслед за Ірай паўз прыгожы куфэрчык і, натыкаючыся на позіркі, што ўсе да аднаго звернуты на нас, спрабую абмінуць толькі адзін з іх, знаёмы, поўны балючага святла,— позірк Каханага. І ніяк не магу абмінуць — позірк не адпускае...

*2 верасня*

Так і не змагла скончыць расказ пра сваю загарадную паездку.

Калі вызвалілася ад спраў і вярнулася да блакнота, аднаўляць усе далейшыя падзеі па гадзінах, па мінутах не захацелася. Ды і якія падзеі? Кожная мінута, кожная гадзіна, праведзеная побач з тым, каго пакахала я так позна і так балюча, станавілася нябачным каменем у сцяне, што ўставала паміж намі. Яе, гэту сцяну, яшчэ можна было разбурыць, калі б раптоўна, разам кінуцца адно да аднаго, не зважаючы ні на што. Калі б...

Сцяна таму і ўставала паміж намі, што ні я, ні ён не маглі — не здолелі б! — зрабіць гэты ратавальны рух, ратавальны крок: мы ж па сёння думаем, што ратаваць трэба сябе, свой з цяжкасцю збудаваны спакой, а не каханне.

Не, не! Я не абвінавачваю Каханага — «Ён жа мужчына!» — перад пачуццём усе мы роўныя. А паразважаць — ці ж мы першыя слепа чапляемся за аднойчы знойдзенае апраўданне беспрытульнасці душы? Ці ж мы адны?

Мне заўсёды здавалася, што каханне не можа стаць членам сям'і! — не было такога, а калі і было, гісторыя нічога пра гэта не ведае. Я — не ведаю. Значыцца, з сумленнем — усё ў парадку. Значыцца, на сэрца можна не зважаць. Значыцца, не мы — першыя, не мы — апошнія. Адны, закахаўшыся, проста былі б шчаслівымі нейкі час: каханы, каханка — якая розніца? Другія ўсё жыццё потым мучыліся б думкай, што, адмовіўшыся ад кахання, адцураўшыся яго, такога, якое выпала,— адмовіліся ад шчасця. Трэція...

Ат! Што пералічваць: адны, другія, трэція! Магчыма, кожны зрабіў бы па-свойму. Мне — мне! — што рабіць?

*8 верасня*

Ну, вось, здаецца, і ўсё. Хапіла адной кропелькі жорсткасці — не ў сэрцы, у голасе,— каб яна раз'ела прыгожы ружовы туман перад вачыма і да драбаў голая рэальнасць паўстала ва ўсёй сваёй не падфарбаванай сутнасці.

Тэлефон зазваніў у канцы дня, калі, разнерваваная размовай з адным з самых настырных і самых бяздарных аўтараў, я ўжо збіралася зачыняць рэдакцыйны пакой (як заўжды, адыходзіла апошняй). Ад дзвярэй вярнулася. Узяла трубку.

— Я слухаю вас.

— Толькі даслухай да канца!

Гэта быў Ягоны голас. Я пазнала б гэты голас між тысячы іншых. Зараз у ім вызвоньвалі незнаёма рашучыя ноткі:

— Колькі мы будзем гуляць у хованкі? Можа, ты ўсётакі злітуешся? Я не магу працаваць, у мяне зрываюцца эксперыменты. Я кахаю цябе! Ты чуеш? Што ты маўчыш?

— Я слухаю,— ціха адгукнулася я, услухваючыся не ў голас у трубцы: я ведала, што ён скажа, а ў цішыню, што панавала ў маіх грудзях,— я чамусьці зусім не чула свайго сэрца...

— Мне трэба цябе бачыць — часцей! — кожны дзень! Я кахаю цябе. Я ўпершыню ў жыцці не магу думаць пра сваю работу, бо думаю пра цябе. Прыедзь! Давай сустрэнемся. Нам трэба пагаварыць. Мяне раздражняе тэлефон: што можна сказаць у мёртвую, адпаліраваную рукамі трубку? Алё! Ты слухаеш мяне? Ты чуеш? Я кахаю цябе!

Я ведала, што ён скажа. І ўсё ж не ведала, што рабіць з яго словамі. Сэрца маўчала. Цішыня ўва мне расла, падымалася, падступала да горла; міг — і хлыне плачам, крыкам, болем насустрач яго голасу. Гэтага нельга было сабе дазволіць...

— Ты... ты...— мне не хапала паветры.— Ты пакінеш жонку і сына? Ты сам сабе пяройдзеш дарогу да кар'еры, так удала пачатай? Ты зможаш пачаць усё спачатку, усё з нуля? Ты зможаш апраўдацца потым перад сабой?..

Гэта было жорстка. Задаваць тыя пытанні яму, якія я павінна была б задаць сабе,— было жорстка. Цішыня вырвалася з грудзей і затапіла пакой, затапіла горад між намі. Я паклала трубку і пачала выбірацца з гэтай цішыні, чуючы, як спалохана страпянулася разбуджанае сэрца і,

са спазненнем на некалькі доўгіх імгненняў, балюча затахкала ў грудзях.

Ну, вось, здаецца, і ўсё. Заплюшчваю вочы — і бачу толькі яркую, стракатую пляміну, у якую ўліваюцца, у якой патанаюць, то ўсплываючы, то распаўзаючыся тонкімі промнямі сонца, сосны, хвалі, воблакі, травы, алешыны...

*15 верасня*

Што ж я нарабіла? Усё — парушыла, усё — адпрэчыла. І тое, што было, і тое, што магло быць.

Адчуванне такое, быццам душа — мая ўласная душа!— стаіць непадалёку, узіраецца ў мяне і паўтарае, бясконца паўтарае: «Што ж ты з сабой робіш? Што ж ты...» А я і слоў для абароны не знаходжу. Няма ў мяне чым бараніцца...

Паэты параўноўвалі каханне з кветкай, філосафы дабаўлялі: як кветку трэба выгадаваць, выпеставаць у сцюжу ці ў сухмень, гэтак і пачуццё, гэтак і каханне... А я зламала першы ж пяшчотны парастак, ледзьве адхукаўшы яго пасля столькіх гадоў чакання,— сама зламала. Свя-дома. Сёння гэта ўжо нельга ўявіць: быццам сама — клінам! — загнала ў сябе боль, і цяпер цела расколваецца, павольна, але няўхільна дзеравянеючы.

І што гэта за характар такі? Адкуль у ім столькі супярэчлівага? Адкуль у ім гэта непакорнасць і мне і лёсу? Чаму ніхто — ніхто! — не перамагае гордасці? Ці гэта і не гордасць зусім, а жорсткасць? Жорсткасць, скіраваная супраць сябе і ўсіх, якая раніць і мяне і тых, хто побач?

Хоць у каго я пытаюся? Трэба супакоіцца. Трэба паспрабаваць супакоіцца. Здарылася тое, што павінна было здарыцца. Рана ці позна. Інакш — і не магло быць. Ну, словы іншыя, спакайнейшыя я знайшла б! Ну, тон памяняла б на больш абыякавы! Ну, не тады, у іншы які дзень давялося б вырашаць! Што — інакш, не так, магла б я вырашыць? І ў гэтым, як і ва ўсім, я — такая, якая ёсць. Урэшце, як і раней, са мной застаецца работа...

Работа, работа, работа! Колькі помню сябе, не шкадавала на яе часу, не шкадавала сэрца, але ж... Але ж, калі па шчырасці, не шкадавала і нікога побач, нікога нават з самых кволых і самых блізкіх. Здавалася: шкадаванне абразіла б іх. Як абразіла б мяне, уздумай хто-небудзь мяне шкадаваць. Любая справа патрабуе рашучасці, часта — непрымірымай рашучасці. Наша, журналісцкая, работа

таксама. І не здавалася мне — я перакавана была: калі ведаеш праўду, калі знайшоў яе,— змагайся за яе! І я змагалася, не задумваючыся на той час пра тое, што мая праўда — яшчэ не ўся праўда.

На той час... А на гэты? Сёння? Ніколі не ўзнікала і раптам узнікла сумненне? Ці гэта не сумненне, а даўняя, абуджаная нечаканай згадкай віна?

ВОСЕНЬ СЕМДЗЕСЯТ СЁМАГА ГОДА... Абшарпаны, з іржавымі пацёкамі пад столлю гасцінічны нумар. За сцяной бадзёры голас з радыёпрыёмніка паведамляе, што і заўтра чакаецца гэткі ж раскіслы асенні дзень: туман, месцамі ападкі, атмасферны ціск будзе павышацца... А пакуль што ціск павышаецца ў мяне: я не задаволена гэтай нечаканай камандзіроўкай, я прастудзілася яшчэ раней і цяпер хлюпаю носам,— і — і гэта самае галоўнае! — зусім не ведаю, з чаго заўтра пачынаць, як лепей выканаць сваё «далікатнае» даручэнне.

Вось ён, ліст, дасланы ў рэдакцыю з гэтага гарадка, перада мной: «Паважаны рэдактар, можа, у вас мала часу, каб чытаць пісанні пра маё жыццё. Ведама ж, па свеце ўсяго хапае, і вам трэба думаць не пра гэткіх, як я, пакрыўджаных кабет. Толькі куды ж мне са сваёй крыўдаю? Мо параіце што? Цяпер жа ўсе ў газету звяртаюцца...

Гэта ж я ўжо, лічы, пражыла свае гады, на шосты дзесятак пайшло. Ды Хведар мой хіба маладзейшы? Ён кавалерам быў, калі я нос рукавом уцірала. Вайну адбыў — нічога, жывы, цэлы застаўся. А пасля хвароба навалілася. Якія пасля вайны дактары? На вачах мужык чэзнуў.

Прызнацца, не ён мяне — я яго выбрала. З каго тады выбіраць было? Вось і выбрала яго, хворага. Адпаіла малаком, як дзіця малое, глядзела. Аджыў ён. Двух дзетак нажылі мы яшчэ з ім. Добра, кепска жылі, а жылі. Дзяцей на ногі ставілі, будаваліся. Як усе. Як людзі.

Дзеці выраслі, у горад падаліся. Ды дзеці дзецьмі — ці ж я вораг ім? У іх сваё жыццё, свае сцяжыны. Хведар мой што надумаўся: Ганна, кажа, ідаць, прысушыла мяне ўдава з Выселак... Гэта яны там ферму будавалі пазалетась, у Выселках! Сказаў і пайшоў. І ботаў не ўзяў. Нічога не ўзяў. А нашто яно мне, калі я ўсё думу горкую думаю? Маладая была, яго, дзяцей глядзела — добрай была. Добра, кепска, а жылі. А цяпер пастарэла, дык лепшую знайшоў. Ці ж гэта па-людску?

Я і ў Выселкі з'ездзіла, прасіла Хведара дамоў вярнуцца. Не вяртаецца. А ад вачэй людскіх нікуды не схавацца, ды яшчэ ад думак горкіх. Ці ж па-людску ён зрабіў? Можа, парадзіце што, таварыш рэдактар? Ганна я. Ганна Ціханаўна. Чакаць буду...» — вось такі ліст.

Знайсці-то я знайду гэтую Ганну Ціханаўну. А вось што скажу ёй? Загадана разабрацца, памагчы, супакоіць. А чым супакоіш пастарэлую жанчыну, якая баіцца сваёй адзіноты, сваёй старасці? Ды і ці мне яе супакойваць?

— Добры дзень вам у хату! — павіталася з парога.— Ці чакаеце гасцей, Ганна Ціханаўна?

— Госць — у дом, Бог — у дом. Гэта яшчэ мая бабка, царства ёй нябеснае, казала...

Ганна Ціханаўна ўстала мне насустрач. Твар яе ўсміхаўся, а вочы пазіралі насцярожана. Высокая, раздабрэлая, яна ніколькі не нагадвала жанчыну, спакутаваную сваімі думкамі. Усё ў ёй гаварыла пра здароўе, пра сілу: цяжка было нават уявіць, што гэта яна, менавіта яна напісала ў рэдакцыю той бездапаможны ў сваёй шчырасці ліст. Зусім нечаканае ўражанне, зробленае ёю, было такім моцным, што на твары маім, пэўна, адбілася недаўменне. Яна раптам перастала ўсміхацца і амаль суха запыталася:

— Ці мо хату пераблытала, дачушка?

Гэтае «дачушка», вымаўленае суха, абразіла мяне чамусьці. І, абразіўшы, астудзіла: далі ў рэдакцыі даручэнне наведаць жанчыну, высветліць што-якое па пісьму — вось і высвятляй!

— Не, не пераблытала, Ганна Ціханаўна, а вы госцю ў парозе трымаеце.

— Праходзь, праходзь. Што ж гэта я сапраўды? — зноў заўсміхалася жанчына, учуўшы ў маім голасе цвёрдыя афіцыйныя ноткі.— Па справе якой пільнай да мяне ці так, праведаць старую?

— Старую... Навошта вы пра сябе так, Ганна Ціханаўна? У канторы саўгаса мне столькі пра ваш нястомны характар нараказвалі, што адно...

— Я і гляджу, што ты нетутэйшая,— прыгасіла яна мой энтузіязм, відаць, пачынаючы здагадвацца, чаго я да яе завітала.— З горада нябось?

— З горада. З рэдакцыі я. Па пісьму вашаму.

— Вунь яно як! Па пісьму, значыцца? Дык я ж рэдактару пісала, а не...

— А я рэдактар і ёсць. Рэдактар аддзела,— назвалася я, уладкоўваючыся на табурэтцы ля стала.

На нейкі міг усталявалася маўчанне. Жанчына, пакрыўджана падцяўшы губы, разглядала мяне — я нібыта ўбачыла сябе яе вачыма: маладая, самаўпэўненая, падкрэслена модна апранутая гараджанка з журналісцкай сумкай на доўгім раменьчыку і падрыхтаваным блакнотам... Хоць не, блакнот я не даставала! Добра помню, баялася насцярожыць сваю субяседніцу, не даставала...

І ўсё ж убачанага было дастаткова, каб я адчула ўсю неадпаведнасць свайго вобліку, сваіх паводзін — яе думкам, яе чаканню. Адступаць жа, як кажуць, не было куды.

— Ганна Ціханаўна, вы не думайце... Я сама з вёскі. Шмат перажыла. А што гадамі вас пакуль што не дагнала, дык колькі нам, жанчынам, тых гадоў адпушчана!

— Колькі ні адпушчана, усе пражыць трэба,— крыху адмякла тая.— Пражыць, а не дажыць. Дажываць... адной цяжка. Ды што казаць пра гэта цяпер! Цяпер усё адно...

Яна не ўздыхнула. Проста махнула рукой — як адмахнулася ад перадуманага. Увесь выгляд яе гаварыў за тое, што не шукала яна нічыйго суцяшэння, нязвыклая да яго змалку: скрозь ёй самой даводзілася заўсёды некага шкадаваць, суцяшаць, супакойваць.

І ўсё ж было — было! — яе пісьмо ў рэдакцыю, і я паспрабавала знайсці нейкія словы, няхай самыя простыя — толькі б нешта гаварыць, гаварыць. Жанчына нібыта і не слухала мяне. Перабірала рукамі край абруса і думала пра сваё. Не зважаючы на мяне... Але калі я змоўкла, падняла на мяне вочы і ціха спытала:

— Ад цябе ні разу не сыходзіў муж?

— Не,— разгубілася я.— Быў выпадак, калі я ад яго на колькі дзён з'язджала.

— Вось і я кажу: рэдактару я пісала... Не трэба было пісаць. Не вернецца Хведар.

Чаго было больш у яе словах — запозненага разумення ці прыхаванай гаркоты, я не ведала. Не зразумела. Учапілася за апошнюю нітачку скончанай, па сутнасці, гаворкі: штосьці мне яшчэ хацелася высветліць, вызначыць...

— А раней, тады, у маладосці,— ён любіў вас?

— Хто яго ведае. Ці ж я пыталася? Не да любові тады нам было. Хоць чаму ж яму было не любіць мяне? Як за дзіцем, за ім хадзіла. І сваю, было, і яго, мужыка, работу зраблю. Сілы хапала — упраўлялася за дваіх. Чаму яму было не любіць мяне?

6 Зак. 2522

— Але калі б любіў...— не скончыла я пачатай фразы, быццам спатыкнуўшыся аб яе пагляд.

— Бог яму суддзя, а не я.

Яна паднялася. Паднялася і я, мармычучы нейкія словы прабачэння і няўклюдна, бокам, адступаючы да дзвярэй. Адчувала ж адразу, што візіт мой няўдалы, а тут яшчэ і слоў патрэбных не знайшла. Прыкра было, папракала сябе ў душы; і ўсё ж, выбраўшыся з сенцаў у двор, а потым на вуліцу, уздыхнула чамусьці з палёгкай. Фармальна я зрабіла ўсё, што рэкамендавалася, а па-чалавечы... Ну, што, што я магла ёй сказаць, чым падтрымаць? Такая сама каго заўгодна суцешыць і падтрымае. Ну, напісала яна пісьмо ў рэдакцыю, дык ці мала якая думка загарчыла раптам, збудзіўшы сярод ночы, ці мала якая горкая хвіліна ўзяла раптам у палон, падказаўшы рашэнне?

Стоп, стоп! Помніш словы, звернутыя да цябе самой? «Ты дужая. Ты ўсё можаш. Вось ужо і ў галаву б не прыйшло цябе пашкадаваць! — ты сама падтрымаеш каго заўгодна...» — помніш? Іх сказалі табе — жанчыне. Раней. Даўно. А баляць яны — і сягоння. Таму што сягоння ты разумееш значна больш, чым тады. Таму што сягоння — як ніколі надалей! — ты не будзеш ганарыцца сваім цвёрдым, мужчынскім характарам. Не зможаш.

Ты... табе... Вось я зноў звяртаюся да сябе, да свайго, перарваўшы згадку папалам балючымі словамі шкадавання і разгубленасці. Тады, у гарадку, з размоў з іншымі жанкамі — суседкамі Ганны Ціханаўны, я зразумела адно: занадта ціснуў на Хведара, не даючы развінуць плечы, моцны жончын характар, занадта скоўваў. Ні пражытыя разам гады, ні ўзрост не сталі пры выпадку перашкодай...

Тады, у гарадку, не адчуўшы глыбокай сімпатыі да Ганны Ціханаўны (падобнае — адштурхваецца?), я ўсё ж не апраўдвала і яе былога мужа. Больш таго! — асудзіла за здраду былому, за няўдзячнасць жанчыне, якая ратавала і ўратавала яго. Асудзіла на словах. І ў артыкуле, які, абмінуўшы імёны, напісала па вяртанні дамоў. Тады мне здавалася, што гэта і была праўда. Мая праўда. І агульначалавечая. Тады мне здавалася, што маё, асабістае ўспрыманне, мае пачуцці не засланялі разумення, не ўплывалі на матэрыял. Тады...

А што — цяпер? Што змянілася? Хіба сёння я апраўдала б Хведара? Зразумела б? Так. Не асудзіла б, як раней, безаглядна? Так. Але ж і не апраўдала б. Можа, якраз

таму і не апраўдала б, што шчыра, сэрцам пашкадавала б Ганну Ціханаўну, як шкадую сябе.

Дзіўна: шкадаваць сябе за тое, чым раней ганарылася... Ці гэта цвёрдасць, рашучасць незаўважна для мяне перарасла ў жорсткасць, ці гэта боязь, няўцямная боязь адчуць, прызнаць над сабой чыю-небудзь уладу, хоць бы і ў імя кахання?

Як цяжка было, відаць, усе гэтыя гады са мной мужу!

*22 верасня*

Ён пазваніў! Праз два тыдні пасля нашай размовы пазваніў. Толькі што быў тэлефонны званок.

— Слухаю,— падняла я трубку.

— Слухай уважліва! Я праз колькі мінут прыеду. Пяць, дзесяць мінут — і я буду ў цябе. Нікуды не выходзь, чакай мяне! Чуеш?

Голас яшчэ гучаў, а ў трубцы ўжо гучна папісквала: пі-пі-пі... Я нейкі момант пазірала на трубку, потым зноў прыклала яе да вуха. Пі-пі-пі... Ён — зараз — прыедзе!

Я ўсхапілася, забыўшы пакласці на рычажок тэлефонную трубку. Кінулася да шафы. Схапіла з вешалкі плашч, шалік. Стала ліхаманкава ўсцягваць апратку, не трапляючы ў рукавы. Вярнулася да стала па сумачку. «Пі-пі-пі!» — папісквала ў трубцы...

Сілы пакінулі мяне. Чаго я падхапілася? Куды пабягу?

Павольна паклала на месца тэлефонную трубку, апусцілася ў крэсла, апусціла на калені дрыготкія рукі. Трэба было нешта рабіць, даць рукам нейкую работу! Схамянулася, прыгадаўшы свой пацяжэлы ад супярэчлівых думак і слоў дзённік. Падумала раптам, што Глеб так і не напісаў, так і не абазваўся. Падумала, як пра штосьці далёкае, нерэальнае.

Сяджу. Чакаю Каханага...

# Паветраны замак на дваіх

## 1

— Вы, сытыя! Задаволеныя сваімі каменнымі норамі! Паглядзіце на сябе, пазвіваных у клубкі са страху перад ноччу! Спіце, уткнуўшыся ў падушкі абслюняўленымі губамі? У абдымках сваіх тлустых выляжанак? Добра ўладкаваліся, дробяззю — мараю сваёю заплаціўшы... Ма-ра, ха-ха-ха! Дзе яны, вашы мары? Тхаркі! Сляпыя тхаркі! Не-навіджу вас! Не-навіджу!

Крычала жанчына.

Ноч, аглухлая ад крыку, следам за поўняю нырнула ў калодзеж двара, і цені аграмадных камяніц і сплюснутых імі дрэў зварухнуліся, сталі пагойдвацца, зліваццa, перамешвацца з халодным, высіненым холадам святлом — то раптам набывалі рэзкія, добра акрэсленыя абрысы, то зноў расцякаліся, распаўзаліся ад павеву ветру. Спярша — ад павеву ветру, потым — ад крыку, рэха якога, адбіваючыся ад мураваных сцен, доўга кідалася і стагнала:

— Тхаркі! Тхаркі... Не-на-віджу вас... Не-навіджу...

Там-сям у каменных вянцах утворанага шчытна састаўленымі дзевяціпавярховікамі зруба прарэзаліся, засвяціліся вокны. Адно насупраць другога. Так блізка, што трывога стала перадавацца па крузе. Тут жа, імгненна, запстрыкалі выключальнікі ў суседніх кватэрах, далей і вышэй — зарыпелі балконныя дзверы, заплакала збуджанае сярод ночы дзіця, забрахаў чыйсьці незадаволены начным перапудам бульдог, загаманілі, прыглушаючы цыгарэтным дымам сваё раздражненне, гаспадары патрывожаных двух- трохпакаёвых райкоў: хто асмеліўся? што за псіхапатка? падпіла нябось...

— Каменнымі сценамі адгарадзіліся ад ночы, ад неба, адзін ад аднаго... Так сярод гэтых сцен і паздыхаеце, не ўразумеўшы, чаго, навошта жылі... Тхаркі! Толькі б чэравы панабіваць! Толькі б даштурхацца наперадзе іншых да карыта, а што душа пад нагамі... Ненавіджу! Не-на-віджу!

Рэха крыку разам з пылам тынкоўкі і месячнымі промнямі паступова асыпалася долу — цішыня не адразу ўступіла ў свае правы. Аціх дзіцячы плач. Сыта пазяхнуў і як заглынуў свой абыякавы брэх бульдог. Перасталі чыркаць

запалкі, не рыпелі дзверы. Гаслі адно за адным вокны, вяртаючы начному калодзежу двара звыклую ўстойлівасць і самавітасць.

Цішыня, зусім як людзі — кожны ў сваёй пасцелі, кожны са сваімі думкамі,— закалыхвала сама сябе, прыкідваючыся, што засынае, што спіць... Усплыла, не крануўшыся халодных каменных сцен, поўня. Стала ярчэць, раздавацца ўшыркі, уцягваючы, усмоктваючы ў сябе змрок, і хутка заслаціла сабою неба, і ў белым, іскрыстым яе ззянні раставарылася, знікла ўсё, што толькі міг таму здавалася неадольным, непарушным і... І важкім! Гмахі камяніц, сплюснутыя іх цяжарам тапалі, залітыя гудронам цені іх — усё знікла. На месцы двара, на месцы горада пялёхкаліся густыя хвалі святла, і на гэтых хвалях ціха пагойдвалася цішыня.

Цішыня закалыхвала сама сябе, і чаканне, і тугу, бязмерную тугу ночы. А сон не ішоў. Сну не было. Толькі цямнела, змрачнела ўкруг неба. Хвіліна-другая — і сыдуцца, замкнуўшы калодзеж двара, камяніцы...

Сышліся. Замкнулі. І ўсё стала як было. Нічога, урэшце, і не здарылася. Забрыла ў ноч, у двор жанчына? Крычала? Дык мо падпіла... Мо пакрыўдзілі. Каго ў жыцці не крыўдзілі? Праспіцца, душ прыме, пакруціцца з паўгадзіны перад люстэркам — і адчуе сябе гэткаю ж, як і ўсе, у гэткай жа, як у іншых, каменнай нары. Шчасліваю ці не — не мае істотнага значэння; не шчасце ж ёй, як і ўсім, абяцана, а сацыяльная справядлівасць — за шчасце спытаць няма з каго...

Ноч уздыхнула — зашарахцелі, зашумелі раскалыханым веццем тапалі, і зноў усё аціхла. Нячутна сцерла поўню з вышыні хмурынка, і змрок, не па-летняму халодны змрок, гусцеючы і распаўзаючыся ўсё вышэй, нячутна завесіў, адгарадзіў горад ад неба.

## 2

Неба скрозь абжываць цяжэй. Хоць думкам, хоць марам. Мо таму, што і думкі і мары належаць чалавеку і вырастаюць на зямлі: куды вышэй — карані не пусцяць. Утрымаюць. І ад задужа высокага палёту ўтрымаюць, і ад задужа высокага памкнення. Пэўна, можна сёе-тое ў жыцці падмаляваць ружовым, але не ўсё і не заўсёды. Ды і тое, што падправіш, падсвеціш, у выніку акажацца зям-

ным, звыкла знаёмым. Лесам, да прыкладу, дзе ўперамешку з соснамі і бярозамі — цяжарныя пладамі яблыні. Ці балацінкаю з клумбамі півоняў замест куп'я. Ці бясконцаю ўшыркі і ўдоўж вуліцаю, над якою чаўнакамі пагойдваюцца прывязаныя да яе сонечнымі промнямі паветраныя замкі...

Дзевяці — дваццаціпавярховыя камяніцы пératварыць у паветраныя замкі і Міхаліне няпроста, але толькі тады, калі ўжо не адолець змогу і абыякавасць, што навальваюцца зрэдку, пасля цэлага дня роздуму і працы ў майстэрні. Часцей жа ўдаецца, і — што там паветраны замак! — свет наноў яна ўзводзіць. Дзівосны непаўторны свет. Не так і цяжка адумыслу не заўважаць, што два акны яе кватэркі выходзяць у цесны двор і нібыта глядзяцца ў саміх сябе на сцяне насупраць. Што ў суседзяў справа ні на дзень не сціхае п'яная лаянка, а паверхам вышэй жыве старэнькае расстроенае піяніна, якое не паспеўшы састарэць разам з ім, раніцою і ўвечары тузае аматарка паланеза Агінскага. Што над самаю галавою, кашляючы і гучна смаркаючыся, клыгае па начах хворая на бяссонніцу старая, а ў суседзяў злева штодня псуюцца і свішчуць, сіпяць, выюць усе як ёсць водаправодныя краны. Гэта, урэшце, дробязі. Адно мацней заплюшчыць вочы — і першае ж спадзяванне на ўдачу, на сапраўдную ўдачу вырываецца з гэтых буйнапанельных сцен.

Вось і зараз... Напачатку Міхаліна, збуджаная сярод ночы лямантам, нейкі час прыслухоўвалася да таго, што адбылося і гнеўна асуджалася з усіх бакоў, знізу і зверху, потым хвіліны пачалі блытацца ў нітачцы дзіцячага плачу — калі ж плач аціх, ніводзін гук ужо не здолеў бы прабіцца да яе свядомасці: Міхаліну атуліла, адасобіла ад усіх неабдымная прастора. Прастора ночы. Начнога бязгучча, па дне якога струменілася, бруілася месячнае святло. Яно размывала контуры, абрысы берагоў — ды і якія берагі ва ўяўленні! Дом, калодзеж двара са срэбнаю грыўняю поўні ў глыбіні, загадкава чужы ад таямнічага перамігвання святлафораў на скрыжаваннях пустых вуліц горад... Усё засталося далёка ўнізе, за мяжою бачнага — вакол калыхаліся срэбна-ліловыя водарасці зорных і месячных промняў: паводзячы рукою, Міхаліна адчувала іх вільготныя дотыкі. І ў думках не памкнулася б вызначыць, ішла яна, ці плыла, ці ляцела — ведала адно, помніла толькі адно: яе чакала сустрэча.

Крокі набліжаліся — спачатку ледзь чутнае, а потым

дсбра выразнае і нястрымнае водгулле іх накочвалася, здаецца, адразу з усіх бакоў, расло, гучнела, і хто б іншы схаладнеў ад жаху, ад трывогі і жаху, а Міхаліна...

— Тхаркі! Сляпыя тхаркі! Ненавіджу вас, ненавіджу!

— Каго — вас? — павярнулася, неахвотна адгукнулася яна на чуты неаднойчы раней і нічым не прывабны голас.

— Хіба абавязкова трэба ўдакладняць? Усіх! Вас усіх!

— Але ж тут нікога, апроч мяне, няма,— з цікавасцю прыгледзелася яна да госці і зноў, каторы ўжо раз на працягу апошніх месяцаў, не збаялася б пабажыцца, што жанчына з перакошаным ад гневу тварам — гэта яна сама, Міхаліна Бабура. Вось толькі голас... Голас, як ні старалася госця падсачыць, падрабіць яго, выдаваў чужаніцу, і было незразумела, чым выклікана падобнае пераўвасабленне.— Як бачыш: нікога, апроч мяне... І ў тым, што мяне, асабіста мяне тычыцца,— не бачу прычыны для нянавісці.

— Ты таксама плаціла!

— Каму? — перасмыкнула плячамі Міхаліна ад непрыемнага дотыку яе рукі.— Каму я плаціла?

— Жыццю, любчык,— засмяялася ў адказ тая, нечакана ўжыўшы любімае Міхалініна слоўка, і Міхаліна зірнула на яе з ужо не прыхаванай падазронасцю.

— Слухай, адкуль ты ўзялася? Адкуль ты з'яўляешся кожны раз?

— А што? Не падабаюся? Давядзецца цярпець, любчык: мы — спадарожніцы, мы выпраўлены ў адну дарогу.

— Нешта я не разумею, лю...— папярхнулася на слове Міхаліна і, не здолеўшы выціснуць з губ і кволай усмешкі, адвярнулася.

А тая па-ранейшаму неспакойна, нервова пасмейвалася, паводзячы галавою і раз-пораз чапляючыся то за руку яе, то за плячо,— і рухі гэтыя, таксама неспакойныя, нервовыя, яшчэ больш, чым словы і смех, раздражнялі Міхаліну: у раздражненні яна не звярнула ўвагу на перасцярогу, прагучалую ў словах.

— Не разумееш? Вечная твая адгаворка, нават калі пытаюся пра самае простае... Задумацца не хочаш, вось што я табе скажу. Не хочаш і не асмельваешся.

— Дзе ўжо мне? — буркнула.

— Дзе ўжо тут! Убіла ў галаву, што мастак...

— Я мастак!

— Ты жанчына, любчык. Жанчына. І гэтым усё сказана.

— Ах, жанчына! — не пазірала на спадарожніцу Міхаліна (гэта ж як у люстэрка глядзецца!).— А што гэта такое — ж а н ч ы н а? Якая розніца, хто ты — жанчына або мужчына, калі ні прызванне, ні талент, ні мэта нічога агульнага з біялогіяй не маюць?

— Самая распаўсюджаная сярод жанчын памылка. Вось і чыніце гвалт над сабою, над сваёю прыродаю, а прырода не церпіць гвалту, любчык. Не сцерпіць.

— Любчык, любчык! — зазлавала Міхаліна.— Што ты хочаш давесці? Што час можна загнаць назад у пячору? Што мае месца ля складзенага з камянёў ачага? Але ж мінулі не вякі — эпохі...

— І чалавецтва зноў пачынае закопвацца ў зямлю, шукае — капае пячоры, крыху, крышачку зручнейшыя, чым ранейшыя, ты гэта хацела сказаць?

Міхаліна, у якой нават мову адняло ад падобнай бесцырымоннасці (слова не дае сказаць!), злосна бліснула вачыма і павярнулася, каб паставіць, урэшце, гэту прыблудную спадарожніцу на месца,— яе ні побач, ні далей, колькі дацягваўся позірк, не было.

— Цьфу ты! — зазлавала, цверазеючы: зноў сама з сабой гаварыла, бо вось жа, адно прыгадаўшы суразмоўніцу, воблік яе, адразу ясна, што яна — з аўтапартрэта, напісанага гадоў дзесяць таму. Нібыта ажыў раптоўна аўтапартрэт, і яна, Міхаліна, тая, з аўтапартрэта, паставіла запаленую свечку, заціснутую ў руцэ, на край рамы і пакінула раму, пакінула майстэрню, каб прыйсці сюды, у бяссонне, у бязмежжа ночы.

Ноч уцягвала дарогу — і яе, Міхаліну,— у гэта бязмежжа. Па сутнасці, не было ўжо дарогі — ні ззаду, ні наперадзе. Ды што дарогі! — зямлі не было: мірыяды зорак танулі, наплывалі, рухаліся вакол ва ўсіх напрамках адразу, і рух гэты (на пэўнай адлегласці ад яе) не ствараў уражання бязладнага мітусення, кіпення, не. Здавалася, што хтосьці накіроўваў, няспешна, нават урачыста перамешваў іх з імгненнямі — і святлеў Міхалінін позірк, і ачышчалася яе душа, і цягнулася, уцягвалася душа ў гэты таямнічы карагод. Мо для таго толькі ўцягвалася, каб зразумела Міхаліна схаваны ад яе, як і ад кожнага, сэнс жыцця, ёй дадзенага, а мо павінна яна была ўведаць таямніцу самой смерці — таямніцу вечнасці. Калі б доўжыўся, калі б прадоўжыўся рух, палёт...

— Не надакучыла сузіраць бязмежжа сваёй душы?

Міхаліна быццам наткнулася на голас, на яго нябачную

асцюкаватую запону: рух спыніўся, рукі яе бязвольна, бяссільна абвялі, позірк зацягваўся смугой.

— Удача, любчык, прыходзіць да таго, хто ведае, на якую палічку яе пакласці, каб і на віду ва ўсіх ляжала і ўзяць яе, украсці ніхто не патыкнуўся,— самаўпэўнена, павучальна прамовіла, адвёўшы руку са свечкаю ўбок, няпрошаная дарадчыца (яна ўсё-ткі зноў з'явілася!), і Міхаліна разглядвала яе з непрыязнасцю і ўжо непрыхаваным страхам: нават проста ўяўленнем ажыўленая, тая пужала ўпэўненасцю ў беспакаранасці, непадсуднасці сваёй.— Удачу, любчык, не купіш, а прыйшла — утрымаць трэба. Хоць зубамі, а ўтрымаць. Бо адно каля ўдачы і пагрэемся. А то: таямніца жыцця, таямніца вечнасці... Усёй таямніцы, што памром некалі. Дык некалі — не сягоння, не зараз!

— А табе адкуль вядома? — не стрывала, улезла ў гаворку Міхаліна.

— Цю-ю, любчык! Гэтак мы з табой да стварэння свету мусім дайсці, а дарога, як ты сама разумееш, няблізкая. Няблізкая і вымагае пільнасці. Глядзі!

Міхаліна зірнула туды, куды павяла яна рукою, і міжволі адхіснулася, адступіла назад: за крок, як не за паўкроку, абрынулася пад нагамі прастора і ў бездань гэту хлынулі зоркі — струмень, паток сарваных, шпурнутых з вышыні зорак узвіхрыў паветра — пацягнула холадам, халодны калючы пыл перасядаў у горле. Заплюшчыцца б, не глядзець, а Міхаліна не магла звесці павекі. І чым даўжэй углядалася ў зіхоткі зорны паток, тым выразней бачыла, што ніякія гэта не зоркі, што гэта агеньчыкі, мірыяды цьмяных, раскалыханых рухам агеньчыкаў знікаюць у бездані, у яе змроку. І не проста знікаюць — змрок паглынае іх, разам з тымі, хто іх нясе, хто іх трымае, бо вось жа ўжо бачна, што гэта свечкі ў руках у людзей і свечкі гараць, дагараюць, не паспеўшы асвятліць ні твары, ні рукі: ніводзін твар не выплывае з чарнаты, ніводная рука не скалыхнецца.

Не, адзін твар — свой уласны — Міхаліна бачыла, і ён належаў загадкавай гаспадыні гэтага відовішча. Менавіта гаспадыні, бо варта было ёй абыякава адвярнуцца ад бездані — і відовішча знікла.

— Жыццё — вось гэта дарога ў адзін канец, адна — для ўсіх.

— Але ж...— павярнулася да яе Міхаліна і не стала

прадаўжаць, гэты раз не здзівіўшыся, што ні побач, ні далей, колькі дацягваўся позірк, нікога не ўбачыла.

Ноч саступала правы золку. Разам, за долі секунды, абляцела, асыпалася долу неба. Парадзеў, пасвятлеў змрок і цяпер ужо калыхаўся вакол белым мроівам, скрозь якое праступалі ўсё яшчэ размытыя і ад таго невыразныя, незнаёмыя абрысы зямлі: ці то лес на вачах вырастаў, ці то горад падымаўся... Зачараваная, паланёная таямнічым хараством, прагна ўзіралася Міхаліна ў гэтыя хвіліны, адчуваючы, наперад ведаючы, што ніколі не здолее занатаваць іх на палатне. І яна не здолее, і ніхто...

3

— Здолеў, не здолеў... Дылетанцкія разважанні пра карціны як пра цукеркі! Толькі сам мастак ведае, ці дамогся ён пастаўленай мэты, ці здолеў...

— Чаго ты захадзіўся, Чэсь? — стомлена адазвалася Міхаліна, не павярнуўшыся да Гудзевіча.— Абмеркаванне прайшло так, як прайшло б учора ці пазаўчора: пагулі, павыхваляліся кожны сваім разуменнем моманту, патапталіся па самалюбстве народнага і разышліся, кожны — пры сваёй геніяльнасці. Ты, я...

— Мяне прашу не чапаць!

— Ну, добра: я, Баркун, Аржыська... Справа не ў прозвішчах, а ў самалюбствах: сваё і зачапіць не дазваляем, а аб чужое і ногі выцерці пры выпадку не пасаромеемся... Салют, Алесь! — памахала Міхаліна лёгкаму на ўспамін Баркуну, які зайшоў у кавярню і аглядаў нешматлікія, цесна састаўленыя столікі, шукаючы вольнае месца.— Давай да нас!

Алесь кіўнуў, і заўсміхаўся, і стаў працiскацца да іх, па ходу вітаючыся з тымі, каго не заўважыў на абмеркаванні: тут, у кавярні, куды нярэдка заходзілі выпіць кубачак кавы ці перахапіць які бутэрброд мастакі, сёння, у дзень абмеркавання выстаўкі работ Дзмітрыя Шыпілы, сышліся, як кажуць, і жук і жаба: не столькі статус народнага, колькі статус нонканфарміста прыцягваў...

— Цалую ручкі, Ліна,— гэпнуўся на скурапую лаўку Алесь.— Чым гэта ты Чэся ўгнявіла, што ён на сяброў не зважае?

— А табе абы куспуць ад гарачанькага.

— Бурчыш, стары. І гэта ў прысутнасці такой жанчынкі!

— Не чапляй яго, Баркунчык, ён не ў гуморы. Выпады, ты ж чуў, былі і сапраўды гнусныя, а калі...

Міхаліна пакасілася на Чэся і не дагаварыла. Адно аблізнула раптам перасохлыя губы і прымружыла павекі, нібыта чакаючы слоўнага шквалу, і калі Чэсь і вокам у яе бок не павёў, міжволі з палёгкаю ўздыхнула і адкінулася на спінку крэсла. Падумала, што трэба б плюнуць на Чэсевы выбрыкі, раз і назаўсёды, але тут жа адагнала думку спакайнейшым: «табе сорак два, любчык» і ўсміхнулася ў адказ на запытальны Алесеў позірк.

— Тры кавы, Юра,— пстрыкнуў пальцамі ў бок бармена, ускінуўшы руку, Алесь і тут жа павярнуўся да Чэся.— Дзіме Дзімычу не даруюць занадта ўжо відочнай адметнасці: з самага пачатку чуецца выклік усяму звыкламу, будзённаму, шэраму — таму, што натхняе ўсю астатнюю публіку, і хіба можа яна пагадзіцца з гэтым спакойна, не паспрабаваўшы абараніцца, прыкрыцца тым, што абараняе сацыялістычны рэалізм?

— Во, во! — заварушыўся, заёрзаў Чэсь.— Сама тлумачэнне! Голенькія, адмытыя нават ад сонечнага святла рэчы і загладжаныя да нежывога лакавага бляску твары — не што іншае, як рэалізм, а спроба перадаць на палатне не толькі ўсю светлавую гаму, а і гаму чалавечых пачуццяў — ужо чорт ведае што: кожны свой банцік прычапіць імкнецца... Цьфу!

— Трошкі цішэй, Чэсь. На нас азіраюцца,— памкнулася суняць яго Міхаліна і ў тое ж імгненне пашкадавала аб гэтым: Чэсь успыхнуў, прыўзняўся ў крэсле і, гэпнуўшыся назад, узвысіў голас.

— Пляваць мне на ўсіх гэтак жа, як і ўсім на мяне! Дамарошчаныя філосафы, ты ж разумееш. Аднаму паскудзе са зграі вечна галодных мастацтвазнаўцаў не маглі пад зад даць, каб, перш чым язык вывальваць, вочы працёр. «Адсутнасць лапідарнасці...», «мазаічнасць рашэння...», «адыход ад традыцыі...». Ужо ж, для іх традыцыя — брудна-шэрае месіва на палатне, праз якое праглядвае запазычаная ў стагоддзяў ідэйка!

— Не разумею, чаго ты чакаў. Узровень думкі і ўзровень мастацтва расце — як, дарэчы, і падае — на працягу дзесяцігоддзяў. Часам цэлае пакаленне, а то і некалькі пакаленняў моляцца фальшывым святым,— пакручваў бакал, углядаючыся ў гульню святла і цені на яго тонкіх сценках, Алесь.— Цудаў не бывае, стары. Нават у нашым асяроддзі.

— Хто кажа пра цуд, чорт вазьмі!

— А калі адкінуць цуд ці хоць бы мажлівасць цуду, то застаецца голая дыялектыка.

— Хлопчыкі, наша кава! — пацягнулася Міхаліна да падноса, прынесенага не барменам, а яго худзенькай, здавалася, бясцелай (гэткія дзве кветчыны сініх вачэй над карункавым хвартушком!) памочніцай, і, убачыўшы, што ні Чэсь, ні яго сябра і галавы на яе вокліч не павярнулі, адмахнулася ад думкі перапыніць ці хоць бы змякчыць іх занадта гучную гаворку: няхай спрачаюцца, не першыня. Яна на нейкі час нават перастала ўслухоўвацца ў іх галасы, занятая каваю і планамі на вечар: думала, ці то зайсці ў прадуктовы магазін (халадзільнік з учарашняга дня пусты), ці то пасядзець яшчэ ў майстэрні (з Чэсем сёння кашы не зварыш), ці то прыняць запрашэнне Жаны Віктараўны (працуе ж у фондзе, і зносіны з ёй трэба падтрымліваць). Урэшце, можна пакалупацца ў майстэрні...

— Усё прасцей, стары. Гэта зайздрасць. Чорная ці белая — няважна. Адна халера!

— Ты не ўлічваеш глыбіню ідэйнай падкладкі...

— Чэсь! Ну, навошта заглыбляць тое, што на паверхні? Якая ж, к чорту, глыбіня? Адзін працуе на мастацтва, другі — на заробак, адны шукаюць шлях да самавыяўлення і дасканаласці, другія — шлях да начальства. І ўсё б нічога, калі б кожны сваё і атрымліваў, а то ж... Тым, другім, пачынае здавацца, што начальства выдае індульгенцыі на талент, а з індульгенцыяй у руках ужо льга і першых пацясніць.

— І адцясняюць! — пазмрачнеў Чэсь.

— А вось тут дудкі, стары! Куды яны могуць Дзіму Дзімыча адцясніць? Куды? Яны ж з ім на розных плоскасцях — на розных! І не даця́гнуцца, не дацягваюцца да яго ўзроўню. Вось адсюль, стары, і зайздрасць, і злосць, і злоснае непрыняцце. І не варта рабіць, прымяраць розныя падкладкі. Зашмат гонару, як кажуць.

— Здавайся, Чэсь,— кранула яго за плячо Міхаліна.— Баркунчык мовіць ісціну.

— Ісціна рагатая,— атрос ён яе руку з пляча, не павярнуўшыся.— Ледзь пагладзіш якую: «кося! кося!», а яна і падыме на вострыя рогі.

— Што ты хочаш сказаць? — не памякчэў ад яе ўсмешкі і Алесь, ужо усур'ёз уцягнуты ў спрэчку.— Што я лухту гараджу?

Чэсь, пакутуючы ад неразумення, зморшчыўся, пацёр

скроні пальцамі, вычакаў паўзу, і, калі нарэшце адазваўся, голас ягоны прыкметна пацішэў, падабрэў, быццам ён наперад пагадзіўся на ўсе далейшыя пярэчанні.

— Я хачу сказаць, што ты, Алесь, не ў той бок, што я, пазіраеш. Ты — мне! — даводзіш, што піскуновым, шуцікам, шэльманам не патрэбны, замінаюць таленавітыя браты іх, а справа, браце, не ў іх, не ў іх непрыняцці або прыняцці таленавітага, а ў тым, што самому дню сённяшняму, калі сыходзіць з яго запатрабаванняў, не патрэбен талент. Разумееш? Дню, грамадству, якое жыве адным гэтым днём, таленавіты творца не патрэбен. Яго не аддаюць агню, не ўкрыжоўваюць, як некалі,— яго проста адцясняюць на задворкі, пажадана — за надзейную загарадку. Спатрэбіцца — прыадчыняць браму, не ўзнікне патрэбы — няхай спакойна дажывае: мы ж, маўляў, людзі цывілізаваныя... Будзённая трагедыя, якая і трагедыяй амаль нікім не ўспрымаецца!

— Дзіму Дзімычу ж далі ў свой час народнага.

Чэсь зірнуў на сябра здзіўлена, калі не расчаравана: у яго — і раптам гэткая мерка творчага жыцця, творчага лёсу? Памкнуўся адказаць, а потым, у самы апошні момант, як перадумаў. Стомлена правёў далонню па твары, расслабіўся, сеўшы зручней, і тут толькі ўспомніў пра каву, якая, некранутая, напэўна, ужо зусім астыла.

— Глыні кавы,— тут жа падалася бліжэй да яго Міхаліна.— Мо перазаказаць, каб свежую зварылі?

— Не будзем мітусіцца, Ліна.

— Тым больш што мы не дагаварылі,— перахапіў Чэсеву фразу Алесь, але Чэсь ніяк не адазваўся: невялікімі глыткамі прыхлёбваў каву, спакойна, быццам не ён толькі што абураўся на ўвесь голас, азіраў залу.— Чэсь не зразумеў...

— Я зразумеў, што мы гаворым пра рознае. Крыху пра рознае.

— Баркунчык! Чэсь! — заёрзала, пераводзячы позірк з аднаго на другога, Міхаліна: ці ж ёй было не ведаць, што калі яны пасварацца зараз, то потым будуць доўга абодва пакутаваць, пакутаваць і злаваць на яе, сведку іх спрэчкі? — Мо лепш прайсціся ўздоўж ракі, а? Надвор'е...

— Вось і пагуляйце з Алесем. Яму трэба астыць, спакойна ўзважыць сказанае і нясказанае.

— Ну, ведаеш!

— Салют! Мяне чакаюць.

Ён прыўзняў руку, не павярнуўшыся да іх, і пайшоў да дзвярэй, і Міхаліна, лёгка ўтрымаўшы дотыкам рукі Алеся, які намерыўся гэтаксама, следам за ім, устаць, неяк вінавата ўсміхнулася.

## 4

У майстэрні было малавата святла: вечар, хоць і незаўважна, глыбеў, паветра загусла і стала вільготным, ліпкім — не тое што пісаць, аналізаваць раней, па дню напісанае немагчыма. Які ўжо аналіз, як ні мазкоў, ні іх руху, ні фарбаў, ва ўсёй іх чысціні не разгледзець! Усё на палатне выглядае інакш, больш размыта і шэра. Праўда, і больш таямніча. Але гэта ўжо з іншай оперы, як сказаў бы Чэсь, і затрымлівацца на гэтай думцы Міхаліне не хацелася.

Яна адвярнула незакончанае палатно да сцяны, прынесла і паставіла на мальберт даўні аўтапартрэт. Доўга дзівілася на сваю колішнюю выяву, міжволі параўноўваючы яе з той, якую бачыла цяпер штодня ў люстэрку. Маладзейшая... Амаль зусім няма яшчэ зморшчынак укруг вачэй... Самаўпэўненасці больш... Што яшчэ? Жорсткасць у твары, ледзь прыкметная і ўсё ж адсюль, з адлегласці гадоў, бачная...

«Жорсткасць — гэта жыццё. Чым больш актыўнае жыццё, тым больш жорсткасці»,— выплылі раптам з памяці вычытаныя некалі словы, і Міхаліна не адмахнулася ад іх, як звычайна. Адно злёгку прыкрыла рукою вочы.

Прыгадаўся Чэсеў расказ пра трыццацідвухгадовую жанчыну, равесніцу гэтай, на аўтапартрэце, якая выкладала гісторыю ў педтэхнікуме і, маючы сям'ю, прагла мець аддана кахання. Так, так, не выпадковага паклонніка з жонкаю і дзіцем, не каханка, а каханага — адзін Бог ведае, што яна мела на ўвазе...

Міхаліна зябка сцепанула плячыма. Згадваць падрабязнасці некалі чутага і перажытага ўжо выпадку не хацелася, але думка, зачапіўшыся за згадку, пацягнула яе за сабою, і нічога не заставалася, як пагадзіцца: так! так! злачынства, зладзейства адбылося! Не скалыхнуўся ў душы («Як жа яе звалі, гэту жанчыну? Зоя?»), не абазваўся жаль — бязлітасна, з дапамогаю свайго ж студэнта, забіла і жонку і малое дзіця свайго каханка. Прыйшла і забіла. І тое, што потым была асуджана да пажыццёвага

зняволення, успрыняла спакойна: ніякіх парушэнняў псіхікі ўрачы ў яе не знайшлі.

Ніякіх парушэнняў... Чорт ведае што! Нібыта не жанчыну асудзілі за злачынства перад людзьмі і небам, не жанчыну і маці, а бездухоўную, бяздушную істоту з яе абліччам і яе імем, і ніхто не ведаў, ніхто ніколі не дазнаецца, калі, якім чынам, кім была спустошана гэтая душа. Калі? Кім? Ужо ў першых пытаннях чулася штосьці д'ябальскае — у пару перахрысціцца, а пытанняў жа, чым адчайней адмахвалася ад іх Міхаліна, узнікала ўсё больш. І ўсё няпростыя пытанні. Накшталт: чыё, наогул, спараджэнне — чалавек, як не можа ён пазбыцца граху? Чаму духоўнае ў ім не перамагае звярынага? Куды знікаюць згаслыя мары і спадзяванні?

Ужо ж, не стала б яна дакучаць знаёмым гэтымі пытаннямі — і без таго яе лічылі залішне рамантычнай, але сам-насам з сабою, куды ад іх дзецца, не ведала. Мо таму, што да разважанняў заўсёды дадавалася незразумелае пачуццё віны, яе, Міхалінінай, віны, хоць, вядома, яна ў гэтай гісторыі ні пры чым.

— І можаш не пасміхацца! — уголас, з выклікам, мовіла Міхаліна, каторы раз спыняючыся перад сваёю выявою на палатне, быццам менавіта ад аўтапартрэта сыходзілі і трывога і пачуццё віны.— Я тут ні пры чым.

А сэрца ўжо сціскалася, стыла, пакрываючыся ледзяной скарынкаю,— і шумны праспект выцягваўся ў каменны тунель, скляпенні якога, перавітыя правадамі, свяціліся злавесным, мігатлівым агнём, апускаліся ўсё ніжэй, здавалася, ціснулі на плечы, і калі б запынілася яна раптам, адумысла ці міжволі, то ўрасла б у бетон, скамянела б сама. Але яна ішла, не запавольваючы хады,— тунель уцягваў яе ў сваю бяздонную пастку, і недзе наперадзе, метраў за сорак, раз-пораз схіляючыся да малога, які старанна перабіраў ножкамі побач, ішла маладая жанчына з пышнымі хвалістымі валасамі да плеч. Лёгкая бязевая сукенка яе ўзлятала на кожны рух, і адтаго рухі здаваліся бязважкімі, імклівымі.

Міхаліна помніла, што ёй трэба дагнаць і жанчыну і малога — інакш ніколі не выбрацца з тунеля, колькі б ні імкнулася, інакш мігатлівы мёртвы агонь угары ніколі не знішчыць цяжкія скляпенні і не верне ёй неба. Яна ўжо не магла ўспомніць яго колеру, яго цяпла: стылі плечы, намярзала на плечы цяжкая, хрусткая цішыня, то ламаючыся пад сваім цяжарам — і тады здавалася, што і за ёю,

за Міхалінаю, гнаўся хтосьці злякапы накапаванасцю свайго шляху, свайго выбару, то зноў нарастаючы, цяжэючы — і тады Міхаліну пахіствала з боку на бок, і яна, здзіўленая, як гэта тая, што наперадзе, не адчувала ні гэтага гнёту, ні гэтага страху і рухалася лёгка, быццам прытанцоўваючы.

Адлегласць паміж імі скарачалася марудна. Спярша Міхаліна, жахнуўшыся ў першы момант, убачыла, што на жанчыне няма нічога, апроч празрыстай бязевай сукенкі, потым, і на адлегласці адчуўшы, што маладое прыгожае яе цела нават пры такім асвятленні выпраменьвае сілу і здароўе, адчула, як атрутныя джалы нянавісці ўпіваюцца ў лядзяк сэрца, і міжволі прыспешыла крокі. Дагнаць, адпіхнуць, спіхнуць з дарогі шчаслівіцу разам з яе радасцю, разам з яе дзіцем! — не было іншай думкі, не было іншага жадання.

У ёй расла ўпэўненасць, што там, дзе заканчваецца тунель, чакае яе сонца, гукае яе каханы,— і трэба спяшацца, трэба апярэдзіць шлях на тыя некалькі хвілін, якія аддзяляюць яе ад юнай і, па ўсім відаць, шчаслівай суперніцы («Зоя? У грэкаў гэта азначае жыццё...»).

Хутчэй, хутчэй! Яна ўжо чула лёгкае дыханне жанчыны і засяроджанае сапенне малога, яна ўжо прымружвала вейкі, каб не апячы позірк аб іх жывыя яркія постаці, яна ўжо адганяла ўзніклае раптам сумненне: а мо гэта іх чакала сонца... «Я магу! Я прайду!» — паўтарала сама сабе як у гарачцы і шыбавала напрасткі, няўмольна набліжаючы той момант, калі плячом, локцем — нагамі! — адчуе звялую, бяссілую ўжо чужую плоць.

Тунель звужаўся. Тунель нагадваў ужо хутчэй шчыліну, расколіну, у якой дваім не размінуцца,— і немінучасць, неабвержнасць таго, што павінна было адбыцца праз хвіліну-другую, пачынала прыгнятаць. Ці мо гэта бетонныя сцены сціскалі, душылі Міхаліну? Яна зрабіла рывок, яшчэ адзін, і не ўздых, а крык вырваўся ў яе з грудзей: тунель выпускаў, адпускаў яе, але па руках, уніз ад абадраных да мяса плячэй, сцякала халодная рудая кроў, і кроплі яе не застывалі на камянях, а ўспучваліся пульхірамі і з трэскам лопаліся на кожны яе рух. Міхаліна азірнулася на тых дваіх, цераз каго яна пераступіла,— позірк упёрся ў бетонную сцяну.

Хтосьці побач здзекліва засмяяўся. Міхаліна крутанулася, раз і другі раз агледзела ўсё вакол: сцены і сцены!

Толькі далёка наперадзе, дзе пазначаўся выхад з тунеля, святлела штосьці адсюль невыразнае.

— Чаго гэта я маруджу? — спалохана падагнала яна сябе, не заўважыўшы, што не падумала, а сказала гэта ўголас, як мага шырэй раскінула рукі, каб не запэцкаць крывёю касцюм, і, не зважаючы на трэск і ўсё грамчэйшы шум аднекуль звонку, з-за сцяны, рушыла да выхаду, на яго святло.

Шырэў, раздаваўся ўшыркі і ўвысь шлях. Ён ужо амаль не нагадваў тунель: па левую руку пазначаліся то гарадскія гмахі ці купкі ліп і таполяў, па правую — з суцемкаў вырываўся то адзін, то другі аўтамабіль. Тунель на вачах станавіўся шырокім праспектам, і Міхаліна, адсоўваючы глыбей у памяць толькі што перажытае, дыхала ўжо крыху вальней: звідзілася, няйначай, вось жа і крыві на руках не было... А позірк чапляўся за штосьці, спачатку ледзь бачнае, невыразнае, што зараз пагрозліва набліжалася, што мусіць яна абмінуць, перш чым выберацца са сваёй памяці. Крок, другі, трэці — і раптам становіцца добра відаць, што на прыступках лесвіцы, перад адчыненымі кудысьці ў чарнату дзвярамі, нязграбна падвярнуўшы руку, быццам і ў апошні момант імкнулася вырваць з грудзей лязо, ляжыць ужо аплыўшая крывёю жанчына, тая, у лёгкай бязевай сукенцы. За ёю ж, заслонены і не ўратаваны ёю, ляжыць раскінуўшы ручаняты, хлапчук — і гэта застылы позірк яго рассунуў, разбурыў скляпенні над імі...

— Не надакучыла сузіраць бязмежжа сваёй душы?

Міхаліна так моцна ўздрыгнула, што ледзь не перакінула мальберт, на які абапіралася, стоячы перад сваім аўтапартрэтам. Калі ж схамянулася, узяла сябе ў рукі і, злёгку прыўзняўшы бровы, пакасілася на палатно, яе, Міхалінінай, выявы на палатне не было. Нячутна гарэла свечка, пастаўленая на край рамы, і святло не прабівала змрок у глыбіні карціны.

## 5

— Што здарылася, а, Ліна? Я не дагадзіў? Быў залішне грубым? Але ж я цяпер рэдка заходжу...

Чэсь не расплюшчыў вачэй, не зварухнуўся. Стомлены, абыякавы і да яе, і да тых імгненняў, якія толькі што звязвалі іх,араднілі, ляжаў побач нерухома, адчужана, і разбіць гэту яго нерухомасць, гэту яго адчужанасць Мі-

халіна не магла. І сёння, як у любы з яго прыходаў, заўсёды нечаканых, непрадбачаных, не змагла б: не столькі ведала, колькі падсвядома, шостым, а то і сёмым пачуццём адчувала, што ні словы, ні ласкі, ні слёзы не дапамогуць. Наадварот... Было ж — усяго аднойчы, тры гады таму, калі яны толькі-толькі пачалі сустракацца ў яе,— яна ў запале, перапоўненая пяшчотаю і жаданнем атуліць, адагрэць Чэся, такога раптам чужога, халоднага, пачала лапатаць штосьці пра сэрца, пра каханне, пераміжаючы словы пацалункамі, а ён... Чэсь тады адпіхнуў яе — і грэблівым рухам рукі і сляпою жорсткасцю слоў. «Не паўтарай лухту, прыдуманую на ўцеху дурням!» — сказаў. І, заўважыўшы слёзы ў яе на вачах, спакоўна дадаў: «Калі будзеш так сур'ёзна ставіцца да нашых сустрэч, я не прыйду больш, і ты гэта ведаеш...»

Не, Чэсь па-свойму хінуўся да яе, і хоць сустракаліся яны вось так, не на людзях, у адгароджанай ад людзей і свету цяжкою льняною шторою Міхалінінай аднапакаёўцы, нячаста, без гэтых сустрэч жыццё (і Чэсева жыццё, як бы ён ні павярнуў іх адносіны) было б прэсным і ў нечым вельмі істотным абакрадзеным.

Міжволі, не здолеўшы адмахнуцца ад гэтай суцяшальнай думкі, падалася Міхаліна бліжэй да Чэся, потым, асмялелая ад таго, што Чэсь не запыніў яе, ніяк не выказаў сваёй незадаволенасці, тварам, мокрым ад слёз, прыпала да яго пляча.

— Што-небудзь здарылася, Ліна?

— Гэта я так...— азвалася ледзь чутна.— Проста жыццё прамінула. Незаўважна неяк.

— Ну-у...— працягнуў Чэсь і, не прадаўжаючы, злёгку варухнуў плячом.

Міхаліна адкінулася на падушку, прыціхла. Падумала нават: «Хай бы ён падняўся і пайшоў...», і спалохалася. Не думкі спалохалася, а той глухой цішыні ў душы, якая ў адказ не скалыхнулася: няўжо і сапраўды ўсё мінула і яны расстануцца, разыдуцца без шкадавання?

Стала зябка. Падняцца ж і падцягнуць ссунутую, скамечаную ў нагах коўдру вышэй не хацелася. Ды і Чэсь не любіў, калі яна ў такія хвіліны мітусілася — «пачынала ажываць», як ён казаў. Чэсь, Чэсь... Гаспадар становішча! Заўсёды і нязменна. Прыходзіў калі ўздумаецца. Заставаўся да таго часу, які вызначаў сам. Дазваляў тое, што намерыўся дазволіць. Міхаліне нічога не заставалася, як любіць яго.

— Ты больш не прыйдзеш,— не сказала, падумала ўголас.

— Адкуль ты ўзяла?

— Я ведаю.

Яны ляжалі побач. Так блізка, што аднаго руху хапіла б, каб спляліся іх рукі, целы, дыханні,— і ніводзін з іх, нават толькі ў думках, гэтага руху не зрабіў. Хвіліны блізкасці змяніла хвіліна адчужэння — яны сталі, як былі і да гэтага, чужымі, і марна спрабаваць штосьці змяніць, штосьці зрушыць ці перайначыць: Чэсь падымецца і пойдзе дамоў, да жонкі і сына, Міхаліна застанецца і да ночы будзе змагацца з пакінутай ім тут тугой — праветрываць, учыніўшы скразняк, пакоі, мяняць прасціны, адганяць згадкі і няпрошаныя слёзы, псаваць дарагую афсетную паперу, малюючы ўсё ёю нявыказанае, не сказанае ні сёння, ні раней... З чакання цуду — цуду не злепіш, але ж ляпілі людзі, імкнуліся вылепіць, пакуль сілу ў сабе чулі. І яна, Міхаліна, ляпіла, бо як жа раней часу, раней смерці адчайвацца?

— У цябе былі цыгарэты...

— На паліцы. Там, дзе шкатулка.

Рыўком саскочыў Чэсь з канапы, пацягнуўся да апараткі, потым, азірнуўшыся на яе цераз плячо, перш чым накінуць што на сябе, распрастаў коўдру і ўкрыў Міхаліну. Неяк сумна падміргнуўшы. Калі ж яна зрабіла рух насустрач, звёў свае шырокія бровы («Ты ляжы, ляжы. Я ўсё сам».) і адышоўся. Міхаліна заплюшчыла вочы.

Чула, як шарахціць адзежа, як пабразгвае спражка рэменя, як парыпваюць, уладкоўваючыся на нагах зручней, туфлі. Чула крокі Чэсевы, крышачку нервовыя рухі яго, калі ён камячыў цыгарэту і доўга чыркаў запалкаю, і не паварочвалася: усе яе сілы ішлі на тое, каб не заплакаць, не завыць па-бабінаму горка і безнадзейна.

— Я звару каву.

Яна хацела адказаць, што ў доме няма кавы, і змаўчала. Змусіла сябе падняцца і накінуць халат. Змусіла сябе адвярнуцца ад разбэрсанай, скамечанай пасцелі і пашукаць вачыма шарсцяны плед, які служыў пасцілкаю. Знайшла. Накінула паверх коўдры. Адкінула за спіну распатланыя валасы, падумала, што трэба б прычасацца, і адмахнулася: потым! у яе яшчэ цэлы вечар наперадзе!

Уздрыгнула, адчуўшы на плячах Чэсевы рукі, а Чэсь ужо туліў яе да сябе, паварочваючы тварам:

— Не пазнаю, упершыню не пазнаю гаспадыню ўсіх

паветраных замкаў на гэтай зямлі і любой... Столькі святла на палотнах і столькі смутку ў вачах! Вышэй галаву, Ліна. Не ўсё наша намі прайграна.

— Ты думаеш? — зглынула цэлы камяк слёз Міхаліна, намагаючыся ўсміхнуцца, і калі ўсмешка ўсё-ткі кранула моцна сцятыя яе вусны, адразу адчула палёгку.— Шкада, кавы ў доме не засталося, запіць гэты вечар няма чым...

— Яшчэ не вечар. Можна ж і так на ўсё зірнуць, а?

Ён адпусціў яе, так і не пацалаваўшы, і залішне мітусліва пачаў заканчваць свой туалет: зашпільваў кашулю, прыгладжваў валасы — спярша далонямі, потым, быццам згадаўшы пра грабянец у кішэні, грабянцом. Правалэндаўшыся з гадзіннікавым браслетам, таропка агледзеў стол і крэсла (ці не забыў што?), неяк спадылба зіркнуў на Міхаліну і, тут жа раптам супакоіўшыся (слёз не будзе!), з усмешкаю кіўнуў. Ужо ад парога, павярнуўшыся і на міг прыхінуўшыся да шула, нягучна спытаў:

— Як думаеш, чаго мне не хапіла ў апошняй рабоце, у «Паўдзённай цішыні»?

— Усім нам не хапае веры, любчык. Веры ў звычайны, просты цуд.

Чэсь недаверліва зіркнуў на яе і прыўзняў руку, развітваючыся.

## 6

Цуд ужо ў тым, што яна жыве, што яна дыхае свабодна і нязмушана, што можа ажывіць любую згадку, напісаць партрэт любой мары. І не варта чапляцца за дні, якія адыходзяць, знікаюць у начным змроку пад сумныя акорды паланеза Агінскага і сапсаваных водаправодных кранаў. Паланез будзе гучаць, пакуль хоць адна чалавечая душа смуткуе па страчаным, краны будуць псавацца і свістаць, пакуль хоць у каго-небудзь аднаго будзе патрэба ў глытку вады. І хоць гэта гучала крыху па-святатацку, Міхаліна думала, што і ў адным і ў другім таіўся аднолькавы сэнс: жыццё душы і плоці — адно...

Думкі не прыносілі супакаення. У пакоі, нягледзячы на тое, што яна паадчыняла ўсе вокны, было душна, і Міхаліна не знаходзіла сабе месца. Босая, у незашпіленым, ледзьве захінутым халаце, з так і не расчасанымі, не сабранымі валасамі, соўгалася з кута ў кут, кідалася ад адной

згадкі да другой, старанна адварочваючы галаву ад зашклёнай кніжнай паліцы — ад цёмнага і таму страшнага адбітку Пакінутай... «Ну, вось і імя!» — усміхнулася. Усміхнулася нечакана, і ўсё ж, як заўсёды, калі знаходзіла ў сабе сілу ўсміхнуцца, адчула палёгку, утрымала сябе ад наступнага шалёнага рыўка да адчыненага ў ноч акна. Спынілася, застыла перад кніжнаю паліцаю, перабіраючы паглядам кнігі, іх назвы. «Трошкі сонца ў халоднай вадзе», «Бар'ер», «Тры дарогі да возера», «Касандра», «Мёртвыя сыны»... Колькі трагічна пражытых лёсаў, колькі спустошаных сэрцаў, а ўсё доўжыцца дарога, дарога ў адзін канец, і ўсе яны ў гэтай дарозе, хочуць таго ці не хочуць, спадарожнікі...

— Ты паўтараеш мае словы.

— Словы — яны толькі словы,— не здзівілася Міхаліна з'яўленню голасу і яго суровай гаспадыні, быццам чакала гэтага з'яўлення.— І яны належаць мне гэтак жа, як табе і любому. Не ў іх, не ў словах, разгадка вечнай таямніцы жыцця.

— О-о, ужо цікава! — з'едліва азвалася госця.— Можа, ты растлумачыш, навошта табе далася гэта таямніца? Свет хочаш ашчасліўць ці самой дужа зарупіла?

— Сядзем? — прыжмурыла вочы на яе Міхаліна, рашуча намерыўшыся высветліць, як глыбока можна зазірнуць сабе ў душу, калі ўжо гэта бездань адкрываецца пагляду.— Прашу!

— Мне зручней быць там, дзе я сама выбіраю. Так што не зважай на тое, сяджу я ці стаю. Нават калі я знікну з вачэй, я — побач.

— А-а-а! — прасачыла яе з'едлівую інтанацыю Міхаліна.— Я ж , з твайго дазволу, сяду. Пагаварыць ахвота. А ты ўжо будзь ласкавая, паслухай. Раптам падкажаш што.

— Ты не адказала на маё пытанне.

— Чаму мяне мучыць загадка чалавечага жыцця? Дык дзіўна было б, калі б яна мяне не мучыла. Дваццаць шэсць разоў, калі верыць Бібліі, наноў пачыналася стварэнне свету, і ўсе спробы былі няўдалыя: свет узнік урэшце з тых абломкаў, якія заставаліся пасля кожнай няўдачы, і таму занадта крохкі і ў любы час можа зноўператварыцца ў нішто...

— А ты што можаш змяніць? Мо думаеш, што магчыма яшчэ адно, новае стварэнне свету і млын, на якім смерць перамолвае вашы душы, спыніцца?

— Я думаю, што дарога, хай сабе і дарога ў адзін ка-

нец, павінна выводзіць нас з невыноснай бязмэтнасці адзіноцтва, набліжаць да разумення сэнсу існасці, вечнасці, інакш... Калі жыццё, усё як ёсць, ідзе на барацьбу з абсурднымі, бяссэнснымі перашкодамі, з тупасцю, з невуцтвам і пыхаю, яно само становіцца пакутаю і губляе ўсякі сэнс. А як згубіць яно сэнс, дык і кошту ў ім ніякага. Ні для мяне, ні для ўсіх.

— Ты разважаеш пра жыццё? Ты, у кім было закладзена новае жыццё, будучае, і ты забіла яго?

— За-біла?! — здрыганулася яна, працятая згадкаю пра каменную шчыліну тунеля і кроў, што капала ў яе з рук і ўспухала на камені пульхірамі.— Але ж на забойства пайшла не я — іншая! Я нават імя той жанчыны не ведаю. Зоя? Ці мо Зося...

— Ты т а к с а м а забіла.

— Калі ты маеш на ўвазе...

— Гэта было даўно. Помніцца, вы былі студэнтамі — ты і Жорж. Так?

Міхаліна, захлынуўшыся раптоўнаю нянавісцю да гэтай чортавай праведніцы, што пасялілася ў яе кватэры, здэцца, ужо назаўсёды, не адказала. Адвярнулася. Зачапілася паглядам за свой «Снежны эцюд», напісаны... Ну, канечне, тады, на трэцім курсе, напісаны! І што? Што з таго?

— Вы былі маладымі і кахалі адно аднаго. І ты абавязана была...

— О, госпадзі! Абавязана, не абавязана... Мне трэба было скончыць інстытут. Усе — нават Жорж — прызнавалі, што ў мяне талент, што ў мяне свой, адметны, шлях у мастацтве. І адмовіцца ад усяго, ахвяраваць усім адно дзеля таго, каб нарадзіць байструка?

— Дзіця, Міхаліна. Ваша дзіця.

— Спадзяюся, ты не станеш мяне пераконваць, што Жорж хацеў, каб я нарадзіла. Ён спалохаўся. Ён нават не дапамог знайсці ўрача. Ён... Жорж ніколі не хацеў, не збіраўся жаніцца, і ты, калі ты такая разумніца, павінна б ведаць і гэта.

Дагаворвала ледзь чутна. З цяжкасцю стрымаўшы слёзы, што ўжо закіпалі на вачах: з вышыні сённяшняга ўзросту ўсё бачылася і так, і не так, і яна, Міхаліна, далёка не ўпэўнена, ці павяла б сябе гэтак, як тады, у маладосці, ведаючы, што потым, пасля аборта, ужо ніколі не зможа нарадзіць дзіця. У маладосці ўсё — і шчаслівае і горкае — бачылася ў іншым святле, і не варта азірацца на тыя гады, на тыя памылкі. Урэшце, яна заплаціла за іх спаўна. Ка-

ханнем. Магчымым шчасцем. Сённяшнім сваім адзіноцтвам.

— Чакаеш, што пашкадую? — азвалася зноў госця.— Не, любчык, шкадуюць убогіх, бяссілых, хворых... Ты ж маеш тое, што хацела. Што некалі выбрала. Магла ж... Магла ўратаваць каханне і не забіць дзіця сваё!

— А ты хто такая, каб мяне асуджаць? — хаваючыся, выцірала вочы Міхаліна.— Ты адкуль на маю галаву ўзялася?

— Хіба ты не прызнала ва мне сябе? Мне думалася: з гэтым у нас з табою ўсё ясна.

— Ах, да-а! Душа... Сумленне... Ці мо віна?

Міхаліна ўжо не выцірала слёз. Мо папросту не заўважала іх, намагаючыся вярнуць гаворцы ранейшую, першапачатковую іранічнасць: прыняць усё за чыстую манету і прызнаць, што перад ёю, у крэсле насупраць, матэрыялізаваная душа яе, матэрыялізаванае яе сумленне,— гэта прызнаць, што яна, Міхаліна, захворвае.

— Помніцца, вы былі студэнтамі — ты і Жорж. Так?

— Чаго ты прычапілася? Чаго ты хочаш? — ускіпела яна, падхапіўшыся з крэсла.— Дваццаць год, дваццаць два гады мінула з таго часу, і яны, гэтыя гады, былі нялёгкімі, чорт вазьмі! Барацьба, барацьба, барацьба... Магу я адпачыць хоць зараз — тут, у сваім доме? Ўратаваць... Ці мала я каго ратавала! Мне — мне жыццё другога шанцу не дало, і ўжо не дасць. Усё! Finita! І няма чаго прыкідвацца поўнай сілы і спадзяванняў! Урэшце, я пражыла ўсе гэтыя гады ў рабоце, напісала дзесяткі палотнаў — і мяне няма ў чым за іх папракнуць. Дзесяткі палотнаў, дзесяткі выставак, пэўнае прызнанне заслуг... Тым і шчаслівая! Чуеш? Што было — прамінула. Прамінула! І няма чаго попел варушыць, без таго не прадыхнуць... Ведама ж, субяседніца знайшлася!

Словы, усхліпы, злосныя калючыя слёзы перамешваліся з горыччу, на якой, здавалася, было настоена начное паветра, і Міхаліна, адчуваючы, што сілы пакідаюць яе, марна намагалася ўзяць сябе ў рукі, супакоіцца. Нават калі скончыліся словы, працягвала ўсхліпваць і азірацца, шукаючы вачыма сваю крыўдзіцельку,— ведала, што няма ўжо той у пакоі, і азіралася, нервова пацепвала плячыма.

«Што называецца, пагаманілі!» — адвярнулася, нарэшце, да акна, ля якога стаяла, і прыхінулася лбом да халоднай шыбкі, стомлена прыкрыла вочы: адзіноцтва нечакана абярнулася дзіўнай суполкай з памяццю, якую любы псі-

хіятр расцаніў бы ў адпаведнасці з агульнапрынятымі меркамі... Не, па ўсім было відаць, што тут штосьці зусім іншае: вось жа, і размаўляючы з госцей, Міхаліна ў любы момант лёгка магла адасобіцца і ўбачыць яе і сябе як бы збоку, на пэўнай адлегласці. Ды і ў тым, што госця прыходзіла не ў дом яе, а ў думкі яе, не падманвалася — разумела, што справа не ў спрэчках, якія яна вяла з ёю, ці сама з сабою. Калі зірнуць больш цвяроза, справа ў нечым іншым. У чым? Чаму яна пачала перабіраць пражытыя гады? Што ёй праглася аспрэчыць?

## 7

У Жаны Віктараўны было гэты раз тлумна: салон, як яна і жартам і ўсур'ёз называла сваю гасцінную па пятніцах, ледзьве ўмясціў усіх запрошаных — сядзелі нават на выгнутых спінках канапы. Міхаліна, якая прыпазнілася, затрымаўшыся ў выставачным павільёне, дзе ішла папярэдняя прыкідка экспазіцыі, не адразу і зарыентавалася. Сустрэтая гаспадыняю ў дзвярах («Што ж вы, Ліначка! Паловы цікавейшых слайдаў, прывезеных Іванам Сцяпанавічам з Японіі, не ўбачыце...») і літаральна за руку ўцягнутая ў цёмны пакой, які пад перашчоўкі дыяпраектара асвятляўся толькі мігатлівым святлом спраецыраваных на сцяну каляровых слайдаў, не бачыла, куды прыткнуцца, каб нікому не перашкодзіць. Але з крэсла, што стаяла непадалёку ад дзвярэй, ужо хтосьці падняўся, і Жана Віктараўна падштурхвала яе («Смялей, Ліначка!»). Прайшла. Села. Косячы вокам, агледзелася. Пазіраць, пэўна, трэба было на сцяну, на вялікі ліст паперы, які замяняў экран, але пасля бурных спрэчак за месца ў экспазіцыі і перадвыставачнай мітусні гэтага дня вось так адразу, з парога, як кажуць, пераключыцца на прагляд карцінак з жыцця далёкай чужой Японіі яна не магла.

З таго, што здолела разгледзець у пакоі, нічога не зацікавіла: ні з кім яна не сустракалася раней, па меншай меры, не прыгадвала, каб сустракалася. Гэты Іван Сцяпанавіч са слайдамі (ён, як аказалася, коратка расказваў, дзе што здымаў, і голас яго гучаў непрыемна, завучана холадна, таму Міхаліна адразу перастала ўслухоўвацца) — хтосьці з міністэрскіх клеркаў даволі высокага рангу, гэта было няцяжка вызначыць. Суседка па левую руку выглядала задужа скаванай: шчытна ссунутыя каленкі смешна

ўздрыгвалі зрэдку, пэўна, не вытрымліваючы напружання нязручна, але прыгожа адстаўленых ног, шыя, відаць, здранцвела, прытрымліваючы высока ўскінутую галоўку, прыбраную ў кудзеркі («Актрысуля, няйначай, з невядомых...»). Крокі за тры, калі водсветы імправізаванага экрана ярчэлі, выразна выступаў з паўзмроку птушыны профіль (глюгаваты нос казаў сам за сябе) кагосьці цікаўнага, залішне самаўпэўненага і лысаватага, чыя энергія, сабраная ў няспынных узлётах, скачках, рухах неспакойных караткапальцых рук, магла ў любы момант выплеснуцца на прысутных («Як вы мяркуеце? А ці чулі вы?.. Мяне цікавіць ваша думка! — ці нешта накшталт гэтага...»). Наперадзе Міхаліна бачыла толькі акуратна, валасок да валаска прычасаныя пасмы і цяжкія, апушчаныя пад цяжарам гадоў плечы — сядзелі яўна не маладыя жанчыны, хутчэй за ўсё далёкія ад мастацтва («Жана Віктараўна па-ранейшаму прэтэндуе на ролю высокаінтэлектуальнай павівальнай бабкі папулярнасці славутых сёння ці ў самым блізкім будучым людзей!»). Той, хто саступіў ёй крэсла, выйшаў прынесці табурэтку і ў пакой не вярнуўся — мо таму, што амаль адразу за ім вышмыгнула за дзверы і Жана Віктараўна («Колькі ёй? Пяцьдзесят тры?»)...

— Сыходзячы з таго, што ўдалося прачытаць, ды і па ўласных назіраннях, у японцаў — культ прыроды. Яны любяць гаварыць пра сумотнае і чароўнае хараство рэчаў.

— І чым вы гэта тлумачыце? — нечакана, нават для самой сябе, парушыла Міхаліна заведзены гаспадыняю дома парадак, змусіўшы расказчыка перастройвацца — перапыніць свой манатонны, больш падобны на сухі каментарый маналог, пашукаць адказ на прагучалае пытанне.

Узнікла невялікая паўза. Зарыпела чыёсьці крэсла.

— Бачыце...— затаптаўся, не ведаючы, уключаць святло ці пачакаць гаспадыню, Іван Сцяпанавіч.— Выхаванне такой старажытнай культураю, як японская, не магло не даць вынікаў.

Міхаліна, якая ўпершыню ўглядалася ў экран, у здымак, на якім палымнеў куточак базару з каляровымі ліхтарыкамі самых фантастычных формаў і расфарбовак, усміхнулася:

— Мая думка не вельмі каб стасавалася са слайдам, але мне здаецца, што культ прыроды, як вы кажаце, хутчэй за ўсё звязаны з будыйскім вучэннем аб крохкасці зям-

нога быцця — крохкасці, якая змушае іх мацней адчуваць хараство таго, што вось-вось павінна знікнуць.

— Магчыма, магчыма,— не проста холадна, ледзяным тонам перапыніў той гаворку.

А ў дзвярах ужо стаяла Жана Віктараўна — і вось ярка ўспыхнула люстра, зарухаліся крэслы, зашарахцелі воплескі.

— Далучаюся, з прыемнасцю далучаюся да ўсіх, дарагі Іван Сцяпанавіч,— тэатральна звяла некалькі раз далоні Жана Віктараўна, рушыўшы ў яго бок.— Дзякуй. Мы ўсе нібыта пабывалі на далёкіх астравах разам з вамі. Фотамастак! Чараўнік!

— Вельмі цікава.

— Загадкавая ўсё-ткі краіна!

Гаспадыню падтрымалі дзве не маладыя жанчыны, якія, перасунуўшы свае крэслы бліжэй да сцяны, да кніжнай шафы пры сцяне, бітма набітай рэдкімі дарагімі выданнямі кніг і мастацкіх альбомаў, і павярнуўшыся, аказаліся нікольні не старэйшымі за яе, Міхаліну, і Міхаліну гэта чамусьці непрыемна ўразіла. Не адразу яна заўважыла, што непрыстойна доўга разглядае іх, у той час як усе цішком узіраюцца ў яе: хто такая? у якіх адносінах з Жанай Віктараўнай? як часта бывае тут, у салоне? Павярнулася толькі на голас Івана Сцяпанавіча.

— Тут прагучала думка аб крохкасці зямнога быцця. Міхаліна Міхайлаўна...

— Гэтай думцы ўжо не адно тысячагоддзе,— не прамінула яна перапыніць героя сённяшняга вечара, чый дагледжаны твар безумоўна бачыла раней у адным з калідораў міністэрства: задужа задаволеным сабою і ласкаю гаспадыні, якая, дэманструючы ўдзячнасць, злёгку абняла яго за плечы, ён выглядаў! — Мая заслуга адно ў тым, што я, здараецца, азіраюся назад.

— У глыбіню тысячагоддзяў?

— Якая ўжо сама па сабе азначае, што не такое яно крохкае, зямное наша быццё? — з усмешкаю далучыўся да гаворкі «птушыны профіль».— Ніводнае вучэнне не можа высветліць да канца, што такое чалавек. А вы... Вы берацеся?

— Я, калі Жана Віктараўна дазволіць...

— Што вы, Ліначка! Вы нас усіх заінтрыгавалі,— няспешна, падтрымліваючы край сваёй даўгой спадніцы, рушыла гаспадыня да яе.

— Я раскажу нядаўні выпадак, які не трапіў у газе-

ты, таму што задужа адкрыта сведчыць супраць чалавека. Супраць жанчыны,— страціўшы цікавасць да гасцей Жаны Віктараўны, вярнулася да сваіх думак Міхаліна.— Жанчына, настаўніца, выкладчыца гісторыі, у якой сям'я — муж і дачка, сустракаецца з некім трэцім, у каго таксама сям'я — жонка і сын. Сустракаецца не так часта, як ёй прагнецца. Усё радзей. І яна пачынае выношваць, спакойна выбудоўвае ў душы план злачынства. Ідзе па забойства.

— Божа мой! — уздыхае, тут жа заціснуўшы рот карункаваю насоўкаю, актрыса.

— Не проста на забойства. На забойства жорсткае і нічым не апраўданае,— адчуўшы, як папаўзлі па спіне мурашы, усё ж прадоўжыла Міхаліна.— Угаварыла свайго вучня дапамагчы ёй і, прыйшоўшы з ім да жонкі свайго каханка ў час яго камандзіроўкі, на вачах двухгадовага малога прырэзвае жанчыну, потым, каб задушыць крык, жах дзіцяці, прыціскае яго падушкай да падлогі...

— Божа! — пачулася цяпер з усіх бакоў.

— Гэткія жахі вы нам расказваеце, Ліначка!

— Мы спадзяёмся, што гэта жанчына — не вы,— ухмыльнуўся, ці то жадаючы перавесці ўсё ў жарт, ці то адкрыта пасміхаючыся з расказчыцы, той, з глюгаватым носам, і не адразу заглынуў, сцёр з твару ўхмылку, калі ўбачыў, як збялела на яго словы Міхаліна.

— Жорж! Што за манеры? — з дакорам кінула яму Жана Віктараўна, пацягнуўшыся рукою да Міхалінінага пляча.— Не зважайце, Ліначка. Жорж, здараецца, жартуе даволі грубавата.

Імя балюча хліснула Міхаліну — боль, расцякаючыся, падступаючы да сэрца, ацвеŋразіў. Яна не ўсміхнулася — не магла, але кроў зноў прыхлынула да шчок, і голас, калі яна павярнулася да Жаны Віктараўны, быў спакойны:

— Будзем спадзявацца, што малады чалавек некалі вырасце ў чалавека міласэрнага.

Усе вакол з палёгкаю заўсміхаліся. Пачуліся нават смяшкі: Жорж быў і па самых сціплых мерках задужа каратканогім і, калі стаяў, нагадваў пераапранутага ў звычайную адзежу скамароха з вялікаю, памерам з добрае чэрава, галавою, упрыгожанаю адметным, прыкметным нават на такой буйной галаве носам. І вось ужо смяшкі перараслі ў смех, вось ужо брынькала ў некага ў руках гітара. Штосьці невыразнае буркнуў Жорж. Разам загаманілі ў адказ астатнія.

Салон жыў сваім жыццём. А Жана Віктараўна ўжо вяла Міхаліну да дзвярэй, і, ні на каго не азірнуўшыся, нікому не кіўнуўшы, Міхаліна ішла за ёю, незадаволеная і сабою і сваім прыходам сюды: заракалася ж, даўно шукала іншую форму адносін з Жанай Віктараўнай, і вось зноў яна...

— Ты выглядаеш стомленаю. Не зважай на гэтага дурня з дыпломам журналіста — ён і ўсяго трэці раз тут. Трэці — і апошні.

— Ну, што вы, любчык! Колькі падобных лысаватых хлопчыкаў даводзілася ставіць на сваё месца... Бог з імі,— адмахнулася Міхаліна.— Я забегла пашаптацца з вамі пра сваё, ды гэта мітусня, тузаніна на працягу цэлага дня так прытамілі, што...

— Мы сазвонімся?

— Прабачце, калі што... Я нават пра свой падарунак не згадала. Вось ён. Паглядзіце. Пагартаеце потым. А я пабегла, добра?

Перадаўшы пакунак, цмокнула гаспадыню ў шчаку і мякка выслабанілася з яе абдымку.

— Я пазваню.

— Прыміце мае прабачэнні, Міхаліна Міхайлаўна.

Азірнуліся абедзве разам: за некалькі крокаў ад іх, прыхінуўшыся спіною да люстэрка, што вісела побач з вешаком, усміхаўся на ўсе зубы каратканогі Жорж.

## 8

Час вытлумачыць нельга. Нярэдка здаецца, што яго, часу, зусім няма і чалавек марна з веку ў век робіць адзнакі-засечкі на кожным крузе Зямлі вакол сваёй восі ці вакол Сонца,— засечкі застаюцца ў календарах, у чалавеку ж толькі жыццядайныя, жыццятворныя сілы маюць больш-менш акрэсленыя межавыя падзелы — калі нараджаюцца эратычныя жаданні і калі яны паміраюць. Уступленне ў сталасць — і старасць. Пазнанне свету — да гэтай мяжы, развагі, пошукі сэнсу жыцця — за...

Міхаліна разумела, што ўсё крыху спрошчвае, і тым не менш зноў і зноў вярталася да гэтай думкі. Што азначалі, што маглі азначаць гады самі па сабе?

Вось яна, дзевяцігадовая, бяжыць — дагэтуль бяжыць — насустрач лету, насустрач летняму дажджу — і травы, высокія, у яе рост, неахвотна расступаюцца, спля-

таюцца, блытаюцца ў нагах, быццам утрымліваюць яе, быццам не хочуць адкрываць ёй якуюсь таямніцу. Таямніцу, якая і не таямніца ўжо даўно, а вось жа зноў абмірае сэрца ў прадчуванні яе. І зноў — які ўжо раз — доўга, цэлую вечнасць падае яна ў хіснутую, расцягнутую паглядам у зялёнае бязмежжа хвалю мятліку, зноў нагайдаўшыся, схмялеўшы ад зямнога водару, падымаецца, каб знерухомець, урасці — спярша ў здзіўленне, потым у страх: белая глыба — аграмадная бетонная галава ляжыць, падкамячыўшы травы, проста перад ёю, за два-тры крокі ад яе. Не тырчыць, а менавіта ляжыць шчакою да зямлі. І адно гэта ўтрымлівае Міхаліну ад таго, каб тут жа, ледзь адпусціць здранцвенне, не кінуцца наўцёк: у казцы галава асілка тырчэла з зямлі і вырыгвала полымя!

Белая галава — не з казкі. Калі Міхаліна асвойваецца, абыходзіць галаву з усіх бакоў і, прысеўшы на кукішкі, зазірае ў там-сям запэцканы сокам раздушанай травы твар, то пазнае яе: у скверы, там, дзе сквер выходзіць да шашы, стаіць пастамент, а на ім...

«Спачатку ЁН памёр, а потым яго забілі!» — нечакана абпякае яе здагадка, і Міхаліна нават адступае, адсоўваецца крыху далей, быццам гэта ад мёртвай, кінутай тут, далёка ад гарадка, галавы патыхнула жарам. Але цікавасць перамагае. Праз міг-другі Міхаліна ўжо асцярожна кранаецца нахаладалага занач каменю пальцамі і ўголас папікае невядома каго: «Эх, ты!»

І нібы ў адказ на яе папрок, пырснулі першыя кроплі дажджу. Яна адбягае ўбок, падстаўляе пад цяжкія кроплі складзеныя чоўнікам далоні, забыўшыся на знойдзеную ў траве галаву, усміхаецца:

— Дожджык, дожджык, сыпані! Я памчуся на кані за табой па полі ў сіняе раздолле!

І вось яна ўжо, вышэй задраўшы суконку, што ёсць духу імчыцца ў бок пасёлка і калі азіраецца, то праз зараснік мятліку і струменяў дажджу нічога не разгледзець: ні пагорка, ні аграмаднай белай галавы, якая прыткнулася да яго шчакою...

Што маглі азначаць гады самі па сабе? Іх нават спіхнуць у бездань мінулага немагчыма, пакуль трымае, носіць Міхаліна іх у памяці сваёй, у душы сваёй. А не ўтрымае — сама за імі пакоціцца, скоціцца ўніз, у чарнату, з якой няма звароту. У чарнату! А скрозь жа, як ні азірнецца яна, палае неба, калыхаюцца срэбныя струмені дажджу, сінеюць у жыце валошкі, успыхваюць і гаснуць

уздоўж гасцінцаў дрогкія агеньчыкі маку-відуку, уздымаюць хвасты пылу ці іскрацца снегам шляхі. Свет не проста навокал — ён ззяе, адгароджваецца ад вокнаў дажджом ці завеяю, зарастае дамамі, мятлікам, лесам, дыхае, жыве ў ёй, Міхаліне, нават у сне, і час не мае да гэтага ніякіх адносін. Любы дзень можа яна аднавіць у памяці, вярнуўшы не толькі фарбы і гукі яго, але і свае пачуцці, перажываючы іх кожны раз наноў.

— Дожджык, дожджык, сыпані!...— шэпча Міхаліна, не ўсведамляючы ні слоў, ні нават гучання іх, а за цёмнаю шыбінаю акна, у якое яна ўзіралася, відочна шырэе, выцягваецца квадрат двара, ніжэюць, сплюшчваюцца дзевяціпавярховікі — і вось ужо не двор ляжыць перад ёю, а вуліца, нешырокая пухавіцкая вуліца, што адным канцом упіраецца ў цэнтральную, Савецкую, а другім, супрацьлеглым, віхлянуўшы перад балацінкаю, выходзіць на выган, цераз які, калі ўзяць напрасткі, зусім недалёка да Свіслачы.

Тут, каля самага выгану, жыве бабуля, а часта — тады, калі змрачнела, замыкалася ў сабе, у незразумелай сваёй злосці мама, жыве і яна, Міхаліна. Прыбягае сюды і застаецца ў бабулі, бо аднойчы, так даўно, што толькі страх яе памятае тое, калі б не надарылася зазірнуць да іх на дзіцячы крык суседцы, цётцы Антолі, то потым, па словах бабулі, ёй, чатырохгадовай, і ўрач нічым не дапамог бы: не помніла ў тую хвіліну сябе мама... Мо гэта хвароба такая, мо яшчэ што. Ніколі больш не ўдарыла Міхаліну маці: калі раптам змрачнела, тут жа адсылала дзяўчынку да бабулі — і ніводнага разу не насмелілася Міхаліна раптам не паслухаць. Ніводнага...

І сёння яна не збіралася дамоў: звычайна ж маці па яе прыходзіла сама, праз колькі тых дзён ці, у крайнім выпадку, праз тыдзень. Прыходзіла зажураная, вінаватая — і яны, пабраўшыся за рукі, ішлі вуліцаю разам, і адно па тым, як уздрыгвала зрэдку матчына рука, здагадвалася Міхаліна, што цяжка пражыла мама адна гэты тыдзень. І гарнулася, лашчылася да яе — і адтайвалі, цяплелі матчыны вочы.

Сёння ж... Сёння ўвечары, калі ўжо добра сцёмнілася, да бабулі прыйшла Антоля. Здэцца б, прыйшла і прыйшла. Яна, Міхаліна, задачкі рашала. Адна задачка не паддавалася — заела, што называецца, і Міхаліна не зважала ні на госцю, ні на яе ціхія роспавяды. Пыхцела, крэмзала лісток за лістком. Стала адным вухам прыслухоўвацца да

гаворкі толькі тады, калі памылка ўрэшце знайшлася і заставалася проста перапісаць усё начыста, у спытак...

— Пецька, смаркач мой, вычытаў —і мне чытаў, што Сталін, свят, свят, свят, зладзеем быў і людзей сваіх скрозь не шкадаваў, а хто ж тады немец? Што ж тады — гэта вайна праклятая, якая дасюль так страшна адрыгаецца? Га, Каця?

Міхаліне смешна, што да бабулі звяртаюцца з гэтым «Каця», але яна нават не ўсміхаецца сама сабе — іншае зачапіла свядомасць, іншае змусіла насцярожыцца.

— Пралітая кроў не адно зямельку поіць, а і душу таго, хто праліў яе,— уздыхнула бабуля.— Па сыну плачу, Антоля: выйшаў ён з пекла вайны, зраненым, хворым выйшаў, а і жыць не змог. Мо смерць дагнала, а мо і сам яе пагукаў... Соню ягоную ніводная куля ў вайну не зачапіла, а і яна не жылец на гэтым свеце. Не жылец, Антоля, папомніш мае словы.

— А бо! Няўжо не абыдзецца? Няўжо не зарасце?

— Мо каб Міхаська жыў ды дзетак пяцёра гадавалася...

— Дак жа! Сядзіць з пустымі вачмі, гадзінамі не зварухнецца, а, пэўне ж, у душы ўсё на друзкі ператрушчана.

— Сказана: не забі, бо тым самым чалавека ў сабе забіваеш... Хоць і вайна, хоць і на здзек яна і нам і зямельцы, а жанчыне адвеку сваё месца вызначана. Накармі, абмый, раны перавяжы, аблашчы, як жар у грудзях чуеш... Прыйдзе смерць — памры, дзетак сваіх сабою захінуўшы, а душу сваю не гняві, чужую кроў праліўшы: не на руках, а ў душы яна чарнець, гнойным струпам расці пачне. Хто тут паможа?

— Мо папа́ пашукаць дзе, га, Каця? Хай бы пагугніў што над Соняю,— трэсла галавою, бы сама не верыла ў тое, што казала Антоля.— Мо палягчэла б ёй.

— Няма па зямлі, суседачка, гэткага лекара, які памяць з чалавека, няйначай стрэмку атрутную, вырве. А і быў бы, дык і без памяці — няма чалавека. Вось і глядзі, што лепей! А Соня... Дагэтуль ваюе Соня, дагэтуль страляе... Толькі цяперака ў сябе...

— Ба, я Стасі падручнік занясу,— не вытрымлівае Міхаліна і зрываецца з месца.— Я скора!

Ужо зачыняючы дзверы, заўважае, як насцярожана зіркае ўслед ёй бабуля, і не запыняецца: горача ў хаце стала, дыхнуць свежым паветрам муляла.

Вецер павеяў у твар волкасцю і халадком, і ў першыя імгненні Міхаліна, п'ючы гэты халадок, нічога не бачыла і не чула: нізкае, ледзьве не ўпоравень са стрэхамі хат неба не асветлена ніводнаю зоркаю, вішняк, якім адгарадзіўся двор ад вуліцы, пагойдваецца і, здаецца, перасыпае лісце з галіны на галіну, але бясшумна, бязгучна. Нават расхістаная, рыпучая прыступка, другая знізу, не абзываецца пад нагою, калі Міхаліна спускаецца з ганка. Цьмяны кастрычніцкі вечар. Даволі позні час.

Калі б запытаўся раптам хто ў яе, куды яна ідзе, моўчкі перасмыкнула б плячыма, а сама вуліцаю, сцежкаю — бліжэй да платоў, ішла дамоў. Усвядоміўшы гэта, хацела павярнуць назад (мама сама па яе прыходзіла), але толькі ўпарта насупіла бровы: зазірне ў акно, паглядзіць, што мама адна ў доме робіць...

Двор набліжаўся. Міхаліна міжволі запавольвала крокі, але двор усё набліжаўся. Свяцілася ў глыбіні двара кухоннае акно. Нерухома ляжала пад ім, на пыльным пырніку, дарожка святла. Бліжэй. Бліжэй. Пад гулкія ўдары сэрца. Пад уздыхі і стогны ветру за плячыма.

Калі пагляд упёрся ў асветленае акно, маму яна ўбачыла адразу: сядзела ля стала, цяжка наваліўшыся на яго край, і пазірала сюды, у чарнату вечара, на яе, Міхаліну. Міхаліна нават адхіснулася спачатку, працятая раптоўным страхам, потым жа, зразумеўшы, што дарэмна злякалася, што мама не ў акно пазірала, а... А куды яна пазірала? Міхаліна азірнулася на цёмныя абрысы яблынь, зрабіла крок да акна, прыхінулася да яго, да халоднай шыбкі: перад мамаю (вочы пустыя-пустыя — страшныя!) стаіць недапітая пляшка гарэлкі, валяецца перакуленая бляшаная конаўка — ні следу закускі, ні крышынкі хлеба побач...

Хвіліна мінула, другая... Міхаліна як прыстыла носам да халоднага шкла — не магла адарваць пагляду ад спалатнелага матчынага твару, чуючы, як разрываецца яе сэрца ад любові і жалю. Мо нават разарвалася б, але мама раптам здрыганулася, ускінула галаў — і ў вачах яе бліснулі жорсткія агеньчыкі, твар перакасіла жахлівая, поўная страху і жуды ўсмешка, пальцы рук сашчапіліся і тут жа ўзляцелі, учапіліся ў распатланыя валасы, тут жа, тузануўшыся, памкнуліся следам за калючым, жорсткім зараз паглядам яе да конаўкі. Калі яна выліла рэшту гарэлкі ў падстаўленую конаўку і падняла вочы на Міхаліну, Міхаліна, не пазнаўшы яе, злякаўшыся гэтага чужога,

нібы і не чалавечага ўжо ў яе на твары, адхіснулася, кінулася прэч.

Прэч... Ужо ж, тут не трэба нічога вытлумачваць, але чаму, чаму яна, кінуўшыся прэч, уцёкшы, зноў і зноў вяртаецца ў той вечар, да асветленага акна, да свайго страху? Час нічога не аддаліў — хутчэй наадварот: усё больш пільна ўзіраецца Міхаліна ў матчын твар там, за акном, за гадамі, якія прамінулі пасля матчынай смерці, то пазнаючы, то не пазнаючы ў ёй сябе.

9

— Чэсь? Добры дзень!

Пасля невялічкай паўзы ў трубцы запікала. Міхаліна нягучна памянула чорта і зноў набрала нумар. Чакала, некалькі бясконцых імгненняў чакала, пакуль да тэлефона падыдуць, і, пачуўшы незнаёмы жаночы голас, змусіла сябе адказаць як мага спакайней і папрасіла пагукаць Вячаслава Захаравіча.

— Няма? Прабачце... Нічога не трэба перадаваць. Дзякуй.

Яна была пераканана, што мінулы раз па яе голас азваўся Чэсь. І гэта азначала... Урэшце, што б гэта ні азначала, думаць пра яго не варта: на крыўду болей, на крыўду меней! Выбраўшы з усяго прапанаванага жыццём работу, плакаць па страчаным і сумна і смешна.

Так, так, проста смешна. Яна, Міхаліна, ужо смяецца, ужо душыцца смехам, не ў сілах стрымаць яго,— і на яе азіраюцца прахожыя, хто з недаўменнем, хто з усмешкаю, бы на яе ўжо ўпала падазрэнне: сама з сабою, сама з сябе звычайна смяецца жанчына не ў сабе. Думка мільганула, знікла і ўсё ж, праз імгненне, вярнулася, вярнуўшы згадку не пра смех, а пра крык, чуты аднойчы сярод ночы: штосьці яе зараз радніла, збліжала з тою жанчынаю, штосьці балючае.

— Вось ля каго можна адагрэцца ў такі пахмурны дзень!

Пазнала Алесеў голас. Павярнулася, кіўнула на ягонае «Цалую ручкі». Зглынула горыч, што, ледзь толькі яна адсмяялася, перасела ў горле і перашкаджала не адно гаварыць, а і дыхаць. Глытнула раз, другі раз, закашлялася.

— Прабач.

7 Зак. 2522

— Спадзяюся, гэта не звязана з маім нечаканым з'яўленнем.

Вочы ў Алеся смяяліся, а голас, калі рука яго лёгенька падтрымала Міхаліну за локаць, ледзь прыкметна ўздрыгнуў. Не рука ўздрыгнула, а менавіта голас, і Міхаліна пакасілася на яго не тое што падазрона — запытальна. Але Алесь ужо зноў валодаў і сваім голасам, і сваім тварам.

— Ты ў майстэрню, Ліна? Запрасіла б мяне на шклянку гарбаты! Нешта смыліць сёння ўсё ўсярэдзіне.

— Мяркуеш, гарбата дапаможа?

— Гарбата — не гарэлка, смагу натоліць...

— Дык ты хочаш смагу наталіць ці адагрэцца? — усміхнулася Міхаліна, прыняўшы звыклы ў гаворках з Алесем тон і адразу адчуўшы сябе вальней.— Нешта я ніяк не вызначу, гарыш ты ці мерзнеш.

— А то так, то гэтак. У залежнасці ад таго, усміхаецца побач жанчына ці сумуе.

— Толькі не трэба пераконваць мяне, што цябе раптам перасталі цікавіць пасінелыя ад холаду ў тваёй майстэрні натуршчыцы і ты чарговы раз закахаўся ў незнаёмку.

— Чаму абавязкова ў незнаёмку? — пасмейваўся, не забываючы грацыёзна падтрымліваць субяседніцу за локаць, Алесь.— На дэкадэнцкую бяссілаcць намякаеш, Ліна? Марна, марна. Ты проста ніколі не хацела...

— Што — не хацела? Запрасіць цябе на гарбату? — не даслухала Міхаліна.— Калі будзеш піць без цукру, пайшлі. Тым больш гаворка да цябе ёсць.

Яны звярнулі з Даўгабродскай у арку доўгага (цэлы квартал займаў) дома, перакідваючыся лёгкімі жартамі, падняліся на апошнюю лесвічную пляцоўку, цераз цесны калідорчык прайшлі ў Міхаліну майстэрню з высокім, пад самаю столлю, акном.

— О, гэта цікава,— памкнуўся да яе аўтапартрэта Алесь, але яна рашуча запыніла яго, адаслаўшы набраць у чайнік вады, і павярнула мальберт да сцяны: гэтак будзе спакайней.

Моўчкі ўзяла ў Алеся чайнік, моўчкі падключыла яго да разеткі.

— Ты хацела пагаварыць.

— Прысаджвайся. За адну-дзве хвіліны чайнік не ўскіпіць.

— Гатоў, гатоў! Я нават застацца тут не супраць,— гэпнуўся на канапу і тут жа, абапёршыся на локаць і вы-

прастаўшы ногі, адхінуўся да сцяны.— Даўно не быў у цябе. Не запрашала...

— Ты і сёння сам напрасіўся.

— Лі-на! Ліна, ну нельга ж так адразу! — смеючыся, запярэчыў Алесь, але позу на больш сціплую міжволі памяняў і тут жа пасур'ёзнеў.— Па камбінату штосьці не атрымліваецца?

— Ёсць сімптомы, што заказ на нацюрморт аддадуць... Не мне, адным словам, аддадуць! Ты ж — у праўленні фонду, мо ў курсе. Мо параіш што.

—З Жанай Віктараўнай перамовілася?

Міхаліна кіўнула.

— Бачыш, радасць мая, у чым тут справа: старому Варапаю ўздумалася сваю колішнюю, яшчэ студэнцкую работу збыць. Вось і муціць ваду. Работка ж, прама скажам... Тут адзіна можна цераз заказчыка неяк сыграць. Прапанаваць яму дзве работы на выбар, да прыкладу. У цябе ж, пэўна, што-якое знойдзецца ў запасе?

— Даўняе? Яшчэ студэнцкае? — не вельмі ўдала падыграла яму Міхаліна: пытанні прагучалі хутчэй злосна, чым іранічна.

— У любым выпадку і Жана Віктараўна, і я, і сёй-той яшчэ — на тваім баку, і гэта немалаважна.

— Чайнік! — паднялася, адышла і, не адрэагаваўшы на сказанае, нібыта й не чула, узялася заварваць чай, выцягваць са шкапчыка кубкі і сподкі, вызваляць край невялікага століка ад папер, часопісаў, цюбікаў з фарбамі і жбанкоў з сухімі кветкамі: адно ў такія хвіліны, калі змушана завіхалася дзеля рэдкага, звычайна заўсёды выпадковага госця, заўважала, што майстэрня даўно стала цеснай ад патрэбных і непатрэбных рэчаў, падрамнікаў і нікуды не годных старых багетных рамак — усё гэта, уперамешку з бясконцымі букетамі сухіх сцяблін, кветак, снапкоў і ўсялякімі вырабамі з саломкі, стварала ўражанне, што тут жыў дух будзённасці, будзённай працы і гаспадыні ягонай побыт не надта каб дакучаў.

Моўчкі, з усмешкаю назіраў Алесь нейкі час за Міхалінаю, за яе спакойнымі, спакойна-абыякавымі рухамі, спрабуючы злавіць яе позірк, потым падняўся («Мо дапамагчы?»), падышоў і, улучыўшы момант, паклаў руку ёй на плячо, лёгенька сцяў плячо, пацягнуў Міхаліну да сябе.

— Што-небудзь не так, Алесь? — спакойна павярнулася да яго Міхаліна.— Ці мо палапаць каго замуляла?

Ён не адказаў — толькі адно брыво, прыўздымаючыся, надламалася — і ўжо абедзвюма рукамі сціснуў яе плечы.

— А-а-а! — засмяялася яму ў твар, твар у твар, Міхаліна. — Найпачай, сябра твой табе прызнаўся, што сышоў з дыстанцыі і шлях свабодны: давай, маўляў, бяры след і не ўпусці свайго...

— Ты што? — трасянуў ён яе за плечы.— Ты ведаеш мае адносіны! Даўно... Да Чэся...

— Да Чэся! Пасля Чэся! — тузанулася, скінула яго рукі з плячэй Міхаліна.— У перапынках паміж сеансаў з натуршчыцамі! Чаму б і не? Чаму б і не падабраць кінутае?

— Ліна, радасць мая...

— Пайшоў прэч.

— Што? — не зразумеў ён.

— Я сказала: пайшоў прэч. Чаю не будзе.

— Але ж я... Ты што, ашалела, Ліна? Ты ж ведаеш мае адносіны! За ўсе гады, што мы знаёмы...— мармытаў Алесь, стараючыся, як кажуць, захаваць твар.— Ты магла б перавесці ўсё ў жарт.

Міхаліна не адазвалася. Нават не павярнулася ў яго бок. Стаяла перад адвернутым да сцяны мальбертам, чакала, пакуль зачыняцца за Алесем дзверы. І потым, пасля таго, як дзверы зачыніліся, яшчэ доўга стаяла нерухома, аглушаная тым, што адбылося. Хоць што, урэшце, адбылося?

## 10

Жорж пасля трэцяга курса перавёўся ў маскоўскі інстытут. Пры сустрэчах (некалькі разоў сустракаліся на вернісажах) яна рабіла выгляд, што яны не знаёмы,— знешне ўсё так і выглядала: двое чужых, не цікавых адно аднаму людзей. Але ўсюды натыкалася яна на калючы Жоржаў позірк і, куды б ні пазірала, пазірала ў пустату, з якой не-не і выплываў яго загадкава-задуменны твар. Нічога пасля, апроч гэтага твару, не магла Міхаліна ўспомніць.

Ён, гэты твар, і цяпер узнік перад ёю, па-ранейшаму задуменны, няўсмешлівы, і Міхаліна падумала, што, відаць, і Жорж не выхваляўся б перад ёю сваім шчасцем,— шчасце абмінула і яго... Думка гэта чамусьці дадала смутку, а бараніцца ні ад смутку, ні ад памяці не хацелася:

амаль чатыры гадзіны пратаптаўшыся ля распачатага палатна і не прасунуўшыся ў рабоце далей дзесятка мазкоў (не ішла работа), пачувала сябе разбітаю, хвораю. Не запальваючы святла, ляжала на канапе без сну, без руху і, калі б не думкі, што абселі галаву і то абзываліся, перапынялі, абрывалі адна адну, то раптам аціхалі, сама паверыла б, што адпачывае. А які ж гэта адпачынак?

— Нешта ты затужыла, дзеўка.

Голас прагучаў, як заўжды, нечакана, і, убачыўшы побач, на крайку сваёй канапы, госцю, Міхаліна ўзрадавалася. Пасміхнуўшыся з гэтай сваёй радасці («Псіхалячэбніца забяспечана!») — усё ж шчыра ўзрадавалася: цяпер думкі набудуць паслядоўнасць і выразнасць.

— Затужы-ыла, мяне не падманеш, а і абвінаваціць няма каго. Так?

— Справа ж не ў тым, каб кагосьці абвінаваціць,— вырашыла Міхаліна не ўвязвацца ў спрэчку.— Жыць як, не ведаю. Сэнс жыцця, мэту сваю бачу, а і сэнс і мэта, выходзіць, не ўсё.

— Гледзячы, які сэнс,— паклала госця халодную далонь на Міхалінін лоб і ледзь заўважна пахітала галавою.— Жанчыне трэба б кахаць, раджаць дзяцей...

— Зноў ты за сваё: кахаць, раджаць дзяцей! А калі той, каго пакахаеш, не варты кахання? — паспрабавала Міхаліна прыўзняцца, адарваць галаву ад падушкі, але далонь госці ўтрымала яе.— Калі вера ў тое, што ўсё наперадзе, сплыве крывёю — крывёю ненароджанага, нежаданага, непатрэбнага да таго дня дзіцяці?

Сказала — і здзівілася сваім словам, спакою ў словах: яшчэ ўчора і падумаць пра падобнае збаялася б! А госця пахітала галавою ўжо з яўным дакорам.

— Усё ад таго, што вечнае будзённым вымяраеш: варты — не варты, патрэбны — не патрэбны... А што такое абавязак? Што такое сумленне, дабрата, каханне? Чаму і хто павінен табе за іх плаціць, як адна за ўсё плата — неба?

— Неба? — не зразумела Міхаліна, уяўляючы неба такім, якім яно было ў гэтыя мінуты: ліловым з блакітнымі разводамі месячнага святла і мігатлівым россыпам зорак.— Неба задужа высока...

— Ты не туды пазіраеш, любчык. І ты, як усе вакол, думаеш, што неба — над табою, і шукаеш яго ўгары. А неба — тваё неба — у табе. Такое, якім узвяла, выбудавала за сваё жыццё,— і яно вышэе ці апускаецца і цісне на

плечы, святлее ці згасае ў залежнасці ад таго, плачаш ты ці смяешся, чыніш дабро, справядлівасць ці апраўдваеш подласць, сваю або чужую. Залежнасць прамая, павер мне.

— А хто ты, каб табе верыць? Хто? — прыўзнялася яна і, канечне ж, нікога побач не ўбачыла.— Вось так заўсёды. Ледзь толькі трэба адказаць...

Упаўшы на падушку, уздыхнула («Вось так заўсёды!»), заплюшчыла вочы. Сон не ішоў. Як моцна ні сціскала яна павекі, перад вачыма стаяла распачатае, пакінутае ў майстэрні палатно, якое, нягледзячы на жанчыну з дзіцем на першым плане, нагадвала партрэт неба: з глыбіні палатна наплывала, ясніла пагляд аграмадная, успененая аблокамі прастора... Неба!

«Мо работа не рухаецца таму, што перш яго, неба, трэба напісаць такім, якое яно ва мне, у душы маёй?» — не адганяла яна нечаканую думку.

— І аднаго стагоддзя не мінула, а як вырасла цана з таго часу!

— З якога часу? Цана чаго? — расплюшчыла вочы Міхаліна і пацягнулася рукою да той, што зноў сядзела на крайку яе канапы.

— Цана пакуты. Калісьці ўсё шчасце свету аб'яўлялася не вартым адной дзіцячай слязінкі, а сёння свету спатрэбіліся дзіцячыя цацкі, начыненыя смерцю, і хірургічныя прылады, каб забіць дзіця ў матчыным чэраве. За жменю манет. Ці за прывідную незалежнасць — свабоду а д д з і ц я ц і. Вымавіць немагчыма...

— Ты прыходзіш, каб мучыць мяне? — адчула, як пацяклі па шчоках слёзы, Міхаліна.— Але ж я ўжо самім жыццём пакараная.

— Мука — не кара, мукаю варты свайго прызначэння на зямлі чалавек ачышчаецца.

— Позна... — прашаптала яна, адгароджваючыся ад палкага пагляду госці цяжкімі дрогкімі павекамі.— Позна ўжо...

— Глупства, любчык. Гэта ў табе бязвер'е гаворыць, а яно — кепскі дарадца. Веру, веру пагукай!

— Веру? Калі ні ў што ўжо не верыш?

Госця засмяялася. Нязлосна гэтак захіхікала і раптам ускочыла, мармычучы якуюсь просценькую мелодыю, закружылася па пакоі ў танцы. Кружылася доўга, зрэдку, цераз плячо, зіркаючы на Міхаліну, якая дзівілася на яе ва ўсе вочы. Потым, паружавелая, запыханая крыху, з

размаху гэпнулася на канапу. Зноў засмяялася. Гэты раз гучна, весела.

— Ну, у мяне, у тое, што я — вось яна я, ты верыш?

Міхаліна ўчапілася за яе рукаў, смешна заківала і тут жа, зглынуўшы зноў набеглыя слёзы, горка ўздыхнула: яна сціскала ў пальцах пустату. Лёгка сказаць: тваё неба — у табе, а дзе яго там, пад абломкамі спадзяванняў, шукаць? Дзе, калі, ледзь заглыбіцца яна ў памяць, час пачынае нагадваць тунель з нізкімі бетоннымі скляпеннямі, перавітымі правадамі, які адным канцом сваім выходзіць на луг, у высокія травы, да аграмаднай белай галавы звергнутага д'ябла ў траве, другім — упіраецца ў шумны праспект, у каменны ганак, на якім... Нават сабе Міхаліна не здолела давесці, што яна не ведае тую аплыўшую крывёю жанчыну з дзіцем на ганку, якую ёй кожны раз трэба абмінуць, каб выбрацца на святло. На святло, што ўсяго толькі — святло вулічных ліхтароў.

— Веру, веру пагукай!

— Якую яшчэ веру? Мо да адпрэчанага ўсімі Бога параіш звярнуцца? — адказала, скарыстаўшы ўсю сваю іронію, Міхаліна ўголас, хоць гэты раз словы госці прагучалі ў ёй самой.— Голенькімі з'яўляемся на свет, і ўсё жыццё ідзе адно на тое, каб у труну паклалі ў адзежы, ва ўсім новым. А туды ж! — веры ад мяне дамагаешся. У што, у каго верыць? Люд, калі больш пільна прыглядзецца, нагадвае статак, дзікі статак, дзе самыя дужыя змагаюцца за месца важака, самыя гарачыя імкнуцца бліжэй да месца бойкі і часцей за ўсё трапляюць пад ногі ці, больш вобразней, пад капыты, а самыя разумныя трымаюцца збоку, крыху ўбаку: і выган менш вытаптаны, і бакі не смыляць — адно што ўзняты пыл неба заслапяе. Яшчэ калі б не атрутны пыл, не з прымесямі стронцыю!

Госця — Міхаліна была пераканана, што яна недзе тут, блізка,— не адгукалася, і гэта толькі падхліствала: Міхаліна саскочыла з канапы, пацягнулася да халата, але тут жа забыла пра свой рух. Горача. Душна. У пакоі няма чым дыхаць, і лепей адчыніць акно...

Халоднае начное паветра крыху астудзіла твар, але словы, нясказаныя і гарачыя, пяклі ў грудзях,ірваліся з яе, і Міхаліна, адштурхнуўшыся ад падаконня, прайшла да століка, адсунула яго далей, да самай канапы, і ўселася ў крэсла з нагамі, падкурчыўшы ногі і нацягнуўшы на калені сарочку.

— Маўчыш? Ну, канечне, што гаварыць з жанчынаю,

якая займаецца мастацтвам, піша карціны і не верыць у вечнасць, вечнае вымярае будзённым! Не веру, так. Але ж і ў малітвах, звернутых да Бога, да божай ласкі,— прось-бы злітавацца, адвесці зямныя беды, вярнуць здароўе ці шчасце. Чалавек ніколі не адчуваў сябе крылатым.

— Ты хочаш сказаць: свабодным?

— Няхай свабодным,— пагадзілася Міхаліна, не звярнуўшы ўвагі на тое, што госця ўрэшце ўсё ж адазвалася.— Бездань адчаю, якою абарочваецца кожная няўдача, мо крышачку і адсоўвае вера( часта аптычны эфект!), але пераскочыць гэтую бездань чалавеку не дадзена. Не дадзена! Таму што ён — просты смертны. Таму што нават вера, хоць і надзяляе яго ўласным «я», не дадае яму сілы, не даразае ні часу, ні прасторы. Некалькі дзесяцігоддзяў — і ўсё!

— А дух? Самыя мудрыя з роду чалавечага сцвярджаюць, што існуе асобая частка рэчыва, уцягнутая ў кругазварот культуры ці, дакладней, у кругазварот духу.

— Гэта — калі адштурхвацца ад думкі, ад філасофіі. А калі — ад жыцця? — пашукала яна вачыма сваю апанентку і ўбачыла яе на падаконні, у гэткай жа, як і на ёй самой, зараз, сарочцы («Аўтапартрэт, значыцца, ужо ні пры чым. Нешта новенькае...»).— Калі жыццё ўзяць ва ўсёй яго прывабнасці і непрывабнасці?

— Непрывабнасці? Ты пра што? — нацягнула на падцягнутыя да падбародка калені сарочку госця (у асветленым толькі начным небам пакоі, хай сабе і на фоне акна, яна бачылася надзіва выразна, рэальна).

— Пра што! — саскочыла з крэсла Міхаліна і тут жа ўсадзіла сябе назад: да субяседніцы лепш не набліжацца задужа, каб зноў не знікла.— Ды хоць бы пра тое, што чалавек, каб выжыць, паядае расліны і жывёлу — забівае іх і паядае. А і гэта ж не самае мярзотнае. Трэба, каб страўнік усё спраўна перапрацоўваў, каб аналіз мачы, прабач, меў здаровыя параметры і савакупленне з сабе падобным прыносіла калі не насалоду, дык наталенне. Куды — усё гэта? А? Плюнуць на ўсё і кінуцца ў абдымкі смерці?

— Смерці няма.

— А-а-а, во, значыць, ты куды,— зручней, а то ажно спіна зацякла ад напружання, адкінулася на спінку крэсла Міхаліна.— Па-твойму, усе Чарнобылі — проста забаўкі на ўцеху нашчадкам, і льга не зважаць на прыроду сваю, на самую смерць, калі паверыць, што дух не памі-

рае, так? Па-твойму, ні насалоды, ні паталення спазнаць нікому з нас папросту не дадзена?

— У цябе, як і ў кожнага з вас, каша ў галаве. Месіва! — абрыўкі чужых вучэнняў, вераванняў, думак уперамешку з карцінкамі і розных ілюстраваных выданняў... Не насалоду ці паталенне павінен чалавек шукаць у выстуджаным касмічнымі скразнякамі свеце, а самога сябе.

— Яшчэ зусім нядаўна ты сцвярджала, што я павінна раджаць дзяцей,— паспрабавала пакпіць Міхаліна, але голас яе ўздрыгнуў і фраза засталася няскончанай.

— Цяжэй за ўсё знайсці сябе ў сваім дзіцяці.

— Не ў творчасці? Не ў мастацтве?

Міхаліна ўсё яшчэ захоўвала іранічны тон, не паказваючы разгубленасці, а сумненні падымалі ўжо свае змяіныя галоўкі, рыхтуючыся да нападу, і яна адчувала, што, як бы ні баранілася цяпер, яе чакала паражэнне. І гэты раз — паражэнне... Не магла, не ўмела яна давесці сваю правату і змушана будзе доўга — да раніцы, няйначай,— адплёўваць атрутную гаркоту сумненняў...

«А гэтай хоць бы што!» — непрыязна падумала пра госцю і тут жа злякалася гэтай непрыязнасці, падняла вочы на субяседніцу, якая толькі што сядзела на падаконні, узіраючыся ў начное халоднае неба,— той на падаконні не было. Для большай пэўнасці Міхаліна агледзелася, абвяла паглядам пакой: ліловы змрок ціха калыхаўся і, уздыхнуўшы ў адказ на яе ўздых, зноў застыў, знерухомеў. Тады яна паднялася, прыўстаўшы на дыбачкі, пацягнулася і прайшла да акна. Міжволі правяла далонёю па падаконні і, хаваючы ад самой сябе гэты жэст, штуршком — шырэй — адчыніла акно: перад ёю ва ўсёй сваёй красе ляжала зорнае неба. Здавалася, варта перакінуць лёгкі масток, ступіць на яго — і ўсё застанецца далёка ўнізе, і прастора паплыве, пацячэ насустрач, і знікнуць усе сумненні, і яна, Міхаліна, адчуе сябе крылатаю...

## 11

Неспадзявана сустрэўшы дзядзьку Есіпа на праспекце, ля ГУМа, Міхаліна не дужа ўзрадавалася: меншы матчын брат, ён і ў гады, калі маці была жывая, не вельмі каб згадваў пра іх сваяцтва, а пазней, старшынствуючы ў адным з калгасаў раёна, і наогул амаль не заязджаў. На

што бабуля любіла свайго меншага, а і яна, перад самаю смерцю ўжо, мусіла з горыччу прызнаць: «І мой і не мой ужо, Ёсіпка... Думае, жыццё сасватаў, а таго не помніць, што і сцежка пад ногі не скрозь гладка сцелецца».

Не скрозь гладка сцежка слалася... Не сам Ёсіп, сын ягоны, Кім, першым спатыкнуўся, за смех заезджай блудніцы зачапіўшыся: сям'ю, дваіх дзяцей кінуў, гады з два без прапіскі ў Мінску аціраўся, у бальніцу, падхапіўшы ад сваёй красуні «вясёлую» хваробу, трапіў, зараз — недзе ў Архангельскай вобласці добра падмочаную рэпутацыю выпраўляе. І каб жа адно свой лёс паламаў! Большанькі яго (дванаццаць толькі і мінула яму тады, калі бацька з заезджай скруціўся) гэтаксама са шляху збіўся. Следам за бацькам, лічы. Ні маткі, ні дзеда — дзядзьку Ёсіпа — не слухаў. У школу не пайшоў, у тэхнічным вучылішчы ледзьве трымаўся — так і не скончыў яго: таварыша нажом пырнуў — пасадзілі, у калонію адправілі.

Як яно далей у сваякоў склалася, Міхаліна не ведала: пасля бабулінай смерці круглай сіратою засталася — хату і тую дагледзець не магла, гарсавет адкупіў... А дзядзька Ёсіп і на пахаванне тады не прыязджаў — недзе ў санаторыі лячыўся. Адно тэлеграму адбіў, што ўсё адно спазняўся, не паспяваў. «Восьмы... не, дзевяты год пайшоў ужо,— думала Міхаліна, углядаючыся ў старога, добратакі палінялага за гэты час Ёсіпа.— І не пазнала б у натоўпе. Каб сам не гукнуў, не пазнала б». А ён усё расказваў, як не трэці раз пераказваючы, што прыехаў які абутак асенні падшукаць, што нагледзеў нібыта ўжо боты, нашыя, «лучаўскія», але наважваецца яшчэ туды-сюды заскочыць, зірнуць: мо што лепшае трапіцца. І ўсё дзівіўся на яе, на яе модна вязаную сукенку і доўгі стракаты шалік паверх, перакінуты цераз плячо. А яна, Міхаліна,ківала, падтаквала, сумна прыгадваючы тое, што ведала, што помніла пра дзядзьку, і твар яе міжволі згасаў, хмурнеў.

— Ніколі ў госці старога дзядзьку не запрасіла, Міхалінка! Ужо ж карысці з мяне мала, адгарэў, адстаршынстваваў — што ж зараз? Некалі ўсім быў патрэбен, а зараз і свае цураюцца.

— Дык жа... — запнулася, ледзьве стрымалася Міхаліна, каб не нагадаць яму пражытае, перажытае.— Як ёсць жаданне і не спяшаецеся нікуды, то чаго ж! Хадземце. Тут недалёка. Адно спусціцца да Нямігі і па той бок вуліцы...

— А ты не на работу часам? Не па справе куды ідзеш? — затаптаўся, пачэсваючы падбародак, Ёсіп.— Будзеш пасля гаварыць: прычапіўся стары, у госці сілком напрасіўся! Гэта ж, са мной не раўняючы...

— Ды хадземце, хадземце! Нацягаліся ж ужо, відаць, за паўдня. Ды і перакусіць што не зашкодзіць,— крануўшы яго за локаць, рушыла з тлумнага праспекта ў бок моста Міхаліна.— Далікатэсаў асаблівых не абяцаю, але яечню сасмажым і гарбата з якім-небудзь печывам знойдуцца.

— Ну калі яечня... — задаволена фыркнуў той, прынараўліваючы свае цяжкія крокі да яе хады.— То хадзем, Міхалінка. Як недалёка, то чаму ж.

Слухаючы яго буркатню (то на тлум гарадскі, то на ногі скардзіўся), Міхаліна шукала ў сабе якіясь мякчэйшыя словы, якіясь забытыя пачуцці (самага ж блізкага сваяка сустрэла!), але ні слоў, ні пачуццяў не было. Дзесьці глыбока варухнуўся жаль — надта ж пастарэў Ёсіп! — а потым і жаль адступіў, знік за думкамі пра тое, што дома чакаў не вельмі прыемны клопат.

Але клопат клопатам: гэткае справы — засмажыць яечню і свежы чай заварыць! Горш было тое, што дзядзька Ёсіп недаўменна, а то і адкрыта асуджальна пакручваў носам, аглядаючы яе кватэрку: пакратаў хісткі, завешаны апраткаю, сумкамі і сумачкамі вяшак, зморшчыўся на Гагенавых жанчын на лістку насценнага календара, адсунуў шкло, правёў пальцам па зарослай пылам палічцы з кнігамі і, шмаргнуўшы палец па калашыне, асцярожна адышоўся. Абмінуў столік, завалены часопісамі, клубкамі ніток і кафейнымі кубкамі, крануў, нібыта паправіў, начапляныя на спінку крэсла Міхаліціны кофты і кофтачкі, доўга дзівіўся ў акно, паводзячы галавою то ўгору, то ўніз, на пляцоўку двара, адсюль, з шостага паверха, бачнага як на далоні. І ўсё незадаволена пакручваў носам. Як прынюхваўся да нечага.

«Як жа! Усё падставы, каб пляменніцу прысароміць»,— злавала Міхаліна і на яго і на сябе, кідаючыся следам і збіраючы, запіхваючы куды далей з вачэй то кофты, то нямытыя, з чорнымі падцёкамі кавы кубкі, то туфлі, якія валяліся пад нагамі.

Калі посуд быў вымыты і яны селі да кухоннага стала, застаўленага тым, што знайшлося ў доме, Міхаліна памкнулася неяк апраўдацца за вэрхал у кватэры, але дзядзька Ёсіп замахаў рукамі, затрос галавою:

— А бо! Як жывецца, так і жывеш. Ведама, адна. Сама сабе са сваімі карцінамі. Ды і горад жа. Усё — бягом, усе — адзін паперадзе другога. Ні дом за вас, ні вы за дом не трымаецеся. Бо не сваё. Чужое. Часовае.

— Ды нібыта ж і сваё,— запярэчыла.— Часу на ўсё не хапае, рук...

— Сям'і табе не хапае.

— Так ужо склалася, дзядзька Ёсіп,— не пакрыўдзілася Міхаліна, хоць і адчула, як запяклі яго словы ў грудзях.— Позна цяпер пра гэта. Я што хацела спытаць... Чаму тады, у пяцідзесятых, з мамаю так сталася?

Ёсіп адклаў відэлец. Адсунуў талерку. Утаропіўся ў Міхаліну, моўчкі жуючы якіясь словы, а мо і не словы, а непажаваную скарынку: сківіцы яго рухаліся, а позірк быў нерухомы, цяжкі,— яна нават плячыма пакратала, нібыта страсаючы гэты яго цяжар.

— Бабуля казала: вайна ў ёй, у маме, злыя карэньчыкі пусціла. Але ж шмат хто ваяваў, а бяды гэткае не прынадзіў,— яна настойвала, змушаючы Ёсіпа да адказу, да расказу пра маці: пачуць, зразумець тое, пра што здагадвалася, пра што думала ў бяссонныя ночы, было зараз важней ад усяго.— Хто-хто, а вы ж, дзядзька Ёсіп, павінны ўсё ведаць!

— Ды ведаць мо і ведаю, але хто ж яго знае! Соня ўпартаю была, самалюбіваю. Вечна на сваім паставіць хацела. Хоць дома, хоць у атрадзе,— неахвотна, цярэбячы падбародак і раз-пораз зіркаючы на спахмурнелую Міхаліну, пачаў дзядзька Ёсіп — потым як схамянуўся, ляснуў далонямі па стале, заёрзаў на табурэтцы.— Навошта тое ўсё памінаць? Адышло — і дзякуй богу.

— Я прашу вас, дзядзька Ёсіп,— падхапілася, пабегла яна да яго, абняла за плечы, утрымліваючы.— Мучыць мяне штосьці, а што — разгадаць не ўмею. Маму ўвесь час згадваю...

— Ну, што цябе можа мучыць, Міхалінка? — трохі адмяк ён.— Ты ж ужо ў апошнюю ваенную зіму нарадзілася. Ні ў памяці, ні ў лёсе, як той казаў.

— Мяркуеце, вайна сорак пятым годам закончылася?

Ёсіп крэкнуў. Стаў бязгучна жаваць сухія губы. Вачэй на яе не падымаў.

— Я зараз гарбату падам,— адышла Міхаліна.— А наконт вайны... Не адно вашы лёсы вайна паламала, і мы ніяк выпрастацца не можам.

Яна разліла чай. Прыбраўшы са стала талеркі, паста-

віла кубкі і вазачку з цукрам. Моўчкі села насупраць, памешвала гарачы чай лыжачкаю, чакала. Але дзядзька Ёсіп шумна адхлёбваў са свайго кубка і не абзываўся.

— Усё часцей думаю, што якаясь віна маміна на мне — на мяне перайшла,— падумала Міхаліна ўголас, і страпянуўся, закашляўся, папярхнуўшыся чаем, Ёсіп.

— Яшчэ чаго! Што гэта табе раптам уцямяшылася ў галаву?

— Але ж не так сабе яна сама смерць сваю гукала ў дні, калі душа балець пачынала. Я помню...

— Бач, як ты прыгожа выказалася: сама смерць сваю гукала,— нечакана зазлаваў ён — хутчэй ад таго, што змушаны быў нешта прыгадваць, расказваць, а ні прыгадваць, ні расказваць нічога не жадаў і ўжо шкадаваў, што напрасіўся ў госці: адпачыць думаў, перакусіць, пра сталічнае жыццё распытаць, а даводзіцца самому нешта тлумачыць.— Старыя людзі памяталі некалі, што «не забі!» — азначала: не забівай другога, каб не забіць сябе, чалавека ў сабе. Вядома, вайна ўсё з ног на галаву пераварочвае, і ніхто ніякай запаведдзю ўкрыцца не здолее, калі бараніцца не будзе, а і тое, што адгукаецца яна, гэтая запаведзь, потым... Цішэй ці грамчэй і няўмольней, а адгукаецца.

— І калі гэта — жанчына...

— Адна справа — страляць, калі ідзеш у атаку ці адбіваеш варожы наступ, іншая — калі змушаны ісці ўрукапашную,— уздыхнуў, адсунуўшы недапіты чай, Ёсіп, які здаваўся зараз яшчэ больш пастарэлым, згорбленым гадамі.— Калі ж давядзецца расстрэльваць... твар у твар...

Міхаліна сцялася, быццам словы ўдарылі яе, і, здавалася, перастала ўслухоўвацца ў дзядзькаў голас: словы, скупыя, нязграбныя ў сваёй аголенай праўдзе, гучалі самі па сабе — падзеі далёкага сорак трэцяга ўставалі перад ёю, выразныя ў сваёй неаспрэчнасці, безадносна слоў, безадносна дзядзькавага аповяду.

Вось падымаецца вакол, вышэючы і напаўняючыся сонцам і пошумам ветру ў вершалінах, сасновы бор. Позірк міжволі цягнецца ўгару, за стромкімі камлямі сосен — туды, дзе, нягледзячы на тое, што напрасткі, вёрст за дзесяць, рухаюцца па шашы калоны нямецкіх танкаў, а тут, на паляне, вершыцца партызанскі суд, нягледзячы ні на што, плыве, пагойдваецца перавітая сонечнымі промнямі сінеча неба. І столькі ў ёй чыстага ззяння, такая неабдымная ўгадваецца за ёю прастора, што сэрца не верыць ні ў сваю, ні ў чужую жорсткасць, няхай яна і абумоўлена

ваенным часам, гадамі акупацыі. Але ж адштурхвае позірк вышыня — змушаны ён вяртацца долу, на паляну, зарослую мяккім імшанікам, да купкі партызан, за пяцьшэсць крокаў ад якой стаіць...

Міхаліне хочацца лепей разгледзець тую, што стаіць перад імі, асуджаная на смерць,— і яна прыўстае на дыбачкі, цягнецца вышэй, выцягвае шыю, каб з-за спінаў хлопцаў, з-за спіны маці ўбачыць усё, што адбываецца, усё, што адбудзецца тут праз колькі імгненняў. Падсвядома яна адчувае, што пнецца зазірнуць туды з-за сцяны гадоў (яна ж і на свет з'явіцца і не ў той год, і не ў наступны!),— і ўсё ж бачыць, выразна бачыць Аляўціну, Аляўціну Баглай, як называе яе, падсольваючы мацюком кароткі прыгавор, узводны Шкотаў. Проставалосая, босая, у паркалёвай сукенцы, разарванай ля каўнерыка так, што агалена плячо, яна ўражвае хараством, непаўторнаю жаночаю вабнасцю нават Міхаліну. Што ж казаць пра хлопцаў! — пераступаюць з нагі на нагу, адводзяць вочы, пакашліваюць, прыкрываючы раты нервова сцятымі кулакамі.

— Сучцы нямецкай — суччына смерць,— змрочна паўтарае грамчэй Шкотаў, бо ніхто не зняў з пляча вінтоўку.— Штыхаў! Міхась Бабура!

— Не магу,— прашаптаў, адварочваючыся, Міхаіл.

— Ну што ж вы, героі? — засмяялася на ўсе зубы Аляўціна: абапершыся рукамі на клубы, яна як бы падалася наперад, насустрач іх паглядам, і Міхаліне здалося, што там, дзе сукенку напнулі высокія яе грудзі, сталі распаўзацца па тканіне дзве круглыя мокрыя плямінкі.— Каго судзіце? За што? За тое, што жыць хацела і хачу? Так, спала з нямецкім афіцэрам, падсцілкаю ягонаю стала! А лепш было б пайсці ў яму ці ў касцёр, які гумно з масагнанымі туды людзьмі ўзялося? Лепш? Я маладая! Маладосць, хараство маё мяне ўратавала — немцу яны прыдаліся, дарага за іх заплаціў — жыццё мне пакінуў. А вы? Вы чым лепшыя?

Яна зноў засмяялася. Слёзы цякуць у яе па шчоках, а яна смяецца. І ўсё грамчэй. І пазіраць на гэта проста немагчыма.

— Ну, што ж вы, героі? Жанчына, маладая красуня перад вамі, а вы — ніводны! — не захацелі жыццё ёй падарыць у абмен на ласку, на цела... Вось, вось яно, маё цела! — ірванула Аляўціна сукенку, агаліўшы поўныя свае грудзі.— Бярыце! Рвіце!

Тузанулася, зрабіла крок да яе, прыўзняўшы аўтамат, Соня — і не паспела, не дацягнулася да маці Міхаліна. З трэскам разрывае летні дзень папалам кароткая аўтаматная чарга, без стогну (ці мо Міхаліна не чуе стогну), прыціскаючы рукі да грудзей, заціскаючы рукамі раны, валіцца на бок Аляўціна...

— Соня адступіла назад, прыкрыла вочы, захінаючыся дрогкімі далонямі, і ніхто не вымавіў ні слова.

Міхаліна чуе словы дзядзькі Есіпа, а бачыць не яго — Аляўціну: ляжыць на імшаніку і побач, ля рук, з-пад пальцаў, сочыцца яркая, ярчэйшая за сонца кроў, не зліваючыся, не змешваючыся з кроплямі малака, якія ўсё яшчэ ціха скочваюцца, падаюць на пацямнелы імшанік.

12

— Што ты хочаш знайсці ў мінулым?

Знайсці? Міхаліна на міг задумалася. Не паварочваючы галавы на голас, буркнула: «Чорт яго...» і нахмурылася. І стала абмакваць у разбавіцель і выціраць анучкай пэндзлі, разумеючы, што работы сёння ўжо не будзе. Шчыравала доўга, раз-пораз падымаючы вочы на недапісаны эцюд: ледзь заўважны краёк зямлі — і неба над ім, ва ўсю плоскасць — высокае чыстае неба, якое яднае ўсіх. Жывых і мёртвых. Тых, хто верыць у вечнае жыццё, і тых, хто ў шалёнай празе абагачэння вынішчае ўсё жывое...

Не сказаць каб гэта думка падалася Міхаліне арыгінальнай, але ад таго яна не стала менш неаспрэчнай: на зямлі людзей падзялялі і горы, і лясы, і рэкі, і балоты. Нават проста адлегласці, што самі па сабе апускалі за далягляд і бязмежную роўнядзь стэпу, і прамую, як страла, шашу,— ужо на чацвёртым-пятым кіламетры любая постаць зліваласяз бязмежжам, знікала. А неба... У небе для ўсіх аднолькава ззялі далёкія таямнічыя сузор'і, і ў гэтым іх будзённым ззянні згаралі і доўжыліся дзесяткі, сотні светлавых гадоў — згарала і доўжылася вечнасць. Вечнасць, якую адчуваў любы, хто пазіраў на зоркі — сёння, учора ці пазаўчора, у гэтым жыцці ці іншым. І не было на зямлі чалавека, які прысвоіў бы хоць шматок неба, бяздоннай яго сінечы,— неба належала ўсім, неба не належала нікому. Нават тут, на незавершаным эцюдзе.

Міхаліна ўздыхнула. Склала пэндзлі і, прычыніўшы,

зашчапіла эцюднік. Падабрала і падкруціла да патрэбнай даўжыні, замацоўваючы ў спецыяльных гнёздах, яго металічныя падпоркі. Прыйшла да машыны, паклала эцюднік на задняе сядзенне і звыкла, ні на чым не спыняючыся, агледзела свой старэнькі «Запарожац». Села за руль, павярнула ключ, прыслухалася: матор закашляў, заляскатаў, скаланаючы кузаў, крутануліся, забуксаваўшы на слізкай траве, колы — і машына ціха пакацілася да дарогі, што, віхляючы і ў нізінках, у лужынах пырскаючыся граззю, выведзе да шашы на Мінск. Спярша — на Заслаўе, а потым, пасля развілкі, на Мінск. Можна расслабіцца і пераключыць думкі на дарогу.

— Ты зноў не адказала на маё пытанне.

— Хіба? — злёгку павяла галавою Міхаліна і ўсміхнулася: тут як тут пасажырка, нават рабочую блузу яе не забыла скапіраваць.

— Чорта памінае той, хто на сябе не спадзяецца. Ты гэта мела на ўвазе?

— Адразу відаць, што цябе ніколі не тузалі сумненні: непахісна-правільная ўся, у любой праяве... У жыцці ўсё інакш. Складаней. Супярэчлівей,— як малой, задаволеная, што можа выказаць свае думкі, тлумачыла Міхаліна, сочачы за дарогаю.— Часам цяжка правесці мяжу паміж былым і цяперашнім і, здаецца, усё, што было,— гэта толькі цень, які адкідвае будучыня.

— Занадта прыгожа, каб быць праўдаю.

— Прыгожа?! Якая, к чорту, прыгажосць, калі ўвесь час такое адчуванне, што іду па сваіх жа ўласных слядах, а плачу... плачу па чужых рахунках.

— Чорта памінае той...

— Ну, хопіць! — зазлавала Міхаліна і, вырваўшыся на шашу, націснула на газ, павялічваючы хуткасць.— З табой, як з чалавекам, а ты далдоніш, як папугай: чорта памінае... чорта памінае... Растлумачыла б, як такая разумная, што адбываецца, чаму баліць тое, што павінна б даўно адбалець.

— Нікому не прад'яўляецца чужы рахунак,— адчыніла пасажырка акно са свайго боку, і ў машыну ўварваўся гул дарогі і ляскатанне матора, на спінах загуляў скразняк.

Давялося Міхаліне прыкруціць шкло на сваёй дзверцы.

— Ты хочаш сказаць...

— Я хачу сказаць, што ты не маеш права ў чым-не-

будзь абвінавачваць маці: яна па ўсіх рахунках заплаціла сама.

— Па ўсіх — азначала б і па маім,— насупілася Міхаліна, праводзячы позіркам машыны, якія абганялі іх.— А мой рахунак з дня ў дзень расце, і некалі ж давядзецца плаціць. Калі? Чым?

— Ты ж упэўнена, што ты — мастак,— з'едліва засмяялася пасажырка, павярнуўшыся і свідруючы яе насмешлівым позіркам (Міхаліна шчакою адчувала гэты позірк).

— Мама не ведала, што, страляючы ў Аляўціну, забівае і пакінутае тою ў пустой хаце дзіця!

— А ты адкуль ведаеш пра дзіця?

Машына тузанулася. Завішчалі тармазы. Апусціўшы галаву на рукі, якімі яна сціскала руль, Міхаліна слухала сваё маўчанне. Адчувала, што на сядзенні побач нікога ўжо няма, і не паварочвалася. Хвіліна, другая... Пераконваючы сябе, што гаворка скончана і не адновіцца, пацягнулася да супрацьлеглай дзверцы, прыкруціла шкло, каб льга было прыспусціць шыбку са свайго боку, кранула машыну. Пабегла насустрач шаша, паплыла назад рассечаная шашою надвое сцяна лесу, заклубілася над ёю адвячоркавае неба.

«Трэба пісаць неба так, каб перадаць схаваны дзесьці ў яго глыбіні агонь. Таямнічы агонь сусвету. Смяротны і жыццятворны адначасна...»

Зарыпела сядзенне. Следам за шоргатам у машыну ўварваўся гул дарогі, па спіне загуляў скразняк.

— Зноў?! — буркнула абураная Міхаліна, крутнуўшы ручку на дзверцах.— Хіба мы не дагаварылі?

Пасажырка не адазвалася, і Міхаліна зіркнула на яе цераз плячо: сядзіць, абхапіўшы сябе рукамі,— профіль акрэслены так рэзка, што хоць зараз пераносі на паперу, а сама нябось толькі чакае моманту, каб аглушыць яе якім-небудзь падазрэннем ці папрокам. Ужо само гэтае маўчанне — падазронае...

— Думаеш, я не спрабавала ставіць сябе на маміна месца? Думаеш, не разумею, што калі б не яна, дык нехта іншы выпусціў бы тады чаргу з аўтамата? Ворагамі народа лёгка станавіліся не толькі за ўчынак ці слова, а там — учынак, там — жаданне жыць, выжыць сярод смярцей і пажараў. Сваё, асабістае, узведзена ў больш высокую ступень, чым агульнае, грамадскае, і як жа не асудзіць, не пакараць за гэта? Жанчына? Маці? Гэта не мела значэння. Гэта па сённяшні дзень не мае значэння,

калі закранаецца безаблічна-агульнае, і ты не можаш гэта аспрэчыць. Ты таксама не можаш гэта аспрэчыць.

Словы, яшчэ не адгучаўшы, патанулі ў гуле ветру і ляскатанні матора, і Міхаліна недаверліва зіркнула на сядзенне побач: пасажырка сядзела ў ранейшай позе, утаропіўшыся ў стужку шашы, і нават не варухнулася, вуснамі не варухнула ў адказ на яе разважанні.

— Ужо ж было б добра любое жыццё прызнаць недатыкальным і ўсім жыць святым духам, толькі утопія і застаецца утопіяй, а ў жыцці былі і будуць камандзіры і выканаўцы, суддзі і падсудныя, каты і ахвяры. Тым больш калі ідзе вайна.

— Пры чым тут вайна?

— Як гэта пры чым?— збавіла хуткасць Міхаліна, адчуваючы, што пачынае нервавацца.— Пра што тады мы гаворым?

— Пра дзіця, прынесенае ў ахвяру будучыні.

— У ахвяру? Бу-дучыні? — прытармажваючы, стала прыціскацца яна да ўзбочча: рукі ўздрыгвалі і машыну весці далей было небяспечна.— Я не разумею сувязі...

— Сувязь прамая, любчык: маці, як і ўсе вакол, верыла ў паабяцаную светлую будучыню, у якой няма месца ні слабаму, ні дужаму, калі ён ці яна не аддадуць сваю слабасць або сілу на агульную справу, калі само жыццё сваё не аддадуць у патрэбную хвіліну. Гэтаму яе вучылі змалку. Гэтаму і цябе вучылі! Алтар, да якога людзі неслі словы малітвы, быў разбураны, а на яго месцы ўзведзены новы, заліты крывёю тысяч, мільёнаў людскіх ахвяр у імя светлай будучыні. Тут не проста вера, тут фанатычная вера, дзе караючую руку госпада замяняюць людзі.

Чамусьці Міхаліне не хацелася пагаджацца з субяседніцаю.

Чмыхнуў і аціх матор. У машыну, прыткнутую да ўзбочыны, праз адчыненае акно хлынула цішыня — нібыта і не цякла па правую руку, за два-тры крокі ад яе, двума сустрэчнымі патокамі шаша, нібыта і не гучалі толькі што страшныя ў сваёй неабвержнасці словы.

Марудзячы, не адразу павярнулася Міхаліна, а ледзь павярнулася — уздрыгнула, міжволі памкнулася заплюшчыцца: калі б не працягвала чапляцца рукамі за руль, а тая, насупраць, па-ранейшаму не ашчапервала сябе абедруч, злёгку пахітваючыся з боку на бок, то ўражанне, што глядзіцца ў люстэрка, было б поўным. Тыя ж шырокія,

падзеленыя толькі зморшчынаю на пераноссі, бровы. Тыя ж тужлівыя ў сваёй бяздоннай празрыстасці вочы. Тое ж балючае недаўменне ў вачах...

## 13

Выходзячы з кабінета Аржыські, Міхаліна наткнулася на якогась нязграбу з шарападобнаю галавою, буркнула сваё «перапрашаю», адмахнулася ад яго жэсту насустрач: гаворка з сакратаром, бурная, на высокіх танах, адно што не перайшла ў лаянку — апошнім намаганнем стрымала сябе, выскачыўшы за дзверы, і, само сабою, у такі момант не да ветлівасці. Мо і са знаёмых хто, дык ці мала ў яе знаёмых!

Абурэнне цяжка саступала разважлівасці: простае пытанне вырашыць немагчыма ў Саюзе, а ён жа некалі і стварaўся, як творчы саюз, каб аблегчыць клопаты мастакоў. Каб аблегчыць! А выходзіць: яшчэ адна бюракратычная ўстанова поперак дарогі... Здэцца, не прасіць, а патрабаваць увагі і падтрымкі павінна б Міхаліна, помнячы пра сваё права, а яна — прасіла. Як чалавека прасіла. Як сябра колішняга. Дык не. Позна ўжо, бачыце. А чаму, чаму позна, калі выстаўка адкрываецца толькі праз тыдзень? Калі яна, Міхаліна, гатова забраць зацверджаную выстаўкомам работу, каб мець магчымасць выставіць новае палатно?

— Міхаліна Міхайлаўна! — гукала яе дзяжурная, і Міхаліна сцепанула плячамі, страсаючы здранцвенне.— Вам пісьмо... Чацвёрты дзень ляжыць.

— Дзякуй. Дзякуй, Іванаўна,— павярнулася яна ісці, сунуўшы канверт у сумачку.

— А яшчэ журналіст вас расшукваў. Як жа яго? Стрыжак... Ці мо Стрыжачык... Казаў: пісаць пра вас хоча. Міхаліна кіўнула на хаду, раптам зразумеўшы, што той нязграба з глюгаватым носам, якога яна ледзь не збіла з ног,— Жорж Стрыжачык, Жорж — з салона Жаны Віктараўны. «Бач ты, пісаць намерыўся»,— кальнула думка, і яна тут жа забыла і думку і сустрэтага неспадзявана журналіста: галоўнае зараз — дамагчыся, каб новае палатно ўсё-такі экспанавалася на выставе. Хоць на аддзел ЦК выйсці, а дамагчыся свайго: у шэрагу напісаных ёю палотнаў мо адзіна чаго-небудзь вартае вось гэтае апошняе, «Прыналежнасць»,— завершанае днямі, яно жыло ўжо асобна ад Міхаліны, і толькі думкі... Думкі, набываючы

акрэсленасць, змушалі пагадзіцца, што няма нічога важнейшага, чым жыццё душы, і чалавек, з'яўляючыся дзіцем не адно зямлі, а і неба, вынесе, сцерпіць усё толькі тады, калі душа яго не растаптана, не спустошана, не скалечана. Усе трагедыі — праз надлом, праз гібель душы. Хоць і яе самую, хоць маці ўзяць... Нездарма ж з гадамі так скарацілася адлегласць паміж імі, нездарма ж пачалі зліваццa іх сцежкі. І сальюцца. Ужо хутка. У недалёкім будучым.

Будучыня, недалёкая ці далёкая, усё-такі чакала яе, Міхаліну, як і кожнага, і калі не верыць у яе прыход, жыць не будзеш,— гэта Міхаліна прагнула сказаць, выказаць. І сказала. І баялася не таго, што яе не зразумеюць, не. Зразумець зразумеюць. Чым адкажуць? Працай за ўсё — выставіць мінуламу рахунак, абвінаваціць некага, а як няма каго, дык хоць сябе самога, за няроўны шлях, за жорсткія абставіны і няспраўджаныя жаданні. За ахвяры, урэшце, як гэта ні горка. Калі ёсць віна — вінаваты знойдзецца. Яно так. Але ж і тое праўда, што няма сярод людзей невінаватых. На ўсіх — віна. На ўсіх адказнасць. І чалавек не ламаецца пад іх цяжарам толькі тады, калі душа яго не растаптана, не спустошана, не скалечана. Так, так, няма нічога важнейшага, чым жыццё душы, і пра гэта — думкі Міхаліны на новым творчым этапе.

Прыналежнасць... Мог бы быць цэлы цыкл работ, палотнаў, на якіх сыходзіліся б сцежкі пазнання, асэнсавання сваёй прыналежнасці да зямлі, роду, народа ці — яшчэ шырэй — да людства, сусвету...

— Цалую ручкі!

Незадаволена звяла бровы: Алесь, няйначай, высочвае яе — не-не і перастрэне на вуліцы, шумна радуючыся шчасліваму выпадку, а кожны такі выпадак больш нагадваў загадзя спланаваную сустрэчу, балазе яго майстэрня знаходзілася непадалёку, на Першамайскай.

— Пачынаю думаць, што лёс даволі літасцівы да мяне, калі зранку дае магчымасць...

— Прабач, Алесь, але зараз ты падобны на паляўнічага, у якога заржавела зброя. Спадзяешся на новае запрашэнне ў госці?

— Ліна! За каго ты мяне прымаеш? — сумеўся Баркун і адтаго імкнуўся ўсміхацца як мага шырэй.— Мы ж сябры. Мы — суседзі на гэтай скаванай асфальтам зямлі, і калі маё даўняе захапленне нейкім чынам крыўдзіць цябе...

— Што трэба зрабіць, каб забраць з падрыхтаванай экспазіцыі сваё палатно і замяніць яго іншым?

Усмешка на Алесевым твары згасла, і стала відаць, што ён пакрыўдзіўся — не зразумеў пытання і пакрыўдзіўся.

— Закончыла цікавую работу, не хачу чакаць паўгода, а то і ўвесь год, пакуль будзе аб'яўлена новая выстава,— крануўшы яго за рукаў, стала тлумачыць Міхаліна.— Сказанае мае сілу, калі пачута, зробленае — калі паказана. Апошнюю работу мне паказаць важней, мо адзіна важна на сённяшні дзень. Нават сама не ведаю чаму. Разумееш? Ты гэта павінен разумець.

— Па-мойму, ты залішне хвалюешся. Справа, увогуле, нескладаная.

— І мне так здавалася, Баркунчык. Пакуль у Саюзе не пабывала.

— Павел Аржыська пераканаў? — не здолеў схаваць ён насмешлівай ноткі, і Міхаліна ўзвілася:

— Ды ні ў чым ён мяне не пераканаў! Мо толькі ў тым, што і мастак можа ператварыцца ў чыноўніка. У гэткае пудзіла, прыдушанае ўласным гальштукам, якому дазволена карыстацца наборам з дзесяці завучаных фраз: «Гэта немагчыма, таму што нельга...», «Ёсць адпаведныя інструкцыі...», «Пытанне не ставілася на абмеркаванне сакратарыята...» і таму падобнай лухтой. Не прабіцца да жывога чалавека, да жывога слова. Я — яму: «Павел, зразумей...», а ён у адказ — зноў пра інструкцыі, пра рашэнні сакратарыята. І быў жа нармальным мужыком некалі!

— Не ўсякаму шапка Манамаха па галаве.

— Пры чым тут... Ат, ну цябе! І табе — абы пазубскаляцца,— згасла Міхаліна, стомлена адмахнулася ад свайго раздражнення і Алесевых кепікаў.— Калі б не Аржыська, то нехта іншы... Знайшлося б каму ключ ад інструкцый перадаць. Крыўдна, што столькі намаганняў даводзіцца прыкладаць, каб давесці сваю праваты, адстаяць свае права. І перад кім!

— Ты з Дзімам Дзімычам гаварыла?

— З Дзімам Дзімычам? Думаеш, дапаможа?

Алесь ускінуў на плячо сумку, якую толькі што пакручваў у руцэ, і зажэстыкуляваў, забягаючы наперад і зазіраючы Міхаліне ў твар:

— Ніхто, апроч Дзімы Дзімыча, не дапаможа! Да Аржыські яна пайшла — без паперы зверху — са спадзяваннем на былое сяброўства... Ды ты б у мяне спытала. Ці ў Чэся. Ці ў любога! Павел жа даўно на кручку, званне сабе

выслугоўвае. Што яму твае клопаты? Што яму сёння само мастацтва?

— Ты не перабольшваеш, Алесь? — устрывожылася Міхаліна.— Калі ён паспеў так змяніцца? Яшчэ ж і двух гадоў не мінула.

— Не ўсякаму шапка Манамаха па галаве, дарагуля, а калі ад таго, што дужа імкнешся начальству дагадзіць, шыя надламалася...— Алесь пазмрачнеў, перастаў размахваць рукамі, ішоў побач, не паварочваючы да яе галавы.— На жаль, Аржыську сёння ў выпадку чаго падтрымае пераважная большасць. І хоць мы ведаем, хто ўяўляе сабою большасць у мастацтве, не лічыцца з гэтым нельга.

— А Дзіма Дзімыч?

— Не ўсё можа і Дзіма Дзімыч. У тваім выпадку — ягонай вагі, думаю, хопіць, каб павярнуць сітуацыю, давесці што воля мастака і задача мастацтва... Ну, ды ты разумееш, пра што я! А ўзнікаюць жа і больш вострыя, больш складаныя сітуацыі, калі вырашае ўсё тая ж большасць...

— Слухай, Баркунчык, я і не ўяўляла, што ў нас усё да такой ступені кепска,— запынілася на рагу праспекта Міхаліна: яна ўжо дайшла і мусіла са сваім спадарожнікам развітацца.— Я рэдка бываю ў Саюзе...

— І правільна робіш,— намагаўся Алесь усміхнуцца, але ўсмешка, ледзьве засвяціўшыся, згасала.— Што б ты магла напісаць, калі б улезла ў розныя звады і плёткі?

— А ты, Баркунчык?

— Я ўсё-ткі мужчына,— урэшце заўсміхаўся той.— Па самой прыродзе сваёй — ваяр.

— А-а-а,— не знайшлася Міхаліна.

— Ты будзеш у майстэрні да вечара? Я паспрабую прывесці Дзіму Дзімыча і яшчэ сяго-таго з выстаўкома — хай зірнуць на тваю новую работу. Так?

— Бар-кунчык!

— Ну, ну, Ліна! Чакай гасцей,— адвярнуўся ён ад поўных ззяння Міхаліных вачэй і, паправіўшы на плячы сумку, рушыў да перахода.

Натоўп не адразу паглынуў Алеся — нейкі час Міхаліна бачыла яго мажную постаць, яго лёгкую парусінавую куртачку брудна-жоўтага колеру і такі ж парусінавы, толькі чыста-белы, брыль на хвалістых, крыху ніжэй нормы адпушчаных валасах. Потым, па той бок Даўгабродскай, заслонены трамваем, які доўга перапаўзаў праспект,

Алесь знік, а яна яшчэ хвіліну-другую марудзіла, супакойваючыся, пасля ціха пакрочыла ў бок майстэрні. На душы трохі пасвятлела...

## 14

Сонца, застылае над самым крайком зямлі, якая, колькі вока хапала, спрэс уяўляла сабою лес камяніц, здаецца, сумна ўсміхалася гораду, стомленым за дзень жыхарам яго, і Міхаліна, перш чым увайсці ў пад'езд і падняцца на свой паверх, доўга стаяла на каменным ганку. Думала, што лета незаўважна мінае і трэба знайсці, вызваліць колькі вольных дзён, выбрацца да каго-небудзь са знаёмых на дачу. Ці на Нарач з'ездзіць — надзівіцца, надыхацца чыстым паветрам, адпачыць. Карціна, над якой працавала недзе больш года, так выматала, так высмактала душу, што пустата ўнутры пагражае перайсці ў глыбокі нервовы спад. І гэта не магло не пужаць: ледзь толькі пагодзіцца з гэтаю бездапаможнасцю, ледзь толькі прыме стому, слабасць сваю як належнае — і не скіне яе, не здолее скінуць.

Сонца апускалася, хавалася за каменнымі перагародкамі гарадскіх гмахаў, ціха дагарала над ім неба, і позірк марна адцягваў халодны цень ночы, які насоўваўся з усходу: дзень саступаў суцемкам, яшчэ ледзь заўважна, але саступаў. І дагарала неба... Не так, інакш, чым напісала Міхаліна на палатне,— і ўсё ж, мо таму, што хвіліны развітання з сонцам, са святлом паўтараліся, доўжыліся ў яе на вачах, думкі вярталіся да карціны. Прыналежнасць... Загадка жанчыны — загадка творчасці — загадка сусвету... Хто калі адгадае гэту адвечную загадку?

Затрымаўшы дыханне, затрымаўшы ўздых, які рваўся з грудзей, Міхаліна са шкадаваннем адвярнулася ад неба. Палезла па ключы. Наткнулася на канверт, на пісьмо, якое пранасіла ўсе апошнія дні ў сумачцы, ніводнага разу не згадаўшы пра яго. Дастала канверт, зірнула на зваротны адрас — і не паверыла сваім вачам: пісьмо было ад Жоржа, з Масквы. Зноў і зноў углядалася ў почырк, у зваротны адрас, дрогкімі пальцамі пакручваючы пісьмо і так і гэтак: памылкі не было. Чамусьці азірнулася цераз плячо на неба — так, бы заклікала яго ў сведкі, і заспяшалася.

Дома, скінуўшы туфлі і не пераапранаючыся, разарвала канверт, выцягнула складзены, густа спісаны лісток і адчула, што чытаць не можа: літары скакалі ўваччу, расплываліся... Змусіла сябе на міг-другі прымружыць вейкі і супакоіцца. Прайшла ў пакой. Уціснулася з нагамі на крэсла, разгарнула пісьмо.

«Штосьці змушае напісаць табе, сказаць табе, Міхаліна, што я ніколі не забываў ні поўныя п'янлівага чаромхавага водару вечары над Пціччу, ні цёплае на дотык неба над імі — над намі, шчаслівымі яго блізкасцю. Не забываў, і чым далей адыходзяць тыя вечары, тым выразней відаць, якою непамернаю была плата за свабоду. За ўяўную, як высветлілася ў хуткім часе, свабоду... Не каюся — сумую, і ў смутку маім патанаюць, патанулі ўсе гады, што нас падзяляюць...»

Якія гады? Чые? Заслона, сцяна іх хістаецца і падае ад першага ж рашучага дотыку пальцаў, ператвараючыся ў лёгкія прыступкі. Уздых, другі — і вырываецца з-пад ног сцежка, і ўзлятаюць з-за плячэй кусты чаромхі, і ўспыхвае, як лілеямі, зоркамі парослая рака, і ў яе дзівосным святле патанаюць усе рухі, усе гукі. Валасы Жоржа, вейкі, вусны... Усё пахне чаромхаю — і кружыцца галава, ад салодкага гэтага паху кружыцца галава. Толькі Жоржавы рукі ўтрымваюць яе на зямлі.

«Глупства! — бароніцца Міхаліна.— Больш як дваццаць год мінула». А перад вачыма — не літары, а гострае лісце травы, якая калышацца, вышэе, падымаецца над ёю, засланяючы яе ад неба. Міхаліна імкнецца вырвацца, выслабаніцца, хоць усведамляе, помніць, што гэта не трава трымае яе, а рукі, шэпт, пацалункі. Штосьці Жорж, закалыхваючы яе ў абдымку, шэпча!

«Штосьці змушае напісаць табе...» Не, не, не тое. Далей. «Усё ты, Міхаліна, ты і твая карціна, паказаная летась, прычынаю... «Крылы» — назвала ты карціну. Назвала дакладна. Справа не ў назве. Справа, магчыма, нават не ў самой карціне. Сёння, калі чалавек, надзелены крыламі, успрымаецца падазроным — не той час, як кажуць, на дварэ, каб свету, узброенаму ракетамі і касмічнымі караблямі, нагадваць пра крылы, якія так лёгка ламаюцца пры падзенні,— ты спрабуеш укрыць гэтымі, столькі разоў ламанымі, струшчанымі крыламі зямлю і чалавека на ёй. Ты, жанчына, спрабуеш удыхнуць душу ў пустую абалонку згадкі, абмянянай на матэрыяльны поспех мары,— і тваё паражэнне абарочваецца перамогаю. Бо гэта толькі

наша штодзённая мітусня змушае прымаць на веру тое, што чалавек — мошка ў шалёным патоку ветру, часу...»

Аднаўляючы ў памяці згаданае Жоржам палатно, Міхаліна бачыць раку, лугавіну, парослую высокаю, у рост чалавека, лотаццю і сябе — іх дваіх — у гэтым дзівосным зарасніку гнуткіх, празрыстых на святле сцяблін. Празрыстых! — бо вось жа не проста вылучаюцца, акрэсліваюцца за імі дзве юныя постаці, відаць, як трымцяць, цягнучыся насустрач адна адной, іх рукі, як імкнуцца зліцца ў адно іх аголеныя целы. Яны ўжо зліліся, спалучыліся — не рухам насустрач, а гэтым адвечным памкненнем, якое адно і можа акрыліць — акрыляе! Бо што ж, як не крылы, уяўляе сабою неба за імі? Дзве постаці — два крылы, на якіх льга ўзляцець толькі ўдваіх, толькі разам, пасля таго, як сплятуцца рукі, словы, дыханне, пасля таго, як сплятуцца іх целы са сцяблінамі лотаці і зямля вырвецца з палону свайго цяжару.

«Багі звергнуты — і ўсё ж, не зніклі. Разбіўшыся аб скалы нашых супярэчнасцей і разгубляўшы, зблытаўшы крылы, ногі, косткі, яны жывуць сярод нас, побач з намі, і — ледзь падымеш вочы ад зямлі пад нагамі — упіраешся ў іх пагляды: не зміргнуўшы, глядзяць, углядаюцца яны ў нас, у тое, што з намі будзе. Часам, як сёння, мне здаецца, што яны — гэта мы, тыя, якімі, некалі нарадзіўшыся, павінны былі стаць».

Павінны былі... павінны былі... Словы зачапіліся за якуюсь невыразную думку і не давалі чытаць, дачытаць пісьмо. Міхаліна прыкрыла вочы, спусціла з крэсла і выпрастала ногі, адкінуўшыся на спінку: ні яна, ні Жорж нічога не павінны адно аднаму, і дзіўна, што словы яго знайшлі яе, дагналі на тым шляху, які доўга кружляў па гадах і вось-вось пакоціцца з гары, да таго свайго канца, які замкне круг. Жорж ніколі не казаў ёй гэтых слоў, ён, наогул, не верыў словам і пазбягаў іх. Нават вітаўся і развітваўся жэстам, рухамі вуснаў, з якіх яна, Міхаліна, сама складала сваё імя.

«Мастак гаворыць пэндзлем»,— звычайна адгукаўся Жорж на чый-небудзь папрок, і тое, што і яму раптам спатрэбіліся словы, тое, што ён напісаў Міхаліне, магло азначаць толькі адно: і ў яго ў жыцці не было (ці не стала) ніякай іншай апоры, апроч вынашаных, паўтораных неаднойчы самому сабе і цяпер моўленых ёй, Міхаліне, слоў. «Якімі мы павінны былі стаць...» Хто гэта ведае?

Лёсам жыццё становіцца пасля смерці, а з чыёй, як кажуць, ласкі...

Міхаліна церабіла пальцамі ліст, не распюшчваючы вачэй, не адганяючы думкі, хоць думкі былі сумнымі і сум, горкі, перастаялы, прыгнечваў душу, хоць незабытае і ўсё ж страчанае, пераможнае болем і шкадаваннем пачуццё збудзіла ў ёй адно трывогу. Трывогу за Жоржа.

«Я не кажу: прабач, не прашу: забудзь. Ведаю: ты даравала мне ўсё, што магла дараваць, забыла ўсё, што хацела забыць. Ні час, ні шлях назад не павернеш, ды і пра іншае я. Пра надзею. Пра крылы, якія трэба вярнуць чалавеку, якія можа вярнуць чалавеку толькі мастацтва. Я шмат працаваў, шмат разважаў — і, толькі ўбачыўшы тваё палатно, Міхаліна, зразумеў, што ішоў не тым шляхам, што памыліўся. Павер, шмат каштавала мне гэта прызнанне, і калі я ўсё ж пішу да цябе, то не толькі таму, што помню ўсё, табою, нашым юнацтвам, нашым каханнем асветленае. Ты — не страціла таго, што страціў я: шлях да людзей. І мне хочацца сказаць табе: смялей. Смялей, Міхаліна!»

Перачытала раз, другі раз. Паспрабавала адагнаць невядома чаму ўзніклую трывогу — нічога трывожнага ў пісьме не было! Смутак? Дык хвіліна, пэўна, такая ў Жоржа выдалася. Не напісаў жа ён ёй раней, ніводнага разу пасля іх расстання не напісаў. Зрэдку, гады ў рады, бачыліся на вернісажах у Маскве, сачылі адно за адным здалёк... Выходзіла, што сачылі.

Склаўшы і кінуўшы на стол пісьмо, Міхаліна паднялася, падышла да кніжнай паліцы, узяла адкладзеныя асобна часопісы «Искусство»: ва ўсіх трох нумарах былі рэпрадукцыі Жоржавых работ — дзве раннія яго работы і адна з апошніх. Знайшла па закладцы апошнюю. «Ткачыхі». Групавы партрэт. Напісаны са звыклаю ўпэўненасцю, што ў любым выпадку выратуе тэма. Не выратоўвала. У дадзеным выпадку — не.

Цяжка сказаць што-небудзь больш пэўнае, мяркуючы па невялікай рэпрадукцыі (работы на выставе Міхаліна не бачыла), але, як ёй здалося, ужо сама задума не выходзіла за рамкі бачанага раней і добра вядомага. Кволая задума. А калі яшчэ прыгадаць палотны Пятрова-Водкіна...

«Урэшце, творчыя спады бываюць у кожнага»,— супакойвала невядома каго Міхаліна і, злавіўшы сябе на гэтай думцы як не трэці раз, зазлавала: што і каму яна хо-

ча давесці? Што мастак мае права на няўдачу? Што ўсе яны — і яна, Міхаліна, таксама — змушаны ўлічваць кан'юнктуру (няхай сацыяльны заказ — адна халера!), адно каб зрэдку тая або іншая работа была закуплена? Закуплена і пастаўлена ў запаснік? Жорж парадаваўся яе поспеху, а поспеху — не было. Карціна напісана, паказана на адной з выставак і... І стаіць зараз сярод іншых падрамнікаў у майстэрні. І гэткі лёс напаткаў не адно палатно.

— Вось так яно,— мовіла яна ўголас, паставіўшы часопісы на месца і на міг адчуўшы палёгку.

А рукі ўжо выцягвалі з папкі чысты аркуш, адсоўвалі, вызваляючы край стала, вазу з букетам рамонкаў, купленым учора ў старой на праспекце, шукалі мякчэйшы аловак. І вось уздрыгнулі, напружыліся пальцы — і пабеглі, ірвучыся раз-пораз, з-пад пальцаў лініі. Думкі... Хутка малюнак пачаў набываць выразнасць, чытацца: спіной да акна, да крыжавіны аконнай рамы, стаяў, узіраючыся сабе пад ногі, юнак — Жорж, а пад нагамі... Пад нагамі ў яго валяліся паламаныя крылы, два зламаных крылы...

## 15

— Жорж?! Які Жорж? — ледзьве не ўпусціла Міхаліна тэлефонную трубку.— А-а-а... Ну, зразумела. І што вам трэба, Жорж Стрыжачык?

Расчараванне чулася ў яе голасе. І яшчэ палёгка. Так, нібы перахапіла на міг дыханне — і тут жа адпусціла, і ўся далейшая гаворка ўявілася нецікаваю. Нецікаваю і непатрэбнаю.

— Дзякуй... Толькі дыялога, баюся, у нас не атрымаецца. Вы — не мастацтвазнавец, я — не журналіст, з газетаю справы не мела. Мастак гаворыць пэндзлем, водгук на сказанае ім можа быць які заўгодна... Так, вы правільна зразумелі. Я адмаўляюся. Я ўдзячна вам за прапанаваную магчымасць. Усяго добрага.

Палёгка, якую яна адчула ў першы міг, змянілася глухім раздражненнем: дома спакою няма! Мала таго што суседскія краны завываюць сёння як ніколі адмыслова, заглушаючы няроўныя, фальшыва сыграныя паверхам вышэй фразы паланеза Агінскага, яе ўласныя думкі, дык яшчэ і тэлефон!

Прыняла душ. Накінуўшы халат, прайшла на кухню,

зварыла каву. Ніць каву наогул не варта было б, але і так і так, відаць, яна не засне, дык лепш з яснаю галавою... Ужо калі ўзводзіць паветраны замак, то з яснаю галавою, усведамляючы, чаго хочаш... Чаго яна, Міхаліна, хоча? Спакою. Спакойнай упэўненасці, што жыве так, як наканавана, робіць тое, што павінна рабіць і зробіць.

— Гарапты спатрэбіліся?

— А-а, гэта ты,— захінула халат Міхаліна, паварочваючыся на голас, і міжволі ўсміхнулася: госця ляжала на канапе і без халата і без сарочкі — так, бы толькі што прыняла душ і цяпер абсыхала, адпачывала.— Не прастудзішся?

— Дзіўныя вы, людзі,— як не чула яна Міхалінінага пытання.— Ганяецеся за шчасцем, і блізка не ведаючы, дзе яно і якое, верыце кожнаму кволаму памкненню свайму і пасміхаецеся з таго, што адзіна вылучае вас з усіх жывых істот на зямлі,— з душы, пры нараджэнні ўдыхнутай у кожнага з вас вечнасцю.

— Калі гэта я смяялася з цябе?

— Я — не адно тое, што перад табою,— пасунула падушку да сцяны, узбіла яе і прыўзнялася, абапіраючыся на яе, тая.— Усё, што не звязана з патрэбамі вось гэтага цела,— правяла далонямі ад шыі ўніз,— здаецца табе нематэрыяльным і, значыць, ірацыянальным, але калі простая кветка вырасла — хай сабе і за мільярды год — у такую складаную біялагічную структуру, як чалавек, чаму простае жаданне насыціцца не павінна вырасці ў неадольную прагу дасканаласці, у прагу духоўнасці?

— Але ж хіба...

— Я сказала: у н е а д о л ь н у ю прагу! Усё, чым ты сябе цешыш, за што плаціш, заплаціла маладосцю, каханнем, жыццём свайго дзіцяці,— плата гардыні сваёй, плата самалюбству. Сапраўдная ж плата — адмаўленне ад гардыні, ад самалюбства. Адмаўленне ад самой сябе, кволай, грэшнай,— дзеля іншага, слабейшага.

— Ты зноў абвінавачваеш.

— Хачу, каб ты зразумела.

— Я зразумела! Я не магу павярнуць назад час. Жыццё мінае, гады прыспешваюць — трэба здолець выказацца, сказаць усё, што набалела. Большага ўжо не здолець.

— А пісьмо, якое ты атрымала?

— Пісьмо спазнілася на дваццаць год,— адвярнулася Міхаліна, хаваючы сумныя і ўсё-ткі і ў смутку гэтым жорсткія вочы.— Словы ўжо нічога не значаць.

— Я не пра словы...

— А пра што тады, як не пра словы? — ціха, як сама сабе, мовіла Міхаліна, перапыняючы суразмоўніцу.— Пра каханне, якое выцекла з мяне крывёю ненароджанага дзіцяці? Пра міласэрнасць да таго, хто, спалохаўшыся адказнасці, адпіхнуў мой адчай? Ці мо пра адчай гэты, пераможаны гадамі, двума дзесяцігодзямі працы? Ні Жорж, ні хтосьці іншы ніколі не пацікавіліся тым, што ў мяне на душы, ніколі не пашкадавалі мяне. Чаму ж я...

— Ты — жанчына, любчык,— уздыхнула госця (яна сядзела ўжо насупраць, апранутая ў тую сукенку, у якой з'явілася тут упершыню).— Ты — жанчына, нават калі не згадваеш пра гэта ў мітусні і тлуме будняў, нават калі думаеш, што перамагла адвечнае, прыродаю дадзенае — удыхнутае ў цябе пры нараджэнні.

Міхаліна маўчала. Упэўненасць раптам пакінула яе: з чым яна спрабавала спрачацца? З кім? Сумненні не ўзнікаюць самі па сабе, на пустым месцы. Напісаныя і ненапісаныя палотны, сны, у якіх яна, аголеная, зледзянелая ў сваім бясконцым чаканні, стогне ад няўтоленай прагі кахання, каменная пастка тунеля, адкуль падоўгу не могуць выбрацца думкі ці згадкі, дзіцячы плач з-за сцяны гадоў, абмыты дажджамі, пацямнелы крыж на бабулінай магіле, недапітая бутэлька мутнай самагонкі на стале перад маткаю, перад ёю, Міхалінаю, прыстылаю да акна, зашклёнага памяццю, рэха стрэлу, што асыпаецца доле халоднымі слязінкамі... Усё сплялося, злілося! І нічога, нічога не здолела б Міхаліна адасобіць, вырваць з яго жывой цёмнай масы, каб забыць, каб адпрэчыць самае цёмнае, самае грахоўнае: толькі ўсё разам складала яе жыццё.

— Табе не прыходзіла ў галаву, што жыццё ў многіх сваіх праявах папросту не вытрымлівае ніякай крытыкі?

— Яно такое, якога чалавек заслугоўвае.

— Нават калі ён не заслугоўвае? — голас Міхаліны міжволі ўздрыгнуў.

— Любчык, чалавек такі, якім прагне быць, і мае толькі тое, чаго заслугоўвае. Не хавайся за ілюзіямі: паветраныя замкі ўстаюць там, дзе нічога іншага збудаваць немагчыма. Ці не ўдалося.

Госця стомлена павяла рукою па твары — і як сцерла твар: перш знік твар, потым растварылася ў паветры постаць, адно сукенка засталася вісець на спінцы крэсла.

Міхаліна прыкрыла вочы. Пачула, як хіснулася паветра зусім побач, нібыта прайшоў хтосьці паўз яе да

дзвярэй, і не расплюшчылася. Ці то гаворка стаміла яе, ці то мінула хвіліна шчырасці і аглухла душа, бо вось жа ледзь згаслі думкі — і адразу ў пакой уварваўся шум вады ў трубах. Потым, ледзь трохі аціхлі трубы, заглушаючы п'яную лаянку суседзяў, азваліся дрогкія клавішы старэнькага расстроенага піяніна... Дом ажыў — лаяліся, тужылі, мыліся, вячэралі, падсаджваліся да тэлевізараў яго жыхары, і яна, Міхаліна, была адна з іх. Проста — адна з іх.

## 16

Нечакана пазваніў Чэсь. Не вітаючыся, адразу злосна кінуў:

— Што гэта за Гэ Стрыжачык? Мо растлумачыш?

Міхаліна, захлынуўшыся радасцю («Успомніў!») і крыўдаю («Які Стрыжачык? Пра што ён?»), не адказала, не знайшлася, а калі Чэсь памянуў сем чортавых бабак і крыўда перамагла кволую радасць, паклала трубку: не пачынаць жа ўсё наноў, спачатку! Яна стамілася. Яна, урэшце, пагадзілася ўжо на паражэнне: сорак два — не дваццаць два...

Тэлефон зноў азваўся. Павагалася, але трубку ўзяла.

— Вас слухаюць.

— Я толькі хацеў сказаць, што артыкул у «Советской Белоруссии» бездапаможны. Па ўсіх мерках.

— Які артыкул, Чэсь? — забыла пра сваю крыўду ўстрывожаная нядобрым прадчуваннем Міхаліна.— Што ты маеш на ўвазе?

— Ты нават не чытала? Не ведаеш, што ў тваёй творчасці пакалупаўся нейкі Стрыжачык, яўны дылетант і ў мастацтве і ў мастацтвазнаўстве? Не чула?

— Стрыжачык? Жорж Стрыжачык...— тапталася на словах Міхаліна, нібы бачыла перад сабою гэтага Жоржа з глюгаватым носам і нахабнаю ўхмылкаю на твары.— Дык ён асмеліўся... Ад гаворкі адмовілася — тут жа артыкул зварганіў! Што ён там піша?

— Пачытай, пачытай,— цішэй, спакайней адазваўся Чэсь і, кашлянуўшы, абарваў гаворку, адключыў сувязь — сувязь, на жаль, аднабаковую; адкуль ён званіў, Міхаліна не ведала. А каб і ведала!

У нерашучасці раз і другі раз абмерала крокамі сваю кватэрку: дамываць бялізну і не хацелася і трэба было —

не кідаць жа яе ў ванне. Злосць то ўспыхвала, то згасала. Міхаліна то хмурылася, то зноў, прымусам, выціскала з губ пагардлівую ўсмешку: пісакаў развялося! Хто калі пацікавіўся, чаго каштавала ёй кожнае намаганне?

Злосць пякла нутро — ёй нельга даваць разрасціся, каб не страціць меру рэальнасці. І Міхаліна прайшла ў ванную, намерваючыся ўсё ж прадоўжыць работу, звыклымі, добра разлічанымі рухамі трохі супакоіць думкі. Што ён там мог напісаць, гэты Стрыжачык? Што ёй далёка да вялікіх майстроў? Што карціны, усе як адна, носяць камерны характар? Што рамантызм па нашым часе выглядае, мякка кажучы, смешна? Лухта ўсё гэта. Мастака можна судзіць толькі па законах, ім самім створаных. Пісакаў зашмат развялося, і ўсе ў суддзі лезуць!

Злосць пякла нутро і не цішэла, не згасала. Хоць, здавалася, і прычыны відочнае не было: Міхаліна ж яшчэ і тэксту не чытала...

«Трэба Баркунчыку пазваніць: ён пэўна ўсё ведае»,— мільганула думка, і Міхаліна тут жа стала выціраць рукі, кіруючыся да тэлефона.

— Алесь? Ну, пачакай ты са сваім «цалую ручкі!»! Не дужа заняты зараз? — не давала яна Баркуну і слова вымавіць.— Тут нейкі гнусны артыкул у «Советской Белоруссии» з'явіўся. Ведаю, што чытаў...

— Чытаю, мая радасць,— ушчаміўся ўсё ж у гаворку Алесь.— Вось толькі зараз, сію мінуту чытаю.

— Чытай уголас,— не папрасіла, загадала.

— Лі-на! У мяне ж перад вачыма — не газета, а тваё апошняе палатно. Павер...

— Чытай, чытай!

Зашарахцела газета. Зарыпела крэсла.

— Ну, вось. «Адарванасць ад жыцця». Любімая канцэпцыя крытыкаў, для якіх жыццё вымяраецца...

— Можна без каментарыя, Баркунчык?

— Ды лухта ўсё! Ну, вось, паслухай: «Мастак звычайна пачынаецца з клопату. Ён, першапачаткова, чалавек неабыякавы ні да гора людскога, ні да радасці людской — імкнецца не толькі думкаю, а і пэндзлем сваім разабрацца ў тым ці іншым канфлікце, у той ці іншай недасканаласці свету, прагне выслухаць, зразумець і — зрабіць учынак...» І друкуюць жа такое!

— А тое, што тычыцца непасрэдна мяне? — страціла цікавасць і да артыкула, і да іх гаворкі Міхаліна.

— Тут усё ў такім духу,— буркнуў Алесь, дадаўшы ў

бок ад трубкі колькі мацнейшых слоў.— «У той час, як перад нашым грамадствам стаяць грандыёзныя задачы перабудовы, спяваць гімны пачуццю, пачуццёвасці, заклікаючы падзівіцца на хараство двух аголеных памкненняў, да блізкасці — ЯГО і ЯЕ, мякка кажучы, малавата. Глядзіш, дзівішся — а як жа! — а самому так і хочацца звярнуцца да Міхаліны Міхайлаўны, запытаць: няўжо яе не хвалююць праблемы, узніклыя перад грамадствам? Няўжо ні гераічныя будні Чарнобыля, ні будзённыя клопаты мільёнаў людзей і іх самаадданая праца на карысць перабудовы не закранулі, не натхнілі?»

— І шмат там такога панапісвана? — перапыніла яна Алеся, адчуўшы, што недзе глыбока ўсярэдзіне заварушылася млосць.

— Плюнь! Не зважай. Усе нашы глыбока абураны. Чэсь збіраецца...

— Ён званіў мне. Дзякуй, Баркунчык. Мы неяк потым дагаворым, добра? Стамілася. Ты ж ведаеш, якімі выдаліся апошнія дні... Будзь!

Яна паклала трубку. Падумаўшы, адключыла тэлефон: яшчэ суцяшаць сёй-той кінецца, спачуваць, лухту гэту ўсур'ёз прыняўшы, і не будзеш ж тлумачыць, што пісаў не проста дурань — злоснік.

Пра гераічныя будні Чарнобыля згадвае... Носа нябось за ўвесь год на Палессе не паткнуў, балазе матэрыялы адтуль нікім не ўхваляюцца, а туды ж! — ёй, Міхаліне, папікае. Яна ездзіла. Яна на сваім «Запарожцы» ўсю Гомельшчыну аб'ездзіла. Пераканалася: трымаюць людзей нябачныя, моцныя повязі з зямлёю — не з зямлёю ўвогуле, а з тым кутком, куточкам, дзе ўсяго і месца, што ўробленаму іх рукамі полю, шнурку яшчэ дзедаўскіх хат ды могільніку, на якім з году ў год, з веку ў век хавала вёска сваіх мёртвых. Трымаюць нягледзячы ні на што. І геройствам гэта называй ці пакутніцтвам, свет стаіць, бо жывуць гэтыя сціплыя героі, гэтыя вялікія пакутнікі, і ў працы сваёй, і ў пакуце сваёй знаходзячы сэнс жыцця — і свайго жыцця, і зямнога. Менавіта так — і свайго і зямнога. І што б там ні казалі розныя стрыжачыкі , задача мастака — і яе, Міхалініна, задача — адчуць, перадаць адвечную сувязь чалавека з зямлёю, яго прыналежнасць да жыцця. Так, так, не столькі да зямлі, колькі да жыцця на зямлі, шматвяковая працягласць якога з пакалення ў пакаленне, з роду ў род і ўяўляе сабою вечнасць.

«Смерць так і так, дачушка, за чалавекам ходзіць,—

*— Я зараз, Косцік... Я ўжо іду,— мармытала Марыля, перабіраючы рукамі калючы дрот і сунучыся ўздоўж агароджы, управа.*

казала ёй старая з Брагіншчыны, з пасялянак.— I чым бы яна мяне, старую, напалохала, як дажываю я ўжо свой век, і гора і радасці на вяку паспытаўшы? Не, не ў смерці страх. Страшней, як ні смерці, ні жыццю не палежыш, з каранямі са сваёй зямелькі вырваная. Хай бы ўжо разам са сваёю хатаю памерці...»

Зосіма... Цётка Зосіма... I імя яе Міхаліна памятала. Неаднойчы нават спрабавала намаляваць па памяці, але адно воблік угадвала. Воблік жа — не вобраз.

Здэцца, і шмат замалёвак, малюнкаў летась прывезла яна са сваёй сумнай вандроўкі, а ўсё не тое. Не тое. Матэрыял, канечне, як хмура даводзіў ёй Чэсь, але дзеля яго не варта было лезці ў пекла. Тады, у тое лета, ні Чэсю, ні каму іншаму Міхаліна не растлумачыла б, што справа не ў матэрыяле, што не сведчанні, не малюнкі пакінутых людзьмі родных сваіх котлішчаў ёй спатрэбіліся — боль пагукаў. Боль, які больш нагадваў віну, варочаючыся, пераварочваючы ўсё ў душы: дасюль душа не на месцы.

Выцягнуўшы з шафы, з шуфляды, вялікую папку, Міхаліна перабірала, перакладвала свае накіды, малюнкі з натуры, пільна ўглядваючыся ў постаці, у твары, у падворкі, якія зарастуць — зараслі ўжо, відаць,— пырнікам і палыном. Думала пра старую Зосіму. Думала пра сябе і сваю працу, у якой сыходзіліся ніточкі іхніх лёсаў. Усёткі — сыходзіліся, куды б ні прывёў Міхаліну шлях. Дзіўна, што яна не разумела гэтага раней.

Бабуля, маці, Дзіма Дзімыч, цётка Зосіма, яна, Міхаліна... Ланцужок не павінен быў абарвацца, і ў тым, што абарваўся, абрываецца — і віна яе. Пасля гора і крыві, пасля навалы фашысцкай і галодных, беспрасветна-цяжкіх гадоў пасляваеннай разрухі, пасля чумы радыяцыйнай, якая спусташыла цэлыя раёны, на ёй, Міхаліне, абрывалася повязь часоў. На ёй, на жанчыне, якая не стала маці. Вось што другі год мучыла яе, і адзінае, што прыносіла палёгку,— праца і імкненне выказацца, выказаць гэтую муку.

Смерць так і так за чалавекам ходзіць... Ды ўжо ж. Прыйдзе час — і яна мусіць павярнуцца да яе тварам, не выказаўшы ні нязгоды, ні здзіўлення. I не гэта трывожыла, не. Нездарма ж апошнюю работу падпісала: «Прыналежнасць».

Раскладзеныя па стале, па канапе і проста на падлозе малюнкі стваралі незвычайнае ўражанне: так, нібыта час пацёк назад, наўстырч, вымываючы з забыцця асобныя

імгненні,— мільгалі чыесьці падворкі, чыесьці твары... Твараў было шмат, асабліва дзіцячых,— яны розніліся, нават паўтораныя, намаляваныя неаднойчы, а па некалькі разоў, і ўсё ж на кожным з іх (нават на дзіцячых тварыках) чыталася адно і тое ж — горкае, тужлівае: што гэта з намі? што з намі будзе?

## 17

— Што будзе? А нічога не будзе. Хто жывы, той не мёртвы, а не дабярэ свайго веку — вінаватых шукаць не кінецца. А і кінуўся б... Дзе іх знойдзеш, тых вінаватых, калі ўсе як ёсць перад адным вінаваты: хто, назад азірнуўшыся,— перад бацькамі, хто, далёка наперад не зазіраючы,— перад нашчадкамі, і ўсе, у мітусні і штурханіне дзён,— адзін перад адным. Мо каб кожны ўсвядоміў сваю віну, і жылося б чысцей, без хлусні.

— Ёсць жа хлусня дзеля ратунку. Дзеля ратунку, разумееш? — невядома чаму стала бараніцца Міхаліна, зябка кратаючы плячыма.— Каб паніку папярэдзіць. Каб адчай адвесці ці ўдар змякчыць. Не кожны ж пад цяжарам праўды ўстоіць.

— Так, пад цяжарам праўды можа не ўстаяць чалавек, зламацца, ды хіба лепш, калі ў расцы хлусні душа яго загіне, захлынецца? А? — наблізілася амаль ушчытную госця, цікуючы за Міхалінаю, за недаверліваю ўсмешкаю ў яе на твары.— Вось ты малюнкі леташнія перабірала, дні тыя страшныя ў памяці аднаўляла, а чым, як не хлуснёю, дні тыя, падзеі тыя ад цябе, ад усіх вас агароджаны? Маўчыш? Дык я табе скажу: хлус-нёю! Бо не хочаце вы праўды. Баіцеся. За сябе, за свой душэўны спакой боязна: раптам згоркне ён і выплюнуць давядзецца сабе ж пад ногі — а там і паслізнешся, і шыю зломіш ненарокам, божа барані, як кажуць... У расцы ж, асабліва калі з ёю звыкнуцца, нішто сабе: гнілым смярдзіць, але спакойна, руху не адчуваецца, але ўжо куды-куды, а на быстрыну яна не памкне, у вір не зацягне. Ды і рыбку якую-ніякую зладзіць можна — як не з'есці, дык пахваліцца перад суседзямі...

— Злосная ты сёння.

— Злосная? А хоць бы і так. Сама ж мяне гукаеш, ад людзей збегшы, вось і слухай. Ад каго яшчэ гэткае выслухаеш?

— Дык ты пра мяне гаворыш! — заўсміхалася, хаваю-

чы непрыязнасць, Міхаліна.— А я ўсё гадаю, хто гэтыя «вы», хто праўды не хоча і за свой душэўны спакой баіцца.

— Ты нічым не рознішся ад іншых.

— Так-такі і нічым? А тое, што я з табою... Як цябе, дарэчы, называць?

— У мяне няма імені. Я прыходжу, таму што ты прагнеш зазірнуць у бездань.

— Але, але,— усміхалася Міхаліна, упершыню не баючыся пакрыўдзіць, адштурхнуць сваім бязвер'ем госцю.— «Душа, што бездань,— не разгледзець дна за воблакамі. Грукатам лавіны заглушыць крык... Апомнішся — адна...»

— Тваё?

— Ну, што ты! Запомніла, бо аўтара гэтых радкоў абвінавацілі ў самалюбаванні. Ці ў самаўсхваленні. Штосьці ў гэтым родзе. А дарэмна абвінавацілі: малюнак дакладны.

— Воблакі — лішняе...

— Магчыма. Толькі той, хто падымаўся ў горы, з табою не пагодзіцца.

— Мы адышлі ад галоўнага,— нахмурылася госця, адварочваючыся.— Жыць на краі бездані небяспечна і, як бы там ні было, страшна. Ты не можаш з гэтым не пагадзіцца і марна хаваешся за ўсмешкаю: нябось узвыць часам хочацца ад бяссілля, ад страху і бяссіля?

Міхаліна, нервова пакусваючы губы, змаўчала. Маўчала і госця, разглядваючы якуюсь з кніг на паліцы. Цішыня станавілася ўсё больш цяжкою, задушліваю, і нешта трэба было рабіць, нешта сказаць.

— Я пайду звару каву,— падбадзёрыла яна сябе ўзніклым раптам намерам.— А ты... Ты прачыні акно, калі хочаш.

Калі ўжо мінула калідорчык, азваўся тэлефон. Вяртацца і падыходзіць да яго Міхаліна не стала і здзівілася, пачуўшы, што трубку ўзяла госця («Фантастыка!»). Прыслухалася.

— Рада пачуць цябе. Крыўдую? З чаго ты ўзяў, Баркунчык? — яе, Міхалініным, голасам буркавала тая ў трубку, і Міхаліна міжволі чмыхнула: у Баркунчыка, няйначай, ад здзіўлення вочы на лоб палезлі.— Усё нашае наперадзе. Угу. Пачынае ж мне часам здавацца, што ты і ёсць той, хто пакахае мяне. Справа не ў каханні, кажаш? Глупства, кажаш? Ну, не, любчык, я ў пасцель з табою лягу толькі тады, калі дачакаюся, што ты пакахаеш...

«Гэта ўжо занадта!» — кінулася з кухні Міхаліна, каб

вырваць тэлефонны шнур і перапыніць гаворку. Тэлефон быў адключаны. Госця, падкурчыўшы ногі, сядзела на канапе і разглядвала кінутыя там малюнкі — некалькі адабраных з папкі малюнкаў. Абазваўшы сябе шаляніцаю і памянуўшы чорта, матлянулася назад і ледзь паспела ўратаваць пастаўленую на агонь каву, якая ўжо ўспенілася, пыхкала пагрозліва навіслаю над краем посуду пенаю. Падзьмухала, студзячы, колькі імгненняў перачакала і разліла па кубачках. Калі ўвайшла з імі ў пакой, з палёгкаю ўздыхнула: госця па-ранейшаму ўглядалася ў малюнкі, зябка кратаючы плячамі на кожны павеў паветра з шырока адчыненага акна.

— Падсаджвайся бліжэй,— запрасіла Міхаліна, паставіўшы кубкі і апусціўшыся ў адно з крэслаў.— Кава гаворцы не пашкодзіць.

— Ёсць удалыя малюнкі, любчык,— паднялася госця і, прычыніўшы акно, падышла, села насупраць.— Толькі і яны — эцюднага характару: ні болю ў іх, ні трывогі за імі...

— Табе не здаецца, што трывога, калі яна не адступае, хоць зрэдку не саступае спадзяванню, ператвараецца ў сваю сумную процілегласць? Вось жа жывуць людзі, не радуючыся жыццю, і пошасць абыякавасці распаўзаецца па зямлі. Жаданні-аднадзёнкі, лёсы-аднадзёнкі! — не адно будучыня, а і заўтрашні дзень недасягальны... Ні жыццё, ні маленства не пакідаюць месца спадзяванню — і гэта няправільна. Гэта жорстка. Праўда, праўда, праўда! У пагоні за ёю страчваецца штосьці большае.

— Большае за праўду?

— Разумееш, мы сталі заўважаць толькі тое, што пад носам: адзін выкарыстоўвае службовае становішча, другі паціху расцягвае казённае, трэці ходзіць ва ўсім імпартовым і есць каўбасу без нацэнкі, у суседзяў часта грыміць музыка, у начальстве ходзяць яўныя дурні... Усё так. Усё вымагае пэўных змен. Няхай нават карэнных змен. Але ж і тое праўда, што і той, хто ходзіць ва ўсім імпартовым, і той, хто не саромеецца сваёй запэцканай спяцоўкі, аднолькава абыякава абмінаюць слабога, аднолькава лена адварочваюцца ад п'янага мардаварота, які чапляецца да жанчын. Ад-ноль-кава! Годнасці сваёй чалавек не адчувае, сіле душы не верыць. Вось і змірыўся з тым, што замест спадзявання — сцежка да карыта, на якой, каб дасягнуць жаданага, трэба некага абагнаць, некага адпіхнуць, спіхнуць у гразь. І чым трывожней у свеце, тым хутчэй трэба

бегчы, тым хутчэй трэба адваёўваць сваё — па магчымасці сёння, па магчымасці сію мінуту.

— І цябе гэта ніяк не тычыцца?

— Чаму ж! І перада мною — тая ж сцежка, і я ўцягнута ў гон. Не хачу, не хачу, разумееш? — і ўцягнута, і бягу разам з усімі, і ўжо задыхаюся. Калі б не творчасць, калі б не гэты паветраны замак, на сценах якога я магу развешваць малюнкі, карціны сваёй душы, перайначваючы рэчаіснасць, і не ведаю, ці жыла б.

— Але ж уяўленню ніколі не змагчы рэчаіснасць, мары ніколі не падмяніць жыццё,— пакручвала кубак перад сабою госця, і пацямнелы твар яе то адплываў, то зноў набліжаўся да Міхаліны.— Ты нават не ўсведамляеш усю трагедыю свайго адзіноцтва.

— А мае карціны?

— Твае карціны... Яны — як воблакі, што імкнуцца прыкрыць бездань і прыкрываюць. Толькі бездань ад гэтага не становіцца менш небяспечнай.

— Больш, менш... Гандлярскі нейкі падыход,— задумалася Міхаліна, углядаючыся ў субяседніцу, як углядалася б у люстэрка, у свой адбітак у ім.— Збоку, з пэўнай адлегласці такую дзіўную істоту, як чалавек, не зразумець. Мы і самі сябе не заўсёды разумеем. Раздвоеныя свядомасцю — вось як я з табою! — жывём і бачым сябе, жывых, жывём і ведаем, што паміраем. Быццам прысутнічаем пры сваім уласным жыцці.

— І кожны адчувае сябе адзінокім!

— І кожны, як канатаходзец, што ледзь утрымлівае раўнавагу на сваім канаце, помніць — перакананы: трэба ісці наперад, трэба ісці, хоць недзе, у самы нечаканы момант, канат не вытрымае і абарвецца, абарваўшы жыццё.

— А твае карціны? — спытала цяпер ужо госця, злёгку ўстрывожаная глыбокім смуткам Міхаліны.

— Карціны? — адштурхнулася Міхаліна ад пытання, каб падняцца, павярнуцца і адысці да акна, але не паднялася — сядзела ўсё гэтак жа насупраць, твар у твар, вочы ў вочы.— Карціны — гэта памкненні вырасці. Узняцца над сабою. Узляцець, калі хочаш, учуўшы пошум крылаў за спіною. Ат! Усё не тое. Усё не так проста. І не так прыгожа. Хто-хто, а ты не падманваешся: хутчэй ужо не пра крылы, а пра боль, пра пакутны боль і жаданне вырвацца з яго спратаў трэба ў такім выпадку гаварыць.

— Ты не ўсведамляеш усю трагедыю свайго адзіноцтва.

— Ды ўсё я ўсведамляю! — зазлавала Міхаліна.— Не крычаць жа пра сваё адзіноцтва дзень і ноч, абвінавачваючы ўся і ўсіх,— усе з таго ж цеста, што і я. Мо каго і камечаць, ціскаюць часцей чыесьці рукі, не ў тым шчасце.

— А ў чым? — падсунула ёй і свой кубачак кавы госця.— У тым, што ты думаеш пра сябе лепей, чым пра астатніх?

Адпіўшы глыток халоднай ужо кавы з прапанаванага кубка, Міхаліна цяжка паднялася, прайшлася па пакоі, раз і другі раз, зноў гэпнулася ў крэсла, зноў падхапілася, матлянулася да акна. Позірк слізгануў па сцяне насупраць... Сцяны — не было. Так, бы акно выходзіла не ў калодзеж двара, а ў начную бязмежную прастору неба, якая плыла, адплывала кудысьці ў будучыню.

— Хто трымаецца за тое, што мае, з ім і гіне.

Азірнулася на незнаёмы, больш глухі, чым у госці, голас — пакой апусцеў.

А неба плыло, адплывала кудысьці ў будучыню, і такі жаль паласнуў раптам па сэрцы, што Міхаліна міжволі прыціснула да грудзей бяссільныя дрогкія рукі, міжволі ўслухалася ў іх дрыжанне, у холад, які перацякаў з іх у сэрца, аціхлае і напалоханае гэтаю цішынёю. Усясветнаю, як здалося, цішынёю. Бо вось жа не чула яна ўжо ні свайго дыхання, ні дыхання ночы. Бездань, перавернутая дном угору, уцягвала ўглыб — увысь! — мірыяды зорак, мірыяды агеньчыкаў, і зоркі гэта ці свечкі ў руках тых, каму наканавана дарога ў адзін канец, не ведаў ніхто на зямлі. І яна, Міхаліна, не ўзялася б сказаць. Заціскала жаль, як заціскаюць звычайна рану, і слухала, слухала цішыню, не адганяючы думак пра хуткаплыннасць часу, пра хуткаплыннасць жыцця.

## 18

Дзень выдаўся такім сонечна-празрыстым, што, здавалася, не заўважыць у ім воблачка ці, тым больш, дажджавую хмару проста немагчыма. Ды і не было ніякай хмары. Сонца, ужо даўнавата пераваліўшы цераз самы высокі грэбень сінечы, не спяшалася сысці са шляху, саступіць яго вечару і закаціцца ў заўтрашні дзень — адно расло ў памерах і, наліваючыся чырванню, прыглушвала сваё ззянне, яшчэ нядаўна нясцерпна яркае і калючае, а зараз мякчэйшае, роўнае. Промні нібыта раствараліся ў павет-

ры, надаючы яму залацістае адценне, і калі пырснуў, сыпануў з чыстай, роўна асветленай вышыні нечаканы раптоўны дождж, кроплі яго ззялі, пераліваліся ўсімі фарбамі адвячорка, ад залатой да ліловай.

«Цыганскі дожджык!» — прыгадаліся Міхаліне пыльныя вулачкі яе маленства, па якіх яна з сябрамі, басанож, уцякала ад дажджу, смеючыся і дражнячыся: «Цыган, цыган, не бі па нагах, сонца добра бачыць, чые ногі скачуць!..» Дражнілка як дражнілка, а смеху — на ўвесь гарадок: сонца смяялася, і шкліны ў вокнах, і вымытае ліс цейка вішань, і трава. І ўжо ж, канечне, яны — малеча. Бегалі з дажджом наперагонкі, дражнілі яго, павіскваі ад дзіўнай, па-дзікунску неўтаймоўнай радасці на кожную сыпанутую ім жменю халаднаватых кропель і смяяліся — ад таго, што лета, ад таго, што да ніткі вымаклі, ад таго, што не помнілі (у такія хвіліны гэта ўяўлялася няважным, нязначным) ні пра галодныя босыя дні свае, ні пра нядаўняе ваеннае ліхалецца, з якога ішлі і ехалі праз гарадок калекі, старцы, інваліды з жаласнымі песнямі ў мяхах гармоніка, з просьбамі аб міласэрнасці на дрыготкіх губах.

Цыганскі дожджык... Мо таму цыганскі, што вясёлы? Зіхоткі россып сонечных пырскаў вабіў, уцягваў у свой вясёлы скач — нікому не хацелася схавацца пад дах, ніхто не спяшаўся раскрыць парасон. Па тварах толькі што заклапочаных людзей блукалі лагодныя ўсмешкі, і Міхаліна была ўпэўнена, што шмат хто, як і яна, прыгадваў сваё маленства, сваё штодзённае чаканне цуду — хоць бы такога простага, як дождж. Гэта хвіліна міне, але пакуль яна не мінула, можна не думаць пра тое, што чакае штурханіна ў магазіне і потым — з напакаванаю сумкаю — у перапоўненым аўтобусе, што стома і раздражнёнасць знойдуць выйсце дома і вечар, як зазвычай, будзе сапсаваны лаянкаю са стомленым і гэткім жа раздражнёным мужам (ці жонкаю, калі гаворка пра мужчыну), што наперадзе такі ж тлумны будзённы дзень, як і сёння, і ніводзін дождж не адмые яго ад шэрані і дакукі звыклага, не імі заведзенага парадку. Думкі пра гэта вернуцца, але пакуль яны не вярнуліся...

Віхрастага хлапчука гадоў шасці, які перабягаў Даўгабродскую, не зважаючы на рух, Міхаліна, спыніўшыся на папярэджанне святлафора ля самай трамвайнай лініі, убачыла з-за хваста трамвайнага вагона як бы другім зрокам: малы азірнуўся па некага ззаду, мо проста на голас,

і не запыніўся — трамвай жа ўжо мінаў скрыжаванне! Малы не заўважыў і не мог з таго боку заўважыць, што насустрач гэтаму трамваю, размінаючыся з ім на скрыжаванні вуліц, ішоў яшчэ адзін, што пад колы яго ён якраз і выскачыць праз міг-другі... Трэба было нешта рабіць. Трэба было паспець штосьці зрабіць!

Не ўсвядоміла ні свайго намеру, ні свайго руху: шырэў, выпускаў яе са сваёй каменнай пасткі доўгі вузкі тунель — адно паспець трэба, паспець дабегчы да малога і захінуць яго ад скрыгату, ад чыйгосьці крыку, ад ценю, што ўжо насоўваўся і вось-вось накрые хлапчука, абрушыўшы на яго — і на яе — чорныя свае скляпенні. Яна не ўсвядоміла, калі, як зрабіла адзіна магчымы выратавальны рух — сутыкнуўшыся з малым на самай мяжы аграмаднага рухомага ценю, абхапіла аберуч яго гарачае цельца, прыціснула яго да сябе, зрабіла яшчэ адзін рывок, яшчэ адзін крок і адчула, спіною, скураю адчула халодны, ледзяны шоргат жалеза — ледзяны скрыгат, так бы злосна скрыгнулі ззаду чыесьці зубы.

— Мі-ша!!

Здалося, крычалі адначасова ўсе, хто памкнуўся, кінуўся сюды, на сярэдзіну вуліцы, да трамвайнай лініі, зіхоткай ад дажджу, акружаючы шчытным кальцом яе, Міхаліну, і ўратаванага ёю малога, якога яна па-ранейшаму моцна прыціскала да сябе. Пырскі дажджу змешваліся са слязьмі: яна паспела! усё-ткі п а с п е л а! І гэта было галоўнае. І ўсё астатняе не мела значэння.

— Божа мой, я нават заплюшчылася...

— Добра, што ўсё абышлося!

— За імі вока ды вока трэба...

— Што ж вы адпускаеце сына на такім небяспечным пераходзе?

— Дзякуй, Міхаліна.

— Папа! — тузануўся ў яе з рук хлопчык, і, адпускаючы яго (цяпер ужо можна!), Міхаліна падняла вочы: перад ёю, камечачы дрогкімі пальцамі тонкі сынаў плячук, стаяў Чэсь.

— Вазьміце,— сунуў які-ўсь дзяцюк яе сумачку, падабраную на рэйках, і яна, хутчэй машынальна, узяла яе ў яго з рук і, ні на каго больш не падняўшы вачэй, рушыла ісці.

— Міхаліна! — пачула не столькі вокліч, колькі дотык знаёмай рукі і не спынілася. Ішла, павярнуўшыся, назад, цераз вуліцу, і плакала, і слёзы змешваліся з залатымі

пырскамі дажджу. І было ў гэтым штосьці ачышчальнае — з кожным крокам дыхалася лягчэй, вальней, і не важна, што ішла яна не ў бок Палаца мастацтва, дзе праз дзесяць — пятнаццаць хвілін адкрывалася выстаўка, і не ў бок майстэрні, размешчанай непадалёку, а ўніз па праспекце, па мокрым яго тратуары, без пэўнай мэты. Без пэўных думак нават, бо ні пра што яна не магла зараз думаць — радасць вярнулася да яе, дзіўная, па-дзіцячы неўтаймоўная радасць, якая не шукае тлумачэнняў і прыходзіць адзіна для таго, каб падарыць раптоўныя хвіліны еднасці з зямлёю і небам і злячыць ад тугі, ад задушлівай тугі душу.

## 19

— Слухай, хто ён такі — гэты М. Бабура?

— Не ён, а яна.

— Я-на?!

— А што? Занадта высокі ўзровень для жанчыны?

— Ды не... Толькі...

— Толькі факт гэта, факт, стары: сёння жанчына ў творчасці смялейшая. Смялей выказваецца. І даўно трэба б прызнаць...

— Кінь ты! Не ўзводзь адзінкавы выпадак у правіла.

Выстаўка... Выстава... Чарговы вернісаж... А то яшчэ: мерапрыемства... Публікі, як звычайна, нямнога — і ўсё публіка зацікаўленая: мастакі, іх сябры, іх сваякі, іх крытыкі. Ходзяць па залах адзін за адным, гуртам, больш цікуючы за гаворкаю, чым углядаючыся ў карціны. Мо таму, што (каб потым не памыліцца ў ацэнках) з гаворкі сёе-тое льга ўлавіць, уразумець наперад. Мо таму, што вось так гуртам збіраліся нячаста, адно ў такія, як гэты, дні, а карціны правісяць штосьці каля месяца — прыходзь, дзівіся, сам-насам з тым палатном, якое ўпадабаеш.

— Міхаліну не бачыў? — наляцеў на Чэся, вылавіўшы яго паглядам у натоўпе, Баркун.

Чэсь моўчкі пахітаў галавою і азірнуўся на сына, якога ён моцна трымаў за руку.

— Поспех! Грандыёзны поспех, браце,— паляпаў Алесь яго па плячы, увесь ужо ў наступным руху.— Да яе карціны не прабіцца. Усе патрабуюць аўтара.

Ён ужо сарваўся з месца, ужо ўвінчваўся ў сустрэчны паток людзей, калі Чэсевы словы дагналі, ударылі яго:

— Ды не будзе яе!

Павольна, усім тулавам разварочваўся Алесь, чапляючы некага застылаю, здранцвелаю ў момант узмаху рукою. З нечаканаю ў сабе непрыязнасцю ўзіраўся ў яго Чэсь. Тры-чатыры крокі падзялялі іх, ужо непераадольныя крокі — яны адначасова зразумелі гэта і абодва, разам пацямнелі, насупіліся: з гэтага моманту і давеку паміж імі будзе стаяць жанчына, якую і адзін і другі (гэтак па-рознаму!) любілі.

Любілі? Слова сарвалася міжволі: ніводзін з іх не прамовіў яго нават у думках. Адно позіркі схліснуліся і немая непрыязнасць, больш падобная на раптам агаленую імгненнем нянавісць, выплеснулася доле. Адно твары, кранутыя паглыбокім адчужэннем, пацямнелі («Такую жанчыну пакрыўдзіў!» — скрывіў вусны Алесь, «Вока на ласы кавалак разгарэлася!» — звёў бровы Чэсь).

— Алесь! — пагукаў хтосьці Баркуна, і ён крутануўся на голас, не зірнуўшы больш на сябрука, адышоў.

— Ат, чорт! — працадзіў Чэсь скрозь зубы, тузануўшыся, і тут толькі згадаў пра малога, які нецярпліва таптаўся побач.— Пойдзем. Пойдзем, дагледзім выстаўку і — дамоў...

— Ты мне яшчэ сваю карціну не паказваў.

— Пакажу.

Позірк выхопліваў з людскога гурту то адзін знаёмы твар, то другі, і Чэсь тут жа зводзіў павекі ці адварочваўся. Аварочваўся і ўсё ж бачыў — іншым, унутраным, зрокам бачыў: як лісліва зазіраў у вочы некаму з начальства, тлумачачы штосьці, Аржыська, як, шчытна акружаны моладдзю, усміхаўся на нечы жарт Дзіма Дзімыч, як кожным рухам, кожным паваротам галавы паказвала сваю вагу, сваю значнасць тут, на выставе, Жана Віктараўна... Ніводнае палатно не закранала ўвагі, ні перад адным з іх ён не затрымаўся больш як паўхвіліны: усё — добра вядомае, усё — у звыклай манеры. Нават тое, што прэтэндавала на навізну і адметнасць.

— Чаму ты не расказваеш, што там намалявана? — тузаў за руку сын, але Чэсь як і не чуў яго: глыбока ў грудзях узнік і рос, шырыўся якісь няроўны гул — ці то сэрца невядома чаго захадзілася, ці то пайшло ў рост ужо адпрэчанае, ужо ўтаптанае, здавалася, у змрок забыцця... Слова не слова, згадка не згадка...

Нічога і нікога не пачуў бы ён зараз: набліжалася, вырастала перад вачыма палатно, ля якога не радзеў, не

разыходзіўся ладны натоўп цікаўных. Чэсь яшчэ здзівіўся, што натоўп не засланяў палатно, як таго патрабаваў закон перспектывы (работа ж вісела невысока), але здзіўленне мільганула і знікла, ды і натоўп знік — не бачыў жа ён яго, не заўважаў! Ішоў — цераз пустую ўжо залу, усё замаруджваючы крокі, з цяжкасцю перамагаючы хваляванне, ішоў насустрач маці, такой, якой запомніў яе, якой помніў... Калі, не дайшоўшы, спыніўся, няўцямным рухам абняў і прыцягнуў, прыхінуў да сябе сына, не было ўжо вакол ні залы, ні сцен, завешаных карцінамі, ні абмытага, расквечанага дажджом гарадскога квартала за імі. Вырывалася з-пад ног і хавалася ў невысокай густой траве сцежка, дальнім, цяжэйшым краем абрывалася ў сінюю бездань нябёсаў зямля, і там, дзе яна абрывалася, на самай мяжы зялёнага і сіняга, стаяла маці... Хоць не, яна не стаяла. Яна ступала, не кранаючыся босымі нагамі сцежкі,— яна набліжалася!

— Здэцца б, і мастак так сабе... Не з вядомых... А якая работа! — чапляўся слых за чыесьці словы, сказаныя гучна, са знаёмым прысвістам, але словы адгучалі і тут жа расталі ў бяздоннай сінечы неба.

Неба займала ўжо ўсю прастору вакол. Чыстае, без адзінай аблачынкі, яно пялёхкалася, пералівалася ўсімі адценнямі сіняга і доўжыла, доўжыла рух насустрач: разпораз схіляючыся да малога сына, які ўсміхаўся і на кожны крок радасна ўзмахваў ручанятамі, ішла жанчына. Весела рассыпаліся ў яе па плячах светлыя хвалістыя валасы. Лёгка ўзлятала ў такт руху празрыстая бязевая сукенка — і ўспыхвала, пачынала свяціцца юнае цела, цяпло якога, хараство якога зараз, у гэтую хвіліну, належала небу гэтак жа, як і зямлі.

# Знаёмы нячысцік

«Ён не суддзя нам, Бог! Ён не смее судзіць, бо не быў жанчынаю на зямлі! — раз і другі раз мільганула ў яе ў думках, і калі першы раз Марыля няўцямна пацягнулася да лба, каб адхрысціцца, адрачыся ад грахоўных слоў, то потым як забылася на свой рух — сляпа пазірала ў ледзь пазначанае на сцяне перад ёю акенца і ўжо не думала, а шаптала: — Ён не смее судзіць, бо не быў жанчынаю на зямлі, не быў...»

Ноч, лютаўская завейная ноч шумна ўздыхала побач, за акном, шкадуючы і яе, Марылю, і яе халодную хату, моцна абгарэлую яшчэ ўвосень, калі паліцаі, панапіваўшыся, развялі касцёр пад самай сцяною і дапытваліся ў Марылі, дзе гаспадар, Серафім Шчаўлік, і не давалі тушыць ні хату, ні якую іншую пабудову, пакуль не нацешыліся вясёлым вогнішчам і яе, Марыліным, страхам. Добра, што хоць палова пяцісценкі ацалела — было дзе з дзецьмі прытуліцца.

З дзецьмі... Дачка, Настася, спала на палку, каля ляжанкі, а большанькага свайго, Косцю, Марыля ўсё яшчэ чакала. Прадчуваючы нядобрае і злякаўшыся гэтага прадчування, звечара, з таго часу, як сцёмнілася, чакала. Не клалася спаць, сядзела ля акна, твар у твар з ноччу, і гукала ў ноч, шаптала: «Косця! Сынок...» Ноч уздыхала і, услухоўваючыся ў няўцямны яе шэпт, пачынала падвываць завеі, быццам адпявала ўсё і ўсіх на гэтай пакутнай зямлі. Усё і ўсіх...

— Мама, Косцю, відаць, у Івана Аляксандравіча ноч заспела, у настаўніка. Прыйдзе ўранку.

— Ты спі, спі,— не павярнулася да дачкі Марыля.— Я пасяджу крыху.

— Да ранку далёка.

— Завея... Ні зямлі, ні неба не ўгледзець...

Марыля зябла. Хустка спаўзла, ссунулася з плячэй на лаўку, і не было сілы зварухнуцца, паправіць яе: рукі нерухома, здранцвела ляжалі на каленях — як прыстылі адна да аднае.

— Вы б клаліся, мама.

Яна не абзыўнулася. Не пачула. Напружваючы памяць, успамінала і не магла ўспомніць словы малітвы, што яшчэ гадзіну таму гучалі ў душы, супакойваючы, абнадзейваючы. Успамінала — і не магла ўспомніць. Не было слоў. Забыліся. Згубіліся сярод трывожных яе думак. А трывога змянялася страхам, страх саступаў адчаю: няўжо яна — адна? І перад мінулым і перад будучым — адна?

— Дзяцей, дзяцей беражы, Марыля! Я вярнуся.

Салёны, размыты слязьмі пацалунак абпякае ёй вусны — яна ўскідвае рукі, чапляецца імі за паветра, за цемрадзь, якую ніяк не праб'е, не праpве позірк.

— Та-та!!

Цемрадзь успыхвае і — пакуль з халодным шкляным звонам асыпаецца Марылі пад ногі сынаў вокліч — згарае, выгарае датла. Вачам адкрываецца няроўная стужка рудога пылу, які варушыцца на кожны крок яе ўслед за мужам, за Серафімам, і потым доўга асядае, укладваецца, засланяючы вёску, адгароджваючы яе ад шляху, ад вайны, што ўжо грыміць недзе далей на захад і патрабуе салдатаў — гукае ўсіх, хто можа трымаць у руках зброю.

— Тата! Пачакай!

Марыля не бачыць сына. Бачыць, як узвілося, завіравала паміж імі, скручваючыся ў жгуты, воблака пылу і, аддаляючыся, пачало цямнець, расці... «Зараз пыл асядзе,— супакойвае яна сябе,— асядзе! Трэба трошкі перачакаць, пастаяць».

Хвіліна доўжыцца і доўжыцца, а пыл, па-ранейшаму цёмна-руды і густы, вісіць у паветры. Здэцца б, і сарвалася з месца, кінулася следам за сынам Марыля, а ногі якураслі ў шлях — не тое што на кожны рух, на кожны ўздых глыбей і глыбей у яго ўгразаюць. І ног з пылу не выцягнуць, і вачэй на неба не падняць, каб аціхла пакута, каб ачахнуў у грудзях пякучы боль.

Калі, дапамагаючы ўскінутымі рукамі, яна ўсё ж падымае галаву, то ўздрыгвае ад нечаканасці: неба ляжыць перад ёю ва ўсёй сваёй чысціні і некранутасці — блякла-сіняе, парослае сонечнымі промнямі і жаўруковым звонам. Так, так, гэта ад жаўруковых песень звініць вышыня, і Марыля сіліцца расцяць пабялелыя, выцягнутыя ў балючую ўсмешку вусны: якая вайна? Навошта?

А звон гусцее, становіцца трывожным, і перш чым Марыля ўсведамляе, што не чуе больш вышыні, не чуе жаўрукоў, а аднекуль з-за спіны насоўваецца, напаўзае незнаёмы гул,— гул гэты запаўняе ўсё неба, усё наваколле. І вось

ужо наплываюць цёмныя крыжы самалётаў, вось ужо гэтыя крыжы засланяюць неба, а гул расце, гучнее, ціспе на плечы — яго не атрэсці, яго амаль не ўтрымаць. «Што ж гэта, госпадзі? Што ж гэта?» — засланяецца яна рукамі і малітваю, а шэпт пераходзіць у крык, у няўцямны крык: «Што ж гэта, госпадзі? За што?»

Крыку гэтага ў страшным гуле яна і сама не чуе, і калі знясільваецца, нямее, уціскаючыся ў свой няўклюдны, раздушаны ценямі чужых самалётаў цень, усяго за якіх сорак крокаў ад сябе нечакана бачыць Серафіма з плецаком цераз плячо і ля яго, у ягоным абдымку, сына, Косціка, які абхапіў бацькаву шыю рукамі і прыпаў, прыляпіўся да бацькі, хаваючы твар у яго на грудзях...

— Косця казаў: нашы хутка прыйдуць. Ідуць ужо.

— Чаго ён да настаўніка пайшоў, не казаў?

— Не. Прыёмнік слухаюць, мусібыць.

— Але ж гэта...

Марыля не дагаворвае, заціскае рот далонёю, спалохаўшыся думкі, і тут жа звыкла цягнецца да прыкрытага паркалёўкаю лба. Холад расцякаецца на ёй шырокаю хваляю — рука ўздрыгвае, дрыжыць, і праз міг-другі ўжо не спыніць калатун ва ўсім целе, быццам прадчуванне, яшчэ нядаўна кволае, баязлівае, вырасла і набыло сілу перакананасці: здарылася бяда — першынец яе, Косцік, няйначай, трапіў у бяду.

— Мама, вы чаго? Вы не плачце,— шмыгае носам, падняўшыся і наблізіўшыся да яе, Настася.— Косцік прыйдзе. Вось убачыце, прыйдзе!

Яна хутаецца ў сцягнутую з палка коўдру, хінецца да маці. Потым уплішчваецца на лаўку, побач з ёю,— і вось ужо даўжэйшым краем коўдры захінае, хутае матчыны плечы, прыціскаючыся да яе, саграваючы яе сваім худзенькім цельцам.

— Ён жа не першы раз... Ён прыйдзе!

Словы перамешваюцца са слязьмі, слёзы студзяць твары: маці і дачка, шчака да шчакі, узіраюцца ў цьмянае, завеянае ноччу акно, услухоўваюцца ў скавытанне ветру, у марозны стук снегу, які жменямі кідае вецер у пакалатыя, заінелыя знізу шыбкі. Да раніцы яшчэ далёка...

* * *

Раніца выгарала хутка. Ледзь сонца, яркае, сляпучае, паднялося з-за ліпы і зазірнула ў акно майстэрні, раскве-

ціўшы груды тканіны, крой на сталах і гатовыя ці амаль гатовыя касцюмы на вешаках і манекенах, расстаўленых уздоўж сцяны, як тут жа і схавалася за высокаю камяніцаю насупраць, цераз вуліцу, і святло стала прыглушанароўным, матавым.

Мільганула шкадаванне, але мільганула і згінула. Ужо ж, працаваць, калі лёгкі шыфон у руках зіхціць і іскрыцца, немагчыма, а праца не чакала: праз паўгадзіны пачнуцца прымеркі і ў тлуме іх, змушанай падтрымліваць шчабятанне сільфід, лебядзіняў, пасланніц добрых і злых чараўніц, Настасі давядзецца добра пашчыраваць, падцягваючы, заколваючы, падшываючы іх спаднічкі, гарсэты і крылцы. Трэба ж, каб на сцэне, уплятаючы свой танец у музыку, яны глядзеліся сапраўднымі сільфідамі і лебядзінямі. Як ужо там станцуюць — не яе, Настасін, клопат, а за касцюмы ёй адказ трымаць. Колькі іх прайшло цераз яе рукі, і не злічыць ужо, гадзіны, дні, гады працы — амаль палова жыцця... Цэлы горад можна адзець!

Падумала — і ўсміхнулася: прыбіральшчыцы на пуантах, дарожныя рабочыя ў стралецкіх шапках, хатнія гаспадыні, абчапляныя сумкамі, у пышных сукенках са шлейфамі, ці міліцыянер у кароне Мефістофеля сярод малечы ў празрыстых трыко з крылцамі за плячамі і залатымі лукамі ў руках — было б на што падзівіцца!

Малюнак, выразліва ўяўлены ёю, знік адразу, і думалася ўжо пра іншае, а ўсмешка няўцямна блукала ў Настасі па твары.

Касцюм для чалавека — не галоўнае, пэўна ж, а і ад яго нярэдка сёе-тое ў жыцці залежыць: не толькі воблік чалавека з пераменаю касцюма мяняецца, а і паводзіны, і думкі часам. Адна справа ў паношаным бумазейным халаце па хаце таптацца, іншая — усе вартасці моднай шаўковай сукенкі гасцям паказаць: дзве розныя ролі — дзве розныя жанчыны. І колькі б хто ні даводзіў, што каралева і ў рызманах застанецца каралеваю, яе, Настасю, не пераканаць: дзень, тыдзень — ну, месяц! — трымалася б яна па-каралеўску, а потым як не рызманы, дык позіркі людскія сваё зрабілі б. Зрабілі б. Душа плоці пачала б стыдацца.

Не галоўнае для чалавека касцюм, так. Але колькі расказвае пра чалавека!

Вось і іхнюю тэатральную майстэрню ўзяць. Касцюмы далёкіх эпох, ледзьве не да дзён стварэння свету, шыюць, а і ў іх нельга той ці іншы характар не прасачыць. Хоць

Адама і Еву апранаць, хоць самога Бога, а характар застанецца. Застанецца, няхай сабе толькі ролямі вызначаны.

Ужо ж, у любога — сваё месца на зямлі. Лёсам вызначанае, ці жыццём, ці толькі ролю. Не так гэта і важліва. Вызначанае. І марна яго аспрэчваць, нават калі прыйдзеш да думкі, што лёс ці жыццё абышліся з табою несправядліва. Як ні абышліся, а скардзіцца няма каму. Няма. У чым, у чым, а ў гэтым Настася не сумнявалася.

І яна, як і ўсе, смуткуе па сваёй душы. Не ўпэўнена, што ёсць яна, душа, і смуткуе па ёй. Гэты смутак, спаміны, мроі... Нешта прыйшло, нешта адышло, згінула ў змроку пражытага — вось і ўся ўбогая праўда жыцця. Убогая! Бо колькі ні перабірае яна гады, усё імкнецца нацягнуць на іх адны і тыя ж сціплыя апранахі, каб і згадкі, і не адна смерць за імі, за іх сцяною, выглядалі звыкла і нястрашна. Галоўнае, нястрашна — як пыльныя, адсунутыя ў глыбіню сцэны дэкарацыі, няхай сабе і сатканыя з дзён яе, няхай нават запырсканыя крывёю, але дэкарацыі. Фон! Каб на фоне гэтым льга выглядаць амаль што шчаслівою — і ў чым яно, яе шчасце, і чаму перамагае яго ўвесь час смутак, асабліва не задумвацца: гэта ж як у сябе самой пытацца...

Так, колькі жыве чалавек, усё смуткуе па сваёй душы. І хавае гэты смутак, не выпускае з грудзей аграмадны, страшны ў сваёй задушанасці крык. Здаецца, каб вырваўся крык — аглух бы зямны абшар, а людзі, кожны сам-насам са сваім раптоўным жахам, шукалі б словы малітвы, каб вярнуць сабе Бога. Здаецца... Толькі здаецца! Усюды людзі, усюды людскія крыкі. І пакуты. І скаргі. І пагрозы... У гэткім вэрхале ўжо не застаецца месца для Бога.

Яна, Настася, і згадала пра Бога адно таму, што другі месяц шчыруе над касцюмамі для новага балета «Стварэнне свету», мімволі перабіраючы ў думках карцінкі біблейскіх сюжэтаў, бачаныя даўно, яшчэ ў маленстве, і добра-такі пераблытаныя ўжо, ■ то і сцёртыя да непазнавальнасці. Нічога ж у сапраўднасці, як даводзілі ўсе падручнікі і лектары, як даводзілі ёй яе ўласныя ўспаміны, не было, а казкі, калі ўжо гаворка пра казкі, меліся і цікавейшыя за гэту.

Укрыжаваны Ісус, пакута яго, уваскрасенне, зноў смерць... Што гэта за Бог, якога бесперастанку забівалі! Узносілі ў малітвах і царкоўных гімнах так высока, што і позіркам не дацягнуцца, адно каб тут жа схіліцца да крыжа яго скрываўленага, быццам і не сыходзіў Ісус з

яго, быццам ніколі не сыходзіў. Не, па яе, Настасінаму, разуменню, не сіле яго скрозь пакланяліся, а цярплівасці — цярпенню, з якім ён і чыстыя слёзы і лжывыя клятвы прымаў. Прымаў і ўжо тым адным адорваў. Бо гэта ж у жыцці і паплакаць часта няма перад кім, і слова надзеі, ачышчальнае, нават у ілжывасці сваёй, мовіць няма каму: выслухаць мо і выслухаюць, а не пачуюць...

— Настася Серафімаўна, я не дужа запазнілася? Рэпетыцыя, ведаеце...

Анюта Куніцкая. Прыма. Не ўвайшла — упырхнула ў пакой. Худоба, адны жылы на костках, здаецца, а ўзмахне рукамі, стане на пуанты — і ўжо не танцуе, а плыве, уся лёгкая, грацыёзна-пяшчотная. Хадзіла, дзівілася на яе Настася, як жа. Трэба ж было зірнуць, як сшыты яе рукамі касцюм з залы глядзіцца. Нішто сабе. Глядзіцца. Фігурка ж у гэтай Куніцкай як точаная, не з ёю, Настасяю, раўняючы.

— Лішняя вага з'явілася. Цэлых дзвесце дваццаць грамаў! У басейн бягу... Адразу пасля прымеркі.

Дзвесце дваццаць грамаў... Гэтага птушаняці яшчэ і на свеце не было ў сорак чацвёртым, калі Настася гэтыя дзвесце дваццаць грамаў — сутачную пайку хлеба — не тое што пальцамі, позіркам лёгка ўзважвала.

— Вы з якога года, Анюта? З пяцьдзесят пятага?

— З пяцьдзесят шостага.

— Але, але. Памятны год!

— Памятны? Чым? — прысела, зазірае ёй у твар.— Няйначай, вам шчасце, Настася Серафімаўна, у той год прываліла. Прыз-на-вай-цеся!

— Шчасце? — усміхаецца Настася, слухаючы раптоўную цішыню за плячмі.— Мо і шчасце. Гледзячы з якога боку зірнуць.

— А вы з весялейшага — з сонечнага — пазірайце!

— Тады, канечне. Да сонечных промняў ні гразь, ні кроў не наліпаюць.

Рукі Настасіны не зважаюць ні на словы яе, ні на думкі і звыкла шчыруюць, распрамляючы ледзь заўважныя зморшчынкі на лёгкім празрыстым шыфоне, падколваючы, падбіраючы лішняе, пазначаючы лініі мудрагелістых швоў. Словы ж, яшчэ не адгучаўшы, патанулі ў цяжкой задушлівай цішыні, ад якой засмылела, запякло раптам у грудзях: у сорак чацвёртым гэтай Анюты яшчэ і на свеце не было...

* * *

Снег, дзе намецены ў гурбы і пакрыты марознаю скарынкаю, дзе неглыбокі і сыпкі, як перамерзлы пясок, пахруствау, спружна парыпваў пад іх цяжкімі крокамі, і Настасі здавалася, што і гэты хруст, і гэта парыпванне не проста ламалі навакольную цішыню, а, ламаючы, ускідвалі вострыя ледзяныя яе сколкі ёй на плечы. Ёй і маці. Бо і маці ўсё часцей спатыкалася, не ў сілах развінуць, распрастаць сціснутыя нябачным цяжарам плечы, і маці задыхалася, дыхала цяжка, з сябе, хоць ішлі яны па цаліку, папрасткі цераз поле (шлях усё роўна замяло) не так і хутка: крок за крок чапляўся...

Поле, якое ў добрыя часы было перабегчы, як пералязець, цягнулася бясконца, доўжачыся, выцягваючыся, зліваючыся з бляклаю роўняддзю неба. Пасёлак, куды гнала іх трывога за Косціка, пагойдваўся недзе на самым ускрайку позірку — і ісці было да яго, не дайсці.

— Ма-рыля! — каціўся за імі воклiч, кліч чыйсьці, але колькі Настася ні азіралася, нікога ззаду не бачыла: ззаду, як і наперадзе, ляжала белае поле, плыло, наплывала, усё роўна як падштурхваючы ў спіну, бляклае, шэрае неба — не неба ж гукала!

— Мама, вы чуеце? — спрабавала яна дагнаць, прыпыніць маці, а тая не чула і не спынялася, і Настася зноў пытала: — Мама, ці чуеце вы?

Голас не адступаўся. Цяпер ён ужо гугніў нешта, і, каб расчуць якія-ніякія словы, яна запаволіла крокі, адразу адстаўшы ад маці, адразу апынуўшыся адна, сам-насам з бязмежжам.

— Ручайкамі гарачай крыві прывязалі яго да лаўкі... Хіба не крыж пакутніка гэта? Хіба не крыж?

— Ма-ма! — ірвануўся ў дзяўчынкі з грудзей страх і, ледзь вырваўшыся, застыў — прымёрз да вуснаў, якія толькі зрэдку балюча ўздрыгвалі і не расціналіся.

— Здратавалі цела яго, паламалі рукі і ногі яго, спаласавалі калючым дротам лоб... Хоць ён не Бог! Не Бог, а чалавек, што сканае за іншых — без уваскрасення, без раю. Усяго толькі чалавек. Так, усяго толькі чалавек — у імгненне пакуты і змроку, пасярод воўчай лагчыны...

Настася, ашалелая ад жаху, ад белага бляску вакол, абхапіла рукамі галаву, заткнула вушы, прымружыла вочы і кінулася бегчы, глыбока ўзворваючы снег, следам за маці, па сцежцы яе слядоў. А голас гучаў:

— Ручайкамі гарачай крыві прывязалі яго да лаўкі, здратавалі цела яго, асляпілі боль яго, хоць ён не Бог, хоць ён усяго толькі чалавек — з закатаваным Богам у вачах! Чуеш?

— Ма-ма! — гукала Настася ў прасцяг.

— Марыля! — кацiўся паперадзе яе чыйсьці вокліч.

Вырастаў перад вачамі пасёлак, расступаліся адбеленыя, аблепленыя снегам, сляпыя хаты, выстаўляючы, прыўздымаючы над сабою пляц, невялікую, добра ўтаптаную пляцоўку перад школаю, дзе размяшчалася зараз жандармерыя,— пляцоўка звычайна была роўная, як раскатаная, а тут уздыбілася, выгнулася, і на самым грэбені яе чарнела штосьці... Трупы! Кінутыя ў снег — на пацеху варанню і на страх людзям — трупы!

Яна да рэзі у вачах узіралася ў іх, пазнаючы і не пазнаючы сярод іх Косціка. Калі б апратка была на ім, калі б світка, ззаду, на спіне, разарваная і ёю, Настасяю, увосень, цішком ад маці, залатаная ці цяжкія, яшчэ бацькавы боты на нагах, то і сумнення не ўзнікла б, але ўсе чацвёра ляжалі ў адным споднім і босыя... «Мама не паверыць мне»,— шкрабанулася, зачапілася за імгненне недарэчная зараз думка, і Настася адчула, як, халадзеючы, сцялася ў грудзях сэрца: яна ж павінна была дагнаць маму — яна даганяла яе і не дагнала! Не дагнала, а далей бегчы няма куды: вось ён, пасёлак, вось ён, пляц, перад ёю, адразу за агароджаю з калючага дроту, а мамы не відаць. Ні паблізу, ні там, за дротам...

— Дачушка! Дачушка, памажы!

З цяжкасцю павярнулася на кліч, з цяжкасцю, перадольваючы раптоўную змогу, зрабіла крок насустрач маці, якая — далёка ззаду — ледзь падымалася і тут жа зноў валілася ў снег, і ўсё гукала, даўно ўжо, відаць, гукала:

— Куды ж ты, Настася? Памажы!

Адлегласць паміж імі скарачалася марудна, і Настасю дзівіла тое, што голас матчын яна чула, выразліва чула, а снег пад нагамі маўчаў, не абзываўся — не хруснуў ніводнага разу, не зарыпеў. Каб мароз адваліўся, яна адчула б. Па руках адчула б, якія тырчалі з караткаватых рукавоў і былі як чужыя: хустку на галаве паправіць не маглі... Не, мароз нават мацнеў — не адно рукі, а і нос і шчокі мерзлі, снег жа на кроку яе не абзываўся, быццам скарынкаю намерзла на яго цішыня. Глыбокая, жудасная ў сваёй незвычайнасці цішыня: голас жа матчын яна чула!

— Бог адступіўся ад мяне... Не дайду... Не дагукаюся ні да сыночка свайго, ні да неба...

— Вы на мяне абапрыцеся, смялей абапрыцеся, мама. Пойдземце дамоў,— падтрымліваючы маці, прасіла Настася, рашуча перакананая ў гэты міг, што там, на снезе, разам з настаўнікам, разам са сваімі закатаванымі сябрамі, ляжыць Косцік і маме нельга, нельга зараз ісці туды: яна і так хісталася і ледзьве стаяла на нагах, нават з яе дапамогаю.— Пойдземце дамоў, мама. Косцік прыйдзе. Сам прыйдзе!

— Гукаў мяне... Косцік гукаў мяне ўначы, сэрца не памылялася. Што, што, скажы, адчуваў ён адзін, пакінуты, і намі і Богам пакінуты, га, Настася? Як Хрыстос... Як Хрыстос укрыжаваны, адзін застаўся. Сам-насам з пакутаю сваёю.

— Што вы гаворыце, мама? Што вы такое гаворыце? — змагалася з холадам, які прабраўся ўжо ў нутро, усярэдзіну, Настася.— Гэта мароз. Гэта ўсё мароз. Пойдземце.

— Пус-ці-іі!!

Марыля тузанулася, адштурхнула дачку і — адкуль толькі і сіла ўзялася? — кінулася бегчы ў бок пасёлка.

— Там агароджа. Там калючы дрот,— памкнулася за ёю Настася.— Там Косцік...

Словы згаслі непрамоўленымі. Згаслі яшчэ ў ёй, бо ні пракаўтнуць, ні зглынуць іх яна не здолела ні адразу, ні потым, праз адно-другое імгненне, і так, захлынаючыся, хапаючы ротам калючае марознае паветра, і клыгала следам за маці. Дзесяць крокаў, яшчэ дзесяць, яшчэ... Ці то слёзы, накаціўшыся, падступіўшы раптам, размылі ўсё вакол, ці то ў іншы, супрацьлеглы ад пасёлка бок шыбавалі яны, асляплыя ад гора, адна паперадзе другой, але наперадзе, колькі яна ні ўзіралася, нічога не было відаць. Поле і поле — дзвюма столкамі, святлейшай і цямнейшай, знізу і зверху. Ні зямлі, ні неба — толькі бела-шэрая роўнядзь, толькі снег, што ўсё глыбеў і глыбеў (ледзь не па пояс правальвалася часам у снег Настася).

Калі маці раптоўна спынілася — як наткнулася на штосьці, Настася не адразу ўбачыла, што гэтае «штосьці» — агароджа з калючага дроту, агароджа паміж полем і полем: тое, якім яны шыбавалі сюды, належала лютаўскаму марозу, тое ж, за калючым дротам, належала рэйху і гарнізоннаму камандаванню, і за дрот, нацягнуты на жардзё, пераходзіць было, пэўна ж, небяспечна. Ды і як пераходзіць? Пераскокваць?

— Я зараз, Косцік... Я ўжо іду,— мармытала Марыля, перабіраючы рукамі калючы дрот і сунучыся ўздоўж агароджы, управа.

Настася міжволі ступала следам, не адводзячы позірку ад рук яе, скрываўленых жалезнымі асцюкамі, і з кожным крокам рос яе жах — жах перад тым, што адбылося і што яшчэ адбудзецца, як не зараз, то потым, пазней, калі яны апынуцца побач з забітымі і побач з забойцамі, у іх акружэнні.

Пачуўшы пра вараннё, Настася тут жа яго і ўбачыла: над пляцам, над тым месцам, дзе ў заснежаны і ўжо счарнелы ад мноства слядоў груд паўмярзалі кінутыя яшчэ на досвітку, відаць, трупы настаўніка, Івана Аляксандравіча, і яго вучняў, кружыліся зграі варання — неба за імі не было відаць. Кружыліся без крыку, зусім бязгучна (мо толькі яна не чула?) і так нізка, што вецер ад узмахаў чорных крылаў дасягаў і іх, і іх твараў — Настася церла і церла шчокі, спіраючы холад, а холад усё сцякаў па іх, разам з ручайкамі марознага паветра, разам з ручайкамі слёз.

Агароджа, дайшоўшы да заваленага снегам шляху і разарваная ім, засталася збоку — яны, не запыненыя вартавымі, якія рагаталі ўслед, лыпаючы вачамі і пакручваючы пальцамі ля скроняў, набліжаліся да пляца. Крокаў дваццаць заставалася, усяго крокаў дваццаць, а сілы раптам не стала. Хоць і снег тут быў добра ўтаптаны, і прайсці заставалася ўсяго нічога — не ішлі ногі. Як папруцянелі. І так і гэтак спрабавала падагнаць сябе Настася — ані з месца. Ці зямля трымала, ці груганнё да зямлі крыллем прыціскала. Вось жа ўжо мусіла яна адмахвацца ад яго, каб вочы не павыдзёўбвалі. Вось жа ўжо ўгнулася, уцягваючы галаву ў плечы, каб устаяць, не зваліцца ў снег ад непамернага цяжару мноства чорных крылаў — чорныя бліскі іх сляпілі вочы.

— Акыш! Акыш! — ужо не шаптала, крычала яна, адмахваючыся і баючыся гукнуць маці, якая прадзіралася праз кіпенне варання далей, крок за крокам.— Акыш, праклятыя!

А груганоў станавілася ўсё болей — лавіна гукаў прарвала мёртвую дасюль, жудасную цішыню, і бязладны шум, шолах, лапатанне крылаў і ўладна-галоднае карканне, адгароджваючы Настасю ад маці, ледзянілі душу: што ім, гэтым чорным пасланцам смерці, трэба ад яе? Адкуль іх гэтулькі наляцела, як усіх навакольных лясоў для іх

гняздоўяў не хопіць? Чаму яны зграямі, з галодным крыкам, кідаюцца ўніз і тут жа ўзлятаюць, каб зноў сарвацца, зноў, адцясняючы яе, Настасю, накінуцца на маці, на сляды яе, якія быццам топчуцца ўздоўж нябачнай мяжы паміж ёю і сынам?

І тут Настася ўбачыла, што груганы хапалі, расхоплівалі скрываўленыя камячкі снегу — яшчэ не прыхопленыя марозам кроплі крыві, якая тачылася і тачылася з параненых калючым дротам матчыных далоняў.

* * *

— Бачыла, зноў партрэты вусатага з'явіліся? — не вітаючыся, учапілася Настасі ў плячо старая Паўлючыха, суседка, ледзь толькі яна ўвайшла ў краму.— Гэтулькі крыві папіў, аж не! — зноў партрэты на шкло паналеплівалі... Возяць у кабінах. Па лагерах ссумаваліся, чортавы дзеці!

— Што вы, што вы, Паўлаўна? — зашаптала Настася, азіраючыся і стараючыся як мякчэй атрэсці з пляча цяжкую, кашчава-жылістую руку.— Усю чаргу скаламуціце...

— А і скаламучу! Хто мне, старой, указ? Каго мне, галуба, баяцца? Я сваё адкалацілася, адплакала. Цяпер адзін шлях — у магілу, а панясуць па ім ці пакоцяць, як чурбак, адна халера. Цяпер адна халера, галуба. Аджыла сваё. Адгаравала. Ніводнага дзянёчка не ўспомню, калі б гора адступілася.

Яна ўсё тузала Настасю за плячо, усё паварочвала яе да аконнай вітрыны, быццам там, за шырокім вітрынным шклом, знаходзіўся той, каму яна ўсё гэта выгаворвала,— за шклом жа адно бясконцым людскім патокам віраваў сталічны праспект, віраваў перадвячэрні час, з усёй сваёй мітуснёю і тлумам. Міжволі скараючыся ўладарнаму руху гэтаму, Настася пазірала на прахожых (хто заварочваў сюды, у краму, каб купіць што-якое з прадуктаў, хто шыбаваў далей) — позірк яе няўцямна слізгаў па тварах, то ўсмешлівых, то засяроджаных ці стомленых, думкі, адштурхваючыся ад убачанага, круціліся вакол таго, што трэба паспець зрабіць за вечар і што яна, пэўна ж, не зробіць, калі адстаіць гэткую чаргу ў мясным аддзеле...

— Чаго, чаго, а гора хлебанулі, камунізму запланаваную чакаючы. Не з сённяшнімі раўняць.

— Чым табе сённяшнія не дагадзілі, бабка? — азваўся чырванатвары дзяцюк у стракатай, расшпіленай ледзь не да пупа на добра пакруглелым ужо чэраве, кашулі.— Тым, што сыцейшыя?

— Сыцейшыя... Бач, разумны ўнучок знайшоўся! — тут жа крутанулася ў яго бок Паўлючыха, адпусціўшы, нарэшце, Настасіна плячо.— А таго не ўцяміш нябось, што, адно чэрава наеўшы, розуму не прыдбаць. Не-а, галуба.

— Розум! Ды хто сёння розуму пытае?

— Во-во, галуба. Навошта розум, як не пытае яго ніхто? Кажуць: ты — злачынца, значыцца, так і думай: злачынца. Ставяць на край магілы, патыліцаю да наведзенага ружжа — ужо ж, стой, не гневайся. Загадаюць трымаць тое ружжо і страляць, страляць, пакуль патроны ёсцека, у тых, каму яго, ружжо гэнае, не даверылі,— страляй. А потым — ляпі партрэт правадыра, амінь яго галаве, побач, на шыбцы, і рулюй напрамкі ў камунізму!

— Чаго ты захадзілася, бабка? Сама ж, няйначай, усім як ёсць правадырам алілуйю пела,— буркнуў, ужо цішэй, шкадуючы што зачапіў яе, чырванатвары.— Як па мне, дык ужо лепш цвёрдая рука, чым бяссілая.

— Гэта якая ж цвёрдая? Тая, што сотнямі, тысячамі людзей, вінаватых адно ў тым, што людзі, на смерць пасылае? — падалася да яго Паўлючыха так рашуча, што Настася памкнулася ўтрымаць яе, заступіла дарогу, і тая як перадумала раптам — узмахнула рукою, фыркнула і дэманстратыўна адвярнулася.— Ужо ж, хамут знойдзецца, як шыю ёсць каму падстаўляць... Цвёрдай рукі ім хочацца! Свае рукі ўжо не рукі?

— Нашто вам, Паўлаўна, нервы свае паліць? Усё роўна кожны сам па сабе мерае. І даўняе. І цяперашняе.

— Тое і яно, што па сабе,— цяжка дыхала Паўлючыха, адсопваючыся пасля залішне гарачай перапалкі, якая суправаджалася поўнымі рашучасці жэстамі абедзвюх рук.— Тое і яно, галуба. А нас, старых, і выслухаць няма каму.

Голас яе звяў. Здавалася, яна страціла ўсякую цікавасць да пачутага і так палка аспрэчанага толькі што і цяпер надоўга аціхне, задумаецца. Але хто-хто, а Настася, ведаючы цётку не адзін дзень і не адзін год (дванаццаць гадоў жылі дзверы ў дзверы), не падманвалася: зацішша было яўна часовае, і, каб неяк скіраваць далейшую гаворку ў спакайнейшы бок і не даць ёй выбухнуць ў чарговую,

хай сабе і невялікую зваду, вырашыла перахапіць ініцыятыву.

— Сын піша, Паўлаўна? Як яны там?

— А вы куды, грамадзяначка, без чаргі? — як не пачула (ды і не пачула, пэўна!), матлянулася Паўлючыха бліжэй да прылаўка, заўважыўшы там, папераздзе, новую, яўна цішком прысуседжаную да кагосьці кабету.— Я, старая, хворая на ногі, стаю, а вы... Не адпускайце ёй, прадавец!

Чарга скалыхнулася, падалася наперад. Усе заварочаліся, загаманілі, і Настася ўпершыню стомлена абвяла позіркам ладны яшчэ натоўп перад ёю (ды і за ёю люду ўжо набралася), хоць дзень заканчваўся і краму праз гадзіну зачыняць. Праз гадзіну — гэта ў дзевяць. Зноў яна даўжэй звычайнага затрымалася ў майстэрні, і Іра, як заўсёды ў такія вечары, дома не трымалася...

Работа, работа! Трэба ж было зарабляць: дачка зусім дарослая — налета тэхнікум заканчвае, ды і самой абы-што апранаць не хацелася. Дзесяты год пайшоў, як Саша, муж, у Сібір на заробкі паехаў. Паехаў і паехаў. Не вярнуўся. Там, у Сібіры, застаўся, ні пра дачку, ні пра яе, Настасю, больш не ўспомніўшы. А яна што? Замуж ужо не збірэцца, гэта так, але і вачэй ні перад кім апускаць не прывучаная: сама сабе гаспадыня, тое мае, што зарабляе — неблагую капейку, як па сённяшнім часе.

Стамлялася, канечне. Ні рук, ні спіны часам не адчувала, а яшчэ ж і чаргу, як зараз, адстаіць, і дома, па хаце, не гадзіну, не дзве завіхаецца — то адно, то другое клопату і працы патрабуе. Ужо ж, хвалі долю ці кляні, а і гэткую за яе, Настасю, ніхто не пражыве. І горш было, калі ўспомніць,— успамінаць вось толькі не дужа хацелася.

— Знайшла што ўспамінаць! — хліснула Настасю сказанае зусім побач, і яна страпянулася, падняла вочы на немаладую, густа напудраную жанчыну ў вязаным жакеце, якая стаяла цераз тры чалавекі наперадзе.— У гэтага ваенныя лаўры наўме, у таго — кукурузныя, а мы з табою, Ганна, як жылі на семдзесят рублікаў, так і жывём. Так і памром, яй-бо, нічога лепшага не прычакаўшы.

— Як-жа, галу́бы! — умяшалася (тут як тут!) у іх гаворку Паўлючыха.— Усяго нічога — чатыры гадочкі! — засталося да камунізмы: наядзімося! накрасуемся!

— Ага. Рот шырэй разяўляй!

— Ужо пропускі выпісваюць...

— Было — і хлеба з мякіны не агораеш, а тут ялавічыну даюць — і ўсё не дзякуй богу.

— Да Бога высока...

Галасы зліліся ў ледзь чутнае гудзенне і зніклі, згубіліся сярод яе зляканых, насцярожаных думак. Няўжо Ігнацій Солад? Не можа быць! Трыццаць год мінула... Ён жа зусім стары быў бы, сівы.

Настася ўплішчылася паглядам у акно, міжволі падалася з чаргі, ступіўшы крок і другі ў накірунку тых двух, што запыніліся па той бок вітрыннага шкла і, як у нямым кіно, бязгучна разяўлялі раты, штосьці прамаўляючы, усміхаліся. І той, хто нечакана прыцягнуў яе ўвагу («Няўжо ўзапраўду Ігнацій Солад? Жывы, нячысцік?»), усміхаўся. Молада, на ўсе зубы, усміхаўся і падаваў суразмоўніку руку, развітваючыся.

«Зараз ён развітаецца і пойдзе!» — мільганула ў яе ў думках, і яна міжволі зрабіла яшчэ некалькі крокаў да акна. Потым як апамяталася. Спынілася. Прыкрыўшы вочы, правяла даланёю па твары. Ускінула галаву, зіркнула на вуліцу — на тратуары, там, дзе стаялі гэтыя двое, нікога не было.

— Ведама, Бог! — даляцеў да яе непрыемна-калючы голас Паўлючыхі.— Што б ён гэтулькі год даводзіў свету, калі б нарадзіўся жанчынаю? Якою мукаю адкупіўся б ад смерці, як я г о н у ю муку церпіць любая з нас цераз усё жыццё сваё? Колькі разоў распіналі жанчыну на крыжы рук ейных, колькі крыві выцекла ў яе з сярэдзіны, колькі здрадцаў адкупілася ад яе чысціні крывымі ўхмылкамі? А яна жыве. Яна нараджае новае жыццё, не ведаючы, на радасць ці на муку... А ты туды ж, пра Бога!

* * *

Калі груганы падняліся ў паветра і расталі, зніклі ў раптоўна пасвятлелай, глыбокай чарнаце неба, Марыля не заўважыла. Дзень мінуў, ці мо год, ці мо ўсё жыццё яе, шчаслівае і пакутнае, умясцілася ў гэтыя імгненні перад сустрэчаю з сынам, і сам гасподзь, пэўна, не вызначыў бы. Ужо ж, і дзень мінуў — бо дагараў ён на рагу высокага школьнага даху, дзе, на месцы ластаўчыных гнёздаў, даўно гнездаваўся прывезены аднекуль з-за свету германцам кулямёт; і год — бо году роўны быў гэты дзень, што распатлаў і збіў у каўтун пасівелыя, паточаныя сівізною ва-

ласы пад хусткаю, якая развязалася і ссунулася на плечы; і ўсё жыццё яе, шчаслівае і пакутнае,— бо прамільгнула за гэты час усё перабытае, перажытае ёю.

Сын чакаў яе і дачакаўся. Не стралялі — пайшлі, змерзшы, мусібыць,— яго забойцы (вось жа не ўспухаў снег у Марылі пад нагамі, ледзь яна зварухнецца, ад куляў і смеху іхняга), не кружлялі над ёю, раздзёўбваючы самое ўздыхі, здэцца, самое позіркі яе, груганы: перш чым зрабіць тыя апошнія крокі, што падзялялі яе і сына, Марыля падняла спакутаваныя, без адзінай слёзкі вочы на неба — высока падняліся, зніклі ў глыбокай чарнаце яго груганы. Там, дзе яшчэ нядаўна кіпела ўсё ад іх крылаў і крыкаў, ціха стаяла цёмная сінеча і зоркі, чыстыя, як слязіны, зоркі, адбіваючыся ў яе глыбіні, свяціліся, ззялі тужліва і супакойліва.

Самі сабою прыйшлі словы малітвы. Нявымаўленыя, бо не магла Марыля расцяць прыстылыя адна да аднае, патрэсканыя на марозе губы, загучалі гэтыя словы ў душы яе, нітуючы душу з высокім небам, з зоркамі, з іх урачыстым ззяннем,— плакалі і гучалі. І вось ужо адарвалася Марыля ад зямлі, ад крывава-чорнага снегу стаптанага, ад гучнага парыпвання яго — крок, яшчэ крок, яшчэ... Адплывала з-пад ног зямля, наплывала, насоўвалася, кранаючыся Марыліных рук, прасцёртых да сына, цішыня...

І — раптам выбухнула, асляпіўшы на міг Марылю, гэта цішыня. Выбухнула рогатам, гагатаннем, воклічамі, што высыпаліся з шырока прахінутых дзвярэй жандармерыі ёй пад ногі.

— Ком! Ком!

— Тут цьёпла...

— Einer könnte dich wohl noch kneten, nachdem du dich erwärmt hast. Du muβt doch was hinter Lumpen verstecken *.

— Beweine deinen Bastard, belustige heldenmütige Krieger **.

— Б'аба с'ука... Ком! Ком!

З цяжкасцю разляпіўшы заінелыя вейкі, Марыля ўбачыла проста перад сабою чорныя цені сынавых забойцаў, менавіта цені, а не постаці,— яны віхляліся, падскоквалі, адступалі і зноў набліжаліся, зноў пахістваліся перад са-

---

* Мо хто памацае пасля таго, як адагрэешся,— нешта ж пад рызманамі хаваеш! (ням.)

** Завый, завый над сваім ублюдкам, пацеш доблесных воінаў (ням.).

мымі вачамі. Адно прасцёртыя Марылiны рукі і ўтрымвалі іх на адлегласці — у паветры і па снезе. «Яшчэ два-тры крокі... Два-тры крокі засталося...» — падумала ці мо прамовіла яна ўголас, бо адчула, як абпякло глотку, хлынула ўсярэдзіну марознае паветра і крык, немы крык ірваўся, вырываўся адтуль заледзянелым балючым камяком.

— А-а-а! А-а-а-!! — схлiснуўся гэты крык яе з крыкам і рогатам катаў, як падхлiснуўшы яго: гучней зарагаталі яны, прытупваючы, пляскваючы рукавіцамі сябе па ляжках.

Марыля ўжо не бачыла іх — зрабіўшы крок, потым яшчэ адзін, бухнулася каленямі ў снег, пахіснулася і, не ўтрымаўшыся, завалілася на бок. Паспрабавала дапамагчы сабе рукамі, але рукі не слухаліся: адно, што здолела,— крыху абаперлася на нягнуткія іх драўляшкі і падалася, пасунулася, заграбаючы снег усім тулавам, да сына, да ног яго, ужо не сініх, а чорных на марозе, і ўпала на іх, прыпала да іх тварам.

— Diese ist auch schon fertig,— тыцнуў ботам ёй у бок адзін з немцаў.— In einer Stunde soll sie samt allen in die Grube hin...*

— Fort mit ihr, Kurt, wir haben schon viel Vergnügen! **

Марыля не чула іх. Яна ўслухоўвалася ў холад, які ішоў ад скрываўленых сынавых ног, і чула страшныя, жахлівыя ў сваёй грахоўнасці словы — яе, не яе словы, а ў ёй жа, у Марылі, жылі, гучалі:

— Ручайкамі гарачай крыві прывязалі яго да лаўкі... Здратавалі цела яго, паламалі рукі і ногі яго, спаласавалі калючым дротам лоб, зорку ўмалёўваючы... Хоць ён не Бог! Не Бог, а чалавек, сын чалавечы, што сканае за іншых — без уваскрасення, без раю. Усяго толькі чалавек — на зямлі, а не на крыжы... Усяго толькі чалавек — у імгненне пакуты і змроку, з закатаваным Богам у вачах...

«Мо адступіўся ты ад людзей, госпадзі, мо няма цябе, калі топча зямлю сатанінскае племя, сатанінскае войска?» — варухнулася, працінаючы яе жахам, сумненне, і Марыля застагнала — няўцямны, жывёльны стогн вырваўся ў яе з грудзей: Бог маўчаў, і над ёю і ў ёй маўчаў.

Маўчаў? А хто ж тады прамаўляў? Хто прамаўляў дзіўныя словы суцяшэння?

---

* — І гэта гатова. Праз гадзіну-другую і яе, як чурбак, можна звальваць у яму разам з імі... (ням.)

** — Ды гані яе прэч, Курт, пацешыліся ж ужо! (ням.)

— Колькі б ні пыталася ты ва ўкрыжаванага вамі, людзьмі, Хрыста пра долю сваю, яго адказ у сваёй душы знойдзеш. Колькі б ні ўзіралася ў яго воблік, замест вобліка божага ўбачыш свой уласны твар, скажоны пакутаю. Навошта ж пытацца? Прымі долю сваю, памаліся, душу ад гневу і болю ачышчаючы, знайдзі ў сабе сілу жыць і жывi. Сына твайго забілі, але ж і Хрыста забівалі, дагэтуль забіваюць... Маліся і не бойся пакуты. Жыццё пачынаецца тады, калі знаходзіць цябе вялікая пакута.

— Мо адступіўся ты ад людзей, госпадзі? Мо няма цябе? А як жа тады мы? Як жа я? — варушыла Марыля непаслухмянымі губамі, і жах працінаў яе, і смерць, схіляючыся над ёю, рагатала і пацяшалася.— Як жа я, госпадзі? Сына забіраеш — і мяне забірай, не гнушайся. Я разам з сынам сваім...

Маўчаў Бог. Рагатала, кружляючы, прытанцоўваючы вакол распасцёртай над сынам Марылі, смерць, і не было каму пазіраць на гэты жудасны скач, на гэты шабаш ночы і смерці, апроч знямелай, скаванай бяссіллем і холадам (страх даўно адступіўся ад яе) Настасі, якая, забіўшыся ў нечы хляўчук непадалёку, цераз плошчу, якую гадзіну ўжо мерзла там, чакаючы, пакуль усё аціхне, пакуль нацешацца сваёй жорсткасцю каты і ўсё аціхне.

* * *

— Мы парушылі адзіна неабходную ўмову — жыць з людзьмі, таму такія бедныя, і бязрадасныя, і апанаваныя страхам.

— Стра-хам? — засмяялася яна.— Чаго б гэта я раптам стала баяцца? Каго?

— Ад турмы і ад торбы...

— Ну-у, гэта бабчыны прыказкі! То б яшчэ Страшны суд прыгадаў!

— Страшны суд? Ды ён штодня адбываецца, малая. Штодня. І для кожнага.

— Напалохаў! Так-такі і для кожнага? — зноў не стрымала яна звонкага, крыху робленага смеху.— А як жа запаведзь: «не судзіце і не судзімы будзеце»?

— Табе адкуль запаведзь гэта вядома, а? Наколькі я паспеў зразумець, пытанні веры цябе не хвалявалі і не хвалююць,— выразліва, ледзь не па складах прамовіў ён, вытрымаўшы паўзу.— Ужо ж, не хвалююць, бо не стасу-

юцца з прагаю модна апранацца, смачна есці, хай сабе за гэта самым чыстым, самым святым у сабе расплаціўшыся.

— Зноў ты да душы дабіраешся? — фыркнула яна, залаваўшы, і тут жа ўзяла сябе ў рукі, тут жа змякчыла тон.— Мы ж дамовіліся, Віктар. Табе — сваё, мне — сваё.

— «Пакуль маладзенькая, пакуль ахвотнікі знаходзяцца...» Чуў. Чуў неаднойчы. І не згодны. Растаптанае не адновіш, страчанае не вернеш, не выкупіш назад,— голас яго пасуровеў, набыў нават крыху злавеснае гучанне.— Не цябе шкада, малая, а душу ў цябе ўкладзеную: ёсць жа душа, жывая яна і выжыць хоча, а ты яе топчаш і іншым — за грошы! — таптаць дазваляеш.

— Зноў ты!

— Зноў, а як жа. Пакуль ты не ўразумееш. Пакуль не апамятаешся.

— Ды з чаго ты ўзяў, што я апамятацца хачу? — успыхнула яна, болей не стрымліваючыся.— Душу вытоптваю, кажаш? Самым чыстым у сабе плачу́? А навошта мне душа, на якую ніхто ніколі не азірнецца? Навошта мне чысціня, цнатлівасць мая, калі яе прыкрыць чым вартым, гожым не выпадае? Усе ў імпартовых шмотках, а я... Чым я горшая за астатніх? Тым, што бацька скруціўся за свет некуды, калі мне яшчэ сямі год не мінула? Тым, што матка не ходзіць у міністрах ці хоць бы ў каханках міністра? Я ж ы ц ь хачу. Я прыгожа жыць хачу, чуеш?

— Ну, канечне. Страшны суд нікога не чакае, душа на сённяшнім жыццёвым кірмашы нічога не каштуе, а задзіраць спадніцу перад кожным, хто дзвесце — трыста рублёў за прыемную хвіліну заплоціць,— не што іншае, як прыгожае жыццё.

— Ты! Ты! — захлынаючыся гневам, тузанулася яна ўбок, прэч ад яго, але Віктар утрымаў яе, балюча сціснуўшы запясце.— Пусці! Ты мне нічога не плаціў!

— Не было за што.

Адчуўшы, што яна перастала тузацца, вырывацца, адпусціў руку, і адвярнуўся, і ціха пакрочыў далей, і не азірнуўся, не пагукаў: ці то не хацеў аднаўляць гаворку, ці то крыўду пеставаў. Не павярнуўся на яе маўчанне, ішоў, незаўважным рухам локця пагойдваючы спартыўную сумку, перакінутую цераз плячо, да тралейбуснага прыпынку, і толькі гэта пагойдванне сумкі гаварыла за тое, што Віктар усё-ткі злёгку нерваваўся.

Трыццаць другі год пайшоў — не хлопчык, каб ад кожнага мілавідна-драпежнага тварыка раскісаць: два, ужо

больш як два месяцы мінула з таго вечара, калі, прагаласаваўшы, падсела гэта семнаццацігадовая сцыкуха да яго ў машыну і адразу прапанавала: «Як дзвесце пяцьдзесят рублёў знойдзецца, паедзем куды схочаш». Не яе ён тады пашкадаваў, а душу, у яе пры нараджэнні ўдыхнутую. «А чаму дзвесце пяцьдзесят? Чаму не трыста, не пяцьсот? Чыя гэта такса? — адно і запытаўся тады, разглядваючы злёгку падфарбаваны і без ценю сораму твар, павернуты да яго з усмешкаю.— Сама сябе так ацаніла ці падказаў хто?» — «Спыніце машыну,— адразу перайшла яна на «вы», страціўшы да яго цікавасць.— Я выйду. Лічыце, што пажартавала».— «Ты ж і сапраўды пажартавала,— адгукнуўся ён спакойна.— І таму прапаную экскурсію ў бок Вячы: купацца яшчэ халаднавата, а падыхаць свежым паветрам — самы раз...»

— Мы б маглі яшчэ адзін прыпынак прайсці,— дагнала Іра Віктара і, ледзь заўважна пахістваючыся зрэдку на сваіх задужа высокіх абцасах, пайшла побач.— Ты ж не дужа спяшаешся?

— Пра запаведзь адкуль узяла?

— Пра якую запаведзь? — не зразумела.— А-а-а! Суседка ў нас — пашукаць не знойдзеш: на кожнае слова — прыказка, на кожны крок — запаведзь. Прысунецца і гундосіць цэлы вечар — рот ні на хвіліну не закрываецца.

— А сама што думаеш наконт запаведзі гэтай?

— Словы!

— Не зразумеў.

— Раней гэтыя словы казалі, сёння — іншыя, а і тады і сёння з іх адна карысць: языкі пры дзеле. Адзін скажа, другі падхопіць, трэці паўторыць — вось і поўнае ўражанне, што ісціну за хвост усе разам, грамадою, ухапілі. А мяне, прызнацца, часам ванітуе ад усяго гэтага.

— Нават так? — пасміхнуўся Віктар, краем вока разглядваючы яе крануты хваляваннем твар.

— Усе чакаюць нечага, усе спадзяюцца на нешта, а на што? «Никто не даст нам избавленья: ни бог, ни царь и ни герой...» Так, здаецца? Вось і не трэба чакаць. Жыць трэба.

— Як? Чым? Дзеля чаго? Паненку не хвалююць падобныя пытанні? — спыніўся, павярнуўся ён да яе.

— Ну, чаму гэта павінна мяне хваляваць? За мяне ж усё наперад вырашана, маім меркаваннем ніхто ўсё роўна не зацікавіцца...

— Я ж цікаўлюся,— не хаваў усмешкі Віктар.

— Ты? Ты — іншая справа. Табе, як я адчула, больш за ўсіх трэба. А я... Мне ўжо семнаццаць, а што я бачыла? Што?

— Каб убачыць што-якое ў жыцці, у свеце наваколь-ным, трэба часцей у сябе, у душу сваю зазіраць. Вось яно як, малая. А ты...

— Іра! — перапыніў яго на паўслове чыйсьці спалоханы вокліч.— І-ра?!

Іра азірнулася, крутанулася на сваіх абцасіках і, падхапіўшы Віктара пад руку, на міг прыпала да яго, прыстыла — потым рашуча пацягнула ўбок, да прыпынку, за колькі крокаў ад якога яны спыніліся, да тралейбуса, што якраз затармазіў побач, развінуўшы ўсе свае дзверцы.

— Што адбываецца? — паспрабаваў ён запратэставаць, міжволі скараючыся яе рашучасці, яе імклівасці.

— Пасля, пасля,— ускочыла яна на прыступку, не выпускаючы ягонай рукі.— Хутчэй, а то дзверы зачыняцца.

Калі тралейбус тузануўся і рушыў, Віктар прасачыў за яе позіркам: на тратуары, з вялікай гаспадарчай сумкаю ў руцэ, у поўнай разгубленасці стаяла даволі маладая яшчэ, вабная ў сваім лёгкім, зграбна сшытым ільняным касцюме жанчына — разгубленасць, і гнеў, і непрыхаваны страх былі ў яе на твары, у вачах яе, і холадам патыхнула на яго ад пагляду яе.

— Хто гэта? — спытаў незадаволена і таму суровей, чым хацеў і збіраўся.

— Маці...

* * *

Яшчэ нядаўна ў Настасі зуб на зуб не трапляў, а тут пот градам каціўся, стынучы і непрыемна халодзячы скуру: ледзь дагукалася да маці, ледзь растузала, плачучы і ікаючы ад страху і бездапаможнасці, а і паднялася мама, спярша на каленкі, нязграбна падкурчыўшы ногі, потым, з яе дапамогаю, і на ногі — ісці ж практычна не магла. Ступіць крок па нягнуткіх, амярцвелых на марозе нагах — і пахіснецца, заваліцца ёй на плячо: абедзвюма рукамі чапляецца, утрымлівае яе Настася, закусваючы ад напругі губы, а не-не і ў самой падгінаюцца, вянуць каленкі.

— Трэба ісці... Трэба ісці, мама.

І робіць новае намаганне. І яшчэ адно. І — пасля перадыху — яшчэ...

Ноч як вымерла. Ні галінка не зварухнецца, ні плот

не зарыпіць. Толькі мароз выскубвае цішыню, смачна пахруставаючы час ад часу, ды неба белым ззяннем цэдзіцца ўніз па зорных промнях, па плячах і руках іхніх уніз, у снег, і Настасі здаецца, што гэта не яно, не халоднае ззянне, намярзае на плечы, рукі, твары, а плечы, рукі, твары іх умярзаюць у яго; нездарма ж цямнеюць, набракаюць ліловым змрокам сляды, дзве няроўныя канаўкі слядоў ззаду.

— Пойдземце! Трэба ісці, мама. За мяне трымайцеся — я ўтрываю, я дужая. Пойдземце!

Перарываецца дыханне. Вянуць рукі, якімі яна абхапіла матчын стан, скамянела і вось-вось надломіцца плячо, на якое цяжка, усім тулавам, абапіраецца маці, калі раптам страчвае ўстойлівасць і прыпыняе хаду. Хаду — больш па звычцы назваць неяк гэты няўпэўнены, з задушліва-доўгімі паўзамі рух па крывой, паміж пасёлкам і Крыніцай, цераз поле, следам за поўняю, па яе слізкай сцежцы: здалёк, калі б было каму зараз назіраць за імі здалёк, яны, пэўна ж, нагадвалі штосьці нязграбнае, бясформеннае і... нерухомае. Хоць рух усё-ткі не запыняўся. Доўжыўся. Цэлую вечнасць ужо — з таго моманту, як палаваліся па хатах немцы, а яна, Настася, просьбамі і плачам змусіла маці падняцца,— доўжыўся, і калі б не ззянне, калі б не задужа яркае і якоесь мёртвае ззянне, ад якога слеплі вочы, крыху правей даўно вырысавалася б вёска. Ужо ж Настася ўгледзела б вёску, каб не засціла яе неба, што апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, ужо ж, угледзела б — пазірала ж увесь час у той бок!

— Косцік...— ірванулася ў яе з рук маці, ледзь не ўпаўшы.— Ты бачыш, Настася? — Косцік дамоў пайшоў...

— Дзе? — не зразумела яна.

— Вунь жа! Паперадзе!

Марылі быццам сілы раптам дадалося: крокі сталі цвярдзейшымі і больш устойлівымі, плечы развінуліся, голас падужэў. Яна ўсё яшчэ, не чуючы абмарожаных ног, шукала апору ў дачцэ, але цяпер — апору не так целу, як руху, памкненню свайму.

— У адной кашулі... Босы... І кроў з далоняў точыцца! Бачыш?

— Нам толькі цераз поле перайсці, мама. Ужо хутка,— старалася Настася суняць калатун і чула, як клацаюць па зубах словы, яшчэ нават не прамоўленыя: маці пачала, мусіць, загаворвацца, бо нікога ні наперадзе, перад імі, ні збоку, праваруч ці леваруч, не было — поле і поле! Яна

*І Антон, звыкла разважаючы пра не зусім творчыя клопаты, якіх тым не менш давеку не пазбыцца (заўсёды ж ёсць больш высокае званне, больш высокае становішча!), і так і гэтак пакручваў на мальберце падрамнік — адыходзіўся, і зноў набліжаўся, і зноў узіраўся ў свой твар, у свой згаслы, бясфарбны позірк.*

добра глядзела. Яна вочы праглядзела, узіраючыся, і нікога не ўбачыла. Адно слёзы набеглі, зашчыпала ў вачах — і пацерці іх не было як, бо абедзве рукі занятыя.

Белае, хрусткае месячнае святло калыхалася вакол, урастаючы ў ліловыя разводы ценю, рыпеў, ламаючыся і рассыпаючыся пад цяжкімі, няпэўнымі крокамі, снег, глыбока ўзаранаю снежнаю баразною цягнуўся ззаду хвалісты цёмны след — шлях, які ўсё імкнуўся падштурхнуць іх і звязаць, нарэшце звязаць дзве прасторы, дзве палосы поля: ранішнюю і начную — тую, што адгарэла, сшэрхла і зліласся з шэранню вечара, і гэту, скаваную марозным ззяннем, зіхотка-мёртвую, што ляжала паміж смерцю і жыццём, паміж снежнаю выспаю, над якою кружлялі груганы смерці, і хатаю, дзе чакала іх выстылая, але гатовая задыхаць цяплом, жыватворным цяплом, грубка. Шлях дамоў... Бясконцы, бясконца-пакутны шлях!

Настася зрэдку зіркала на маці: тая ўвесь час штосьці гаварыла, і, не дужа ўслухваючыся ў яе словы (уся сіла ішла на тое, каб утрымацца на нагах і не ўпасці), Настася падганяла і падганяла яе і сябе думкаю, нават не думкаю — заклёнам: «Так, так! Толькі не спыняцца! Толькі не ўпасці...»

Здалёк, аднекуль зверху, як здалося ёй напачатку, пачулася воўчае выццё — і сэрца дзяўчынкі сцялася, абмерла: не паспеюць! не дойдуць! як не ад кулі фашыстоўскай, дык ад ваўкоў...

— Мама, вы чуеце?

— Косцік не. абзываецца. Я гукаю, гукаю...— азірнулася, толькі на міг азірнулася на яе Марыля і тут жа адвярнулася, тут жа зноў упілася паглядам у штосьці, бачнае ёй адной.— Што ў яго круга галавы, Настася? Што яму надзелі на галаву, замест шапкі, а?

— Каму яму? — услухоўвалася ў далёкае воўчае выццё Настася.

— Божухна-бацюхна! — спатыкнулася і стала як укапаная Марыля.— А і праўда ж... Косцік мой... Імем айца і сына і святага духа... Што ж гэта?

Словы яе згаслі, губы, доўжачы малітву, варушыліся бязгучна, рука, не кранаючыся лба, нязграбна клала крыжы ў паветры — і Настася пазірала на яе з жахам.

— Ма-ма!!

— Ды свяціцца імя тваё, ды будзе воля твая...— малілася Марыля, намерваючыся ўкленчыць, і не магла падагнуць, сагнуць калені — не гнуліся, здзеравянелі яны.

9 Зак. 2522

— Хадземце ж, мама! Пакуль льга яшчэ... Пакуль льга. Чуеце? — церабіла, тузала яе Настася, ледзьве прамаўляючы (так калаціла ўсю) сваю просьбу.— Хадземце, чуеце?

— Але, але! — страпянулася Марыля.— Сам усявышні кліча нас, шлях паказваючы. З малітваю рушым за Ісусам, волі ягонай паслухмяныя, за ласку ягоную ўдзячныя. Маліся і ты, дачушка! Шапчы імя ўсемагутнага і літасцівага заступніка нашага сёння і давеку, за мною паўтарай.

Наструнeная, уся ў памкненні туды, дзе бачыла гарачкаю, гарачкавым розумам сваім яўленага вачам яе Хрыста, пасунулася Марыля, глыбока заграбаючы нягнуткімі нагамі рыпучы снег, далей, полем, сцежкаю блакітнага святла, якое ліла ім пад ногі зыркая поўня, і следам, паранейшаму падтрымліваючы яе аберуч, рушыла ўзрадаваная адно ўжо тым, што яны ўсё ж працягвалі рух, Настася.

Воўчае выццё чулася цяпер выразліва, значна бліжэй, і было такім працяглым і тужлівым, што кроў у жылах стыла: калі ўчуюць іх, калі выйдуць на іх след ваўкі, ні малітвы, ні крыкі (хто іх пачуе ў такой пустыні?) не дапамогуць.

— У адной кашулі... Босы... І кроў з далоняў точыцца! Цвікамі прабівалі, крыві прагнучы, вялізнымі цвікамі, а таго не ведалі, што кроў гэтая ў кожнага па венах расцячэцца, веру абуджаючы і ўмацоўваючы. Таго не думалі, што пакута яго ў кожным з нас даспяваць будзе... Па хрусткім снезе ступае, холаду не чуючы, і кроў на снезе зацвітае... Гукае, гукае мяне! Я іду! Я — следам, Ісусе... Не адштурхні!

Марыля прамаўляла гучна, і, здавалася, голас яе каціўся далёка, да краю ночы, і зноў вяргаўся, слабеючы і слабеючы, пакуль не аціхаў, пакуль не аціх. Праз колькі хвілін толькі снег звонка, хрустка парыпваў у іх пад нагамі ды недзе там, куды вяла іх поўня, выла, падвывала ваўчыха. Ёй адказвала другая, трэцяя — і вось ужо гучнае, жудаснае ў сваёй тузе выццё абклала ўсё наўколле.

Што ўжо бачыла паперадзе сябе Марыля — ці то самога Хрыста з перакошаным ад мукі тварам, са скрываўленымі рукамі і бязгучным крыкам на расцятых вуснах, ці то сына свайго, Косціка, з закатаваным Хрыстом у звернутых да глухога неба застылых вачах,— а не спынялася, упарта ішла на нягнуткіх нагах следам за чутным толькі ёй клічам (ужо ж воўчага выцця яна не чула!), павольна,

крок за крокам, адольваючы тыя няпоўныя, калі браць напрамкі цераз поле, дзве вярсты шляху, што расцягнуліся ўжо на некалькі бясконцых гадзін хады.

Яны ўжо амаль прыйшлі. Міналі крайні, Хвядоры Паўлюковай, агарод, і за Паньчыным і Сяргеішыным агародамі, калі абмінуць разваленую, не адзін год без страхі, лазню, пачыналіся іхнія соткі — за скалечаную пажарам хату ўжо чапляўся позірк. Настасін позірк. Тады, калі ў Настасі ставала сілы прыўзняць галаву, адвёўшы вочы ад іскрыстага, высіненага месячным святлом снежнага цаліка.

Яшчэ адно намаганне, і яшчэ адно, і яшчэ... Калючае паветра перасядала ў горле, кроплі поту, ледзь толькі запавольваўся трохі рух, прыстывалі да шчок, рукі, даўно адзеравянелыя ад пастаяннага напружання, як прыраслі да матчынай ватоўкі: то падштурхвалі маці, то чапляліся за яе. Настася думала, паўтарала і паўтарала ў думках толькі адно: ісці! трэба ісці! І ішла. І спрабавала лічыць свае і матчыны крокі. Налічвала восем, дзевяць — і збівалася, пачынала спачатку.

Яны ўжо амаль дайшлі. Усяго восем-дзевяць крокаў заставалася да прысыпанага снегам каменю, які служыў парожкам, да дзвярэй у хату, падпертых, калі яны адыходзілі ў пасёлак, доўгаю сукаватаю палкаю.

— Адзін, два, тры,— шаптала Настася, не зводзячы вачэй з дзвярэй.— Тры... тры... Вы чаго, мама? Мы ж ужо дома.

Марыля спынілася. Нейкі час стаяла нерухома, потым трывожна ўскінулася, павяла галавою ў адзін бок, у другі — і тузанулася, вызваляючыся з даччыных рук, і затрэслася ў нячутным плачы. Калі ж Настася памкнулася прадоўжыць рух — усяго некалькі крокаў заставалася! — маці адштурхнула яе, і яна, не ўтрымаўшыся на нагах, села ў снег. І заплакала ад бяссілля.

Шэрхла, згасала ноч. Ніжэла, злівалася з зямлёю сцюдзёнае неба. Патрэскваў у вуглах хаты, мацнеючы, мароз. Хвіліну-другую Настася чула толькі гэта патрэскванне і, змушаючы сябе сабрацца з сілаю і падняцца, думала пра тое, што ваўкі, напэўна, адсталі, не пайшлі за імі ў вёску і галоўнае зараз — падняцца і ўгаварыць, упрасіць, змусіць маці пайсці ў хату: замерзнуць жа, абедзве замерзнуць!

Яна з цяжкасцю паднялася і, калі памкнулася бліжэй да маці, убачыла: маці пазірала на яе, на дачку сваю, не

9*

пазнаючы яе. Не пазнаючы — і не хаваючы раптоўнага жаху.

Зусім блізка, здаецца, адразу за штыкетнікам, які хоць і запесены снегам амаль да сярэдзіны, а там-сям і разабраны ўжо на дровы, адгароджваў двор ад вуліцы, зноў завыла ваўчыха, і галоднае, тужлівае выццё яе азвалася ў іх, і ў дачцэ, і ў маці, адчаем, безвыходным, бязмежным адчаем: Настася міжволі адступіла да дзвярэй, Марыля ж, прасцёршы рукі да неба, так, з прасцёртымі ўгору, у нямым звароце да Бога, рукамі, зрабіла няпэўны крок следам і абвалілася, рухнула тварам у снег. Яе адразу скурчыла, і, кінуўшыся да маці, каб дапамагчы ёй падняцца, Настася скаланулася ўся і зноў на міг адступілася, пачуўшы, як у адказ на воўчае завыванне, дзіка, зусім па-звярынаму, завыла скурчаная на снезе маці.

* * *

Трывога, успыхнуўшы, высветліла якіясь глыбокія, самыя дальнія куточкі яе душы, высветліла ўсяго на некалькі хвілін, а і гэтых хвілін хапіла, каб Настася адчула сябе няўтульна і хваравітаю непрыязнасцю пачала адмахвацца, адбівацца ад думак і раптоўна паднятых з дна памяці згадак пра мінулае: і час, як кажуць, на двары іншы, і клопат заўсёды іншы знойдзецца. Навошта вяртаць даўняе, даўно перабытае, хоць бы і з выпадку таго, што трапіў на вочы нехта, падобны на крынічанскага Ігната Солада, пра якога яна і думаць забыла? У пяцьдзесят шостым, пасля рэабілітацыі бацькі, пасмяротнай ужо, выплыла ў памяці імя таго, хто падвёў бацьку пад арышт ні за што ні пра што, але выплыла і выплыла — сцерлася з цягам часу: Солад з вёскі тады ж, пасля вайны, з сям'ёю выехаў — не шукаць жа яго было па свеце, адно каб скллясці. Яшчэ каб льга суду паганца аддаць, дык не памятала, не, не памятала Настася, што хто-небудзь з добраахвотных і дужа пільных служкаў КДБ потым асуджаны быў за сваю службу. Не памятала. Не пісалі пра гэткае, не расказвалі.

— Алё!

— Як ты там, сонейка? Не сумуеш?

— А-а, гэта ты,— не здолела Настася схаваць расчараванне, пачуўшы ў трубцы голас Рыбчука.— Пазнавата звоніш... Няўжо жонка сышла, кватэру і сабаку на цябе

пакінуўшы? Ці мо сам збег, надумаўшы, нарэшце, развесціся, а? Дык папярэдзіў бы, каб я...

— Што здарылася, Насця? — спухмурнеў, відаць, Рыбчук, бо голас яго непазнавальна змяніўся, пагрубеў, набыўшы звыклую для Настасі суровасць.— Мы ж неаднойчы абгаворвалі ўсё і, здаецца, прыйшлі да згоды. Так?

— Так, так,— як адмахнулася яна.— Толькі збрыдзела ўсё, разумееш? Асцярожненькі званок, асцярожненькі візіт, асцярожненькае абяцанне... Табе не прыходзіла ў галаву, Рыбчук, што мне гэта можа збрыдзець?

— Ты ж разумная жанчына, Насця! Чым цішэй едзеш, тым далей заедзеш. Старая ісціна.

— Заехалі ўжо. Далей няма куды.

— Ты хочаш сказаць...

— Я хачу сказаць, што аб'едкамі не наясіся,— ціха, як саромеючыся, але цвёрда прамовіла Настася, перапыніўшы яго.— Ты прыходзіш, бярэш сваё...

— А ты? — не даў ён ёй дагаварыць.

— Я? Але ж гаворка пра цябе, Рыбчук,— уздыхнула.— І нашы сустрэчы, і нашы гаворкі маюць месца тады, калі табе ўздумаецца.

— Я пазваніў не ў тую хвіліну, разумею. Але я званю тады, калі я магу. І мне думаецца, за гэта папікаць не варта, а? У цябе што — нешта здарылася?

— Ды не,— стомлена адгукнулася Настася, адмякаючы.— Нешта туга навалілася. За дачку трывожна...

— За дачку? А чаго за яе хвалявацца? У яе ўсё наперадзе. Сваё возьме. І ад жыцця, і ад цябе. Чаго, чаго, а імпэту на гэта ў яе хопіць. Павер, сонейка,— у мяне больш вопыт, і я ведаю, што кажу,— буркаваў Рыбчук, як забыўшыся на суровасць, з якой толькі што абараняўся ад Настасіных папрокаў.— Дзеткі нашы — не мы: работы не шукаюць. Усё б ім гітары, песенькі, ансамблікі! Гуртом ходзяць, гуртом таўкуцца на танцпляцоўках, гуртом пратэстуюць супраць усе і ўсіх....

— Яны — падманутыя.

— Кім? Кім яны падманутыя?

— Не знаю.

Настася і сабе не адказала б, чаму раптам вырвалася ў яе гэта прызнанне якойсь іхняй, агульнай, віны перад дзецьмі: і яна ж, як Рыбчук, заўсёды пазірала на моладзь (хоць бы і на сваю Іру) з асуджэннем — з недаўменнем, калі не з асуджэннем, і яна ж моршчылася ад задужа крыклівай музыкі і, аддаючы належнае выдумцы мадэльераў

і закройшчыц, асуджальна ківала галавою ў бок экрана, на якім, апранутыя чорт ведае ў што, віхляліся патлатыя юнакі і іх зацiснутыя ў скураныя штонікі сяброўкі. На БАМ, казалі, едуць — дарогу веку будаваць, а якая з іх карысць і калі будзе збудавана тая дарога, калі і туды, у тайгу, у балота, ехалі яны са сваімі гітарамі?

— Насця, ты мяне не слухаеш!

— Слухаю, з чаго ты ўзяў?

— Я кажу: маладыя самі разбяруцца, адкуль і куды вядзе іх ужо неаднойчы надточаны людскім спадзяваннем шлях,— і яны, як мы, добра пастоптваюць ногі, перш чым уразумеюць што-якое... На жаль, у мяне больш ні хвіліны часу. Прабач... Заўтра на заўсёдным месцы сустрэчы... у той жа час... Добра? Я пад'еду і буду чакаць... Добра, сонейка?

У трубцы запікала, і Настася доўга няўцямна слухала гэта трывожнае піканне: заўтра? на заўсёдным месцы? А калі яна не пойдзе на гэту сустрэчу?

Рукі звыкла заняліся шыццём, думкі, перапыненыя і скіраваныя ў іншы бок тэлефоннаю гаворкаю, пабеглі ў гэтым новым накірунку, і Настася не стрымлівала іх: хай бягуць, хай даганяюць радасныя і бязрадасныя імгненні яе бабінага шчасця — іх усё роўна не вернеш, не змусіш улагодзіцца, аціхнуць дзесьці паблізу, каля пляча, каб у любы момант звярнуцца да іх па-свойску, па-хатняму, і выбраць з малюнкаў памяці той, які больш да душы. Хай бягуць: на тое яны і думкі. Ёй і так і так давядзецца прасачыць іх шлях, і лепш паставіцца да гэтага спакойна, балазе яны не перашкаджаюць рабоце і сукенку пастаяннай сваёй кліенткі — жонкі дырэктара тэатра — Настася ўсё-ткі сёння закончыць. Адно дробязі засталіся. За гадзіну-паўтары, хутчэй за ўсё, управіцца.

А Рыбчук што ж... Не муж. Не каханак. Не сябра нават. Штосьці сярэдняе — такое, што і не вызначыш адразу. Два-тры разы на месяц званіў, яшчэ радзей заязджаў ці клікаў да сябе яе... З аднаго боку, прыемна, што хтосьці з кіруючага апарату (чым кіраваў гэты апарат, Настася не дапытвалася: гэта, урэшце, не мела значэння) упадабаў яе, простую закройшчыцу, і хоць рэдка і заўсёды крадком, хаваючыся ад людзей, але бавіў з ёю вольную гадзіну; з другога боку, гэтая ласка ягоная, разважаная, строга размераная на гадзіны і хвіліны, калі над усім — над кожным рухам і словам — панаваў усюдыісны гадзіннік, раздражняла, астуджала і так не вельмі гарачае пачуццё.

Колькі разоў намервалася Настася абарваць гэта знаёмства, гэту аднабаковую, як ні разглядвай, сувязь — кожны раз міжволі адступалася. Штосьці перашкаджала. Што?

Два тыдні таму бачыліся. Спазніўся. Як не пятнаццаць хвілін прачакала яго Настася на рагу праспекта Пушкіна і села ў машыну стомленая, знерваваная, з якімісь злоснымі словамі на вуснах. Зірнула ж на Рыбчука (на Івана, на Івана Антонавіча, калі ўжо гаварыць пра яго як пра даўняга знаёмца, але як прывыкла яна звяртацца да яго, так і пайшло: Рыбчук і Рыбчук!), заўважыла твар яго, напружаны, шэры, няйначай, пад колер сцен ягонага кабінета, адкуль толькі што вырваўся, і пашкадавала: разыдуцца зморшчыны, з'явіцца бляклы ірдзень на шчоках і бляск у вачах у яго не адразу — перш, вырываючыся, кіруючы машыну за горад, не павернецца які час да яе і будзе зрэдку кранацца дрогкімі пальцамі яе калена, потым збавіць хуткасць і, сцяўшы пацяплелыя, асмялелыя пальцы ўкруг калена, усміхнецца. І адно пасля ўсмешкі, якая змые шэрань з твару, пазбавіцца звыклай скамянеласці, адкіне суровасць і... Далей звычайна ішло лягчэй...

Ужо ж, яна, Настася, і патрэбна была яму адно для гэтага: зняць, сцерці пацалункамі, садраць імі з твару яго прырослую ўжо за колькі тыдняў маску, каб адчуў Рыбчук, што ён жывы, што ён любы ёй, маладзейшай за яго і прагнай да ласкі. І як было сказаць яму, што яна не прыйдзе, бо не кахае яго, не кахае і, калі разабрацца, не кахала? Як, калі жаль перамагаў нават рашучасць?

Вось жа і зараз, чарговы раз намерваючыся рашуча перапыніць іх сустрэчы і не ехаць заўтра на рог Пушкінскага праспекта, як дамоўлена, хай сабе яшчэ толькі ў думках намерваючыся, ужо не магла Настася адагнаць падсвядомае адчуванне, што пашкадуе яна Рыбчука, зноў пашкадуе, каб не браць на сябе віну, якуюсь незразумелую, не яе, не Настасіну, віну, і ўсё ж віну. Тут быў сабака закапаны!

Сяброўка яе, Соня Весялуха, напэўна пасмяялася б: «Якая віна, Настася? Гэта ж перад табою, сіратлінаю, усе кругом вінаватыя, а жывуць жа, хто жывы, і жывуць, прыпяваючы...» Пасмяялася б, дык на тое яна і Весялуха. А Настася як вырасла з пачуццём віны (выжыла ж! адна на ўвесь род свой, лічы, жывою засталася!), так і мерала ўсё ў жыцці ёю, віною гэтаю. Усё — і гора, і шчасце. Мо таму і не было шчасця. Ні з мужам калісь, ні з Рыбчуком, ні з дачкою...

Сказала ў гаворцы з Рыбчуком пра яе, пра ўсіх маладых: падманутыя, а — кім падманутыя? Бацькамі сваімі? Часам, які, ледзьве выбраўшыся з крыві і адкрыўшы, што кроў людская так шчодра лілася не адно ад рук чужаземцаў, тут жа адгарадзіўся ад гэтага страшнага адкрыцця новаю хлуснёю, новымі, наскрозь ілжывымі абяцаннямі? Дык жа гэта толькі гаворыцца: часам. Час, хутчэй за ўсё, ні пры чым. Ён і такім і гэткім можа быць — як людзі павернуць. Значыцца, не туды павярнулі — і ўлады і яны, безуладныя?

Думкі здаліся Настасі задужа смелымі: гэтак чорт ведае да чаго дадумацца можна! Цяперашнія — падманутыя... А што — яны, дзеці вайны, не падманутыя? Яны пра сённяшні дастатак і марыць не марылі, а і сённяшнім ужо не хочуць задаволіцца. Вядзецца ўжо, мусібыць, так. Чаго ж ад маладых хацець? Чаго іх папікаць?

Настася разумела, што за новымі пытаннямі хаваецца ад таго, першага, якое прагучала нечакана холадна і зачапіла яе, не адпускала. Мо таму, што адказу яна не знаходзіла. Быццам не было адказу. Але ж калі падман, то і падманшчыкі меліся, гэтаксама, як і падманутыя. Адно што зірнуць у іх бок было страшна, не тое што назваць. Яна, Настася, у свой час пахадзіла ў дочках ворага народа. Не адзін гадок. Самой лезці ў ворагі асцеражэцца. Хай сабе і час цяпер іншы. Час можа здавацца якім заўгодна, а кожнаму чалавеку ў ім сваё месца вызначана. Каму — з выгодамі, каму — з нягодамі. Жыццё разбярэцца...

Гучна азваўся тэлефон — Настасю нават скаланула ад нечаканасці: засядзелася са сваімі думкамі над шыццём, а відаць жа, позна ўжо. І Іры дасюль няма.

— Алё. Алё! — паўтарыла, калі не адразу пачула водгук, трывожней.— Хто гэта?

— Гэта я, мама,— вельмі ціха, невыразна (як з-пад зямлі гаварыла) азвалася недзе далёка Іра.— Я не прыеду начаваць. Ты не хвалюйся, добра?

— Што? Што ты такое раптам прыдумала? Зараз жа дамоў! Чуеш? Ты мяне чуеш, Іра? — спалохана загукала ў трубку Настася.— І думаць не смей! Рана табе самастойнасць разводзіць. Едзь дамоў! Вазьмі таксі, як ёсць патрэба...

— Ты толькі не хвалюйся. Я ў сяброў. Я застануся ў іх нанач і хацела цябе папярэдзіць....

— І-ра!!

— Усё, мама,— як не чула яе дачка.— Раніцаю пазваню. Не панікуй. Добрай ночы.

— Іра, я забараняю! Я не дазваляю табе заставацца дзе б там ні было! Зараз жа едзь дадому! — крычала ўстрывожаная Настася, нейкі час не заўважаючы, не чуючы з-за сваёй трывогі, што адказам ёй былі кароткія гудкі, якія натыкаліся на крык яе, на словы яе і гучнелі, ажно пакуль яна не змаглася, не абяссілела.

Аглушаная, ашалелая ад трывогі, не адразу ўцяміла яна, што ўжо колькі хвілін не адводзіць вачэй ад будзільніка, які паказваў другую гадзіну ночы. Калі ж уцяміла, калі ўбачыла і звязала такі позні час з кароткімі гудкамі, што ўсё рваліся з трубкі, якую яна па-ранейшаму сціскала ў дрогкіх пальцах, міжволі заплюшчылася. Вобмацкам паклала трубку, шумна, на поўныя грудзі, уздыхнула і заплакала. Бязгучна. Не чуючы слёз, якія каціліся і каціліся з-пад апушчаных вейкаў.

Падманутыя, не падманутыя... Якое гэта мела значэнне, калі душы ў чалавеку не стала? Дачка — яе, Настасіна, дачка! — толькі-толькі семнаццаць гадкоў разменяўшы, адпрэчвала матчыну любоў, матчын клопат, матчыну трывогу. Не панікуй, сказала. І кінула трубку. І не дагукаецца Настасі цераз увесь горад, цераз усю ноч, што ўставала паміж імі чорнаю, неадольнаю (мо на ўсе гады наперад неадольнаю) сцяною.

* * *

— Сцены мяне з'ядаюць, дачушка. Ляжу і ляжу... Як жыўцом пахаваная. І Касціка гасподзь у мяне забраў, і ты не хочаш каля мяне пасядзець.

Марыля ледзь чутна прамаўляла ўсякі раз адно і тое ж: «сцены мяне з'ядаюць...», хоць якія сцены, як жылі яны ўжо другі месяц у напалову разбуранай і так-сяк прыкіданай зверху яловымі лапкамі зямлянцы, Настася ўяўляла слаба. Мо таму скардзілася мама, што земляныя сцены, сырыя, і акенца задужа малюпасенькае — з далонь? Дык дзе ж было ўзяць іншыя сцены, як спалілі немцы вёску ў канцы зімы? Усё дачыста спалілі — адны коміны тырчалі...

Тут, у лесе, зацішней. Як ужо надоўга, ніхто не гадаў. Адно што гул фронту дакочваўся і сюды, да крынічанскіх лясоў, штодня нястрымна каціўся ў іх бок. Асабліва зран-

ку чутна было, калі білі гарматы і ўздрыгвала, дрыжала зямля. Прыкладвала вуха да зямлі, аджылай пасля зімы, пасля халадоў, Настася і чула: ішлі нашы, спяшаліся ім на дапамогу. Нібыта адчувалі гора іхняе, нібыта ведалі, як кепска ім даводзіцца — без жытла, без хлеба, і спяшаліся. Настася нават маме некалькі разоў пачынала гаварыць пра гэта, але мама як не разумела. Усё хварэла з зімы. Усё скардзілася на боль у грудзях і малілася. Ціха так малілася — слоў не разабраць. Ды і не ўслухоўвалася надта Настася ў словы — голад гнаў яе з зямлянкі. Голад і страх, што, калі яна не агорае, не выжабруе ў людзей якую скарынку асцюкаватага, згорклага ад шчодра дамешанай у яго мякіны хлеба ці пару падмерзлых, саладкаватых бульбін, мама памрэ, не прычакаўшы лета, не прычакаўшы бацьку.

Зацішней у лесе, яно так. Але галадна. Да конскага шчаўя, да першых ягад яшчэ дажыць трэба. Зараз жа, у красавіку, апроч леташняй, толькі што не дужа зацвярдзелай кары́ ды жалудоў, якія спрытна знаходзіла пад старымі дубамі Настася, узварушваючы, разграбаючы мох і падпрэлае лісце, пажывіцца не было чым. Спрабавала яна сіло ставіць на птушак — грубавата атрымлівалася (ведама ж, без нітак, без шнурка хоць бы якога), не траплялі́ся птушкі. Добра, што дробненькаю, худзенькаю была, нават на свае дванаццаць гадоў не выглядала — шкадавалі людзі, адгукаліся: хто бульбіну ў руку суне, хто скамянелую скарынку знойдзе, хто, не маючы што даць, па галоўцы пагладзіць. Адно бляск згаладалых Настасіных вачэй жалем людскія сэрцы абпякаў.

Усе цяпер галадалі, усе з кары на жалудовую кашу перабіваліся, Настася разумела. Разумела, і ўсё ж зноў і зноў ішла да людзей — і нізка кланялася, дзякуючы, кашто б ні паклалі яны ў працягнутую руку. Кланялася, калі і нічога не давалі — прыйдзе ж і наступны раз. Мо наступным разам што-небудзь для яе з мамаю ў іх знойдзецца. Без людзей не выжыць.

— Выпіце, мама,— схілілася Настася з бляшанкаю, з варывам, да маці, перапыняючы яе малітву, часам, як зараз, больш падобную на трызненне: імя божае хоць і згадвалася, але ў дзіўным, ледзь не ў святатацкім акружэнні слоў.

— Ісусе, твар твой з'яўляецца перада мною,— мармытала, раз-пораз адшакліваючы боль, Марыля.— Пазнаю ў ім цябе, хоць і заліты ён крывёю, хоць і акружаны язы-

камі полымя. Ты па мяне прыйшоў, я знаю. А падступіцца баішся. Сцены мяне з'ядаюць, і табе пагражаючы. Нездарма ж адварочваешся ты і твар твой расцякаецца цёмнаю плямінаю, з якой пачынаюць выплываць рысы некага чужога, страшнага, пачварнага...

— Мама, глыніце адвару! Пакуль гарачы,— вяла ўпрошвала Настася, не дашукваючыся сэнсу ў тым, што чула.

А Марыля не заўважала яе, не бачыла — перад ёю, перад паглядам яе, прыстылым да няроўнай, цёмнай столі, пагойдваўся выклікаsuccessы яе хворым уяўленнем прывід. І Настася міжволі, няўцямна, прасачыла за яе паглядам: трэба будзе падправіць дах, там, дзе ён правісаў,— толькі і падумала...

— Малітва вяртае цябе, Ісусе, збалелай душы маёй. А ледзь толькі перапыніць малітву боль — грудзі мае няйначай сам нячысцік дзярэ, разрывае. То бачу яго, выразна, як і цябе, то не бачу, толькі чую: хрыпіць, сапе, здзіраючы скуру самую, здаецца,— і ўсё да цябе, да цябе, Ісусе, дабіраецца. А ты бачыш — і адварочваешся. Не ад яго — ад мяне, ад пакуты маёй адварочваешся. Быццам ведаеш, што нячысцік да цябе не дабярэцца. Ды будзе воля твая... А мо — даруй, госпадзі,— ты і ёсць ён? А? Малітва не ратуе...

Словы ацiхлі ў яе на губах — губы яшчэ нейкі час бязгучна варушыліся, быццам Марыля жвакала імі паветра, позірк па-ранейшаму быў прыкаваны да лапчатай столі, і такая бледнасць пакрыла твар яе і рукі, што Настася спалохана пацягнулася далонькаю да матчынага лба, стала тузаць складзеныя на грудзях халодныя рукі яе.

— Мама! Мама!

— Ты што-небудзь хацела, дачушка? — зусім выразліва прамовіла Марыля, зглынуўшы цяжкі ўздых.

— Вы не памірайце! Вы не думайце пра Бога свайго! Хутка татка прыйдзе — і ўсё, усё ў нас будзе: і хата, і хлеб, і... і...

Настася запнулася, не знаходзячы больш ні слоў, ні жаданняў: калі б адбудаваў тата хату ды хлеба ўсе яны ўволю паелі — то што ж яшчэ? Больш і не трэба нічога.

— Усё ў нас будзе: і хата, і хлеб,— паўтарыла рашуча, узрадаваная адно тым, што мама павярнула да яе галаву і пазірала хоць і сумна, але так, як заўсёды — як заўсёды раней.— Тата прыйдзе — і мы зноў зажывём дома.

— А Косцік? — не міргаючы, пазірала на яе Марыля.

— Ко... Косцік? Людзі кажуць, што наш Косцік герой. Што за перамогу загінуў,— заспяшалася Настася: толькі б зноў не пачала мама сваю бясконцую размову з Богам, з бяспамяцтвам, якое гнездавалася дзесьці ўгары, у змроку, сярод набраклых вільгаццю пасля нядаўняга дажджу яловых галінак.— Кажуць, што такім, як наш Косцік,— ён пад... падпольшчыкам быў! — пасля вайны помнікі паставяць і ўсім людам паклоняцца...

— Мы жывём, пра хлеб думаем, жалудоваю кашаю душачыся, а Косцік...— адвярнулася яна ад даччынога позірку,— Косцік ніяк да госпада не дастукаецца, пад брамаю ягонаю стаячы.

— Глыніце адвару, мама,— не адпускала яе рукі Настася.— Вам адразу лягчэй стане.

Марыля не абазвалася. Не зварухнулася. Пагляд яе зноў чапляўся за штосьці далёкае і нябачнае. Калі дачка падсунула руку ёй пад галаву і прыўзняла галаву, паднёсшы да губ бляшанку, глынула раз і другі раз і падцяла губы. Адвар праліўся ёй на падбародак — не пачула. Пасля таго як Настася адпусціла яе і адступілася,— уздыхнула і аціхла. Не бачыла дачкі, не чула. Ніяк не адгукнулася на тое, што, дапіўшы адвар, прымасцілася побач, шчыльней да яе, Настася: змрок рассоўваўся, адступаў перад яе гарачкавым паглядам — і адкрываліся пагляду іншыя, святлейшыя, далячыні, куды імкнулася хворая, збалелая душа яе...

* * *

— Гісторыя мае толькі той сэнс, які мы самі здолеем ёй надаць. Па сутнасці, кожны ўсведамляе яе па-свойму. Адзін — як бясконцы ланцуг нягод. Другі — як трагедыю, пачатак якой даўно забыты і канца якой не відаць. Трэці — як стракатую стужку намаляваных гісторыкамі карцінак, з якіх можна выбраць тую, што найбольш адпавядае ўяўленню... Варыянтаў столькі, колькі людзей.

— Ты гаворыш так, быццам усе адно тое і робяць, што асэнсоўваюць гісторыю,— скрывіла губкі Іра, стомленая размоваю.— Ды чхаць многім на гісторыю, якая б яна ні была, разумееш? Цары, правадыры, задаволеныя ці не задаволеныя іх уладаю масы... Гэта, калі азірнуцца далёка назад, відаць. А кожны ў свой час аднаго хоча і ўсімі сродкамі дамагаецца — жыць лепей, чым хтосьці па сусед-

стве, побач. На тым усё і трымаецца. Паабяцаюць людзям, што яны жыць лепей будуць, вось і гарбеюць нябогі, свету белага не бачачы, вось і ідуць пад кулі.

— О-го, як ты загаварыла, малая! — пасур'ёзнеў Віктар і адставіў, адсунуў бакал, з якога толькі што пацягваў цераз саломіну саладкаваты, разбаўлены марозівам кактэйль.— Погляды, прама скажам, самага агалцелага мяшчанства выказваеш. У тваім узросце...

— Пры чым тут мой узрост? — абурылася Іра, не даслухаўшы.— Можна падумаць, што ты святым духам жывеш, старым рубішчам цела ў язвах прыкрыўшы!

— У тваім узросце, малая, першы жыццёвы выбар робяць, і калі ты выбераш бездухоўнае існаванне — без веры, без надзеі...

— Без веры... Скажыце, не салжыце! Ды якая вера, якая духоўнасць у гэтым балоце, якое мы называем жыццём? Азірніся: н а р м а л ь н а жывуць толькі тыя, хто ўмее жыць. І жулікамі іх называй ці дзялкамі — гэта нічога не мяняе: яны — ж ы в у ц ь, астатнія — проста спіны гнуць.

— І ты хочаш жыць.

— І я х а ч у ж ы ц ь!

— І ты ведаць не ведаеш як.

— І я... Ды ну цябе! З табою, як з чалавекам...

Іра, пакасіўшыся на суседнія столікі і зразумеўшы, што яна гамоніць задужа гучна і прыцягвае ўвагу, змоўкла. Уткнулася ў кактэйль. Пацягвала яго цераз саломінку, памешвала і зноў адпівала глыток-другі. На Віктара, увесь час адчуваючы яго сумны позірк, вачэй не падымала.

— Чаго маўчыш? — не вытрымала нарэшце, парушыла занадта працяглую паўзу.— Пагарджаеш?

— Думаю, адкуль у табе гэтыя злосць і нянавісць.

— І надумаў? — ледзь заўважна сумелася Іра, сустрэўшы Віктараў позірк.

— Не. На табе ўжо сёння замыкаецца гісторыя цэлага роду: бацька, дзед, прадзед... Так проста не вызначыш. Лінія лёсу не такая кароткая, як прынята думаць. А яшчэ ж і вузлы, вузельчыкі самыя розныя — там, дзе час ішоў унахлёстку. Вузельчыкі, якія ў душы чалавека гнойнымі пухірамі нярэдка абарочваюцца. І марна ты не хочаш лічыцца з мінулым.

— З чым? — задумліва перапытала яна і тут жа дзёрзка, амаль з выклікам усміхнулася Віктару ў твар.— З тваім? З матчыным? З бабчыным?

— Ва ўсіх нас адно мінулае, хочаш ты таго, малая, ці не хочаш.

— Вось гэта ўжо не, даражэнькія! Тое, што вы памятаеце, мы — я, ва ўсякім разе! — памятаць не хачу. Вайна, вайна, культ і зноў вайна! Толькі і чуеш змалку пра геройства, здзейсненае... Здалёк гэта ўсё больш нагадвае бойню, з якой выйшлі — калі верыць таму, што ішлі на закланне, гінулі лепшыя,— не самыя вартыя таго. Гэтак выходзіць.

Віктар, здавалася, слухаў няўважліва — на яе не глядзеў, дастаў грошы, корпаўся, пазвоньваючы манетамі, палічыў і паклаў на стол рубель з драбязою. Некалькі разоў азіраўся і шукаў вачыма афіцыянта. Нарэшце кіўнуў яму і пацягнуўся да сумкі, якая вісела збоку, на спінцы крэсла.

— Ты не слухаеш,— пакрыўдзілася Іра.

— Мы дагаворым па дарозе, добра? Час падціскае: у мяне яшчэ адна на сёння сустрэча — на другім канцы праспекта.

Ён падняўся, перакінуў сумку цераз плячо, падаў ёй руку. Яшчэ раз, на хаду, кіўнуў афіцыянту і ўжо на вуліцы, у засені ліпавай алеі шумна, з палёгкаю ўздыхнуў.

— Дык не самыя вартыя, кажаш, выжылі ў той вайне? Але ж тады і ты...

— І я,— тузанула, вывернула Іра ў яго з-пад рукі плячо, адхінаючыся.— Толькі на мне за гэта віны няма.

— А на мне? — усміхнуўся Віктар.

— Табе з сабою самому разбірацца,— ціха адказала яна, услухоўваючыся ў стук сваіх абцасікаў, памаўчала, потым больш рашуча дадала: — А я... Нас выпхнулі з манежыка маленства ў жыццё, тое, якое нам падрыхтавалі і за якое намі ж пагарджаюць.

— Можа, ты ўдакладніш, якое «тое»?

— Калі ласка. Прадзед (я ўмоўна бяру!) змагаўся за свабоду сваю і свабоду чалавецтва і здзейсніў рэвалюцыю. Так? Дзед, бо якраз прыспела нагода, змагаўся за Радзіму, за зямлю сваю, супраць акупантаў, і за гэта смерць прыняў, сына свайго (ці дачку, як у матчыным выпадку) на голад і нястачы пакінуўшы. Так? Бацька, цаліну падымаючы ці камароў у тайзе праклінаючы, яшчэ верыў, што паабяцаны яму і ўсім рай бачыць,— там, дзе міраж уставаў, зусім блізка, за магільнымі грудкамі, у якіх ужо не адно пакаленне гэткіх жа, як і ён, легкаверных пахавана. Вось міраж яго і паглынуў, для нас, для дзяцей ягоных,

туманам задушлівай хлусні абярнуўшыся: ні свабоды, ні радзімы, ні веры ў лепшую будучыню!

— Усё так кепска?

— Нават горш. Як пісаў адзін паэт (немец, здаецца): наша сонца — бляклае, наша любоў — жорсткая, наша юнацтва не ведае юнацтва. Ці нешта ў гэтым родзе. За дакладнасць не скажу.

— Малая, ты часам не начыталася рознай лухты, а? — злёгку абняў яе за плечы Віктар, спрабуючы павярнуць тварам да сябе, і, калі Іра зноў вывернулася ў яго з-пад рукі і адступіла на крок-другі, яшчэ больш пасур'ёзнеў.— Ты пакуль што не ўразумела, што час мяняецца не днямі, а гадзінамі, якія перацякаюць у нябыт, а зменамі ў душы. У тваёй душы. І ад таго, хто тваёю душою завалодае, Бог ці сатана...

— Ура!

— Што — «ура»? — недаўменна перапытаў ён, незадаволены тым, што яна не дала яму дагаварыць.

— «Кричали женщины «ура» и ■ воздух чепчики бросали».

— А-а-а! — не пакрыўдзіўся Віктар.— Класікамі абараняешся. Спалохалася, што павучаць сабраўся. Але ж я, па наіўнасці, думаў: мы пагаварыць сыходзімся, душу аблегчыць адно перад адным. Ты сама прасіла...

— Прабач,— бліснула на яго вачамі Іра.— Толькі, слухаючы цябе, мне ўвесь час здаецца, што ты не свае, што ты нечыя чужыя словы прамаўляеш. Кніжныя, не кніжныя... Чужыя!

— Чужыя? Ну, і што! Гэта ілюзія, што кожны чалавек асоба, у якой ёсць індывідуальнасць, а ілюзія, гэтая альбо іншая, звычайна лопаецца, як мыльны пухір. Чалавек сам сябе стварае, становячыся ці не становячыся асобаю. Сам. Безадносна, а то і насупраць таму, чаго ад яго дамагаюцца школа, час, грамадства.

— Так табе і дазволілі — насупраць!

— Ніхто не можа дазволіць ці забараніць чалавеку быць чалавекам, малая. Быць сумленным чалавекам, які прагне дасканаласці — для сябе і для ўсіх. Самавыхаванне... Чула пра такое?

— Ты — пра адукацыю ці зноў пра душу? — нервова павяла плячом, нібыта адчула набліжэнне Віктаравай рукі Іра, і калі Віктар усё-ткі крануў яе за плячо і заступіў дарогу, сама не адказала б чаму, зачырванелася.—

Каб гаварыць ці слухаць пра душу, трэба, па меншай меры, нарадзіцца з думкаю, што яна існуе. Згодзен?

— Не. І ведаеш чаму?

— Чаму? — не памкнулася яна вырвацца, абмінуць Віктара.

— Таму што ты, як і я, ведаеш, што душа існуе. Што яна жыве ў табе, як і ў кожным, узвышаючы цябе, патрабуючы ад цябе адказу за ўчынкі і дзеянні. Жыве, малая, калі ты не мкнешся забіць яе, калі не забіваеш.

— Задужа ты ўпэўнены.

— Вера для чалавека не толькі немагчымая, але і непазбежная, разумееш? — не адпускаў ён яе пагляд.

— Вера ў што? У ідэал? У Бога? У каханне? — спрабавала Іра ўсміхацца як мага натуральней.

— Ідэал, Бог, каханне... Усё — у адным, усё — адно і тое ж, адно цэлае. Калі ты прыйдзеш да гэтага разумення..

— Ты хочаш, каб я хутчэй састарэла?

— Пры чым тут...

Віктар, калі ўжо ў наступнае імгненне сэнс дайшоў да яго, пляснуў сябе па лбе, засмяяўся, адступіў крыху ўбок і пацягнуў Іру далей па алеі.

— Госпадзі, ну і логіка! І я... Чакаць ад юнай легкадумнай асобы ўвагі і разумення! Патрабуецца старасць, каб паразумнець... Геніяльна, малая!

— Нічога смешнага,— нечакана пакрыўдзілася Іра.

— Ну, як жа! Адразу знікаюць усе праблемы: прага ідэалу, пошук Бога, барацьба з жыццёвымі абставінамі, каханне... Сядзі сабе на лавачцы і чакай старасць!

Ён усё яшчэ смяяўся, хоць і заўважыў Ірыну крыўду. І Іра рашуча абагнала яго словы і яго смех, пайшла паперадзе, не азіраючыся і зрэдку пацепваючы плячамі, што атрымлівалася ў яе неяк па-птушынаму і прыгожа, уздрыгвалі і пакалыхваліся з боку на бок валасы, ледзь не на макаўцы сабраныя ў пышны хвосцік, хвалямі, ад плячэй да тонкага стану і ніжэй, збягалі лёгкія фальбоны мудрагеліста сшытай крэпдэшынавай сукенкі, падстуквалі іх руху абцасікі. Часам, калі Іра абмінала чыйсьці занадта пільны позірк ( колькі хвілін жа ўжо як яны выйшлі на людны праспект), Віктар бачыў яе зграбны, блізкі (крышачку, калі прыглядацца, курносы нос перашкаджаў) да класічнага профіль — адно-два імгненні ўсяго бачыў, адно што позірк паспяваў зачапіцца. І ўцешна, і смешна...

Папраўдзе, Віктар смяяўся зараз з самога сябе: аскет,

жыў, ужо добры дзесятак гадоў, адасоблена, заўсёды воддаль ад такіх юных і прывабных нават у тым, што атручаныя хлуснёю свайго часу, дзяўчатак — і на табе! Падсела сумная, упэўненая ў сваім характве даўганожка ў машыну, расплёскала незнарок валошкавую сінь аграмадных на бледным твары вачэй, бязгрэшна абвясціўшы, што калі ўжо Магдаліну абвясцілі пасля ўсяго святою... Хто такая Магдаліна, канечне ж, растлумачыць не магла — святая грэшніца, і ўсё на тым! — а пакрыўдзілася, калі ён назваў тое, дзеля чаго падсела Іра да яго ў машыну, сваім імем. Пакрыўдзілася, запатрабавала спыніць машыну і высадзіць яе — і змушана была праездзіць з ім больш як гадзіну і выслухаць нямала ўсяго і пра Магдаліну, і пра грэх — ажно да першароднага, і пра злачынную легкадумнасць сучасных, хай сабе і эмансіпіраваных сцыкух.

«Штосьці ў малой ёсць,— як апраўдаўся ён у думках, зглынуўшы смех і кіруючыся за Іраю.— Штосьці ў самым зародышы, як кажуць, але калі ёю заняцца як след...»

— Я правяду цябе толькі да прыпынку, малая. Добра?

— Прыпынак — вось ён. Так што лічы, што правёў,— страляла Іра вачыма то ў адзін бок, то ў другі, яўна пазбягаючы Віктаравага позірку.

— Ну, вось! Надзьмулася як мыш на крупы. Быццам я ўзапраўду пажадаў, каб ты хутчэй састарэла. Хопіць таго, што ў мяне ўжо залысіны...— выглядаў патрэбны тралейбус Віктар з-за купкі людзей, што сабраліся на прыпынку.— Табе ж «двойка» падыходзіць?

— Паслухай, ты так і не назваў сваё прозвішча,— павярнулася і ва ўпор зірнула на яго Іра, невядома чаму прыгадаўшы ў гэту хвіліну колішнюю гаворку з маці.— Сакрэт?

— Чаму ж! — крутануўся і застыў перад ёю той.— Солад — маё прозвішча. Віктар Ігнатавіч Солад. Звесткі па пашпарце.

Вочы у Іры пакруглелі: здзіўленне, разгубленасць, нават раптоўны страх, які тут жа змяніўся цікаўнасцю, скалыхнуліся ў іх сінечы, і Віктар не адразу прагнаў нечакана ўзніклую ніякаватасць.

— Табе што-небудзь гаворыць маё прозвішча?

— Значыцца, гэта бацьку твайго памінала мама,— паволі паднесла Іра далоні да шчок — і шчокі запалалі ў яе пад пальцамі.

— Бацьку? Яна ведала майго бацьку? — зірнуў на гадзіннік Віктар і зноў нецярпліва павярнуўся да пры-

пынку, да тралейбуса, што якраз падкочваўся і аказаўся тым, якога яны чакалі.

— Мама назвала яго пячысцікам. І заплакала...

— Што? — не пачуў ён.— Што ты сказала?

* * *

Выздаравець Марыля, пэўна ж, не выздаравела, але паднялася. Па леце ўжо, пасля таго, як фронт адкаціўся далей на захад, пакінуўшы ім радасць вызвалення і папялішчы, на якіх трэба было неяк абжывацца. Змарнелая, высахлая за час хваробы, блукала яна вакол чорнага, аброслага сажаю коміна, калупалася ў галавешках сваёй хаты (у галавешках мінулага), быццам шукала, хацела знайсці штосьці. «Ты што-небудзь шукаеш?» — пыталася дачка, і Марыля разгіналася, хуценька хаваючы рукі за спіну і шморгаючы іх аб спадніцу, вінавата зіркала на Настасю і ішла дапамагаць ёй вычышчаць, умацоўваць сцены сям-там абваленага склепа (хаты ж ім самім павек не адбудаваць!) ці, калі Настася шчыравала на агародзе, далучалася да яе і колькі хвілін маўчком карчавала ўкаранелы, ледзь не ў рост чалавека, быльнёг, каб пасадзіць той дзесятак бульбін, якія, хоць і пазнавата ўжо, агоралі ў людзей. Часцей жа, зрабіўшы як не сотню кругоў вакол рэшткаў хаты, быццам згадвала раптам пра штосьці нязробленае і мусова пільнае,— брала кіёк, на які звычайна абапіралася, і таропка шпацыравала ў пасёлак, каб вярнуцца ўжо прыцемкам.

Настася гукала маці, але яна не азіралася — не чула. Думала сваё і не чула. З дня ў дзень — адна і тая ж дума, адзін і той жа шлях. Цераз бяспамяцтва. Цераз тры страшныя гады акупацыі. Цераз немату, якою абярнулася яе задужа палкая малітва, звернутая да Бога, да неба, завеянага чорнаю лютаўскаю завірухаю і згаслае, ужо назаўсёды для Марылі згаслае. Малітва жыла ў яе ў душы, аберагаючы душу ад змроку, які так шчыльна абступаў часам, што, здавалася, вось-вось задушыць яе, але, ледзь згадвала Марыля імя гасподняе, зноў адступаўся. Не надта шмат адступаўся — адно каб дыхаць льга, дыхаць у такт няпэўных, хісткіх крокаў.

Стамлялася Марыля — запавольваліся крокі, ціпэйшым, ледзь чутным рабілася няроўнае дыханне, а нітка шляху доўжылася. Доўжылася і абрывалася толькі на

плошчы перад будынінаю школы з павыбіванымі і дагэтуль не зашклёнымі вокнамі.

— Акыш! Акыш! — бязгучна прамаўляла Марыля і ўзмахвала кійком, адганяючы нябачных груганоў, і людзі, якія перш дзівіліся на яе, на яе няўцямныя рухі, потым прывыклі да яе адзінокай сумотнай постаці пасярод плошчы: стаяла і стаяла сабе. Хто бульбіну ці што іншае з ежы, як меў, клаў побач, хто проста спыняўся паблізу ад яе на хвіліну, спачуваючы: і пра гора Марыліна, і пра хваробу яе, якая так і не пакінула яе, усе скрозь ведалі.

— Акыш! Акыш! — зрэдку ледзь заўважна варушыла Марыля губамі, і гадзіны перацякалі ў яе маўчанне ціха і журботна: нябога, гэтаксама, як і яе Бог, жыла ў свеце, дзе панавалі гармонія і парадак, не заўважаючы, не бачачы, што навокал корчылася ад мукі рэальнае жыццё.

Лета і восень сорак чацвёртага, зіма сорак пятага, зноў лета... Жанкі плакалі над пахаронкамі, радаваліся прычаканай перамозе, елі хлеб як не з самой мякіны, сустракалі, як шчасціла, параненых, пакалечаных вайною мужоў і братоў сваіх, выходзілі ў поле і ўпрагаліся ў плугі побач з бяссілымі кароўкамі сваімі, каб хоць як, хоць потам сваім крывавым, засеяць лапік удзірванелай, пасечанай асколкамі зямлі і сваё спадзяванне на палёгку. І Марыля, дзе сама, дзе з дачкою, упрагалася ў плуг разам з іншымі, арала, потым касіла, потым жала, як было што, падбіраючы кожны каласок,— моўчкі, без скаргаў і, здавалася, без асаблівай натугі. Толькі ў вачах, да донца выцвілых, згаслых, стыла неперабытая мука, ды часам, глыбока задумаўшыся, яна раптам усплёсквала, узмахвала раз і другі раз рукамі — як прывіды адганяла.

— Зноў Марыля груганоў ад цела сынавага адганяе,— казалі бабы, а Настася, калі надаралася ёй быць побач, ціха гукала:

— Мама! Мама!

І Марыля спалохана ўздрыгвала, і зноў угіналіся ў яе плечы, прымаючы непасільны цяжар стомы — ці мо, як яна часта думала, самога неба, што апускалася штодня ніжэй і ніжэй.

— Акыш! Акыш, праклятыя! — чула яна шум мноства цяжкіх чорных крылаў над галавою і, не падымаючы вачэй і не расціскаючы вуснаў, сілілася адагнаць вараннё сваёю трывогаю. А яно ўсё налятала — як не з усяго свету зляталася да Марылі, да гора, якое яна рэдка і ўсведамляла ўжо як гора: згадвала раптам пра штосьці нязробле-

нае і пільнае — і няўцямна ўсплёсквала, узмахвала рукамі.

Лета і восень сорак чацвёртага, зіма сорак пятага, зноў лета і зноў восень... Гісторыя ці, дакладней, тыя пашкуматаныя вятрамі стагоддзя старонкі, што хадзілі ў народзе пад імем гісторыі, нічога не расказвалі пра жыццё вёсачкі Крыніца і яе жыхароў, жывых і мёртвых,— ні да гэтага часу, на працягу гадоў і стагоддзяў, ні тады, адразу пасля адгрымелых у гонар вялікай, аплачанай жыццём мільёнаў перамогі, у першыя месяцы пасля вайны. І няхай гэта зусім не азначала, што яно, іх жыццё, нічым не адметнае,— нікому не прыходзіла, не прыйшло ў галаву аспрэчыць факт замоўчвання, наўмысны ці ненаўмысны. Хоць калі абмінуць гэту вёсачку і тысячы, дзесяткі тысяч іншых, падобных і не падобных на яе, калі не расказаць пра Серафіма Шчаўліка і яго сям'ю ці пра любую другую сям'ю, якая прасачыла яе страшны лёс, то з каго і для каго тады пішацца гісторыя народа?

Ужо ж, не Марыліны гэта былі думкі: не суадносіла яна сябе, сваё жыццё, нават калі некалькі пакаленняў са свайго ці мужавага сялянскага роду згадвала, з народам, не прыпісвала ні нядоўгае шчасце сваё, ні бясконцую муку сваю да яго гісторыі. Ні раней, ні тым больш зараз, калі і пакута, здэцца, адступілася ад яе. Адно без слоў малілася ўначы, штоноч, адна, сам-насам са змрокам, які сцякаў з земляной столі, перацякаў у яе невідушчы позірк, а каму малілася, не ведала. Не ўсведамляла. Як не самому жыццю, яшчэ не згасламу ў ёй, але такому ціхаму, нячутаму, што бруенне яго хутчэй угадвалася, чым адчувалася.

— Мама, чаму вы не спіце? — пыталася Настася, а яна ў адказ нават уздыхнуць часта не магла: каторы ўжо месяц не спала...

Тое, што сплывала за лес ноч і займаўся новы дзень, пазнавала па натужным скрыпе старой, абгарэлай і чорнай, як асмолак, яблыні адразу за склепам: штораніцы ўсчынаўся вецер, штораніцы, у адзін і той жа час, пачынала рыпець-стагнаць пакалечанае дрэва. Спярша стогн быў глухім — як з-пад зямлі ішоў, потым гучнеў, набліжаўся, і Марылі чулася ў гэтым безнадзейным стогне жалоба — яе, Марыліна, жалоба, пераўвасобленая, агучаная раніцаю. Вецер нёс гэтую жалобу ўздоўж папялішчаў Крыніцы і далей, па ўсёй зямлі, засеянай жалезам і людскімі косткамі, будзіў жывых: уставайце! дзень не чакае!

Дзень не чакаў. Ён займаўся, абыякава-сонечны ці па-

хмурны, поўны птушыных пеpазоваў ці шчасліва-бадзёрых маршаў, якія, калі вецер дзьмуў з таго боку, даляталі з пасёлка, з чорнай зяпы рэпрадуктара, пачэпленага на слупе перад школаю. І рыпела, заглушаючы ўсе астатнія гукі, стагнала яблыня. Пакуль Марыля не падымалася. Пакуль не спаўзала з радна і не выбіралася са склепа на двор, азіраючыся на яе, абпаленую, мёртвую і... нерухомую. Каб скалыхнулася яблыня! Каб хіснулася! І незразумела было, адкуль тады ішоў глухі працяглы стогн.

Дзівілася Марыля. Бліжэй падыходзіла. Пальцамі крытала чорныя асмолкі голля. Уздыхала. Мо гэта зямля дагэтуль стагнала?

— Цётка Марыля! Чуеце, цётка Марыля! — гукала яе Зося, паштарка пасялковая.— Пісьмо вам! Зранку, як раней, прыбегла, бо пісьмо ж! Першае пісьмо салдацкае ў ваш двор. Мо Серафім вам.

Марыля невідушча пазірала на дзяўчыну. Памкнулася ступіць да яе — і не зварухнулася, не асіліла раптоўнага здранцвення.

— Ці мо не рады? — сама скіравалася да яе цераз двор Зося.— Не пахаронку ж — пісьмо прынесла! Значыцца, я так думаю, жывы ваш Серафім.

— Се...рафім...— расцяліся ў Марылі вусны, упершыню за столькі месяцаў здолеўшы выкаўтнуць, вымавіць слова, і на твары яе, бледным, бясколерным, скранулася, зварухнулася штосьці, што і аддалена не нагадвала ўсмешкі.— Се-рафім!

А насустрач паштарцы ўжо ляцела Настася.

— Тата! Татка жывы! Я ведала! Я казала!

Пісьмо, шэры салдацкі трохкутнічак затрымцеў у высока ўскінутай руцэ яе, ногі вытанцоўвалі якіясь мудрагелістыя выкрунтасы.

— Я ведала! Я казала!

— Танцуй, танцуй, дзеўка! — радасна смяялася, гледзячы на яе і выціраючы слёзы, Зося.— Не кожнага дня гэтакае шчасце выпадае. Не кожнаму...

— Мама! — павярнулася да Марылі Настася, і тут толькі, убачыўшы яе рухомы, злёгку нават паружавелы твар, усвядоміла, што маці загаварыла, сказала штосьці, і кінулася да яе, і, шчаслівая, абяссіленая раптам ад непамернага шчасця гэтай хвіліны, прывалілася, прыпала да матчынага пляча, схавала сваё ўзрушэнне, сваю нечаканую разгубленасць.— Татка жывы...

— Чытай!

— Чытай жа! — падтрымала Марылю Зося.

Настася, перш чым пачула сказанае, адчула нецярплівы матчын рух (і абдымала і адхінала адначасова), адчула, што міжволі — сама! — доўжыць чаканне татавых слоў, і сумелася. Адхінулася. Шмарганула рукавом па сухіх вачах (штосьці ў вачах паколвала), шумна, ротам, удыхнула паветра і дрогкімі пальцамі, якія не вельмі каб слухаліся яе, стала разгортваць трохкутнічак. Разгортвала доўга, асцярожна, каб часам не парваць, і толькі калі маці кранула яе за плячо, заспяшалася, стала разбіраць няроўны бацькаў почырк.

— «Жывы я застаўся, Марыля. Выжыў я, дзеткі. Не пісаў, бо думаў, грэшным дзелам, што памру, адыду, як іншыя, вас так і не пабачыўшы. Мо Бог, як той казаў, пачуўшы малітвы вашы, злітаваўся, мо — гэта ўжо дакладна! — урачы ўратавалі, за што па гроб жыцця буду ўдзячны ім. Няхай калекам дажываць буду, а ўсё лепей, чым да пары косткі ў зямельцы парыць»,— чытала, запінаючыся ад хвалявання, Настася.

Зыркае кастрычніцкае сонца спрабавала расквеціць апалае, пажухлае ад дажджоў лісце вішняку, густа парослага ўздоўж вуліцы, ці адагрэць, ажывіць мёртвую яблыню ў Марылі за спіною, але навакольная шэрань, здавалася, усмоктвала сонечныя промні, там-сям сыходзячы парою, а чорнае яблыневае голле ўвачавідкі адштурхвала, страсала чырвоныя водсветы, водбліскі сонца, быццам яны не проста нагадвалі водсветы колішніх страшных пажараў, а былі імі, тымі балючымі водсветамі.

Вочы ў Марылі слязіліся. Слёзы перакіпалі недзе глыбока, так і не выступіўшы, не выкаціўшыся, але салёны накіп іх засціў позірк — Марыля слепла, аслепла і не бачыла ні напружанай дрогкай спіны Настасі, схіленай над пісьмом, ні паштаркі, якая, хлюпаючы ціха носам, павярнулася ісці. Да яе, да Марылі, набліжаўся Серафім — чуваць было, як парыпваюць яго мыліцы, як вызвоньваюць у яго на грудзях баявыя медалі.

— «Няхай калекам дажываць буду, а ўсё лепей, чым да пары косткі ў сырой зямельцы парыць,— чытала Настася.— Мыліцамі навучуся карыстацца, потым пратэз асвою. Яшчэ і ў скокі пайду, вось убачыце! Веру, што абмінула вас усіх смерць, бо за мною ўвесь час палявала. Зараз жа... Той, хто, як я, гэтулькі разоў паміраў і не памёр, доўга жыве. І я буду доўга жыць. Цяпер буду. І дзетак павывучваем мы з табою, Марыля, і самі на іх і на

дзетак іхніх нарадуемся — гэткую ж вайну перажылі, гэткую пакуту сцярпелі! Настася ўжо, відаць, нявеста і Косцік мяне ў росце абагнаў...»

Угнула плечы Марыля: наляцела, засланіла неба чорнае вараннё, у крыку ягоным патанулі словы. Звыкла ўгнула плечы Марыля — чакала: вось-вось апусціцца, навапіцца на яе гэты крык, гэты пошум цяжкіх крылаў — і не здолее яна ўтрымаць іх — хруснуць плечы, абвянуць, падкосяцца ногі... Але вараннё не апускалася ніжэй, кружляла воддаль, высока над дваром — упершыню так высока. Цішэў, аддаляўся і шум — зноў чула Марыля, як рыпяць Серафімавы мыліцы, як вызваньваюць у яго на грудзях баявыя медалі.

* * *

«Волга» тармазнула, лёгка спружыніла, прымаючы яе ў сваё ўлонне, і пакацілася далей, у бок акружной дарогі, па якой праз дваццаць — трыццаць хвілін вырвецца за горад, і Настася адчула, як адчувала кожны раз, калі садзілася ў машыну, што там, ззаду, на рагу праспекта, на нейкі час пакінула свой лёс і імчыць у невядомым кірунку. Невядомым — канечне, чыста ўмоўна, бо і па Слуцкай шашы ў бок Вячы, і па Гродненскім бальшаку на Заслаўе ездзіла яна з Рыбчуком неаднойчы. Не так часта, каб запомніць кожны пагорак, кожную лагчыну, але ўсё ж не адзін раз, і сёй-той з краявідаў, якія адкрываліся вачам, лёгка пазнаваліся. Пазнаваліся — і гэта не перашкаджала Настасі. Па меншай меры, напачатку, калі ўсю яе ўвагу забірала дарога і неба, што рэчышчам дарогі імкліва плыло насустрач, пагойдваючы вершалле бяроз і соснаў, быццам яны, гэтыя высачэзныя бярозы і галінастыя сосны, былі проста водарасцямі пад празрыстаю тоўшчаю сінечы недзе на самым дне ліпеньскага адвячорка. Так, так, яны, дрэвы,— водарасці неба, а Настася (у гэтыя хвіліны Настася заўсёды адасабляла сябе і ад Рыбчука і ад машыны) — іх гаспадыня і распарадчыца. Нават тое, што шашу расцягвалі ў два канцы сустрэчныя патокі машын, не мяняла ўражання.

Час пагойдваўся побач. За шклом, якое не ўспрымалася ні перагародкаю, ні неадольнаю мяжою, і яна, Настася, была гэтай адкрытай пагляду прастораю ці прастора самім імклівым рухам перацякала ў яе і станавілася ёю, не мела

значэння: два імкненні зліваліся ў адно, рух выслабаняў іх — і стома, страх, незадаволенасць, трывога апошніх дзён саступалі цішыні. Аграмаднай, як летні адвячорак, цішыні. І ні роўны гул матора, ні няроўны, наплывамі, шум шашы, ні больш гучная пасля кожнага такога наплыву незнаёмая музыка (працаваў прыёмнік) не перашкаджалі Настасі чуць — піць гэту цішыню.

Далячынь была сіняй-сіняй, зямля — зялёнай-зялёнай, і іх сіне-зялёнае святло пялёхкалася ў душы, неяк зусім па-дзіцячы прыціхлай, завабленай чарамі адвячорка. Думалася пра аблачынкі, падобныя на порсткіх матылёў, пра лясныя сцежкі, што асцярожна выходзілі з лесу і тут жа хаваліся ў густой засені прыдарожнага алешніку, пра накіп рамонкаў то там, то сям на выспах уздоўж шашы, але думалася як бы паміж іншым — далёкім, даўно, здавалася, забытым. Быццам жыла Настася зараз і цяперашнім, рэальным — вось жа і ветравога шкла і руля, на якім па-гаспадарску ўпэўнена ляжалі рукі Рыбчука, льга было крануцца не толькі позіркам, і тым далёкім, яшчэ даваенным, што і забытае не згубілася ў часе і дагэтуль жывіла спадзяванні на якуюсь непрычаканую і ўсё ж магчымую, блізкую ўжо радасць. Якая гэта радасць і чаму спадзяванне на яе не-не і змушала Настасю ўслухоўвацца ў сябе, у раптоўную цішыню ў сабе, яна не адказала б. Не ведала. Ды і не павінна была, хутчэй за ўсё, ведаць: не кожная таямніца адкрываецца чалавеку, не кожную таямніцу, калі б раптам адкрыўся патаемны спрадвечны сэнс яе, вынесла б душа. Разуменне гэтага няўцямна жыло ў ёй. Яшчэ змалку. З вайны.

— Асвоілася?

— Ты пра што? — пакасілася на руку, што ляжала ў яе на калене, Настася, не павярнуўшы да Рыбчука галавы.

— Доўга адтайваеш...— прыбраў ён руку.— Адно па твары, зменлівым, як краявіды за шклом, узяўся б вызначыць, калі з табою можна загаварыць. Толькі па твары.

— Але ж...— разгубілася Настася і, прыгадаўшы свае колішнія думкі пра Рыбчука, засмяялася: ужо ж яны абое не адразу адцярэбліваліся ад пражытага дня, ад дзён, прамінулых пасля апошняй, хоць сабе і недалёкай сустрэчы.— Ты гэткі ж чужы напачатку! Думала: гэта мне давядзіцца чакаць...

Смех вярнуў упэўненасць, лёгкасць. Настася сама падалася бліжэй да Рыбчука, пяшчотна правяла пальцамі па гладка паголенай шчацэ яго, на міг прыпала шчакою да

дужага пляча: што б там яна сабе ні даводзіла часам, а гадзіны, праведзеныя ёю з Рыбчуком (няхай ён немалады, няхай для каханка змрачнаваты),— лепшыя ў яе не багатым на падзеі жыцці.

Чары дарогі зніклі. Дакладней, не зніклі, а не ўспрымаліся гэтак чуйна, як раней: у душы скранулася, расло, дужэла іншае пачуццё, невызначальнае і ўладнае, і Настася не працівілася яму, яго гарачай хвалі, што накочвалася ўсё вышэй і хутка абпячэ, захлісне, перахопіць дыханне...

«Волга», нырнуўшы ў засень лясной дарогі і збочыўшы ў першую ж зручную прагаліну ў бярэзніку, спынілася — зверху хлынула ў адчыненыя акенцы, у адразу ж прахінутыя Настасяю дзверцы цішыня. Зялёная, звонкая, напоўненая перасвістамі, перамовамі птушак цішыня, што, схліснуўшыся з гарачаю хваляю пяшчоты, прагі любові і цеплыні, прагі жаданае зараз блізкасці, падхапіла Настасю, хіснула, кінула насустрач прасцёртым да яе дужым мужчынскім рукам і сышлася над ёю — над імі — аграмадным, пахкім да галавакружэння лісцем травы.

Прыкамечаная трава, прыкамечаная спадніца, якая ўсё ніяк не абцягвалася, не прыкрывала калені, шчаслівая стома раптам пацяжэлага, натоленага цела, адмяклы, падабрэлы твар Рыбчука, які ўдзячным і бездапаможным рухам зрэдчас тыцкаўся ёй у плячо,— усё ўспрымалася як бы збоку, другім нейкім зрокам. Перад затуманеным, цьмяным позіркам Настасі плыла, пагойдвалася шаша — край шашы, які ўпіраўся ў небакрай і абломваўся, падаў пад ногі, патанаў у рамонках, пераходзіў у рамонкавую паляну, дзе... Ну, канечне, гэта Мікалай хінуў яе да сябе, шукаў вуснамі яе вуснаў! Настася гарэзліва адварочвалася, смяялася, а яго рукі станавіліся ўсё больш настойлівымі, неадчэпнымі, і не было куды дзецца, і яна сама цягнулася насустрач яго пацалунку.

— Наста... Настачка...

«Гэта ж не Мікалай! Гэта зноў Рыбчук...» — мільганула спозненае, роспачнае, а цела ўжо адгукалася на ласку, цела выплёсквала, аддавала сваю перастрачаную за гады сілу, прагнучы сілы чужой, і Настася скаралася яго памкненню, яго гарэнню. Хвіліны — і гэтыя хвіліны! — адгараць, згараць, і дыхаць стане лягчэй, і шкадаванне не вернецца, яна ведала. Колькі слязінак скоціцца на шчоках — дык жа бываюць слёзы радасці, бываюць слёзы радасці!

— Ты плачаш? — адчуў ён яе напружанне.— Ты аб чым-небудзь шкадуеш, Наста?

Усміхнулася на яго словы, на яго не вельмі зграбнае памкненне ўцерці ёй слёзы, выслабанілася з абдымку.

— Мы — як маладзяты...

— Павер, я хацеў бы, каб мы сустракаліся часцей!

— Навошта?

Яны сядзелі на папярэдне кінутай доле куртачцы: Рыбчук — прываліўшыся да бярозавага камля, Настася — прыхінуўшыся да Рыбчука, да пляча ягонага. Прыйшоў час размовы. Вярталіся ранейшыя — заўсёдныя — трывогі і турботы, і перш чым яны выцесняць, адцесняць, і надоўга, хвіліны блізкаскасці, радасць і муку гэтых хвілін, за іх чапляліся, іх адштурхвалі словы.

— Навошта,— паўтарыла Настася, зіркнуўшы на гадзіннік,— калі ўсё роўна нічога не зменіць?

Ён не адказаў. Не зварухнуўся. Ад рукі, што аціхла ў Настасі на плячы, лена сцякала цяпло, цяпло без аніводнай іскрачкі ўжо, больш падобнае на звычайную ўтому, але так было ўтульней. На нейкі час яшчэ — утульней.

— Ведаеш, не магу адагнаць успаміны маленства,— не чакаючы адказу, загаварыла Настася пра сваё.— Жахлівыя ўспаміны. Вайна... і два пасляваенныя гады...

— Што-небудзь нагадала пра той час?

— Здагадлівы! — не павярнула галавы яна, хоць у голасе пачуліся мякчэйшыя ноткі.— Гэта ж надоечы згледзела ў натоўпе твар знаёмы. Твар нячысціка аднаго, знаёмага з сорак шостага... Падумала: звідзілася, няйначай. Ажно не. І другі раз напаткала, і трэці... Ён гэта! Ці сынок ягоны.

— З паліцаяў хто?

— Горш.

Рыбчук лыпнуў вачыма, быццам здзівіўся, і зноў стомлена звёў павекі. Крыху паёрзаў, уладкоўваючыся зручней, лёгенька прыхінуў бліжэй да сябе Настасю, уздыхнуў. Але не перапытаў. Чакаў яе тлумачэння, яе расказу.

А Настасі як зарвала раптам: не ішлі словы, блыталіся думкі.

— З бацькам гэта...— адно і выціснула з сябе.— Бацьку пасля фронту, пасля шпіталя... забраў...

Пакутна зморшчылася: расказ, не пачаўшыся, закончыўся. І што расказваць? Каму? Рыбчук жа гэтаксама з начальства, не ёй роўня. Не кінуўся нябось суцяшаць ці тлумачыць. Маўчыць. Не зварухнуўся, адпачываючы...

Горкія думкі дыктавала ёй раптоўнае раздражненне супраць Рыбчука, і супраць сябе самой, пакорнай яму і ягонай страсці, і супраць мінулага, якое моцна трымала яе, не адпускала вось ужо столькі гадоў: дачка паспела вырасці.

— Марная справа — зводзіць рахункі з мінулым,— слаба варухнуў рукою, што ўгрэлася ў яе на плячы, Рыбчук.

— А калі яно,— рэзка адхінулася Настася, паварочваючыся,— калі яно новы рахунак табе выстаўляе? Тады як? А?

Ён, незадаволены (наструніўся ўвесь), расплюшчыў вочы, упершыню зірнуў на яе ўважліва, быццам прыглядаўся, узважваў сказанае, і стаў няспешна падымацца. Падняўся. Усміхнуўся, калі Настася ўскочыла следам, не чакаючы, што ён падасць руку. Неяк сумна ўсміхнуўся. Хутчэй сам сабе, а не ёй, Настасі.

— Прабач, сонейка, што не падтрымліваю гаворку. Я разумею: цябе ўсхвалявала тая сустрэча... Але павер мне: прывіды не любяць, калі іх памінаюць задужа часта.

— Прывіды? Які ж гэта прывід, калі ён, як усе, носіць джынсы, п'е газіроўку, спрабуе заляцацца да маёй дурніцы?

— Ты ведаеш што-небудзь пэўна?

— Ды не. Бачыла...— запнулася Настася, сустрэўшы яго насцярожаны халодны позірк.

— З дачкой гаварыла?

— Пагаворыш з ёй, як жа! — адвярнулася яна, нервова агладжваючы сукенку.— Фыр! — і паляцела. Гэта яе, бачыце, справа, з кім сустракацца, і ведаць яна не хоча пра пэражытае іншымі, пра чыесьці мукі і чыесьці злачынствы.

— Шчаслівыя.

— Хто? — не зразумела Настася, прасачыўшы няўцямна за яго рухам (Рыбчук склаў і кінуў у багажнік скамечаную куртачку).

— Дзеці нашы, сонейка, шчаслівыя,— стомлена, хмура адазваўся ён і пайшоў садзіцца ў машыну.— Едзем?

— Пачакай, Рыбчук,— заспяшалася яна.— Ты напраўду лічыш, што шчасце ў тым, каб нічога не памятаць, каб усё, што пражыта, адпрэчыць раз і назаўсёды?

— А як іначай?

— Іначай — не шчасце выходзіць, а бяспамяцтва. Бязвер'е і бяспамяцтва.

— Ну-у, Наста! — стукнуў ён дзверцай і павярнуў ключ, заводзячы рухавік.— Гэтак мы з табою да філасофіі дабяромся. Бязвер'е... Бяспамяцтва... Калі азірацца на кожны твар, на кожны вокліч — у трох соснах лёгка заблудзішся. А перад намі — не тры сасны, а лес, лес праблем і пытанняў.

— Лес ратаваў людзей, а вашы праблемы і пытанні душаць!

Настася зазлавала: вось і гаварыў з ёю Рыбчук, а словы ўсе слізкія — не падчэпіш. Ні пагадзіцца з імі, ні аспрэчыць іх. Адчуваецца, падсвядома адчуваецца іх нейкая непераканаўчасць, ілжывасць нават, а ў чым яны, гэтыя словы, хлусяць — ідзі ведай! У галоўным, пэўна ж. У тым, што памяць чалавеку не патрэбна. Калі адабраць, выдраць — хоць бы і ў яе, у Настасі,— памяць, чым, чым тады яна перад заўтрашнім днём апраўдаецца? Голым, схаваным ад людскіх вачэй шчасцем? Вось гэтымі, украдзенымі ў дня, хвілінамі?

— Павер, я шчыра хацеў бы, каб мы сустракаліся часцей.

— Навошта? — няўцямна паўтарыла яна свой ранейшы адказ.

— Чалавеку ўласціва думаць, што яму, іменна яму выпаў самы горкі лёс, а калі б схацеў, калі б здолеў ён выслухаць споведзі іншых і паспачуваць чужым бедам, усім як ёсць, сэрца б ягонае ад болю скамянела. Камень жа каменя не сагрэе.

— Лес ратаваў людзей. І ратуе... А яго ўсё сякуць, высякаюць, шляху не бачачы,— не зважаючы на словы Рыбчука, прадоўжыла сваю думку ўголас Настася — ці мо таму, што і сапраўды не чула ў гэту хвіліну нічога, апроч глыбокага смутку свайго, ці мо таму, што машына вырвалася з лесу на шашу і шаша, увачавідкі звужаючыся і цямнеючы, пабегла ў бок Мінска, і бег, рух яе азначаў толькі адно: лёс, яе, Настасін, лёс цярпліва чакаў яе ўвесь гэты час на рагу праспекта Пушкіна — і заўтра ўсё будзе гэтак жа, як учора і пазаўчора, і заўтра вернуцца сённяшнія пытанні, і сённяшні, перабыты ўжо на сёння клопат.

Тое, што жыццё і складаецца з імгненняў, якія паўтараюцца і ўсё ж кожны раз іншыя, новыя, падобныя і не падобныя на папярэднія, калі і закранала яе свядомасць, то злёгку, амаль незаўважна — без вялікага ўзрушэння, без асаблівай трывогі. Часам Настасі здавалася, што ўсё лепшае ў яе яшчэ недзе наперадзе, за бліжэйшай паварот-

каю ці за наступнаю, там, дзе сінее нітка далягляду, якою позірк сцягвае, сшывае няроўныя, ірваныя краі неба і зямлі, часам, як зараз, яна з горыччу думала, што ўсё яе, і горшае і лепшае, недзе далёка ззаду, у мінулым, і жыве, працягвае жыць яна толькі таму, што дні, гады ўсё яшчэ доўжацца — і бацькавы гады, і матчыны, і яе, Настасіны. Доўжацца па нечай волі, па чыёй — невядома, адно каб не абрываўся час, не абарваўся род... І не было ў гэтым ні яе віны, ні яе заслугі.

Вырвалася на колькі хвілін за мяжу горада, за мяжу звыклай будзённасці — і лёс цярпліва чакаў яе на мяжы, каб заўтра ўсё ішло гэтак жа ці амаль гэтак жа, як учора і пазаўчора, каб заўтра вярнуліся і ранейшыя пытанні, і ранейшы клопат. Жыццё брала сваё. Шаша звязвала перабытае з тым, што адкрывалася пагляду, і вабіла, і ўцягвала ў сваю глыбіню, змушаючы прымружваць вочы і ўтрымваць гарачае раптам дыханне...

* * *

Ссечаны і пушчаны на дровы асмолак яблыні, што два гады чорнаю раскаракаю тырчаў за склепам, сагрэў колькі доўгіх зімніх вечароў, а ўвесну, ледзь толькі ўзялося на цяпло, з-пад кораня, побач з няроўным пяньком вылез, пацягнуўся ўгору кволы парастак. Марыля наўрад ці заўважыла б яго, калі б неяк не ўздумала прымацаваць, прыладзіць да пянька колькі жэрдачак,— стол не стол, зэдлік не зэдлік, а ўсё прыбудова да іх няхітрай гаспадаркі. Уздумала — і ўзялася за справу, балазе дротам (чагочаго, а дроту ў ваколіцах хапала!) разжылася яшчэ летась, а на жэрдачкі льга пусціць любую палку з лесу (Настася іх нямала пананосіла ў двор) — прымерыўшыся, пераломіць цераз калена адну-другую, і ўся няхітрая...

«Трэба ж, ледзь не струшчыла ступаком!» — падзівілася яна, крануўшы пальцамі парастак, і адступілася ад сваёй задумы. Не дужа рупіла, як кажуць. Ды і не атрымалася б нічога вартага: не стол, не зэдлік — так нешта, не вельмі каб зручнае, пра што і шкадаваць не выпадае. А парастак саджанцам стане, саджанец — дрэвам, на галіны яго птушкі будуць садзіцца... Жыццё! Жыццё вяртаецца. І час жа ўжо, няйначай: год як вайна закончылася, Серафім дадому едзе...

— Мама! Мама! — шыбавала гародамі, не разбіраючы

дарогі, Настася.— Тата прыехаў! Амелька казаў толькі што: на станцыі яго бачыў... Прыехаў, чуеце? Тата прыехаў!

У Марылі абвялі ногі. Замест таго каб кінуцца насустрач дачцэ, яна павольна асела доле, бездапаможна чапляючыся перш за палку, якую сціскала ў руцэ, потым за пяроўны абрубак яблыневага камля: няўжо прычакала Серафіма? Няўжо дажыла да гэтага дня?

— Ну, што ж вы, мама? — ужо церабіла яе за плячо дачка.— Ісці трэба. Бегчы тату насустрач. Ён жа прыехаў! Ён жа вярнуўся!

— Але, але,— не магла змусіць сябе падняцца Марыля.— Я зараз... Я зараз устану...

Голас яе ўздрыгваў, слёзы каціліся па маршчыністых шчоках, рукі сутаргава сціскалі абломак сухастоіны: радасць, нечаканая — доўгачаканая радасць раптоўна пазбавіла сілы, скавала рухі. Хвіліна мінула, другая, а Марыля ўсё плакала, не робячы намагання ўстаць, не тлумачачы нічога Настасі. Настася ж, апусціўшыся побач наўколенцы, і сама ўжо хлюпала носам, зрэдку прамаўляючы, паўтараючы адно і тое ж:

— Татка прыехаў... Татка...

Паплакалі. Разам, дапамагаючы адна адной, падняліся, заспяшаліся з двара, вуліцаю — на шлях, які вёў у пасёлак, да станцыі. Абедзве хударлявыя, кашчавыя, абедзве ў рызманах з чужога пляча і атопках, якія назваць абуткам язык ні ў кога не павярнуўся б, яны, нягледзячы на розніцу ў гадах, выглядалі, як дзве — на адзін твар — старчыхі, і людзі праводзілі іх позіркамі да самай ваколіцы, уздыхалі ўслед, хто спачувальна, а хто і з зайздрасцю: ужо ж, пашанцавала нябогам — гаспадара, заступніка прычакалі, скрозь жа ўдава ля ўдавы споміны пасвіць.

А яны толькі што не беглі, веснавой гразі пад нагамі не заўважаючы,— ні адна галавы не павярнула, ні адна слоўка больш не прамовіла.

На захадзе, не над полем, адзетым негустою, там-сям пабітаю маразамі азімінаю, а як здавалася адсюль, за паўтары вярсты, над самым пасёлкам круглела, налівалася вечароваю чырванню сонца, і трывога, што таілася ў гэтай халоднай не па-вясноваму чырвані, расцякалася па небе, раставала ў паветры, паветрам прасочвалася ў іх узрушанае чаканне і падганяла, гнала наперад. Настася ўжо бегла, не паспяваючы за хуткімі матчынымі крокамі і дзівячыся на яе спрыт: хворыя ж ногі ў мамы, нягнуткія —

з той лютаўскай марознай ночы, якая пахавала Косціка, балелі, дзеравянелі ад напругі ногі ў мамы...

Гразкі зараз прасёлак віўся даволі пакручаста — перавальваўся з лагчынкі ў лагчынку, абмінаючы найбольш волкія, а ў дажджлівыя гады і балоцістыя мясціны, і хутчэй было б перабегчы поле напрасткі, але ж не пабяжыш па азіміне, па жыце — грэх. І ў галаву гэткае не прыйшло б — жыта, хлеб вытоптваць: насядзеліся без хлеба, нагараваліся... Спяшаліся — пэўна ж, але ж і шлях да пасёлка выведзе. Колькі таго шляху!

— Гэта не тата там? — гукнула Настася, і кінулася бегчы, і тут жа спынілася, застыла, з трывогаю азірнулася на маці.— Тата... На мыліцах...

Марыля не чула, не бачыла дачкі — позірк яе ўжо даўно пераляцеў тую сотню метраў, якія аддзялялі яе ад адзінокай, згорбленай над мыліцамі фігуры салдата, і сэрцам яна пазнавала, пазнала Серафіма. Магла б — паляцела следам за позіркам, ды не магла. Рухалася як у сне, з цяжкасцю пераастаўляючы раптам непаслухмяныя ногі, задыхаючыся ад хвалявання, ад слоў, якія было не выкаўтнуць, не вымавіць: Серафім! Серафім вярнуўся!

Павольна, надта ж павольна скарачалася адлегласць паміж імі — часам здавалася, што не рухаліся яны адно аднаму насустрач, а, разведзеныя, раздзеленыя полем, прыстылі да шляху, на двух розных канцах яго, і вузеў, скарачаўся шлях сам па сабе, імгненне за імгненнем, метр за метрам. Штосьці крычала то аднаму, то другому Настася, кідаючыся да бацькі і, не дабегшы, вяртаючыся назад, да маці, але ні Марыля, ні Серафім ніяк не адгукаліся на яе воклічы, на яе нервовае ўзрушэнне — як не чулі. Ды і не чулі, мабыць, бо разрываліся ў абаіх — ці то ад шчасця, ці то ад пяшчоты і жалю — сэрцы.

Неяк зусім не па-дзіцячы ўспрымала тое, што адбывалася ў гэтыя хвіліны ў яе на вачах, Настася: радасць сваю стрымаць не магла, кружыла і кружыла з радаснымі воклічамі вакол маці, а потым і вакол бацькі, але ўвесь час крыху воддаль, па краі дарогі, каб не ўплішчыцца паміж імі, каб не кінуцца першаю бацьку на шыю, апярэдзіўшы іх сустрэчу. Штосьці перашкаджала ёй — штосьці, большае, чым радасць, адчувалася ў гэтым набліжэнні, у гэтым сумотным збліжэнні Марылі і Серафіма пад парыпванне ягоных мыліц, і цішэлі, заміралі ў дзяўчынкі на губах гучныя толькі што воклічы, бязгучна («Татка прыехаў!») варушыліся губы, цяжэлі, перасядалі ў горле

непрамоўленыя словы. Яна сама не заўважала, што заплакала, што, не ўціраючы слёз, плакала, круг за кругам, крок за крокам сцягваючы, змяншаючы прамежак шляху паміж бацькам і маткаю.

Калі крок, паўкроку засталося зрабіць, абое яны раптам спыніліся, узіраючыся адно ў аднаго, потым Марыля глуха, па-бабінаму вохкнула і, зрабіўшы гэты апошні рух, крок наперад, упала на грудзі Серафіма. Упала, як падае падбітая, параненая птушка: ні гуку больш не вырвалася ў яе з грудзей, ні слязінкі не выкацілася з запалых, спакутаваных вачэй — абхапіла абедзвюма рукамі мужа і прыпала, прыстыла да яго; яна прычакала свайго Серафіма, яна дачакалася...

Час расплыўся, расцёкся ў іх пад нагамі лужынкаю веснавой гразі: ні тое, што пяражыта абаімі да гэтай сустрэчы, ні тое, што чакала іх ужо ў наступную хвіліну, не ўплывала зараз на яго хаду — зліліся, прамаўлялі адно да аднаго людскія сэрцы, і час не меў свайго звыклага значэння, і не было ў свеце нічога важнейшага за цішыню. Сама пяшчота ў парванай замызганай ватоўцы паверх лахманоў, якія павінны азначаць адзежу, гарнулася, тулілася да грудзей зраненага, пакалечанага вайною салдата — і не абзываліся медалі ў яго на шынялі, і не варухнулася прастора яркага вечаровага неба ў яго за плячамі.

Поўнымі слёз вачамі дзівілася на іх Настася і ўсё хадзіла, кружыла вакол, бліжэй і бліжэй, так што чула ўжо, як цяжка дыхаў бацька, не могучы адкінуць мыліцы, хоць на міг забыцца на іх і абняць Марылю, абняць яе, Настасю — ён жа скрозь быў дужым і абдымаў іх усіх разам, як выпадала, усіх траіх, а тут... Настася чула, як ён толькі цяжка ўздыхаў, бачыла слёзы, тонкія ручаінкі слёз на схудалых маршчыністых шчоках яго — і плакала:

— Тата... Татка...

— Што ж ты, Настася? З бацькам не хочаш павітацца? Ці мо не прызнала? — асцярожна, каб не адштурхнуць Марылю, павярнуў галаву, павёў позіркам Серафім.— Што ж ты?

А яна ўжо кінулася да яго, збоку, прыўстаўшы на дыбачкі, абхапіла яго — іх абаіх — дрогкімі рукамі, прыляпілася, тварам, усім худым цельцам сваім прыляпілася да іх і цяпер ужо некуды ў рукаў шыняля, які пахнуў так незнаёма, так цёпка, паўтарала і паўтарала:

— Тата... Татка...

* * *

— Не нарабілася за дзень, што на ноч гледзячы падлогу мыць надумала?

— Вы праходзьце, праходзьце. Я зараз. Трэба ж...

— Дачку трэба да работы прывучаць, галуба,— прайшла на кухню, масцілася на табурэтцы суседка.— А то адно гулі ў галаве. Як ні зазірну — усё чапурыцца некуды, усё твар размалёўвае. Сказала ж неяк, дык не спадабалася. Губы надзьмула, акрысілася: «Вам бы, Паўлаўна, самы раз прапаведнікам быць, душы людскія ў сатаны адбіраць і, адмыўшы, на вяроўцы развешваць, прышчэпкамі абчэпліваць...» Што ты на такое скажаш? Плюнула — пайшла. Вой, глядзі, галуба, каб не скруцілася з кім нядобрым твая разумніца!

— Вучыцца ж Іра,— заканчвала прыборку Настася, не тое што не прыслухоўваючыся да буркатні старой — слухаючы ў адно вуха: скрозь жа адно гугніць, усім і ўсімі не задаволеная.

— Ды вучо-оная, і я кажу. Куды там! На ўсім гатовым век, чаму ж не вучыцца? Толькі ты мне, старой, растлумач перш: што ж столькі гадоў з навукі гэтае народу палёгкі няма? А, галуба? Вучацца, вучацца ўсе, а людзям ніяк не лягчэй. Хто рачкаваў, той і рачкуе, хто краў, той і крадзе, а хто бурбалкі слоўныя пускаў з трыбуны, той і зараз за трыбунаю красуецца. А дзе ж камунізма?

— Ды нашто вам гэта «камунізма», Паўлаўна? — выціраючы рукі, прысела побач Настася.— Колькі таго жыцця!

— Во-во! І ты, галуба, з няверніКаў. З няверніКаў, не адмахвайся! — заўважыла Настасін жэст і паспяшалася яна ўдакладніць сказанае.— І не дзіва, гэтулькі гора яшчэ дзіцем пераажыўшы. Таму не ў асуд табе кажу. НяверніКі розныя ёсцека: адны — ад вялікага розуму, другія — ад вялікае крыўды.

— Дык і вы ж, Паўлаўна, у Бога ніколі не верылі!

— Не пра Бога я...

— Тады пра што? — прыкрываючы рот і цішком пазяхаючы, спытала амаль абыякава.

— Пра жыццё, галуба. Пра веру ў тое, што яно лепшым, святлейшым можа стаць для ўсіх.

— Для ўсіх не стане.

— Дык і не стане! — сцяла на грудзях рукі, выпрасталася, ускінуўшы галаву, Паўлючыха.— Дзе ж яно ста-

не, як людзей ад працы адвучваць, ад зямлі адварочваць! Пахваліў хто-небудзь уладу і парадак, ёю заведзены,— медаль на грудзі, збрахаў, што планы выконваюцца і перавыконваюцца,— ордэн. А хто працуе? Хто майстра ў сабе чуе? Тое і яно.

— А вера пры чым?

— Вера? Вось ты — у што верыш? У тое, што заўтрашні дзень хоць для цябе, хоць без цябе, а наступіць? Што мінулае, згінуўшы, не вернецца, не павінна вярнуцца? Што горшае, гарчэйшае пражыта? Што дачка будзе шчаслівейшаю, чым ты? Так? А гэтага ж, галуба, мала. Табе, каб выжыць, дажыць неяк свой век мо і хопіць, а на што большае не заважыць, не. Як няма веры вялікае, дык і сілы павярнуць на сваё няма.

— Нешта я ніяк не ўцямлю, Паўлаўна, пра што вы,— сілілася ўхапіць ход яе разважанняў Настася і не магла: ці то стома перашкаджала, ці то і ўзапраўду сэнсу было мала ў цётчыных словах... Пры чым тут вера? У што — вера? Маці Бога ў сэрцы насіла, яна, Настася, боль і смутак... Хіба ж жыццё да каго з іх прыслухалася? Ішло як ішло, спадзяванні, перш матчыны, потым яе, Настасіны, на сваіх жорнах перамолваючы, і ні веры, ні сілы ў іх не пытала...

— Ты не ведаеш, а я ж партыйнаю некалі была. Даўно. У трыццатыя... Не тое страшна, што сключылі мяне тады за мяккасць, праяўленую да ворагаў народа, а тое, што веру маю ў справядлівасць здзейсненага і спланаванага на шмат гадоў наперад не пашкадавалі.

— У трыццатыя? — наструнілася Настася, адчуваючы, як заварочалася ў ёй штосьці даўкае, ліпкае, падобнае на млосць.

— У трыццаць дзевятым.

Паўлючыха змоўкла, горбячыся і на вачах старэючы, быццам гэта споміны прыгіналі, згіналі плечы і сцягвалі, паглыблялі зморшчыны ў яе на твары, і ў Настасі мільганула думка: няхай бы і не расказвала нічога, не гаварыла... Але тут жа засаромелася яна сваёй думкі: каму ж і расказаць, як няма ў цёткі нікога — ні мужа, ні дзяцей? Ці то ў вайну загінулі, ці то яшчэ да вайны — неяк не надарылася спытацца. Ды і ці пытаюцца пра такое?

— У трыццаць дзевятым сключылі, галуба. За тое, што спыталася ў ячэйцы пра расстрэлы, пра страляніну за горадам. Дзень і ноч тады стралялі... Ага,— як не трэці раз заколвала свае сівыя, коратка пастрыжаныя валасы Паў-

лючыха,— я вазьмі і спытайся аднойчы: калі дзень і ноч страляць ворагаў народа, дык ці не выйдзе, што ўвесь народ у ворагі запісаны? Так і сказала... Пра ўвесь народ...

— Божухна,— прашаптала Настася з жахам, нібы той, страшны, год быў на дварэ і адно слухаць такое было злачынствам.— І вас жа маглі...

— Маглі,— уздыхнула старая і краем хвартуха выцерла сухія вочы.— Ды іначай спомсцілі. Страшней.

Настася чакала расказу, нават падалася бліжэй да цёткі, не хаваючы болю, не тоячы слёз, а Паўлючыха зноў замоўкла, задумалася, і адно ў вачах яе калыхалася бледная, выцвілая ажно да донца шэрань — нават не шэрань, а шараватая некалі і зараз ледзь прыкметная празрыстасць, бяздонная, калі прыгледзецца. Калі прыгледзецца... Колькі гадоў жылі па суседстве, а ўпершыню ўглядалася ў Паўлючышын маршчыністы твар, у вочы яе Настася, і чым больш углядалася, тым больш падобным рабіўся цётчын твар на матчын: тая ж прыхаваная мука, той жа балючы спакой, падсвечаны перабытаю і нязгаслаю ў попеле былога мукаю.

— І сёння ўспамінаю — баліць... А тады...— правяла Паўлючыха далонню па твары, быццам зморшчыны хацела на ім разгладзіць,— і звяла рука, бяссільна ўпала на стол побач з другою, гэткаю ж вялаю і цяжкою ад вузлаватых венаў.— Калі забралі Міколу — ён у мяне на чыгунцы працаваў, машыністам,— месца не знаходзіла. Думала, што з-за мяне пакутуе: мяне не чапалі, бо блізняты на руках — ім жа і па два гадкі не мінула, а Міколу ўзялі... Потым ужо мяне пачалі выклікаць на допыты. Дзяцей на суседку пакіну і бягу: раптам як-небудзь ад Міколы бяду адвяду! Ды як адвядзеш, калі бяды той не ведаеш? Перш пра сувязі мужавы з заходнікамі, з самім Пілсудскім следчыя дапытваліся: шпіён ён, маўляў, агент, і калі я ва ўсім не прызнаюся, будзе расстраляны. Потым ужо да мяне дабраліся...

— Білі?— не вытрымала паўзы Настася.

— Адзін раз усяго... На апошнім допыце...

На Паўлючыху было цяжка глядзець: як струпянела раптам — ні крывінкі ў твары, ні іскрачкі ў вачах, і Настася матлянулася да кубка, да крана — трэба ж нешта рабіць! — але цётка запыніла яе:

— Не турбуйся, галуба. Вадою ўспаміны не зальеш, не патушыш: калі ўжо выдалася гэткая хвіліна, чаго ж яе баяцца?

— Але ж сэрца, Паўлаўна...— памкнулася растлумачыць нешта Настася і тут жа спахапілася, змоўкла.

— Сэрца тады павінна было разарвацца,— зірнула яна на Настасю, выцярэбліваючыся з успамінаў і здранцвення, якое на яе найшло.— Тады, галуба, да вайны яшчэ. А бачыш: не разарвалася. Жыву... Думалі: і мяне ў магілу загналі, а я жыву.

— А...

— Дзеці? — зразумела яе нерашучасць і прадоўжыла, быццам спяшаючыся завяршыць свой расказ, Паўлючыха.— Санька і Алёша? Мо і жывыя — жывуць, ні бацькі, ні маці не помнячы, а мо і ў зямельцы іх костачкі спрахлі, як Міколавы... Гэта ж я — пасля допыту таго апошняга — на вуліцы ўпала. Самлела. Апрытомнела толькі ў бальніцы. Пра дзяцей спытала — супакоілі. Сказалі: дагледжаныя яны. Сказалі: выпішуць мяне праз дзень-другі — і з дзецьмі я буду...

— А дзяцей — забралі?! — зноў міжволі прыспешыла яе Настася, не стрымліваючыся.

— Забралі. У прыют, растлумачыла суседка. А ў які прыют, не паведамілі. Ні ёй, ні мне апасля, колькі я ні звярталася ўсюды. З аднаго прыюта ў другі адсылалі, дзе зноў-ткі ніхто нічога не ведаў... Да самай вайны хадзіла, шукала... Думала: звар'яцею...

— Божа мой... Колькі гора! — выцірала вочы Настася, а слёзы цяклі і цяклі па шчоках.— І сваё ўспомню — страшна, а і яно ж не самае страшнае.

Яна ніяк не магла ўцерці слёзы, і Паўлючыха разам з ёю, яе, здавалася, Настасінымі, слязьмі плакала — балюча калыхалася выцвілая, амаль празрыстая шэрань у вачах яе, сухіх і нібыта паглыбелых, запалых за гэтыя паўгадзіны, павольна, ледзь заўважна набываў звыклую жаўцізну твар. Зварухнуліся на стале цяжкія цётчыны рукі — і вось яна ўжо звяла іх на грудзях, распрастаўшыся, адразу павышэўшы ростам.

— Часам жыць, галуба, страшней, чым памерці, а жыць трэба...

— Мо чаю, Паўлаўна? Мо я чайнік пастаўлю? — пацягнулася Настася да ручніка, каб уцерціся, каб схавацца ад цётчынага позірку твар і нарэшце супакоіцца: слёзы аціхалі, адступалі — і самы час супакоіцца, успомніць, што яна гаспадыня, што вінавата перад Паўлючыхаю. Хоць бы ў тым вінавата, што ніколі не папытала ў яе ні пра што. Цярпела, як казала Іра, цётчыны «набегі», вы-

слухоўвала чуткі, сабраныя з усяго дома, ці скаргі на падшыванцаў, якія ламалі пасаджаныя ў двары вішні, частавала чаем або яблыкамі, калі былі яблыкі ў хаце,— і ўсё, і ні спачування, ні злосці... Мо і не прыняла б Паўлючыха спачування, як зараз не прымала, а ўсё-ткі ўздыхнула б лягчэй...

— Гэта добра, галуба, што ты плакаць можаш. Здэцца, каб паплакала я калі, каб выціснула з сябе слязу,— адышла б, нарэшце, спакойна. Адышла б, нарэшце...

— Што вы, што вы, Паўлаўна? — ускінулася Настася, прыціскаючы да грудзей скамечаны ручнік, і рукі яе дрыжалі.— Гэтулькі смярцей было, што ўсім, хто выжыў, жыць трэба. Доўга жыць трэба!

— Бог не ўсякую душу бярэ, што праўда, то праўда,— нібыта і зусім неўпапад да раней сказанага адазвалася Паўлючыха, падымаючыся.— Не веру, галуба, ні ў Бога, ні ў чорта, мо таму і жыву... Пагаварыла — як паплакала, а душа ва мне не здрыганулася. Быццам вынулі яе ■ мяне некалі, а без душы і смерці не патрэбная...

Пайшла. Не азірнуўшыся на прыціхлую Настасю. Не развітаўшыся. І Настася не паднялася, не ступіла ўслед. Пазірала ў цётчыну спіну, потым, калі зачыніліся за цёткаю дзверы,— у зачыненыя дзверы, адчуваючы, як гусцее, робіцца цяжкою і ліпкаю цішыня.

* * *

— Серафім, ты па сваёй інваліднасці ў поле не хадок, па праву адпачываеш. Але ж баба твая ў калгасе працуе, так я разумею? — прыжмурваў час ад часу адно вока брыгадзір, і Серафіму не-не дый здавалася, што ён некаму падміргвае, некаму нябачнаму: вочы ў яго перакошваліся, твар набываў хітраваты, нахабны выраз.— Вось і кажу, што і так і так вы вінныя перад дзяржаваю выходзіце.

— Він-ныя? — што ёсць моцы стрымліваецца збялелы, разгневаны Серафім, з самага пачатку, ледзь толькі ўгледзеў у двары Ігнація, перакананы, што не ў госці той завітаў, не з дабром прыйшоў.— Гэта ты мне, кавалеру двух ордэнаў, віну прышпіліць намерыўся? Ды я...

— Чаго ўсхадзіўся, чаго ўскіпеў? Так і скіпецца можна раней часу,— гнуў на сваё, немаведама куды, Ігнацій.— А ты выслухай, выслухай спярша прэтэнзіі дзяржавы.

10 Зак. 2522

— Дзяржавы! — цыркнуў слінаю Серафім.— Гэта ты, ядрона вош, хто за Урал сігануў, ад фронту хаваючыся, дзяржаву на сённяшні дзень уяўляеш? Не завысака мераеш? Брыгадзірам паставілі, дык табе адразу ўбачылася, што абедзвюма рукамі за ляйчыну ўлады савецкае трымаешся?

— Зневажаеш дзяржаўнага чалавека,— зморшчыўся той на яго словы.— Папярэджваю пакуль што. Хоць ты і франтавік, хоць кроў сваю, як той казаў, праліваў, а і на цябе ўправа знойдзецца.

— Пагражаеш? Ты мне — у маім двары — пагражаеш? — падымаўся Серафім з чурбака, на якім сядзеў, прысланіўшы да каленяў мыліцы.— Ды я цябе...

— Ціш эй, цішэй на паваротах, Шчаўлік,— таптаўся, адступаючы, Ігнацій.— Табе тваё і прычытаецца, як той казаў. А бабу тваю папярэджваю: калі не здасць у калгас квактуху з цыплянятамі, усімі як ёсць, не тут і не такая выйдзе гамонка.

Ён усміхаўся, па-ранейшаму крыва, па-змоўніцку некаму падміргваючы, і Серафім, гэпнуўшыся на чурбак (перад кім гэта ён устаць намерыўся?), пазіраў на гэту яго крывую ўсмешку гідліва, з пагардаю: тылавая вош, а бач якая куслівая! Куранят яму захацелася... Ды гэтых дзевяць куранят Марыля адно што з рота не адпойвала, каб раслі і ў сілу ўбіраліся: галодная ж зіма наперадзе, а іх трое. І ён, Серафім, не работнік, і ў калгасе на працадзень фігу з макам атрымаюць, калі ўжо зноўку, як некалі ў калектывізацыю, курэй па дварах ловяць...

— Тэрмін — да вечара. Я цябе папярэдзіў, Шчаўлік. Глядзі, каб не пашкадаваў потым.

— А гэта во — не хочаш? — выверну ў, высунуў з-пад нягнуткае, выпрастанае ўперад нагі красамоўна складзеныя ў кулак пальцы Серафім.— Развялося камандзіраў, ядрона вош! У акопах вас ніхто не бачыў — чужымі касцьмі дарогу да Берліна масцілі, сукіны дзеці, а цяпер тут як тут, бабіны слёзы п'яце... Мая — сваё адплакала. Будзя! Будзя, чуў?

— Ну-ну! Ну-ну! — павярнуўся ісці Ігнацій, бліснуўшы вачамі на разгневанага гаспадара, які цыркаў слінаю і мацюкаўся.— Дзяржаўнага інтарэсу не разумееш, а туды ж...

Мацюкі камянямі ляцелі яму ўслед, але плечы ў яго не ўгнуліся, нават не ўздрыгнулі — ішоў Ігнацій ад двара гэткі ж непахісна-прамы, як заўсёды, і знясілены спрэч-

каю Серафім пазіраў яму ў спіну з нянавісцю. І яшчэ — з трывогаю: дужа ўпэўнена той ішоў, дужа нетаропка. Быццам і ўзапраўду і сіла і права былі на яго баку.

— Ат! — адмахнуўся, адвёў позірк Серафім: ні ў кога не было права з франтавіка, з інваліда здзек чыніць — і ўся тут праўда. Няма ў чым яго папікнуць: і сам ледзьве выжыў, нагу ў варонцы пад Берлінам пакінуўшы, і сынавага жыцця не абараніў, Зямлю абараніў, а сына...

— Тата, зірні, колькі арэхаў я ў лесе набрала! — абняла яго ззаду за шыю, нячутна падышоўшы, Настася, і ён ледзьве стрымаў стогн, што рваўся з грудзей.

— Ідзі дапамажы матцы. Яна на таку сёння,— адно і сказаў.

Марылі ўвечары нічога не сказаў. Адмоўчваўся. На ўсе яе пытанні. Скручваў, смактаў цыгарку за цыгаркаю, не спускаючыся ў зямлянку, і маўчаў. Толькі калі яна намерылася бегчы да Аўдзея, у якога часцяком вадзілася самагонка, спыніў. Рашуча і адразу. Перш — позіркам, а потым і словамі: «Не хадзі!»

Спаць пакладіся позна, і ўсім не спалася. Нават Настася доўга варочалася на сваім палку, ціпіком уздыхаючы, быццам нявыказаная бацькава трывога перадалася цераз маці і ёй, дзяўчынцы: ці мала што! «Ці мала што!» — паўтарала яна ў думках, пакуль не змаглася і не заснула. Усё-ткі заснула, і роўнае дыханне яе не парушала глыбокай цішыні, што панавала ў зямлянцы,— цішыні няпэўнай, крохкай, бо ледзь толькі варухнулася, паварочваючыся, прыціскаючыся да Серафіма, Марыля, адусюль, здэцца, з усіх куткоў хлынулі на іх шолахі, падобныя на пярэшапты асенніх, вызалачаных начнымі халадамі бяроз: ш-ш-ш... шосты месяц пайшоў... прыйшоў са шпіталя... сына ўспомніў... ш-ш-ш... шуму зашмат...

— Ты чуеш? — прыпала Марыля дрогкімі вуснамі да Серафімавага пляча.— Чуеш?

— Спі. Чаму ты не спіш? — зглынуў ён нейкі горкі камяк, перасепы ў горле, і не зварухнуўся, хоць гарачая хваля збуджанай дотыкам яе вуснаў пяшчоты пакацілася ад пляча ўніз, і тут жа зноў падступіла да горла горыч.

— Нешта здарылася, а ты маўчыш,— шаптала яму ў плячо Марыля.— Чаму ты маўчыш? Я ж прычакала цябе, прычакала... Я толькі таму і жывая яшчэ, што ты... што з табою... Абдымі мяне!

— Настася ж зусім побач,— расцягваў ён імгненні, ужо не працівячыся ні яе словам, ні яе рухам.

— Яна спіць. А мы... Я...— Марыля не ўсведамляла ўжо, што шэпча, што робіць: пяшчота захліснула яе, перарваўшы на міг дыханне, і вось ужо пагойдвала яе, падымала, напаўняючы салодкім, жаданым болем,— вышэй... яшчэ вышэй...

Гул матора Серафім пачуў перад раніцаю — толькі-толькі задрамаў, здавалася. Гул набліжаўся, і з яго набліжэннем расла ўпэўненасць: да яго двара кіруюцца, па яго. Прыслухоўваўся да жончынага дыхання, а чуў цяжкі, усё больш гучны рокат матора — і дзіўны спакой агортваў Серафіма: некуды адступіла, не нагадвала больш аб сабе ранейшая трывога, роўна, без здрадніцкай паспешлівасці, калі не-не і абрывалася раптам усё ўсярэдзіне, білася сэрца, не выклікаўшы ні горычы, ні шкадавання, мільганула думка: «Не так, дык так з зямлі зганяць, ядрона вош...»

Кашлянуў колькі разоў і заглох матор. Бразнулі дзверцы. Слізгануў, зачапіўшы нізкае акенца, прамень ліхтарыка, забухалі ад весніц сюды цяжкія крокі, і гулкае рэха спярша адгукнулася гэткімі ж цяжкімі штуршкамі крыві ў яго ў венах, потым стала перакочвацца цераз яго і адкочвацца некуды далей, у чарнату.

— Хто там? — прахапілася Марыля.— Хто там, Серафім?

А ў дзверы ўжо грукалі, і ў вузкія шчылінкі тачылася з-за дзвярэй сляпучае і, як здавалася адсюль, з зямлянкі, чырвanаватае святло.

— Ідзі адчыняй,— намацваў Серафім мыліцы.

— Госпадзі, уратуй і злітуйся...— ліхаманкава надзявала, выцягнуўшы з-пад галавы, ватоўку Марыля, і рукі яе дрыжалі так моцна, што не траплялі ў рукавы.

— Ідзі ж, Марыля. А то дзверы сарвуць.

Голас Серафімаў гучаў супакойліва, рухі былі немітуслівымі: сеўшы на тапчаку, пстрыкнуў запальнічкаю, няспешна запаліў святло. Усміхнуўся, павярнуўшыся да Настасі («Ляжы! Ляжы!»), выцягнуў з-пад тапчака жасцяны карабок, дзе трымаў свае франтавыя ўзнагароды. Нават калі шырока, рыўком, адвіхнуліся дзверы і прамень ліхтара ўпёрся ў яго спакойны, хоць крыху і пабялелы ад прыхаванага хвалявання твар, не спыніў свайго занятку: гэтак жа няспешна прывінчваў да пабурэлай за паўгода гімнасцёркі ордэн. Перш адзін, потым другі.

— Шчаўлік Серафім Канстанцінавіч?

— Не пуш-чу! — кінулася да высокага плячыстага

прыезжага ў доўгай скуранцы, які стаяў у дзвярах, Марыля.— Што вам ад яго трэба? Ён жа калека, ка-ле-ка! Ён ваяваў!

Той, у скуранцы, не зварухнуўся. Не павярнуў на яе крык, на яе слёзы галавы. Свяціў Серафіму ў твар, моўчкі назіраў за яго зборамі. Чакаў.

— Ён ваяваў. Ён жа чатыры гады ваяваў...— лавіла яго позірк Марыля, заходзячы то злева, то справа, калі ж ён гідліва павёў рукою, атрасаючы яе рух да яго, яе дотык, бухнулася на калені, загаласіла ўголас: — Госпадзі, уратуй і злітуйся! Дай гэтым людзям сэрца, каб убачылі, каб адчулі...

— Ма-рыля! — падняўся, абапёрся на мыліцы і ступіў да яе Серафім.— Устань, Марыля!

А яна білася аб земляную падлогу галавою — паміж ім і тым, хто па яго прыйшоў, і то пачынала малітву, то зноў крычала скрозь слёзы: «Не пушчу!» Калі Серафім памкнуўся абысці яе, як апамяталася раптам на нейкі час, па-ранейшаму наўколенцы павярнулася да мужа, абхапіла яго рукамі, прывалілася, прыціснулася да яго, хаваючы твар, душачы крык.

— Уставай жа,— ціха папрасіў Серафім.— Ідзі да Настасі. Я хутка вярнуся: няма на мне віны, няма, Марыля. Ідзі.

Матлянулася са свайго тапчана да іх Настася. У дрогкі, бяссільны ўтрымаць іх адчай, вузел спляліся іх рукі, у жывы балючы камяк зляпіліся стогны...

— Развітвайцеся!

«Раз-віт-вайцеся... віт-вайцеся... ітвай-це-ся...» — пакацілася па двары, па крынічанскай вуліцы, паўз яе папялішчы, рэха, пакацілася, каб не вярнуцца, каб ужо не вярнуцца, але гэтага ні Марыля з Настасяю, ні Серафім яшчэ не ведалі.

* * *

— Серафімаўна! Нешта ты часта задумвацца пачала.

— Старэю,— не падняла галавы ад работы Настася: вечна гэтай Сапезе ўсюды нос свой ушчаміць трэба. І года не працуе з імі, а ўжо ўсё пра ўсіх ведае. А і не ведае — прыдумае.

— Ну-у, дарагуля, калі ўсё яшчэ ў «Волзе» катаешся, то ў старыя рана запісвацца,— перайшла тая на гучны, у

кожным кутку чутны шэпт.— Гэта ж іду неяк — і цю-ю-ю! Дарагуля наша. У «Волзе». Побач з незабыўным...

— Ты, пэўна, што-якое не ўгледзела,— хавала раздражненне, цераз сілу ўсміхаючыся, Настася.— Куды ўжо мне з высокімі кавалерамі знацца! А вось пра цябе неаднойчы казалі...

— Давай! давай! — зарагатала Зоя.— Дагаворвай! Я сваім Віталікам перад усім светам пахваліцца магу. Кахае. Абноўкі, нічога для мяне не шкадуючы, спраўляе.

— І калі ты ўжо перабесішся? — нязлосна папікнула яе самая старэйшая з іх тут, у майстэрні, Саўчыха.

— А вось як горб ад работы гэткі, як у цябе, нагадую, то і супакоюся,— агрызнулася Зоя, незадаволеная, што яе перапынілі.— Мне яшчэ, дзякуй богу, і сарака не набегла: усё маё пры мне, не раўняючы...

— Цыцце, дзеўкі! — умяшалася чацвёртая — Вольга Зылеўская.— Песня харошая.

Па радыё перадавалі «Зямлянку». Спяваў Марк Бернэс. І нават Зоя прыціхла, услухоўваючыся ў глыбокі, поўны незабыўнага смутку голас спевака, у няхітрыя словы песні, за якімі ўставалі далёкія, памятныя карціны сярэдзіны саракавых: заржавелыя бляшаныя трубы, выведзеныя з цесных і цёмных зямлянак, чорная талерка рэпрадуктара на падпёртым з двух бакоў лясінамі слупе, купкі людзей, што не-не і збіраліся пад рэпрадуктарам паслухаць навіны ці песню — во як зараз. Моўчкі, не загаворваючы з тымі, хто падыходзіў, стаялі колькі хвілін, слухалі, а потым адзін спахопіцца, другі — і разыходзяцца, кожны па сваіх справах...

— Баяліся.

— А ўжо ж. Песню далёка чуваць, а чутку яшчэ далей. Чуткі нярэдка было даволі, каб нават тое месца, дзе костачкі ў зямлі парыліся, лесам пачало зарастаць.

— Цішэй. Ці мала што!

— Лясы ў нас бага-атыя, цягнуцца,— канца-краю не відаць.

— Знойдзецца край, калі ў вачах ад жаху пацямнее! Куды тырканецца рыдлёўка — там і край.

— Добра ўгноена зямелька, гэта праўда. Стараліся хлопцы, шчыравалі — ні юшкі, ні свінцовай галушкі нікому не пашкадавалі ніводнага разу.

— Вось толькі што, апроч лесу, на людскіх касцях расці будзе?

Настася, трупянеючы ад колішняга, яшчэ дзіцячага,

страху («Што яны гавораць?! Хто гаворыць?!»), сцінулася, уціскалася ў крэсла, і калі ўсё ж падняла вочы і цішком агледзела жанчын, яшчэ больш напужалася: усе шылі, калупаліся — кожная са сваім — моўчкі. Ці то песня закалыхала, ці то думкі і ад толькі што прагучалае песні і ад усяго свету адгароджвалі, але ніводная не абзыўнулася за гэты час, не загаварыла.

Усхліпвалі і тут жа захлёбваліся сваім рокатам маторы швейных машынак, ледзь чутна гулі над шырокімі сталамі побач неонавыя лямпы, яшчэ цішэй шархацела ў руках тканіна, не варухнуліся развешаныя на вешаках і манекенах гатовыя і напалову гатовыя касцюмы да новага спектакля... Хто ж толькі што гаманіў? Яна, Настася, добра чула галасы...

— Нічога, апроч лесу, не вырасце, кажаш? Вырасце. Яшчэ як вырасце! Адно што ўраджаю доўга не дасць. Забіты — не ўстане, галодны — не насыціцца, голы — не сагрэецца. Вось чым усё абярнуцца можа, не сёння — заўтра.

— Дык баяцца ж усе.

— І я пра тое.

— Адно імя ў сэрцах, адно імя на губах...

— А ўжо ж, мільёны крыжоў не паставіш, мільёны імёнаў не запомніш. Памяць людская скрозь ненадзейная: ні адзін гістарычны ўрок ніколі нікому не спатрэбіўся.

— Адно імя ў сэрцах, услаўленае і праклятае...

— Ш-ш-ш! Нас падслухоўваюць...

Ва ўсе вочы глядзела Настася ў бок двух манекенаў у кутку з надзетымі на іх касцюмамі апрычнікаў Іаана Грознага: адтуль чуліся глухія галасы, але адкуль — адтуль?! З шаснаццатага стагоддзя?! Гутарка ж ішла пра часы, здавалася, нядаўнія, блізкія!

— Зоя,— падалася яна да суседкі, сілком адрываючы пагляд ад манекенаў у кутку.— Я даўно хацела запытацца, як твая Зіна. Восем класаў жа сёлета заканчвае?

— Ат! Гуляй-вецер,— адразу адгукнулася Зоя, ужо забыўшыся на сваю крыўду.— Намерылася ў вучылішча яе ўладкаваць — не хоча. Пойдзе ў дзевяты. Там відаць будзе.

— Цяжка з імі. Як і гаварыць, не ведаеш.

Раптоўнае прызнанне прагучала, як скарга, і Настася перахапіла здзіўлены Зоін позірк — скрозь жа, на ўсе

пытанні пра жыццё, пра дачку адказвала ўсмешкаю: у іх — лепш за ўсіх...

— А што з імі гаварыць! — улезла ў гаворку, выключыўшы матор, Саўчыха.— Пад с...— і на работу! Пакуль пуза не нагадавала чорт ведае ад каго. А то вылёжваюцца да абеду, а потым гуляюць усю ноч. Ты, маці, рачкуй...

— Вы пра сваю дачку, няйначай? — падкалола Зоя.

— І пра сваю! Усе яны сёння роўныя...

— Ат! Хай гуляюць,— весела адмахнулася Зоя.— Прыспічыць — спіна сама ўгнецца пад ношкаю.

— Хутчэй твая — пад дзвюма ношкамі — угнецца, пад сваёю і даччыною.

— Мая? Ну, не! Мне мая для іншай справы, для весялейшай, патрэбна. На гарбе ж доўга не ўлежыш, як добры мужык трапіцца,— падміргвала Настасі Зоя, заціскаючы смех, які, здавалася, вось-вось пырсне з рота, даланёю.— Вы хоць помніце, Емяльянаўна, цяжар гэтых мінут? Салодкі цяжар!

— Цьфу,— уткнулася ў шыццё Саўчыха, як не чуючы смеху, што сыпануў з усіх бакоў.

Настася ўжо была не рада, што зачапіла Зою: вечна яна ўсё пераверне — цямнейшым, грубейшым бокам. Быццам і ўсяго клопату ў яе, што Віталік! Муж, хворы на сухоты, калека, лічы, якога яна і корміць і поіць (пенсія ж — капейкі!), дачка-школьніца, старэнькая, пад восемдзесят ужо, матка ў хаце, а хата — хрушчоўка на няпоўных два пакойчыкі... Гады па тыднях раскладвае — ад зарплаты да зарплаты: каб не кліенткі са сваімі заказамі (неаднойчы ночы прыхоплівала, каб работу закончыць), то і канцы з канцамі не звяла б. Скардзілася ж неяк. Усяго аднойчы і скардзілася — хвіліна, пэўна, такая трапілася. Часцей жа, як сёння, смяялася — падсмейвалася то з іх, то з сябе. «Што вы хочаце, дарагулі? — адказвала на іх недаўменныя позіркі.— Жыццё такое, што як не пасмяешся, дык павесішся».

Жыццё такое... Якое? Горш жа жылі. З гора, з бядоты выйшлі, каб жыць. Каб па-людску жыць. А па-людску і не выходзіць. І радасць — цішком ад людзей, нават самых блізкіх, бо ад чужога ўшчыкнута, украдзена, і гора — у сабе, у душы сваёй, пахавана, бо не гэткае, здаецца, гора — і ўсімі — пражыта.

— Пачуцці адміраюць, калі становяцца непатрэбнымі.

— Што? — страпянулася, падняла галаву Настася.

Ніхто не адказаў. Ды ніхто і не чуў, напэўна, яе воклі-

чу з-за няроўнага — усхліпамі — гулу матораў: работа была тэрміновая, гаворка паміж жанчынамі калі і пачыналася, то амаль тут жа абрывалася, патанала ў шуме машын.

— І што такое — пачуцці? Крохкія кветкі, якія лёгка трушчацца пад конскаю падковаю, пад ботам, а то і проста пад ступаком.

Голас азваўся жаночы, і Настася яшчэ раз уважліва агледзела майстэрню, схіленых над швейнымі машынамі жанчын.

— Толькі распусціцца такая кветка, толькі хараство сваё раскрые — і раструшчана! Вачэй шмат вакол галодных, ненатольных, а тое, што вока прывабіць, на зуб трапляе, на смак правяраецца: смачнае — заглынецца, горкае — выплюнецца... То лепей самой усё на зуб спрабаваць: раптам што даспадобы будзе.

Калі б Настася не баялася нават падумаць пра такое, то прызнала б: з ёю гаманіла царэўна Соф'я, дакладней, яе парчовая сукенка, якая ляжала зараз перад ёю на стале. Але прызнаць падобнае — гэта прызнаць, што побач (калі, увогуле, не ў ёй) пасялілася нячыстая сіла... Свят, свят, свят, як кажуць. Толькі нячысціка ёй не хапала! Досыць таго, што прывід Ігнація Солада, які быў самым што ні на ёсць нячысцікам для яе, у горадзе з'явіўся, а тут яшчэ... І ведаць яна не ведала ніякой царэўны — ні гэтай, ні іншай, і нічога агульнага ў іх быць не магло. Сукенку ёй па малюнку старым Настася шыла, заканчвала ўжо, дык для сцэны, для спектакля гэта сукенка спатрэбілася, а ўсё іншае — ад нячысціка, свят, свят, свят!

— Раб — чалавек, чарвяк бяссільны. Ні бяды сваёй, ні выгоды сваёй не чуе, а туды ж, на кірмаш лёсаў, паўзе, да вянца прымяраецца. Вось і носіць потым церні круга галавы, да самай смерці носіць, на іншых, гэткіх жа, як і сам, гарапашнікаў азіраючыся. Муку церпіць, перад кожным, дужэйшым за сябе, кленчыць, а ўсё думае, што дасягнуў нечага, што вольны... Воля — у вольнага, вольных жа сярод людзей няма: Бога ў іх забяры — жывому, смертнаму, будуць усе як адзін пакланяцца, нібыта Богу...

— Зоя, а Зоя! — гукнула Настася, тузануўшы, нервова скамячыўшы край парчы, і, калі Зоя не павярнулася (не пачула, відаць), адно шумна ўздыхнула: да ўрача трэба схадзіць, каб выпісаў што-якое ад нерваў. Бо што ж гэта, як не нервы?

Адну фальбону заставалася прышыць, каб плячук вы-

глядаў пышнейшым,— і ўсё, і сукенка гатова. Месяц работы — з дня ў дзень... Каб для сябе, здэцца, шыла, дык даўно плюнула б: там падшый, там падбяры, там падгафруй... Але ж не для сябе шыла, для тэатра. А тэатр і ёсць тэатр: сёння царэўна сцэну дарагою сукенкаю падмятае, заўтра жабрак голым целам сквозь рызманы свеціць, пасляэаўтра Еве і Адаму музыка граць будзе.

Чаго там! Любіла Настася сваю работу. Любіла перабіраць пальцамі тканіну, узіраючыся ў малюнак, а потым — у крой, і ўяўляць тую, каго яна апране ў парчу ці ў ільняныя лахманы,— а то і на сябе ў думках якую адзежыну прымерыць: думкі ж працы не перашкаджаюць.

Вось і гэта Соф'я.... Гордая, відаць, была, строгая, як манашка, блюла сябе, а і яе прадвызначаны ёй лёс не абышоў: любіць мо і не любіла нікога (не для гордых — любоў!), а з сэрцам сваім і яна, няйначай, памучылася.

— Ведама ж, хоць на небе, хоць на зямлі, а — Бог! Як без яго? Саграшыш — пакаешся, пакаешся — душа ачысціцца, і зноў грашыць спяшаешся. Бо няма пакаяння без граху і нікому, апроч нячысціка, душа твая не прыдасца... Грэх і казаць і думаць такое, ведаю, але ж ці мае права судзіць жанчыну той, хто не быў на зямлі жанчынаю?

«Мама аднойчы так казала. Маміны словы...» — баранілася ад голасу Настася, а голас усё гучаў (ён і сапраўды нагадваў ужо матчын!), усё гучнеў — ужо ў вушах у яе пазакладвала.

— ЁН — не быў, а мяне жанчынаю нарадзіцца прымусіў, лёсу вышэйшага, улады вышэйшай пазбавіўшы. Пракляла б, і яго — пракляла б, калі б не баялася... Баюся... Не за душу, за розум (што, як розуму раптам пазбавіць?) страшна: кожны тады нада мною гаспадаром будзе. І ЁН, і кожны. А так я хоць ненавідзець магу, хоць ненавідзець...

— Ты што, дарагуля, заснула?

Здрыганулася ад дотыку рукі Настася, прыўзнялася нават, каб тут жа, убачыўшы побач Зою («Цьфу ты на цябе!»), гэпнуцца назад, на крэсла, і няхай з пэўным намаганнем, а ўсміхнуцца: задумалася, запрацавалася!

— Ты што, заснула? Гукаю, гукаю...

* * *

Маці гукала Бога. Перш ледзь чутна: «Божухна, бацюхна...»— так, што Настася разбірала толькі першыя

склады колькі разоў паўторанага звароту, потым гучней, як заклён: «Божа, адгукніся! Да цябе звяртаюся...»

— Мама! Мама! — падалася да яе ў цемнаце дзяўчынка і адчула, як тая адштурхвае рукі яе, трывогу яе, і растлумачыла: — Гэта ж я, Настася.

На міг прымоўкла маці. Стаілася. Нават дыханне прытрымала. Калі ж пераканалася, што ціха ў зямлянцы, што ноч па-ранейшаму точыцца з-пад даху ў левым ад дзвярэй кутку нябачнымі цяжкімі кроплямі, якія з глухім стукам падалі ў чарнату, варухнулася, пачала паволі падымацца. Настася і вызначыла, што яна падымаецца, па лёгкім усплёску паветра побач, па напружанні, якое раптам узнікла ў паветры і прыціснула яе да тапчака. Іменна прыціснула, бо не магла Настася ні рукою, ні нагою варухнуць, не магла нават абзыўнуцца, спытацца ў маці, чаго яна ўстае, куды збіраецца.

Толькі калі рыпнулі дзверы і ў няяркай палосцы начнога неба ўзнікла, каб тут жа зліцца з ім, сагнутая, згорбленая нізкім вушаком матчына фігура, адпусціла Настасю незразумелае здранцвенне — падхапілася яна, пацягнула з тапчака світку, сунула ногі ў атопкі, ці то свае, ці то матчыны (маці ж босаю; нічым не ахінуўшы плечы, пасунулася на двор), і кінулася да дзвярэй. У дзверы. У двор.

Ні ў двары, ні ў агародзе маці не было — ці мо яна не бачыла? — і думка пра тое, што маці дагукалася нарэшце да свайго Бога і ён прыняў яе, не здалася Настасі свята-тацкай: чаго не здарыцца на свеце, калі здарылася самае жахлівае і бацька, яе, Настасін, бацька, які прыйшоў з вайны героем (няхай калекам, але ж і героем!), аб'яўлены ворагам...

Зябка перасмыкнула плячамі, апранаючыся, яшчэ раз агледзела двор, выйшла на вуліцу. Далёка наперадзе, ледзь не на краі вёскі (калі яна толькі паспела?), убачыла матку, якая шыбавала ў бок пасёлка.

— Што ты скажаш! — мармытнула ўголас і спахмурнела, насупілася: трэба было ісці следам — па гразі, праз усю асеннюю ноч, і не дужа хацелася — і трэба...

Пахлюпала. Не кінулася бегма — і так і так дагоніць бяглянку! — а пайшла, не выбіраючы шляху, не абмінаючы лужыны: нахлынула, аглушыла яе раптам цяжкая, ліпкая, як гэта гразь пад нагамі, абыякавасць — усё роўна стала, куды ісці, што рабіць. Ды і што яна магла зрабіць? Добра, хоць зверху не ліло.

«А што ж матчын Бог? Сляпы? Бяссільны?» — падума-

ла. Але падумала — і тут жа лена ацерабілася ад думкі, ад пытанняў, звернутых невядома да каго: высока над ёю стаяла, не варухнулася бляклае халоднае неба, што нагадвала зараз мёртвае, застаялае возера, перавернутае ўгору дном, і не было на ім, на гэтым небе, месца для Бога, які б ён ні аказаўся. Не было. І факт гэты не меў ніякага дачынення ні да Настасі, ні да стомы яе шматгадовай і ўжо даўно не дзіцячай. Няхай халодным, няхай мёртвым святлом, а свяцілася, жыло неба, а ў ёй, у душы яе, і светлячка гнілога зараз не знайшлося б. Чаго-чаго, а святла не знайшлося б. Абыякавасць гняла. Стома. Страх, нарэшце, хоць і прыглушаны стомаю. А святло... Цёмна ў душы яе. Пуста.

— Чаго ж ты сунешся ўслед за маткаю? Ляжала б! — дагнаў яе вокліч, і Настася міжволі азірнулася, быццам і напраўду словы прагучалі за спіною.

Колькі недабудаваных хат ды чорныя, страшныя ў сваім няўклюдным імкненні ў неба коміны ўздоўж зараслае палыном вуліцы, голыя раскарачыны дрэў, бляклыя водсветы вышыні ў пазаплываных граззю лужынах... Вёска заставалася ззаду, дарога вяла ў ноч. І нічога, як здавалася ў гэтыя хвіліны Настасі, не чакала яе там, у цёмнай далечы; скрозь будзе чаўкаць гразь і глуха, праз чаўканне, плюхацца вада ў дзіравых атопках, скрозь будзе доўжыцца ноч і яна, Настася, так і не вырасце, так і не адшукае іншы, святлейшы, шлях, каб вырвацца з гэтага бясконцага круга чакання. Не спадзявання, не, а простага чакання: што далей? што там, далей? Няўжо ўсё тыя ж страх і холад?

Няхай Косціка вайна забрала (шмат каго забірала), бацьку ж — вайна адпусціла! Вораг... Ну які ён вораг, калі з ворагамі змагаўся, калі перамог у барацьбе? Яна, Настася, ва ўсіх пыталася — хто ўздыхаў у адказ: курэй Серафім брыгадзіру не аддаў, .пашкадаваў; хто ўпэўнена даводзіў: у вочы паганцу ён плюнуў, чортавых курэй падавіць на дзесятае балота паслаўшы. Настася і так і так думала неаднойчы, а ўсё на тое не выходзіла, каб бацька ворагам каму-небудзь раптам аказаўся.

Маці было шкада: штодня — каторы ўжо дзень — правадзіла ў пасёлку, каб што-якое высветліць, а яе прагнялі, гналі на работу і нічога не тлумачылі. На работу замест яе Настася хадзіла, а растлумачыць і Настася нічога не магла. Плакала, калі ніхто не бачыў, і маўчала. Цішком праклінала ўсіх, каго трэба прасіць, каму трэба

кланяцца за кожную жменю жыта, за кожнае добрае слова,— усіх, і першага — Ігнацiя Солада. Пайшла аднойчы да яго ў двор, як людзі навучылі, ні пра сваю, ні пра бацькаву годнасць не ўспомніўшы, кленчыла перад ім, прасіла: «Заступіцеся, дзядзечка! Што хочаце ў нас забярыце, а за татку заступіцеся; невінаваты ён...», а Ігнацій толькі крыва ўсміхнуўся: «Самы час з торбаю жабрацкаю па свеце бадзяцца, а туды ж: за-бя-рыце! Ды што з вас, гарапашнікаў, возьмеш?» Усміхаўся, бліскаючы залатым зубам, пакуль яна весніцы за сабою не зачыніла.

«А мо да яго, да Ігнацiя, мама ходзіць?!» — абпякла яе раптоўная думка, і Настася злякалася, пашукала вачыма Марылю, убачыла, што нашмат адстала ад яе, і прыспешыла крокі: крайняя хата ў пасёлку, калі зайсці адсюль, з боку Крыніцы, Соладава — калі туды кіравалася маці зараз, апоўначы, яна, Настася, не паспее, не дагоніць.

Але вось ужо і крайнюю хату мінула яна, і першы завулак мінала («Куды ж яна? На пляц перад школаю?»), і ў вулачку, якая вяла да школы, не завярнула.

— Мама! — пагукала яе Настася, наблізіўшыся.

І галавы не павярнула, і плячамі не сцепанула ў адказ: нахіліўшыся крыху ўперад і раз-пораз папраўляючы распатланыя валасы (хустка ссунулася на плечы і развязалася — адзін канец яе валокся па гразі), шыбавала яна ў цэнтр, да летась пасаджанага школьнікамі сквера ў самым цэнтры, дзе, зусім нядаўна, паставілі вялізны, у тры чалавечыя росты, манумент...

«Яна да Сталіна прыйшла?! — спатыкнулася, знерухомела ад нечаканасці Настася, убачыўшы, што маці спынілася, укленчыла перад каменным манументам.— Яна ў яго прасіць будзе?!»

Жах варухнуўся ў ёй, варухнуўся і пачаў расці: маці ж Бога гукала, да Бога звярталася, а прыйшла сюды...

Нерашуча ступіла да яе. Крок-другі зрабіла, вызваляючыся ад здранцвення. Блізка-блізка падышла. За спіною ў маці спынілася. У згорбленую спіну матчыну пазірала, баючыся падняць вочы.

— Ды свяціцца імя тваё, ды будзе воля твая, Уладыка...— гучна малілася Марыля, і словы малітвы, як здавалася зляканай, скаванай жахам Настасі, ледзянымі мурашамі распаўзаліся па ўсім целе.— Рабою тваёю буду, смерць прыму, пакорная волі тваёй, толькі ўратуй Серафіма, не дай яму згінуць у каменных сховах тваіх, не дай загінуць ад гнеўнае рукі бязлітаснага служкі твайго! Ура-

туй невінаватага, Уладыка, не бяры яшчэ адзін грэх на душу. Маё жыццё вазьмі, калі ахвяра табе патрэбна, а Серафіма не чапай: крывёю ж ягонаю ўжо акроплена зямелька, ці ж вялікі наедак для яе — цела яго пакалечанае?

«Што вы такое кажаце, мама? Што вы робіце? Ён жа не чуе! Не пачуе... Устаньце! Гэта ж не ЁН забраў тату, разумееце? Не ЁН!» — заклінала Настася ў думках маці, не смеючы расціснуць рот, вымавіць хоць слова: белае, мёртвае, здавалася, святло сцякала па бетонным пастаменце ўніз, адбельваючы косы матчыны, абяскроўліваючы твар яе. Нешта трэба рабіць, нешта...

— Не куранят пашкадаваў тваймў пасланцу Серафім, не,— раны ягоныя яму засмылелі, кроў, пралітая за цябе, Уладыка, запякла. Несправядліва было, па ягоным разуменні, крыўдзіць пакрыўджанага, рабаваць голага. Не ведаў ён, Уладыка, што ты так распарадзіўся, што для цябе наша апошняе спатрэбілася,— даруй яму! Уратуй яго, Божа, мяне за віну яго, калі правінаваціўся ён з гордасці сваёй перад табою, вазьмі, а яго ўратуй, адпусці!

— Мама! — наважылася, кранула яе за плячо Настася: не ў сабе яна, калі такое гаворыць.— Мама, пойдземце!

Паволі, цяжка паварочвала да яе галаву Марыля і раптам тузанулася і пачала завальвацца набок: белы, бялейшы за халодны каменны пастамент, які не пахіснуўся ад жудаснага Настасінага крыку, твар яе выплыў, вырваўся з чарнаты і застыў на зямлі, волкай, раскіслай ад дажджоў, хоць і добра ўтаптанай тут, каля помніка, Настася не бачыла ні скурчанага цела матчынага, ні ног яе босых, у гразі, ні самой асенняй гразі гэтай, што і была зямлёю,— твар, мёртвы матчын твар стаяў у яе перад вачамі, і нязвыклае, жудаснае ззянне ішло ад яго. Здавалася, раставала, раствралася ў гэтым ззянні ўсё вакол: і маладыя таполі, і цёмны, без аднаго агеньчыка, пасёлак за імі, і вялізны, непахісны ў сваёй велічы манумент, што ўзвышаўся над пасёлкам...

— А-а-а! — цягнула Настася, захінуўшыся далонямі, а і скрозь далоні свяціўся, выпраменьваючы белае, мёртвае святло, матчын спакутаваны твар.

* * *

Абрыўкі ўспамінаў узнікалі і знікалі, хаваліся ў змроку, які падступаў, здавалася, усё бліжэй і не-не дый пачынаў трывожыць Настасю: хацелася разарваць яго запо-

ну, асвятліць кожны куточак, кожны кусточак у самай далёкай далечы, на самым дне памяці, і ўгледзець, разгледзець той воблік таямніцы, які маці прымала некалі за воблік Хрыста, а яна, Настася,— за воблік мінулага. Так, так, не за што іншае, як за воблік самога мінулага, які часам нагадваў матчынага Хрыста, часцей жа — не Хрыста, а, як раней казалі, хрыстапрадаўца. Ігнацція Солада, калі ўжо ўдакладняць. Хоць і гэта толькі тады, калі яна імкнулася аднавіць, адухавіць мінулае, вярнуць яго, каб тут жа адпіхнуць, спіхнуць у забыццё...

Калі быў на свеце хтосьці, хто цішком кіраваў падзеямі і ўплываў на чалавечыя лёсы, то ўжо ж — не Бог, а д'ябал: такога наваррочаць, скрозь ушаноўваючы здрадцу ці злодзея і прыніжаючы нябогу, пакутніка, мог толькі нячысцік. Ці чалавек у яго абліччы і з ягонаю ўладаю («І імя лёгка згадваецца... Свят, свят, свят!»). Не адну бяду Настася перажыла, не адну смерць аплакала, і богам і людзьмі неаднойчы падманутая. Якой жа веры ў яе цяпер пытацца?

Паўлючыха сцвярджае: без веры нельга, хоць у што, а трэба чалавеку верыць — як няма ў што, дык у бязвер'е сваё... Глупства, канечне. Бязвер'е і ёсць бязвер'е. А верыць скрозь азначала — любіць. Бога любіць. Чалавека. Ідэю. Ці хоць бы, на крайні выпадак, самога сябе. А калі ніяк і нічога... На нічога — ні суддзі, ні бога. Гэтак раней казалі.

І яна, Настася, гэтак скажа. Не Паўлючысе, дык сабе. Мо тут жа і аспрэчыць сказанае, апраўдаецца: верыць мо не дужа верыла, а любіць — любіла. Не без сэрца ж яна! Ці маці з бацькам прыгадвае, ці Міколу і дачку, Іру,— ірвалася і рвецца сэрца за іх. Дагэтуль ірвецца. А што Рыбчука ні пакахаць, ні адагнаць не здолела (грэх гэта яе, так!), то і тут, як павернеш: і на тое і на тое можна павярнуць. Не яна, Настася, распарадзілася, а адзінота. Міне час — мінецца і радасць, якою б аграмаднаю ці мізэрнаю яна ні ўяўлялася: вечарэе ж ужо, звечарэла, лічы...

Падымаючыся па лесвіцы, Настася ўслухоўвалася ў сваю стому, спрабавала адагнаць надакучлівыя думкі: ці дома Іра, ці не, перш трэба ў ванну — адляжацца, адмокнуць, адмыцца пасля загараднай паездкі ад чужых пахаў, ад чужой ласкі, потым ужо настройвацца на гаворку з дачкою. Потым... Мо толькі зноў не атрымаецца гаворкі, як не атрымалася ўчора, і пазаўчора, і трэцяга дня... Як чужыя сталі адна адной...

Павярнула ключ, прычыніла за сабою дзверы. Пачуў-

шы Ірын смех і пакрыўджанае бурчанне Лены, яе сяброўкі, толькі і падумала: «Ну, дзякуй богу, не сышла... Дома...», і прысела, стала расшпільваць басаножкі. У дзявочыя галасы не дужа ўслухоўвалася, лена пераабувалася, скідала адзежу. У лёгкім халаціку прайшла на кухню і паставіла на агонь чайнік. Прыгадала, што намервалася спярша прыняць ванну, адно ўздыхнула: зараз, зараз пойдзе...

— Калі ўжо якому мужычку і патрафляць, то не задарма ж! Няхай плаціць. Каб усё чын чынам. Яму — сваё, нам — сваё.

Іра засмяялася ў адказ, і Настася здрыганулася, пачуўшы гэты яе незнаёмы, бессаромны смех: пра што гэта яны там гаманілі? Якія яшчэ мужычкі?

Яна ўжо хацела падняцца, гукнуць дачцэ, але зноў загаварыла Лена і тое, што яна казала, абрушылася на Настасю як гром з яснага неба, у яе нават плечы ўгнуліся.

— Някепска ж прыдумана: з кожнага «падснежніка» па дваццаць пяць чырвоненькіх за кароткі ўрок сексу ў яго ўласнай машыне зрываць. Слінямі сцячэ каторы, пакуль за горад выедзе, але ж імкнецца ўзяць сваё і ў пашпарт не заглядвае.

— Знайшла чым выхваляцца! — паспрабавала Іра перапыніць сяброўку.

— Ды я табе, дурніцы, давесці хачу: грошы не пахнуць, калі яны ўжо ў кішэні, і за што табе плачаныя, ніхто звычайна не цікавіцца. Ёсць — твае, няма — гуляй, Маня! Жыві, як продкі жылі, ціха і без асаблівых прэтэнзій. Па мне, ужо лепш ад заразы якой здохнуць, але не ў рыззі, сшытым якой-небудзь дыпламаванай краўчыхаю з атэлье індпашыву, а сярод шмотак імпартовых. Дайшло?

— А сёй-той пра душу гаворыць...— нехаця, як сама сабе, сказала Іра, а Лена ажно ўскінулася:

— Пра ду-шу! Бач ты, які разумнік! Пра душу ён згадаў, свае — свае! — уцехі не ўспомніўшы! А што, душу голую па свеце пусціш? Кожны плюнуць у яе імкнецца, ад цела грэшнага сваё ўзяўшы, а плаціць даводзіцца — тут жа пра душу згадвае: як жа! Чужая душа, бачыце, яму, паганцу, замуляла!

— Ты — пра каго? — хмура, не хаваючы раптоўнай непрыязнасці, спытала Іра.

— Думаеш, не відаць, адкуль вецер дзьме? — фыркнула, зглынуўшы смяшок, Лена і, калі Іра ніяк не адгукнулася на яе словы, задзірліва прадоўжыла: — Звязалася з пярэстаркам: ні твару ні жару... Адно што мудрасць пле-

шыны прабівае ды вочы, як у павешанага на крыжы прарока, гарацъ. Ты ж яму ў вочы, няйначай, як у пастку ўдава, заглядваеш. Глядзі, заглыне! Заглыне — і ў горле ў яго не перасядзе: не адной дурніцы ўжо, відаць, галаву задурыў. Плаціць, пэўна ж, няма чым, плаціць — няхай дзядзя плаціць...

Іра не адгукнулася. Маўчала. Маўчанне, ледзь толькі змоўкла Лена, павісла ў паветры, загусла, пачало прасочвацца цераз няшчыльна прычыненыя дзверы ў кухню — і Настасі на міг здалося, што ніякай гаворкі паміж Іраю і яе сяброўкаю не было, што яна адна ў кватэры і варта ёй падняцца і прайсці ў залу, як гэта адразу стане ясна.

Зарыпела адсунутае кімсьці з дзяўчынак крэсла, і Настася — толькі б не чуць, не пачуць нейкіх новых, страшных прызнанняў! — ускочыла, замітусілася, забегала па кухні, потым кінулася ў дзверы, у ванную, і шумам, на ўсю моц, пусціла ваду: яе дачка, яе Іра...

Вада са свістам вырывалася з крана, абрушвалася ўніз, на чыгуннае дно ванны, пенілася там, шукаючы сцёк, сіпела ў сцёкавай трубе — хвіліну, другую, трэцюю...

Настасі хацелася заткнуць вушы, заплюшчыцца, заткнуць вушы і не чуць ні гэтага шуму, ні цішыні там, за дзвярамі, але яна так і не зварухнулася. Абедзвюма рукамі абапіралася на край ванны, пазірала на струмень, які шалёна вырываўся з адкручанага да канца крана, пазірала бяздумна і нерухома. Адарвала пагляд ад яго і павярнула галаву толькі тады, калі шум вады стаў сціхаць і сціх: за спіною ў яе стаяла Іра — і гэта яна закруціла кран.

— Мне трэба памыцца,— адно і сказала, адварочваючыся, Настася, і, калі дачка крутанулася ад яе і выйшла, зашчапіла дзверы і зноў, цяпер ужо спакойна, пусціла ваду.

Што, урэшце, адбылося? Жнуць звычайна тое, што пасеяна: з зярнят жыта сурэпка не вырастае...

Падумала і спалохалася сваёй думкі, бо выходзіла, што яна, Настася, кругом вінаватая: і жонкаю свайму мужу не стала, і матка кепская, нікудышная. Не, не, ці ж яна не песціла Іру, ці ж не перанесла пасля таго, як не вярнуўся ў дом Мікола, усю любоў на яе, на яе адну? Узрост у яе такі — семнаццаць... Свет такі зараз...

Свет быў, напэўна, ні пры чым, Настася разумела. Але, не знаходзячы іншага, лепшага тлумачэння, зацята даводзіла сабе ці яшчэ невядома каму: свет зараз такі, час такі, што маладыя нячысціку гатовы даверыцца, абы не

стаць падобнымі на бацькоў, не прасачыць іх лёсы. І хоць Бога ў сведкі пагукай, хоць таго ж нячысціка — тое на тое выйдзе: чужыя яны сваім дзецям — прадонне паміж імі, да краёў змрокам запоўненае. Змрокам, у якім патанаюць і воклічы, і позіркі, і спадзяванні. І іх, дарослых, спадзяванні, і маладых...

З зярнят жыта сурэпка не вырастае, яно так. Але ж і каласы на адной і той жа глебе не ўсе на поўны рост падымаюцца — здараецца, каменьчык пад корань трапіць ці які з грызуноў сцябло падточыць. Не заўсёды ж усочыш! І тут... І тут хтосьці дарогу паміж імі перайшоў, яе і дачку разводзячы.

«Дык жа Солад, Солад і перайшоў!» — прыгадала яна сваю трывогу і, знясіленая бясконцымі папрокамі, адразу ўчапілася за гэту здагадку: канечне ж, Солад, больш няма каму. Нездарма ж увесь час круціцца вакол Іры. Чула, чула бяду сэрца, а вось жа не паслухала яно яго — усё чакала, прыглядвалася, адкладвала гаворку з дачкою. Каб не позна ўжо...

Прыкруціла кран, пацягнула ручнік і таропка пачала выцірацца. Міналі імгненні. Запавольваліся рухі. Настася не ведала, што скажа зараз Ірыне, у чым будзе яе пераконваць.

— Спадзяюся, ты не прыняла ўсур'ёз пачутае,— пацягнулася хмурым паглядам да яе Іра, ледзь толькі яна прычыніла за сабою дзверы, і Настасі здалося ў гэты момант, што дачка зараз з іх дзвюх — старэйшая.— Падобныя размовы ў модзе, а Ленка, калі трэба мазгі каму-небудзь запудрыць, любому фору дасць. Ты ж ведаеш Ленку.

— Я пераканалася, што нават цябе, сваю дачку, не ведаю,— спынілася каля стала з раскладзенымі на ім кнігамі Настася: у голасе яе не чулася ніводнае ноткі перажытага хвалявання, і гэта падманула Іру, паслабіла яе насцярожанасць.— Мы рэдка сустракаемся, яшчэ радзей можам пагаманіць, а?

— Мінуліся гады, калі я ўсюды цягалася за табою, чапляючыся за спадніцу.

Іра ўсміхалася. Усмешка асвятляла, да донца высвечвала ўсё яшчэ крыху насцярожаны яе позірк, але столькі цеплыні, столькі любові было ў гэтым позірку, што Настася не стрымлівалася больш — усхліпнула, ступіла да дачкі, прыхінула, прыціснула яе, як маленькую, да сябе, зашаптала:

— Дурненькая ты яшчэ ў мяне. Хоць і дарослая ўжо

зусім, а дурненькая. Я раскажу табе, усё раскажу табе! Пра сябе. І пра цябе... Ты ж не ведаеш, нічога пра жыццё не ведаеш!

* * *

Маці ляжала на пасцілцы, пасланай проста на пажухлым, спалавелым ад халодных кастрычніцкіх дажджоў пырніку: як прывёз у двор на падводзе кульгавы Саўка, ездавы з пасялковай крамы, так і пакінуў у двары. Не ўціскваць жа нябожчыцу ў зямлянку, сказаў. Усё адно па-людску не выйдзе, сказаў. І паехаў на тым. І Настасі трэба было ісці ў калгасную кантору, шукаць брыгадзіра, а яна, раз-пораз папраўляючы, пагладжваючы край вільготнага ўжо радна (доле, на траву паклаў бы маці Саўка, каб яна не папрасіла пачакаць), так і стаяла над маці наўколенцы. Слёз у яе не было: адна, сам-насам са сваім няўцешным горам, праседзеўшы да раніцы, як скамянела Настася. Здэцца, і гора паменшала, бо не ўспрымалася ўжо так востра, у такой жахлівай незваротнасці, як напачатку,— перагарэла занач усё ўсярэдзіне, на попел перагарэла.

«Трэба ісці ў кантору, да Солада»,— пераконвала яна сябе амаль машынальна (думка не-не дый вярталася) і не падымалася, не падымала апушчаных павекаў, цяжкіх і клейкіх. Не, хоць яна ўсю ноч вачэй не звяла, спаць не хацелася. Гнёў, прыгнечваў цяжар ва ўсім целе — яго, гэты цяжар, трэба падняць, каб падняцца...

— Чуеш, Настася?

Хтосьці гукаў яе, і Настася страпянулася, павярнула на голас галаву: суседка, Сяргеіха. Совае ёй нешта.

— На вось, з'еш што-якое, бо звалішся. А Марылю ж, царства ёй нябеснае, яшчэ пахаваць мусіш. Як там пахаваем ужо...

— Што? — не зразумела Настася.

— Гаспадар мой пайшоў да Ігнація, кажу,— дапамагала цётка ёй устаць.— І завезці ж на могілкі нябожчыцу, царства ёй нябеснае, на нечым трэба, і дамавіну з нечага зрабіць.

— Дзякуй, цётачка,— памкнулася пацалаваць ёй руку Настася.

— Чаго гэта ты раптам? — адхінулася тая.— Яшчэ

надзякуешся! Сірата ж — што гарох пры дарозе: хто ні пройдзе, ушчыкне.

Яна захлюпала носам. Высмаркалася ў ражок хвартуха і завохкала:

— Вох, каб жа ведаць! Вох, гаротніца! Вох, гора дык гора! А ты еш, еш...— як прыгадала, для чаго прыйшла, і сунула Настасі лустачку хлеба, намазаную тонкім, амаль празрыстым слоем маргарыну.— Дзень наперадзе до-оўгі!

Падзякаваўшы і адвярнуўшыся і ад яе і ад мёртвае маці, Настася адкусіла ад лустачкі раз і другі раз: голад падганяў, прыспешваў, а ў горла хлеб было не пракаўтнуць — і так і так каўтала яна яго ў роце, а ён, і пражаваны, перасядаў у горле. Закашлялася, прыкрываючы рот далонню.

— Ну, ну! Ну, ну! — паляпвала яе па спіне Сяргеіха.— Бач, як цябе!

І зноў завохкала, зноў загаварыла невядома да каго — ці то да нябожчыцы, абыякавай і да яе слоў і да ўсяго на свеце, ці то да неба, зацягнутага цяжкімі дажджавымі хмарамі і такога ж глухога, абыякавага. Настася не дужа ўслухоўвалася ў тое, што яна гугніць, шчодра перасыпаючы словы ўздыхамі і раз-пораз смаркаючыся ў хвартух,— жавала, жвакала ў роце хлеб, чамусьці горкі на смак, і зрэдку паводзіла плячамі. Быццам атрасалася, ацярэблівалася ўвесь час ад нечага. Павярнулася да цёткі толькі тады, калі яна кранула яе за плячо.

— Вунь Сяргейка мой шыбуе. Зараз і распарадзіцца, куды каму.

Настася падняла вочы: да двара, у двор праставаў сусед, дзядзька Сяргей, і ў хадзе ягонай было штосьці няпэўнае, трывожнае — гэта яна чамусьці адчула адразу. Падсвядома. І трывога дзядзькава перадалася ёй — рукі, а потым і плечы ў дзяўчынкі задрыжалі, на вочы набеглі слёзы, гарачыя, пякучыя.

— Што? Ну, што? — падалася наперад, нават ступіла крок-другі насустрач мужу Сяргеіха.— Няўжо не даў?

— Каня, сказаў, дасць: зарабіла...— соп, аддыхваючыся пасля хуткай хады, дзядзька Сяргей.— А дошак на дамавіну няма.

— А як жа...— пачала Сяргеіха і, пакасіўшыся на Настасю, змоўкла, прыкрыла рот рукою.— Вось злыдзень! Вось анціхрыст!

Але апошнія словы, якімі памянула цётка брыгадзіра, пачула толькі яна сама.

— Бацька тапчакі дошкамі паабшываў. Як ведаў...— ціха азвалася Настася.

— Дык як жа? Ат!..— падсаліў свае словы сусед колькімі мацнейшымі і, згорбіўшыся, палез у зямлянку.

— Зося, паштарка, у Клятное званіла, каб Васючысе, цётцы тваёй стрыечнай, перадалі. Неяк жа будзе, дзіця. Неяк жа будзе.

Сяргеіха, мо каб не чуць, як аддзірае яе гаспадар ад тапчакоў дошкі, патрэбныя зараз на іншае, гаварыла і гаварыла. Пра Васючыху, у якой сваіх дзетак трое, а дзе трое, там і чацвёртае пракорміцца. Пра тое, што свет не без добрых людзей і не прападзе сярод людзей Настася. Пра далёкі Мінск, куды яе могуць аддаць у нянькі ці ў вучаніцы да якой майстрыхі, а там глядзіш... Шмат пра што, адным словам, гаварыла, і, удзячная Сяргеісе ўжо за тое, што яна ў такую хвіліну побач, што прыйшла ў двор, нічога не збаяўшыся, і гамоніць з ёю, не даючы абарвацца повязі з жыццём, з жывымі, Настася слухала адно голас цётчын — за голас чаплялася, за яго гучанне, а не за сэнс сказанага. Як яно будзе далей, чым абернецца — адсюль не ўбачыш, а гадаць — што ж гадаць?

— Адгаравала, адпакутавала нябога, хай зямля ёй пухам будзе,— пацягнулася, каб прыкрыць твар нябожчыцы, Сяргеіха.

— Не трэба, цётачка! Мама да неба звярталася, а неба... Няхай жа глядзіць зараз сюды, Бог ягоны гаспадар ці нячысцік...

— Свят, свят, свят! Што ты, дзіця! Што ты! — кінулася да яе цётка, адступаючыся ад нябожчыцы.— Нельга так казаць. Хоць верыш, хоць не верыш у сілу ягоную, а нельга. Грэх! І матка цябе не ўхваліла б: яна ж — верыла! Яна і за Серафіма свайго, і за цябе, і за ўсю зямельку малілася. А ты паплач, паплач, дзетка. Усё лягчэй, усё палёгка...

Была тая палёгка ў слязах ці не, а яны зноў ліліся з вачэй, горкія, няўцешныя, і Настася не выцірала іх. Уздрыгвала на кожны дотык цётчынай рукі і безгучна плакала: адна яна засталася, адна на ўсім белым свеце!

— Няўжо шасці дошак не знайшлося б у калгасе? Сірату не пашкадаваў,— пачула яна цётчыны словы, звернутыя да мужа, і тут жа, у адказ на іх, моцнае, прыглушанае адно тонам дзядзькава мацюганне.

— Засмяяўся на мой папрок... Чыста нячысцік...

Перш галасы, а потым і крокі аціхлі. Настася памкну-

лася зірнуць услед, але з-за слёз нікога не ўбачыла. Ды і не было там ужо нікога: дзядзька Сяргей, угнуўшыся пад бярэмам дошак, пасунуўся ў свой двор, Сяргеіха пашыбавала некуды вуліцаю.

Нікога... Хто ж тады смяяўся? Ціхенька так, злосна смяяўся недзе паблізу, зусім побач.

Рукавом шмарганула яна па вачах, па твары, зміргнула, часта-часта заміргала, каб адагнаць ад вачэй смугу, і ўгледзелася: пад кустом здзічэлага і так і не высечанага (не паспеў) бацькам бэзу, пад голым, мокрым голлем яго, быццам натырканым у пясок у кутку двара кімсьці шчодрым і бязглуздым (самое палкі з зямлі тырчалі!), сядзеў хтосьці ў чорным — невялічкі, скурчаны, нага за нагу... Чыста нячысцік...

«Ён яшчэ і смяецца, паганец!» — мільганула ў ёй нядобрае, злоснае, і Настасі здалося, што яна вымавіла гэта ўголас. А той, пад кустом, усё падсмейваўся і рос, вырастаў у памерах: міг-другі — і заслоніць само неба.

— Прэч! Пайшоў прэч! — закрычала яна, запусціўшы ў нячысціка тым, што трапілася пад руку, і сама спалохалася свайго крыку. Перш — крыку, потым — дзікага мяўкання, з якім матлянуўся з-пад куста цераз вуліцу чыйсьці кот, чыйсьці чорны, як сажа, кот.

Яшчэ раз уцерлася рукавом світкі, уздыхнула, ціха, ледзь чутна паўтарыла: «Ён яшчэ смяецца, паганец!», а каго мела на ўвазе, і сама не ведала.

Церусіўся дождж. Настася толькі цяпер заўважыла, што сыпаў дробны дождж, і здзівілася: хмары плылі яшчэ з ночы, засцячы дарогу раніцы, ранішняму святлу, і непрыкметна апусціліся, сталі рваццa, чапляліся ашмоццем за голыя дрэвы і закопчаныя коміны — пагляду не прабіцца, не праціснуцца.

Адвяла пагляд, зірнула на маці («Вымакне ж!»), ступіла да яе і, не дайшоўшы, спынілася, знерухомела: матчын твар нібыта ажыў пад дажджом — пакрыўся рухавымі кропелькамі, засвяціўся, і здавалася, калі пагукаць яе зараз, адгукнецца... Настася нават варухнула губамі, сілячыся гукнуць, пагукаць яе, але губы не слухаліся — балюча ўздрыгвалі і не расціскаліся.

Дождж мацнеў: ужо не кроплі, а струменьчыкі яго сцякалі, скочваліся долe з матчынага твару, з рук і ног яе, змываючы наліплую ўначы гразь, сціраючы сляды пакуты, і Настася сачыла за гэтымі цёмнымі струменьчыкамі так пільна, што зноў заслязіліся вочы. «Трэба б прыкрыць

чым маці: вымакне... Небу ж усё роўна...» — падумала яшчэ раз, амаль абыякава, а думка раптам збудзіла ў душы злосць, злосную нянавісць да гэтага нізкага, глухога да яе гора неба над імі: няхай глядзіць! Няхай дзівіцца: мо і забойцы прычакаюць суду свайго!

* * *

— Ты лічыш, што ён — забойца? Што на ім — віна за арышт і смерць твайго дзеда?

— А ты як лічыш? — бліснула на Віктара вачамі Іра: пасля таго, як з матчыных слоў пераказала яму падзеі далёкага сорак шостага, яна пачувала сябе лепей, вальней, і хоць у гэтых «лепей» і «вальней» усё яшчэ вызвоньвалі льдзінкі роспачы і шкадавання, змаўчаць, рабіць выгляд, што не стаіць, не ўстаў паміж імі цень звар'яцелай ад гора бабы Марылі, было б немагчыма, нават для яе — немагчыма.

Віктар патузваў, то зашпільваючы, то адшпільваючы, раменьчык сумкі і на дзяўчынку не пазіраў.

— Ты думаеш, што за даўнасцю гадоў...

— Пачакай, малая,— перапыніў ён яе.— Давай па парадку, не спяшаючыся, а?

Ён змахнуў долу з лаўкі сумку, якая разгароджвала іх увесь гэты час, распростваючы, быццам цісну на іх нябачны цяжар, плечы, павярнуўся да Іры.

— Бацьку майго арыштавалі ў сорак дзевятым.

— О-о-о, вось гэта паварот!

— Арыштавалі, абвінаваціўшы ў палітычнай ненадзейнасці. Сігнал быў такі, сказалі. Не адзін сігнал...

— Значыцца, выходзіць...— паспрабавала ўсміхнуцца Іра, і губы яе грэбліва скрывіліся.— Выходзіць: перш ён «сігналізаваў», потым — супраць яго — іншыя?

— Я не адказаў бы гэтак жа катэгарычна. Для мяне бацька...

— Разумею!

— Ты не разумееш, малая! — адвярнуўся Віктар і зноў глыбока задумаўся: ці то не знаходзіў слоў, каб прадоўжыць, ці то проста пераконваў сябе ў тым, што не мае права гаварыць, абараняць бацьку, памяць ягоную, не разабраўшыся, не высветліўшы ўсіх абставін бацькавага жыцця і бацькавай смерці да канца.

— Урэшце, гісторыя — гэта толькі гісторыя, каго б яна

ні тычылася,— адвярнулася і Іра, бо пазіраць на Віктара, на яго скамянелы профіль збоку, на такой блізкай адлегласці, было чамусьці балюча.— Я расказала табе, каб неяк разам...

— Разам! Разам! Людзі не ўмеюць жыць разам, малая,— паволі, ледзьве не па складах, казаў Віктар, і голас яго здаўся Іры незнаёмым, чужым.

«Устаць і пайсці? — абагнала пачуццё думка.— Але ж гэта — пайсці з яго жыцця, пайсці назаўсёды!»

Вярнулася хваляванне. Замешанае на жалю і да сябе і да Віктара, упершыню такога разгубленага побач з ёю, у яе на вачах, хваляванне расло, гарачым камяком падступала да горла, чырванню расцякалася ў яе па шчоках — нізашто не павярнулася б яна цяпер да Віктара: чаго, запытацца, так разгубіўся? Сын за бацьку не адказвае, і наогул...

Што «наогул», Іра так і не вызначыла. Проста адмахнулася ад думкі. Якое дачыненне, урэшце, мела да яе, да Іры, гісторыя? Іры і на свеце тады не было!

— Чакаеш, што апраўдвацца пачну? Усё ж сыходзіцца: сорак шосты, вёска Крыніца, адноўлены калгас, у якім бацьку брыгадзірам якраз тады паставілі...— голас Віктараў не ўздрыгваў, але быў нязвыкла звонкім, напружаным.— І арышты, напэўна ж, былі! Як і ў сорак дзевятым. Але каб з-за таго, што франтавік куранят у калгас не здаў, арыштавалі!

— Ну, не з-за таго ж дзеда забралі, што з фронту без нагі прыйшоў,— ціха азвалася Іра.

Яны сядзелі, адвярнуўшыся адно ад аднаго, чуйныя да любога руху, любога слова з боку другога, і не чулі, не заўважалі нічога вакол, хоць вакол ценькаў, шумеў лістотаю і дзіцячымі галасамі надрэчны сквер, а побач, за дватры крокі ад іх, парамі, купкамі людзей праходжваўся па асфальтавай дарожцы суботні адвячорак, і абрыўкі слоў, людскіх размоў часам асыпаліся проста пад ногі.

— Мы зусім нічога не ведаем пра той час,— яшчэ цішэй сказала Іра, парушаючы маўчанне.— У падручніках жа — іншае.

— А ты хацела б ведаць?

— Не знаю...— перасмыкнула яна плячамі.— Хацела б, не хацела б — у мяне не пыталіся і не пытаюцца.

— Я пытаюся.

— Думаю, што ўсё роўна не змагу неяк інакш ставіцца да маці. І... і да цябе.

— Ты ж у ж о на мяне не глядзіш!

Віктар па-ранейшаму не паварочваў галавы, быццам і не ёй казаў, а ў Іры спіну звяло ад напружання, ад чакання хоць бы кволага руху насустрач: трыццаць год мінула — трыццаць! — і адносіны Віктара... Ну, няхай адносін асаблівых не было, але ж давер — быў!

— «Гісторыя мае толькі той сэнс, які мы здолеем ёй надаць»,— гэта ж твае словы. Не памятаеш? — пачала пераадольваць узніклае адчужэнне Іра.— Што змянілася ад таго, што паміж намі ўстала мінулае? Мінулае, перад якім ні ты, ні я ні ў чым не вінаваты? Тое, што было,— было, і ўсё на тым.

— Ва ўсіх нас адно мінулае. Гэта я таксама табе казаў, малая,— рэзка, адным рухам павярнуўся ён да Іры.— Вось толькі пра тое, што так усё заблытана ў ім, што ўсе лініі асобных чалавечых лёсаў могуць так сысціся, зліцца ў адну, тлустую, крывёю намаляваную на цёмнай, асветленай фальшывым, як высветлілася, святлом старонцы гісторыі, і думаць не думаў. Не даўмеўся б, калі б і думаў. Яшчэ разбірацца і разбірацца!

— Навошта? — пазірала на яго цераз плячо Іра і сілілася ўсміхнуцца.— Я дарэмна расказала... Навошта сёння разбірацца ў тым, што было не з намі?

— Каб чалавекам сябе пачуваць. Чалавекам, разумееш? — а не драўляшкаю ў руках папы Карлы, у якой адсечаны ўсе карані.

— Пры чым тут папа Карла? — нечакана зазлавала Іра, надзьмулася: як з малою, з ёю гаворыць!

— Госпадзі! То адзін папа Карла прагне адсекчы штонебудзь ад чалавека, то другі, то трэці, а чалавек — і мы, і мы з табою, малая! — і не працівіцца асабліва: дыктат, прызнаём, дыктат, канечне, але ж лепей цвёрдая рука, чым слабая... А калі я не хачу быць цацкаю ў гэтай руцэ? Калі не хачу быць ні злодзеем, ні ахвяраю? А? Тады як?

— Тады трэба прыкідвацца дурнем,— буркнула, адводзячы пагляд, Іра.

— Прыкідвацца дур-нем?! Ну, не, малая. Змагацца трэба, разумееш? Зма-гац-ца!

— І стаць ахвяраю...

Віктар прысвіснуў.

— І стаць, у выніку, ахвяраю,— цвярдзей, больш рашуча паўтарыла яна, чапляючыся дрогкімі рукамі за край лаўкі.— Ведаю я такіх змагароў. І не адно ў мінулым.

— Думаеш, лепш самому плюнуць сабе ў душу, загадзя пагадзіўшыся з роляю дурня?

— Усе мы час ад часу выконваем гэту ролю. Змушаны...

— Мажліва,— напружана ўглядаўся ў яе, у яе профіль, Віктар.— Кепска, калі маска становіцца тварам, ці не так?

Іра не адказала. Мо таму, што зноў паўстаў перад ёю матчын твар, заліты слязьмі, дзіўна асветлены слязьмі,— увесь час адводзіла яна ад яго пагляд, а пагляд вяртаўся, шукаў, вышукваў на такім родным і такім незнаёмым твары гэтым якоесь тлумачэнне словам, што ўсё ніяк не маглі адгучаць у раптоўнай, раптоўна ўзніклай у пакоі цішыні...

— Прабач. Пасля твайго расказу гаворка ў нас павінна б адбыцца трохі іншая,— пакусваў губы, не апускаючы вачэй, Віктар.— Толькі...

— Іншым разам, добра? — імкліва перапыніла яго Іра.— Як-небудзь потым, пазней!

Цяпер яны сядзелі — вочы ў вочы. Вузкая палоска лаўкі падзяляла іх, і калі б хтосьці адзін, хоць бы адзін з іх зрабіў рух, ледзь прыкметны рух насустрач, адлеглaсць паміж імі знікла б — звузілася, а потым і знікла. Але руху гэтага ні Віктар, ні Іра не зрабілі, нават не памкнуліся зрабіць, быццам не гэта вузкая палоска была паміж імі, а перагародка, нябачная сцяна, якая зрэдку, ці то ад слоў, пахіствалася, але стаяла, трымалася.

— Калі і вінаваты твой бацька — кара знайшла яго,— прадоўжыла Іра амаль адразу.— А як ды чаму ўсё адбывалася так, а не інaчай, хто яго сёння высветліць! Са сваім бы не заблытацца...

— Тое, пра што ты расказвала, таксама тваё. І маё. Як бы ты ці я ні адмахваліся.

— Віктар! — пацягнулася да яго позіркам Іра і тут жа адчула, што позірк наткнуўся на суровае, хоць і нявымаўленае «Не!».— Ат! Не трэба было расказваць.

Яна падхапілася з лаўкі (яшчэ слёзы, чаго добрага, пырснуць!), узмахнула, закідваючы цераз плячо сумачку, і пайшла ўздоўж ракі, не азірнуўшыся на Віктара.

Дзень хіліўся на вечар. На вадзе ўжо ляжалі яркія вохрыстыя водсветы, якія пачнуць цямнець, налівацца чырванню праз якіх паўгадзіны, і ў гэтых водсветах, у гэтай цьмянай жаўцізне вечаровай ракі, здавалася, танула водгулле Ірыных крокаў. «І няхай! І няхай! Тая роля ці іншая... Адна халера, урэшце!» — падганяла яна сябе, а са-

ма ўслухоўвалася ў цішыню, у прастор, які рос, вышэў ззаду, падштурхваючы ў плечы, і не абзываўся, ніводным гукам дагэтуль не абазваўся. Наадварот. Чым больш аддалялася яна ў бок праспекта, тым больш трывожна маўчаў толькі што тлумны, поўны гоману і смеху сквер у яе за спіною. Вось ужо ён зусім адступіў, і Іры трэба было толькі падняцца па каменных прыступках.

Як знясілеўшы раптам (куды, запытацца, бяжыць?), абаперлася на каменную балюстраду. Павольна, як цераз сілу, павярнулася, каб хоць позіркам развітацца з тым, каго ўсёю душою зараз ненавідзела, каго ненавідзела...

Крокаў за дзесяць ад яе (відаць, спыніўся, ледзь толькі заўважыў яе рух) стаяў Віктар. Стаяў нерухома, так, як і яна,— ні ўзмаху рукі, ні воклічу... І балюча ўздрыгнула, сцялася ў Іры сэрца ад невядома адкуль узніклага прадчування, што любы з гэтых крокаў — неадольны. Ужо неадольны.

* * *

Крокі танцоўшчыцы, нячутныя і ў штучным сінім святле лямпаў, здавалася, зусім бязважкія, мякка пакалыхвалі цішыню (так, так, цішыню! музыкі Настася не чула) — і гэта калыханне, гэта тужлівае пакалыхванне паветра суцемкаў, у якіх усё было нерэальным, хісткім і расплывістым, будзіла ў яе ў душы трывогу. Няпэўную, падсвядомую трывогу: Жызэль, яе трагічнае каханне і смерць, увасобленыя ў музыцы і танцы, успрымаліся адчужана, як бы здалёк, з-за сцяны перажытага, а штосьці (ужо ж не нерэальнасць, не ўмоўнасць таго, што адбывалася на сцэне) балела, штосьці знаходзіла балючы водгук у ёй, і не магла Настася ні вытлумачыць гэты боль, ні адпрэчыць.

Каханне, смерць, уваскрашэнне... Усё не тое, не тое! Трывожыла, мучыла іншае — большае, больш важнае, калі мець на ўвазе не адно асобнае жыццё, а ж ы ц ц ё. Што — іншае, большае, яна не вызначыла б, яна не ведаба, але адчуванне трывогі расло, мацнела, і ўсё цяжэй было ўтрымаць яго груз, яго цяжар. Адкуль трывога? Чаму яна паглынала ўсё вакол — на шмат гадоў вакол? Плылі, адплывалі кудысьці назад, у цемру, сцены тэатра, шматпавярховыя камяніцы ўздоўж Свіслачы, чыгуначныя семафоры, скрыжаванні бальшакоў і прасёлкаў, хаты і хаткі мястэчкаў і вёсак — гады перамешваліся, блытаючы,

зблытваючы падзеі і споміны, і марна Настася чаплялася за парэнчы крэсла, толькі што зусім рэальнага, добра асязальнага: пальцы саслізгвалі, пальцы дрогка намацвалі мокрае ад дажджу надплечча крыжа, каб тут жа адкаснуцца, балюча сцяцца ў яе на грудзях.

Пахавалі маці? Прысыпалі волкай зямлёю? Але ж хто тады стаяў побач? Хто схіліўся і гладзіў, гладзіў Настасю па валасах? Хто ж тады шаптаў, прасіў: «Ідзі, дачушка... Не бойся...»?

— Куды ісці? Вы ведаеце, куды мне ісці, мама? — міжволі адгукнулася, абзыўнулася Настася, падымаючыся з крэсла, і не пачула, як са стукам адкінулася сядзенне, як зашыкалі на яе ззаду тыя, каму яна перашкаджала глядзець спектакль.— Я гатова... Я не ведаю...

— Жыццё бязмежнае... Ідзі, дачушка! Не бойся!

Голас гучаў нават пасля таго, як адгучалі словы,— гучаў, зліваючыся, зліўшыся з музыкаю, але Настася ўжо не ўслухвалася ў яго — узмахнула рукою, быццам адштурхнулася ад пачутага, і ступіла ўбок. У суцемкі. На паглынутую суцемкамі і ўсё ж нейкім іншым, унутраным зрокам бачную дарожку. Страх адступіўся. Страху ў душы не было.

# Выпадак

Выставачная зала апусцела неяк адразу. Разам са стукам абцасаў, раптоўна прыглушаным тоўстай дывановай дарожкай, што збегла ўніз па лесвіцы ў значна ніжэйшае, падпертае каменнымі калонамі фае, аціхлі і нягучныя, абыякавыя да ўбачанага галасы дзвюх апошніх наведвальніц. Стала чуваць, як высока над жывапіснымі палотнамі, развешанымі па абодва бакі на сценах і на вялікіх драўляных шчытах-перагародках, надакучлівымі мухамі гулі неонавыя лямпы, як сонна парыпвала выкладзеная паркетам падлога дзесьці ў самым дальнім кутку і ў такт гэтаму парыпванню пагойдвалася сухое, насычанае каляровымі подсветамі паветра.

Мінула хвіліна, другая. Паветра па-ранейшаму пагойдвалася, і было незразумела... Разумець, папраўдзе, не было чаго, таму што, калі б як належала ўгледзецца, то за крокаў дваццаць, у праходзе паміж перагародкамі, даўно можна было прыкмеціць групу мастакоў, якія стаялі перад вялікай, на ўвесь прасценак, карцінай. Колькі часу ўжо стаялі моўчкі. І калі адзін з іх, мажны, высокі, у тоўстай вязанай камізэльцы, зашпіленай на вялікія драўляныя гузікі і ў шапцы доўгіх распатланых валасоў, павярнуўся, адкрыўшы круглы твар, падмаляваны шырокімі цёмнымі вусамі, можна было з упэўненасцю сказаць: гэта яго, Ігната Дубровіна, карціна займала цэлы прасценак і ці то памерам, ці то сваім зместам прывабіла іх усіх і разам з ім, аўтарам, трымала ля сябе ўжо добрых паўгадзіны. Даўно можна было, перакінуўшыся колькімі звыклымі заўвагамі, адысціся, пайсці кожнаму па сваіх справах, а яны ўсё стаялі, і Ігнат міжволі пачаў нервавацца, тузацца, злёгку нават прытанцоўваць на месцы.

— Не падабаецца, ці што? Га, чэрці? — не вытрымаў, буркнуў, зазіраючы ў засяроджаныя твары сябрукоў.— Ці мо ад зайздрасці мову адняло?

— Ад зайздрасці? Ды не, тут іншае, стары,— крануўся яго пляча і тут жа загроб далонню, сціснуў у кулаку паветра старэйшы ад усіх, лысаваты Стась.— Тут іншае.

— Адкуль у цябе раптам гэткае спалучэнне: сучасная

будоўля і бяздоннае, язычніцкае якоесьці неба? Не баішся, што не так зразумеюць задуму?

Пытаўся, злёгку заікаючыся, Алесь Сойкін, вядомы ў мастакоўскім асяроддзі сваімі палкімі (нават заікаўся тады меней, чым заўсёды) прамовамі ў абарону нацыянальнай адметнасці, хоць калі б хто пацікавіўся, ад каго ці ад чаго і чыю адметнасць той абараняў, ён, пэўна, не знайшоўся б, што адказаць. Але ніхто не цікавіўся. Ці то звыкліся ўсе з яго роляй, ці то не прымалі ўсур'ёз гэтыя прамовы: прарокі былі не ў модзе, ды і якое ў тым прароцтва — вымяраць будучыню мінулым? Толькі прымаць не прымалі, а ў гутарках з ім міжволі насцярожваліся, міжволі падыгрывалі: што з яго, маўляў, возьмеш!

— Неба павек застанецца язычніцкім, такім, якое мы атрымалі яго ў спадчыну,— звыкла падыграў Алесю Ігнат і зараз, але тут жа спахапіўшыся, абурыўся, заспяшаўся адпрэчыць свае ж словы і ўдакладніць думку, задуму карціны.— Любая будоўля, любое наша дзеянне маюць сэнс толькі тады, калы ўгары, над намі, ззяе агромністае спакойнае неба. Здаецца, ясна.

— У кожнага — сваё неба.

— Ды кінь ты, Алесь,— вяла адмахнуўся ад спрэчкі чацвёрты з кампаніі, невысокі, вастраносы Іван Раўчук.— Гаворка не пра дэталі, не пра канкрэтнасць або неканкрэтнасць напісанага, а пра падыход, пра свядомую ці падсвядомую змешанасць стыляў.

Ігнат недаўменна пераводзіў пагляд з карціны на хлопцаў: думаў, што яна зацікавіла іх, а тут... Што ні галава, то свой розум, яно канечне, ён разумеў. Але ж калі пойдзе так і далей, дык чорт ведае да чаго дагаворацца.

— Ты перагнуў, стары. Перагнуў. Змешанасць стыляў — адзнака непрафесійнасці,— нахмурыўся Стась.— Думаю, ты пра іншае...

— Я...

— Вось і я кажу: тут іншае,— не даў таму перапыніць сябе Стась.— У жывапісца, прызнанага майстра сацыяльнага партрэта сучаснасці, з'яўляецца туга па нечым няўлоўным, незямным...

— Стась! — з дакорам зірнуў на яго Ігнат.— Якое незямное? Хіба зямля не небам дыхае і выжывае?

— Незямным і зямным адначасна,— зноў рэзка загроб далонню і сціснуў у кулаку паветра той, рашуча, быццам яго і не перапынялі, працягваючы сваю думку.— І штосьці ў гэтай тузе, стары, ад сентыментальнасці, штосьці...

Яму як зарвала раптам. Сцятыя ў кулак пальцы па-ранейшаму ўздрыгвалі ў паветры на ўзроўні застылага, выцягнутага твару, а словы згаслі: рот яшчэ колькі імгненняў адкрываўся і закрываўся, але так бязгучна і так напружана, што на лбе ў Стася выступілі кропелькі поту, а няроўная, добра пакруглелая лысіна пачала налівацца густой чырванню.

— Ты што, няспелай думкай падавіўся? — помсліва пакпіў з яго Іван, лёгкім рухам стукаючы Стася па спіне, і тут жа, як і той, знерухомеў у недарэчнай позе: рука як прыстала да сябра, акуляры (не паспеў паправіць адразу) з'ехалі і ледзь трымаліся на кончыку вострага носа, падслепаваты позірк паверх акуляраў разгублена адмахваўся ад убачанага ржанымі пушыстымі вейкамі.

— Ф'ю-ю! Гэ... гэ... гэта яшчэ шт-т-то? — прысвіснуў і затаптаўся на словах Алесь Сойкін, пяцярнёй расчэсваючы рэдкую, наўмысна адпушчаную грыву русявых валасоў на нахіленай па-бычынаму ўперад галаве: з-за растапыраных яго пальцаў толькі раз-пораз выблісквала то адно недаўменна-злоснае вока, то другое.— Гэ... гэ... гэта...

Павярнуўся да лесвічнага пралёту і Ігнат, і ў адрозненне ад астатніх, чамусьці не здзівіўся. Быццам і чакаў чаго-небудзь незвычайнага ў гэты вечар, чакаў і вось, дачакаўся — і ўсе словы ўжо не мелі значэння, ужо забыліся, будучы загадзя непатрэбнымі, загадзя вядомымі і пустымі. Якія словы? Сюды, да іх, ішла жанчына — дзяўчына, у наскрозь празрыстай сукенцы, што ледзь заўважным рухам, нават не рухам, а трапятаннем вакол яе маладой, дзівосна прыгожай постаці толькі падкрэслівала аголенасць, прывабную яе безабароннасць. Ішла лёгка, здаецца, не кранаючыся падлогі босымі нагамі, якія дзвюма цёплымі жывымі сцяблінамі раслі ўгору, да... Дадумаць, а тым больш дагаварыць, не хапала дыхання. Калі б не выцягнутыя твары сябрукоў, Ігнат прыняў бы дзяўчыну за шчаслівы прывід: мастака наведала Муза! — было б што пасля прыгадваць... Але ж Муза не з'яўляецца адразу перад групай творцаў, у гісторыі мастацтва такія факты невядомы. Значыцца, гэта адпадала. Але калі дзяўчына не прывід, як яе прапусцілі сюды наглядчыцы? Хто-хто, а Дзяменцеўна гэткай бы ніколі не дазволіла разгульваць у чым маці нарадзіла перад наведвальнікамі Палаца: яшчэ чаго! у прыстойнай установе міністэрства культуры!

А дзяўчына — вось яна, за які дзесятак крокаў! — ступала лёгка, бязважка, павольна набліжаючыся да іх, маж-

ліва, задужа павольна, бо адолець гэты прамежак паміж імі хапіла б і хвіліны, а мінула ўжо колькі доўгіх, ашаламляльна доўгіх хвілін, за якія кожны з мастакоў паспеў усміхнуцца свайму спалоху (што яны голую натуру не пісалі?), паспеў павярнуць у думках убачанае і так і гэтак.

«Нічога сабе малая! Як яблычак. Укусіў бы, ды не дасца... З гэткіх, няйначай, вялікія сваіх багінь пісалі,— паціраў схаладнелыя пальцы рукі аб штаніну Стась.— Як той казаў: ні дадаць, ні адсекчы. Быццам адной пявучай лініяй абведзеная: ногі, клубы, грудзі, плечы як точаныя — гэткіх мая рука не craналася, не! Прыйшла б яна да мяне ў майстэрню... У майстэрні, праўда, бардак, трэці месяц не збяруся прыбрацца, але з такой бы нагоды...»

«Стварае ж гэткіх прырода,— уссадзіў на нос акуляры і, каб не спаўзлі, прытрымліваў іх дрогкай рукой Іван.— Хоць богу ў ложак, хоць на панель пасылай — ні там, ні там раўні не знайшлося б. А ўжо для нашага брата... Век бы можна было пісаць, то адно, то другое, нібыта няўзнак, з-пад апраткі гледачу цікаўнаму паказваючы: усякі б смакаваў, міжволі са сваёй вернай, заплыўшай тлушчам, параўноўваў. У маю карысць, канечне. З зайздрасцю да мяне: пісаў — значыцца, кранаўся... Вось толькі ці напісаў бы? Ці змог бы такую вось напісаць?»

«Аўраамава семя, не інакш. Дзе б гэта наша дзеўка так бессаромна выстаўляла сябе, сваё д'ябальскае хараство? — моршчыўся як ад зубнога болю Сойкін і, жвакаючы ў абедзвюх жменях камячкі паветра, усё больш пічытна прыціскаў рукі да бакоў, быццам баяўся, што яны ненарокам выдадуць яго непрыемнае хваляванне.— Бач, выступае! Не ідзе, а плыве: грудзі не ўскалыхнуцца... Ступіць бы насустрач, спытаць: каго шукаеш, салодкая? Не. Пакуль буду заікацца, хлопцы на смех падымуць... Плыве і плыве сабе, і няхай. Не наша штучка, не мая. На такую, мусібыць, і пазіраць грэх: доўга потым з тугой да свайго прыглядвацца будзеш».

«Багіня! Не будзь я атэістам, багіня хараства — само хараство!» — не адводзіў ад дзяўчыны пагляду Ігнат, злёгку паводзячы то адной, то другой рукой, быццам няўцямна адпіхваў ад яе позіркі хлопцаў і словы іх: недарэмна ж увесь час яму здавалася, што яны гаварылі, думалі ўголас і тым абражалі гэтыя імгненні.

А імгненні былі неспадзявана радасныя. Ачышчальныя. Такія, якія і надараюцца аднойчы, калі наогул надараюцца. Дзённыя клопаты, сутычкі, расчараванні (каму не

хацелася, каб яго работа патрапіла ў спіс карцін, адабраных для закупак?) здаваліся такімі дробнымі, што іх і не ўбачыць было адсюль — думалася пра няздзейсненае, пра радаснае і светлае, даўно забытае, адпрэчанае працай і размовамі, заўсёды, як і сёння, неабавязковымі, непатрэбнымі. Так, думалася пра штосьці забытае, далёкае... Далёкае, як маленства, дзе так звонка і чыста вызвоньвалі ручаі, так вольна і радасна дыхалася кветкам і птушкам, дзе жыло яго, Ігнатава, захапленне — захапленне ўсім, чым адорвала яго жыццё. У яго, у таго захаплення, быў свой колер, свой непаўторны колер, які, знайдзі яго Ігнат тады або пазней, прынёс бы яму славу першаадкрывальніка. Знайдзі... Колькі разоў прадчуванне, адчуванне блізкасці адкрыцця кідала Ігната да мальберта, да палатна! Здавалася: вось яно, рашэнне, на кончыку пэндзля, трэба толькі не адступацца, занатаваць яго, трэба толькі... І — не адступаўся. Пакуль не ўсведамляў: зноў — чарговае паражэнне...

Ігнат не адрываў пагляду ад дзяўчыны — яна набліжалася! — а хутчэй нават не ад яе, а ад блакітнай жылкі ў яе на шыі, якая была такой глыбокай, што нагадвала рану, і ўсё прыслухоўваўся, услухоўваўся ў цішыню, да звону ў вушах, каб пачуць дзявочыя лёгкія крокі. Чамусьці гэта было важна — пачуць яе крокі, адчуць рэальнасць таго, што адбывалася. Бо поўнай веры не было, усё ж, не было, хоць нічым іншым, як вось гэтым яе неспадзяваным з'яўленнем, нельга было растлумачыць здранцвенне адразу чатырох добра пацёртых жыццём мастакоў. Дзяўчына не зважала на іх, гэта так. Але ж яна набліжалася, і, пэўна, не адзін Ігнат лічыў халодных мурашак на спіне: ва ўсіх павыцягваліся твары і затуманіліся позіркі, і ніводзін не мог зварухнуцца, адарвацца ад падлогі.

Не чуючы ні свайго ўзрушанага дыхання, ні свайго сэрца (яно калаціцца павінна было б!), Ігнат пачаў ужо думаць, што губляе прытомнасць, як скалыхнулася зачэпленая празрыстай сукенкай госці цішыня і з усіх бакоў, з усіх палотнаў хлынулі на яго — на іх! — гукі. Спярша хвалямі, потым — суцэльным няспынным ліўнем. Невыразны гул амаль імгненна змяніўся выразна чутным пошумам дрэў: спявалі, кранутыя ветрам, высокія сосны, шапацела лістота бяроз, уплятаўся ў яе шапаценне перастукі дзятлаў, перамовы соек... Гэта тое, што адразу пазнавалася. А былі ж і іншыя гукі — мноства іх! — і разабрацца ў іх ашаламляльна стракатым сугуччы Ігнат нават

не спрабаваў. Так як толькі што мучыла яго нерухомая, мёртвая цішыня, так мучыла зараз гэта шматгалосіца: таямніца, разгадка таямніцы была побач — трэба было адно крок зрабіць, рух адзіны да яе, насустрач ёй. Ігнат нават зрабіў гэты рух, гэты крок, аграмадным намаганнем волі адарваўшы нагу ад падлогі,— дзяўчына ж была ўжо зусім побач, міг-другі — і міне іх, абміне, так і не зірнуўшы ў іх бок, не заўважыўшы! — і тут жа пашкадаваў: пачалі асыпацца, цішэць і знікаць гукі, знерухомела, стала чэзнуць, знікаць у празрыста-блакітнай смузе незнаёмка.

— Пачакай! Пачакай, бо і я...— з цяжкасцю разляпіў ён балюча сцятыя вусны.— Я, здаецца, зразумеў, знайшоў! Пачакай.

Ён не дагаварыў. Убачыў: у зале, апроч іх — нікога. Ні душы. Надакучлівымі мухамі гулі ўгары неонавыя лямпы, нячутна пагойдвалася сухое, насычанае каляровымі водсветамі... Каляровых водсветаў не было! Ніхто, як і Ігнат, нічога не зразумеў, але раптоўную бляклaсць, амярцвеласць усяго вакол — нават паветра! — адчуў кожны.

— Ч... ч... чорт! Д-д-д'ябальскія шт-т-тучкі нейкія! — вылаяўся ўпаўголаса Сойкін, і, быццам вярнуўшыся ў рэальнасць гэтых імгненняў, мастакі пераглянуліся.

— Агаладалі за дзень, ці што?

— Скажы каму, параяць у Навінкі звярнуцца. І пра тваю карціну, стары, не дагаварылі. Іншым разам давядзецца. Зараз жа ўжо і думкі не сабраць,— знарачыта пазяхнуў Стась і памкнуўся ісці да выхаду, да лесвіцы, але штосьці змусіла яго павярнуцца. Павярнуўся. Не да сяброў, да сцяны, да карціны. І, убачыўшы, як пакруглелі, палезлі з арбіт у яго вочы, азірнуліся астатнія.

Карціны не было. Не, на сцяне вісела палатно, але гэта было чыстае, загрунтаванае палатно на падрамніку і ў раме, на якім не было ніводнага мазка пэндзля, ніводнага следу вугалю.

Ігнат падбег да яго, правёў далонню па сураўю, не верачы сваім вачам: пуста, толькі роўны, тонкі слой грунту... Разгублена зірнуў на хлопцаў, потым на шчыт побач: і там, на шчыце, віселі ў рамах чыстыя, незапісаныя палотны. І далей, на суседнім шчыце, і на суседняй сцяне — чыстыя незапісаныя палотны, быццам толькі падрыхтаваныя да работы і невядома чаму развешаныя тут, у зале Палаца мастацтваў, дзе павінен быў адбыцца вялікі, прадстаўнічы вернісаж.

# Голас

Івану Каляндру быў голас. І каб жа чый зверху ці адкуль там яшчэ сыходзяць галасы, а то так... Жаночы, праўда. Але незнаёмы. Што незнаёмы, мог паклясціся не задумваючыся: калі б чуў калі яго раней — грудны, глыбокі, з ледзь прыкметным прыдыханнем — ужо ж бы не забыў. Надта адметны, рэдкі. Хоць чаго там! Голас як голас. І паўтараў ён усяго колькі кароткіх слоў. І зачапілі, відаць, не самі словы: што Каляндра больш важкіх, трохчатырохпавярховых на будоўлях не чуў? Не, справа была не ў словах. І не ў голасе. Голас — вяртаўся. Вяртаўся! — тут быў сабака закапаны: не-не ды і даганялі Івана тыя кароткія словы, адны і тыя ж кароткія словы. І калі першы раз ён здзівіўся на момант і тут жа адмахнуўся ад іх — у адно вуха ўляцелі, у другое вылецелі, то за другім разам ужо на момант задумаўся: каму гэта ён так насаліў, што папрок з вуснаў не сходзіць?

За свае трыццаць шэсць мог, канечне, і насаліць каму: ці мала з чыёй сцежкай ягоная сцежка схліставалася. Але каб жанчына... З жанчынамі Іван звычайна ладзіў — і сыходзіліся і разыходзіліся палюбоўна: ні ён ад іх, ні яны ад яго зазвычай нічога гэтакага асаблівага, пікантнага (ён казаў: піковага) не хацелі, не чакалі. Ды і чаго было чакаць, як адразу (за гэтым ён сачыў!) агаворвалася: ніякіх ахаў, вохаў, ніякіх сантыментаў і салодзенькіх слоў, ніякіх піковых сітуацый. Яму, Каляндру, хапала дарогі, яе вечнага напружання, калі самім хрыбетнікам мусіў услухвацца ў кожны рып, у кожны — ад кабіны да прычэпа — рух цяжкой бетоннай панелі. Гэтак, бывала, наўслухваецца, што пасля змены адно жаданне: змыць пыл, прыціснуцца спіной да цёплай прасціны і ляжаць так, гадзіну, дзве, а калі пры гэтым цёплая жаночая рука пяшчотна гнездзіцца на грудзях або на плячы ягоным — што ж яшчэ?

Сапраўды — што ж яшчэ? Пыл — не кароста, змываўся лёгка: добра, вады ў сталіцы хапае, свежую (з пральні) прасціну ўзяць з паліцы ў шкапе — два крокі ступіць, ну, а жаночая рука... Жаночая рука гэтаксама знаходзіла-

ся. На дзесяцігоддзі наперад Каляндра не загадваў бы (нашто?), але дагэтуль ласкі жаночай не выпрошваў: жанчыны заўсёды знаходзіліся. Не ранейшыя ж часы, калі што-якое — і пад вянец мусіў ледзь кранутую, а то і не кранутую табой, весці. Дзякаваць д'яблу, не ранейшыя часы. І мужыкі і дамы (Іван не ўжываў слова «бабы») паразумнелі. І тое сказаць: даюць — бяры, не гоняць — дзякуй. Якая ні простая філасофія — галоўнае, што зручная. Для кожнага зручная. Бо і даме ж не ўсякай карціць дзецьмі адразу абвешацца — перш можна адну-другую бліскучую цацку на шыю пачапіць, а потым... Потым відно будзе. За каго добрага мо й не пайсці замуж, але дужа схочацца, целюка ў штанах заўсёды прырукаць можна. Гэта не яго, не Каляндры, словы — Зоя любіла прыгаворваць: целюка ў штанах заўсёды прырукаць можна.

Зоя... Зоя б яго не папракнула, не. Для яе Каляндра нічога не шкадаваў: відная была, лічы — красуня. Клубамі павядзе — у каго сэрца няйначай матор надарваны заляскае, у каго позірк да самага дна скаламуціцца. Чарга ля яе бочкі з квасам кіламетровая выстройвалася, кожны, у каго вочы былі на месцы, толькі з яе ручак прагнуў напіцца ў спякотны дзень. Ды і не ў спякотны. Як не лопаў сёй-той, конаўку за конаўкай п'ючы. А ён, Каляндра, збоку пасмейваўся: гэтыя ручкі да ягоных плеч увечары прыкіпалі, палка адгукаючыся на кожны рух, на кожны пацалунак.

Не, Зоя Каляндру не папракала б: аднойчы не прыйшла ні да яго, ні да сваёй бочкі з квасам. Генік Сыраед, сябрук (жонка яго, Света, з Зояй вадзілася), сказаў: за новаспечаным лейтэнантам некуды на поўнач матлянулася. За лейтэнантам дык за лейтэнантам. Паўгода з дня ў дзень да яго, да Каляндры, прыходзіла, а аднойчы не прыйшла. Вось і ўся гісторыя. І не ў яго звычцы шкадаваць. Відная была. Лічы, красуня. Рана ці позна за некім бы матлянулася.

Ён, Каляндра, пікавых сітуацый не любіў. Пазбягаў. Навошта ўскладняць? З яго хапае дарогі. Толькі і сачы, каб які «жыгуль» ненарокам не прыціснуць. Каб льга, хвост каму з задаволена-няўмелых аматараў «жыгуля» (неабачліва труцца часам задужа блізка) ён прышчаміў бы, каб пад зад падпіхнуць, але ж машыны той! — зачапі і раструшчыш, няйначай, як цацачную. Адказвай потым за аматара. Ці за аматарку! — скамячыў пачак «Прымы» ў руцэ Каляндра, бо якраз у той момант, як падумаў, адна

з іх, на белым «жыгулі» віхлянулася перад самым капотам.

Злёгку прытармазіў, пракаўтнуўшы нясказаныя словы, закурыў, зіркнуў на гадзіннік: да канца змены заставалася дзве гадзіны. Яшчэ адзін рэйс. Апошні.

«Водпуск узяць, ці што? Прыдумаць якую хваробу і папрасіцца ў водпуск?» — мільганула думка. Але мільганула і знікла, і Каляндра, зацягнуўшыся і не адчуваючы смаку цыгарэты, сплюнуў уздых: хто б яго адпусціў зараз, у канцы квартала, калі і план і прагрэсіўка пад пагрозай? Па тэлевізары паказваюць, што пачалося засяленне новага мікрараёна, а мікрараёна таго — адзін здадзены пад засяленне дом ды з дзесятак распачатых. А ўжо пляцоўкі вакол... Пакуль праціскаўся МАЗам паўз завалы і вагончыкі да свайго аб'екта, і бога і д'ябла і ўсе паверхі будтрэста да самага верху неаднойчы звыклымі словамі абкладзе: будавацца раён будуецца, а парадку яшчэ тры-чатыры гады па завяршэнні будоўлі не будзе. Гэта ўжо як піць даць. Не на першым аб'екце Каляндра працуе. Яму што. Ён за рулём. І з кабіны можа не вылазіць, і пазіраць неабавязкова: ёсць каму думаць, не адзін жа, відаць, і зарплату і прагрэсіўку спраўна атрымлівае — і за парадак ненаведзены таксама...

— Правей, правей давай! Не бачыш, ці што?

Каляндра высунуўся ў акно, азірнуўся на хлопца ў заляпаным цэментам камбінезоне і жоўтай касцы. Націснуў на тормаз, спакойна прытушыў цыгарэту і яшчэ раз агледзеўся, абмінуўшы позіркам няпрошанага дарадчыка. Трэба было ўзяць бліжэй да крана і правей, але ж МАЗ не «жыгуль», яму прастора патрэбна.

Цыркнуў слінай, павярнуў ключ, падаў машыну крыху наперад і лявей, каб льга было вывернуць...

— Сукін ты сын, хлопец.

Зноў — як заўсёды нечакана і вельмі выразна — прамовіў незнаёмы голас. Дзесьці за спіной. Каляндра нават міжволі азірнуўся цераз плячо: гэтак блізка, гэтак выразна прагучалі словы, быццам ён, Каляндра, вазіў голас з сабой у кабіне. Насланнё, дый годзе! Які голас? Чый? У заднім акенцы зварухнулася і, падчэпленая тросамі, паплыла ўгору і ўлева бетонная панель (чуваць было, як натужна парыпвае кран, упраўляючыся з ёю), значыцца, хвіліна-другая — і можна было ад'язджаць. Вось разагнецца, развіне Іван ва ўсю шырыню плечы, прыціскаючыся да спінкі, колькі раз сашчэпіць і расцісне пальцы рук —

і можна ад'язджаць: ён жа, задумаўшыся, і матор не выключыў.

Роўны, спакойны гул матора перапыніў, адсунуў думкі, але толькі на момант, бо ўжо ў наступны момант, звыкла націскаючы на газ, Каляндра адчуў, што непрыемныя, непрыемна абрывістыя згадкі зноў вярнуліся, зноў пачалі штурхацца, спрачацца, выцясняць адна адну. То раптам выплываў з памяці круглы, амаль бязбровы і таму як бы здзіўлены ўвесь час твар Мані Сцёпчыкавай, тынкоўшчыцы з пятага ўпраўлення (яна ўсё падсмейвалася, усё абяцала, што народзіць свету малога каляндрыка — гэта ў яе сорак два!). То, ледзь не адначасова, раструшчваючы Манін твар і Манін прастуджаны смех, прытарможвала побач з яго машынай сваю «Волгу» з кубікамі Валя («Як жа яе? Зубкова? ці Зуйкова?») і колькі імгненняў дыміла, па-мужчынску камечачы ў губах цыгарэту і слухаючы яго, Іванаву, балбатню. То, ледзь расплываўся дым Валінай цыгарэты, пакручвалася перад невялікім квадратным люстэркам у яго пакойчыку Зоя — пакручвалася, пакручвала ўкруг шыі бліскучы ланцужок... Потым зноў падсмейвалася Валя, каб праз момант твар яе стаў падобны на размытую сонцам ружовую пляміну і ў гэтай пляміне, як у рамцы, пачаў праяўляцца новы воблік. Гэлі, прадаўшчыцы з хлебнага. Ці ўдовай Дзяменцеўны, былой інтэрнацкай камендантшы. Ці Марыі з камвольнага...

Не, усё гэта было не тое. За што б каторая — а то і ўсе разам! — папікалі яму, Каляндру? З якой бы з іх і калі ні быў — незадаволеных не назіралася. Ён бы заўважыў, калі б што. Не заўважаў. А ўсё таму, што дамаўляўся ў першы ж вечар: ніякіх ахаў! Любіш — не любіш, пагукаеш — не пагукаеш... Гэта ўсё не яго гульні. Кожнаму хочацца цяпла? Кожнаму. Прырода сваё патрабуе? Патрабуе. Навошта ж ускладняць? Так і казаў заўсёды. І яго, Каляндру, разумелі. Цанілі.

Не, усё гэта было не тое. Тады што?

Згадаў раптам Геніка. Сыраеда. Тры дні таму расказаў яму пра голас — той не адразу і зразумеў. Утаропіўся — вочы па яблыку:

— Ты гэта не таго, гы-гы-гы?

— Не таго.

— Не піў, кажу? — пасур'ёзнеў, учуўшы, відаць, злосную яго разгубленасць.

— Калі гэта я піў да мух у галаве? — не абурыўся, адмахнуўся Каляндра.

— Дык мо гэта... як яго?.. галюцынацыя?

— Дурань, ёлка-палка! Я яму пра голас — пра жаночы голас! — а ён: галюцынацыя,— паспрабаваў абурыцца, але ўсёй злосці, што сплюнуў пад ногі цыгарэту.— Усіх дам, знаёмых і не вельмі знаёмых, перабраў. Для прыліку. Абрыдла слухаць адно і тое ж. Ажно не! Каторы дзень вяртаецца голас. Талдычыць і талдычыць сваё.

— Слухай! А мо маці дзе...

— Скажаш такое: ма-ці!

Адвергнуў як адрэзаў.

Але адрэзаць адрэзаў (каб Генік не прыставаў абы з чым), а думка запала. Які час нават трывожыла: пасля таго, як атрымаў сваю аднапакаёўку ў Дражні і пераехаў (два месяцы — два з паловай, лічы, мінула), не тое што рубля маці не выкраіў са сваіх расходаў, не паслаў, а і ліст напісаць не сабраўся, адраса свайго не паведаміў. То рамонтам займаўся, то спешна якую такую мэблю расшукваў (не ўсё ж на казённых ложках спаць!), то з магарычамі (не аднаму трэба было паставіць) разбіраўся. Звычайная справа з пераездам!

Мог, канечне, напісаць ліст. Не сабраўся. Закруціўся. Такое здаралася зрэдчас. І раней. Зараз жа і прычына важкая была: з чаго раптам яму, Каляндру, было папракаць сябе? Старую ён не забываў: пісаў калі-нікалі, грошы пасылаў калі-нікалі. Усё як след. Вось і пасля той гаворкі з Генікам ператрос кішэні, чырвонец перахапіў у хлопцаў і адправіў у недалёкую матчыну Слабаду трыццаць рублёў. Для супакою, як кажуць. Бо маці — гэта маці. Нават калі састарэе. Што ён, Каляндра, гэтага не разумеў?

Не, з памяццю ў Каляндры было ўсё ў парадку: усё ён памятаў, нікому не даў бы сябе з панталыку збіць. Ды і якая гэта маці ні за што ні пра што сына будзе папрокамі тузаць? Маці — гэта маці. Калі што і пакрыўдзіць яе, дык даруе. Разумее ж, што сын у сталіцы не бібікі б'е, працуе. Таму і рассусольваць не было чаго. Ён, Каляндра, і думаў пра гэта, бо Генік прыпомніўся.

— Правей, правей давай! Не бачыш, ці што?

Каляндра, крыва ўсміхаючыся, змераў паглядам знаёмага хлопца ў заляпаным цэментам камбінезоне і жоўтай касцы, націснуў на тормаз і рукой падазваў яго да кабіны. Калі той наблізіўся, ужо цішэй паўтарыўшы сваё: «Не бачыш, ці што?», высунуўся з акна, схіліўся, накаль-

кі льга было, і разам з крывой усмешкай выдыхнуў таму проста ў твар:

— Ты што, ёлка-палка, з МАЗам не размінешся? Памагчы?

І націснуў на газ. Матор узвыў, машына тузанулася (звыкла загадаў сабе: «Цішэй! Цішэй!») і рушыла: навобмацак падаў бы яе да крана Каляндра, не тое што...

Разгрузіўся, не выходзячы з кабіны. Нават у люстэрка не пазіраў. Сядзеў. Курыў. Зрэдку паводзіў рукой, адганяючы дым. Адганяючы думкі. І голас, калі б той схацеў раптам зноў вярнуцца. Спрабаваў прыкінуць, каму з дам пазваніць, каб разбавіць вечар. Не атрымалася. Нічога вартага не знаходзілася. Ніводнае імя чамусьці Каляндру сёння не грэла. Нічога не грэла. Хіба што футбольны матч, які трансліравала ўвечары тэлебачанне. Не заняты балельшчык ён, Каляндра, быў, не, а ўсё ж, як кожны нармальны мужык, з простай цікавасці праседжваў перад экранам, па якім ганялі мяч знаёмыя ўсім і кожнаму іграку. Ды і абмяркоўваць потым, з кім ні загаворы, было што: як-ніяк — тэма, якая давала выплеснуць усе нават не хадавыя словы, калі хто аматар да іх. Ён — не аматар, а пагаманіць — чаму б і не пагаманіць.

Пазваніць Геніку, вырашыў ён. Адразу пасля матча і пазваніць. Мо вырвецца той ад сваёй Светы на гадзіну, зазірне: праз квартал жа зараз жыве, не праз увесь горад ехаць, як раней. «Не праз увесь жа горад...»,— круціў, пакручваў Каляндра адну і тую ж думку, абы не ўслухвацца ў згадкі, што добра-такі натлумілі за дзень галаву. Дзень заканчваўся. Закончыўся, лічы. Бо вось жа ўжо ўехаў Каляндра ў двор аўтабазы — колькі паваротаў руля, і машына паслухмяна застыла на сваёй стаянцы.

— Што гэта ты? Язык праглынуў, калдобіну пераязджаючы? — здзіўлена зірнула паверх акуляраў Ігнатаўна, стары дыспетчар, калі Іван моўчкі падаў ёй пуцявыя дакументы.

— Есці хачу,— буркнуў першае, што прыйшло на розум.

— А-а! На,— сунула яна яму яблык,— грызі, а то дадому не дабярэшся.

І засмяялася.

— Мяне пачаставалі, а я цябе частую. Еш, еш! — дадала, заўважыла яго рух і нахмураныя бровы.—Не глядзі, што жартую. Ад чыстага сэрца...

— Дзякуй, Ігнатаўна,— сунуў у кішэню яблык Каляндра.

Есці ён не хацеў. Нічога, папраўдзе, не хацеў. Таму абмінуў, прывітальна падняўшы над галавой руку, гурт хлопцаў, што, паз'язджаўшыся пасля змены, абменьваліся анекдотамі (па выбухах смеху чуваць), і пашыбаваў дадому: гарачы душ, бутэлька піва — і настрой вернецца, ён быў загадзя ўпэўнены. Не першыня! Пры адной думцы пра душ і пакінутую ў халадзільніку бутэльку «жыгулёўскага» цяплей на душы стала. А то голас! І каб жа чый зверху ці адкуль там яшчэ сыходзяць сёння галасы...

— Сукін ты сын, хлопец!

— Ды пайшла ты!..— не стрываў Каляндра і паслаў тую, каму належаў грудны, глыбокі, з ледзь прыкметным прыдыханнем голас, куды далей: ён ужо, расправіўшы на плечыках скураную куртку і выцягнуўшы з халадзільніка злёгку запацелую бутэльку, збіраўся ў душ.

І тут у дзверы пазванілі. Раз. І другі. Ён кінуў ручнік на крэсла і пайшоў адкрываць.

— Каляндра? Іван Восіпавіч? — калупаючыся ў паштовай сумцы, запытала жанчына.

— Каляндра. Іван Восіпавіч.

— Ваш грашовы перавод вярнуўся. Атрымайце.

— Як вярнуўся? — не зразумеў той.— Які грашовы перавод?

— У вёску Слабада Асіповіцкага раёна,— падняла на яго стомленыя вочы жанчына.— Вось. Вы пасылалі?

Каляндра ўзяў у яе з рук запоўнены ім тры дні таму паштовы бланк грашовага перавода на трыццаць рублёў: наўскос, там, дзе ён звыкла, машынальна вывеў матчын адрас, чырвоным алоўкам было напісана: адрасат памёр.

# Кандыдат у шчасліўчыкі

У музыцы ёсць штосьці д'ябальскае. Што? Хто яго ведае! Вызначалі, вызначаюць па-рознаму, ды ніводнае вызначэнне ўсё роўна нічога не тлумачыць. Кожны раз, калі дотык чуйных пальцаў будзіць клавішы раяля ці прымушае трымцець, спяваць струны гітары, у кожным сэрцы (у кожным! — што б там ні казалі іх уладальнікі) зрушваюцца, прыходзяць у рух забытыя споміны, згаслыя летуценні, заляжалыя і ўжо трохі падпсутыя ад абыякавага абыходжання з імі спадзяванні. Здараецца, канечне, што бязладны, хаатычны рух гэты, зачараваны гармоніяй гукаў, хутка аціхае, прынёсшы палёгку ці хоць бы ўздых палёгкі (так і бачацца малітоўна складзеныя рукі і ўзнятыя ўгору вочы, у якіх у цені вейкаў, стаіліся, чакаючы свайго часу, чорцікі). Здараецца. Але часцей, калі гучыць, размываючы ўсе запоны і забароны, якое-небудзь адажыо, а то і простае, зусім просценькае танга, адбываецца іншае. Міжволі. А то і супраць волі. Быццам яго, Дубікава, воля натыкаецца на чыюсьці большую, мацнейшую — і адступае.

Ды чаго там адступае! Знікае. Калі ён ужо не ён. Калі ён, ва ўладзе немаведама як і адкуль узніклых пачуццяў, ператвараецца ў губатага маладзёнка з яго палкай прагай абдымацца, цiскаць у абдымку, распранаць пацалункамі любую легкадумную істоту, што трапіць у гэту хвіліну пад рукі.

Ужо ж, хто ў гэтым свеце, найлепшым ад усіх, супраць жанчын? Ці супраць іх легкадумнасці? Наадварот. І тым іх легкадумнасць да твару і такім як ён, Дубікаў, яна па душы: як бы інакш упраўляўся з каторай? Нават какецтва іх (хоць там адчуваецца хутчэй д'яблава рука, чым богава) ім не шкодзіць. У пэўнай ступені. Тут дзвюх думак быць не можа. І ўсё ж...

Не, Дубікаў быў не супраць жанчын, не супраць іх хараства, іх легкадумнасці, какецтва і чаго там яшчэ. Не. Ён быў супраць устаноўкі прыроды на тое, што кожны — і ён, Дубікаў! — павінен падабраць сабе жанчыну пад пару (часова ці — свят, свят, свят! — да скону). Пад пару...

Адно ўжо гэта насцярожвае. А далей жа — яшчэ горш. Жанчына — знаёмая — жаданая — каханая,— як (падумаеш, так і называеш!) становіцца проста жонкай. Т о л ь к і жонкай. Хочаш — з перасоленым або недасоленым супам еш, хочаш — разам з цешчай, цесцем і ўсёй іншай раднёй унараўляй і на руках насі, хочаш — адпусці і следам ідзі, інтэлігентна высочваючы і вынюхваючы. Як хочаш. А калі ён — не хоча?! Калі не хоча, і ўсё тут?

Хтосьці ўсміхнецца на гэта: справа ясная, маўляў,— на малацэ абпёкся, вось і на ваду дзьмуць пачынае. Ніякім чынам. Ні-ні. Не было. Не апякаўся. Не жаніўся! Мог бы. Нават сабраўся быў аднойчы. Але, як кажуць, лёс мілаваў. З таго часу і да музыкі ў яго насцярога. Асабліва ў людных месцах. Сабрацца, пасядзець з сябрамі, пагаманіць, прапусціўшы кілішак (кілішак, не болей!) — гэта калі ласка. А як толькі даходзіла да касет або новых дыскаў — Дубікаў быў, што называецца, пас. Развітваўся і ішоў слухаць запісы дамоў. Так было надзейней. Спакайней. Калі і званіла каторая са знаёмых і потым заязджала, дык без лішніх прэтэнзій. Без ілюзій.

А тут нечакана... Не, трэба ўсё па парадку: самымі важнымі, урэшце, могуць аказацца дэталі самыя нязначныя на першы погляд. Дождж, да прыкладу,— тое, што з раніцы сеяўся чыста асенні, ніяк не ліпеньскі дождж і Дубікаў трохі нудзіўся ў сваёй халасцяцкай кватэры. Альбо тое, што дзень быў не проста нядзельны, а імянінны — трыццаць першы імянінны дзень Дубікава (факт хоць і не вельмі знамянальны, але шмат што з далейшага высвечвае). Альбо нават тое, што і двух месяцаў не мінула, як Дубікаў, абараніўшы кандыдацкую, наладзіў і адбыў з гэтай нагоды банкет (у «Журавінцы», па ўсіх правілах) і таму дасюль не аддаў пазыку і жыў сціпла, зусім як у студэнцкія гады (яму і ў галаву не прыйшло б запрашаць у гэты дзень сяброў). Ды ці мала што яшчэ, што спатрэбіцца па ходу расказу!

Дык вось, з раніцы сеяўся дождж. Дробны, нудны, ён фарбаваў усё ў шэрае і наганяў дрымоту: хвілінамі нават літары з-пад галоўкі стрыжня распаўзаліся па старонцы, і калі б не шчыраваў зноў і зноў упарта і неадступна Дубікаў, іх было б не сабраць. «Паралічаныя імёны, зразумела, не вычэрпваюць «традыцыйных рэсурсаў», якія змяшчае ў сабе наша спадчына. Трэба мець на ўвазе таксама, што побач з традыцыямі са знакам «плюс» жывуць традыцыі са знакам «мінус», якія замінаюць...» — старан-

на выводзіў ён у сшытку, на вокладцы якога значылася тэма новай навуковай работы. Словы буксавалі, работа не ішла. Мо таму, што замінала думка, няўцямная і нібыта чужая, што, мільгануўшы, засела ў ім і не-не ды і падавала знак, не-не і даводзіла сваё подленькае: навошта так шчыраваць, калі нікому ні ў навуцы аб літаратуры, ні ў літаратуры работа ніколі не спатрэбіцца, як не спатрэбілася папярэдняя? Навошта рабіць выгляд, што верыш...

Дубікаў адмахваўся ад думкі, як ад надакучлівай мухі: ён быў шчыра перакананы, што верыць, верыў — калі не ў неабходнасць, дык у патрэбнасць сваёй працы, свайго месца ў жыцці і ў навукова-даследчым інстытуце. І думаць тут не было чаго. Увосень гэтай новай работай, напісанай за два-тры месяцы, заявіць пра тэму, а там — працуй, распрацоўвай яе, рыхтуй глебу для доктарскай! Пэўна ж, як на сённяшні дзень, куды лепш, куды больш практычна займацца фальклорам, фальклорнымі даследаваннямі: па-першае, не толькі можна, а і ганарова (пра духоўны скарб народа дбаеш!), па-другое, падтрымліваецца грамадскасцю не адно дома, а і ва ўсім славянскім свеце (адна, дзве замежныя камандзіроўкі гарантаваны!). Як ні паглядзі — лепш. Выгод больш. Больш — ды вось позна ўцяміў, што больш: не выкідаць жа кату пад хвост усё зробленае. І начальства не любіць тых, хто навідавоку ў яго мітусіцца, ад адной да другой тэмы кідацца пачынае.

«Побач з традыцыямі са знакам «плюс» жывуць традыцыі са знакам «мінус», якія замінаюць...» — перачытаў ён канец недапісанай фразы і перакрэсліў яго. Потым, падумаўшы, аднавіў (тут было што пакруціць) і, не дапісваючы, адсунуў аркуш. Уключыў і выключыў настольную лямпу (святло яе не рассейвала шэрань), адкінуўся на спінку крэсла, прыкрыў далонню вочы. Здавалася, задрамаў. Ды і задрамаў, відаць, бо, калі ўзарваў цішыню пакоя тэлефонны званок, Дубікаў раз і другі раз трасянуў галавой, выходзячы са здранцвення правёў па твары, зверху ўніз, разамлелай рукой уключыў лямпу і толькі потым падаўся да трубкі.

— Вас слухаюць.

— Вітанне, Дубікаў! Не чакаў? Думаў, не ўспомніць пра цябе Сцяпан, як ты пра яго не ўспомніў, ступень замочваючы? Думаў, знік Сцяпан, выпарыўся ў атмасферу, выконваючы школьную рэформу? Не, братка, не з такоўскіх я! І рэформа не першая, і я, братка, не апошні.

— Ды чакай ты, Братка,— па даўняй студэнцкай

звычцы скарыстаў ён замест прозвішча мянушку і, заўважыўшы гэта, усміхнуўся.— Адкуль ты ўзяўся? Адкуль звоніш?

— Усё адтуль! Са сталіцы! Пасля правінцыі яна яшчэ больш вабнай бачыцца: душа так і рвецца вонкі. Чуеш?

— Жалезнае скрыгатанне чую,— засмяяўся Дубікаў.— Гэта ты маеш на ўвазе?

— Угу. Толькі яшчэ і тонкі дзявочы смех — праз жалезнае скрыгатанне. Няўжо не разабраўся?

— Чакай, чакай! Нешта я не ўразумеў. Які дзявочы смех? Чый?

— Так табе ўсё адразу і скажы! Мы ўжо едзем. Едзем, братка. Да цябе. Уразумеў? — не казаў, выкрыкваў той, і выкрыкваў што ёсць моцы: Дубікаў моршчыўся, крыху адводзячы ад вуха трубку.

— Ды хто «мы»? Хто «мы», ты можаш спакойна сказаць?

— Мы, Сцяпан Першы і яшчэ сёй-той з добрых людзей,— паддражніў той і, заканчваючы гаворку, гучным — на публіку — шэптам дадаў: — Усе — свае, братка. Нікога выпадкова на праспекце не падабраў. Не падбіраў.

У трубцы запікала. Дубікаў памарудзіў колькі імгненняў, быццам усё яшчэ чакаў нейкага тлумачэння і паклаў яе на месца. Зглынуў усмешку. Міг-другі сіліўся скласці ў памяці партрэт былога аднакурсніка — згадвалася ж адно няўклюдная, мядзведжая постаць таго ды колькі адметных прыкмет. Чамусьці ўсе паасобку. Асобна — валасы, што скрозь, колькі б Сцяпан ні зачэсваў іх, стаялі тырчком вакруг галавы. Асобна — занадта рэзкія для яго несуразмерна вялікай фігуры жэсты рук (як вятрак побач працаваў!). Асобна — шырокую, да вушэй (зусім не ў пераносным сэнсе) усмешку... Яны не тое што сябравалі калі — доўгі час жылі ў адным інтэрнацкім пакоі і, хоць розніліся ва ўсім (і відам, і целам, і памкненнямі), не адчувалі адзін да аднаго, мо і з розных прычын, непрыязнасці. Гэта, відаць, і падштурхнула таго: столькі год мінула, а вось жа расшукаў, пазваніў!

— Мы Сцяпан Першы! — паддражніў яго Дубікаў уголас і засмяяўся, і, адчуўшы палёгку, крутануўся ў крэсле, агледзеў пакой: дзявок жа той вёз! Агледзеў і застаўся задаволены аглядам. Хвалявацца не было прычын. Аднойчы заведзены парадак парушаўся рэдка. Гэта было зручна. У выпадку чаго як зараз, не трэба мітусіцца...

Званок у дзверы перапыніў яго развагі («Вось жа,

узвей-вецер! Няйначай, знізу, з аўтамата званіў!») і змусіў Дубікава агледзець самога сябе.

Колькі крокаў і — адразу за шчаўчком замка — ужо цясніла, адцясняла яго ў пакой аграмадная Сцяпанава постаць і хуткая яго скорагаворка:

— Ну, дай глянуць на цябе, братка! Дай абняць! Бач, бач на яго — кан-ды-дат! Кандыдат, нічога не скажаш! І росту набраў і вагі, і імя ў навуцы набыў, і штанцы фірмовыя! Усё як след. Як хацеў і як павінна! Шчасліўчык, дый годзе! Дзевачкі, зірніце на сучаснага шчасліўчыка: кватэра ў сталіцы, ступень у кішэні, а яшчэ ж і імяніннік, чорт вазьмі!

Дубікаў не мог уставіць ні слова. Нават павітацца з гасцямі не мог, бо той камячыў яго ў абдымку, пакручваў так і гэтак, быццам любуючыся,— ведаў жа, што з яго мядзведжых рук не так проста вырвацца, і ўсё гаварыў, прыгаворваў:

— Думаеш, Братка так сабе заехаў? Думаеш, Братка забыў, як цэлым будатрадам дваццаціГоддзе твае правілі, да раніцы пры святле поўні пад дзве гітары танцавалі! Не-е, такое не забываецца! Маладзейшыя мы былі, гэта праўда. Але ж і зараз нішто сабе. Як, дзевачкі? Як вам Дубікаў? Ду-уб, дуб! і росту набраў і вагі. Пойдзем да стала — дзе тут у цябе стол? — у нас усё з сабой, не хвалюйся. Гэта — Жэнік, Света, Валя і Люба — можаш не запамінаць, разбяромся! Усе універсітэцкія. Толькі тады, калі мы з табой, братка, універсітэт заканчвалі, яны толькі пачыналі...

Час — спыніўся. Па меншай меры, для Дубікава спыніўся. Бо ён ужо ні яму, ні сабе не належаў. Усміхаўся, рухаўся, штосьці адказваў, паказваў, дзе ў яго стаяць бакалы, падстаўляў свой бакал пад пеністы струмень, абдымаў якуюсьці з дзяўчат за плечы — усё так, але між тым не прасунуўся ў часе з той самай хвіліны, як адчыніў на званок дзверы, ні на хвіліну. Усім — і часам! — распараджаўся Братка, вэрхал у кватэры стаяў, якога тут спрадвеку не было, смех чуўся адусюль, словы танулі ў агульным гуле і гэтым смеху, шампанскае, хоць яго прывезлі, здавалася, усяго тры бутэлькі, не канчалася... Ні адразу, ні потым — ніколі! — не змог бы вызначыць Дубікаў, каму якія словы ў гэтым вэрхале належалі: словы ўспырхвалі тут і там, словы кружыліся, словы самі сабой аціхалі, каб зноў загучаць недзе ў другім канцы пакоя:

— Школа — сёння галоўнае, але не ў школе справа!

— Навошта лічыць гады? Маладосць — душэўны стан...

— Я не сонейка верх лесу сушыць!

— Чакай, ды не вельмі. Удагонку, як той казаў, не нацалуешся.

— У школе настаўнік хто? Ніхто!

— Прытушы вейкамі позірк, спаліш Дубікава.

— А я веру: да катастрофы не дойдзе. Жыццё ж такое кароткае, такое кароткае...

— Хочаш, на адзін камплімент падоўжу?

— Сёння на інтэлігенцыі — важная задача...

— А музыка ў гэтым доме ёсць?

— Хлопчыкі, хто разбіраецца ў тэхніцы? Жэнік, трэба ўключыць...

Час спыніўся. Нішто не закранала Дубікава. Хоць ён — усім нутром, усёй істотай — нечаму радаваўся, але радаваўся (ён зрэдку гэта адчуваў) нібыта падсвядома: свядомасць у гэтым не ўдзельнічала. Праўда, тузануўся на апошнія словы, хацеў запярэчыць (зашмат людзей — а яшчэ ж і жанчыны!), хацеў сказаць, што музыку ён будзе слухаць пазней адзін, але хацеў і не сказаў. Пярэчыць было позна. Музыка ўжо гучала. Дзве пары ўжо абняліся.

— Дубікаў, што ж ты? — закрычаў яму Братка, і ўсе падхапілі: — Дубікаў, што ж ты?

І Дубікаў падняўся з крэсла, пашукаў вачыма, куды паставіць бакал, паставіў яго, урэшце, побач з распачатай новай навуковай работай (добра, што прыкрыў недапісаны аркуш папкай!) і ступіў да... Ён не ўспомніў, як звалі дзяўчыну, і супакоіў сябе сам, што гэта ў дадзеным выпадку было не так важна.

Словы раптам аціхлі. Усе разам. Была толькі музыка («Вальсы» Шапэна!» — пазнаў ён), і ў яе спакойным гучанні растварыліся словы, і ўсплёскі смеху, і памякчэлыя адразу рухі.

— Дзіўна і... нязвыкла танцаваць пад Шапэна,— шапнула дзяўчына.

Дубікаў заўважыў, што ў яе сінія-сінія, да чарнаты, вочы, і злёгку прыгарнуў яе да сябе. Зусім злёгку. Амаль няўлоўным рухам. Адно каб адчуць тон, у якім паводзіць сябе далей. І адчуў, што яна прыняла ласку: не зрабіла руху насустрач, але і не наструнілася, абараняючыся ад яго рук, ад яго дыхання. У абдымку была, а нібыта сама па сабе.

«Са мной і не са мной... Няйначай, сама музыка. Лёг-

кая, та-рам, та-рам, та-рам, і прасветленая, і гэта мне падабаецца, падабаецца, падабаецца! І мы можам не зважаць на ўсіх астатніх. Можам... Табе ж, як і мне, хочацца кружыцца, заміраць, пагойдваць дзіўную, дзіўна прыгожую мелодыю і зноў кружыцца. Табе гэтак жа весела, гэтак жа радасна!» — непрыкметна звярнуўся ён да яе ў думках і тут жа ўголас дадаў:

— Шапэн — чараўнік. Гэта яшчэ адно пацвярджэнне.

Яна не адказала. Здалося, яна зрабіла рух да яго. Але, мажліва, толькі здалося. Мелодыя новага вальса кружыла пакой, кружыла позірк, хоць тут ужо вальс быў ні пры чым: Дубікаў даўно ўжо нічога не бачыў, апроч светлага дзявочага локана, якога краналася яго дыханне. Дотык бязважкі, амаль няўлоўны, але ж прыкметнымі, добра адчувальнымі былі іншыя дотыкі: рукі — да пляча, рукі — да рукі, грудзей — да грудзей...

«Я ўвесь час помніў тваё цяпло, і тое, як яно пераліvалася ў мяне, праз кожны выпадковы дотык, праз кожны дотык. Ты гэтага не заўважала. Ты не заўважаеш... Не слухаеш — п'еш музыку, ператвараючыся ў яе, і мне трэба ўвесь час цябе ўтрымліваць. Мне трэба ўтрымліваць цябе, вось і гарну, тулю цябе да грудзей. Табе ўтульна?»

— Як? Музыка скончылася? Ужо? — спытала яна, не зрабіўшы памкнення вызваліцца з абдымкаў.

— Не, не! — мацней абняў яе Дубікаў.— Трэба перавярнуць пласцінку.

— Перавернем?

З цяжкасцю адарваліся адно ад аднаго, у дзве рукі, абдымаючыся, пераставілі пласцінку. Шчоўкнула клавіша пуску і — яе рукі зноў абвіліся ўкруг яго шыі, яго рукі мякка слізганулі па яе спіне: музыка доўжыла і доўжыла імгненне. «Мог бы хто іншы сачыць за праігрывацелем!» — падумаў быў Дубікаў, але, хто іншы, не дадумаў. Ды і не было, здаецца, у пакоі нікога іншага, нікога, апроч іх дваіх.

«Як доўга ты быў воддаль, далёка, так далёка, што я ўжо і спадзявацца перастала на нашу сустрэчу, перастала чакаць, што ўспомніш і пагукаеш, а ты — вось ён, ты... Успомніў. Музыка дапамагла. Та-рам, та-рам, та-рам... За сэрцам бы ўсачыць: б'ецца так гулка, што нават перашкаджае ўлоўліваць рытм. Та-рам, та-рам, та-рам! Божа мой, хіба была, хіба буду яшчэ такой шчаслівай? А ўсё — музыка, музыка, музыка!» — да самазабыцця аддавалася яна руху, кружэнню, танцу, але і ў руху, у кружэнні або ціхім

пакалыхванні на месцы адчувала ласку, пяшчоту рук, што абдымалі яе.

— Ён падслухвае нашы думкі, Шапэн,— крыху адкінула яна галаў, каб зірнуць на яго.

— І нашы жаданні,— аднымі вуснамі паправіў яе ён і тут жа крануўся імі злёгку выгнутай яе шыі. Зусім злёгку. Амаль няўлоўным рухам. Быццам яшчэ не давяраў таму, што адбылося, што адбывалася з ім, тут, ва ўсіх на вачах, і ўсё ж недзе далёка, у загадкава забытым ім мінулым.

«Я не напалохаў цябе? Не? Мы ж абое адчуваем гэту прагу — прагу вернутай музыкай чысціні. Абое... Усё, што было раней, было з намі іншымі, чужымі. Цяпер мы не чужыя, праўда? Цяпер ты не баішся маіх рук і маіх вуснаў, праўда? Словы прыйдуць пазней, потым... Калі ты сама... Ты не адхінула вусны! Ты... ты... Я ўсё дарую! Я ніколі не прыгадаю той вечар, твайго...»

— Ты сама вінавата, Ева!

Словы прагучалі так гучна, што Дубікаў ад нечаканасці як прыстыў да падлогі. І тут жа адчуў, як наструнілася ў яго абдымку дзявочае цела («Гэта ж я назваў яе імем той, з кім павінен быў ажаніцца!» — мільганула амаль абыякавае), і тут жа пачуў, што вакол ціха. Толькі іголка прайгравальніка (відаць, не спрацаваў аўтастоп) шкрабала па пласцінцы, і гук быў размерана-непрыемны, ды на сцяне насупраць мерна цікаў гадзіннік.

Час азваўся рашуча, і ледзь Дубікаў, упершыню за вечар, падняў вочы на гадзіннік, гэтак жа рашуча ўдакладніў: дваццаць тры гадзіны дзесяць хвілін. «Пазнавата для гасцей»,— падумаў. І толькі падумаў — бязвольна ўпалі рукі, адпусціўшы дзяўчыну: у пакоі нікога, апроч іх, не было.

— Я... Мяне Галяй завуць,— выплеснула тая на яго цёмную сінечу раптоўна згаслага, халоднага позірку.— Я, як і вы, прыняла вас за другога. Толькі гэтым можна растлумачыць...

Што можна растлумачыць, дагаворваць не стала. Матлянулася паўз яго да століка, сарвала са спінкі крэсла сумачку і, сілком запавольваючы крокі, каб не пабегчы, памкнулася ў прыхожую, да дзвярэй.

— Я праводжу вас? — не крануўся з месца Дубікаў, ды і спытаўся хутчэй машынальна, бо позірк яго гідліва блукаў па чорт ведае ў што ператвораным пакоі: на століку, уперамешку з бакаламі і недапітымі бутэлькамі шам-

панскага, валяліся агрызкі, сподкі з акуркамі, абгорткі ад цукерак і цукеркі, у вазе чэшскага шкла, перастаўленай на паліцу, тырчаў скручаны ў жгут канверт з-пад пласцінкі, кухонныя табурэткі тоўпіліся ўкруг тэлевізара, у вазон, які толькі сёння раніцой Дубікаў старанна палівау, былі ўткнуты выбітыя віном бутэлечныя коркі, адзін, побач з чыёйсьці насоўкай, валяўся проста пад нагамі... І ўсё, да закуранага цяжкога паветра, было рэальным!

Здавалася, ён чуў, як бразнулі дзверы, але калі нарэшце зварухнуўся, адолеў міжвольнае здранцвенне, то пайшоў не да дзвярэй, а да акна. Адкінуўшы лёгкую цюлевую штору, расчыніў яго наросцеж і з палёгкай удыхнуў свежае, волкае начное паветра. Хвіліну-другую бяздумна, адно спіной адчуваючы непрыемны вэрхал забруджанай кватэры,— узіраўся ў цемру, да самага небакраю затканую асветленымі там і тут вокнамі гарадскіх гмахаў, а потым, быццам апамятаўшыся, хуценька разважыў, што павінен спусціцца ўслед за госцяй: ці мала што!

Калі выбег з пад'езда і завярнуў за вугал дома, сваю новую знаёмую згледзеў непадалёку, на бязлюдным аўтобусным прыпынку. Колькі крокаў — і гукнуў ёй. Гукнуў даволі гучна, бо тая махала «Масквічу», што адзінока набліжаўся і якраз мінаў яго, Дубікава.

— Галя! Чорт вазьмі...

Апошняе ён дадаў цішэй, злуючы і на гэтую Галю і на сябе.

Заскрыгаталі тармазы.

Тая азірнулася на яго голас і, пазнаўшы, перш чым сесці ў машыну (дзверка ўжо адчынілася), развітальна ўзмахнула сумачкай.

— Дабранач, кандыдат у шчасліўчыкі!

І бразнула дзверкай. Як колькі хвілін таму — дзвярамі.

Машына рванула з месца, і Дубікаў, які практычна быў побач зусім, адчуў пах бензіну. Загарачыла ў горле. Ён нервова пагладзіў шыю, падняў каўнер кашулі і зябка павёў плячамі. Вуліца апусцела. На момант здалося, што ён чуе, як шорхае па пласцінцы іголка не выключанага прайгравальніка.

# Чужыя

— «Сама... сама!» Адзінку ўзвядзі ў любую ступень, яна дасць адзінку. Кумекаеш? Раней не дурнейшыя за нас жылі, а яны што казалі? Адна галава добра, а дзве... А дзве галавы лепш, казалі. Я з трэцяга аўтамата званю, улічы: апошняя «двушка». Не даслухаеш, аукай у падушку, ясна? Як — што даслухваць? Трэці раз адно і тое ж разжоўваю: не бяры да галавы! Не бяры... Госпадзі божа мой, са скуры вылузваешся, тлумачыш, просіш, а яна толькі слёзныя лужыны перад сабой бачыць. Любіш — не любіш... Якое права? Якое права, я цябе пытаю? Калі, у якой на свеце бабы было тое права, я цябе пытаю? Губкі падставіць — гэта калі ласка. Спадніцу задраць — як не супраць, то чаму ж! Пуза насіць — носіць не адна дурніца... Ты гэтага хочаш? Ах, табе непрыемна! Думаеш, мне ў тым вялікая прыемнасць — слёзы табе праз увесь горад тэлефоннай трубкай выціраць? Што? Не магу я прыехаць зараз. Не ма-гу. Вечарам. Калі ты, як я, плюнеш на свайго... калі ты... ка...лі ты...

Зіна невідушча хапаецца за паветра, намацваючы рычажок тэлефона-аўтамата, і высокі, прывабны, хоць і залішне даўгатвары юнак, які раптоўна — і што дзіўна: зусім нячутна! — з'явіўся ў прыадчыненых дзвярах, спакойна, перахопленай у паветры рукой дзяўчыны націскае на рычажок, адключаючы сувязь.

— Няёмка ж так заікацца перад сяброўкай, а? Ці мо гэта сябра, і я перашкодзіў...

— Кінь ты, Сяргей! — хмурыцца яна і тут жа разганяе хмурынкі ўсмешкай, нечакана лагоднай і прыгожай на яе непрыгожым, невыразным да сцёртасці твары.— Напалохаў так, што заікацца пачала. Адкуль ты тут, на праспекце, зараз? Адгул узяў?

— Бяры вышэй. Першы дзень як у адпачынку, усе вятры — па кішэні.

— Вятры? — гарэзліва адсунула яна яго плячом і выбралася з задушлівай кабіны.— А рэстаран — па кішэні?

— Ну, які рэстаран у гэткі вераснёўскі ранак! Толькі калі паненка згаладала...

— Яшчэ чаго! Так, да слова сказала.

— Мо на Камсамольскае возера? Пад сонца?

— Мне ж праз паўтары гадзіны ў бальніцу. Практыка пачалася.

— Тады прашу,— сагнуў у локці руку Сяргей.— Сквер над Свіслаччу зараз калі і не бязлюдны, то лавачка ў засені ліп для паненкі і яе расказу знойдзецца.

— Для якога расказу? — не зразумела Зіна.

— Як для якога! Куды, каму і навошта паненка так часта звоніць, да прыкладу.

— А-а-а! Дык гэта сяброўка мая, Люся-незачэпа, закахалася сама не ведае ў каго і перажывае.

— Незачэпа... Гэта прозвішча гэткае?

— Мянушка. Да яе ўсе гэтыя гады ніводзін хлопец не мог падкаціцца — гэта ў нас, у медыцынскім! — вось і празваў хтосьці з іх. Прыліпла мянушка — не адарваць, а зараз... Ат! — адмахнулася яна ад сваіх слоў і шчыльней прыгарнулася да Сяргея.

— Яна хоць прыгожая, твая Незачэпа? — чамусьці не хацеў перапыняць гаворку той, нават павярнуўся ў паўабарота, чакаючы адказу.

— Хто? Люся? Яшчэ б! Самая прыгожая на курсе. Ды ты яе бачыў аднойчы, у мяне ў інтэрнаце, калі нечакана прынёс білеты ў Палац спорту, на канцэрт Пугачовай... Праўда, яна амаль адразу развіталася і пайшла, ты не згадаеш зараз.

Яны ўжо спускаліся па каменнай, вышчарбленай лесвіцы, якая вяла ад моста ў сквер, і Сяргей моўчкі падтрымліваў дзяўчыну, ступаючы крыху паперадзе. Не азваўся ён і на набярэжнай. Адпусціў Зініну руку і, абагнаўшы яе на два-тры крокі, ішоў, тварам да яе і праспекта — і сонечныя бліскі мякка краналіся яго твару, яго светлага шэрага позірку і, здзьмутыя рухам, знікалі, таялі, каб праз момант зноў з'явіцца, асвяціць раптоўную задумлівасць Сяргея.

— Глядзі, качкі! — Збочыўшы, узмахам рукі прыкрыўшы твар, быццам адгарадзіўшыся ад гэтай задумлівасці хлопца і раптоўнага, незразумелага свайго непакою, імкліва кінулася да парапета Зіна.— І як шмат!

Падышоў, зірнуў на ваду і Сяргей. На цёмнай вадзе — цёмныя качкі... Відовішча больш прыемнае, чым прыгожае. Качкі нават зімавалі не адну зіму ў горадзе, і мінчане часта, зусім як яны зараз, падоўгу цікавалі за птушкамі, звыкаючыся з іх нечаканым суседствам. Нечаканым і

прыемным, што там ні кажы. Адразу згадваліся вольныя балоты і лугавіны, адкуль яны прылятаді — і адгукалася згадцы душа, не адна душа тут, на набярэжнай.

— Не холадна? — не паварочваючыся да Зіны, абняў яе за плечы Сяргей.

Яна адказала даверлівым рухам насустрач: усё добра, яна рада гэтай выпадковай сустрэчы, яна марна пачала думаць, што штосьці ў іх адносінах за апошнія паўгода непапраўна змянілася,— яна па-ранейшаму патрэбна Сяргею, яна патрэбна яму, як ён ёй.

Зіна гарнулася да Сяргея, адчуваючы салодкае, шчымлівае паколванне ў целе, як заўсёды, калі ён быў побач, калі ён прагнуў яе цяпла, яе пяшчоты. Няхай не адзін месяц прамінуў пасля апошняга іх спаткання — Сяргей жа знайшоў яе, знайшоў! Значыцца, помніў яе пацалункі, помніў і па-ранейшаму гарнуўся, прыгарнуўся. І хто ведае... Узрушаная сваімі думкамі, яна дрогка прыпала да хлопца, да яго грудзей, узняла невідушчы пагляд, пацягнулася за ім вуснамі і стала шукаць — і чамусьці не знаходзіла — гарачых хлапечых вуснаў. І калі Сяргей — сам — пацалаваў яе, аціхла, абмякла.

— Пойдзем сядзем?

Сяргей, хоць і не адхінуў яе, запытаўся спакойна. Халодна, як здалося Зіне, і думка гэта ацверазіла яе, вярнула разважлівасць і непакой: не ўсё было па-ранейшаму — штосьці новае, незнаёмае з'явілася ў Сяргею, нават у яго голасе.

— У мяне мала часу.

— Я помню. І буду ўвесь час пазіраць на гадзіннік.

— А хто ж тады будзе пазіраць на мяне? — паспрабавала яна схаваць свой непакой за жартам.

Сяргей засмяяўся:

— Паненка гэткая ж калючая, як і ўчора!

— Учора? — фыркнула Зіна, і ў яе раздражнёна і непрыгожа зморшчыўся твар.— Для цябе паўгода прамільгнулі як адзін дзень?

— Хіба паўгода? — паддражніў той.

— Госпадзі божа мой, яму — смешна! Яму смешна, а не прыкра. Ведама ж, відаць, не адной гэткай, як я, дурніцы галаву ўскруціў, а я...

— А ты,— узяў у далоні яе твар Сяргей і пачаў лёгенька пахітваць яго з боку ў бок,— ты ў нас ніколечкі не дурніца, і не нарадзіўся яшчэ той чалавек, які змог бы ўскружыць гэту разумную галоўку.

— Ты ж ускружыў,— памкнулася яна адхінуць яго далоні.

— Я?! Паненка завалодала мной з першай жа сустрэчы так проста, быццам рабіла гэта — з кім хацела і калі хацела — усё жыццё. І запярэчыць не паспеў.

Цяпер ужо Сяргей яўна смяяўся з яе раптоўна ўзніклай даверлівасці, з яе наіўнага вываду, што ўсё засталося па-ранейшаму, што нічога ў іх абаіх і ў іх жыцці не змянілася. Здавалася б, зразумеўшы гэта, Зіна павінна была б пакрыўдзіцца, раззлавацца і пайсці — кінуцца прэч ад яго, а яна з лёгкім уздыхам вызваліла з Сяргеевых далоняў свой твар, нібыта згаслы, пастарэлы ў адно імгненне, і апусцілася на лаўку.

— Прабач. Штосьці я не тое кажу,— прысеў побач Сяргей.— Мы сапраўды даўно не бачыліся. Як ты? З кім ты?

— Можна не адказваць? — цяпер ужо Зіна пакпіла з яго.

— Канечне, канечне! Спадзяюся, ты ўсё ж паплакала трошкі, як твая сяброўка...

— Не спадзявайся. Не плакала,— суха прамовіла яна, падымаючы на яго вочы, а потым яшчэ і змякчыла сказанае: — Шкадавала, праўда. Нейкі час. Мы маглі б сустракацца зрэдку: колькі ж раз адагравалі адно аднаго.

— А каханне, Зіна?

Ён упершыню назваў яе імя, ды яшчэ ў такім спалучэнні: «А каханне?..», і Зіна пакрыўдзілася. Тры гады таму, калі, здавалася, яна кахала Сяргея — калі яна магла яго пакахаць! — той высмеяў яе наіўныя спадзяванні, яе несучасныя прэтэнзіі. «Каханне? — смяяўся.— Старая казачка для ідэалістак! Хто гэта сёння ўсур'ёз ставіцца да казак, няхай сабе і вельмі прыгожых? Спадзяюся, не медыкі, якім лепш, чым каму, вядома, што, як і адкуль расце... Давай прасцей, Зін. Што мне ў радасць — і табе не будзе ў крыўду». Тады яна не пакрыўдзілася, пакрыўдзілася зараз. За тыя, ранейшыя, словы.

Яна яшчэ спрабавала стрымацца, зглынуць горыч гэтай крыўды, але тая як захрасла ў горле — яе хутчэй можна было сплюнуць... Ад напружання забалелі пальцы, якімі Зіна ўпілася ў край лаўкі, балючая зморшчына скрывіла яе вусны.

— Ка-ханне? Ты сказаў: каханне?! — адкінулася яна на спінку лаўкі занадта рэзкім рухам, бо суха, здзекліва рыпнула якаясьці расхістаная дошка і яе рыпенне аддало-

ся ў Зіне глухім болем.— Калісьці ты сцвярджаў, што каханне — не для такіх, як я: ні жару ні твару, маўляў... Быццам сэрцу, каб біцца, каб балець — каб гарэць! — абавязкова патрэбна прыгожая абгортка, быццам толькі хараство валодае жывой сілай, жывой прагай!

— Зі-на!

— Што — Зіна? Думаеш, з Зінай можна гуляць, калі ўздумаецца, калі няма нічога лепшага пад рукой? Прылашчыш — і прыхінуся? Ды ты... ты зламаў ува мне каханне, перш чым яно абудзілася, бо так табе было зручней, так можна было ні пра што не думаць.

— Я думаў: спатканні былі гэткімі ж прыемнымі для цябе, як і для мяне. Я памыляўся? — углядаўся ў дзяўчыну, здзіўлены нечаканай злосцю ў яе голасе, у яе твары, Сяргей.

— Прыемнымі — непрыемнымі... Ёсць жа не толькі гэта. Па начах, калі застаешся адна, калі не спіцца — калі пачынае ўгрызацца ў душу трывога: а далей? як жыць далей? — куды ад сябе дзецца? Куды — ад гэтых вось пытанняў? Ты, другі, трэці... А хто — адзіны? Хто — для мяне, такой, як я ёсць, няскладнай, з невыразным да сцёртасці тварам? Ці і сапраўды каханне — не для такіх, як я?

Рэзкія, балючыя Зініны словы (яна сама не магла зразумець, што гэта раптам з ёй) быццам разбудзілі бязлюдны ранішні сквер: дзесьці за дзесяць — пятнаццаць крокаў ад лаўкі раскрычаліся нечага вароны, рыпелі, тручыся адна аб адну, галіны старой пахілай вярбы, угары, над галовамі, раскалыханая свежым ветрыкам, які падзьмуў ад ракі, трывожна шапацела лістота.

Раптоўная паўза, узніклая пасля таго як сціхла, сцішылася, зможаная сваім хваляваннем Зіна, доўжылася і доўжылася. Кожны з іх услухваўся ў сваё — абое чулі і крыкі варання, і шапаценне лістоты, у абаіх былі вінаватыя, зніякавелыя твары.

— Калі ты чакаеш, што я папрашу прабачэння, то дарэмна,— азвалася першай Зіна, і гэты раз — спакойна і прыкметна стомлена.

— Гэта мне... гэта я павінен...— шукаў словы Сяргей і не знаходзіў: ніякага асаблівага значэння адносінам з Зінай ён ніколі не надаваў — тая нічога не патрабавала, і гэта было зручна. Праўда, яна і зараз нічога не патрабавала, а прыкрасць усё ж з'явілася.— Разумееш, Зіна...

— Разумею,— не дала яму яна дагаварыць.— Ты закахаўся. Нарэшце. А яна не адказвае табе ўзаемнасцю. Вось

ты і вылавіў мяне ў віры праспекта, спадзеючыся на спагаду і разуменне. Толькі хопіць з мяне і адной безнадзейна закаханай: не паспяваю тугу падціраць пасля прызнанняў.

Зіна прытварылася: абыякавасць яе была найграная, напаказ, бо калі прыгледзецца, то можна было заўважыць амаль незаўважную дрогкую жылку пад левым вокам, яе глыбокае, нервовае хваляванне. Калі прыгледзецца! Сяргей жа, хоць і ўглядаўся ў, як яму здавалася, новую, незнаёмую Зіну (не было выпадку, каб яна калі запярэчыла яму), бачыў толькі яе пастарэлы, халодны твар, які, не асветлены ўсмешкай, не змякчаны нават простай прыязнасцю, быў такі непрыгожы і па-мужчынску вастраскулы, што хацелася адвесці позірк, перавесці яго на штосьці менш суровае і чужое. Але адвесці зараз позірк — азначала б усё-ткі прызнаць за сабой віну, прызнаць якоесьці Зініна права гаварыць з ім такім тонам, і ён, адганяючы раптоўную прыкрасць, пазіраў на дзяўчыну. Пазіраў хутчэй з тугой, чым са шкадаваннем.

— Госпадзі божа мой,— уздыхнула тая,— да чаго ж проста стала ў жыцці: добры дзень — і бывай!

Яна паднялася, перасмыкнула плячамі, стомлена зірнула на Сяргея, які ўскочыў следам.

— Дарэмна ты гэтак, Зіна. Я і спытаўся проста так, каб штосьці спытацца... каб перахапіць ініцыятыву...

— Проста так?! Каб перахапіць... Значыць, ты... ты...— нервова рагатнула Зіна, раз, другі, і вось ужо гучна смялялася, выціраючы вочы і адступаючы ад лаўкі,— яна захліпалася смехам і слязьмі.

— Ты чаго, а? Чаго ты, Зіна? — разгублена ступаў следам Сяргей, памкнуўся крануцца яе пляча і натыкнуўся на злосны пратэст: адпіхнутая, адкінутая яго рука павісла ў паветры.

Смех змоўк. Гэтак жа раптоўна, як і ўспыхнуў. Стала ціха: ні крыку варання, ні ветру не было чуваць. Быццам застыла ўсё, замерла. І таму, калі зноў, абмінаючы паўзу, загучалі словы, яны прагучалі глуха. І адчужана. Як не Зіна і не яму, Сяргею, сказала, а хто чужы — чужому:

— Той, хто аднойчы забіў каханне ў сабе ці ў кім іншым, не пакахае. Не зможа.

«Той, хто аднойчы заб'е каханне...» Не, гэта не Зіна сказала. Зіна маўчала. Моўчкі ўглядалася колькі імгненняў у зніякавелага, згаслага Сяргея і азвалася толькі тады, калі, рашуча ўзмахнуўшы сумачкай, павярнулася ісці:

— А я было пазайздросціла табе, як зайздрошчу Люсі.

# Ваня Капялюшык

Пырскі шампанскага... Прыгожа гучыць, чорт вазьмі. А галоўнае: не адно прыгожа, а і важка — ёсць, ёсць да чаго прымерыцца. Адразу шум, усмешкі, крыштальныя бакалы, тосты, ну і ўсё такое іншае, звязанае нібыта са шчасцем, згадваецца. Куды ж ужо больш, а? Любому ж, як і мне, Ваню Капялюшыку, змалку далдонілі: шчасце!— чалавек створаны для шчасця, як птушка, для чаго там?— чаго ж і пажадаць пры выпадку, як не шчасця! — шчасце ў тваіх руках... Каб жа ў маіх! Так мне нехта і даў яго ў рукі, а? Шклянку ў руку сунуць — гэта, як выпадае, то чаго ж, калі ласка. Разец ні да чаго не годны (маракуй, Ваня!) падкінуць — гэтага колькі хочаш, хоць і сённяшнюю змену прыгадаць... Сумку як мага большую, каб, гэта значыць, бульбу, капусту, малако і ўсё, што трапіцца, за чым чэргі выстрайваюцца ў магазінах — купіць,— гэта тут жа, абы пагляд жончын за цябе зачапіўся. А шчасце? А шчасце, я вас пытаюся? Хоць вас, хоць сябе пытаюся: дайшло ж да таго, што ніхто ўжо не ведае і не помніць, якое яно, у чым яно, гэта шчасце. Мо яго і зусім няма.

Вунь мяне ўзяць, да прыкладу. Толькі да прыкладу. Пра што хочаш у мяне спытайся — пра палітыку там, пра вайну і мір, пра В'етнам, пра якога-небудзь паскуду-прэзідэнта ад мяне праз дзесяць паралелей і мерыдыянаў — на ўсё адказ у мяне знойдзецца. А як жа. Няхай не гэтакі кручаны, вучоны, як у запісных гаваруноў: мяне ж, як іх, словы перасыпаць у роце не вучылі, але і я, Ваня Капялюшык, адкажу чын чынам. Так, як мае быць, гэта значыць. Адкажу, адным словам. І пра палітыку — у вушах жа сквірчыць ад размоў пра яе, і пра вайну і мір. Пра вайну і мір абавязкова. Як вядзецца. Не абы-каго ж — бацьку страціў у вайну, ведаю смак хлеба: горкі смак, нікому таго хлеба не жадаю. Я, Ваня Капялюшык, нікому таго хлеба не жадаю. Нават усякім агрэсарам і прэзідэнтам, хоць тыя ўсе адным дзёгцем мазаны. Чорт з імі, з прэзідэнтамі. Тут абы са сваім разабрацца. А то, што ні вазьмі — справа ясная: палітыка — для палітыкаў, вайна — на гора людзям, агра... агрэсіўныя нападкі розныя на нас — а хоць

бы і не на нас, а на каго іншага,— асуджэнню належаць. І хоць я, Ваня Капялюшык, хоць хто, а гэтак скажа. Ясная справа. А вось шчасце гэтае...

Я неяк — чыста для смеху! — во як з вамі, з папом гаварыў. Не ў храме — якія сёння храмы! На хрэсьбінах. Жонка Федзюкова з-за свету, няйначай, папа прывалакла першынца свайго хрысціць. На ўсякі выпадак ахрысціць — гэта яна нам так тлумачыла, бытта нам не ўсё роўна з папом ці без папа за добрае дзела выпіць. Выпілі. А тады я вазьмі і запытайся — для смеху, канечне,— ці ведае ён, поп, дзе чалавека шчасце чакае. Так і запытаў. Вы думаеце, ён што-небудзь людскае ў адказ сказаў? Якое там! Шчасце, прагугніў, чакае чалавека на тым свеце, за варотамі гасподнімі. У раі, значыцца. Во. Ды і то не ўсіх, а тых, хто бога за жыццё не ўгнявіў. Цьфу! Я яму пра шчасце, а ён мне — пра вароты гасподнія. Дурня знайшоў. Ды тыя вароты, каб яны былі, у друзкі б даўно разляцеліся: гэта ж такая тэхніка — ракеты! — неба на кавалкі паласуюць. Ат, што з яго хацець? Поп і ёсць поп, служба такая. Для смеху і пытаўся: ведаў, што адкажа. Не камунізм жа яму прапагандаваць, папу гэтаму, а?

Не, поп і ёсць поп. У мяне, пэўна, і гэтулькі слоў, як у яго, пра шчасце не набралася б, дык мяне, Ваню Капялюшыка, не словам вучылі. І не словамі. Паставілі да станка, паказалі, раз і другі, як упраўляцца,— і давай, гані план. Гэта сёння на завод смаркача якога прысылаюць з дакументам адразу — ён яшчэ цябе вучыць пачынае, а раней. Пра што гэта я? Пра завод? Пра завод вы ў курсе. Што хочаш, на такарным станку вытачыць можна — і я, Ваня Капялюшык, вытачу! — а шчасце — не-е, чорта лысага.

Праўда, з Гэляй сваёй я на заводзе пазнаёміўся, дык гэткае ж шчасце — Гэля мая. Малая, куртатая, а язык — во! Да локця. Не меней. Усё б гаварыла, усё б павучала. А чаго мяне вучыць? Ты мне, Ваню Капялюшыку, сына нарадзі. Сына. Каб было з кім душу адвесці. Нябось не хоча. З маладых гадоў чую: «Ёсць дачка, і годзе. Адно б дзіця падняць!» А што яго падымаць? Што яго падымаць, кажу? Глядзі, гадуй — яно само падымецца. Вырасце і нас перарасце, кажу. Ды што казаць, як слухаць няма каму. Вы вунь і то ў адно вуха слухаеце. А на Ваню Капялюшыка мо ўпершыню гэтакае найшло, а? Мо ў мяне заўтра, ці калі там яшчэ, ніякай такой ахвоты не будзе пра шчасце разважаць, а? Сёння — сорак тры, а заўтра... Тады ўжо

адно шчасце будзе: каб ногі насілі, не падкасіліся зараней ды страўнік справна прадукт перажаваны перарварваў.

Яно мо і сёння позна ўжо разважаць пра гэтакае, бо, як ні круці, сорак тры — не дваццаць тры: залысіны да макаўкі сцежкі працярэбліваюць пацiху. Ага. Залысіны.... А хоць бы і плешына, чорт з ёй! Думак жа яна не чапляе. Вось і думаю. А што ўголас і да вас звяртаючыся, то гэта ж самому з сабой разважаць нецікава. І сумна. Тады ўжо лепш, у тэлевізар утаропіўшыся, зусім ад усякіх думак і разважанняў ацерабіцца. Хто згодны, той са мной пагодзіцца. Праўду кажу?

Тое і ёсць, што праўду. Ужо якую ні абыякую, а праўду. Трэба толькі па парадку, каб зразумела было.

Значыцца, так. Шчасце мне адразу па нараджэнні абяцанае? Абяцанае. А як жа. У законе запісана. Маці — хай зямля ёй будзе пухам! — па шчасце мяне, бязбацькавіча, у свет выпраўляла? Выпраўляла. Сэрца маё вядомую песню пра шчасце пачынала ў васемнаццаць год выстукваць? Пачынала. А дзе, запытацца, яна дзелася, тая песня? Не ведаеце? І я, Ваня Капялюшык, не ведаю. Было, да Гэлі сваёй падступіўся: дзе, кажу, песня тая, дзе дзелася? А яна: піць меней трэба. Ме-ней! Куды ўжо меней, як з зарплаты траяка не дасць. Ды і песню з вiном адно жанкі зблытаць могуць, калі злосць вочы заслепіць. Я ж акуратна, чын чынам, як мае быць: дзе, кажу, песня тая, дзе дзелася? У ёй жа шчасце, кажу, было. А яна: піць меней трэба. І — бразь дзвярыма: у каго дурнейшага, маўляў, папытай. А ў каго? Поп жа не кожны дзень пад руку трапіць. Ды і не папова гэта справа — у шчасці маім разбірацца. Я ж не для папа, я ж для яе, для Гэлі сваёй, словы з кніжкі, што хлопцы далі некалі, завучваў. Каб, значыцца, не ўвярнуць што-небудзь рабоча-інтэрнацкае знянацку.

Во было! Яна ажно млела, як што салодкае, кніжнае ў гаворку ўстаўлю,— верыла, што сваё кажу, што сваю душу перад ёй выварочваю. Я гэта мо і рад быў бы вывернуць, дык што б я там, у ёй, у душы, тады знайшоў? Усё ж больш моўчкі скрозь лямку сваю цягнуў, змалку цягнуў — як толькі жылы не палопалі! Не да душы, як той казаў, было. Не да кніжак. Хоць і ў школу хадзіў, лічы, сем гадоў, а той кніжкі, што хлопцы далі (француз, казалі, напісаў), і ў вочы не бачыў. Калі і быў які падручнік у хаце, і той не было часу лішні раз адкрыць: гэткія нормы ў калгасе былі, што і сям'ёй нярэдка не ўпраўляліся. Так спіну

паломіш — разагнуцца не ў сілах, бульбіну ў горла не ўпіхнуць. Вось вам і пырскі шампанскага!

Я і Гэлю сваю ўпадабаў за тое, што з вёскі, што з мазаля, як і я, няйначай, гадавалася. Мо таму і не вырасла — у жмені ў дзеўках месцілася, што ад калыскі ў працы на бульбе гнілой ды хлебе з мякінай... Сёння іншае. Сёння яна пакруглела. А я, не паверыце, часцей сваю Гэлю той, ранейшай, бачу. Калі не пазіраю і не слухаю папрокаў ейных. Ага. Калі не пазіраю і не слухаю.

Пра папрокі — гэта так, каб мякчэй выйшла. Бо якія ж гэта папрокі? Словы — градам па спіне ды па макаўцы, хочаш — захінайся, хочаш — з хаты ўцякай. І я, Ваня Капялюшык, уцякаю. Калі паспею. Бо вышмыгнуць за дзверы гэтаксама злаўчыцца трэба — вывучыла ж ужо ўсе мае манёўры Гэля, тое і глядзі, што ад слоў да слёз пяройдзе. А слёзы я — ні-ні! Не пераношу. Адразу сябе сабакам пачынаю адчуваць: завыць, як таму, хочацца.

Гэта, я вам скажу, слабінка мая. Глупства, адным словам. Не ведаю, адкуль і пайшло. Сам жа я — крый божа, як той казаў. Не плакаў і не плакаў. З малалецтва быў адвучаны. Не маткай і сёстрамі — жызняй самой адвучаны. Бо гэта ж, каб усім, каму горка, заплакаць, зямлю б слязьмі залілі. Я разумеў. І ўсе як ёсць разумелі. І цярпелі. Бо трэба ж было цярпець. Куды было дзецца? Падступала гаркота — вось-вось слёзы пырснуць, здавалася, ажно не: бабы хуценька песню завядуць, ды каб абавязкова доўгая, пявучая. І мы ля іх... Не жыццё, а жызня, адным словам.

Пра што гэта я? А? Пра Гэлю сваю? Дык што Гэля, як і яна ніколі мяне не спытае: мо табе, Ваня, нядобра? Мо цябе, Ваня, пашкадаваць, прылашчыць трэба. Не спытае, не-а. Хоць яна добрая, мая Гэля, вы не падумайце. Яна добрая. Адно дагадзіць ёй трэба ды ў гэткі во, як сёння, дзень на вочы не лезці. Каб плакаць не ўздумала. А так... А так, што жызня перад ёй вінаватая, што я, Ваня Капялюшык, вінаваты, адна халера, а? Паспрабуй давядзі ёй, жанчыне, што выпіць мяне цягне не хвароба там нейкая, а жаль. Ага. Усіх на свеце мне шкада, і яе, дурніцу, шкада, і сябе. Праўда, сябе менш, чым яе. Дальбог, менш. Бо вось жа плача яна з-за мяне З-за мяне, а не з-за жызні. Па цяперашняй жызні плакаць не будзеш. Гэта не раней: ні хлеба, ні да хлеба.

А вось жа і раней, без хлеба, не плакалі. Добра помню: не плакалі. Слёз саромеліся. А як жа. Сарамацішча была

перад людзьмі заплакаць лішні раз. Хоць бы і маці маю згадаць: ці ж не нагаравалася ўдавой з намі? Было, што і бульбы гнілой не магла разжыцца... А слёз матчыных не помню, не. У сне часам стагнала, сам чуў. Мо спіна балела, а мо і душа. Вось і стагнала. А плакаць — усяго аднойчы і заплакала. Перад смерцю. Паміраючы ўжо. Доўга ўзіралася ў мяне моўчкі, перш чым слязам волю даць. «У маі сорак дзевяць мінула б мне... А як і не жыла»,— сказала. Сказала — і тут слёзы пацяклі па запалых яе шчоках. Так, са слязьмі на шчоках, і адышла. А мяне як выпетрыла: ні слоў, ні слёз. Во яно як. З таго, мусібыць, і слабінка мая. Ужо ж, больш няма з чаго.

Што? Пры чым тут слёзы, як я пра шчасце разважаў? Мо і ні пры чым. Не ведаю. Але як жа — маці? Дзе яе шчасце, а? Мо і яна, як сын яе, Ваня Капялюшык, мучылася думай гэтай? Надарвалася на рабоце, а думаць і ў апошнюю хвіліну думала. «Як і не жыла»,— сказала. І ведаеце, чаго я, Ваня Капялюшык, баюся? Баюся, што памру, як яна, з ейнымі словамі, а так нічога ў сабе і ў жызні не ўразумею. Жызня — яна кароткая. Азірнуся аднойчы, а яе і няма. Уся як ёсць выйшла. Скончылася. А нашто была дадзена і чаму скончылася, перш чым я, Ваня Капялюшык, уразумею смак яе, а? Глупства? Ды не, не глупства. Каб глупства, плюнуў бы даўно або да чортавай бабкі адаслаў, салёным словам падганяючы. А тут плюнь паспрабуй — як на сябе ўсё роўна плюнеш. Хто згодны, той са мной пагодзіцца. Бо кожан чалавек сэнс нейкі шукае. Згубіць напачатку, а потым шукае. Хоць бы і ў бутэльцы...

Піць — яно, канечне, радасці мала. Мала, але ж хоць якая радасць, а ёсць. Большую ж ніхто не дасць, так я разумею. А самому ўзяць, дак жа ведаць трэба, што і дзе ўзяць, а? Вось вы ведаеце, што і дзе ўзяць? Не ведаеце? А туды ж: дурань, маўляў, Ваня Капялюшык, хай конь думае — у таго галава вялікая... Конь сабе думае, а я, Ваня Капялюшык, сабе. Без радасці — мо ў ёй і шчасце — жыць нецікава. І сэнсу няма ніякага. Сплю, ем, ля станка кручуся з дня ў дзень, каб зноў-такі было што з'есці і на плечы ўсцягнуць, ага,— і ўвесь сэнс? Не, дудкі. Яшчэ нешта ёсць. Вось толькі мне, Ваню Капялюшыку, невядомае. Яно, канечне, вучыўся слаба, а жызня аднаму вучыла і вучыць — упірацца, пад любой ношкай на нагах устояць.

А ношка... Ат, былі б плечы — ношка знойдзецца. Радасці на ўсіх не знойдзецца, а работы — уга! Толькі круціся Ваня. Маракуеш — маракуй пра якую палёгку сабе,

а не — дык і так круціся, станок абганяючы. Радасці захацеў — у рабоце радасць, шчасце прымроілася — піць меней трэба... Вы — чулі калі што іншае? Я, Ваня Капялюшык, не чуў. Толькі і чую: радасці захацеў — у рабоце радасць, шчасце прымроілася — піць трэба меней! Усе — ад начальства на заводзе да Гэлі маёй — адно і тое ж дадодзяць з дня ў дзень. Бытта я ад работы бегаю, а? Ды не ад работы, хоць якую работу ні вазьмі, я, Ваня Капялюшык, бегаю, не ад жызні, а ад сябе, ад сэнсу ў сабе, які я ў толк не вазьму. Хто гегемонам, хто п'яніцам абзывае, а я ж чалавек. Хоць гегемон, хоць п'яніца, а чалавек. Вось у чым закавыка.

Трэба пааўраліць у канцы месяца, каб план выцягнуць, я, як усе,— гатоў. Трэба прагаласаваць за якую змену ў парадку, чаго ж не прагаласаваць? Трэба выехаць на падшэфнае поле — і ў дождж і ў гразь еду. Так? Але ж і вы — і вы ад мяне не шарахайцеся, не адгароджвайцеся прамовамі. Прамовы прамовамі, імі душу не насыціш. Душы радасць якую-ніякую падавай, адно каб чалавечую радасць і па справядлівасці. Бо і я ж чалавек, хоць зрэдчас і вып'ю. Так я разумею?

Тое і яно, што так. Вось толькі за гэтае «так» ніхто і капейкі сёння не дасць.

Пра капейку — гэта да слова сказалася: сваё я зарабляю, не горш за іншых жыву — і Гэля мая не дасць зблахаць. Але ж мо і ўсе іншыя, як я, Ваня Капялюшык, сэнс свой не знаходзяць, а? Хто ў іх пытаўся, а? А папытайся хто, у аднаго ды ў другога, прыслухайся да іх няяснай гаворкі — глядзіш, і праяснілася б. Наконт сэнсу гэтага. Бо якое ж шчасце, як сэнс невядомы? Ну, добра, сёння невядомы, заўтра невядомы, а як і паслязаўтра: чаго добрага, я, Ваня Капялюшык, і не прыгадаю тое, што павінен быў быць ува мне, у жызні маёй сэнс, тады як? Тады — глупства ўся гэта наша жызня, вось што тады. Тады і шчасця ў жызні — усяго нічога. Усяго толькі пырскі шампанскага. Гэта я вам кажу, Ваня Капялюшык. І хто згодны, той са мной пагодзіцца.

# Звычайны вечар

Канечне, у кожнага можа выдацца хвіліна, калі з губ сарвецца пракляцце жыццю, але толькі хвіліна, імгненне нават, не больш. А жыццё... Жыццё не такое кароткае, як прынята думаць. Гэта чалавек слабы. Гэта ён можа адмовіцца ад жыцця. Жыццё ніколі не адмаўляецца ад чалавека. Нават у слабасці яго. Нават на краі гібелі яго. Нават пасля смерці. І няма нічога лягчэй, чым даказаць сказанае, будучы бібліятэкаркай, як яна, Соня; горы кніг пацвярджаюць тое, што зазвычай адно адчай засланяе ад воч хараство свету, адно ад болю адміраюць карэньчыкі радасці. І ў волі чалавека — пакуль ён супрацьстаіць ім — перамагчы адчай, змагчы боль. І не адпускаць ад пагляду сцяжыну. Добра бачную, утаптаную ці ледзь прыкметную сярод іншых сцяжыну — не так і важліва, галоўнае, каб сваю. Сваю з самага пачатку. З першых крокаў.

Соня ўсміхаецца гэтай сваёй думцы, і вязальныя пруткі застываюць на міг у хуткіх яе пальцах, каб ужо ў наступны міг зварухнуцца, прыйсці ў рух, замільгаць, вывязваючы ўсё новыя і новыя петлі вечара. Звычайнага, будзённага вечара, за акном якога рана, як заўжды ў кастрычніку, сцёмнілася, а тут, у пакоі, утульнага ад мяккага святла таршэра, падсунутага ўшчытную да крэсла, ад цёплага пагойдвання знаёмай да пашчоўквання будзільніка на падаконні цішыні.

Цішыня не прыгнечвае яе, не. Тым больш што варта падняцца з крэсла, ступіць якія тры крокі і ўключыць тэлевізар — і пакой запоўняць беды людскія і надзеі іх, уціснутыя ў навіны перабытага дня і пералічаныя манатонным голасам дыктара. У таго, як яна часта думала, і голас такі, што, прамаўляй ён словы больш эмацыянальна, больш страсна,— словы маглі б, чаго добрага, выклікаць паніку: гэтулькі за імі часам крыві і жаху. А так — толькі паведамленне... Хоць усё роўна кожны раз сціскаецца сэрца, усё роўна кожны раз згадваецца бацькава, перад самай смерцю сказанае: «Кроўю людской зямля захлынаецца».

Дзіўна (яна, Соня, заўжды дзівілася), што паэты

спрадвеку рыфмавалі «кроў» і «любоў»: кроў жа там, дзе смерць. А любоў... Сяброўкі марна пасміхаюцца з яе і яе чакання. Дваццаць дзевяць гадоў — гэта дваццаць дзевяць гадоў, яно так. Але хто калі мог правесці мяжу між сабой учарашняй і заўтрашняй. У яе якраз усё — наперадзе, заўтра, а то і яшчэ сягоння вечарам: вечар жа доўгі, усё можа здарыцца.

Пруткі зноў на міг заміраюць — Соня ўзіраецца ў цёмнае акно, у вечар, у наступнае яго імгненне...

Вось чуецца званок у дзверы. Не! Яна чуе шолах плашча за дзвярамі, чуе пабразгванне і потым паварот ключа ў замку — і дзверы адчыняюцца. Насцеж. Бо ў пакой урываецца волкі асенні вецер, і насустрач яму, насустрач таму, хто прынёс яго, імкнецца святло лямпы, узлятае, затрымцеўшы, лёгкая штора. Узлятае і тут жа пакорна апускаецца, абвісае і толькі ледзь прыкметным трапятаннем адгукаецца на яго лёгкія крокі.

— Пад такім аграмадным, як сёння, небам нельга не адчуваць сябе самотнікам сусвету.

— Сусвету? — рэхам вяртаецца да яго апошняе слова.

— Сусвету. Ніяк не менш,— кранаецца ён яе пляча.— Тое, што мы не ўмерзлі ў яго аграмаднасць, у яго бяздонне, тлумачыцца толькі нашай прагай цяпла, толькі нашым прагным жаданнем адагрэцца адно ля аднаго.

— А калі побач — нікога?

— Побач заўсёды хтосьці ёсць: маці, сястра, сябра, каханая, дзіця... Заўсёды хтосьці ёсць. Трэба толькі здолець адчуць. Вось як зараз,— ён далонямі, лёгенька, прыціскае яе да спінкі крэсла, да свайго дыхання: Соня чуе, як, схіліўшы да яе галаў, цёпла дыхае ён над самым яе вухам і далоні яго пяшчотна саслізгваюць з плячэй уніз, да грудзей... Ён ціха цалуе Соню ў валасы, і ў яе сціскаецца, абмірае сэрца. Салодка так абмірае. Яна нават вязанне выпускае з рук і, намацваючы яго на каленях, няўцямна водзіць пальцамі па спадніцы і вышэй — там, дзе пальцы могуць сустрэцца з рукамі каханага.

— Калі ты побач, я веру, што так будзе заўсёды. Калі ж...

— Ты вер. Вер і не адступайся ад сваёй веры, і так будзе заўсёды.

— І адзіноцтва не перашкодзіць?

— Не.

— І ты будзеш прыходзіць?

— Хіба я не побач з табой? Пакуль ты чакаеш, я буду прыходзіць.

Ён зноў цалуе Соніны валасы, і Соня не стрымліваецца — адхінаецца і паварочвае галаву...

Уздыхае (сама парушыла ўмову) і рассеяна пачынае распраўляць на каленях заблытаную між пруткоў нітку: яшчэ колькі вечароў і модная, з напускам, камізэлька будзе закончана. Пасля можна ўзяцца за світэр, усё цяплей будзе хадзіць узімку без добрай шубы.

Пруткі замільгалі ў руках. Думкі на колькі хвілін сцішваюцца. Варушацца губы, падлічваючы петлі.

— Дваццаць восем, дваццаць дзевяць...— прамаўляе яна ўжо ўголас і міжволі сумна ўсміхаецца: якраз на яе ўзрост набіраецца.

Канечне, у дваццаць дзевяць за дзяўчынку ніхто не прызнае, але ж яна, Соня, і не прэтэндуе. Белы бант у касе, баязлівы бляск у вачах, гатовы ўспыхнуць, рассыпацца бліскаўкамі вакол смех... Усяго не вернеш. Ды і не трэба. Зялёнае ўсё тое, і на колер і на смак зялёнае. А сёння яна — спецыяліст, паважаны ў калектыве работнік. Вунь і пакой у інтэрнаце далі. Не ўсім даюць. Ёй — далі. А гады... Гэта ж сама гады, каб каханне сваё сустрэць — адзінае і назаўсёды. І яна сустрэне, яна знойдзе сваё каханне. Ці яно само яе знойдзе. Хоць бы і зараз, сёння вечарам.

Званок у дзверы... Не, у яе ж няма званка. Стук у дзверы, умоўны і тройчы з паўзамі,— і яна кідаецца адкрываць, на крылах ляціць: прыйшоў! ён прыйшоў!

— Зачакалася?

Соня замест адказу тыкаецца тварам кудысьці ў плячо, прыпадае да плашча, які пахне ветрам і дажджом, цягнучыся рукамі да паслухмяна ўкладзеных, без прабору зачасаных назад валасоў, патанае ў абдымку каханага. І яны доўга-доўга стаяць так, зусім нерухома, зліўшыся ў адну постаць. І словы чакаюць іх у няярка асветленым пакоі, за два крокі ад таршэра, на канапе, куды скіруюцца яны, шчаслівыя бясконцай роднасцю і гэтым, без слоў, разуменнем. Згасне і ўспыхне над імі высокі сваімі зоркамі вечар. Ацiхне і зноў разальецца ўкруг велічна-нястрымнай музыкай прасторы вецер. На міг разлучыць,

стаўшы паміж імі, і зноў дазволіць кінуцца адно да адпага пяшчота...

— Ты ўвесь час чакаеш мяне? Штовечар прагна ўслухваешся ў крокі за дзвярамі?

— Іначай ты не прыйшоў бы.

І яна гладзіць, пагладжвае кончыкамі дрогкіх пальцаў яго бровы, лініі воч і шчок, выемкі ўкруг вуснаў — пяшчотай, любоўю сваёй малюе яго воблік, малюе сваё і яго шчасце. Яно цёплае і крышачку шорсткае на дотык, гэта шчасце, і жывы яго воблік знаёмы і не знаёмы ёй аднначасова.

— Я прыходжу і не застаюся тут, з табой. Цябе гэта не крыўдзіць.

— Але ж будзе вечар, калі ты застанешся.

І яна ледзь чутна, пяшчотна кранаецца вуснамі яго лба, прыкрытых павекамі воч, шчок, куточкаў вуснаў — пяшчотай, любоўю сваёй малюе яго воблік, малюе сваё і яго шчасце. І гэтыя дотыкі, гэтыя пацалункі нічога не парушаюць: гасне і ўспыхвае над імі высокі зоркамі вечар. Аціхае і з новай сілай расплёсквае ўкруг велічна-нястрымную музыку прасторы вецер.

— Які халодны вецер! — горнецца Соня да каханага.

— Гэта скразняк. Вецер часу. Ён ніколі не спыняецца.

— Ніколі?

— Ніколі. Чалавечае жыццё згасае. Адно, другое... Мноства пакаленняў змянілася, а гэты вецер нязменны — нязменна доўжыць сваю вечную мелодыю.

— І зараз — гэта мелодыя шчасця...

— Жыцця! Усяго толькі жыцця. Жыццё нічога не ведае пра шчасце.

— А ты ведаеш?

— І я не ведаю. Хто гэта можа ведаць? Шчасце, калі яно надараецца, асляпляе чалавека, яго сэрца, і імгненні гэтыя не паўтараюцца.

— Але ж ты прыходзіш. Ты прыйдзеш!

— Прыйду.

— А кажаш: не паўтараюцца...

— Я пра іншае. Ты не зразумела,— засмяяўся.

— Пра што — пра іншае? Пра што? — разгублена паўтарае Соня, раз і другі раз, і азіраецца, шукае паглядам смех — каханага, які толькі што смяяўся, горнучы яе да сябе.

Пагляд слізгае па канапе, на якой валяюцца ранішнія

газеты, па кніжнай шафе, састаўленай з асобных зашклёных палічак над столікам, дзе зараз стаіць кубак з даўно астылай гарбатай, па просценькай дывановай дарожцы, што вядзе да дзвярэй: смех — не клубок нітак і не выкаціўся б за дзверы... Ды і дзверы зачынены.

Соня ўздыхае і апускае вочы на вязанне. Так і ёсць: задумалася і вывязала чорт ведае што. Панчоха не панчоха, але ж і не плячук камізэлькі!

Выцягнула, адклала пруткі і ўзяла ў рукі клубок: зноў давядзецца распускаць, спускаць па пятлі зробленае. Каторы ўжо раз. І добра б, хоць аднойчы гэта паслужыла ўрокам. Дык не. Работу яна, канечне, адновіць, ■ вечар... Вечар ужо мінаў — гадзіннік паказваў паўгадзіны на адзінаццатую.

«Трэба прымкнуць дзверы»,— мільганула вялая, згаслая думка. Мільганула і знікла. Знікла ў аднастайным хуткім руху рук, якім яна зматвала ў клубок шарсцяную нітку,— па хвіліне, па згадцы зматвала перабыты над вязаннем вечар, нічога з перадуманага не прыгадваючы, ні аб чым, нават аб гэтай марнай, як атрымалася, рабоце, не шкадуючы. Звычайны вечар, звыклыя думкі, бясконцая ў сваёй аднастайнасці работа, расквечаная думкамі...

— Гэта я, Соня. Ад мяне дзверы не замыкаеш? Правільна! Ад мяне не трэба. Ні ад каго не трэба. Я не буду ў прэтэнзіі..., Гы-гы-гы!

Сцепануўшы плячыма, Соня не азірнулася: Мікола ўламаўся без стуку, зноў пад хмелем, і ёй, канечне, лепш было б прымкнуць дзверы да яго прыходу. Лепш... Ды што ж цяпер пра гэта? Даматала нітку, уткнула ў клубок спіцы, адклала, згарнуўшы, вязанне. Павяла рукой, адмахваючыся ад пацалунка, з якім Мікола пацягнуўся да яе.

— Ну-ну-ну! — адразу адступіўся той, смачна ўцёршыся тыльным бокам далоні.— Паненка не ў гуморы, Сватаў разумее. Сватаў пачакае, у яго ў запасе мора часу.

Нетаропка, падкрэсліваючы сваю нетаропкасць, скіраваўся ён да тэлевізара, шчоўкнуў выключальнікам, пастаяў, пачакаў, пакуль з'явіцца выява і, нягучна гыгікнуўшы, адышоўся да крэсла. Да другога ў пакоі крэсла, за крок ад Сонінага. На Соню, якая падцяла ногі і сцялася ў насцярожаны камячок, не азірнуўся. Цяжка гэпнуўся ў крэсла, прыгладжваючы пальцамі паслухмяна ўкладзеныя, без прабору зачасаныя назад валасы, далёка, паўз столік, выпрастаў ногі.

— Глядзі, глядзі! — гукнуў.— Бач, як ён шыю ёй пацалункам выкручвае... А ты Сватава ганьбіш. Сватаў не горды. Сватаў пачакае.

На экране, у немаведама якім фільме (ён жа заканчваўся), перамагала ўсё, што да таго адбывалася з героямі, іх усёпаглынальная страсць. У крэсле, побач са скамечаным вязаннем, ціха, незаўважна нават для сябе самой, плакала Соня.

# Штрыхі да аўтапартрэта

Антон доўга ўзіраўся ў сябе. Незадаволена моршчыўся і міліметр за міліметрам вывучаў свой шырокі, блізкі да квадрата твар, якому так бракавала выразнасці, значнасці: як ні намагаліся бровы зломам, вуглом сваім прыўзняць цяжкі, занадта відочна сплюснуты густым «ёжыкам» валасоў лоб, як ні пнуўся расцягнуцца, выцягнуць непрыемна круглыя, пульхныя шчокі, кароткі бульбаваты нос, як ні сцінаўся таўстагубы рот, усё распаўзалася ад аднаго пільнага позірку. Мо каб засвяціў, раззяў позірк... Каб у позірку з'явілася маштабнасць, значнасць... Хоць бы жывы нейкі агеньчык, калі не маштабнасць! Нельга ж на самой справе, каб вядомага жывапісца прынялі за ружовашчокага пекара: і ў трэцім і ў чацвёртым калене не было ў сялянскім родзе Кондрусяў пекараў. Малатабойцы былі. Дзядзька і бацькаў дзед Яўхім. Дык калі тое было! Галена, сястра, настаўнічае ў Слуцку. Юзік, малодшы, у фізікі падаўся. Да яго, Антонавай, думкі масцітыя прыслухваюцца: лічы, тон у жывапісе задае. Калі б значнасці, глыбакадумнасці твару! — твар быў праставаты, задужа праставаты для таго, хто ў свае сорак два і званне ганаровае меў і пасаду, адпаведную званню. З гэтым Антон пагаджаўся, як не пагодзішся. А што роду сялянскага, дык ён і сам нячаста тое згадваў. Бацькі дажывалі сабе ў вёсцы і дажывалі. Звярталіся — і Антон дапамагаў: адрабілі сваё, па праву ад дзяцей помачы чакалі. Але іх час мінуў. Мінуў і забываецца. Ужо пры жыцці іх пачаўся новы адлік. Адлік ад Антона, старэйшага ў сям'і, першага, хто выбіўся ў людзі.

...— «Абавязкова выбіцца ў людзі... Што ты, Тоні, маеш на ўвазе?» — «Павагу заслужыць. Найперш, гэта».— «Ты лічыш: бацька твой ні ваеннымі, ні працоўнымі медалямі не заслужыў людской павагі?» — «Я пра іншае. Разумееш... Пра павагу падсвядомую, адвечную. Непарушную ў адносінах да пэўнай катэгорыі людзей».— «І такая бывае?» — «Не будзь наіўнай, Святлана. Твой бацька — вядомы адвакат, і ты ўваходзіла ў жыццё, ідзеш па жыцці зусім інакш, чым любая твая равесніца з так званага на-

рода. З народа — гэта толькі гучыць прыгожа, нават велічна, прыём жа тых, хто з яго выйшаў, дагэтуль шэранькі і, трэба сказаць, суровы: разаб'еш ілбом сцяну, праб'ешся — прызнаюць...» — «Ды хто прызнае, Тоні? Хто?» — «А хоць бы і ты, Святлана. Хіба ты зірнула б на заслугі майго бацькі, вядомыя толькі яго аднавяскоўцам, і на мяне, яго сына, калі б я не дамогся таго-сяго ў сталіцы?» — «Не ведаю».— «Тое і яно...»

Тое і яно. Няпроста, нялёгка — гэта і нядобразычліўцы прызналі б — давалася ўсё Антону. І інстытуцкі дыплом з адзнакай. І майстэрня. І прызнанне. І пасада загадчыка кафедры жывапісу. І жонка — дачка вядомага адваката Слонімскага... Зямлю сваім кароткім бульбаватым носам з-пад усіх капаў, абы выбіцца, абы прызналі. Прызналі. Да заказнога аўтапартрэта дайшло. Праз год — вялікая персанальная выстаўка. Не ў Маскве, праўда, пакуль што, тут, але і на Маскву сякія-такія каналы Антон прабіваў, і сувязі Слонімскіх спатрэбіліся дарэчы: не дарэмна ён пласкагрудую Святлану ў свой час акруціў. Правільна разлічыў. Усё скрозь правільна разлічваў, кожны крок наперад. Нават — калі патрэбу ў тым чуў — адступіўшы колькі крокаў назад. Часова. Больш для выгляду. Маўляў, не хутаранін жа Антон Кондрусь — інтэлігент, штурхацца не будзе. І чаго штурхацца, калі абавязкова надыходзіў момант, калі льга было цішком адсунуць, плячом адцясніць усіх — любога! — ад жаданай удачы. Удачы, а не падачкі! Падачкі б ён не прыняў. Гэта ён ведаў цвёрда. А так: дамогся, выбіў, вырваў (дэталі не мелі значэння) — значыцца, ягонае. Па праву. Па праву ўдачлівага.

...— «Антон Цітавіч, скрозь толькі і размоў, што пра вашу новую работу. І я... Я ў поўным захапленні. Гэткі размах! Вы... Вы...» — «Ваша прозвішча... Прабачце, запамятаваў».— «Ружава я. Вера Ружава. З вашай групы. На трэцім курсе».— «А, да, да. Помню, як жа. Усё больш у мроях купаецеся, а не малюеце».— «Гэта я ў вашай прысутнасці, Антон Цітавіч. А так...» — «А так што?» — «Вы ж самі за апошнюю пастаноўку паставілі мне пяцёрку».— «А, да, да. Помню, як жа. Вы штосьці хацелі?» — «Я пра карціну вашу, Антон Цітавіч... Я з захапленнем... Гэткі размах думкі! За простай падзеяй — народ, веліч народа».— «Для народа працуем, Ружава. Народу доўг сплачваем. Хіба інакш вы ўяўляеце прызванне мастака, інтэлігента?» — «Не, не!» — «Вось і я веру: вы, савецкая

студэнтка, не можаце не разумець, што наша прызванне ў служэнні народу».— «Я разумею. Беларускі народ спакон веку...» — «Для народа працуем, Ружава. Для народа...»

У майстэрні пасвятлела. Відаць, з-за хмар, што шчытна абселі гэты цёплы кастрычніцкі ранак, нарэшце прабілася сонца, і хоць зазірнуць сюды, у паўночнае акно, пад самай столлю не магло ніяк, усё ж святла ў пакоі пабольшала. І Антон, звыкла разважаючы пра не зусім творчыя клопаты, якіх тым не менш давеку не пазбыцца (заўсёды ж ёсць больш высокае званне, больш высокае становішча!), і так і гэтак пакручваў на мальберце падрамнік — адыходзіўся, і зноў набліжаўся, і зноў узіраўся ў свой твар, у свой згаслы, бясфарбны позірк. Як ні паглядзі — не было ў позірку жыцця. Ні глыбіні не было, ні лёгкага бяздумнага бляску — мёртвыя якіясьці вочы. Яны, праўда, і ў люстэрку былі гэткімі, але ж аўтапартрэт — не адбітак, перанесены з люстэрка. Гледача — ды і гісторыю, урэшце! — не зацікавіць іх занадта сумная праўда.

Упёршыся дзвюма рукамі ў бакі, Антон развярнуўся перад люстэркам ва ўсю магутную шырыню плеч, яшчэ вышэй прыўзняў бровы... І пачуў: звоняць — хтосьці нясмела звоніць у дзверы. Яшчэ раз азірнуўся на люстэрка, са шкадаваннем уздыхнуў і, расслабіўшыся, пасунуўся да дзвярэй.

— Вы да каго? — няўцямна зіркнуў на маладую дзяўчыну за парогам і тут жа пазнаў яе, шаркнуў далонямі па шорсткіх штанінах.— А-а-а! Ружава? Вера? Праходзьце, праходзьце. Я запрацаваўся і забыў, што меўся госцю страчаць.

— Якая ж я госця? — сумелася тая, аддаючы свой лёгкі плашчык.— Вы казалі, Антон Цітавіч, вам дапамога мая патрэбна.

— А, да, да. Помню, як жа. У вас знойдзецца гадзінка часу? — таропка прыбіраў ён свае пінжак і сарочку з гальштукам з крэсла.— У мяне не атрымліваецца...

— У вас — не атрымліваецца?! У вас?!

Антон перастаў мітусіцца і азірнуўся на студэнтку: у лёгкай клятчатай спадніцы і яркай вязанай безрукаўцы з глыбокім выразам, яна здавалася тут, у даволі запушчанай яго майстэрні, задужа юнай. Амаль не рэальнай. І гэта думка нечакана ўразіла яго, нечакана непрыемна ўра-

зіла: што ён — сапраўды так запрацаваўся, што хмялее ад глытка свежага паветра?

— Вы сядайце... Вера. У крэсла. І трымайцеся як мага свабадней. Не зважайце, што я працую. Я паспрабую ўхапіць настрой, які мне ў маёй рабоце патрэбен. Вам зручна?

Адказу не было. Ці ён не пачуў. Ён ужо стаяў перад мальбертам — так, каб, калі спатрэбіцца, убачыць сябе ў люстэрку,— і адсутным, рабочым позіркам аглядаў дзяўчыну. І разумеў, чаму ў адказ на яе гарачы зіхоткі позірк у інстытуцкім калідоры запрасіў яе ў майстэрню: гэта Ружава была з тых, хто можа распаліць згаслае ўяўленне мастака. Нават такога забранзавелага, як ён, Антон. Нічога залішне вытанчанага ў ёй, нічога падкрэслена мяккага — так, па-антычнаму здаровае хараство, па-антычнаму пявучыя лініі цела — рук, плячэй, шыі. Твар... Твар дзяўчыны Антона не зацікавіў. Ён не адрываў вачэй ад яе аголенай шыі, ад выразу безрукаўкі, які так глыбока і так далікатна спускаўся ад шыі ўніз, і ўсё спрабаваў адагнаць, прыглушыць раптоўна прыгаданы жончын голас: «Ніякіх гісторый з юнымі сяброўкамі, паклонніцамі і натуршчыцамі! Ты мяне знаеш, Тоні...»

У люстэрку пагойдваўся насцярожана-ўзрушаны твар, на якім паблісквалі пацяплелыя вочы, і Антон адчуў, што момант настаў: у раптоўнай цеплыні вачэй ужо была неабходная таямнічасць, нават глыбіня пэўная — трэба было пачынаць пісаць. «Трэба пісаць!» — і раз і другі паўтарыў ён у думках, хоць рукі ўжо звыкла шчыравалі над палітрай, завіхаліся, і вось ужо самыя першыя, ледзь прыкметныя мазкі ляглі на палатно, пацягнуўшы за сабой новыя, іншыя.

Работа ўцягвала — і разам з тым паступова ахалоджвала: бляск у вачах патухаў, знікаў, і гэтага нельга было дапусціць: яшчэ пяць, дзесяць, пятнаццаць хвілін работы і Антон даможацца свайго, даможацца таго, чаго хоча!

— Вам зручна? Можа, вам лепей абаперціся на ручку крэсла, нахіліўшыся крыху ўперад, на мяне?

Антон міжволі шукаў новую зачэпку для позірку, нецярпліва пакручваў у пальцах пэндзаль і не зводзіў вачэй з глыбокага выразу Верынай безрукаўкі.

Яшчэ некалькі лёгкіх рухаў, яшчэ некалькі мазкоў, і не стрымаўся ён — сарваўся з месца, наблізіўся да крэсла і крануўся дзявочага пляча.

— Не, не, Вера! Вы дазволіце? — рука пяшчотна папаўзла па плячы, да адкрытай шыі.— Не згінаючы галавы,

нахіліцеся крыху ўперад на мяне, перанясіце цяжар на руку, сагнутую ў локці. Разумееце? Вось так.

Рука не слухала Антона — не чуючы дзявочага пратэсту, пяшчотна пагладжвала шыю, далей і далей ссоўвала безрукаўку з пляча, агаляючы яго цёплую белізну...

...— «Ты не разумееш, Тоні, ты проста не разумееш! Ёсць жывапіс для сябе і сваіх блізкіх: кветачкі, жбанкі, твары і тварыкі... А ёсць жывапіс для музеяў і галерэй: яркія палотны пра жыццё народа, пра пераўтварэнні часу — адным словам, усё тое, што патрабуецца сягоння».— «Але ж у музеях, у выставачных галерэях — нямала пейзажаў, нацюрмортаў, партрэтаў, якія прынеслі сваім творцам славу!» — «Гэта не твая слава».— «І я мог бы...» — «Ды азірніся ты вакол! Каму сёння патрэбны твае Марусі, Федзі, Саўкі? Хто будзе ўзірацца ў іх сцёртыя часам твары?» — «Ты несправядлівая, Святлана. Да мільёнаў людзей несправядлівая. Гэтыя Марусі, Федзі, Саўкі...» — «Знаю, знаю, Тоні. Не вучы мяне палітграмаце. Паспрабуй зразумець, што і я, і папа, і папіны сябры дабра табе хочам».— «Я разумею».— «Дык чаму тады так упарцішся?» — «Жывапіс не можа быць мёртвым».— «А хто кажа, што ён павінен быць мёртвым? Няхай на тваіх палотнах кіпіць праца, іграюць мускулы, ззяюць на фоне канструкцый і заводскіх карпусоў шырокія ўсмешкі рабочых: за гэта плацяць».— «Але ж трэба пісаць тое...» — «Трэба пісаць тое, што мае попыт і адпаведна цэніцца».— «Раней ты не ўмешвалася ў мае планы, Святлана».— «Ды зразумей ты, Тоні: сам жа хацеў выбіцца ў людзі... Вось і выбівайся, пакуль табе ў тым дапамагаюць і час і людзі. Ты павінен быць удзячны...» — «Глыбока ўдзячны, глыбока ўдзячны!» — «Не ёрнічай. І... ніякіх гісторый з юнымі сяброўкамі, паклонніцамі і натуршчыцамі! Ты мяне знаеш, Тоні...»

— Антон Цітавіч!

— Га? — апрытомнеў той і жахнуўся таго, што зайшоў так далёка: адна рука, перамагаючы нясмелы дзявочы пратэст, пяшчотна смакавала цяпло пругкіх дзявочых грудзей, другая ўтрымвала яе дрогкія плечы.

— Антон Цітавіч! Што гэта вы? Няўжо вы?..

Як апёкшыся, Антон рэзкім рухам адхінуў рукі, абе-

дзве разам, зверавата зіркнуў Веры ў твар: той быў балюча кранугы разгубленай усмешкай, а ў вялікіх балотна-зялёных вачах дзяўчыны, злёгку скаламучаных яго, Антонавай, блізкасцю, скакалі радасныя чорцікі, міг-другі — і ўспыхнуць, і спапяляць той толькі што выразна чуты Антонам голас, які папярэджваў...

— Не, не, Ружава! — адступіў ён на крок, быццам спалохаўшыся раптам сваіх думак і таго, што магло адбыцца.— Я прашу прабачэння, калі... калі...

— Але ж я... — паднялася і ступіла да яго Вера.

— Вы ідзіце, Ружава, ідзіце! Дзякуй вам за дапамогу. Я прашу прабачэння, калі... калі пакрыўдзіў вас,— адгарадзіўся рукамі ад яе руху, ад яе позірку Антон.

Дзяўчына ўспыхнула. Адразу густой чырванню да самых карэньчыкаў гладка зачасаных валасоў пакрыўся размякчаны яе твар — чырвань разлівалася, пералівалася на шыю, на аголенае плячо, спаборнічаючы ў яркасці з безрукаўкай, і Антону стала не па сабе. Усяго на момант. Бо ўжо ў наступны момант дзяўчына была ля дзвярэй. З сарваным з вешака плашчыкам у руцэ...

Бразнулі дзверы. Збегла ўніз па лесвіцы рэха крокаў. І стала ціха. Так ціха, што Антон чуў, як у яго на скроні ўздрыгвае тонкая жылка. «Як недарэчна ўсё! Як усё недарэчна»,— зглынуў ён уздых і пайшоў да мальберта. Зіркнуў з-за мальберта на апусцелае крэсла, пачаў узірацца ў свой твар на палатне, вяла адзначыў, што святла ў позірку паболела: яшчэ б дзесяць, пятнаццаць мінут работы — і ён мог бы закончыць аўтапартрэт.

## Маўчанне

Нага саслізнула ў пустату разам з каменнай глыбай, на якую Стась неабачліва ступіў, каб зазірнуць у нешырокую, крыху больш метра, і, як аказалася, глыбокую, праз увесь скальны нарост, расколіну. Яго матлянула, ударыла аб востры выступ плячом і пацягнула ўніз. Дранцвеючы ад страху, чуў, як ніжэй, на колькі імгненняў апярэджваючы яго, грукатаў валун, і сцінаўся — як мог, угінаў у плечы галаву, сілячыся змагчы страх і выпрастаць, адвесці ўбок руку, якая не выпускала, хоць і не паспела адразу ж, напачатку, скарыстаць, ледаруб. Яго ўдарыла яшчэ раз і яшчэ. Ён не адчуў болю, не адчуваў, як смылела разадраная нага вышэй калена,— стараўся тулавам, нагамі, ледарубам, які нарэшце здолеў павярнуць упоперак, зачапіцца за якую няроўнасць, хоць на міг прыпыніць падзенне. Успрымаўся кожны міг хоць і падсвядома, але востра, абвострана: грымеў, напаўняючы расколіну гулкім рэхам, аграмадны камень.

Падаў Стась, услед за ім, цэлую вечнасць: кожны міг быў вечнасцю. Хруснула, наскрозь праняўшы яго нервовым токам, нага, што, пастаўленая наўстырч, не змагла ўтрымаць цяжар цела. Шкрабануў, шкроб па камені не намацваючы і невялікай зазубрыны, ледаруб...

Ужо мільганула роспачнае: «Усё! Кранты!», калі яго тузанула, прыціснула спіной да сцяны і напятая, як струна, што вось-вось лопне, рука, у якой быў ледаруб (той урэшце зачапіўся за невялічкі выступ), здрыганулася і застыла, утрымліваючы Стася...

...Сонца разам з чародкай галубоў кружляе так высока ўгары, што задраная галава, здаецца, завальваецца за спіну, цягнучы ўніз, і я міжволі, яшчэ слепа, намацваю рукой худзенькае плячо сына: ён жа побач, ён гэтак жа, як і я, імкнецца ўвысь, за галубамі, і не адводзіць ад іх зачараванага іх палётам пагляду. Пальцы другой, свабоднай, рукі закладваю ў рот і свістам падганяю, падымаю лёгкіх птахаў вышэй, і чую, як няўмела спрабуе скапіраваць мой рух, мой свіст сын.

— Не так. Я ж вучыў цябе,— смяюся, перапоўнены ззяннем гэтага высокага сонечнага дня, шчаслівы роднасцю з маленькай, ва ўсім, нават у захапленні галубамі, падобнай да мяне істоты.

— У мяне рот... дзіравы,— сапе той, спрабуючы выціснуць свіст.

— Як дзіравы? — адрываюся ад занятку і, выпрастаўшыся, узіраюся ў яго, у яго спробы.

— Ніна Васільеўна ў садзіку гэтак кажа: «Паўлючык, у цябе што — рот дзіравы?» Вось ён і стаў дзіравы.

— Чакай, чакай! Гэта калі ты кашу ў роце муляеш і не глытаеш?

— Калі кашу... — ён зразумеў, што прагаварыўся, і зіркае спадылба на мяне, правяраючы, ці не ўсердзіў, а потым — учуўшы мой прыхаваны смех — выцірае заслюняўленыя пальцы аб штаніну і ўсміхаецца зусім па-змоўніцку: — Не люблю я кашу. Ты толькі маме не кажы.

— А ты знаеш, што той, хто не есць кашу...

— Знаю! — хуценька перапыняе той і гэтак жа хуценька дадае: — А галубы ўжо злятаюцца. Глядзі!

І я гляджу. І смяюся. І ён смяецца. І смех наш зліваецца з пошумам крылаў...

Стась не чуў больш пад сабой грукату валуна: той ці скаціўся ўніз на дно, ці застраміўся паміж выступамі, бо расколіна хоць і незаўважна, але пастунова ўсё ж звужалася. Ціха-ціха было вакол: у глыбокі паўзмрок урэзаўся каменны калодзеж, куды ён патрапіў і з якога наўрад ці выберацца — наўрад ці, бо калі б не зламаў ён нагу, з дапамогай толькі ледаруба па каменнай сцяне не ўскараскацца, а ў групе ён нічога не сказаў — адышоўся ж усяго на якую сотню метраў. На якую сотню метраў... У гарах і дзесятак метраў — часам непераадольная адлегласць. А то ён, бывалы горны праходца, гэтага не ведаў!

Боль уназе і ў плячы розніўся, але і там і там быў моцны, і ніхто зараз яму, Стасю, не сказаў бы, ці хопіць у яго сілы ўтрымацца ў такім становішчы хоць некалькі хвілін. Тры-чатыры хвіліны, пэўна, былі, а што можна зрабіць за тры-чатыры хвіліны? Знайсці больш надзейнае апірышча? Ён ужо абвёў колькі разоў паглядам сцяну насупраць, абмацаў правай нагой слізкую роўнядзь сцяны, уздоўж якой, прыпадаючы да яе спіной, ён вісеў,— нічога

суцяшальнага. Ні воку, ні назе не было за што зачапіцца, а рука, што сціскала ледаруб, ад напругі нямела: яшчэ хвіліна-другая...

Пошум крыл заглушае наш смех: галубы злятаюцца да нас, садзяцца на выпрастаныя нашы рукі, на плечы. Іх так многа, быццам з усяго горада пазляталіся яны сюды, на ўскраіну, да нашага трохпавярховага дома, дзе, на амаль плоскай страсе, цішком ад домакіраўніцтва зляпіў я з чаго знайшлося галубятню для сваіх сізакрылых любімцаў. І няма ў мяне больш радасных хвілін, чым гэтыя, адвячоркам, калі, вызваляючы ад стомы, ад напружання рабочага дня, падымаецца ў неба на крылах галубоў прыцішаная, прыглушаная ўдзень радасць і ўслед за ёй — з ёй! — ірвецца душа. Нічога і нікога няма ў цэлым свеце, апроч нас — мяне і сына, мяне, сына і птушак у небе.

Разумею, што гэта хвіліны такія, што заўтра зноў трэба будзе выгаворваць зменшчыку за неахайнасць (ці рук, ці анучы шкадуе вечна) і добра-такі патаптацца, пазавіхацца ля станка, перш чым прыступіць да работы ■ новым разцом. А яшчэ ж, адстаяўшы змену, выступаць на заводскім мітынгу ў абарону міру, вось гэтага мірнага неба, а яшчэ ж... Ды гэта ўсё заўтра!

Галубы вуркочуць, чакаючы ўзмаху рукі, чакаючы майго знаку, і я маруджу толькі таму, што хочацца доўжыць гэту спакойную, радасную гатоўнасць да палёту.

— Пай-шлі-і! — зрываюся нарэшце з месца, ускінуўшы ўслед пошуму крыл рукі, і кружуся, тапчуся па пятачку ўкруг галубятні, падхлёснуты крыкам, і свістам, і радасным ззяннем сынавых вачанят.

— Пай-шлі-і! — крычыць ён, падхапіўшы маю радасць.— Пайшлі!

І махае, махае шматком палотнішча, прывязаным да прутка. Усё вышэй і вышэй. Мне здаецца, што тая ж сіла, якая кружыць мяне і свістам вырываецца з грудзей, адрывае яго ад страхі, падымае...

— А-а-а!!.

Стась пачуў свой крык ужо тады, калі ён рэхам пасыпаўся зверху, на плечы яго, і з плячэй уніз. Пачуў і сцяўся: рэха магло пацягнуць за сабой абвал і гэта азначала б канец... Але гукі аціхлі глыбока ўнізе. І маўчанне яшчэ больш шчытна прыціснула яго да каменнай сцяны. Ка-

менне, нібыта мёртвае маўчанне. Бо вось жа і дыхання свайго ён не адчуваў. Нават боль, здавалася, аціх. Хоць, канечне ж, толькі здавалася, бо варта было Стасю зварухнуцца, паспрабаваць вывернуць шыю, каб зірнуць угору і позіркам змераць адлегласць да краю расколіны, як боль, яшчэ больш пякучы, цяжкі, вярнуўся. І як асляпіў на момант: Стась ажно зажмурыўся ад вострага бліску. Зажмурыўся і, калі з цяжкасцю расплюшчыў павекі, на сцяне насупраць, на ўзроўні жывата, заўважыў тонкую, ледзь прыкметную ў паўзмроку( не бачыў жа ён яе раней!) рысачку шчыліны. Надзея варухнулася ў ім і, ледзь успыхнуўшы, згасла: надта ж малая была шчыліна — чаравікам не зачапіцца. Праўда, можна было паспрабаваць загнаць у яе нож, выцягнуўшы яго з похваў, прывязаных да пояса, і тады...

Быццам спалохаўшыся раптоўнай надзеі, міг-другі Стась адпачываў. Потым, перамагаючы боль, стаў прымервацца, наважвацца, каб незаўважна падняць плячо і рукой, заводзячы яе за галаву, як мага мякчэй абхапіць тапарышча ледаруба вышэй анямелых пальцаў правай рукі, якая сціскала яго з апошняй моцы. Наважыўся раз, другі раз — і асцярожна сцяў пальцы. І яшчэ больш асцярожна аслабіў правую руку.

Ледаруб не хіснуўся (відаць, зачапіўся-такі за зазубрыну), і Стасю палегчала. Яго, праўда, крыху, на градусы два-тры, разваярнула, ды тонкую рысачку шчыліны позірк не выпусціў.

Імгненні сталі запавольвацца, часам здавалася, што яны знікаюць, правальваюцца ў чорную пустату пад ім, і тады Стась баяўся зусім страціць адчуванне часу — страціць прытомнасць. Напружваў усю волю, стараўся не зважаць на боль і як мага ашчадней растрачваць апошнія сілы — у выніку ж даволі хутка змог вызваліць з похваў нож. Адразу ж упёрся, стаў згінаць калена здаровай нагі, выгінаючыся ў бок супрацьлеглай сцяны, да той шчылінкі, да якой крышачку не дацягвалася рука. Галоўнае, ён разумеў, было ўтрымаць раўнавагу, не сарваць з зазубрыны ледаруб. Хоць бы да таго часу, пакуль не абапрэцца чаравікам на загнаны ў шчыліну нож: не самае надзейнае апірышча, а ўсё ж...

Ледаруб саслізгнуў на момант раней — Стась ледзьве паспеў крануцца нажа нагой, і добра, што натрэніраванае цела спружыніла і, перамагаючы небяспеку, ён плячамі, спіной упёрся ў скалу, адчайным напружаннем, адчайным

намаганнем волі зашчэмлены папярок расколіны — між сцяной і сцяной. Боль быў ужо невыносны.

...Боль забіў радасць так раптоўна, жах ахінуў мяне так хутка, што я на міг як прырастаю да таго крыку, які так уладна пацягнуў за сабой сына. Потым, няўцямна зусім, ступаю колькі крокаў да краю даху, з якога...

Свядомасць утрымлівае ад апошняга кроку, чапляецца за бязглуздую думку пра нерэальнасць таго, што здарылася,— нічога не здарылася, даводзіць, бо вунь жа, унізе, дзе павінна пятляць па двары, між дрэў і лавак, сцежка, кружыцца чародка галубоў. Нічога не здарылася, даводзіць, бо вось жа не тое крыку, ніводнага гуку не даносіцца адтуль — нават галубы кружацца зусім бясшумна, бязважка...

А ногі ўжо нясуць мяне ўніз па бясконцых лесвічных пралётах — яны не кранаюцца прыступак і ўсё ж лічаць, лічаць іх няроўнасці і вышчэрбіны, быццам апошняя лічба павінна вызначаць, вызначыць штосьці важнае, штосьці неабходнае. «Гэта няпраўда,— шапчу,— гэта няпраўда!»

Словы чапляюцца за парог — двор усімі сваімі вокнамі, ліпамі і лаўкамі абступае мяне адразу, імгненна. Ён поўны суседзяў, людзей, якіх я не пазнаю, якіх я расштурхваю,— дзесьці там, пасярод натоўпу — пасярод маўчання! — чакае мяне сын...

Апошняе, што засталося ў Стася на той момант у свядомасці,— боль. Боль, у якім патанала нават маўчанне. Бо калі яму здалося — перш здалося! — што перад паглядам яго пахістваецца спушчаны сябрамі канат, ён ужо не мог выкараскацца з гэтага болю. Ён не памятаў — ён ніколі потым гэтага не ўспомніць,— ці схапіўся тады за канат, ці паспрабаваў падвесці яго пад спіну і, перахапіўшы другой рукой, зацягнуць вузлом на поясе, хоць бы адным вузлом. Губляючы сілы, трацячы прытомнасць, зацягнуў вузел, усяго адзін раз. Відаць, і ўратавала яго толькі тое, што інстынктыўна адчуваючы ўсю няпэўнасць, усю нетрываласць вузла, колькі раз захліснуў канец укруг запясця.

Калі ён разляпіў павекі і ўбачыў святло — цэлае неба святла над сабой, то ўсё ніяк не мог паверыць, што жывы, што выкараскаўся з каменнай пасткі смерці і за-

раз, акружаны сябрамі, ляжыць на зямлі, на цёплай, рыжай ад сонца траве. Балела нага, нягнуткая пад умела зробленым Валодзем Місюком навязам. Балела ўсё цела, пабітае, абадранае ў колькіх мясцінах. Але гэта сведчыла адно за тое, што ён жывы. Жывы!..

Напэўна, Стась сказаў гэта ўголас, бо тут жа азваўся Валодзя:

— Цябе аглушыла мёртвае маўчанне каменю. Яно страшней за што іншае, бо неадольна паглынае, заглытвае чалавека. А ты малайчына. Не паддаўся.

— Гэта вы... Дзякуй,— прыкрыўся вейкамі ад гарачага святла Стась.— Я нічога не помню. Помню, згадваў увесь час, як разбіўся мой сын...

Гарачае святло калыхнулася ў ім так высока, што, здавалася, выплеснулася з грудзей, з горла на траву: Стась адчуваў, як пякло яно, гэта святло, бяссіла раскінутыя па траве рукі. Ён памкнуўся абаперціся на іх і прыўстаць, нават прыўстаў — яму тут жа дапамаглі чыесьці рукі. Чые, ён не сказаў бы напэўна, бо не паварочваўся, не мог павярнуцца ці зірнуць цераз плячо: перашкаджаў боль, рэзкі боль у грудзях. Перад ім узвышаліся горы — і тут, на амаль чатырохкіламетровай вышыні, яны былі высокімі і недасягальнымі, ва ўсю шырыню неабдымнага неба, перад ім мільгалі кароткія, як успышкі, згадкі, што знясілілі яго там, у расколіне.

— Але ж у мяне няма сына. У мяне няма яшчэ сына! — выгукнуў, выдыхнуў ён на поўныя грудзі.

Адказам яму было маўчанне.

## Змест

АПОВЕСЦІ

Марыя па Хрысце . . . . . . . . . . . . . 5
Дзённік жанчыны . . . . . . . . . . . . . 80
Паветраны замак на дваіх . . . . . . . . . 164
Знаёмы нячысцік . . . . . . . . . . . . . 236

АПАВЯДАННІ

Выпадак . . . . . . . . . . . . . . . . . 323
Голас . . . . . . . . . . . . . . . . . . 329
Кандыдат у шчасліўчыкі . . . . . . . . . . 336
Чужыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . 345
Ваня Капялюшык . . . . . . . . . . . . . . 351
Звычайны вечар . . . . . . . . . . . . . . 357
Штрыхі да аўтапартрэта . . . . . . . . . . 363
Маўчанне . . . . . . . . . . . . . . . . . 369

Бондар Т.
Б 81 Паветраны замак на дваіх: Аповесці, апавяданні/Маст. С. Кузьмар.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 375 с., [4] л. іл.
ISBN 5-340-00418-Х.
Бондарь Т. Воздушный замок на двоих: Повести, рассказы.

Тайна жаночай душы хвалюе аўтара гэтай кнігі. Пачуццё, якому гераіні аповесцей і апавяданняў у пошуках шчасця аддаюцца самазабыўна, палка, натхнёна, нярэдка падманвае іх, але яны зноў і зноў імкнуцца ўдыхнуць у каханне жыццё, адагрэць яго — надзеяй ці ўспамінам.

Б $\frac{4702120201-075}{М 302(03)-90}$ 2—90 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

Бондарь Таиса Николаевна

**ВОЗДУШНЫЙ ЗАМОК НА ДВОИХ**

Повести, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бондар Таіса Мікалаеўна

**ПАВЕТРАНЫ ЗАМАК НА ДВАІХ**

Аповесці, апавяданні

Рэдактар *Е. А. Пяршай.* Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *Л. А. Дзядзюля.*

ІБ № 3212
Здадзена ў набор 17.05.89. Падп. да друку 26.01.90. АТ 01516. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 19,74+0.42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,84. Ул.-выд. арк. 21,77. Тыраж 14 500 экз. Зак. 2522. Цана 1 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.